# АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ Ў ДВУХ ТАМАХ



ТОМ
ПЕРШЫ

**ДАНУТА**
*Аповесць*

**АПАВЯДАННІ**
**ПУБЛІЦЫСТЫКА**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК 84Бел7
К 26

Прадмова У. Калесніка

В первый том избранных произведений Алексея Карпюка вошли повесть «Данута» (дополненная и доработанная), расширенная автобиография «Моя Джомолунгма», где показан богатый пласт жизни, через который довелось пройти автору, рассказы.

К $\frac{4702120201-174}{М 302(03)-91}$ 110—90

ISBN 5-340-00515-1 (т. I)
ISBN 5-340-00514-3

© А. Н. Карпюк, 1991

## ПЛЁН ТВОРЧАСЦІ — ДОСЛЕД ЖЫЦЦЯ

Мы пазнаёміліся з Аляксеем Карпюком недзе адразу пасля вызвалення Заходняй Беларусі, у Наваградку, у беларускай сярэдняй школе, якая ўтварылася на базе пераехаўшай з Вільні Беларускай гімназіі. Сярод віленцаў аказалася моцнае зямляцтва з Беласточчыны, якое спаборнічала за лідэрства з Наваградскім зямляцтвам. Спаборніцтва было здаровым, партнёрскім, яго лепш назваць супрацоўніцтвам энтузіястаў, якія разам шукалі, як ва ўмовах новай школы рэалізаваць ідэалы сацыялізму, справядлівага ладу жыцця. Эліта гэтая вырасла ў гушчы заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху, несла ў сабе яго запаветы: узʼяднаць народ на платформе сацыяльнай справядлівасці, адрадзіць нацыянальную культуру, даць шанц беднаце. Лідэры, вучні старэйшых класаў, былі ўжо сфарміраванымі важакамі, іх лік папоўніўся тымі падросткамі, каго ў свой час за прыналежнасць да падпольнага камсамола і ўдзел у палітычных акцыях выключылі з гімназіі, судзілі, ганялі па турмах, так званых беларускіх універсітэтах. Нас, маладзейшых, уражвала іх грамадзянская культура, ахвярнасць, таварыскасць, ініцыятыўнасць, уменне працаваць у школьным самакіраўніцтве. Для малодшых калегаў яны былі адначасна сябрамі і выхавацелямі, старэйшымі братамі: апекаваліся, але і патрабавалі набірацца ведаў і культуры.

Карпюк быў адным з «віленцаў», ён не мог стаць першай скрыпкай у беластоцкай капэле, але не быў і апошняй, трымаўся на роўнай назе з лідэрамі, бо хоць быў малодшым па ўзросце, але таксама прайшоў камсамольскае падполле, зведаў допыты ў паліцыі, адседжваў тэрмін у турме за спробу ўцячы ў СССР падлеткам у 1934 годзе.

Бліжэй пазнаёміліся мы з Карпюком у Наваградскім педвучылішчы, якое спешна было адкрыта недзе ў пачатку 1940 года і сцягнула ў свае інтэрнаты, абсталяваныя ў будынках польскіх ваяводскіх устаноў, частку вучняў з дзесяцігодкі і новую групу падросткаў, адрэзаных ад асветы рэпрэсіямі санацыйнага ўрада ці беднасцю.

Карпюк належаў да тых вучняў дзесяцігодкі, што не мелі належнай матэрыяльнай падтрымкі з дому і рады былі стыпендыі, таннай сталоўцы, якую адкрыў гаспадарлівы дырэктар педвучылішча. Тады сяляне заходніх абласцей яшчэ не разжыліся савецкімі грашыма, таму ўтрымлівалі сваіх дзяцей у гарадскіх школах,

падвозячы ім натуральны харч. Карпюкова Беласточчына, як на тагачасныя транспартныя сувязі, была за сямю гарамі. Пракарміцца на адну стыпендыю было цяжкавата, выручала стыхійна ўзнікшая ў нашым пакоі нумар шэсць харчовая камуна. Было нас пяць хлопцаў з Наднямоння, з-пад Налібоцкай пушчы і адзін Карпюк з-пад Беластока. Мы прывозілі «сідары» ледзь не кожны тыдзень, а Карпюк разы два на год, пасля зімовых і летніх канікулаў, затое валок гору смакаты: цэлага кумпяка, паляндвіцу, каўбасы, пару апольцаў сала таўшчынёю на ўсе пяць пальцаў. Нашы цмокалі ад здзіўлення, а мяне гэта біла па самалюбстве, бо пасля смерці маці бацька мой не спраўляўся з жаночымі клопатамі, у каморы, бывала, ні ўзяць ні ўцяць, а так не хацелася быць горшым у гурце. Але камуна ёсць камуна: на стале заўжды ляжала манастырская схімніна: брус чорнага хлеба і графін вады. Пасля паездак хлопцаў дамоў — і кусок сала, сыр, галушка масла, пара цыбулін. Падмацоўваліся хто калі згаладаўся. Жылі мы весела і дружна, усе хлопцы былі ўцягнуты ў грамадскія справы, пару чалавек цераз камсамол, астатнія праз студэнцкае самакіраўніцтва.

Трымаліся мы самастойна і незалежна, мелі канфлікты за парушэнні дэмакратыі дырэкцыяй, нездарма ж у часе акупацыі пяцёра з нас пайшло ў антыфашысцкае падполле і вырыхтавалася на камандзіраў ды палітработнікаў. У Еўропе ішла вайна, маладыя галовы кружыліся ад палітыкі, а пары паддаваў старэйшы за астатніх на пару гадоў Аляксей. Ён устанавіў сабе спартанскі рэжым: схопліваўся з ложка на світанні, хутка апранаўся і для спортзарадкі, пакуль астатнія «чухаліся», абягаў газетныя кіёскі, купляў цікавейшыя газеты, прачытваў на бягу і прыносіў у пакой прыгаршчы сенсацый. Соваў газету ў рукі і раіў прачытаць што цікавейшае, калі ж некаторыя з нас пасля начнога карпення над кнігамі ці над афармленнем сценгазеты або малявання святочных плакатаў спалі, прыкідваліся хворымі, Аляксей бег на кухню, выпрошваў колькі трэба порцый супу на вынас, прыносіў у пакой і, стукаючы лыжкай па вядры, прамаўляў да галодных страўнікаў, заклікаў умывацца, падмацавацца ды ісці на заняткі, веды нашы патрэбны краіне — гэта зброя!.. Звычайна агітацыя дзейнічала напалавіну: гарачы, духмяны суп «апраналі» ды лажыліся дасыпаць на другім баку. Аляксей аднача набыў у нас правы рупара грамадскіх ідэй, інфарматара і напамінальніка. Імпанавала ў ім упартая самастойнасць, незалежнасць суджэнняў, ацэнак і паводзін, пацяшала бяскрыўднае дзівацтва.

Узрушыў Аляксей усіх у канцы першага дня вайны, калі студэнты проста разгубіліся, убачыўшы неарганізаванае павальнае адступленне нашых салдат з-пад Гродна. Да таго ж у горадзе не стала хлеба, а настаўнікі-ўсходнікі ды камсорг педвучылішча выехалі сабе на грузавіку на Усход, нават не развітаўшыся з калектывам, занятым па абсталяванні ў будынку сярэдняй школы вайсковага шпіталя. Карпюк, як выявілася, ужо тады дапяў да ваенкома, хацеў добраахвотна ўступіць у Чырвоную Армію, але, атрымаўшы адмову з вуснаў разгубленага ад навалы непамысных падзей камісара, выпрацаваў уласны план дзеяння, які мы, калегі па пакоі, прынялі як тапельцы саломіну: немцы маюць часовую перавагу ў тэхніцы, таму будуць наступаць да асенніх дажджоў і бездарожжа, а тады іх пагоняць назад. Нам трэба адыходзіць на Усход, там уступіць у нейкую вайскова-вучэбную

часць, прайсці ваенную падрыхтоўку і прыняць удзел у выгнанні фашыстаў.

За ноч мы дабраліся да Нёмана, але там, у родных мясцінах, даведаліся ад сельсаветчыкаў, якія спрабавалі эвакуіравацца, што на былой польска-савецкай граніцы «заходнікаў» затрымліваюць і ўсіх вяртаюць назад. Параіўшыся, мы вырашылі, што будзем збіраць зброю, авалодваць ёю і рыхтаваць баявыя дружыны, якія сустрэнуць захопнікаў, калі тыя стануць адыходзіць восенню пад ударамі Чырвонай Арміі. На гэтым рашэнні мы развіталіся з Карпюком, які адзін пайшоў пад Беласток, у сваё роднае Страшава.

Адшукаў мяне Аляксей неяк пасля вайны ў Мінскім педінстытуце і да завідкаў усцешыў дэтэктыўнымі каленцамі сваёй ваеннай біяграфіі: ён прайшоў не толькі праз падполле, але яшчэ праз лагер смерці ў Штутгофе, перажыў маладзецкія прыгоды ўцёкаў, а потым стварыў і ўзначаліў партызанскі атрад імя Каліноўскага. Пасля вызвалення пайшоў на фронт, удзельнічаў у вулічных баях у Берліне. І ўсё гэта прайшло ў яго цяжка-важка, але без сукоў і задзіраў, не грызла Аляксея сумленне за памылкі, промахі, няўдачы. Як соль на рану, легла прынесеная ім з Навагрудка фатаграфія Зіны Маслоўскай, сяброўкі па педвучылішчы, якой давялося разам з Львом Васілеўскім, жыхаром інтэрнацкага пакоя нумар шэсць, адкрыць трагічны спіс ахвяр нашай падпольнай арганізацыі ў ліпені 1942 года, літаральна за некалькі дзён да выхаду ў партызаны, дзе можна было прыняць смерць, прынамсі, у адкрытым баі. Аляксей пабываў у бацькоў Зіны, усё праведаў пра нас.

Як дзівацтва я ўспрыняў Карпюкова паступленне на факультэт замежных моў у Гродзенскім педінстытуце. Памятаў, што да моваў ні цягі, ні асаблівых здольнасцей у яго раней не было, нават па-беларуску гаварыў, падмешваючы польскія і рускія словы і родненькія дыялектызмы — такі ўдаўся. А тут раптам цяга да газет змянілася на філалогію, англістыку. «Вось што значыць homo politicus!» — думаў я.

Ды ўжо зусім раззброіў мяне Карпюк, заявіўшы неяк пасля сканчэння інстытута, што пачаў пісаць аповесць пра жыццё вясковых настаўнікаў, пад назвай «Курыная гісторыя». Прыгадаўся мне тады даваенны пацешны выпадак, калі Аляксей, прыехаўшы ў інтэрнат, як і я, з канікулаў на дзень раней, завалок мяне для кампаніі ў чайную на Замкавай гары і заказаў сабе дваццаць шклянак гарачага чаю без цукру — маўляў, ад грыпу, які да яго падбіраецца,— ды на вачах у анямелых афіцыянтак выпіў залпам, не ўстаючы з-за стала, а назаўтра запэўніваў мяне, што дапамагло — інтуіцыя яго ніколі не падводзіць. Калі так, то чаму не стаць пісьменнікам, даверыўшыся інтуіцыі? Я абяцаў пазнаёміць яго з якім-небудзь прафесіянальным літаратарам.

Вандруючы летам па Гродзеншчыне з Брылём на веласіпедах, мы заехалі ў Біскупцы да Карпюка, дзе той працаваў дырэктарам сямігодкі і сакратаром партарганізацыі калгаса. Алёша быў у канфлікце з мясцовым кіраўніцтвам, абараняючы калгаснікаў ад бюракратаў і недарэчных завядзёнак, звярнуўся з пісьмом у ЦК КПСС, дзе паказаў, да якога абсурду прыводзіць на месцы сляпое выкананне ўстаноўкі «Першы хлеб дзяржаве!». У ажыятажы датэрміновай здачы паставак збожжа кіраўнікі забываюць пра тое, што большая частка пасеваў стаіць забытай на полі, пераспявае,

асыпаецца, зімуе нязжатай і ніхто за гэта не адказвае, акрамя калгаснікаў з іх галодным працаднём.

Аляксей справы не выйграў, яго, як назолу, адпусцілі ў Гродна на кафедру педагогікі ў педінстытут, а парадкі засталіся. На жаль, і там не ўгрэўся. Не прыйшоўся да двара і ў рэдакцыі абласной газеты. Знайшоў сябе і сваё прызванне ў літаратурнай творчасці. Праўда, не лёгка і не хутка. Настаўнікам і творчым узорам стаў для яго Я. Брыль, але таленты іх былі розныя і па маштабах, і па складу, адсюль здараліся і перыяды пахаладанняў.

Увогуле Карпюк умеў быць удзячным. У разгорнутай аўтабіяграфіі «Мая Джамалунгма» ён адзначыў: «Янка Брыль ... даваў штуршок майму ўяўленню, стаў эталонам, на які трэба раўняцца, у каго вучыцца, і быў тым, хто ў мяне паверыў, шчыра і бескарысна дапамог. Успамінаючы цяпер непісьменныя рукапісы, якімі я завальваў Івана Антонавіча і ў якіх ён умудраўся нават знаходзіць штосьці каштоўнае, я не перастаю захапляцца душэўнай шчодрасцю гэтага чалавека, яго педагагічным талентам» [1].

Я. Брыль убачыў у пачынаючым пісьменніку агонь душэўнай ахвярнасці, бескарыслівасці, таму не толькі цярпліва спрачаўся, а і чысціў яго мову, дапамагаў выпрацоўваць манеру і культуру пісьма. Вучань аказаўся працавітым, упартым, перапісваў тэксты па 20—30 разоў і з божай дапамогай даводзіў да чытэльнасці. Гефестава праца ўпэўнівала, што аснова мастацкага таленту не ва ўменні пісаць зграбна, хлёстка, а ў здольнасці адчуваць, чым жывуць людзі, што ў іх баліць, і мець патрэбу, а часта і смеласць дапамагаць ім, абараняць іх ад крыўдзіцеляў, якімі б дужымі тыя ні былі. Пісанне для Карпюка было і застаецца перш за ўсё ўдзелам у фарміраванні грамадскай думкі, уздзеяннем на сумленне і нормы, а ўрэшце — арганізацыяй грамадскай волі. «Пісанне стала маім лёсам,— гаворыць у памянёнай аўтабіяграфіі А. Карпюк.— Я знайшоў спосаб, як найбольш быць карысным людзям. Я спазнаў шчасце, я ведаю, як мне жыць!»

Такім чынам, перад намі пісьменнік грамадзянскага складу, нездарма значнае месца ў яго літаратурным набытку займае публіцыстыка — нарысы «Мая Гродзеншчына», «След на зямлі», «Чаго мы варты», артыкулы і выступленні на літаратурных форумах. Натуральна, у яго аповесцях «У адным інстытуце», «Пушчанская адысея» і ў раманах «Вершалінскі рай», «Карані» вялікае месца займаюць аўтабіяграфічныя і дакументальныя факты, эпізоды, вобразы, што прыдае прозе большую, чым традыцыйнай белетрыстыцы, аўтэнтычнасць і выклікае апазіцыю прататыпаў адмоўных персанажаў.

Дастойна пражыўшы акупацыю і вайну, А. Карпюк адчуў сябе паўнапраўным савецкім грамадзянінам, годным даверу і маючым права свабодна выказвацца па ўсіх вострых пытаннях мінулага і будучага краіны. У меру таго як набіраў вагі яго пісьменніцкі талент, усё больш пачыналі значыць для яго праўдзівасць і свабода слова, гэтыя каштоўнасці станавіліся справай жыцця: «Я стаю на сваёй зямлі, ды яшчэ каб не гаварыў на ёй таго, што думаў? Навошта тады жыць?!» Гэта рэпліка з выступлення А. Карпюка на V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, які адбыўся ў Мінску 16 мая 1966 г. Прамоўца быў к таму часу аўтарам папулярных у

---

[1] Цыт. тут і далей па аўтарскім рукапісе. Адзін з варыянтаў тэксту быў надрукаваны ў час. «Маладосць» за 1964 г.

моладзі аповесцей, але тэму для выступлення даў яму ажыятаж, падняты вакол тэксту разгорнутай аўтабіяграфіі «Мая Джамалунгма», апублікаванай у часопісе «Маладосць».

Сёння мала хто б паверыў, што бядою для аўтара абярнуўся станоўчы водгук на «Маю Джамалунгму» мюнхенскай газеткі «Бацькаўшчына», якую выдавалі на сродкі антысавецкіх сіл былыя фашысцкія паслугачы і прадажнікі Станіслаў Станкевіч і Якуб Стральчук.

Правакацыя падышла якраз на час закручвання ідэалагічных гаек з выпадку выхаду на вяршыню ўлады Л. Брэжнева. Над літаратурай і пры Хрушчове віселі хмары, сыпаліся вінавачанні ў мадэрнізме ці абстракцыянізме, адыходзе ад сучаснасці, адрыве ад надзённых праблем. Пры Брэжневе ажылі рэцыдывы культу Сталіна, спробы абяліць правадыра, пісьменнікаў сталі вінаваціць у шкодным раздрапванні ранаў, г. зн. прыгадванні сталінскіх рэпрэсій, літаратурны працэс падпаў пад больш жорсткі ідэалагічны кантроль, а Карпюк не мяняў пазіцыі і трапіў у лік «казлоў адпушчэння», без якіх не мог адбыцца рытуал чарговай ідэалагічнай кампаніі, якую праводзіў, патрапляючы новаму гаспадару, Суслаў, стараючыся падкруціць дысцыпліну, вярнуць грамадства назад, у стан бяспамяцтва. Пахвала крытыка з «Бацькаўшчыны» дала кампрамат, а ў дадатак Карпюк аказаўся ўпартым, не збіраўся каяцца, і канфлікт з ідэалагічнай службай ахапіў усе тры ўзроўні — абласны, літаратурна-ведамасны і рэспубліканскі.

«Чатыры гады я працаваў загадчыкам агенцтва «Інтурыст»,— паведаміў на з'ездзе А. Карпюк.— Калі ж у мюнхенскай «Бацькаўшчыне» з'явілася хвалебная рэцэнзія на маю аўтабіяграфію з «Маладосці», сакратар нашага абкома партыі т. Міцкевіч даў загад мяне з «Інтурыста» прагнаць па прынцыпе — калі вораг хваліць, значыць, я кепскі». Пісьменнік слушна ўлавіў у адносінах да сябе паварот старых прыёмаў шальмавання і глуму, якімі карысталіся несумленныя кіраўнікі ў сталінскія часы: «...дакуль у нас будуць цягнуцца рэцыдывы мінулага ды практыкавацца звычай: раней збэсціць чалавека, затаптаць. а потым ужо разбірацца — вінаваты ён ці не»,— абураецца пісьменнік і прычыну амаралізму бачыць у тым, што «некаторых людзей пакалечыў культ. Ад таго, што чалавек такі век свой адно і ведаў падпарадкоўвацца загадам зверху, у яго, беднага, атрафіравалася здольнасць самастойнага мыслення, знікла прыродная чалавечая рыса не ісці наперакор свайму сумленню».

Заахвочваючы ўдзельнікаў з'езда павесці барацьбу супраць праяў сацыяльнай паталогіі, якія спарадзіла сталіншчына, Карпюк дае прыклад смелай незалежнасці літаратурных ацэнак, бярэ пад абарону твор В. Быкава: «Дарагія таварышы, мазгі — не каробка хуткасцей, пад стандарт іх не падгоніш. Ніякімі аргументамі, нават рашэннямі ЦК. Напрыклад, я і цяпер лічу, што «Мёртвым не баліць»...— выдатны твор беларускай літаратуры і дай бог кожнаму пісаць так, як напісаў наш таленавіты гродзенец (В. Быкаў жыў тады ў Гародні — *У. К.*).

Прыведзеныя выказванні моцна пераклікаюцца з духам сённяшняй перабудовы. Аказваецца, што патрэбы публічнасці, дэмакратыі, гуманізацыі жыцця ўжо тады былі ў крыві тых прадстаўнікоў ваеннага пакалення, якія ў смяротных выпрабаваннях скінулі страх і звычкі сляпога падпарадкавання, падладжвання пад густы дужэйшага. Яны разумелі, што толькі свабоднае сумлен-

не, думка і воля могуць ажыццявіць высокія ідэалы сацыялізму і адстаяць іх у барацьбе з ворагамі і з казённымі абаронцамі. Карпюк як пісьменнік і грамадзянін па заслугах належыць да ліку прадвеснікаў перабудовы, дэмакратычнага і гуманістычнага абнаўлення рэальнага сацыялізму ў нашай краіне. Смелае выступленне, пайменная крытыка абласных і рэспубліканскіх кіраўнікоў, што ўдзельнічалі ў кампаніі ідэалагічнага ўціхамірвання літаратуры і яго асабіста, выклікалі на з'ездзе шокавы эфект. Старшынстваваў якраз на пасяджэнні Я. Брыль, ён згадзіўся прадоўжыць рэгламент і дазволіў прамоўцу выказацца да канца. Зала падахвочвала смельчака воплескамі, але частка прысутных раўнялася на кіраўнікоў у прэзідыуме — стрымалася.

Памятаю, Карпюк і сам ачах, калі на перапынку адчуў, што пачалі ўнікаць яго позірку некаторыя з калегаў, якія ў прыватных гутарках былі такімі ж радыкаламі. Самота штурхнула яго пад паветку нашай старой дружбы. Няўклюдна спрабаваў я запэўніваць сябра, што ўсё абыдзецца, што не сказаў ён нічога крамольнага, калі глядзець па еўрапейскіх мерках. Мастацтва сёння ў свеце лічыцца пазнаннем моцна суб'ектывізаваным, персаналізаваным, мастак не можа дайсці праўды без пера填раў, таму мае права гаварыць усё, што хоча, і рана ці позна давядзецца гэтае права афіцыйна прызнаць і нам, бо інакш наша мастацтва і яго галоўны пянчук — літаратура — засохнуць, страцяць прэстыж у свеце.

Мае словы аказаліся добрымі пажаданнямі. Пасля з'езда Карпюк стаў персонай нон грата, пачалося тэндэнцыйнае калупанне ў яго акупацыйнай біяграфіі. У архівах канцлагера Штутгоф пасланы туды следчы знайшоў дакументы на грошы, якія атрымліваў пад распіску вязень. Іх мясцовасць была далучана да Прусіі, там хадзілі не акупацыйныя маркі, а сапраўдныя «рэйхсмаркі», а бацькі мелі права пасылаць сынам абмежаваную колькасць грошай, за якія можна было купіць у лагернай кантыне пасту, мыла, шчотку з дазволу начальніка. Несумленны ж следчы прыдумаў абвінаваўчую версію, нібыта грошы выплачвала вязню ахова лагера за нейкія брыдкія паслугі. Пад сумненне была пастаўлена самастойнасць уцёкаў Карпюка з канцлагера, нават ініцыятыва па стварэнні партызанскага атрада імя Каліноўскага. Карпюка выключылі з партыі, і толькі на бюро ЦК яму ўдалося адхіліць інсінуацыі. Памятаю, як з радасцю ўваскрошанага расказваў мне Аляксей эпізод з таго разгляду яго персанальнай справы.

Апраўдваючыся, ён наўгад стаў гаварыць, што ў бацькі толькі фармальна значылася 32 га зямлі, а фактычна там пераважала няўдобіца, для ворыва ж хапала толькі адной кабылы, ды і тая была старая, сівая з «грэчкаю» ў поўсці. П. М. Машэраў спыніў яго і запэўніў: бацькава зямля не мае істотнага значэння для справы. Мы зыходзім з таго, што кожны, хто ў часе акупацыі сам, добраахвотна ўзяў у рукі зброю і хоць раз выстраліў у кірунку ворага,— той наш чалавек! Пісьменніка аднавілі ў партыі, спагнаўшы за пэўныя ператрымкі ў паводзінах.

Аўтабіяграфія «Мая Джамалунгма» пасля часопіснай публікацыі не выдавалася. На сённяшняе ўспрыманне — гэта твор, у якім аўтар, сумленны камуніст, пранікшыся ідэямі XX з'езда КПСС, цвёрда стаў на яго пазіцыі і здолеў прадбачыць перабудову, напрыклад, сучасныя ацэнкі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, выявіў унутраныя супярэчлівасці ў камуністычным падполлі, выкрыў шкоднасць лева-сектанцкага фанатызму і нецярпімасці,

падазронасці, недаверу, што пашыраліся ў другой палавіне 30-х гадоў. Нават у нізавых арганізацыях КПЗБ. Узніклі выпадкі пахоплівых байкотаў невінаватых людзей і нават фізічнага знішчэння. Пасля верасня 1939 года аўтар выявіў рэцыдывы сталінскай рэпрэсіўнасці ў рашэннях мясцовых органаў Савецкай улады, сфарміраваных пераважна з кадраў, прысланых з усходніх абласцей, прайшоўшых школу абвастрэння класавай барацьбы. Пісьменнік падводзіць чытача да высновы, што сектанцкая нецярпімасць, неправазаконная рэпрэсіўнасць, якія праявіліся ў практыцы органаў Савецкай улады ў заходніх абласцях, аслабілі пачуццё нацыянальнай еднасці дэмакратычных сіл грамадства напярэдадні вайны. Прыезджыя кадры фактычна кінулі насельніцтва на волю лёсу ў першы дзень вайны. Гэта падарвала веру ў салідпасць органаў улады, зашкодзіла антыфашысцкаму і партызанскаму руху на тэрыторыі заходніх абласцей, а пазней адмоўна ўплывала на аднаўленне народнай гаспадаркі і культуры, калектывізацыю і ўстанаўленне здаровага клімату жыцця.

У творчасці Карпюка выступае скразная праблема людзей-дзівакоў. У ранніх апавяданнях і аповесцях яны ўносілі элемент экзотыкі, інтрыгавалі чытача. Разам з тым дзівацтва аказвалася ў многіх выпадках псіхалагічна і сацыяльна змястоўным, станавілася прыёмам індывідуалізацыі асобы, сцверджаннем унутранай годнасці героя, абгрунтаваннем ці прыкрыццём яго патрэбы выступаць супраць нівеліроўкі і канфармізму. Стварэннем «тыповых» схем станоўчага героя займалася культавая ідэалогія, літаратура павінна была ілюстраваць іх, а літаратуразнаўства пацвярджаць правільнасць ілюстрацый. Так на практыцы збіваліся рогі рагатым, абгладжваліся канты кантовым, пастрыгаліся пад нулёўку валасатыя. Карпюковы дзівакі ў кантэксце уніфікаванага аўтарытарнага грамадства рабіліся пратэстантамі супраць канфарміравання асобы, часта здадзенай на ласку і прыхамаці кіруючых перастрахоўшчыкаў ці самадураў. Дзівакі патрабавалі большай грамадскай плошчы для функцыяніравання свайго «я», чым сераднякі. Яны аказваліся людзьмі канфліктнымі, якія, дамагаючыся свабоды выбару жыццёвых дарог і мэт, выступалі супраць уціску душ.

Адыход ад жорсткіх спрошчаных ацэнак асобы чалавека, якія А. Карпюкназіраў у камсамольскім падполлі Заходняй Беларусі 30-х гадоў, і абмежаванасць, нават шкоднасць якіх пераадольваў у вайну, калі людзям розных поглядаў давялося згуртавацца ў барацьбе супраць фашызму, усё гэта яшчэ паўтараецца і сёння, калі прыярытэт агульналюдскага становіцца састаўною часткай новага палітычнага мыслення ў нашай краіне.

Ужо Янка Барташэвіч, у аповесці «Данута», што ўвайшла ў творчы актыў аўтара і ў хрэстаматыйны фонд юнацкага чытання, выступае сацыяльна змястоўным дзіваком. Ён пакутліва ломіць у сабе ўстаноўленыя вякамі класавыя і нацыянальныя табу, пераступае забароненыя рубяжы непрыступнасці, ідзе па кволай нітачцы кахання і адкрывае, што гэтае агульналюдскае пачуццё мацней за класавае. Польскі генерал і яго арыстакратычная жонка не толькі ворагі беларускага вяскоўца, але вельмі прыемныя людзі, набожнасць іх дачкі чамусьці спадабалася адпалітыкаванаму каханнем, заядламу атэісту: «гледзячы, як Данута шчыра малілася, ні разу не азірнуўшыся і не павярнуўшы галавы, я адчуў цёплае спачуванне і нават захапленне яе нявіннай верай».

Уласна яго ўразіла не пабожнасць, а сіла веры, вернасць — рыса агульначалавечая.

Ідэя аповесці ўкладзена ў вельмі характэрны для літаратур нацыянальнага адраджэння сюжэт: вясковы прастак у горадзе, мужык у панскім палацы, селянін у тэатры і г. д. Беларускія класікі то пасміхаліся зычліва над мужыком («Панскае ігрышча» Тапчэўскага), то рэабілітавалі яго, паказвалі роўным пану па маральных якасцях («Сялянка» Дуніна-Марцінкевіча); усё залежала ад светапогляду і творчай задачы. Ідэйнаю спеласцю Карпюка з'яўляецца тое, што ён пайшоў далей і ўзяўся аспрэчваць жорсткі сацыяльны падыход да ацэнкі чалавека наогул, усумніўся ў прыярытэце класавага над чалавечым яшчэ да гістарычных пастаноў XX з'езда КПСС. Аповесць выйшла з апераджальным эфектам і здабыла сэрцы моладзі, дапрацоўвалася, напаўнялася новымі гуманістычна змястоўнымі, парадаксальнымі сітуацыямі, перавыдавалася, перакладалася ў краіне і за мяжой.

Іван Барташэвіч, прадстаўнік закамплексаванага плебейскага асяроддзя, аказаўся здольным ацаніць душэўнае хараство Дануты, ядавітай кветкі з чужога газона, яго ўзрушаная каханнем гуманістычная інтуіцыя падказала, што прывабная арыстакратка з'яўляецца цудоўнай дзяўчынай, адкрытай свету, людзям, чалавечнасці і дабру. Заключаная ў каскад рамантычных прыгод ідэя суверэннасці асобы, святасці кахання, якое лёгка разбурае класавыя табу, спадабалася моладзі і прынесла аўтару першы трывалы поспех.

Другім этапным творам Карпюка стала аповесць «Пушчанская адысея», першы варыянт якой напісаны ў 1961 годзе і апублікаваны ў наступным на старонках «Полымя», кананічны яе тэкст створаны для перавыдання ў двухтомным зборы твораў у 1980 г. Па прызнанні аўтара, яна перапісвалася, шліфавалася, дапаўнялася 18 разоў. У адрозненне ад «Дануты» гэта рэалістычны твор, які расказвае пра шлях аўтара праз акупацыю і вайну. Тады Карпюк жыў і працаваў поплеч з В. Быкавым, відавочна, адной з прычын паваротаў да жорсткага выкрывальнага рэалізму быў поспех паплечніка-гродзенца, яго драматычнае ўзыходжанне на вяршыні праўды, сумлення і славы. Але галоўная прычына ляжала ў душы самога А. Карпюка, у пакутах яго ўласнай памяці, якая не знайшла маральнага ачышчэння ў рамантычнай фантазіі, а пакутавала і патрабавала суровай споведзі. Пра гэта адназначна сведчаць разгледжаныя вышэй аўтабіяграфія і выступленне на V з'ездзе пісьменнікаў.

«Пушчанская адысея» ўвайшла ў тую рэалістычную плынь беларускай прозы аб вайне, пачатак якой паклалі ваенныя апавяданні і раманы К. Чорнага, а папаўнялі яе рэчышча, акрамя твораў В. Быкава, аўтабіяграфічныя раманы і аповесці А. Адамовіча — «Вайна пад стрэхамі», «Сыны ідуць у бой», «Хатынская аповесць», трагедыйныя апавяданні Я. Брыля — «Маці», «Адзін дзень», «Memento mori».

Заслуга Карпюка заключалася ў тым, што ён уключыўся ў барацьбу за дэміфалагізацыю вайны як грамадскай з'явы жыцця і метаду палітыкі. Шчырая, асабіста перажытая і ўсвядомленая праўда аб вайне, якую выяўлялі пісьменнікі-франтавікі і партызаны, абвяргала ідэалагічныя схемы, якія мелі абгрунтоўваць сілавую палітыку, з якой доўга не маглі расстацца дзеячы, выхаваныя на сталінскай канцэпцыі непрымірымасці двух светаў, і

настойвалі на нязменнасці нашай ідэалогіі пры ўступках у сферы гандлю і дагаворнага супрацьстаяння. Акопная і лагерная проза, і ў першую чаргу дакументальная, мемуарная, перабудоўвала свядомасць, давала веру той праўдзе аб вайне, якую ведаў і мог ведаць толькі сам народ. Аповесць А. Карпюка ўнесла істотныя карэктывы ў вобраз ворага, вобраз фашысцкай Нямеччыны і акупаванай «Малой зямлі», канкрэтна Беласточчыны, у воблік партызанскай і франтавой вайны, у якім гераічныя рысы перамешваліся з трагічным і нялюдскім. «Пушчанская адысея» застаецца неад'емнай састаўной часткай «ваеннай» беларускай прозы.

Больш складана, нават спрэчна і супярэчліва праблема рамантычнага дзівацтва пастаўлена ў рамане-былі «Вершалінскі рай». Пісьменнік заняўся там даследаваннем сацыяльных закуткаў жыцця, лёсу самых бедных, прыніжаных і пакрыўджаных пластоў заходнебеларускай вёскі. Даведзеныя да адчаю і безнадзейнасці крызісам 30-х гадоў, дэкласаваныя элементы накідваюцца на ілюзорныя спосабы і сродкі збавення ад зла, ідуць у секту фанатычнага цемрашала Гальяша, які, палохаючы сваіх паклоннікаў і паклонніц канцом свету, авалодвае воляй і душамі даверлівых ахвяр, набывае сабе папулярнасць, зычлівасць улад, гатовых на ўсё, абы трымаць у руках масы. Асноўны пафас твора, як я ўспрымаю, у жаданні выкрыць нялюдскасць духоўнага тэрору, амаральнасць маніпуляцый душамі простых людзей, даведзеных да безвыходнасці, няздольных хоць як уладкаваць сваё зямное бытаванне. Прыбітыя адчаем, няшчасныя прагнуць хоць іскрынкі надзеі, хоць ілюзіі, што іх спаняверанын жыцці ўсё ж маюць нейкі няхай замагільны, але чалавечы сэнс.

Кім жа лічыць прапаведніка, які ў такой сітуацыі жыруе на чалавечым горы і бядзе? Аферыстам, махляром, прайдзісветам ці прарокам, за якога прымаюць яго апчасліўленыя падманнаю надзеяй бязмужнія векавухі, скрушлівыя ўдовы, няшчасныя жонкі? Мабыць, тым і тым пакрысе, хоць аўтар, зыходзячы з прынцыпу адназначнасці, выпрацаванай у асяроддзі прафесійных атэістаў, асуджае Гальяша як паразіта. Аказалася, што патуранне «антыопіумнай» праграме супрацьпаказальна мастаку, шкодна творчасці, чужая ацэнка замыкае творчую фантазію і звужае пісьменніцкую здольнасць ужывацца ў душы і лёсы розных людзей, якою ў высокай ступені валодае А. Карпюк.

«Вершалінскі рай» паўставаў з цікавага краязнаўчага нарыса, які паказваў адну, хоць і перыферыйную, не тыповую для Заходняй Беларусі праяву жыцця мядзведжых куткоў, куды не дайшлі ідэі рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху. Калі б аўтар спыніўся на тым нарысе, дык, відаць, выйграла б ад гэтага і тэма, і пісьменніцкая рэпутацыя. Але аўтар, паверыўшы ў цягавітасць, напорыстасць, узяўся выцягнуць нарыс на ўзровень рамана. Эксперымент пераканаў, што раманная форма — гэта не разбухлае апавяданне ці аповесць, а тым больш нарыс. Раман — больш складаная мастацкая структура, на цэлы рад вышэйшая за аповесць, і на два рады за апавяданне, і хіба на тры за нарыс.

Пісьменнік працаваў метадам прыбудоўвання і дабудоўвання твора, падключыў аўтарскі псіхалагічны домысел, увёў шэраг выдуманых сітуацый, якія хоць і засталіся ў рамках верагоднасці і маглі быць прызнаны нармальнымі кампанентамі празаічнага твора, але не змаглі ператварыць нарыс у раман, як шырокаахоп-

ную поліфанічную мастацкую карціну жыцця, выкананую шматфарбнаю многаслаёваю мовай. Белетрызацыя вывела нарыс з рамак дакументальных і не ўвяла ў склад жанраў чыста мастацкіх (пра гэта нагадвае і аўтарскае азначэнне жанра: «раман-быль»). Жанравая амбівалентнасць стварыла эфект выяўленчай недастатковасці твора: атэістычны пафас стаў фокусам заходнебеларускага грамадскага жыцця, у той час як на справе знаходзіўся дзесьці збоку, бо магістральныя шляхі нацыянальнага адраджэння насілі там свецкі і грамадзянскі характар, пра што сведчыць хоць бы перарастанне Беларускай хрысціянскай дэмакратыі з каталіцкай партыі ў Беларускае народнае аб'яднанне — партыю нацыянальна-патрыятычную. Пра свецкасць як паказчык сучаснасці нацыянальнага адраджэння ў Заходняй Беларусі яшчэ ў большай ступені сведчыць плённае супрацоўніцтва ў 2-й палавіне 20-х гадоў і ў перыяд Народнага фронту 2-й палавіны 30-х паміж камуністамі і рэвалюцыйна-дэмакратычнай грамадскасцю. Палітычная рэальнасць патрабавала ад аўтара рамана знайсці сацыяльнае тлумачэнне такіх праяў калтунаватай адсталасці, як вершалінская секта Гальяша ў Заходняй Беларусі. Вызваленчы рух, нягледзячы на эксцэсы лявацкіх ухілаў, меў дастаткова высокую філасофскую і палітычную культуру, каб лічыцца сучасным і еўрапейскім.

З кантэксту гэтых разважанняў відаць, што А. Карпюку неабходна было многа-многа працаваць над «Вершалінскім раем», каб наблізіць яго да рангу сацыяльна-псіхалагічнага рамана, пісанага на заходнебеларускім матэрыяле, які хоць быў на памяці старэйшага пакалення чытачоў, але ўжо стаў гісторыяй і ўспрымаўся моладдзю як твор гістарычны. Гэтую работу Карпюк прарабіў, але не ў дапрацоўках «Вершалінскага раю», а ў напісанні новага рамана «Карані».

«Карані» маюць усе прыкметы раманнай формы, хоць і не аднолькава поўна выяўленыя. Ёсць тут глыбокая сацыяльна-псіхалагічная праблема змены пакаленняў, ёсць і шырокі стылёвы поліфанізм — чаргаванні розных кампанентаў: ад публіцыстычнага памфлета ці фельетона да філасофскага трактата на экзістэнцыяльна-гуманістычныя тэмы, ёсць і эмацыянальна напісаныя лірычныя пейзажы, патрыятычныя роздумы і вострыя канфліктныя сітуацыі, дыялогі, эмацыянальныя ўсплёскі, заземленыя дасціпнымі бытавымі сцэнкамі. Ёсць і элементы дэтэктыўнай калізіі і нават пункцірна зроблены сюжэт пра ўгасаючыя імпульсы старэчага недарэкага, а можа, у чымсьці і апраўданага і гуманнага кахання, якое не адрадзілася і не адбылося. Відаць, найбольш рашуча стварае ўражанне раманнасці «Каранёў» мова. Тут Карпюк пайшоў слядамі Я. Брыля, І. Мележа, якія ў сваіх раманах давалі выйсце ўсёй лексічнай, фразеалагічнай і эмацыянальна-інтанацыйнай рэчцы беларускай мовы ад яе літаратурнага нарматыву да дыялектаў. Карпюк працуе на базе надпёманскага дыялекту ў прынцыпе вельмі блізкага літаратурнай норме. Праўда, ён бярэ дыялект гэты ў шырокім абсягу, таму выходзіць за межы тых празаікаў, што трымаліся рамак вярхоўяў Нёмана — Я. Коласа, Я. Лёсіка, Я. Брыля, Я. Нёманскага, А. Пальчэўскага, а сёння трэба дадаць і Г. Далідовіча. Карпюк бярэ дыялекты сярэдняга Наднямоння ды адыходзіць ад бацькі беларускіх рэк ажно пад Беласток. І дзіўная з'ява: Нёман аказваецца тут не воднаю, а моўнаю артэрыяй беларусчыны, такімі ўстойлівымі выступаюць гу-

тарковыя формы сінтаксісу і фразеалогіі. Для ілюстрацыі прывяду фразеалагізмы толькі з адной старонкі тэксту ў раздзеле «На колькі частак дзеляць лімон», дзе даецца штрыхавы партрэт нявесты Франака Шмігельскага, Басі буфетовай. «Кліночкі да майго Франака падбівае,— гаворыць маці героя, цётка Марыся.— Дзеўка паспела і, вядома, баіцца, каб малако не скісла... У майго капейка не запарыцца, а з гэтай, напэўна, жонка выйдзе гаспадарлівая... парэжа ў сталоўцы лімон на дзесяць шклянак чаю і яшчэ цэлага паўлімона дахаты прынясе! Ну, а дзе ты бачыў такія граблі, каб ад сябе граблі?.. Мой Франак чаму можа наследніка навучыць? Хіба на пень брахаць!.. Жаба ў яе на языку не спячэцца, не-е. Языком гэтым аперазацца лю-убіць!»

Раман «Карані» не роўны, месцамі на ўзроўні мікравобразаў адчуваецца збуяласць метафар, неапраўданыя выдаткі яснага сэнсу на карысць раскілзанай іншасказальнасці, перабору гіпербалічнасці. А ўся вобразнасць павінна мець сваю меру, строгасць, падобна як і дзелавая інфармацыя. Аднак аўтар лічыць, нібыта вобразатворчасць гэта перад усім сродак эпатажу. Вось чытаем у «Пралогу», першым метафарычным выслоўі пра ранішняе паветра: «Яно густое, хоць ты рэж яго нажом на празрыстыя пласцінкі». Цяжка ўразумець сэнсоўнасць прапанаванага занятку: нажом рэжуць лусты хлеба, скрыляюць каўбасу, а на пласцінкі можна рэзаць хіба што бляху, фанеру, шкло і іншыя такога роду ліставыя рэчывы, якія і блізка не нагадваюць паветра.

У тым жа апісанні летняй раніцы ля хутара сустракаецца эстэтычна разбэрсаны малюнак настрою: «Панавала цішыня, поўная мудрай велічы і спакою. Свае цяжкія воды з металёвым, як у разлітой ртуці, адценнем Нёман нёс уздоўж агародаў у Балтыку ўпэўнена, раўнадушна і маніў да сябе, абяцаючы халадок і асалоду». Тут кідаецца ў вочы неапраўданы паланізм «металёвы» замест металавы і русізм «разлітой» замест разліты, а ў настроі Нёмана перагрузка, неабавязковы сумбур, сапраўды, не можа нехта раўнадушны кагосьці маніць ды яшчэ абяцаць асалоду. Абодва вобразатворныя промахі, што выдарыліся аўтару з жадання зіхатнуць незвычайнасцю метафары, параўнання, эпітэта, згладжваюцца арыгінальным метафарычным параўнаннем: «У імглістым марыве ледзь зелянеў стручок масалянскай царквы». Праўда, і тут слова «масалянскай» цьмянае, чытач мае падставу думаць, што масаляне — гэта нейкая новая рэлігія, а на справе гэта назва вёскі, якую аўтар прывядзе недзе далей. На жаль, на той жа старонцы «Пралога» ўстаўлена, ні к сялу ні к гораду, непрыстойная прыпеўка пра марнае шчасце старога Юркі, захаваная чамусьці ў памяці сучаснага цыніка. Здавалася б, што аўтар, прынамсі, нарэшце адкрые нам тэму твора, завяжа канфлікт паміж састарэлым і маладым шчасцем, каранёў з вершалінамі, але прыпеўка толькі засведчыла, што сярод калгасных шафёраў у вёсцы Зялёная Даліна ёсць пустабрэхі, якія вельмі проста носяць бруд на языках нібы свае візітныя карткі.

Нічога я не адчуў тут істотнага і важкага для пралога. Можа, прадчуваючы сваю пахоплівасць і прамашкі, аўтар тут жа пераносіць чытача на бурачанае поле і сапраўды здзіўляе буяпай урадлівасцю. Толькі зноў жа недакладна ўжывае выраз поле «буяла», бо ён не стасуецца да цукровых буракоў, бацвінне якіх далей называецца словамі сакавіта-мясістае, пругкае ды густое, густое, «можна легчы на яго, і лісты цябе ўтрымаюць». Слова буяць,

збуяць азначае такі *тан раслін, калі бацвінне, бульбянне ці сцябліны збожжа перарастаюць аптымальную меру, выцягваюцца ўгору ды слабеюць, вылягаюць. Збуялыя, палеглыя караняплоды не маюць нічога пад коранем, толькі цаціў сцелецца па зямлі ад перарocту. Такая недарэчная пагонiстасць сцяблiн, такi розгалас памiж каранямi i вершалiнамi называецца ў народзе збуяннем поля.

Нешта падобнае адбываецца і з сялянскімі сем'ямі, з родам Маркевічаў, дзе сыны, адарваўшыся ад родавых бацькоўскіх каранёў, урбанізаваліся і «збуялі» маральна, абясплодніліся сацыяльна і нацыянальна, страцілі здольнасць разумець становішча свайго аўдавелага бацькі, былога актывіста нацыянальна-вызваленчага і асветніцкага руху ў Заходняй Беларусі. Сыны, нявесткі, пляменнік у ачмурэнні элементарнага дабрабыту, камфорту пазбавілі шаноўнага старца таго, што патрэбна было чалавеку для шчасця ва ўсе часы — свабоды, свабоднай волі, права выбіраць сабе мэту жыцця і жыць па ўласным разуменні, шукаць спосабу застацца патрэбным людзям, карысным свету, жаданым нават тады, калі чалавек выйшаў з прадукцыйна-працоўнага, «вытворчага» ўзросту. Народная мудрасць кажа, што няма ў людзей такой старасці, якая была б непатрэбнай для ўдумлівай і дбайнай маладосці. У зборніку Сержпутоўскага змешчана казка пра старога дзеда, якога ў час галадухі нашчадкі вырашылі адправіць на той свет як бескарыснага нахлебніка, але знайшоўся сын, які пашкадаваў бацьку, пракарміў яго ў цяжкі год, і потым стары аддзячыў яму разумнай парадай, як разбагацець. Сынам Маркевіча матэрыяльнага багацця не трэба, і справа ў іх не стаяла так востра, як у казцы. Яны і старога справадзілі на той свет не па злой волі, а па дурасці, па збуялай самаўпэўненасці, быццам лепш ведае ў чым шчасце той, хто больш зарабляе. На жаль, гэта філасофія жыцця з кодэксу апрошчанага застойнага сацыялізму. А. Карпюк спрабуе цярпліва паказаць, і што з гэтага атрымліваецца на практыцы — на чалавечых лёсах. Сыны зглумілі старасць Лаўрэна.

«Такой народнай закваскі быў чалавек,— на такіх зямля трымаецца»,— шкадуе нябожчыка зямляк, капітан міліцыі, Іван Касцевіч, пляменнік паэта Міхася Васілька. Гэтае трапнае азначэнне вырвалася як дакор сынам, што нячула абышліся з бацькам, штурхнулі яго на трагічны канец. Але адрасат у капітана атрымаўся шырэйшы — усе урбанізаваныя летуны і камбінатары, майстры утылізаваць бацькоўскі лёс, майно, драпежна і бяздумна ўпарадкоўваць жыццё родных супраць іх волі: «Папрывозілі, панімаеш,— дакарае капітан,— з вёсак на голы асфальт сюды сваіх старых, родных бацькоў, папрывалакалі супраць іх волі, павыдзіраўшы з роднай глебы, са сваіх гнёздаў... Круцялі і махінатары!» Капітан ажно перагібае палку, наракае, што няма закону на пакаранне турмой сыноў Маркевіча. Забывае службісты ахоўнік грамадскага парадку, што палка законнасці мае два канцы. Распісаць усе сямейныя адносіны ў крымінальным кодэксе — гэта азначае адмяніць адвечныя рэгулятары паводзін, якімі з'яўляюцца добрыя звычаі, норавы, урэшце асабістая чуласць, сумленне і ўласная годнасць. На іх трымаецца культура прыватных зносін.

Не сказаць каб сыны Лаўрэна Маркевіча былі дрэннымі людзьмі і благімі сынамі. Яны на свой лад паважалі бацьку і хацелі забяспечыць яму добрую старасць. Не віна іх у тым, а бяда, што

спрабавалі ашчасліціць бацьку сілай, «зверху», з вышыні ўласнага гарадскога жыцця. Так паступала грамадства з імі, вясковымі хлопцамі, гаспадарскімі сынамі, так паступалі і яны. Грамадства урбанізавала іх, навучыла круціць баранкі, забяспечыла жыллём, добрымі зарплатамі, «Жыгулямі», пажаніла на гараджанках. Урбанізацыя дасталася маладым лёгка, бо яны плылі ў гарады касякамі, утваралі там свае асяродкі жыхароў рассяленых вёсак. Для іх гэта быў пераход з ніжэйшага класа землеробаў у вышэйшы рабочы клас, які тагачасная сацыялогія ідэалізавала. Ідэалагічны туман падняў іх амбіцыі і пашкодзіў генетычныя карані. З вышыні «гегемона» яны ўзяліся маніпуліраваць лёсам бацькі і давялі яго да трагічнага кроку. Страшна тое, што віна іх міжвольная, самі яны ахвяры абезаблічанага жыцця, вінцікі, якія часова становяцца сляпымі махавікамі. Як і ў кожных узаемаадносінах, віна тут знаходзіцца па абодвух баках. Вінаваты і сам Лаўрэн, што не пратэстуе супраць п'янай бяздумнасці жыцця сыноў, вінават, што паддаецца ды яшчэ ў думках перакладае віну на нябожчыцу жонку.

Карпюк не аспрэчвае і не схематызуе праблемы пакаленняў, не становіцца ў позу мудраца, які ўсё бачыць, усё ведае, упэўнены ў маральнай перавазе свайго пакалення. І пакаленне пенсіянераў далёка не ідэальнае, у яго гісторыі не адны залатыя старонкі, не скрозь змаганне за годнасць і волю ды стваральная праца на карысць радзімы і сацыялізму. І маладыя не адназначныя. На рахунку гэтага пакалення таксама ёсць грахі і памылкі: страх і падатлівасць, фетышызацыя ўлады, пакорлівасць лёсу, вера ў тое, што мэты жыцця, само шчасце наканоўваецца ў вярхах. Смыліць у каранях яшчэ недзе прыстасаванства, адвечная мужыцкая нявольніцкая філасофія пакорнага цялятка, што дзве маткі ссе. Жыве там і дробная зайздрасць, і мізэрная тарбахватчына, і звычайная нехлямяжасць. Паказальны ў гэтым сэнсе вобраз Лаўрэнавага земляка і аднагодка Зміцера, бацькі вялікай сям'і, якога нашчадкі ператварылі ў вярблюда.

Абладаваўшыся сумкамі і кашалямі, дзень у дзень абслугоўвае ён абмен харчам і барахлом паміж вясковымі і гарадскімі атожылкамі свайго пладавітага роду. Зміцер аптыміст, весялун, майстар па вытворчасці «весялухі-балбатухі», спрабуе ратавацца ад канчатковага апусташэння прыгадкамі маладосці, калі і ён аціраўся ля вясковых актывістаў з круга паэта Міхася Васілька. Зміцер цягнецца да Лаўрэна, не помніць крыўды, хоць той, будучы старшынёю калгаса, удзельнічаў у канфіскацыі Змітравага самагоннага апарата.

Зміцер памятае дух вызваленчай барацьбы і ачышчаецца ля таго вогнішча, што некалі шугала і грэла. Зміцер не злуе на былога старшыню калгаса, бо ведае, што той выводзіў калгас у людзі не для сваёй славы, а для карысці вяскоўцаў, якіх абармоцісты, падкінуты з раёна старшыня Савоська пасадзіў на карачы. Зміцер уцёк тады з запусцелага калгаса і хоць мае для таго дэзерцірства ўважлівыя прычыны — голад не цётка, а тым больш голад мнагадзетнай сям'і, аднак жа адчувае Зміцер і вінаватасць, ён не хваліцца сваёй пазіцыяй, а толькі апраўдваецца. Зміцер першы запрашае да сябе ў госці былога старшыню як таварыша маладосці, аднапалчаніна і актывіста таго беларускага руху, што напоўніў вышэйшым сэнсам іх нялёгкую маладосць. Маладое пакаленне, яго філасофія жыцця і практыка таксама супярэчлівыя:

з аднаго боку, моладзь пераарыентавана з рамантычнай ахвярнасці, якую прапаведавалі бацькі і тады, калі неслі ахвяру крыві на франтах, у партызанах і пасля перамогі, калі давялося несці ахвяру матэрыяльных нястач і цяжкой працы.

Гледзячы аб'ектыўна, не цяжка прызнаць, што ў экстрэмальных умовах вайны і адбудовы загадная сістэма кіравання эканомікай аказвалася не эканомнай, але давала скоры разавы эфект. Яе маторамі былі прымус і энтузіязм. Нярэдка энтузіязм аказваўся сублімаваным страхам, але не заўсёды: за вайну многія людзі прывыклі глядзець смерці ў вочы, яны дазвалялі сабе і крытыку, захапляліся адбудовай з удзячнасці лёсу за тое, што выйшлі жывымі з вайны. Сумленныя франтавікі і партызаны адчувалі сябе прывілеяванымі абраннікамі лёсу, абавязанымі сплочваць доўг скрухай перад загінуўшымі баявымі сябрамі і ахвярнай працай. Натуральна, самыя ўражлівыя людзі ваеннага пакалення першымі адыходзілі з жыцця, а разам з іх адыходам слабела адчуванне віны перад ахвярамі вайны ў грамадстве. Доўгажыхары з ліку ўдзельнікаў вайны аказваліся людзьмі заземленымі, віны перад сябрамі не адчувалі, выстаўлялі сынам рахунак камфорту і прывілеяў, ім снілася «заслужаная» бескантрольнасць і кіраўнічы карнавал. Так складвалася алігархія з пакалення пераможцаў, нашчадкаў Сталіна, якія адной рукою выкрывалі яго злачынствы, а другою вырысоўвалі ідэалагічную лінію бесканфліктнасці савецкага жыцця і мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

Сродкам моцнага дзеяння супраць знячуленасці аказаліся дзеці вайны, дасягнуўшы сталасці, яны ўнеслі ў грамадскую ацэнку вайны сваю гуманістычную папраўку. На жаль, яе асвоіла і выкарыстала трэцяя сіла — вечныя суглядальнікі і утылізатары жыцця, спажыўцы яшчэ не заробленага дабрабыту. Пакаленне дзяцей у «Каранях» — гэта сыны і дочкі ацалелых салдат, партызан, падпольшчыкаў, а таксама і суглядатаяў вайны, мяшчан, якія пачулі сябе як рыба ў вадзе ў п'янай атмасферы застою і ўсхвалення прыпіскам поспехаў. Многія з іх ужо пакаштавалі дэфіцыту і купленых прывілеяў. Ім, натуральна, здавалася, што ахвяры бацькоў страцілі актуальнасць і цану. Дзеці застойнага камфорту аказаліся рабамі матэрыяльных даброт, ад культу Сталіна перайшлі да культу жывата. Сын Лаўрэна Маркевіча, класны шафёр, Уладзік, зрабіў дэвізам жыцця выслоўе: «Хто, скажы, прыносіць большую зарплату, чым я?!» Гэта ў яго разуменні пачатак і канец абавязкаў мужчыны, галавы сям'і.

У прынцыпе і яго жонка, інтэлігентка, экскурсавод музея, згаджаецца на мужаву канцэпцыю, і яна не патрабуе ад мужа большага, скажам, духоўнасці, кругагляду, культуры. Праўда, яна была супраць продажу цесцевай хаты і пазбаўлення Лаўрэна асабістай незалежнасці, але ўвайсці ў духоўную драму свёкра не здолела. І да яе адносіцца аўтарскі дакор: «Замала мы пранікаем у сэрцы і думкі старых, таму і не ведаем, ды і многім з нас нават у галаву не прыйдзе, што людзі старыя не знаходзяць месца для духоўнага прытулку».

Зморай над жыццём гэтых не бедных, уладкаваных, упэўненых у сабе, звыклых думаць, што яны жывуць у сацыялізме, вісіць спажывецкая псеўдаэтыка, мяшчанскі карыслівы погляд на чалавека, звычка лічыць асобу інструментам, які зможа ці не зможа выконваць нейкую карысную для цябе функцыю. За такі функцыянальны погляд сыноў Лаўрэн як бацька не крыўдзіцца

на іх і на нявестак, на землякоў, знаёмых, а таксама і на незнаёмых начальнікаў, якія робяць гэта, так сказаць, па службе. Лаўрэн не прымае вульгарнага функцыяналізму. Маўклівы, стрыманы і памяркоўны вясковец, самародны лідэр не выказвае крыўды, хіба толькі апраўдваецца, калі нацiскаюць на яго, як у выпадку ўзнікшай ідэі жаніцца з колішняй нявестай, а высокіх функцыянераў асуджае толькі ў думках: «Калі ты ім нябось патрэбен быў, твае гады лічыліся козырам — у прэзідыум цябе запрашалі заўсёды! У газетах, па радыё мо з дзесяць разоў успаміналі! Калі табе зара трэ чаго-небудзь, твае гады ўжо перапонай становяцца — от як на свеце бывае!»

Завастрэнне канфлікту пакаленняў Карпюк даводзіць да гратэскавасці ў дыялогу Маркевіча з адстаўнікам-маёрам, які на злосць пануючай манернасці і пагарды да простай працы заняўся зборам аб'едкаў у камунальных дамах.

«— Адстрэл ветэранаў будзе!

— Але!

— Які-і?

— Такі самы!

— Што вы гаворыце, Аляксей Аляксандравіч. Ці такое можа быць?!

— А ведаеш чаму? Бо ветэранаў жыве яшчэ многа, сяму-таму яны вельмі перашкаджаюць, і маладыя ведаюць, што рабіць з імі».

Азлобленасць адстаўніка на дзяцей перадалася ўжо і Лаўрэну. «А на самай справе, хібо і я сваім не перашкаджаю? Шчэ як! Перашкаджаю сынам, перашкаджаю нявесткам, а мо шчэ каму і толькі з-за таго, што жыву на свеце!»

Карпюк і раней, ужо ў аповесці «Данута» і ў «Пушчанскай адысеі» ўмеў знаходзіць і паказваць непрызнаваныя подзвігі, якія аказваліся характэрнымі на партызанскай вайне, чым подзвігі агульнапрызнаваныя. Пісьменнік пазбягаў бравурных гераічных сітуацый, дзе густа падалі трупамі ворагі і жывымі, некранутымі выходзілі нашы воіны. Ён прыглушаў знешні гераізм, ставіў герояў у сітуацыі адваротнага зыходу, якія даводзілі, што вайна не забаўка і вораг зусім не блазан, не зацялёпа, а небяспечны праціўнік, які ўмеў і меншаю сілай перамагаць нашу большую, калі яна аказвалася лішне бяспечнай ды не навучанай прыёмам сучаснага бою. Гэтая лінія ў беларускай прозе трывалая і вядомая. Але яшчэ больш плённай аказалася ўведзеная Брылём і ўзаконеная Адамовічам талстоўская ідэя негераічнага гераізму, някідкага подзвігу чалавечнасці, калі патрыёт супрацьстаяў не толькі ворагу, але нялюдскай вайне як такой. Такі сціпны подзвіг чалавечнасці праяўляла маці з аднайменнага апавядання Брыля і старая адзінокая жанчына Зося з апавядання «Зялёная школа». Гэта быў подзвіг міласэрнасці, таму і здзяйснялі яго жанчыны.

У рамане «Карані» падобны подзвіг выпаў на долю Лаўрэна Маркевіча, ездавога ў палявым шпіталі. Карпюк паставіў Лаўрэна ў клапатную сітуацыю, прымусіў расказаць пра нетыповы подзвіг школьнікам, выхаваным на подзвігах тыповых, бравурных. Слухачы чакалі пачуць яшчэ адну гераічную гісторыю, ды Лаўрэн, праўдалюбівы чалавек, ведае, што трафарэтнае ўяўленне аб подзвігу супраціўна таму, што лічылася подзвігам там, на вайне. Ветэран не можа хлусіць дзецям. Не ўмее, не хоча. У той

жа час ён хацеў бы аддзячыць вучням, педагогам за запрашэнне на сустрэчу, апраўдаць іх спадзяванні. Гэтае запрашэнне вывела яго са стану апатыі, нагадала, што ён, пенсіянер, усё ж яшчэ некаму ды патрэбны ў гэтым... раўнадушным свеце, які толькі і ўмеў утылізаваць, утапіць у камфорце яго старасць, спісаць жывога ў свет маўчання.

На жаль, і на сустрэчы ажылі утылізатарскія замашкі: настаўніца ва ўступным слове наводзіла госця на пахвальбу, якая па абавязваючых меркаваннях мела аказаць патрыятычнае ўздзеянне на вучняў. Лаўрэн застаўся верным праўдзе, адмовіўся ад прыхарошвання вайны і сябе, радавога яе ўдзельніка, хоць гэта азначала страціць уяўны німб героя, які па шаблоне, авансам, абвялі вакол яго галавы школьнікі. Свае заслугі ў вайне Лаўрэн ацэньвае сціпла, па-сялянску цвяроза, гэта ўласна не заслугі, а сумленнае выкананне абавязку салдата і чалавека. Лаўрэн не забіваў ворагаў, а выратоўваў ад смерці параненых, дапамагаў ім вярнуцца ў строй ды змагацца з праціўнікам, які ўмеў не толькі забіваць, але і дабіваць раненых на полі бою.

Аўтар паказвае вайсковыя малюнкі здвоенымі: спачатку герой прыпамінае, а аўтар апісвае, як яно было там, на вайне, потым узважвае, як гэта былое ўспрымуць сучасныя школьнікі, і вырашае: расказваць ці не.

«Калі доўгі абоз выскачыў на палявую дарогу, Лаўрэн з непрытомнымі салдатамі ды з безабароннай жывёлай аказаўся нібы ўзнятым над зямлёй. Адусюль адкрытым. Яшчэ і на прыцэле. Немцы адразу пачалі па іх куляць міны адну за адной. Але на выбухі азірацца ён не надта меў час — глядзеў за вазамі ды пад шквальным агнём кіраваў лейцамі».

Прыгадваючы гэты эпізод праз пару дзесяткаў гадоў перад вучнямі, Лаўрэн заўважае:

«Ды пра што гэтым малым жэўжыкам гаварыць?
Як пад выбухамі запрагаў коней?
Як біліся аб дошкі галовы цяжка кантужаных возчыкаў, калі фурманкі падкідвала на грудах?..
Як білі злева, білі справа, білі спераду і ў вочы яркія ўсплёскі агню?
Як навокал дыбілася зямля?..
І пра гэта гаварыць?
Ад такога апавядання атрупянее нават гэта вучыцелька...»

Самым вялікім парадоксам франтавой біяграфіі Лаўрэна было тое, што «на вайне не забіваў ён нікога». І была яшчэ зусім «крамольная» для свайго часу мяккацеласць: «Калі ў павозцы было месца, іхніх параненых браў на воз да сябе ды валок са сваімі — на перавязку. А такія немчыкі ўжо смірныя, добранькія і ветлівыя — смех адзін! Усё савалі свае цыгаркі, пстрыкалі запальнічкамі, цвердзілі: «Гітлер — капут!..» Капітан наш чалавекам быў людскім, лячыў іх таксама».

Лаўрэн Маркевіч не належаў да эліты заходнебеларускага рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху, ён — радавы прадстаўнік сялянскай масы, які далучыўся да вызваленчага руху пад уздзеяннем больш ідэйна падрыхтаваных сяброў, у прыватнасці паэта-рэвалюцыянера Міхася Васілька (Міхаіла Іосіфавіча Касцевіча). І дзейнасць Лаўрэна ў вызваленчым руху абмяжоўвалася дэманстрацыяй патрыятычных настрояў, падтрымкай кандыдатаў «Грамады» ў польскі парламент, удзелам у музычных

капэлах, хорах, танцах. Усё гэта было тады не проста забавай, а спосабам сцвердзіць сваю сялянскую беларускую і чалавечую годнасць. Напэўна, пра гэта так разгорнута Лаўрэн ніколі не думаў. Галоўным для чалавека было тое, што ён уваходзіў у эліту паважаных у ваколіцы дзецюкоў і дзяўчат. Скептыкі і кансерватары называлі іх парушальнікамі спакою, закапёршчыкамі, верхаводамі, а светлыя душы гарнуліся да іх, грэліся ля іх і ўрэшце далучаліся, як і ў свой час Лаўрэн, да гэтага авангарда, рашаліся зносіць абразы ды гумовыя дубінкі паліцэйскіх, пагардлівыя панскія суды, турэмныя камеры — згаджаліся ісці на пакуты, ведаючы, што ідуць за праўду, свабоду і годнасць, а без гэтага нідзе ніхто ў свеце не можа шчасліва жыць.

На жаль, аўтар рамана падае гэтыя важкія старонкі біяграфіі Лаўрэна мімаходзь, фрагментарна. А між іншым, вочы сучаснага маладога чытача засцяць міфы пра тое, быццам у Заходняй Беларусі панавала цемра, невуцтва, эксплуатацыя і галеча, а культуру сюды прынесла савецкая ўлада толькі ў верасні 1939 года.

І ўсё ж Лаўрэн — гэта каштоўны сацыяльны тып і змястоўны вобраз. Ён сцвярджаў сябе і раскрываўся марудліва, але мэтанакіравана, паслядоўна ўва ўсіх праблісках і пацёмках грамадскага жыцця Заходняй Беларусі, якая бог ведае каторы раз ужо аказвалася палігонам вялікай гісторыі, а ўрэшце стала арэнай татальнай вайны. Лаўрэн аказваўся ўдзельнікам гістарычных падзей калі па ўласнай волі, а калі і пад прымусам, таму і грамадскае жыццё сваё адчувае як нейкі стракаты чырвона-чорны шлях, дзе праблёскі свабоды, надзеі, ахвярнасці чаргаваліся з ценямі нядолі, адчаю. Паказальна, што светлае і змрочнае ў жыцці Лаўрэна не супадае з тою шкалой, якую сёння ўстанавіла публіцыстыка як абсалютную перабудовачную ісціну. Напрыклад, калгаснае будаўніцтва, якое ў Заходняй Беларусі пачалося ў пасляваенныя гады, Лаўрэн захаваў у свядомасці як неабходнасць, якую можна было б правесці па-людску, разумней і з большай карысцю для людзей. Ён асабіста толькі выпраўляў памылкі, якіх магло б і не быць, каб арганізоўваліся тыя калгасы як самадзейныя арганізацыі, а не як нейкія прымусова працоўныя дружыны. Тады б і урбанізацыя не напусцілася лавінай і вёска надалей заставалася б хавальніцай векавых народных традыцый, якія ўпрыгожвалі б сацыялізм.

Раман «Карані» гэта не толькі плод таленту пісьменніцкай прадметнай памяці і вобразнага зрокавага ці гукамеладычнага ўяўлення, гэта нават не дзіцячая ўчэпістая памяць сялянскага сына, гэта родавы код, голас, закадзіраваны ў слове, душы многіх пакаленняў земляробскага мужыцкага племені, яго філасофія жыцця і духоўная культура зіхатнула такімі перламі вобразнасці, што спыняешся, нібы перад той цудоўнай таполяй у баладзе, што гаворыць чалавечым голасам, славячы несмяротнасць жыцця і кахання. Скарбы народнай душы аддае пісьменнік на суд і духоўны ўжытак ужо перароджанаму, урбанізаванаму, забюракратызаванаму грамадству, спакушанаму безадказна-безаблічнымі адносінамі, што вызваляюць ад асабістай адказнасці за зямлю, за гаспадарку, за вынікі працы. Не без дакору дарыць свой клад, мыслі і сэрца мастак, ён недзе верыць, што дапаможа грамадству ісці наперад, абнаўляцца, захоўваючы памяць і мудрыя ўстоі.

Карпюк падхоплівае тую лінію народнасці ў беларускай літаратуры, якую пачалі Дунін-Марцінкевіч з яго Навумам Прыгаворкам, Багушэвіч з яго Аліндаркам, Купала з «Тутэйшымі», Колас з «Новай зямлёй», Брыль з «Сірочым хлебам» і «Птушкамі і гнёздамі», Караткевіч з «Чазеніяй», Мележ з «Палескай хронікай», Кудравец з «Сачыненнем на вольную тэму», Зуёнак з «Маўчаннем травы», Пташнікаў з «Алімпіядай», Дудараў з мудрымі дзівакамі-земляробамі і салдатамі, Карамазаў і Казько з «экалагічнымі» палотнамі пра сціплых руплівцаў, хавальнікаў народных традыцый і ахоўнікаў зялёнага ўбранства краіны, вартаўнікоў родных гнёздаў.

Самым свежым рэхам жывучай народнасці прыйшлі нядаўна да чытача фантазлівыя, выраслыя з гродзенскай глебы апавяданні Х. Лялько, А. Наварыча і А. Кажадуба і ўвесь адраджальны пафас творчасці маладых мастакоў слова. Не можа быць, каб такі напор творчага духу не адрадзіў сучаснікаў з забыцця.

*У. Калеснік*

*Не хочу я гнить как ива,*
*На болотных кочках где-то,*
*А хочу сгореть от молний,*
*Словно дуб в разгаре лета!..*

**Шандар Пецёфі**

# ДАНУТА

**аповесць**

*Пра ўсё гэта расказаў мне ў санаторыі адзін чалавек. Ад яго я пачуў, бадай, не новае: як сустракаліся закаханыя, рвалі кветкі, пісалі лісты, спрачаліся... Адным словам, выслухаў яшчэ адну гісторыю на «вечную тэму». Але гісторыя гэта — пра каханне ў бурлівы час вялікіх падзей, і таму яна мне здалася значнай.*

*Перада мной была аповесць — пра каханне, барацьбу і геройства. І вось перадаю яе на суд чытача такой, як пачуў, нічога не дадаючы і не адымаючы.*

Аўтар

# Частка першая

## Раздзел першы

### 1

У пачатку восені 1938 года я прыехаў у Вільню і паступіў на вячэрнія курсы пры жаночым ліцэі.

На курсы ішоў той, хто не мог трапіць у гімназію або быў пераростак, як я.

Мы не бывалі ў памяшканні ў час заняткаў дзённай змены, і з гімназісткамі, як мы звалі вучаніц ліцэя, курсанты не бачыліся.

У ліцэі і на курсах канцылярыя была адна, ёй спатрэбіўся пасыльны. Узялі мяне. Так я займеў доступ да дзённай змены.

У першы дзень работы даручылі разносіць па Вільні пісьмы.

Выканаўшы заданне, я вярнуўся ў ліцэй. У зале ішоў канцэрт. Я наблізіўся да зашклёных дзвярэй і крадком паглядзеў. Такога бачыць яшчэ не даводзілася. Як зачараваны я доўга ўзіраўся.

У зале выступаў хор. На сцэне выстраіліся, адна ў адну, прыгожыя паненкі ў новенькіх уніформах. Дастаткова было зірнуць, каб пераканацца, што жыццё гэтых паненак праходзіла ў такім дастатку і радасці, пра якія мне і не снілася.

Скончыўшы песню, пяюхі сціскалі вусны, крывілі іх, усё перажывалі: будуць ім апладзіраваць ці не; у вачах былі такі спалох і чаканне, што стала нават шкада харыстак.

Але я зараз жа адагнаў ад сябе добразычлівасць. Вось такім мая маці заносіла ў горад усё да каплі малако. Такія абыходзілі мяне ў пачатковай школе здалёк, не хацелі сядзець за адной партай, бытта я заразны! У маёй вёсцы ад цяжкай работы дваццацігадовая дзяўчына — старая дзеўка, у трыццаць пяць — бабуля, а ў горадзе ўсё — паненкі, каб вы паздыхалі!..

Адну харыстку я пазнаў.

Гэта была мая суседка — дачка генерала. Паненка бянтэжылася больш за ўсіх. Яе разгубленасць была нявіннай і мілай. Калі паненка заспявала, вочы яе зрабіліся натхнёныя, яна пасмялела, поўны пачуцця голас паліўся роўна і так крануў за душу, нібы ішоў не з яе, а з маіх грудзей.

Яшчэ дзяўчына мела зграбную постаць. Каб не прадузятасць, я мог бы адразу сказаць, што яна — рэдкая прыгажуня. Але я пачаў выдумляць на суседку тое, чаго не было.

Мы, курсанты, адчувалі сябе пакрыўджанымі лёсам і зайздросцілі дзённай змене — недасяжнай мары. Наглядзеўшыся на выпеставаных, гадаваных на масле і смятане паненак, я толькі ўздыхнуў, паціху вылаяўся — халера! — ды адправіўся ў канцылярыю рабіць справаздачу.

Сёння насіў я пісьмы ў мужчынскую гімназію і праз адчыненыя вокны бачыў гімназістаў. Гэта былі не нашыя курсанты — нясмелыя, стомленыя ад працы, апранутыя хто ў што.

Асабліва запомніліся іх разбэшчаныя твары, бессаромныя вочы. Гімназісцікі ў новенькіх мундзірчыках не маглі спакойна ўседзець і некалькі хвілін за партай. Хіхікалі, крывілі морды, перакідваліся паперкамі...

Ідучы з ліцэя, я ніяк не мог забыцца на харыстак. Тады пастараўся ўспомніць нахабныя вочы гімназістаў і, нібы перада мною стаяла дачка генерала, упікнуў яе:

— Спявай з імі, яны табе падпяюць!..

Толькі так падумаў і надышоў на саміх харыстак. Мая суседка была ў цэнтры ўвагі. Яна з натхненнем апавядала:

— О-ей, калежанкі! Вы сабе не ўяўляеце, як цяжка выйсці перад хорам і запяваць! Як падумала, што на мяне будуць глядзець, ногі так і прыраслі да падлогі! Глянула прафесару [1] ў вочы, а ён прыязна ўсміхаецца, і я адразу пасмялела. Потым ужо нічога не бачыла, толькі яго вочы!

Ад захаплення сваім апавяданнем яна аж свяцілася шчырасцю і даверам, хоць вочы яе былі накіраваныя ў мой бок, мяне яна, вядома, не бачыла. Паненкі глядзелі на яе аддана, з абажаннем і скрытай зайздрасцю.

Агорнутая новай хваляй успамінаў, суседка загаварыла яшчэ больш жыва:

— А вы не заўважылі, як я забылася на словы песні?

[1] У Польшчы ўсіх настаўнікаў ліцэя называюць «прафесар».

Не?!. Шапчу вам: «Скажыце, як пачынаецца «Гураль»[1]! Вы думалі, я жартую, і маўчыце. Піяніст іграе апошні такт уступлення, а ў маёй галаве — пуста! І толькі ў апошнюю секунду аднекуль узяліся словы! Можа, ніколі ў жыцці яшчэ так не стамлялася!

Гімназісткі свабодна, на ўсю вуліцу засмяяліся.

Тое, пра што яны гаварылі, было даволі цікавым, але і такім недасяжным, што мне аж стала крыўдна.

Фу ты! Выразам свайго твару я падсвядома паўтараў выраз твару паненкі і толькі цяпер спахапіўся. Імгненна згасіў усмешку замілавання і азірнуўся.

Не, здаецца, ніхто не бачыў.

2

Вярнуўся я тады з ліцэя і, як ніколі, зноў адчуў несправядлівасць на гэтым свеце.

У Вільні мяне праследавалі адны няўдачы.

Ад нас тут вучыўся і Генрых Станеўскі. Маці мне наказвала, калі будзе пільная патрэба, звяртацца да яго за дапамогай. Генрых быў не з нашай, а з суседняй вёскі. Прадзед яго перабраўся ў наш край з Памераніі і прыстаў да мясцовай дзеўкі. Бацька Генрыха вёў гаспадарку панавуковаму, і іхняя сям'я жыла лепш за другіх, хоць зямлі мела зусім мала. На адным лузе з Генрыхам пасвіў я каровы, а потым маці пасылала мяне кожнае лета купляць у яго падручнікі: Генрых ішоў на клас вышэй, быў выдатнікам, а падручнікі ў яго былі без ніводнай плямкі.

І вось у Вільні мы сустрэліся. У першы дзень. Я з клункам валокся з вакзала па адным баку вузенькай вулачкі, а ён насустрач — па другім. Станеўскі вёў паненку.

— Гэнек! — закрычаў надта ўзрадаваны я.

Зямляк адвярнуў галаву — бытта не чуў. Спачатку я нічога не зразумеў, пабег за ім. Цяпер ужо не крычаў, а — кашляў. Тады абагнаў і яшчэ раз пайшоў насустрач.

Дарма!

Уцяміўшы нарэшце, што здарылася, здзіўлены і пакрыўджаны, я доўга яшчэ стаяў на тратуары пустой вулачкі. Супакоіўшыся, пачаў чытаць на слупе аб'яву: «Сдам бісплатна фатеру студэнту, калі згодзіцца дапамагаць у гаспадарцы ўдаве...» Гэта мне якраз і трэба было!

Знайшоўшы жыллё, я пакінуў свае рэчы ў гаспадыні

[1] «Гураль» — польская народная песня.

і накіраваўся ў сталовую. Мне яшчэ ніколі не даводзілася есці ў сталовых. Афіцыянтка прынесла абед. Паабедаўшы, я акуратна склаў талеркі ды панёс на кухню.

Дзяўчына мяне... аблаяла!

Але найбольш адхвастаў мяне ксёндз.

На Зарэчнай вуліцы змяшчаўся закрыты інтэрнат ордэна езуітаў. З вясковых сямігодак сюды набіралі хлопцаў, якія жадалі стаць духоўнымі пастарамі.

Ксяндзом стаць абы-хто не мог; юнака два гады вывучалі.

У інтэрнаце хлопцаў адзявалі, кармілі, пасылалі на працу ў друкарню касцельных выданняў, а вечарам — займацца на нашыя курсы. Большасць з іх езуіты потым прыладжвалі туды, дзе ім патрэбны былі свае людзі. І толькі самых здольных, вытрыманых і адданых пасылалі на тэалогію.

У езуіцкіх выхаванцаў, нашых курсантаў, былі не зусім у парадку дакументы, і сакратар праз мяне паслаў ім пісьмы.

— Прашу ў памяшканне! — спаткаў у праходнай будцы мяне ксёндз і забраў канверты.

Я падаўся за ім.

Адправіўшы хлопца за патрэбнымі вучнямі, ён сеў за стол, пасадзіў мяне насупраць.

Пакойчык быў чысценькі і строга абстаўлены: дубовы стол без накрыцця, дзве табурэткі, этажэрка з касцельнымі часопісамі, а над этажэркай — крыж з фігуркай Хрыста. На стале — сподак з чорнымі слівамі, французскія і лацінскія кніжкі, касцяны нож і мае форменныя канверты.

Чакаючы вучняў, мы моўчкі вывучалі адзін аднаго.

Мне прыйшлі на памяць словы Луцэвіча, аднаго з работнікаў беларускага краязнаўчага музея. Апавядаючы мне пра гісторыю Вільні, ён чытаў статут езуіцкіх каледжаў XVII стагоддзя: «Вучань павінен быць паслушны, як труп, як воск або як кій старога...» Мяне тады аж скаланула — ну ж і настаўнічкі тады былі; не дай бог трапіць да тых канавалаў!

Гэты ксёндз не меў езуіцкай сухасці. Наадварот! У ім было штосьці свецкае, нават вялікапанскае.

Старанна дагледжаныя ружовыя пальцы езуіта жвава склалі канверты ў акуратны стосік, тады пачалі выбіваць на стале нейкі такт.

— Працуеце пасыльным? — добразычліва пацікавіўся.

— Ага.
— О-о! — падхапіў ён, бытта я сказаў вельмі значнае і прыемнае.

Дагэтуль бачыць так блізка ксяндзоў не даводзілася. У маім уяўленні гэта былі людзі, у якіх з твару і вачэй так і білі фальш і хітрасць — чым яны заблытваюць ды запалохваюць простых і наіўных людзей. Але перада мной сядзеў сімпатычны інтэлігент. Чорная сутана была на ім добра адпрасаваная і чысцюткая, а край белага і бліскучага ад крухмалу каўнерыка прыемна гарманіраваў з шыяй маладога і дужага мужчыны. Твар у ксяндза быў старанна паголены, прычоска ўкладзена волас у волас, загарэлы адкрыты лоб, а карыя вочы глядзелі на мяне смела і разумна, заклікаючы да шчырасці.

Мой позірк затрымаўся на кніжцы «Гінекалогія. Жаночыя хваробы. Праф. Гутэнберг» — было золатам выціснута на яе карашку. Я сарамліва ўзняў вочы на ксяндза.

Ён вытлумачыў:

— Нашая прафесія такая, шаноўны пане, што мы павінны ведаць усё, нават пра жаночыя хваробы!

Са здзіўленнем я ўставіўся на яго.

— Пашлюць у вёску на работу, звернецца да цябе цётка за парадай, што ёй будзеш гаварыць?

«Прафесія», «работа»!..

— Адкуль вы прыехалі? — спытаўся ён мяккім прыемным барытонам, і яго карыя вочы абдалі мяне прыязным цяплом, а рух — пахам адэкалону.

Я адказаў. І, адчуваючы якоесьці хваляванне, у сваю чаргу спытаўся, кім ён працуе.

— Выхаваўцам. Маю пад апекай дваццаць юнакоў, такіх, як пан.

Асмялеўшы яшчэ больш, я вырашыў дзейнічаць.

Гэтае пытанне я падрыхтаваў даўно першаму папу, рабіну або ксяндзу, з якім завяду гутарку.

Ад нецярпення мяне аж разбіралі дрыготкі. Збіваючыся на даверліва-наіўны тон прастачка, я пачаў:

— Даруйце... Я хацеў даведацца ад каго-небудзь...

— Але ж, калі ласка, вельмі прашу! — заахвоціў ён прыязна.

— Скажыце, як гэта вы, адукаваны чалавек, у наш час можаце прысвяціць сваё жыццё справе, якая не мае будучыні?

Вухнуўшы гэта, я зірнуў яму ў твар і ўбачыў на ім прыкрае і неўразуменнае здзіўленне. Толькі цяпер паду-

маў, што такая размова небяспечная, бо ў горадзе да мяне — ні адной прыязнай душы. Я адразу страціў упэўненасць, і мне зрабілася страшнавата.

— Вы пра што? — у вачах ксяндза быў ужо ледзяны холад.

Ён жа занадта ведаў «пра што», аднак пытаўся, каб выйграць час.

Уся мая ідэалогія тады трымалася больш на веры, чым на лагічным мысленні. Кулакамі — справа іншая, але словамі вытлумачыць свае погляды я не ўмеў. Але ж славесны паядынак пачаў, і трэба было яго скончыць. Успамінаючы студэнта, які чытаў у нашай вёсцы даклад, я паўтарыў яго фразы:

— Навука пра эканоміку гаворыць, што выйсце не ў тым, да чаго вы заклікаеце людзей... Народ трэба зраўняць, людзей парабіць багатымі, а не...

І я бездапаможна змоўк.

— Наіўны! — паблажліва кінуў езуіт ды зрабіў такую грымасу, з якой бывалы настаўнік навучае школьніка, калі той памыляецца.— Пан усё спрошчвае. Прырода чалавека такая, што адно матэрыяльнае багацце не суцішае страсцей. Каб было так проста, усе багачы сталі б ідэальныя людзі і шчаслівыя!

Ад лёгкасці, з якой ліліся яго словы, і ад глыбіні думкі ў іх, ад напружання, з якім я стараўся нешта прыдумаць, каб абараніцца, у мяне закружылася галава.

— Вы самі бачылі зблізку багатых людзей?

— Бачыў...

— Усе яны, думаеце, ідэальныя? — аж надта адчуваючы, што я сказаў няпраўду, і літасціва яе не заўважаючы, вёў ён допыт.— Думаеце, яны шчаслівыя ў асабістым жыцці?

— ?!.

— А-га! Значыць, выйсце не ў тым, каб усе былі роўныя ды багатыя, ці не так?

Я нешта прамычаў, а ксёндз упёр у мяне вочы і наўмысна трымаў мяне некалькі хвілін у такім разгубленым стане. З роспачу я адчуў, як пад яго ўладарным позіркам мая воля растапнела.

Вытрымаўшы паўзу, езуіт разбіваў мяне дарэшты:

— Пан недзе штосьці чуў, але гэта ў пана несур'ёзнае, не сваё. А ці ведаеце,— загаварыў ён ужо добразычліва,— на свеце ёсць яшчэ зайздрасць, рэўнасць, імкненне да ўлады? Мае яно ўплыў на чалавека ці не?

— Мае...— паддаўся я нераканаўчай сіле, з якой гаварыў субяседнік.

— А-га! — узрадаваўся ён.— І гэтага ў чалавека не пераменіць эканамічная дактрына! Гэта можна вытравіць, толькі падняўшы інтэлект.... Дык вось, шаноўны пане, не праз нівеліроўку і бунтарства трэба нам ісці. Неабходна памагаць касцёлу ачысціць людзей ад прыроднага бруду, а тады будаваць ім шкляныя замкі!

Я не меў аргументаў адбівацца. І адчуваў, што, якія б аргументы ні прывёў, ён — вопытны дыскусант — з такой жа лёгкасцю іх разаб'е. Аднак мая ўпартасць не дазваляла прызнаць сябе пераможаным. Я ў бяссільнай злосці маўчаў.

Езуіт ні словам не намякнуў, што я гавару крамольныя рэчы. Толькі адсцябаўшы мяне як след, паблажліва ўсміхнуўся, бытта выйшла па яго. Тады падсунуў сподак, гасцінна запрапанаваў:

— На, з'еш, пан, сліўку!

Здаецца, каб ён даў па твары, так мяне не ўнізіў бы.

«Пачакай, пачакай! — пасвятлела ў маёй галаве на вуліцы.— Калі я хадзіў у школу, мяне не кожны сусед, едучы нават паражняком, падвозіў?! Часамі курыца адной цёткі залезе ў агарод другой, і бабам сваркі ўжо хапае на ўсё жыццё!.. А багатыя, нябось, не дробязныя. Яны ўважлівыя і ветлівыя адзін да аднаго!..»

Успомніў іншыя выпадкі з жыцця сваёй вёскі, якія не здараюцца сярод людзей інтэлігентных, сытых, якіх не грызе нэндза. Але і багатыя не могуць быць узорам, яны — дармаеды! Фанабэрлівыя, раўнівыя... Зусім інакш сябе паводзілі б працоўныя, калі б мелі ўсяго ў дастатку. Яны-то былі б шчаслівыя!..

Ды і дзяржава, будзе час, адпадзе сама па сабе — гаварылі ж пра гэта студэнты! Тады і людзі з імкненнем да ўлады вымруць, як вымерла прафесія лучнікаў, калі людзі не сталі карыстацца лукамі...

Мне ўжо надта карцела зноў счапіцца з ксяндзом, захацелася нават вярнуцца.

«Не трэба нівеліроўкі, па-твойму? А што? Сказаць людзям: «Панове, будзьце добрымі, а вы, нявольнікі,— цярплівымі — і выпраўляйце ў сабе інтэлект!.. Так, па-твойму? Ах, панскі паслугач, а дулю бачыў?»

«Эх, і заўсёды думкі ў маю тупую даўбешку прыходзяць, калі па ўсім ужо!»

«Нічога. Другі раз прынясу пісьмы і дам табе здачы, будзеш ведаць!.. От, езуіт праклятьы! Набраў смірненькіх хлапчанят і адурманьвае опіумам, пра які гаварыў студэнт, яшчэ і тэорыю падводзіць пад свае ўчынкі!..»

Доўга не мог я супакоіцца. Цэлы той дзень адчуваў сябе пабітым.

3

У мяне было перакананне, што я ў Вільні — няпрошаны госць і каб паехаў дахаты, ніхто гэтага і не заўважыў бы. А яшчэ здалося, што я зусім нічога не варты.

Зайшоў я ў беларускі музей. Ён быў бедны. Экспанаты віселі на цвіках, ляжалі на сталах, а то і проста валяліся на падлозе. Грошай за ўваход у музей не бралі, таму я ўжо быў у ім некалькі разоў. Мяне сюды цягнула таямнічая маўклівасць старажытных рэчаў.

Ля горбы наздраватых мамантавых касцей нейкая вясковая цётка расчаравана казала:

— То такія самыя дзве косткі мой тата-нябожчык, калі былі яшчэ жывыя, прывалаклі з-пад Вільні! Вада іх аднекуль прыгнала...

— І што з косткамі вы зрабілі? — ажывіўся супрацоўнік музея.

— Клалі пад ложак, каб хлопцы радзіліся.

— Ну і як?

— Былі і хлопцы...

— Радзіліся і дзяўчаты?

— Вядома, былі і дзеўкі...

— А што потым з косткамі зрабілі?

— Крышылі ў кубак і пілі ад жывата, калі напрадвесні каго схоплівае...

— Памагала?

— Ад адной толькі,— зусім сур'ёзна адказала цётка. Калі навокал зарагаталі людзі, жанчына азірнулася, поўная асабістай годнасці і здзіўлення: чаго вы зубы скаліце?..

Чамусьці гэтая кабеціна нагадала мне мяне самога. Вось і я таксама не разумеў навакольных людзей, як не разумелі і яны мяне. І ў мяне поўна наіўнасці, вясковай цемры, няведання жыцця і няма чагосьці такога, што маюць культурныя людзі.

Найбольш гэта праявілася на канцэрце.

На курсах падышоў да мяне выкладчык фізікі і прыязна спытаў:

— Ну, як кавалер сябе адчувае ў нашым горадзе?

— Сумна часамі бывае, пане прафесар.

— То схадзіце куды-небудзь, развейцеся: на канцэрт, у кіно...

— Грошай няма, пане прафесар.

— Гэта ўжо горай... Ідэя! — цапнуў сябе ён за кішэню.— Вось вам білет у тэатр. Там будуць вяршкі горада, паглядзіце, паслухайце!

— Наво-ошта... Не трэ-эба...— замяўся я.

— Схадзіце, схадзіце, а то ў мяне не будзе часу і білет прападзе...

— Дзякуй, пане прафесар...— пачырванеў я, задаволены.

Нядаўна ў Варшаве праходзіў сусветны конкурс піяністаў імя Шапэна. Першыя месцы там занялі савецкія музыканты — Якаў Зак і іншыя. Іх славутыя выступленні мы слухалі па чарзе па дэтэктарнаму прыёмніку з навушнікамі. Але нашыя дзяўчаты ніяк не маглі станцаваць пад гэтую музыку.

— А-а, ужо ведаю, што ён іграе! — закрычала дзяўчына.— Ён жа «На рэчаньку» рэжа, адно пад вальс-бастон!

Толькі падабрала такт і тупнула, каб пайсці кружыцца, як Якаў Зак выстукваў ужо незразумелае — без складу і ладу, дзяўчына асеклася.

Аднак лаяць музыку тады ў нашай вёсцы ніхто не пасмеў, бо калі нават ужо буржуі самі прысудзілі, што савецкі хлопец здорава іграе, значыць, ён іграў выдатна.

— Паны, сволачы, перадаюць ігру гэтак спецыяльна, каб адбіць у людзей ахвоту слухаць савецкага музыканта,— вырашылі тады нашы мужыкі.

А разумнікі яшчэ дабавілі:

— Калі хочаш мець поўнае здавальненне, трэба на яго глядзець, калі музыкант іграе. Покуль у свет перадаць музыку, буржуі яе самнуць, як хочуць!

У Вільню прыехаў з-за граніцы відны піяніст. Дзякуючы добразычліваму фізіку цяпер і я буду глядзець і слухаць майстра.

Прыйшоў я ў тэатр, сеў паміж паноў.

Пачалося выступленне піяніста. Людзі замерлі. Музыкант спрытна забегаў пальцамі па клавішах. Наступіла

такая цішыня, што здалося — у зале нікога няма, і зрабілася нават страшна. Я сабраў волю, напружыў увагу і ператварыўся ў слых.

Дзіва, што людзі так слухаюць?

Са сцэны несліся голыя пераборы, бытта піяніст забаўляўся на інструменце, бегаючы па ім жвавымі і гнуткімі пальцамі то ўлева, то ўправа. Дапусці і мяне да інструмента, зайграю не горш — у яго ігры няма сэнсу! От, падбяры некалькі таноў і стань папераменна націскаць на клавішы!

Вось ён бярэ ноты: першую-пятую, першую-пятую і трэці раз першую-пятую. Тады іх мяняе: першую-трэцюю-шостую, першую-трэцюю-шостую, затым — другую-чацвёртую-сёмую. Тады некалькі разоў разразіцца тырадай нот уверх-уніз: паказвае на інструменце якісьці фокус. Яшчэ пачне ўрывак нейкай мелодыі, бытта дражніцца, перарве яе на самым цікавым месцы і зноў выстуквае тры разы першую-пятую ноты. Затым — першую-трэцюю-шостую...

І так без канца! Ніякай прыемнасці.

А назвы таго, што іграе: Шуман «Рэ мажор», «Дзевятая саната», «Чатырнаццатая саната»... Нібы на выстаўцы абстракцыяністаў, дзе я таксама нічога не зразумеў, а карціны называліся «Нумар 118», «Блок нумар 112»... І чаго людзі ходзяць на такія канцэрты? Буржуі, свалата, няма іншай работы!

Я пазяхнуў і стаў азірацца на залу.

Фанары кідалі касыя снапы святла на сцэну. У адным такім снапе промняў хутка махала сярэбранымі крыльцамі жывая істотка. Ляцела моль, якую я таксама ўпершыню ўбачыў у Вільні. Гаспадыня мая казала, што моль харчуецца вопраткай. А што яна есць тут, у зале?.. Ага, бархат на крэслах. Во, паляцела да плюшавай заслоны! — здагадаўся я, калі матылёк знік у напрамку сцэны.

Перада мной тырчала лысіна. Валасы ў мужчыны раслі толькі каля вушэй. Каб прыкрыць галаву, ён адрасціў бакенбарды сантыметраў на дваццаць і зачэсваў іх уверх, рассцілаў веерам па голым чэрапе. А каб валасы не раскідаліся, мужчына іх змачваў вадой. Бедны, кожныя паўгадзіны, відаць, бегае пад кран мачыць іх. Жыццё лысаму!.. І чаму ў горадзе іх столькі?! У нашай вёсцы, здаецца, няма ніводнага лысага, а тут — амаль кожны настаўнік на курсах лысы, крамнікі за прылаўкамі лысыя...

Злева сядзеў пажылы чалавек з хлопчыкам. Чалавек ад музыкі рухаў смешна пальцамі, бытта штосьці хапаў

у паветры, гучна дыхаў, нібы ехаў на веласіпедзе і яму цяжка круціць педалі. Ён, бедны, аж спатнеў, і на скронях павіслі бліскучыя кроплі! Мае паводзіны суседу не спадабаліся, ён памяняўся месцам з сынам, перасадзіў хлопчыка да мяне.

З правага боку ў мяне сядзела жанчына. Калі ў зале заапладзіравалі, яна спыталася:

— Няўжо вам не падабаецца канцэрт?

Я пацiснуў плячыма:

— Што тут можа падабацца?

— Не разумею, як можаце так казаць! — У тоне яе я ўлавіў жаласлівую інтанацыю, з якой звяртаюцца да цяжкахворага.— Вы ж толькі ўслухайцеся! Гэта ж не музыка, а — гудзенне лесу ў час буры!.. Чуваць, як цурчыць крынічка...

— Вы бывалі ў буру ў лесе? І чулі, як ён гудзіць?.. Чулі, як цурчыць сапраўдная крынічка? — абрэзаў я жанчыну.

Ішоў я з канцэрта сам не свой. Мяне не пакідаў выраз шчырага здзіўлення, спагады на твары жанчыны і інтанацыя яе голасу. У Варшаве, выходзіць, давалі ўзнагароду менавіта за такую ігру, дык няўжо там былі дурні? Мне далёка да слухачоў у зале: да мяне, нібы да глухога, не дайшоў ні адзін гук. Я нагадваў цётку з музея.

«Ці вырвуся калі з гэтага?» — пытаўся я ў сябе трывожна.

## 5

Праўда, няма чаго прыбядняцца. На працягу тыдня здарыліся ўжо два выпадкі, калі і я адчуў сваю сілу.

Аднойчы на першы ўрок не з'явіўся выкладчык, і курсанты высыпалі на двор. Ля валейбольнай сеткі якраз трэніравалася група гімназістаў з суседняй гімназіі.

Валейбалісты ўсе былі рослыя і стройныя юнакі ў цёмна-фіялетавых спартыўных касцюмах. Яны лёгка і прыгожа перакідвалі адзін другому мяч, а сваім выглядам бытта крычалі: вось якія мы хваты, зірніце на нас! Але перажывалі, што іх адно шэсць чалавек і няма з кім гульнуць па-сапраўднаму. Мы іх абступілі цесным колам.

— Хоць бы яшчэ хто надышоў! — з сумам азваўся самы зграбны, нават не пазіраючы ў наш бок. Вядома, гаварыў гэта, бадзяга, знарок, каб мы чулі.

Як намі ні валодала гордасць, аднак мы не перамаглі спакусы. Пяць курсантаў, не згаворваючыся, апынуліся

ўраз на супрацьлеглым баку сеткі. Мой зямляк, Генрых Станеўскі, загадаў мне:

— Ставай яшчэ і ты, доўгі, аднаго не хапае!

Я стаў, адчуваючы ўдзячнасць да сябра.

Відаць, рэдка на той пляцоўцы бывалі такія няроўныя партыі. З аднаго боку — натрэніраваныя і спрытныя валейбалісты, партрэты якіх памяшчаліся нават у віленскіх газетах, а з другога — сапраўдны «збор багародзіцы» — нясклaдныя, апранутыя хто ў што. У аднаго шыя перавязана брудным бінтам, у другога тырчалі худыя плечы. Адзін маленькі, другі вялізны — усё ў нас было бытта навыварат! Толькі Станеўскі не ўступаў гімназістам сваёй упэўненасцю і паставай.

Пачалася ігра.

Нашыя праціўнікі не гулялі, а пісалі мячом у паветры.

— Чок-чок-чок! — Ён толькі звінеў і пасля трэцяга ўдару ляцеў на нас і спакойна сабе падаў на зямлю.

— Ну, што вы! — шыпеў Станеўскі.

Дарма! Мы не маглі ўзяць нават простай падачы.

З нашай каманды я быў найгоршы ігрок. Праходзіла мінута за мінутай, а мне не ўдавалася забіць ніводнага мяча. Ён, пракляты, лётаў, як прывід, у мяне перад носам, а я бездапаможна махаў рукамі. Што ж, іграў я ў валейбол першы раз у жыцці.

Тым часам пачалі збягацца гімназісты-балельшчыкі. Праз хвіліну іх стала больш за курсантаў.

— Глядзіце, як доўгі мух ганяе!

— Яго толькі замест пудзіла ў агарод ставіць!

— Фі-іў!..

Я гэта чуў і сваё няўмельства пастараўся замаскіраваць. Прыкінуўся, што фокуснічаю.

З'явіліся суддзі. Падача ўжо ішла па свістку. Кожны раз, калі мы не маглі ўзяць простай падачы, гімназісты-балельшчыкі ўзнімалі віск. Толькі не радаваліся нашыя праціўнікі. З высакароднай ганарлівасцю яны ігралі сабе далей, упэўненыя, што так і павінна быць.

Але тут здарылася нечаканае.

Бог мяне не пакрыўдзіў ростам і сілай. Памяняліся мы месцамі, і я апынуўся ля сеткі. Раптам гляджу — проста на мяне апускаецца мяч. Я спачатку аж не паверыў сваім вачам, а за гэты міг мяч знізіўся ўжо на ўзровень выцягнутай рукі і мяне надта ж раззлаваў. З разгубленай паспешнасцю я рэзнуў па ім так, што кулак мой аж улез у яго.

Рэзнуў я мяч і здзівіўся: у чым справа? Мяча нідзе няма, а гімназіст супроць мяне ўстае з зямлі і трымаецца за шчаку.

— Го-о! — пераможна загулі нашыя курсанты.

— Грубіянства! — завішчалі гімназісты.

— Гэта — не лічыцца!

Трымаючыся за шчаку, гімназіст пайшоў з пляцоўкі, на яго месца далі замену.

Дасталі з кустоў мяч, і суддзі загадалі перайграць падачу.

Толькі ўзляцеў мяч угару,— бах! — з сілай зрэзаў яго ўжо Станеўскі. Падалі мяч яму другі раз, ён рэзнуў зноў — малайчына ўсё ж такі зямляк, спрыту ў ім хапала!

Наступіў раптоўны перелом. Праціўнікі разгубіліся.

Цяпер гімназісты-балельшчыкі рабілі нейкія таямнічыя знакі. Нават не давалі сваім ігракам піць вады. Піскам і гвалтам прабавалі вывесці нас з раўнавагі, але нічога не дапамагала. Мы раптам авалодалі «пачуццём локця». У кожнага з нас была сіла дарослага. Мячы, як снарады, ляцелі на другі бок — страшныя, небяспечныя. Гімназісцікі баязліва тоўпіліся ля месца падачы — далей ад сеткі.

Адведаўшы асалоду ад дакранання да тугіх бакоў мяча, я ў прыемным азарце яшчэ не раз перабіў яго праз сетку.

З пляцоўкі нас праводзілі абразлівыя выкрыкі, але яны не маглі заглушыць перамогі ў нашых сэрцах.

## 6

Другую перамогу ў чужым горадзе я меў над Віліяй.

Пакупаўся я ў рэчцы і вылез на бераг. Мяне адразу абступілі хлапчукі, пачалі захапляцца:

— А-яй-яй!

— Ух ты-ы!

— Падабаюся вам? — не без прыемнасці праказаў я.

— А-га-а!

— А што трэба рабіць, каб мець такія мускулы? — асмялелі малыя ад маёй рахманасці.

Пытанне было нечаканае. Гэта людзі мяне лічылі асілкам, але сам я не адчуваў сябе ім і ніколі не задумваўся, як яны атрымліваюцца.

Я пачаў наследаваць выкладчыка фізкультуры і раіць малым тое, чаго сам ніколі не рабіў:

— Трэба абціранца халоднай вадой кожную раніцу. Вы абціраецеся?

— Не-е...

— Ну!.. А яшчэ трэба рабіць кожную раніцу гімнастыку. Есці цукар. Класціся спаць і ўставаць легулярна...

— А-а...

Хлопчыкаў я расчараваў. Слухаць гэтыя ісціны ім, відаць, апрыкрала ў школе, яны хацелі ад мяне пачуць нешта новае.

Падышлі два паўпанкі і таксама давай мяне разглядаць як дзіва. А потым, папрасіўшы прабачэння, давай яшчэ мераць ды мацаць. Я надта баюся шчыкоткі, дастаткова паказаць палец, каб я ўздрыгануў. Але мужчыны былі ветлівыя і культурныя, я цярпеў, сабраўшы ўсю сілу волі.

Незнаёмыя дзяліліся ўражаннямі:

— Даўно не бачыў такога магутнага цела!

— Не толькі магутнага, але і грацыёзнага!

— Выдатны экземпляр атлета.

— А колькі пану год? — спыталіся мяне.

— Васемнаццаць.

Спыталіся і пра рост.

— Сто восемдзесят восем сантыметраў.

— Усяго-о? — расчараваўся пан.— Я думаў, вышэйшы...

— У яго моцная будова цела,— растлумачыў другі.— Такія людзі заўсёды здаюцца вышэйшымі. Колькі пан важыць?

— Пяць пудоў і дзесяць хунтаў.

— ...хунтаў? — перадражніў мяне мужчына і ўсміхнуўся да сябра.

Я ведаў, чаго яны ўсміхаліся. У горадзе гавораць — фунты. А яшчэ ў іх мераюць усё на кілаграмы і цэнтнеры. Ну і што?

Мужчыны, выявілася, скульптары з мастацкай акадэміі. Яны спыталіся, ці не хачу зарабіць. Я, вядома, хацеў, але было боязна: якую работу прапануюць гэтыя панкі — у горадзе, кажуць, усе жулікі апранутыя прызваіта.

Незнаёмыя завялі мяне ў акадэмію і запрапанавалі пазіраваць студэнтам.

— Пастаіш перад імі гадзіну — залатоўка, а дзве гадзіны — дзве залатоўкі.

— Голы перад людзьмі стаяць не буду! — спалохаўся я.

— І за грошы?

— І за грошы! — цвёрда стаяў я на сваім.

— Дзівак! У нас нават паненкі пазіруюць, паглядзі! Зрэшты, чаго маю ўпірацца? Мо там што і вартае? Як што не гэтак, павярнуўся і — будзьце здаровыя!

— Ну, пайшлі...

Калі мы апынуліся ў студыі, мяне аж скаланула. Пад сцяной, як дровы пад акапам у дрэннага гаспадара, бязладна валяліся гіпсавыя рукі, ногі, галовы з адбітымі насамі і вушамі.

Мяне падвялі да шырмы. За ёю стаяла зусім голая дзеўка, а нейкі стары, як смарчок, пан, бессаромна не зводзячы з яе вачэй, ляпіў з гліны жаночую фігуру. Я адскочыў як апараны і ўцёк дадому: каб давалі мільёны нават, на такую работу не згадзіўся б!

Але ўвага мастакоў падказала: дык і я нечага варты!

Некалькі дзён я быў у добрым гуморы. Вечарам, закінуўшы дамоў кніжкі, спяшаўся на вуліцу Міцкевіча. Яе залівала мора святла, а па тратуарах фланіравалі два сустрэчныя патокі моладзі. Я далучаўся да аднаго з іх. І без добрай вопраткі ды гарадскіх манераў я звяртаў на сябе ўвагу гімназістак ростам. Упадабаўшы сабе каторую, я праходзіў міма ды раптоўна азіраўся. Так я і ведаў — гімназістка глядзела мне ў спіну! Злавіўшы разгублены позірк, я крочыў далей упэўнена і незалежна, адчуваючы на душы перамогу.

І толькі цяпер, наглядзеўшыся праз зашклёныя дзверы на харыстак, паслухаўшы паненак на вуліцы, зноў стаў незадаволены сабой, а перамога на вуліцы Міцкевіча здалася нічога не вартай.

## Раздзел другі

### 1

У той дзень, калі бачыў на сцэне паненак, прыйшоў я з ліцэя дадому і, чаго са мной ніколі не здаралася, прыпаў да люстэрка.

Хто я? Пастух!.. Лоб і сківіцы шырозныя, нос — бульбінай!.. А бровы!.. Недзе я чуў, што яны чалавеку служаць для аховы органаў зроку ад дажджу. Калі гэта так, то мае не дапусцілі б вільгаці да вачэй, каб нават ліло як з цэўкі. Але якая мне радасць? Зросшыся на пераноссі, махнатыя, парыжэлыя ад сонца, калючыя, як вусы ячменю, яны та-

пыршчыліся, нібы дзікі зараснік. У рысах майго твару не было той лагоднай сіметрыі, якая, мне здавалася, так падабаецца дзяўчатам: выпірала вуглаватасць, а шэрыя з жаўцізной вочы глядзелі непрыязна і праніклівa.

— Зірне на цябе — нібы цвіком да сцяны прыб'е! — казалі пра мяне ў нашай вёсцы дзяўчаты.

Я агледзеў вопратку. Рукавы ў пінжаку кароткія, лацканы пакарабаціліся, на нагах — здаравенныя, дванаццацізлатовыя чаравікі на гумовай падэшве чэшскага Баці. З іх заўсёды вылазілі праклятыя анучы.

Некалькі апошніх месяцаў я не стрыгся, і ў мяне пачаў расці чуб. Дзеля яго я нават купіў грэбень. Але чуб, паршывец, не прычэсваўся, як прычэсваліся валасы ў нашых курсантаў. Мая чупрына расла ўніз і звісала над вачыма так, як звісае са страхі салома, калі яе вецер навырывае, таму на вуліцу без шапкі і не выходзіў.

Разглядаючы мяне над Віліяй, адзін скульптар сваім грэбенем улажыў чупрыну набок, сказаў сябру, што мне так лепш. Цяпер я гэта ўспомніў.

Я пайшоў на кухню, намачыў валасы, вярнуўся зноў да люстэрка і часануў некалькі разоў па галаве. Калі мой чуб паслухмяна лёг набок, я ледзь не ахнуў! Не верылася, што ў люстэрку — мой адбітак. Адтуль глядзеў на мяне хлопец, у якога над высокім ілбом бялеў акуратны, не вядомы мне дагэтуль прабор. Ад прабора налева пакорна лягла чупрына густых валасоў — пацямнелых ад вады, шаўкавістых. На мяне павеяла такой навізной, што я не мог на сябе надзівіцца.

На кухні гаспадыня звякнула пасудай, і я адскочыў ад люстэрка. Патаптаўся. Агортвала вялікае жаданне пахваліцца сваім выглядам. У пакоі было цесна, нібы засадзілі мяне ў клетку.

Без шапкі пайшоў я на вуліцу, крадком мацаючы чупрыну, ловячы яе незнаёмы адбітак у шыбах. Увесь свет стаў нібы прыгажэйшы. Нават здалося, што ўся Вільня таксама перажывае маё другое нараджэнне!

...Было гэта даўно. Паступіў я ў «паўшэхную» [1] школу і бачу: у аднаго вучня шрам на назе, другому выразалі сляпую кішку і зашывалі жывот, той меў шчарбіну ў зубе, іншы хадзіў у акулярах або мог па-сабачаму брахаць... Адзін я нічым не вылучаўся і не меў ніякага таленту.

---

[1] «Паўшэхнай» школай называлі ў Польшчы да 1939 г. сямігодку.

Я доўга ламаў галаву, прыдумваў фантастычныя сітуацыі, як выбіцца ў «людзі». Нарэшце надарыўся выпадак.

Школьны ганак быў абшаляваны дошкамі. Нехта прыдумаў забаву: хто мацней стукне патыліцай у дошкі! Я выбраў месца, дзе сцяна найбольш пружыніла, і так бухнуў, што ўсе разявілі раты, бо дошка заскочыла за дошку. У мяне памутнела ў вачах, але я стукнуў яшчэ раз, і дошка стала на месца.

Тады ўсе прысудзілі: у Барташэвіча наймацнейшая з усяе школы галава!

Кожны перапынак мяне вадзілі на ганак, прымушалі паказваць фокус. Так у школе і я стаў героем. Якую адчуў радасць? Быў найшчаслівейшым чалавекам у свеце!

Такую радасць і задавальненне сабой перажыў я зараз і ў Вільні. Яшчэ ажыло ўражанне перамогі над валейбалістамі. Успомнілася захапленне скульптараў над Віліяй маім целам...

## 2

Выйшаўшы на вуліцу з зачасанай набок чупрынай, я сустракаўся з хлопцамі нібы роўны з роўнымі і незалежна пазіраў на людзей.

Насустрач крочыў малады рослы афіцэр — ад'ютант генерала. Каб здавацца вышэйшым, вайсковец ненатуральна выцягваў шыю, бытта яму ціснуў каўнер, ды яшчэ глядзеў угору. Афіцэра спыніла маленькая пані, павіталася. Паднімаючы руку дамы да вуснаў, фанабэрысты ад'ютант нават не нахіліў галавы, і беднай жанчыне давялося стаць на дыбачкі.

Я параўняўся з імі. Рагі канфедэраткі, расшытыя серабром, былі толькі на ўзроўні маіх вачэй.

Далей на ліпавай алеі сустрэў сапраўды высокага мужчыну. Нават большага за сябе. Я павінен вам адкрыць сакрэт. Кожны высокі чалавек добра заўважае такога ж высокага, крадком сочыць за ім, нават мераецца. Гэтага чалавека не толькі на нашай вуліцы, а ў Вільні я сустракаў упершыню. Ён, мабыць, быў прыезджы, а па шапцы, як у Тэльмана, відаць,— прыбалт-літовец.

Найчасцей высокія людзі бытта не маглі прызвычаіцца да свайго росту, не ведалі, што з ім рабіць. Яны горбіліся, валачылі ногі, нібы на іх віселі гіры, стомлена крывіліся, бытта ім цяжка насіць свой корпус — як бы яго саромеліся нават. Над такімі я заўсёды пацяшаўся.

Для майго цела прырода падабрала адпаведную колькасць сілы. Я сябе адчуваў так, як адчуваюць статныя спартсмены.

Прыбалт пацешна перастаўляў ногі, нібы спераду нехта ішоў ды не даваў яму ходу. Ад гэтага літовец здаваўся нехлямяжым. Маю душу напоўніла перамога.

Даўжыня плітак тратуара — пяцьдзесят сантыметраў. Абмінаючы недарэку, я пакрочыў праз дзве пліткі і з прыемнасцю адчуў, як напінаюцца ў нагах мускулы. Крочыў я далей, радаваўся сабой, а мне здавалася, што адчуваю нават хвалі паветра, якія выклікаю вакол сябе.

Вось тут я і спаткаў суседку.

Яна вярталася з ліцэя. Разам з ёю ішлі студэнт з вусікамі нітачкай і сяброўка. Абое пра нешта ёй гаварылі, але яна нікога не слухала. Лянiва перастаўляючы ногі, суседка на адным пальцы трымала партфель, каленьмі стукала па ім і нудна азіралася. Вядома, мяне яна нават і не заўважыла. Яе сумны позірк толькі абыякава каўзануў па маіх грудзях. Я прыгледзеўся. Гэта была ўжо не тая гімназістачка, якую я бачыў на сцэне, а — самаўпэўненая паненка, што ведала сабе цану.

— Паду-умаеш! — грэбліва кінуў я, мінуўшы кампанію.

Калі студэнт праходзіў пад ліпкай, расшытая сярэбранымі выкрутасамі форменная шапачка на цэлыя дзве пядзі не даставала да лісцяў. Падышоўшы да таго самага месца, я выцягнуў шыю і выразна адчуў, як галінкі джарганулі мяне па патыліцы.

— Во! — сказаў я сабе.

І забыўся пра гімназістаў.

Паказалася Віленка.

Ля Зарачанскага моста звярнуў маю ўвагу абеліск. Я не мог прайсці раўнадушна міма кожнага надпісу, пачаў чытаць і гэты.

«Помнік пастаўлены ўдзячнымі жыхарамі Вільні польскаму вучню Мечыславу Додзіку, які ўтануў тут у 1933 годзе, ратуючы ў час паводкі яўрэйскага хлопчыка Хацкеля Хармеца». Бедны. Відаць, не ўмеў плаваць. А мо бервяном аглушыла...

Глядзі, жылі тут мальцы што трэба!..

Хоць на граніце была яшчэ высечана багародзіца, аднак я — ваяўнічы бязбожнік — ужо адчуў да помніка пашану. Насцярожана паглядзеў на бурлівую, ядавіта-зялё-

ную Віленку, прыкінуў, на колькі яна ўзнімаецца ў паводку і як тут усё кіпіць, ды ціха пакрочыў далей.

Мяне панесла ў старыя кварталы Вільні.

Што тут было тысячу гадоў назад? Якія хадзілі людзі? Якая на іх была вопратка? Якія мелі клопаты?..

Відаць, было тут поле. Няўжо і тады гэтаксама людзям свяціла сонца, яны пацелі, хацелі піць? І пясок перасыпаўся пад капытамі іхніх коней?.. А чаму не? Вядома! Не верыцца, бо мінулае мы ўяўляем сабе па малюнках мастакоў, а гэтыя малюнкі больш падобныя на казку.

Потым з'явіліся гэтыя муры і іншыя людзі. Потым і тых людзей не стала...

Цяпер з сівых муроў месцамі выкрышылася цэгла і застаўся толькі акамянелы раствор, таму на сценах чарнелі чатырохкутныя адтуліны — глядзі, так і шугануць адтуль з гнёздаў птушкі!

На адной вуліцы два здаравенныя атланты на плячах трымалі балкон. Балкон вялізны, а скульптар так здорава выразіў напружанасць мускулаў у атлантаў, што мне захацелася падперці балкон самому ды кінуць барадачам:

— Я за вас крыху патрымаю яго, а вы, хлопчыкі, пабегайце па скверыку, хай вам плечы адыдуць!

Ганкі, галерэі, вузенькія вулачкі.

Нібы для таго, каб адзін бок вулачкі не налез на другі, іх параспіралі ўверсе аркамі...

Гледзячы на гэтую старажытнасць, я забыўся на ўсё і адчуў, як у мяне пачынае займаць дух ад усведамлення, што хаджу мясцінамі, пра якія толькі пішуць у кніжках.

«Няўжо я ў Вільні? А мо толькі сню?

І ўсё ж такі я ў Вільні, эх!..»

Ад збытку пачуццяў і сілы мяне ўзяла ахвота брыкнуць, як таму цяляці на полі, калі яно наесца травы, а сонца прыпякае, і цяля раптам задзярэ хвост і пачынае дурэць.

Хадзіў я ў той дзень доўга. Калі апамятаўся, што позна ўжо, азірнуўся. Якаясьці незнаёмая вулачка. За мной — дзве жаночыя постаці. Я паўслухаўся. Адзін голас дарослай, другі — дзяўчынкі гадоў шаснаццаці. Яны нечага ад мяне хацелі.

— Ты чаго ўпіраешся яшчэ, дурніца! — угаворвала старэйшая маладзейшую.— Ну, ідзі, не бойся!

— Хі-хі-хі-хі!

— Прэндзэй, ну! Бачыш, спыніўся і азіраецца!

— Хі-хі-хі-хі!

— Каму кажу? Чаго зяваеш зноў?.. Ідзі да яго, ідыётка!

У чым справа? Навошта я ім патрэбен?..

Я быў такі наіўны, што нічога не разумеў. Толькі ўгледзеўшы, што адна з постацей піхае ў мой бок другую, мяне апанаваў якісьці інстынктыўны страх, і я з усяе моцы пабег.

Вылецеўшы на цэнтральную вуліцу, я спыніўся каля латка. Патаптаўся ў нерашучасці, паазіраўся, бытта хацеў упэўніцца, ці не бачыць бацька, што збіраюся транжырыць грошы, і адно тады папрасіў порцыю марожанага.

Сорамна есці ў людзей на вачах. Я павярнуўся тварам да вітрыны і пачаў лізаць халодны капец у чарачцы з вафлі.

Не паспеў з'есці і паловы порцыі, як раптам насцярожыўся. Каля мяне хтосьці затрымаўся. Я скасіў вочы. Побач стаяла дзяўчына з шырокім тварам. Мутна-сіняга колеру вочы яе глядзелі на мяне з гатоўнасцю і нібы казалі: а вось і я! Дзяўчына ступіла ў мой бок. Марожанае засела ў маім горле.

Што за ліха?!.

Я з цяжкасцю праглынуў камяк і заморгаў вачыма. Паглядзеў у вітрыну: можа, мне здалося?

Не. У шкле акна выразна, як у люстэрку, маячыў той самы шырокі твар. Вочы дзяўчыны адтуль усё ўпарта стараліся спаткацца з маімі. Яна зноў зрабіла крок да мяне. Стала так страшна, як тады, калі снілася, што на мяне наязджае паравоз.

Я ўцягнуў марожанае ў рукаў і сігануў у паток людзей. Толькі адляцеўшы крокаў на трыццаць, я з палёгкай уздыхнуў і азірнуўся.

Дзяўчына ўсё яшчэ была на тым самым месцы. Цяпер яна стаяла да мяне спіной, а яе фігурка выглядала панікла,й, апусцелай, бытта яе хтосьці моцна пакрыўдзіў. Ні то з жалю да яе, ні то з цікавасці я пастаяў ды паўзіраўся. Дзяўчына прайшлася ў адзін бок, другі і змяшалася з патокам прахожых.

Вярнуўся я на кватэру, раздзеўся, а заснуць не магу. Доўга я валяўся на ложку, і доўга ён пада мной рыпеў. Упершыню звярнуў увагу, што ў мяне цвёрдае і тугое цела, тонкая ды белая скура, і адчуў, як люблю сваё цела. Мяне раптам пачалі мучыць незразумелыя жаданні, агарнула дзіўнае хваляванне.

## 3

Вядома, чуб — дзіцячая фантазія, форс. Я да яго хутка прызвычаіўся, ён паслужыў толькі маленькай ступенькай на шляху да сталасці. Такіх ступенек я меў шмат.

У мяне людзі верылі. Вялікая гэта сіла — людская вера. Усё добрае, што ва мне тады было, ведаю, паходзіла з яе. Мяне хвалілі. Я заўсёды памятаў, што ад мяне нечага чакаюць. Гэта мяне падцягвала і, відаць, служыла галоўным стымулятарам у жыцці.

А яшчэ людзі мяне паважалі. Не толькі з-за таго, што я рэдка іх падводзіў, а з-за маўклівасці. Да маўклівых заўсёды праяўляюць цікавасць.

Паважалі мяне яшчэ і за рост. І наогул лічылі сур'ёзным, удумлівым, падбадзёрвалі добразычлівасцю. Як яны памыляліся, як яны не ведалі, колькі мне гэта каштуе!

Сапраўды, мне некалькі гадзін удавалася пабыць сур'ёзным, і я сабе казаў: к д'яблу ўсё, я прыехаў сюды не глупствамі займацца, буду рабіць вось так і так!.. Праходзіла гадзіна, я пачынаў захапляцца чым-небудзь пабочным і спяшаўся туды, куды цягнула.

Не, не вучоба была маім захапленнем.

Неяк маці прыслала мне ў Вільню вышытую кашулю. На ўроку польскай мовы і літаратуры ўбачыў яе наш прафесар Залескі і заявіў класу:

— У Афрыцы ёсць народы, якія любяць каляровыя шкельцы, каменьчыкі, ніткі. Дай ім мыла або соль, яны з'ядуць іх проста так, як мы — шакалад. У нас на «крэсах» [1] гэтае дзікунства захавалася ў тым, што мясцовыя сяляне расшываюць вопратку рознакаляровымі ніткамі.

І выхаленай рукой ён паказаў на мяне:

— Вось вам жывы прыклад!

Лёгка сабе ўявіць, як пасля такіх слоў я адносіўся да таго «прафесара» і яго навукі.

Яшчэ настаўнікі «паўшэхнай» школы былі мае заклятыя ворагі, і ўсё тое, чаму яны вучылі, было мне чужое. Такое перакананне я перанёс з хаты ў школу, і год ад году яно ў мяне паглыблялася. Таму выхадка Залескага не была нечаканасцю.

Мая адукацыя адбывалася недзе паміж урокамі — на вуліцы, дома. З сямігадовай школы я не вынес ні замілавання да вучобы, ні навыкаў. Наадварот! У маім уяўленні

[1] Тэрыторыя Заходняй Беларусі ў Польшчы да 1939 г. называлася «крэсамі ўсходнімі».

кожны той, хто атрымліваў пяцёркі за іхнія навукі, быў панскі падліза, халуй. Паехаў я ў Вільню, бо туды адпраўляліся многія пакаленні нашай моладзі, каб убачыць свет і вярнуцца дахаты мо і без дыплома, але прызнаным чалавекам.

У Вільні я рыхтаваў урокі без здавальнення і энтузіязму і толькі тады, калі ведаў, што мяне абавязкова выклікаюць да дошкі.

Уся мая душа была ўзрушана падзеямі, якія разгортваліся ў горадзе і на свеце. Вось хоць бы сенсацыя аднаго дня.

— Чулі? У Лукішскай турме небывалы шлюб сёння адбудзецца! — пачалі перадаваць з вуснаў у вусны людзі.— Раман стагоддзя, такога яшчэ не было!

Студэнтка універсітэта імя Стэфана Баторыя выходзіла замуж. Яна таксама сядзела ў Лукішках і са сваім будучым жаніхом пазнаёмілася праз краты. Яе выпусцілі раней, дзяўчына пачала з ім перапісвацца, насіць перадачы, а праз год яны дамовіліся пажаніцца. Урад ім дазволіў браць шлюб у турэмнай камеры.

Газеты паведамілі, што сёння ў шлюбнай сукенцы і з капеланам яна накіроўваецца ў Лукішкі. Хіба мог і я не прыйсці пад турму? У натоўпе такіх, як сам, я хваляваўся, нешта выкрыкваў, а грудзі распірала гордасць.

«Людзі, паверце, і мы здольны на такое!» — быў падтэкст нашых выкрыкаў.

Тады было чым узрушацца.

Газеты стракацелі здымкамі новых замежных бамбардзіроўшчыкаў і бамбасховішчаў у Лондане і Парыжы.

На вуліцах Вільні з кіямі стаялі эндэцкія [1] пікеты. Яны не пускалі кліентаў у яўрэйскія крамы.

Яўрэйскія хлопцы амаль на кожным скрыжаванні вуліц прадавалі карыкатуры на Гітлера, а паліцыя іх за гэта лавіла ды адпраўляла ў турмы ці канцлагер Картуз-Бярозу.

У цырку я бачыў, як барцы выйшлі на манеж, узнялі да публікі правыя рукі і прывіталіся:

— Гайль Гітлер!

Усім было вядома, што гэта агенты гітлераўскай пятай калоны, але яны свабодна ездзілі па Польшчы і рабілі сваю чорную справу. Паны нібы і лаялі Гітлера, але яўна яму сімпатызавалі, нават пераймалі.

---

[1] Эндэкі — нацыянал-дэмакраты, партыя польскіх шавіністаў.

Рыбентроп дамагаўся для Германіі калоній, гэтага патрабаваў у Лізе нацый і польскі міністр замежных спраў Бэк. У Германіі пабудавалі канцлагер, адразу паны зрабілі тое ж самае і ў сябе, ды яшчэ запрасілі Гімлера ў госці: паўзірайся, дружа, такі самы?!. Мо не ўлічылі што пры арганізацыі, то падкажы!..

Усе людзі былі ўзрушаны падзеямі, у тым ліку і я.

Невядомая сіла ўзнімала мяне з цвёрдага матраца і прымушала раніцай бегчы на Замкавую вуліцу. Там у вітрыне свайго будынка рэдакцыя вывешвала свежую газету. Хоць гэта было «Слова» віленскага манархіста Цата-Мацкевіча — усё ж такі газета, і бясплатная. Праз галовы такіх, як сам, прагна ўзіраўся я ў свежыя старонкі. І калі вычытваў, што албанцы зноў разбілі італьянскую дывізію або што восьмая кітайская армія паперла японцаў, я вяртаўся дадому шчаслівым чалавекам. Не, такой гордай радасці я не зазнаў бы, каб атрымаў адразу дзесяць пяцёрак або каб усе віленскія паненкі звярнулі на мяне ўвагу.

У вёсцы не паспелі прыняць мяне ў падпольны камсамол, але сярод камсамольцаў я лічыўся сваім чалавекам. Набліжалася бура. Яе рыхтавалі вярхі. Я цьмяна адчуваў, што ў падзеях рашучую ролю будуць адыгрываць і такія, як я. Нават я запасся наганам і часта браў яго з сабой у горад. Халоднае жалеза адцягвала мае штаны, але праз хвіліну наган награваўся і нібы зліваўся з целам: от дужым тады здаваўся я сам сабе!

Таямніца ўзнімала мяне ва ўласных вачах, усяляла ўпэўненасць і пачуццё перамогі над шэрымі мужчынамі, якія некуды беглі, заклапочана мітусіліся. Душа прагнула, каб нарэшце акунуцца ў віхор падзей. У такія хвіліны мой рост, прыгажосць і фанабэрыя дачкі генерала ўжо здаваліся дробяззю, глупствам.

І ўсё ж такі я не мог забыць яе спеву. Тады ў зале чамусьці здавалася, што яе разумею толькі адзін я і такое ўражанне робіць яна толькі на мяне аднаго. Нават здавалася, што ў памяшканні былі мы толькі ўдваіх.

## 4

Але мае паводзіны не будуць зразумелыя, калі я не прызнаюся яшчэ і ў некаторых грахах.

У нас на вёсцы адчувалася нацыянальная непрыязнасць. Узрадзілі яе езуіты і папы сотні гадоў таму назад ды падтрымлівалі да нашых дзён.

У маёй бабкі вісела іконка маленькага хлопчыка ў доўгай і белай кашульцы. Нам, малым, бабка апавядала, бытта некалі гэтага хлопчыка яўрэі, злавіўшы ў нашай вёсцы, завезлі ў горад, зарэзалі, а на яго крыві напяклі мацы. І бытта яўрэі робяць гэта штогод.

Многа разоў, бывала, узіраючыся на хлопчыка ў такой самай, як у мяне, кашульцы, я марыў хутчэй вырасці ды вызваліць свой народ ад крывавай дані яўрэям і люта ім помсціць.

І гэта яшчэ не ўсё.

Я жыў на граніцы Польшчы з Беларуссю. У маёй мясцовасці панавала нянавісць паміж двума суседнімі народамі, адурманенымі шавінізмам і забабонамі, гарэлкай і рэлігіяй. Нянавісць гэтая ў некаторых мясцінах даходзіла да дзікіх памераў. Здараліся нават выпадкі крывавых расправаў пры змене ўлад, а яны за апошнія дваццаць пяць гадоў у нас мяняліся шэсць разоў!

Праводзячы ў Вільню, маці давала мне такі наказ:

— Каго хочаш выбірай сабе там за жонку. Нават за жыдоўку нічога не скажу. Адно не бяры мне полькі. Яе нага не ступіць на мой парог, покуль жыціму! Так і ведай сабе!..

Камуністы, аб'яднаўшы часамі ў адну ячэйку беларусаў, яўрэяў і палякаў, вучылі людзей разбірацца, хто іх сапраўдны вораг. Але адна справа ўсвядоміць сабе з'яву, другая — пазбыцца схільнасці і звычак, якія ты ўвабраў з малаком маці. Для таго каб гэтай заразы пазбыўся народ, трэба шмат часу.

Таму траплялiся людзі, што хадзілі ў даматканым адзенні, лапцях, але глядзелі на такіх самых гаротнікаў-палякаў як на істоты ніжэйшыя. Праўда, моладзь жыла новымі ідэямі, аднак траплялiся хлопцы і дзяўчаты з «радзімымі плямамі».

І ў мяне былі такія «плямы». Я не мог пазбыцца адчужанасці да сімпатычнай суседкі не толькі таму, што яна дачка генерала, але і таму, што яна яшчэ і полька.

## 5

І ўсё ж такі з дня выступлення хору ліцэістак я стаў зашмат часу аддаваць суседцы.

Я зусім не намерваўся ў яе закахацца. Проста пачаў марыць, як прымушу паважаць сябе. Я пацяшаўся і смакаваў ужо прыемнасць перамогі. З вялікім здавальненнем

прыдумваў розныя шляхі, якімі дабіваюся мэты. Паступова гэта перайшло ў нейкую хваробу: суседні панадворак я не выпускаў з вачэй.

А ён быў агароджаны металічнай сеткай, праз якую віднеўся незвычайны, падобны на куб дом з вялікімі, у адну шыбіну, вокнамі. Вакол дома раслі піхта, лістоўніца, таполі, канадскі клён, а на клумбах — кветкі і пальмы. Сцены былі ўвітыя дзікім вінаградам. Сярод галінак дрэў з вечара да раніцы гарэлі лямпачкі. Шкло, бетон, чысціня і парадак, электрыка, паўднёвыя расліны — усё велікапанскае, недаступнае, незвычайнае і таямнічае. Нездарма цэлая вуліца ганарылася, што на ёй жыве сам генерал.

Я так сачыў за суседнім домам, што тыдні праз два ўжо крыху даведаўся пра яго жыхароў.

Сядзеў я аднойчы на ганачку з кніжкай, і на суседнім панадворку з'явіўся сам генерал з ад'ютантам.

— Юнак, чаму ты так горбішся? — раптам кінуў ён праз сетку.

Я са здзіўленнем азірнуўся.

— Да цябе гавару, да цябе! — пацвердзіў вусаты вайсковы ў расшытым сярэбранымі зігзагамі мундзіры.— Не нахіляйся гэтак, давай грудзям доступ кіслароду — табе яшчэ салдатам быць!

— Так точна, пане генерале! — схапіўся я, але ён ужо знік на ганку, і толькі яго ад'ютант змераў мяне ні то зайздросным, ні то зацікаўленым позіркам, пакідаючы мяне ў недаўменні.

У генерала было некалькі чалавек прыслугі. Перш за ўсё кідалася ў вочы пажылая жанчына з пачцівым маршчыністым тварам. Яе, спаткаўшы ў горадзе, я пазнаваў ужо. Аднойчы нават сустрэў у галантарэйнай краме. Генеральская служанка разглядала дзіцячую кашульку і вырашала, купіць ці не.

— Свайму пляменніку на вёску! — даверліва прызналася яна прадаўцу.

Было відаць, што ў краме яе добра ведаюць.

— Дык бярыце! — падказаў прадавец.

— Не хапае грошай...

— А вы пазычце ў сваёй гаспадыні, пані Вацлавы, генераловай!

— Не люблю гэтага. Хто пазычае, потым просіць міласціну...— Яна паклала кашульку на прылавак, паглядзела на яе яшчэ здалёк ды сціпла пайшла да дзвярэй.

За лета ў генералавых дрэвах развялося шмат галак,

і служанка прыйшла да маёй гаспадыні спытаць, ці не ведае тая хлопца, які б узяўся паскідваць гнёзды з таполяў. Праз адчыненае акно я пачуў, як яна аб'явіла:

— Па пяцьдзесят грошай [1] за гняздо дае пані генеральша!.. Акыш, акаянныя! Столькі іх развялося, што няма ратунку!.. Аднойчы генерал выйшаў пачытаць газету і адна ў паперу яму як плюхне!.. Ах, шкодніцы!.. Пані Вацлава хацела іх звесці вясной, але ён не дазволіў. Сказаў — няхай выведуцца, тады...

Я ў гэты час схапіў кніжку і прыкінуўся, што чытаю.

— А вы, суседка, чаму не мыеце сёння бялізну?

— Бялізна на пліце кіпіць, а я толькі выйшла на ганачак падыхаць свежым паветрам! — адказала гаспадыня.— Душна на кухні... Кухоннае паветра з сябе выдыхаю, выдыха-аю, а свежае поўным ротам удыха-аю!..

— А я думала, вы культурай выпрашылі заняцца сёння.

— Зоймешся, як жа! Мой жылец прыносіць дадому часопісы з малюнкамі. У мінулую нядзелю ўзяла адзін паглядзець, дык не знайшла акуляраў, бо дзеці некуды завалаклі.

— І ўся культура скончылася?

— Ну, скончылася. Калісьці, як жыў мой мужык, то хоць ён не даваў мне ў свята мыць. Не любіў вельмі, калі я назношу бялізны на нядзелю. Бывала, п'яны як возьме, як кіне! Раскідае ўсё мне, парве, патопча...

У голасе гаспадыні чуліся захапленне і гордасць за мужа і сум па ім.

Я адчуў — служанка асцярожна заглянула ў акно. Потым з набожным шэптам спыталася:

— Ваш усё гэтак над кніжкай сядзіць?

— Але,— пацвердзіла гаспадыня.

— А я думала, мо ён захоча зарабіць.

— Не мае часу... Гароўны трапіў хлопец, працавіты! Наносіць мне вады і — за ксёнжку!..

— Наша паненка таксама мала куды ходзіць. Усё сядзіць, сохне над кніжкамі. Або іграе на партафяні... Божа, які час настаў, як мэнчацца маладыя! Хіба людзі ведалі такое раней?.. Недарма цяпер гэтак усе хвараюць на сухоты! Ой, трэба ісці прэндзэй да работы!

— Ці не прыгарэла там мая бялізна! — кінулася на кухню і гаспадыня.

Адыходзячы, служанка закрычала на птушак:

---

[1] Грош — мелкая манета, 1/100 злотага *(польск.)*.

— Акыш! Зараза! Паморка на вас няма!.. Ох і дабяруся ж я да вас!..

Я ж са злосцю шпурнуў кніжку на стол: таксама прыдумаў!.. Чакай цяпер, калі яна зноў завітае!..

Калі служанкі не стала, я выйшаў на двор. Доўга не думаючы, пералез цераз сетку і зашыўся ў густыя кусты бэзу ля генералавага дома. Да бетоннай сцяны — два метры. Насупраць — шырокае акно ў адну шыбіну. Яно адчыненае. Я стаіўся, замёр.

Цішыня была такая, што я адчуў, як білася ўласнае сэрца, як скрыпелі пазванкі шыі, а глыток у горле здаваўся грукатам. Цікавасць перамешвалася са страхам, ад якога мутнела ў галаве.

Нарэшце ў пакой увайшла вядомая мне жанчына і павесіла ліпучку, на яе адразу ўпала муха ды праразліва забзынчала. Цётка, праціраючы люстэрка, па-беларуску і дабрадушна прабурчала:

— А што, папалася? Ага? Чаго з двара сюды ляцела?.. Ці тут табе месца? Лётала б сабе па сонейку, колькі б хацела, цешылася б воляй, покуль цяпло, а так — во, маеш!..

Дабрата жанчыны перадалася і мне. Успомнілася добразычлівая заўвага самога генерала... Здалося, у гэты таямнічы дом для мяне перакінуты мост.

І пра паненку я хутка тое-сёе даведаўся.

6

У суботу вечарам сядзеў я зноў на ганку. Раптам у генералавым доме нячутна адчыніліся парадныя дзверы і на парозе з'явіліся тры постаці. Мабыць, ішла і тая, каго вартаваў. Я ўсхапіўся і паспяшыў за брамку.

Хутка я нагнаў паненак і пайшоў следам.

Перад Зарэчнай яны спыніліся.

— Дануся, куды пойдзем, да Віліі? — звярнулася адна з іх да маёй суседкі.

— Ай, не хачу! Там пан Браніслаў будзе! — раздражнёна кінула паненка.

— Тады куды?

— Ці я ведаю?..

Хвіліну дзяўчаты патапталіся.

— Во, ідэя! — ажывілася суседка.— Пойдзем у кафэ «Штраля» есці піражнае!

— Хопіць у нас грошай?

— Паглядзім!

— Лічы і ты свае, Дана!..

Паненкі пачалі лічыць свае фінансы. Але ўбачыўшы мяне, змоўклі.

Каб не западозрылі, што за імі сачу, я мусіў прайсці міма. Ды з мяне на гэты вечар уражанняў хапіла і так.

Я даведаўся, як зваць маю суседку. Яна мела прыгожае ні то літоўскае, ні то польскае імя — Данута. Яшчэ можна было да яе казаць: Данка, Дана, Дануся...

Дануту я часта бачыў са стараватым студэнтам, а цяпер сваімі вушамі чуў, што для яе гэты студэнт, няйначай Браніслаў, нялюбы, яна не хоча яго бачыць, і ў мяне быццам зняў хто з грудзей цяжкі камень.

Я сабе ўяўляў, што генеральскім дочкам няма чаго клапаціцца пра грошы, бо ў іхніх пакоях стаяць мяшкі з банкнотамі. Запомнілася нахіленая галава паненкі, калі яна пры святле лямпачкі лічыла манеты.

І апошняе. Было надта дзіўна, што на свеце ёсць людзі, якія ходзяць у кафэ проста так, адно паесці піражнае!

— От, крывасмокі! — праказаў я ўголас.

Але абурэння на гэты раз не адчуў.

Усё было для мяне незвычайна, і да глыбокай ночы я прахадзіў па горадзе. Не, не гутарыў сам з сабой, не разважаў, як старэйшыя,— для гэтага не хапала ні слоў, ні жыццёвых ведаў. Упершыню пазнаныя ісціны самі сабой укладваліся ў маёй галаве, і мяне, узрушанага і ўзбуджанага, насіла, нібы на крылах. Гэта быў таксама працэс мыслення: у маладых, мабыць, так адкладваецца вопыт.

## 7

Назаўтра была нядзеля. Зрання я ўзяўся за работу.

Жыў я ў прачкі. Водаправод на нашай вуліцы меў толькі генерал. Удава здала мне пакойчык з-за вады, якой жанчыне трэба было многа, а насілі яе здалёк.

Я напоўніў бочкі і балеі. Тады навварыў сабе есці. Паснедаўшы, захапіў свежы нумар «Мора і калоніі», які прынёс з ліцэя, і адправіўся ў горад. Вось ужо каторы дзень, як у польскім перакладзе з'явілася трэцяя кніжка «Ціхага Дона». Я накіраваўся ў гарадскую бібліятэку.

Перад бібліятэкай даўжэзны хвост людзей выходзіў аж на лесвіцу. Запісвалі ў чаргу. Тут стаяла звычайная гарадская публіка, але з пункту гледжання мужыка, у шы-

коўнай вопратцы, яны для мяне ўсе былі паны, дармаеды і буржуі.

Людзі паводзілі сябе ўпэўнена, свабодна і, здавалася, на мяне зыркалі насцярожана і нядобразычліва. Зрабілася крыўдна: я ж першы маю права на Шолахава!.. Халера з вамі, яшчэ прачытаю, цяпер чытайце вы ды ведайце нашых!..

Выйшаў я зноў на вуліцу і павярнуў да касцёла святой Ганны. Сюды кожную нядзелю прыходзіла маліцца сям'я генерала.

Я ўжо некалькі хвілін пахаджваў па тратуары, разглядаючы стромкія гатычныя лініі зграбнага касцёліка з чырвонай цэглы. Тры лёгкія ажурныя вежкі так і стралялі ў неба. Між імі — выгнутыя лукі. Усё нібы зробленае з тонкіх карункаў, простае...

Раптам здалёк я ўбачыў студэнта з вусікамі ў нітачку і ўспомніў, як непрыхільна адзывалася аб ім Данута.

«Ліха цябе бяры, цяпер ты мне не страшны!»

Разам са студэнтам ішоў Генрых Станеўскі. На курсах ён выдаваў сябе за шчырага паляка, хоць я добра ведаў, што ў іхнім доме ніхто і слова польскага не прамовіў. Каб не сумняваліся ў яго нацыянальнасці, ён заўсёды падтрымліваў шавіністычныя размовы. За гэта я яго ўзненавідзеў.

Ён доўга не прызнаваўся, што знаёмы са мной, і загаварыў толькі тады, калі на мяне звярнулі ўвагу іншыя. На ўроку настаўнік латыні пачаў выклікаць нас па журналу, кожны ўставаў і крычаў:

— Прысутнічаю!

Чарга дайшла да мяне. Я пачырванеў, што так высока ўзняўся над таварышамі і што падняў на сабе парту. Гэта курсантаў развесяліла, і лацініст доўга мяне распытваў — хто я і адкуль. На перапынку ўсе дружалюбна з мяне смяяліся, спрабавалі гэтаксама падняць парту. Падышоў і Станеўскі, фамільярна ўдарыў па плячы. Шчасце яго, што я быў збянтэжаны, інакш турнуў бы яго, у мяне нядоўга.

Станеўскі цяпер быў у новым касцюме і ў фетравым капелюшы. О-го! Адкуль у цябе грошы?..

Студэнт таксама быў разадзеты, як лонданскі дэндзі,— элегантна, з чорным банцікам пад барадой. Ішлі яны паволі. Да мяне даляцелі словы майго аднакурсніка:

— Безумоўна, пане Браніславе!.. Калі не прыдушыць жыдакамуны — запануе над усёй Еўропай!.. Усходнія орды чалавечую культуру змятуць, як зрабілі ўжо гэта раз гуны!..

Слоў Браніслава я не разабраў, толькі ўлавіў іх тон. Гаварыў ён вяла, неахвотна, сумна і праз сілу, бытта словы прычынялі яму боль.

Генрых зноў хацеў нешта сказаць, але ўбачыў мяне і закрычаў:

— Сэрвус, пане Барташэвіч!

Я разгубіўся.

У другім выпадку зямляк мяне не заўважыў бы. Цяпер яму хацелася ўзняць сябе ў вачах багатага прыяцеля і паказаць, што ў яго ў Вільні на кожным кроку таварышы. Ды адзін з іх — во аж які асілак! Мяне абражала, што служу нейкай прыманкай. Адначасова ўсяго агарнула і хваля бязвольнай нерашучасці, ногі прыраслі да тратуара.

Генрых адрэкамендаваў мяне ўжо студэнту:

— Мой калега. Канчалі адну «паўшэхную» школу...

— Бранііслаў! — неахвотна наставіў той мяккую руку і велікадушна адвярнуў галаву, каб не бачыць маёй разгубленасці.

Студэнт рабіў выгляд, што ён надта разумны і ўсё на свеце перабачыў, перапрабаваў. Гледзячы на яго, здавалася, што яму надакучыла жыць на белым свеце сярод такіх нікчэмнасцей і што ён робіць вялікую ласку, што яшчэ існуе.

«Падумаеш, які ты важны,— пакпіў я ў душы.— Нябось, за «Ціхім Донам» таксама стаяў у чарзе!»

— Прашу! — студэнт запрапанаваў папяросы з сярэбранага партсігара.

Я адмовіўся. Генрых глянуў на мяне як на дзівака і сквапна палез у партсігар. Брыдка было глядзець, як ладна збудаваны і з адкрытым сімпатычным тварам зямляк вытанцоўвае перад панам.

— Прашу, бярыце, бярыце яшчэ ў запас! — заахвоціў студэнт.

— Але ж, дзякуй! — з пашанай адказаў мой аднакурснік ды асцярожна, нібы немаведама якую каштоўнасць, схаваў другую папяросу ў кішэню.

Я калі ўжо неўзлюблю чалавека, то кажу яму пра гэта сваім выглядам. Я не мог глядзець студэнту ў вочы і ўтаропіўся ў грудзі. А яны былі вузкія, і каб саўгануць у іх кулаком, панок перакуліўся б сем разоў. Да слабых целам

людзей у мяне тады была знявага, а да Браніслава я адчуў лютую нянавісць — сто разоў за яго мацнейшы, здольнейшы, а ўладаром тут ён, бо багаты!..

Генрых узяў у мяне часопіс:

— Дазвольце?

Урадавыя колы выйсце з эканамічнага застою бачылі ў калоніях. Урад быў упэўнены, што свайго даб'ецца, нават выпускаў спецыяльны месячнік «Мора і калоніі». Сынкі чыноўнікаў і памешчыкаў ужо збіраліся ехаць на Мадагаскар шукаць прыгод, калі толькі той востраў аддадуць Польшчы. Покуль Ліга нацый у Жэневе думала — даць Польшчы яго ці не, «залатая моладзь» ужо распявала песні пра спякотную Афрыку і бачыла сябе героямі сярод экватарыяльнай экзотыкі.

Генрых з Браніславам зацікавіліся фатаграфіямі, на якіх Мусаліні праводзіў італьянскія сем'і на жыхарства ў Абісінію. Яны смакавалі здымкі і выхвалялі талент дучэ, зайздросцілі макароннікам-італьянцам, забыўшыся на мяне. Я памалу супакоіўся, і ў мяне пачало нараджацца пачуццё непрымірымай варожасці да іх.

8

Калі мы так сабе стаялі ўтрох, Браніслаў раптам змяніўся ў твары, забыўшыся пра сваю маску здаволенага чалавека. Ён папрасіў прабачэння і пабег. Але змяніўся не толькі студэнт; задрыжалі каленкі і ў мяне: набліжаліся генеральша, дачка і пажылая служанка.

Паненка крочыла сціпла, нібы школьніца, трымала чорны малітвіннік у залатой аправе і ўпотай зыркала на нас. Дануся паводзіла сябе так, як дзеці пры чужым нябожчыку,— з забаўнай вонкавай пакорай і ціхмянасцю.

Мне ўжо тады кінулася ў вочы розніца паміж маці і дачкой.

Фанабэрыстая шляхцянка з відочнымі рысамі каўказскай крыві была зусім не падобная на Данусю — жвавае, прывабнае дзіця. Варожасць, якую я перанёс з Браніслава і Генрыха на паненку, у мяне знікла.

Генеральша скупа ўсміхалася студэнту, бытта дарыла, падала руку, а Браніслаў, зняўшы шапку, нізка пакланіўся і паспешліва цмокнуў у разрэз цёмнай пальчаткі.

— Гэта князь Любецкі! — вінавата паведаміў Генрых.

— Князь?

— І вечны студэнт,— дабавіў ён, бытта пахвалу.— За

мяжой скончыў інстытут, а ў Вільні абараняе польскі дыплом. Нарачоны генеральскай дачкі!

— Так...— Які з яго нарачоны, я чуў з вуснаў самой Данусі.— І чаго ты гэтак выпендрываешся перад панамі, Генек!

— Дарэмна на мяне ты так...— разгубіўся ён.

Падносячы да маіх вачэй папяросу, зямляк пахваліўся:

— Во-о, «Пласке», з манаграмай нават! Яму фабрыка выпускае па спецзаказу...

Я прыгледзеўся. На муштуку тоненькай папяросы былі надрукаваны залатой фарбай мудрагелістыя ініцыялы «Б Л», год выпуску і герб.

— Гы!..— не ўтрымаўся я ад здзіўлення і адразу забыўся на свой гнеў.

Тым часам генеральша паплыла ў касцёл. За ёю падаліся паненка з кабетай і студэнт.

Ля дзвярэй сядзелі жабракі. Калі генеральша холадна, не нагінаючыся нават, расторквала ім грошы, Дануся сціснулася ўся ад няёмкасці.

Я аж уздыхнуў, калі за імі зачыніліся масіўныя дзверы з адмыслова выкаванага жалеза.

Яшчэ нядаўна я прыдумваў сабе гісторыі, бытта станаўлюся славутым чалавекам, напрыклад, барцом ці баксёрам, і генеральша сама, нібы з Марцінам Ідэнам, шукае са мной сустрэчы, каб аддаць сваю Руф. Але, прыгледзеўшыся цяпер да пані, я адчуў, што генеральша — не місіс Морз. Гэта чыстакроўная арыстакратка нізавошта мяне не прызнала б за чалавека, калі б я нават стаў мільянерам! Да Данусінай маці я адчуў нават пашану: адкрытых ворагаў я паважаў. Аднак ад усведамлення гэтага лягчэй не зрабілася. Са сваімі марамі я выглядаў смешным.

І ўсё роўна я не здаваўся.

У прысутнасці генеральскай сям'і Любецкі зрабіўся пакорны, як звязаная авечка. Мой зямляк з-за таго, што з ім сябруе і гутарыць сам «князь», не ведаў, як выдрыгваць і падхалімнічаць перад ім. А мне што?

Ну і ліха з вамі, калі вы такія паны і не лічыцеся са мной! Пляваў я на ўсіх вас і хаджу сабе па той самай, што вы, вуліцы, дыхаю тым самым паветрам, абагравае мяне тое самае сонца! Нават магу быць там, дзе бываеце і вы. Ляжыць у кішэні шэсцьдзесят грошай, вазьму і пайду ў вашы рэстараны! Вы сабе абед, нябось, не гатуеце?!.

А захачу, пайду нават у вашы касцёлы, следам за вамі! Што, мо выганіце?..

Я пацягнуў Станеўскага ў касцёл: з ім адчуваў сябе лепш. Станеўскаму было ўжо няёмка перада мной. Ён прачнуўся ад ап'янення і зрабіўся самім сабой — нармальным вясковым ды сваім хлопцам, толькі такім, які прыбыў у Вільню на год раней і больш ведае, што тут дзе робіцца. Ён нават дастаў з кішэні пачак халвы, разламаў яе і большую палову сунуў мне. Успомніў я маці і дараваў яму падхалімства.

Бывала, мы, пастухі, адгонім кароў далей ад людскіх вачэй і давай зводзіць быкоў. Не прымае ўдзелу ў гульнях толькі Генрых. Калі я перад маці смяяўся, яна яго бараніла:

«Добра табе, сынок, дурэць. Бык зломіць рог, і ты толькі атрымаеш ад бацькі рэменя, бо пасеш сваё стада. А Генрых, бедны, пасе чужое. Гаспадар даведаецца і прагоніць такога пастуха!..»

Мо і праўда, жыццё некаторых прымушае быць несамастойнымі, дагаджаць другім?!. Зрэшты, цяпер мне было важна тое, што Станеўскі слухаўся.

Ён пачаў шаптаць, што касцёл пабудаваны яшчэ ў 1395 годзе на месцы язычаскай багамольні жонкі князя Вітаўта. Бытта захапляўся ім у час паходу на Маскву Напалеон і шкадаваў, што не можа ўзяць касцёл на далонь і перанесці ў Парыж.

Я дзівіўся, глядзеў ды слухаў.

У строгай перспектыве памяншаліся два рады дубовых масіўных лавак. У пярэднім радзе, бытта за высокай школьнай партай, сядзела генеральша з дачкой. Побач, набожна склаўшы рукі лодачкай, стаяў студэнт. Дзве светлыя касы Данусі спадалі на чорны бліскучы шоўк фартушка. Я так прыглядаўся, што нават разгледзеў у яе ніжэй патыліцы непакорныя кудзеркі, у студэнта — лысіну, у генеральшыным капелюшы — тры зялёныя пёркі, а ў сівых валасах служанкі — просты карычневы грэбень.

Вакол сядзелі кастлявыя старыя і высушанымі рукамі, падобнымі на курыныя лапы, перабіралі пацеркі ружанца. Магутныя гукі аргана хапалі за душу і наводзілі сум. Нібы з таго свету даносіліся словы ксяндза:

— Pater noster, qui es in coelis, sancificetur nomen tuum!.. [1]

---

[1] Отча наш, іжа ясі на небясі, да свяціцца імя тваё!.. *(лац.)*

Пахла сырасцю. У мяне было такое ўражанне, бытта знаходжуся ў магіле.

Першы раз я не адчуў да Данусі непрыязі. Мяне нават агарнулі незразумелая трывога, братэрская спагадлівасць. Стала шкада паненку.

І яшчэ, гледзячы, як Данута шчыра малілася, ні разу не азірнуўшыся і не павярнуўшы галавы, я адчуў цёплае спачуванне і нават захапленне яе нявіннай верай.

10

«Во, пора, пора ў талерцы, бытта няма чаго рабіць, а ежа для яго — забава! — злаваў я на паноў за суседнімі столікамі.— І навошта людзі садзяцца есці, калі ім зусім не хочацца? Каб здзяліў па руках, павыбіваў у іх гэтыя нажы і відэльцы,— няхай не псуюць харчоў!

Здаецца, узяў бы за каўняры, тыцнуў аднаго-другога носам у талерку і сказаў:

«Ведаеце, паны чортавы, колькі вясковая цётка, мая маці, у гэтыя куры ўклала працы, душы, надзеі?..»

Пазаганяць бы вас, буржуяў, у гумны, наскідаць бы вам снапоў, сунуць цапы ў рукі:

«Ану, бярыцеся малаціць!.. Лоск і фанабэрыя мігам бы злезлі, і апетыт бы мелі добры!..»

Такія былі ў мяне думкі ў рэстаране.

На сталах ляжалі бліскучыя нажы, відэльцы, лыжкі. Прыладаў тут было столькі, бытта недзе блізка стаялі іх поўныя скрыні і гэтыя выкладвалі для паказу. Я прыгадаў адзін зломак у маёй прачкі. Ім, відаць, з пакалення ў пакаленне карыстаўся яе род. Удаве даводзілася часамі зломак шукаць на двары, бо дзеці яго выносілі стругаць лодку ці кій і пакідалі ў пяску. Цётцы бы адзін такі нож, ото ж было б радасці ў хаце!

— Ваш заказ! — перарваў мае разважанні рослы афіцыянт з вусамі банцікам.

Ладны хлапец, а займаецца такой справай!..

На дне талеркі афіцыянт прынёс супу. Потым — другое, як кату...

Не спадабалася мне ў рэстаране абедаць. Я ўсё баяўся, каб не капнула на абрус, дзе стаялі тонкія і высокія чаркі. Не дай бог зачапіць ножку стала ботам — чаркі рассыплюцца ўшчэнт, а яны ж, халеры, дарагія.

Не пачуўшы смаку ад ежы, я накіраваўся даядаць дома.

У вестыбюлі рэстарана сустрэў я паненак у сукенках з вялікімі выразамі на плячах. Дзявочае цела было для мяне заманлівай, жудасна прыгожай таямніцай. Цяпер я меў магчымасць разгледзець яго зблізку. Паненкі непрыемна ўразілі аголенай белізной. Худую скуру на плячах прыкрываў яшчэ нейкі рыжаваты пушок. Выразна вызначаліся ў іх худыя ключыцы.

Знікла таямнічасць. Балюча кранула расчараванне, нібы я назаўсёды згубіў тое, дзеля чаго дагэтуль жыў. Прыгнечаны, накіраваўся на вуліцу.

У цэнтры горада мяне нехта цапнуў за плячо:

— Пачакай!

Я азірнуўся. Ззаду цяжка дыхаў наш курсант — Альбінас Суткус. Я толькі цяпер заўважыў, што ў яго дакладна такі ж самы банцік вусоў, як у афіцыянта.

— Барташэвіч...— пачаў ён і замяўся.

— Ну?

— Барташэвіч...

— Што хацеў, кажы!

— Я працую ў рэстаране, дзе ты абедаў...

— Пра-цу-еш?

— Ага...

— ?!.

Я адразу зразумеў, чаго ён ад мяне хоча, адчуў, што чырванею, і разгублена ўзяўся за кішэню.

Некалькі хвілін мы маўчалі.

— Хадзем сюды, за вароты! — пацягнуў ён мяне ад людзей.

— Ты там працу-еш?..— лепятаў я, ідучы за сябрам у пусты двор.— Афіцыя-антам?

— Ну...— Суткусу было таксама няёмка.

— Я не ведаў...

— Нічо-ога...

— Каб ведаў, што ты там, то...

— Я цябе адразу пазнаў. Ты нават сеў за мой стол, але я не хацеў сустракацца і паслаў да цябе другога афіцыянта. А потым палічыў і бачу — о! р-ропужэ, вельняй грыбіету!.. [1] Хутчэй пераапрануўся ды за табой...

— Я не ведаў, што гэта твой...

— Нічога, толькі аддай. Бо ў нас вылічваюць, сволачы, з палучкі...

— ...

---

[1] Д'ябал яго бяры!.. *(літ.)*

— Каб не вылічвалі, яшчэ сам раздаваў бы сваім хлопцам, а так...

Відаць, яшчэ ніколі я так моцна не чырванеў. Кроў хлынула мне ў галаву, вочы зацягнула імглой і зашчыпала ў кончыках вушэй. Нібы не сваімі рукамі я дастаў з кішэні пракляты нож:

— На...

Суткус загаварыў са спачуваннем:

— Каб гэта ў майго пана, то чорт яго бяры, я кажу. Яшчэ дапамог бы сваім хлопцам! Але, ведаеш, паны хітрыя. Наш нават за пабітую шклянку вылічвае, гад! Не так ён, як яго жонка. Прагледзіць усё, пералічыць пяць разоў... А хітры, гад! Учора ішла дэманстрацыя рабочых пад магістрат, то партрэты Пілсудскага і прэзідэнта зняў, каб вітрыны не пабілі каменнямі!..

— ...

— А ты дзе жывеш? — бачачы, што я ўвесь згараю ад сораму, не ведаў ужо пра што гаварыць Суткус.

— Там...

— Колькі вас у пакоі?

— Адзін я.

— О-о, вельняй грыбіету, адзін?! Па-каралеўску! То дай адрас. Зайду пераначаваць. Пусціш?

— Заходзь, калі хочаш...

— Толькі, цур, угавор. На курсах ніхто не ведае, што працую афіцыянтам. Халуйская пасада, смяяцца будуць хлопцы, а я там часова, покуль лепшае не знайду!

— Не скажу нікому...

— Сёння вечарам будзеш дома? Проста з курсаў і зайду!.. Іване, не крыўдуй на мяне... Ведаеш, я на рабоце... Ну, трэба ісці. Спаткаемся ў школе, салют!

Узяць што-небудзь у лесе або ў пана ў нас на вёсцы не лічылася кражай. Наадварот! Той быў дурань, хто гэтага не рабіў, калі надараўся выпадак. І ўсё роўна мне было так сорамна, што я ахвотна б праваліўся скрозь зямлю, каб яна расступілася. Навошта мне быў патрэбны той пракляты панскі нож? Абышлася б прачка зломкам.

Як непрыемна!

— Цьфу! — Я са злосцю ўдарыў ботам пустую бляшанку ад кансерваў, якая трапілася пад ногі.

## Раздзел трэці

### 1

Над Віліяй мелася адбыцца гулянне. Магістрат горада заказаў фірме параходзік у гонар нейкага гістарычнага героя. У нядзелю параходзік збіраліся спускаць на ваду.

Некалькі дзён запар віленскія газеты рэкламавалі цікавую забаву. Яшчэ яны паведамлялі, што хроснай маці параходзіка будзе жонка генерала — пані Вацлава. Гэтага дня і я чакаў.

Урэшце надышла нядзеля. Прадзірацца скрозь натоўп да берага я не пасмеў: там стаяла Данусян, а мне здавалася, што і яна ведае пра выпадак у рэстаране. За цырымоніяй назіраў здалёк.

Генеральшы падалі бутэльку шампанскага. Дама ўдарыла ёй аб борт, бутэлька не разбілася і плюхнулася ў ваду. Каля мяне людзі закрычалі:

— Мегера!

— Не магла ўжо бутэлькі разбіць!

— Змарнавала дабро!

— А што ёй? Не сваё!

— Яна не вінаватая! У такіх выпадках шампанскае прывязваюць вяроўкай!

— Абаронца знайшоўся! Панскі падліза!

Пакуль бегалі ў магазін па другую бутэльку, бедная Данута ледзьве не заплакала. Зрабілася непрыемна і мне.

«Куды лезеш са сваімі пачуццямі, ты, што паквапіўся на нож?!» — абсек я сябе.

...Нібы ведаючы пра маё шчырае спачуванне ёй тады ля ракі, у наступны дзень сімпатычная суседка мяне ўзнагародзіла.

Ішоў я па ліцэі і твар у твар спаткаўся з Данутай. Задыханая і расчырванелая, яна падымалася на пяты паверх. Параўняўшыся са мной, Дануся даверліва і проста, бытта мы даўно знаёмыя, праказала:

— Уф-ф, як цяжка!

І пакуль я знайшоўся што адказаць, пырснула гуллівым смехам, пругка скочыла з апошняй ступенькі на паркет ды лёгка панеслася па калідоры.

Я спыніўся.

Не, я не сніў. Сапраўды, хвіліну таму назад яна да мяне загаварыла! І сама — я ж яе не цягнуў за язык! Яшчэ гучаў яе смех: меладычны, свавольны і дураслівы.

Я доўга стаяў як зачараваны. Ва мне ўзнялася цэлая бура. Я ўжо забыўся, што глядзеў на яе як на ворага, ад якога ўсе мае няшчасці. Я нібы шкадаваў наступаць на месца, дзе толькі што ступала яна.

Са светлай радасцю і незразумелай трывогай я ўбачыў, што раблюся нявольнікам гэтай чароўнай полечкі. Дзеля яе нават пачаў здраджваць сумленню.

Аднойчы мы са швейцарам, панам Войцехам, расстаўлялі ў зале крэслы. Іх не хапала, і мы даставалі мэблю з гары. Селі перадыхнуць. Пан Войцех хапіўся, што няма курыва, і папрасіў мяне спусціцца ўніз купіць папярос. Падумаўшы з жахам, што магу сустрэцца з ёй у запэцканай у вапну і павуцінне вопратцы, я не ведаў, што адказаць. Стары пакрыўдзіўся:

— Я не думаў, што ты такі дрэнны хлопец.

— Адкуль вы ўзялі!

— Калі будзеш багаты, а да цябе прыедзе ў лапцях бацька ды сустрэне на Міцкевіча вуліцы, ты ад яго адмовішся.

— Выдумалі...

— Кажу табе, адмовішся! Пабаішся, каб не ўбачылі цябе паненкі з вясковым дзядзькам!

— Будзьце ўпэўнены, не пабаю-ся...— казаў я больш сабе, чым швейцару, хаваючы вочы.

— Пабаішся, я ведаю. Не аднаго такога субчыка бачыў у сваім жыцці! Пачынаецца з гэтага!

Мяне ўразіла трапная заўвага старога. Успомніўся Станеўскі. Няўжо і я такі самы зрабіўся за адзін месяц у Вільні?

Стала сорамна. Аднак выйсці ў бруднай вопратцы да кіёска так і не змог. І за гэта сам сябе ўзненавідзеў.

2

Палякі з уласцівым ім уменнем наладжваць масавыя гульні праводзілі іх даволі часта.

Людзі яшчэ не забыліся на воднае свята, а ўжо рыхтавалася наступная ўрачыстасць — да дня ўшанавання памяці салдат, якія загінулі ў 1920 годзе ў вайне з бальшавікамі.

Меліся аддаць часць легіянерам, якія ваявалі за варожую мне справу і прычыніліся да няшчасця майго народа. Мо адзін з тых, каго памянуць на свяце, шомпалам паласаваў спіну майго бацькі або забіў чырвонаармейца, чыя

безыменная магілка сіратліва ўзвышаецца пад грушай ля маёй вёскі.

Набліжалася чужое мне свята.

Мая душа раздвоілася. Я адчуваў пагарду і варожасць да новай забавы паноў. Але Данусся, я ведаў, недзе не магла дачакацца яе. І другая мая палова была верная Данусе, хвалявалася гэтаксама. То была новая здрада маім перакананням і сумленню, але справіцца з сабой я не мог.

Аднойчы спаткаў я на вуліцы пару ліцэістак. Адна з іх была суседка. Паненкі трымалі запламбаваныя урны, спынялі прахожых і прасілі грошай на зброю для войска.

«Калі хочаш, каб твая армія была зашпіленая на апошні гузік, не пашкадуй злот!» — крычаў надпіс на плакатах, якія паненкі наклеілі на сцены.

Дзіўна гучала самавыхваленне ваеннай клікі. Яна заяўляла, што польская армія разгроміць за адзін дзень і бальшавікоў і немцаў. Чым? Кавалерыя мела дапатопныя пікі. Баявых самалётаў было ўсяго 377, а знішчальнікі лёталі цішэй за нямецкія бамбардзіроўшчыкі, затое маршалак Рыдз Смігла хваліўся, што польскі салдат на муштраванні праходзіць за дзень з поўнай выкладкай 70 кіламетраў... Дзяржаўная казна ледзь ліпела. Вінаваўцам усяму была сістэма, якая гамавала развіццё вытворчых сіл. Панскі ўрад уяўляў сабой спалучэнне клікі ваенных пілсудчыкаў — ордэна палкоўнікаў — з наглай дыктатурай паліцыі і норавамі шляхты XVIII стагоддзя. Каб уратаваць становішча, патрэбны радыкальныя сродкі, а не збіранне грошай у прахожых. Але пры чым тут Данута?

Мне спадабалася, з якой верай і самаадданасцю яна звярталася да людзей:

— Грамадзянін, не пашкадуйце на кулямёт для войска!

— Пан ужо аддаў залатоўку на ўзбраенне?..

І кожны чалавек лез у кішэню.

Убачыўшы мяне, Данусся разгубілася. Яе сяброўка падышла з урнай:

— Ахвяруйце колькі можаце!

— Яніна, з гэтага пана не трэба!..— шапнула Данута як бы спалохана.

«Чаму не трэба? Бо ў мяне няма грошай? Адкуль ёй вядома? А калі так, чаго ты палохаешся мяне?!.

Выходзіць, я для цябе не такі, як усе?!.»

І я зноў узрадаваўся, як тады, калі сустрэў Данусю ў калідоры ліцэя.

## 3

Нарэшце ў нядзелю вечарам за могілкамі Роса выстраіліся вайсковыя часці. Асобна пастроіліся гімназісты і студэнты. Прываліліі дзесяткі тысяч вільнян. Прыйшоў туды і я.

Спачатку дэлегацыя моладзі мелася перадаць войску станкавыя куляметы, купленыя за сабраныя гімназістамі грошы. Я вачыма пашукаў генеральскую дачку.

У кампаніі гімназістак яна стаяла ля тачанак.

Добра быць высокім. Данусю цяпер бачыў я з любога месца. Паненка неасцярожна круцілася каля вайсковага каня. У мяне ўзнікла нават надзея, што конь узбунтуецца і тады надарыцца магчымасць зрабіць ёй паслугу,— я праціснуўся бліжэй. Бедны князь мусіў стаяць далёка адгэтуль у калоне!

Пачалася цырымонія.

Гімназісткі, нацягнуўшы на правае вуха берэты (для вайсковага выгляду), падышлі да камандзіра палка. Дануся стала рапартаваць. Вусаты палкоўнік выслухаў яе, дабрадушна ўсміхнуўся і паказаў рукой на салдат, якія меліся прыняць куляметы. Дануся запнулася, усім стала няёмка, а найбольш — мне.

Нарэшце яна ўзяла сябе ў рукі, падышла да кулямётчыка, паднялася на пальчыкі і... пацалавала яго! У доўгім, як спадніца, шынялі салдат збянтэжыўся, мабыць, пачырванеў і стаў зусім нехлямяжым. Людзі засмяяліся.

— Якая адважная гімназістачка! — праказала нейкая дама.

— А зграбная — бы артыстка! — дадала другая.

Мне было прыемна слухаць.

Да гімназістак падышлі элегантныя афіцэры і з вытанчанай ветлівасцю загаварылі. Асабліва танцавалі перад генеральскай дачкой.

Убачыў я і яе бацьку.

Калі сцямнела, наперад калоны салдат выехала некалькі коннікаў з генералам. На генерале і яго кані так бліщчалі сярэбраныя зігзагі, рамяні і металічныя часткі збруі, што конь з седаком аж пераліваліся ў электрычным святле. Данусю абкружылі сяброўкі, і ўсе разам яны глядзелі на маляўнічага конніка.

І тут прагучала каманда:

— Смір-на-а!

Запанавала цішыня. Пагасілі святло. Прагучала зноў:

— Па-чы-на-ай!

Трывожна загулі трубы. Дробна зачасцілі барабаны. Раптам яны змоўклі, і голас афіцэра ўрачыста выклікнуў:

— Паручнік першай роты трэцяй брыгады Доўбар-Мусніцкага легіёна — Станіслаў Ляшчынскі!

— Загінуў на полі славы! — у мёртвай цішы і густой цемры азваўся голас дзяжурнага.

— Чэсць яго памяці!

— Бум-м-м! — грымнулі гарматы, бліснуўшы, нібы маланкі ці зарніцы.

Зноў азваліся трубы і барабаны. І так некалькі разоў. Відовішча было сапраўды ўрачыстае.

Я пазіраў на салдат, падцягнутых афіцэраў, на іхнія мундзіры, зайздросціў ворагам і суцяшаў сябе: «Нічога, і мы будзем некалі такія. Нават яшчэ лепшыя!..»

Я сам сябе пачаў падбіваць да бунту.

Гады тры назад нас з сакратаром камсамольскай ячэйкі Сцяпанам Рамановічам выклікалі ў пастарунак [1]. Мяне, пятнаццацігадовага падлетка, паліцыянты крыху папалохалі і пусцілі. Адыходзячы з пастарунка, я на ўсё жыццё запамятаў такую карціну. За паліраваным масіўным сталом супроць каменданта сядзіць Сцяпан. Камендант, на якім усё блішчала: лак на рамянях, серабро на зігзагах і такой самай канфігурацыі боты з простымі заднікамі, як у афіцэраў на памінках,— паказвае Сцяпану жмут дроту, цынічна ўсміхаецца і, бытта яму ад гэтага надта радасна, весела кажа:

— Не прызнаешся — гэты дрот будзе ў тваім жываце!

Сцяпан маўчыць. Толькі рыпнула пад ім крэсла ды на краі стала, за які браўся пальцамі хлапец, засталіся потныя плямкі: у адным месцы чатыры і чатыры ў другім.

Праз некалькі дзён труп таварыша паліцыянты выдалі маці з прыпіскай урача: «Сцяпан Рамановіч, сын Мікалая. Пакончыў самагубствам: з'еў 48 сантыметраў дроту жалезнага: трохміліметровага...»

Перад вачыма паўстала няшчасная Сцяпанава маці. Гаротніца бегала па вёсцы і ў кожнага пыталася:

— Людзі, паслухайце, ці можа чалавек з'есці жалезны дрот, га? Гэтага ж ніколі не бывае!.. Ён жывы яшчэ, праўда?!

Бывала, у лесе спаборнічаем: хто з завязанымі вачыма, панюхаўшы, скажа, з якога дрэва дубец. Сцяпан ніколі не

[1] Пастарунак — паліцэйскі ўчастак.

памыляўся, нават калі выразаны дубец сухі. А то ўвойдзе ў лес і скажа:

— Тут нехта быў. Відаць, ляснік!

Пачынаем прыглядацца — ніякіх слядоў.

— Па чым ты пазнаеш, Сцяпан? — прыстаём.

— Птушкі не так сябе паводзяць, не чуеце хіба?

Сустракаем ягадніц, а тыя нам:

— Маеце шчасце! Бегаў тут ляснік і вас з каровамі шукаў!..

Такога чалавека загубілі, гады, эх!

Зрабілася балюча да слёз. У самы разгар варожага мне свята я завярнуўся і пайшоў з Росы.

Рэвальвер, пра які я ўжо ўспамінаў, дастаўся мне ў спадчыну пасля Сцяпана. Гэта быў стары, кранугы ржой сямізарадны наган, якім мы да роспуску Кампартыі [1] і камсамола палохалі штрэйкбрэхераў і здраднікаў.

На нашых палях тады валялася шмат вінтовачных патронаў — рускіх, польскіх і нямецкіх — з прыдатным порахам, калі яго высушыць. У мястэчку з-пад палы прадаваліся для паляўнічых пістоны — паўтара гроша за штуку. Пістоны былі крыху завялікія, але іх нажніцамі можна было абрэзаць. Куляй служылі тры шраціны, а каб яны тужэй праходзілі праз рулю, іх трэба было расплюшчыць.

Знайшоўшы ад лесніковага нагана гільзу, я, бывала, шылам вымаў з яе стары пістон, закладваў новы, насыпаў сухога пораху, зверху заганяў тры шраціны, і тады стрэл атрымліваўся моцны, нібы з гарматы.

З наганам я не разлучаўся. Ад'язджаючы ў Вільню, паклаў яго ў чамадан. Спачатку ўсюды насіў яго з сабой, а цяпер ён у мяне ляжаў на гары, акуратна загорнуты ў анучку.

Вярнуўшыся з Росы, я палез на гару і дастаў наган. Сціскаючы яго халодную ручку, азірнуўся, паслухаў. Унізе, як толькі ахопліваў позірк, мільгалі тысячы агнёў. Адтуль даляталі прыглушаныя гукі, шапаценне, нібы ўздыхалі тысячы людзей або кішэлі мурашкі ў агромістым мурашніку. А над чвэрцьмільённым горадам стаяла цемра асенняй ночы.

Раптам мяне страшэнна пацягнула выкінуць нейкі фокус. Захацелася патрывожыць гэтае магутнае і варожае

---

[1] У 1938 годзе Кампартыя Заходняй Беларусі рашэннем выканкома Камінтэрна была распушчана.

наваколле. Я падняў наган, узвёў яго і націснуў на спуск.

— Гах! — сіганула ў неба маланка.

— Гах! — паўтарыла стрэл суседняя гара.

— Гах-гах! — нібы коратка ўздыхаючы, пачалі перадаваць горы адна адной падвоеныя гукі.

Аглушаны, я не мог нічога пачуць, звінела ў вушах. Для мяне горад змоўк, нібы спалохаўся стрэлу, і стаіўся ад жаху. Агорнуты дзікай радасцю, я сунуў наган у кусты і паляцеў уніз.

4

Дома мяне чакаў Суткус.

Літовец быў сірата і дапамогі ніадкуль не атрымліваў. Удзень працаваў у рэстаране, вечарам наведваў курсы, а начаваў па чарзе ў сяброў. Спаў ужо і ў мяне. Гаспадыня мая без прапіскі браць чалавека нанач баялася, таму мінулы раз мы пачакалі, пакуль яна заснула, а раніцой Альбінас пайшоў, калі жанчына яшчэ спала.

Гэтаксама мы дамовіліся і на сёння.

— Ты чуў? — сустрэў мяне сябар пытаннем.

— Што?

— Глядзі сюды! — падаў ён газету.— У аддзеле літаратуры, бачыш? Вельняй грыбіету, ён яшчэ нічога не ведае!.. Пра вас тут, пра беларусаў!

Я разгарнуў газету. Там тлустымі літарамі было надрукавана:

*«На Беларусі вялікае ўзбуджэнне!*
*У беларускім садзе расквітнела агава, якая*
*квітнее адзін раз у сто год!*
*У беларусаў з'явіўся свой паэт —*
*Міхась Граніт!»*

І далей апісвалася, як паэта запрасіў да сябе на вечар ваявода — пан Бацянскі. Міхась Граніт усіх прысутных у ваяводы пакарыў сваімі творамі.

— Ага, бачылі яны нашых?! — пераможна ўзіраўся на мяне сябар.

Узрушаны не менш за Суткуса, я дастаў свае харчовыя запасы і пачаў частаваць госця.

— Калі Граніт будзе выступаць — сходзім!

— Абавязкова!

Я меў маленькі пакойчык без ложка. У кутку ляжаў скручаны сяннік. Раскладваючы яго, я заявіў:

— Гаспадыня ўжо спіць. Можам і мы на бакавую. Кладзіся, Альбінас!

Загасілі святло. Ляглі. Але не маглі заснуць. І не толькі таму, што сяды-тады хто-небудзь з нас скочваўся на падлогу: такой дробязі мы не заўважалі. Нас аж распірала радасная гордасць. Невядомы паэт умацаваў веру ў будучыню, узняў пачуццё ўласнай годнасці.

Калі Альбінас гасціў у мяне мінулы раз, ці я, ці ён, не памятаю, падаў ідэю — уцячы ў СССР. Мы адразу загарэліся: чаму б і не паспрабаваць? Многа ўцякала туды хлопцаў, дзяўчат, і пішуць нават адтуль!.. Цяпер ідэя пабляклa. Выяўляецца, можна і тут свайго дабіцца і даказаць?!.

Перад вачыма паўставала кватэра ваяводы, поўная віленскага панства, якое сабралася слухаць не каго-небудзь, а нашага паэта. Выпусцілі райскую птушку з клеткі!.. Мусілі выпусціць і цяпер глядзіце на яе і слухайце!.. А называецца як — Гра-ніт!.. Нам ужо здавалася, што не ён, а — мы выступаем перад панствам і сячом словамі ім у твар, прымушаем шанаваць нас!

Мы, беларусы, літоўцы, маленькія нацыі?! Данія яшчэ меншая, а з-за Андэрсена ведаюць яе нават дзеці! І Балгарыя маленькая, але вось з'явіўся Дзімітраў і адзін праславіў яе на цэлы свет! Тут не ў плошчы справа, не-е!..

— І Янкоўскі мусіў прыйсці паслухаць! — ускрыкнуў я, не заўважаючы нават, што думаю ўголас.

— То-та! Вымушаны, вельняй грыбіету, таксама вітаць нашага брата! Цікава, якія ў паноў былі ў тую хвіліну фізіяноміі? От бы паглядзець! — цешыўся Альбінас, бытта паэт быў літовец.

— О, ведай нашых! Табе, бачыш, вяльможнаму пану, перашкаджаюць нават бедныя галкі? Прысылаеш служанку і думаеш, што так і палезу скідаць табе гнёзды за пяцьдзесят грошаў? А дулю не бачыў? Лезь сам!

Я павярнуўся ад абурэння, і Суткус гупнуўся каленам і локцем на падлогу.

— Слон! Не штурхайся! О, р-ропужэ, як тут цвёрда!

Я спужаўся, што пачуе гаспадыня:

— Цс-с, давай спаць!

## 5

Не памятаю, ці гаварыў я вам пра сваіх суседзяў — Залкіндаў.

Спарахнелы домік прачкі нібы ўціснулі паміж двума

волатамі: домам генерала і мураванкай буйнога гандляра Залкінда.

Гандляр трымаў у Вільні багатую краму адзення і бялізны на вуліцы Міцкевіча. Памятаю, калі праходзіў я ля гэтага магазіна, то кожны раз мне было няёмка з-за бюстгальтараў, якімі бессаромны Залкінд расквяціў вітрыны. Праз вялізныя вокны вабілі мяне туды прыгожыя прадаўшчыцы.

— Дзень добры шаноўнаму пану! — як толькі пераступіў парог, віталася паненка-прыгажуня ў форменным халаціку, і я спыняўся, ачмурэлы ад яе ўвагі.

— Падаю да панскіх ножак!

— Я да панскіх паслуг! — сыпала яна.— Што шаноўны пан жадае? — шматзначна ўсміхалася яна, нібы штосьці абяцала.

Я ўжо дараваў выстаўленыя бюстгальтары і, здаецца, аддаў бы ўсё, абы толькі мець грошы і хоць што-небудзь купіць у гэтай красуні.

О, Залкінд гандляваць умеў.

Яшчэ ён ва ўсім стараўся не адставаць ад суседа Янкоўскага. Такой самай сеткай абгарадзіў свой панадворак. Перад домам нарабіў клумбаў. За домам развёў садок. Але ўсё гэта рабіў толькі з-за моды. Таму недагледжаныя яго яблыні адзічэлі і стаялі з непаабразанымі сухімі галінамі. Паміж пнёў раслі крапіва і дзікі маліннік, а кветкі на клумбах заглушыла пустазелле.

У Залкінда на панадворку часта гуляла дванаццацігадовая дачка, вучаніца прыватнай гімназіі [1].

У доме багача жыла і яго маці — сівая бабуля. Каб паказаць, што недарма есць сынаў хлеб, старая ствarала ўражанне, нібы клапоціцца пра ўнучку. Часта яна з'яўлялася на верандзе са шклянкай смятаны і галасіла:

— Бэцы-ы, кум а гэр! [2]

Было яшчэ горш, калі старой здавалася, што на дварэ холадна. Яна пачынала ганяцца за дзяўчынкай з шалікам ці жакецікам, тады хоць затыкай вушы.

Капрызная і разбэшчаная была Бэта. Калісьці я назіраў, як яна тупатала нагамі, крычала на служанку, калі тая разліла на спадак ■ кубка какаву!

І вось аднойчы віленскія эндэкі арганізавалі свой чар-

---

[1] У буржуазнай Польшчы дзеці нават багатых яўрэяў амаль не прымаліся ў дзяржаўныя гімназіі і ліцэі.

[2] — Бэцы-ы, хадзі сюды! *(яўр.)*

говы «дзень без яўрэяў». Пікеты маладых хуліганаў, узброеныя кіямі, блакіравалі з раніцы яўрэйскія крамы, прыватныя дамы, нават цэлыя вуліцы. На сценах павыводзілі тлустымі літарамі: «Не купляй у жыда!», «Не наймай кватэры ў жыда!», «Не сядзі за адной партай з жыдамі!..»

У гэты дзень, як звычайна, Бэта Залкінд ішла ў гімназію. Эндэкі яе не прапускалі, а гімназістка з дзіцячай упартасцю настойліва стаяла на сваім. Спяшаючыся ў ліцэй, Дануся надышла на пікет якраз у той момант, калі мярзотнікі білі яе маленькую суседку. Дануся адважна кінулася на хуліганаў, вырвала ў іх акрываўленую дзяўчынку, завяла да сябе дамоў і выклікала доктара.

Гэта справа нарабіла многа шуму. У той самы дзень выйшлі экстраныя газеты, у якіх усё падавалася са смакаваннем, з неверагоднымі падрабязнасцямі.

Назаўтра газеты ўспомнілі аднаго камандзіра з часоў паўстання Касцюшкі — яўрэя Бэрку Ёселевіча. Прыводзіліся іншыя прыклады з гісторыі, калі яўрэі гінулі разам з палякамі ў змаганні за незалежнасць Польшчы. У сейме дэпутаты ўзнялі пытанне аб барацьбе з антысемітызмам.

Пару дзён пра Данусю пісалі газеты. Ёй дакучалі карэспандэнты, і таму яна не выходзіла нават з дому.

Тузаючыся з эндэкамі, паненка пабіла калена. Гэтую драпіну газеты размалявалі як небяспечную рану і падлічылі, колькі літраў крыві страціла адважная полька, абараняючы яўрэйскую дзяўчынку. Кожны дзень публікавалі бюлетэнь аб стане здароўя гераінь. Нават паведамлялі, колькі Дануся і Бэта за мінулыя суткі з'елі апельсінаў, якія чыталі кніжкі, па колькі гадзін спалі.

Дануся яшчэ больш вырасла ў маіх вачах. Я адразу забыўся на тое, што вырашыў на памінках легіянераў. Нават выразаў з газеты яе фатаграфію, купіў цэлулоідныя вокладачкі і пачаў насіць партрэт паненкі ды ўпотай любавацца на яго.

## 6

Паступова шуміха вакол Залкіндавай дачкі ўляглася. Дэлегацыі яўрэяў з падарункамі перасталі наведваць генералаў дом. Гераіні пайшлі ў школу. Знялі і патруль паліцыі, які цэлы тыдзень вартаваў нашу вуліцу, бо ўлады баяліся, што эндэкі захочуць помсціць за арыштаваных.

Я пільна сачыў за суседзямі.

Некалькі дзён запар стаяла цудоўнае надвор'е. У празрыстым паветры запахла выкапанай бульбай, апалым

лісцем. Лунала мноства нітачак бабінага лета, яны чапляліся за галінкі і плот. На Залкіндавым панадворку панавала запусценне, а за сеткай у генерала агароднік зграбаў сухое лісце, зрываў з клумбаў і паліў бадылі, пакрываў матамі паўднёвыя расліны. З некалі пышных крон вытыркаліся дубцы з купінамі галчыных гнёздаў; іх было сапраўды многа! Панадворак зрабіўся прасторны. Парыжэў дзікі вінаград. З-за кустоў за домам паказаліся яблыні і прывязаныя да ствалоў забытыя гамакі. Каторы з іх Данусін?..

Сочачы са свайго ганка за суседнім домам, я сабе ўяўляў, як у ім утульна і прыгожа. Мяне паланіла таямнічасць генеральскай сям'і. Захацелася пранікнуць у гэты казачны замак, разгледзець яго зблізку, дыхнуць яго паветрам. І я пачаў прыдумваць спосаб, як здзейсніць сваё жаданне.

## Раздзел чацвёрты

### 1

Аднаго разу, калі я так вартаваў на ганку, з бакавых дзвярэй генералавага дома служанка вынесла табурэтку, кошык з бялізнай і балейку.

Гэта была тая самая кабеціна. Рухалася яна павольна, рабіла ўсё старанна. Відаць, і служыла аддана, як могуць служыць толькі працавітыя, сумленныя і адзінокія жанчыны, якія прыжыліся ў чужой сям'і.

Кабета ўставіла дошку з гафрыраванай бляхі ў балейку і пачала шоргаць па ёй бялізнай. А бялізна парыпвала, нібы ў руках жанчыны была мокрая гума.

Такую дошку я ўпершыню ўбачыў тут, у Вільні, у маёй гаспадыні. Успомніў сваю маці, падумаў, якая была б палёгка і для яе натруджаных рук, калі б яна мела такую прыладзіну. Трапілася прычына загаварыць з кабетай, служанкі — народ гаваркі.

Нядоўга думаючы, забраўся я зноў у бэз. Да балеі — крокаў з дзесяць. На жаль, бялізну цяпер мыла ўжо другая служанка — асоба з тупым і прышчавым тварам.

Расчараваны, я павярнуў назад.

Раптам з кухні выйшла з белай хусцінкай у руках генеральша. Цяпер у мяне была магчымасць яе разгледзець зблізку. Першае, што мяне ўразіла ў ёй — над верхняй

губой чорныя валасінкі, ад чаго пані здавалася вусатай. Упэўнены выгляд яе гаварыў, што генеральша навакольнае лічыць створаным толькі для сябе.

— Эрмітэй, гэта ты сапсавала мне гарнітур? — нezдаволена паказала яна хусцінку.

Перапалоханая служанка пачырванела і пачала пальцам адной рукі здымаць мыльную пену з другой, вінавата ўтаропіўшыся ў балейку.

— Ты прасавала яе? — са злосцю ўжо паўтарыла дама.

— Агы...

— «Агы»! — з агіднасцю перадражніла генеральша.— Так я і ведала, што гэта работа майго Эрмітэя! Божа, колькі разоў табе гаварыць — без майго дазволу нічога не чапаць!

Дама кінула хусцінку ў кошык з бруднай бялізнай і завярнула дамоў.

На ўроках лацінскай мовы мы праходзілі грэчаскую міфалогію. І я ўспомніў: Праметэй — чалавек, які імкнецца ўперад, а Эрмітэй — назад.

— Прашу, пані,— пралепятала служанка,— вы мяне не называйце так. Завіце проста Фросяй. А то Эмры... Армі... Я і не выгавару так!

На твары генеральшы не крануўся ніводзін мускул.

— Рабі, што загадана! — кінула дама і знікла.

Слушна яе называлі ля рэчкі мегерай. Беднай дзеўцы тут горш, чым у турме.

Чужым і варожым дыхнула на мяне з гэтага дома. Ну і што з таго, што Дануся ратавала яўрэйскую дзяўчынку? Усё роўна яна з сям'і міраедаў!..

Але, як заўсёды, запалу ад такога разважання мне хапіла ненадоўга.

2

Па нашай вуліцы пранеслі на могілкі нябожчыка. За жалобнай працэсіяй пабеглі дзеці прачкі: пяцігадовы Юра і старэйшая Валя.

Вярнуўшыся на свой панадворак, яны вельмі ж хацелі падзяліцца ўражаннямі. Дзеці падышлі да ганка, дзе я сядзеў, і пачалі нясмела таптацца.

— Дзядзя-а,— загаварыў хлопчык.— А от там неслі нежывую цёцю ў сіняй сукенцы і так яе ў сукенцы і закапалі!..

— Ну і што? — буркнуў я, нездаволены, што перарвалі мае назіранні.

— Нічога, я проста так...— адказаў малы і пачаў біць аб сцяну познюю антонаўку.

Толькі нядаўна я разабраўся, што прачка мая была застарая, каб мець такіх дзяцей. Яна гадавала малых памерлай дачкі. Гэтыя сіроты — заўсёды замурзаныя — усюды лезлі, крычалі, біліся, цягалі ў мяне алоўкі, часопісы, і таму я ад сябе іх праганяў. Але цяпер спахапіўся: ад іх шмат чаго можна даведацца пра жыхароў генеральскага дома.

— Слухай, Юрык, яблыкі ў цябе генералавы?

Малы заматляў галавой:

— Да яго не залезеш у сад. Гэта — Залкіндзіны. Там іх бяры колькі хочаш...

— Дзядзя-а, а Юрка есць яблык, толькі калі паб'е. І пра такое кажа — не пабітае, а замучанае! — ні то паскардзілася, ні то пахвалілася сястра.

— Ну і што? Вядома, замучанае, гэ! — непарушна адказаў малы, высмоктваючы сок.

— А вы ў генерала калі-небудзь былі? — вярнуў я іх зноў да тэмы, якая мяне цікавіла.

— На ёлку хадзілі туды зімой! — адказала дзяўчынка.

— На ёлку? — узрадаваўся я.

— Угу.

— І шмат дзяцей было на той ёлцы?

— Шма-ат!

— З цэлай ву-уліцы!

— Во такі-і дала нам пані Вацлава пірог! — Хлопчык апісаў у паветры кола.

— Аж такі вялікі?

— А-га...

— А яшчэ ў іх ёсць кот Мурэк!

— Кот?

— Ну! Белы.

— Белы? — Я раптам пазайздросціў дзецям.

— Белы.

— Яго цёця Антося кожны тыдзень купае і прычэсвае грэбенем! — паясніла дзяўчынка.

— Купа-ае?

— А-га! А наша мамка кажа: «От бы нашаму Юрэку такое жыццё, нічога больш не хацела б: і малако жлокча колькі хоча, і мяса кожны дзень жарэ!..»

Хлопчык толькі шмыгнуў носам.

Больш дзеці нічога не сказалі. Добра і гэта. Во колькі я даведаўся. Цяпер — дзейнічаць!

## 3

Пайшоў я ў бліжэйшую краму і завёў размову з яе гаспадаром — старым яўрэем. Каб толькі ён хацеў, то мог бы шмат расказаць мне пра парадкі ў доме, якім я цікавіўся.

У краме я стаў наўмысна нагаворваць гандляру на генерала, каб выклікаць старога на шчырую размову. Аднак стары глянуў на мяне вачыма, бытта ўвабраўшымі ўсю зямную мудрасць, і дыпламатычна абсек:

— Мы малыя людзі, бедныя гандляры, пане шаноўны! Хто нам плаціць, таму і прадаём. Усім. Генералу, жабраку, антысеміту — абы даваў грошы. Зрэшты, якія там грошы і якая плата — слёзы адны! Падаткі плаці, штрафы розныя плаці! Уй, а гэтыя эндэкі, каб на іх халера, кожны тыдзень яшчэ шыбы б'юць, не наўстаўляешся...

Пайшоў я з крамы ні з чым.

— А што, мусіць, у генерала электрычнасць не псуецца? — асцярожна павёў я гутарку з манцёрам, які ў нашым доме папраўляў праводку.

— Усюды яна псуецца. І ў простых людзей, і ў генералаў... Во, нават учора ў архірэя сапсавалася! — буркнуў неахвотна той.— Пазванілі з кансісторыі — мусіў ісці...

Я стаў яму прыслужваць. Спытаўся аб прафесіі, пра жонку, дзяцей... Сам не спадзяваўся, што магу быць такім падхалімам!

Потым я напусціў на сябе абыякавасць, прыкінуўся прастачком і асцярожна пацікавіўся:

— Мабыць, калі заходзіш да генерала, от там усяго цікавага! А генерал сустракае цябе ў дзвярах строгі, надзьмуты, як Пілсудскі, з крыжамі на грудзях...

Стаіўшы дыханне, стаў чакаць адказу.

Манцёр перастаў прыбіваць ізалятары, апусціў руку з малатком. Чалавек, не спяшаючыся, памахаў ёю, каб адышла, выняў з рота цвікі, уздыхнуў і прызнаўся:

— А я ні разу яго не бачыў!

— Не ба-ачылі?

— Чаго дзівішся? Нашага брата сустракаюць там слугі або ад'ютант, бо мы заходзім з парадных дзвярэй. Усіх, хто заходзіць з парадных, сустракаюць слугі...

Бытта ведаючы, чаго мне трэба, чалавек параіў:

— Каб пабачыць самога генерала або генеральшу, трэба зайсці да іх з чорнага ходу, ад кухні. Там хутчэй іх спаткаеш...

Манцёр хацеў сказаць яшчэ нешта, але раздумаў, махнуў рукой, маўляў — ну іх да д'ябла, няма часу! Узяў цвікі ў рот, загадаў вачыма мацней трымаць мне лесвіцу і зноў пачаў прыбіваць да сцяны ізалятары.

Я быў бязмежна ўдзячны гэтаму чалавеку за інфармацыю.

Пры маёй пасадзе пасыльнага ліцэя і вячэрніх курсаў знайсці прычыну, каб заглянуць да каго дадому, было вельмі проста. Дастаткова прыкінуцца, што маеш выпісаны на гэты дом пакет або пісьмо. А пакуль усё высветліцца і табе будуць даводзіць памылку, ты добра разгледзіш усё, што захочаш.

А яшчэ можна пастукаць у дзверы, калі адчыняць, зайсці і спытацца, ці не жыве там чалавек з выдуманым табой прозвішчам. Галоўнае — прыдумай добры варыянт, як па нотах разыграй задуманае, і ніхто нічога не западозрыць.

Але мне было тады якраз столькі год, калі жаданні і мары крочаць не ў нагу з розумам, а ён часта не мае ўплыву на свавольную і дзёрзкую смеласць. Я выбраў варыянт найгоршы.

Каб хоць крыху паварушыў мазгамі, мог бы адразу прадбачыць, што з гэтага атрымаецца. Для мяне ўсё жыццё канчалася на момание, як я заходзіў у Данусін дом.

## 4

З сэрцам у пятках падышоў я да генеральскай брамкі — з жалезных прэнтаў і з меднай клямкай. Узяўся за ручку. Брамка падалася нечакана лёгка і ціха. Я замёр і завагаўся. Але адступаць не стаў. Не чуючы ног, сам не свой, падаўся наперад.

Выкладзеная з бетонных плітак сцежка вяла да парадных дзвярэй — вялікіх і масіўных, як у касцёле. Я сышоў са сцежкі і накіраваўся да чорнага ходу.

Ужо даходзіў да гранітных прыступак з жалезнымі парэнчамі, як аднекуль з'явіўся здаравенны сабака, і я з жахам убачыў каля сябе ашчэраныя зубы і наярошаны хрыбет.

— Гыр-р-р! — зарычаў ён паціху, нервова падрыгваючы губамі, бытта казаў: «Ага, галубок, папаўся? Мне цябе адно і трэба!..»

Ад нечаканасці і страху ў фантастычным скоку пера-

ляцеў я прыступкі, ударыў плячом у дзверы і апынуўся на генеральскай кухні.

Там над тазам з вадой стаяла Дануся.

Яна была амаль голая — адно ў чорнай спадніцы. Я незнарок уткнуўся позіркам у невялікія белыя грудзі з цёмнымі саскамі, якія смешна тырчалі ўверх.

— О-ей! — віскнула Данута, ні то здзівіўшыся, ні то спалохаўшыся, і далонямі прыкрыла свой сорам.

Ачмурэлы, я стаяў і ва ўсе вочы ўзіраўся на паненку. Убачыў нават сінія жылкі ля ключыцы.

Гм, гэта тая самая гераіня, пра якую захлёбваліся газеты? Генералава дачка, да якой я так імкнуўся і ледзь не звярнуў сабе галавы, выглядаючы?

— На, дзіцятка, апраніся! — Знаёмая мне служанка падала ёй вопратку.

— Я ад сабакі ўцякаў...— пачуў я свой жаласлівы голас.

Па тварах жанчын я ўбачыў — яны і самі здагадваюцца, чаму я так уляцеў як угарэлы, і за гэта не злуюцца, а спяшаюцца прывесці сябе ў парадак для сустрэчы госця, гэта значыць мяне.

Дануся адвярнулася, выставіўшы мне смуглую гнуткую спіну ды завязаны на патыліцы вузел бліскучых ад вады валасоў, спрытна захінулася ў халат. Паненка ведала, якая яна прыгожая, любавалася сабой і дазваляла гэта рабіць другім.

— Тут жывуць Янкоўскія? — нарэшце выдавіў я з сябе і спалохаўся.

— Тут,— разглядала яна ўжо мяне з дзіцячай цікавасцю.

— Хто там, цётка Антося? — данёсся з глыбіні пакояў строгі голас.

— Не ведаю, пані Вацлава. Нейкі чалавек! — паслухмяна адказала Антося, пагасіўшы мацярынскую ўсмешку, з якой глядзела на нас.

Два месяцы жывём побач, прыходзіла да прачкі нанімаць скідваць гнёзды, я ўжо збіраўся з ёю вітацца на вуліцы, а гаворыць пра мяне, нібы першы раз убачыла!

— Супакойся, мамуся! Гэта наш пасыльны з ліцэя! — пракрычала Данута.

І ў стракатым кімано з японскага шоўку яна бытта пахвалілася: вось якая я багіня! Ведаю, ты зайшоў па справе, але няўжо не палюбуешся?!.

— У чым справа? — з'явілася ў дзвярах насцярожаная генеральша.

Сумленне маё было нячыстае. Пад яе дапытлівым позіркам я адчуў, што раблюся меншым і меншым.

— Вам пісьмо з ліцэя,— пачырванеў я: хлусіць быў не мастак.

— Мне-е? — здзівілася дама і падазрона глянула на дачку.

Паненка спакойна вытрымала позірк.

Пакуль генеральша адкрывала канверт, я разглядаў кухню, выкладзеныя белай пліткай сцены, каструлі рознага калібру, посуд, нейкія спружынкі на кіёчках, бляшаныя выкрутасы — усё бліскучае і выстаўленае нібы на паказ.

— Што яны пішуць? — узлавалася дама, кінуўшы вокам на паперу.

— Ведаюць што...

— Хіба ў вас там павар'яцелі? — выбухнула яна.— Гэта мы не заплацілі за вучобу?

— Мусіць, не, калі пасылаюць такое пісьмо...— упарта заўважыў я найдурнейшае з таго, што толькі можна было ў тую хвіліну сказаць.

І ўмомант паверыў сам у тое, што сказаў, ды адчуў сябе дырэктарам ліцэя:

— Трэба аддаваць грошы ў час. А то не плоціце, а потым шукаеце вінаватых ды абражаецеся яшчэ, калі вам напамінаюць! Ведаем такіх!

Дануся пырснула.

— Што за нахабства! — Генеральша пагардліва абвяла мяне вачыма з ног да галавы, фыхнула і пайшла з кухні.

— Ліцэй! Ліцэй! Прашу неадкладна даць ліцэй! — пачулася, як генеральша крычыць у тэлефон.

Мяне апанаваў страх: а калі зараз выкрыюць ашуканства? Трэба было ўцякаць, а я нібы прырос да падлогі. Стаяў ды яшчэ дурнавата ўсміхаўся.

Абняўшыся, задраўшы галовы, Дануся з Антосяй чакалі. Мой візіт зацягнуўся, і ў вачах жанчын я ўбачыў нездаволенасць. Аднак я не кратаўся з месца, толькі пераступіў з нагі на нагу. Дануся глядзела прыжмуранымі вачыма, упарта, з усмешкай і выклікам. Я, дурань, у дзявочых хітрыках тады не разбіраўся і думаў, што паненка здзекуецца. У мяне было нават такое пачуццё, бытта стаю перад жанчынамі голы.

— Чулі, у зале Снядэцкіх наш паэт сёння выступае?— з жахам і нібы праз сон пачуў я зноў свой голас.

— Хто-о? — спыталася Данута з паблажлівым здзіўленнем.

— Той самы... Міхась Граніт...

Яна хвіліну намагалася нешта ўспомніць. Тады ў вачах яе з'явіліся недаўменне, спалох, і я выразна ў іх прачытаў: «Ага, ты ненармальны вар'ят!..»

Але спыніцца я ўжо не мог аніяк і канфузіўся яшчэ больш.

— То за чалавека яго не прымалі, то цяпер — нарасхват...

— Та-ак?..— працягнула Дануся.

— Выступае,— выдавіў з сябе, адчуваючы ўсю бессэнсоўнасць сваіх слоў.— У зале Снядэцкіх. Ва універсітэце зала так называецца. Пойдзеце?..

— Яе нікуды не пускаюць!..— умяшалася Антося.

У суседнім пакоі злавалася генеральша:

— Дзяжурны, капрал, колькі маю чакаць? Я вас прасіла падключыць мне ліцэй!

Не, больш такіх пакут вытрываць я не мог.

— Бывайце здаровы! — з палёгкай уздыхаючы, бы той карцёжнік, які пайшоў з карты, якая давяла яго да краху, і цяпер ужо не мае чаго траціць.

— З богам! — сказала Антося.

— О-ей, што гэта? — здзівілася Данута.

— Работа Гектара! — падказала жанчына.

Я азірнуўся.

Божа мілы! У мяне так была распаласавана калашына, што віднелася лытка. З чаравіка брыдка вытыркалася шэрая ануча.

— Халера! — спыніўся я заклапочаны.

Штаны ў мяне былі адны.

— Трэба зашыць, як ён пойдзе так? — добразычліва вырашыла цётка Антося.— Данка, прынясі чорных нітак з камоды, счаплю кавалеру!

— Зараз! — паненка ахвотна і, як мне здалося, вельмі добразычліва кінулася ў пакой.

— Што вы, я тут побач жыву! — пракрычаў я ёй услед.

Але паненка не вярнулася.

Мне зрабілася горача.

— Выпусціце мяне, калі ласка, там сабака! — узма-

ліўся я, яшчэ не могучы паверыць, што ўсё гэта здарылася наяве, што пацярпеў такі правал.

— Хадзем! — зжалілася цётка.

Я ўжо даўно быў не рады, што пачаў авантуру. Крочыў за служанкай прыніжаны, пакрыўджаны, нібы ў генералавым доме на мяне наплявалі.

«І куды ты лезеш? Каторы раз атрымліваеш па носе, навошта табе гэтыя фокусы?» — гаварыў ва мне нехта разважлівы.

Але зараз жа мяне апанавала злосць.

«Ну, пачакай жа ты, буржуйка!..» — сціснуў я кулакі.

## 5

Па тагачаснаму звычаю, калі салдаты неслі палкавы сцяг, мужчыны павінны былі здымаць галаўныя ўборы. Але я ніколі не здымаў. А каб не трапіць у каталажку, вайсковыя часці абмінаў здалёк або прапускаў іх, схаваўшыся ў краму ці за вароты.

І трэба ж было так здарыцца, каб, выходзячы з генеральскага дома, я наткнуўся на салдат. Наперадзе калоны неслі палкавы сцяг. На чале — афіцэр з шаблямі, вынятымі з ножнаў і прыстаўленымі да пляча. Мужчыны на тратуарах паздымалі капелюшы і кепкі. Уцячы куды-небудзь? Дудкі! Хавацца на гэты раз не буду, няхай валакуць на пастарунак.

На мяне ўжо шыкаў нейкі тып з капелюшом у руках, а я ўпарта крочыў наперад.

— Ой, пане, здыміце шапку! — папярэдзілі ўстрывожаныя жанчыны. Я — хоць бы што. Калона набліжалася.

— Здэйм чапкэ, галгане! — выскачыў да мяне з калоны маладзенькі паручнік. У яго руках бліснула шабля.

Раззлаваны афіцэр не жартаваў; але на мяне ўжо глядзелі ўсе: прысутнасць людзей акрыляла, і цяпер я, вядома, зняць шапкі аніяк не мог. Інстынкт самаабароны падказаў словы:

— А мне трэба туды...

— Хі-хі-хі-хі! — засмяяліся ў натоўпе.

— Я пасыльны з ліцэя, пусціце, мушу пакет тэрмінова занесці Маліноўскім!..— паўтарыў я з нейкай дзіцячай упартасцю і ажно сам паверыў, што сапраўды трэба ісці туды, а мяне вось не пускаюць.

Афіцэр палічыў мяне за прыдурка.

— Ідыёт! — паручнік з усяе моцы ўдарыў мяне тыльнём шаблі па плячы і збіў шапку.

Не паднімаючы яе з тратуара, я падаўся далей. Было няёмка, што прыкідваюся дурнем. Ад злосці захацелася плакаць. Як адпомсціць за здзек? І на памяць мне прыйшоў сабор Свята Духа.

Мітрапаліт варшаўскі Дзіяніс, выслугоўваючыся перад панскім урадам, загадаў папам чытаць пропаведзі і пець малітвы ў царквах па-польску. Праваслаўная Вільня заварушылася. Сёння раніцой да маёй гаспадыні прыходзілі багамолкі. Цёткі вандравалі па хатах і падбівалі людзей, каб перашкодзіць папам выканаць ганебны загад мітрапаліта. Убачыўшы ў мяне на сцяне партрэт Дастаеўскага, старыя падумалі, што гэта ікона, і памаліліся на Фёдара Міхайлавіча, толькі таму я і звярнуў на іх увагу. Цяпер жа ў іхнім пратэсце я ўбачыў тое, чаго якраз патрабавала мая душа. Я накіраваўся ў сабор на вячэрню.

А там ужо пахла бурай. Звычайна пустую залу бітком напоўніў народ. Людзі з пагрозай шушукаліся, нервова чакалі малебства. Ля алтара няўпэўнена тоўпіліся маладзенькія попікі.

Нарэшце з-за райскіх варот выйшаў у бліскучай рызе барадаты стары бацюшка, пераражагнаў людзей сярэбраным крыжам і з вінаватай усмешкай зацягнуў нешта па-польску. Людзі анямелі, чакаючы божага гневу. Потым загулі зноў. Аднак не пераходзілі пэўных граніц — для выбуху патрэбна была іскра. Я адчуў наэлектрызаванасць залы, набраўся адвагі і крыкнуў на ўвесь сабор:

— Па-руску гавары!

Стары поп разгублена змоўк. У саборы на момант запанавала цішыня, і з вуліцы даляцеў грукат фурманкі.

Я крыху спалохаўся свайго ўчынку, але ўбачыў, што маладзенькія попікі з сімпатыяй падміргваюць мне, маўляў, малайчына, і мы за гэта, нас толькі прымушаюць. Цяпер я гукнуў ужо больш упэўнена:

— Гавары па-руску!

У зале нібы прарвалася нешта. Людзі пачалі наступаць на папа, крычаць, махаць рукамі.

— Па-рус-ку! Па-рус-ку! — праскандавалі гімназісты.

Натоўп злавіў такт, і сабор увесь аж загрымеў. Папу гаварыць не далі.

Выйшаў я з сабора пераможцам. Але і гэтага было яшчэ мала.

Вечар беларускай літаратуры ў той дзень меўся адбыцца ва універсітэце ў зале Снядэцкіх. Гаварылі, што там будзе выступаць Граніт. У любы час я быў гатовы прыкласці рукі да ўсяго, што накіравана супроць ненавіснай улады, а тут надарыўся гэткі выпадак пад настрой! На курсы, канечне, тады я не пайшоў.

Ля універсітэта ўжо малойчыкі нікога не прапускалі. З усяго горада сюды збягаліся студэнты і гімназісты, каб паглядзець на бясплатнае відовішча: усім было ясна, што скандалу не мінаваць. Сярод зявак тырчаў і Браніслаў.

На тэрыторыю універсітэта паліцыя не мела доступу, і эндэкі маглі сарваць вечар.

Энергічны студэнт, відаць, з тых, каторыя арганізавалі сустрэчу, пракрычаў да нас:

— Хлопцы, хто не баіцца, што фашысты наб'юць морду, збірайцеся ў калону!

Вядома, сярод добраахвотнікаў апынуўся і я.

— Таварышы! — камандаваў ужо другі студэнт, якога называлі Яцкевічам.— Самі бачыце, трэба найсамперш разагнаць мамчыных сынкоў. Яны могуць сарваць сустрэчу з паэтам. Хадзем і дадзім ім як трэба!

— Пішлы! — закрычаў Яцкевічаў сябра — украінец Шыманскі.

— Вядзі нас! — падхапілі іншыя.

— О-го, які прыткі! — стрымлівалі асцярожныя.— Можа праліцца кроў!

Яны толькі моладзь падзадорылі:

— Ідэі спеюць і ажыццяўляюцца лепш, калі іх замацаваць яшчэ і крывёю!

— «И где, скажи, когда была без жертв искуплена свобода?»

— Нас менш...

— Затое ў нас рукі мацнейшыя!

— Хлопцы, да справы!

— У атаку!

— No passaran! [1]

— No passaran! — наэлектрызаваная моладзь дружна падхапіла лозунг іспанскіх барацьбітоў.

Нашыя душы і целы даўно прагнулі абрушыць лютасць на ворага. Пастроіўшыся клінам, мы рынуліся на

[1] — Яны не пройдуць! *(іспанск.)*

«залатую» моладзь, раскалолі яе, прыціснулі да муроў ды пачалі малаціць.

Я выбіраў сабе дастойнага партнёра, але гімназісцікі ад мяне разляталіся, як ад страшыдла. І тут я наткнуўся на Бранiслава.

Князь ужо не стаяў нейтральна. Група малойчыкаў калаціла кіямі нейкае хлапчанё ў вышытай кашулі, а вечны студэнт выкрыкваў:

— Так ему! Та-ак! Ешчэ! Бардзо добжэ!

— Уцякай, бамбіза ідзе! — віскнуў нейкі эндэк, і кампанію бытта здзьмухнула ветрам.

Аднак я паспеў хапіць за каўнер князя і з незвычайным задавальненнем саўгануў яму кулаком знізу пад нос, а потым абмяклае цела бразнуў на брук.

Успомніліся сённяшні паход да генерала і пражытая абраза. Успомнілася шабля паручніка. І ад таго, што добра ўляпіў Браніславу, мне зрабілася адразу лягчэй.

— Каму яшчэ, ну?! — закрычаў не я, а ўся мая душа.

Перада мной узнік маленькі ўвішны гімназісцік. Гэта быў мне не праціўнік. Яго проста можна збіць каленам. Я пачаў шукаць мацнейшага.

Пакуль я разглядаўся, малы нечакана падскочыў, пырнуў двума пальцамі мне ў вочы, асляпіў, а тады ўдарыў у пераноссе. Пацямнела ў вачах, і я ўпаў. Я ўжо і не бачыў, як узбуджаныя радасцю перамогі хлопцы пранеслі на плячах праз пляцоўку да універсітэцкіх дзвярэй (якія яшчэ, магчыма, памяталі Францыска Скарыну!) паэта.

...Калі я падняўся, выкладзеная гранітнай брусчаткай старажытная пляцоўка была пустая. Блішчэла святло на брусочках граніту, адшліфаваных на глянц ботамі многіх студэнцкіх пакаленняў, а нейкая студэнтка літасціва прыкладвала мне да носа мокрую хустачку.

— Нічога,— суцяшала яна мяне, як малога,— гэта хутка праходзіць! Вас толькі аглушылі, пацярпіце!..

Падышоў вядомы ўжо мне ўкраінец, прыглядзеўся і кінуў:

— Доцянецца сам додому, а мы підэм вартаваць ізноў!

Студэнт знік.

— Ну ж вы іх малаці-ілі!..— казала дзяўчына далей.— А Любецкага як размалявалі — «хуткая дапамога» забрала яго!.. Вам трэба будзе паляжаць крыху дома...

— Ладна, хопіць! Лепш на сябе паглядзі! — адпіхнуў я дзяўчыну, устаючы.

Я зазлаваў. Зазлаваў на сябе, на гэтую студэнтку, на цэлы свет.

— Куды пан? Пачакай! — спалохана і з перасцярогай прашаптала дзяўчына.

Я азірнуўся. Студэнтка нязграбна трымала мой рэвальвер. Ёнываліўся з кішэні на брук.

Ёлуп! Забыўся нават, што ў мяне было. Толькі б стрэліць адзін раз угору, і ўсю банду гэтых сысункоў як ветрам здзьмула б! Ды я — нібы той асёл, які ведаў сем спосабаў плавання, а ўпаўшы ў ваду, забыўся пра ўсе!..

— Схавайце! — падала мне дзяўчына наган.— А Граніт выступае!..

Ёй вельмі хацелася пагаварыць, але я з маўклівай і вінаватай удзячнасцю ўзяў праклятый наган ды пакрочыў.

7

Прачнуўся я рана, глянуў у люстэрка і спалохаўся. Пераноссе распухла і пасінела, а пад вачыма — страшэнныя фіялетавыя «ліхтары».

Стараючыся не трапляць людзям на вочы, я прабраўся да бліжэйшага аўтамата і пазваніў у ліцэй, што захварэў.

— Прашу неадкладна з'явіцца сюды! — грозна і непрыязна заявіў мне сакратар.

Нешта здарылася. Дагэтуль чыноўнік са мной абыходзіўся па-людску. Магчыма, квітанцыі на заказныя пісьмы мне ўчора няправільна выпісалі на пошце?.. Ды не магу ж я паказацца ў такім выглядзе!

— Пане Кунцэвіч, ледзь на нагах стаю!

— Не прыйдзеш, пазваню ў паліцыю! — паабяцаў голас на другім канцы провада.

Завулкамі, хаваючы твар, я прабраўся ў ліцэй.

— Што гэта такое? — адвёўшы вочы ўбок, наліваўся злосцю сакратар.

Чыноўнік трымаў у руках злашчасную паперку, якую я занёс генеральшы. Толькі цяпер я зразумеў бязглуздасць сваёй выдумкі. Пагарэў безнадзейна!

Мне зрабілася млосна.

— Што гэта значыць, я цябе пытаю? — распальваючыся ад сваіх слоў, пракрычаў сакратар, упершыню мяне называючы на «ты».

Убачыўшы мае «ліхтары», ён сумеўся.

У канцылярыю зазірнуў настаўнік фізікі. На курсах

ён мне сімпатызаваў і часта нават завышаў бал, калі я слаба ведаў урок. Гэта ён мне даў білет на канцэрт піяніста. Яшчэ мы збіраліся пайсці ў астранамічную абсерваторыю і праз тэлескоп паглядзець на зоркі і месяц.

— О-го, кавалер правініўся! — прамовіў ён са спачуваннем.

— Палюбуйцеся, пане Кастальскі, гэты...— тут сакратар, не падабраўшы слова, акінуў мяне зняважлівым позіркам.— Самавольна ўзяў чысты бланк, выпісаў генералу Янкоўскаму напамінак аб няўплаце за вучобу яго дачкі і занёс на кватэру. Генеральша зрабіла нам такую гэцу, што хоць уцякай са школы! Як вы расцэньваеце гэта, пане прафесар?

— Магчыма, кавалер памыліўся. Бывае і так...— пачаў бараніць мяне Кастальскі. Але раптам убачыў сінякі, адразу змоўк, адышоў ад мяне як мага далей і залепятаў:

— А ён заплаціў?

— Хто?

— Генерал!

Сакратар прамаўчаў. Толькі яшчэ раз змераў мяне позіркам, пастукаў сябе па лбе і пацісвуў плячыма.

Фізік паціху выйшаў. «Прапала, не пагляджу ў тэлескоп!..»

Кунцэвіч то браўся за ручку, то кідаў яе, то абапіраўся аб крэсла і крытычна мяне аглядаў.

На гэтым сталым мужчыне хоць і былі добры касцюм, модны гальштук, а з рукавоў вытыркаліся накрухмаленыя манжэты з запанкамі, але твар ён меў вясковага дзядзькі, якога нядаўна пагалілі, памылі, апранулі і пасадзілі за стол з паперамі.

Каб я расказаў усю праўду гэтаму прыстойнаму і добрасумленнаму чыноўніку, ён, мабыць, справу ўладкаваў бы. Але ж ці мог я прызнацца?

— Ну, дык навошта ты гэта зрабіў, я цябе пытаюся апошні раз? А! Навошта табе спатрэбілася падрабляць мой подпіс і чытаць ёй натацыі? Ты забыў, што жывеш у горадзе? Што за дзіцячая забава цябе абуяла?

Я ўпарта маўчаў.

— Ух-х, розных даводзілася бачыць тыпаў,— уздыхнуў ён.— але такога экземпляра, павер, Вільня яшчэ не бачыла!

Кунцэвіч нейкі час вагаўся. У яго таілася яшчэ сімпатыя да мяне, і сакратар шукаў важкі доказ, які б схіліў яго рашэнне на той або іншы бок. Узняўшы заклапочаны

твар і зірнуўшы на мае «ліхтары», ён нібы нешта ўспомніў, загаварыў больш упэўнена:

— Яшчэ і пабіўся з кімсьці! А заўтра што выкінеш?.. Бог цябе ведае! Даверылі нам сваіх дзяцей лепшыя сем'і ў горадзе, такіх чудзікаў падпускаць да іх небяспечна!.. Тут ліцэй, разбойнікі нам не патрэбны!

Я ўсё маўчаў.

— Ну што ж! — уздыхнуў ён з жалем.— За падробку дакументаў мы цябе звальняем!

— Ну і звальняйце! Надта мне патрэбна ваша сабачая пасада! — кінуў я настырна, а ў самога па скуры прабег мароз.

— Бачу, што не патрэбна. Э-эх! А яшчэ калісьці сам рэкамендаваў цябе дырэктару! Вось, заступіся за сваіх, а яны табе потым адплацяць!..

Я пераступіў з нагі на нагу. Было такое ўражанне, што з-пад мяне выбіралі грунт і, калі я нічога не прыдумаю,— звалюся ў яму.

— Не адп... Кхе!.. Не патр...— каб адгаварыць яго ад ракавога намеру, пачаў я дабываць з сябе нейкія гукі.

— Што, што-о? — насцярожыўся Кунцэвіч.

— Нічо-ога...— праглынуў я камяк.

— Усё. Можаш ісці!

— Ну і ладна...

Валокся я з канцылярыі і ўжо не хаваў твару.

Па калідоры прама на мяне беглі дзве вучаніцы ў форменных фартушках з цёмнага бліскучага шоўку. Адна з іх была Данута. Прабягаючы блізка, смеючыся, яна мяне штурханула і нават не заўважыла гэтага.

— Яня-а, усё роўна даганю! — пачуў я крык ззаду.

— Ха-ха-ха-ха!

Бестурботныя галасы паненак здаліся такімі недарэчнымі, пустымі, як і іхняя гульня.

## Раздзел пяты

### 1

Генералаў дом стаў мне непрыемны. Пачало кідацца ў вочы тое, чаго раней не бачыў.

Толькі цяпер угледзеў, што вадасцёкавая рына на доме вісіць крыва. За домам стаяла будка, якую генерал змайстраваў сабе для летняга душа. Жалезная бочка, якая высыркалася зверху, паржавела, стала рудой і агіднай.

Два месяцы я жыў па строгаму раскладу: разносіў пісьмы, вяртаўся дадому, гатаваў абед, рыхтаваў урокі, спяшаўся на вячэрнія заняткі, а кожную вольную хвіліну марыў аб Данусі. Цяпер увесь дзень я не ведаў, чым сябе заняць. І тая рэшта ахвоты да вучобы адпала. Пачаў шукаць работы.

Бацька мой быў не з малазямельных. За ім лічылася шмат гектараў голага тарфяніку і пяскоў. Нашу зямлю як ні апрацоўвай, як ні ўгнойвай, а болей чым для пракармлення сям'і ты з яе не возьмеш. Калі быў лішні пуд жыта, дзесятак яек або маці выкармлівала вепрука, дык трэба было купіць газы, вопратку, а галоўнае — заплаціць падаткі.

Бацькі стараліся. Кожны тыдзень прысылалі яны мне прадуктовую пасылку. Наварыць ежы было з чаго. Адзін месяц у рукаве з крупой я знайшоў пяць злотых, другі месяц у бохане хлеба ляжала дзесяць злотых. Але гэтага хапіла толькі на соль, цукар, лазню і паштовыя маркі.

Калі служыў пасыльным, вучыўся бясплатна. Цяпер трэба было недзе штомесяц дазарабіць пятнаццаць злотых. Але пакуль што нічога не траплялася.

Суткус абяцаў пагаварыць у рэстаране наконт работы. Я ўжо перамог у сабе агіду да аб'едкаў на сталах і забруджанай пасуды — рыхтаваўся стаць афіцыянтам. Суцяшаў сябе тым, што ў рэстаране на сталах заўсёды шмат свежых газет, нават замежных, і хоць пачытаю іх уволю. Туды прыходзяць і багацейшыя за генералаву дачку. Я нагадаў амерыканскі фільм, у якім мільянерша закахалася ў свайго лакея, і мая фантазія стварала падобную гісторыю і са мной. Вось тады і адпомшчу гэтай паненачцы! Згарыць ад злосці, калі даведаецца!.. Стане бегаць за мной, спрабаваць завязаць са мной знаёмства — позна!..

## 2

Ды не было патрэбы ў маёй ахвяры. Вярнуўся з работы Альбінас і паскардзіўся:

— Падаў сёння адной сцерве чай і пайшоў сабе! Чую, яна мяне кліча. Выяўляецца, у шклянцы на дне — цукар. Хацела, каб з ёю паіграўся, а з самой ужо і пясок сыплецца. Я не вытрымаў. «Вазьмі лыжачку і размяшай, бяда невялікая!» — кажу, а сам пайшоў. Яна ўзняла на ўвесь рэстаран скандал. Разумееш, гаварыць пра цябе не было зручнага моманту, самога ледзь не прапёрлі!..

— Разумею...— уздыхнуў я.

— ...Яшчэ ты туды не падыдзеш з-за свайго росту. Мой гаспадар падбірае ў афіцыянты адно толькі брунетаў ста сямідзесяці пяці і не вышэй ста сямідзесяці сямі сантыметраў. Жонка яго вычытала, што так робіць нейкі модны рэстаран у Парыжы. Яна нас прымусіла і вусы адгадаваць... На лепш газету, тут ёсць аб'явы...

Катэгарычна ўжо адмовіўся Альбінас і ўцякаць у СССР. Наняць праваднiка на граніцы мы не мелі за што, а пераходзіць яе на сваю рызыку небяспечна: абодва дапрызыўнікі, такіх судзіў трыбунал за дэзерцірства.

Альбінас меў рацыю. Але я яго тады не зразумеў і пакрыўдзіўся. Абазваў здраднікам ды вырашыў больш з ім не размаўляць.

Пачаў я дзейнічаць сам.

Навыразаў з газет аб'яў, у якіх патрабаваліся рабочыя, і пайшоў па адрасах. Цяпер марыць пра генеральскую дачку не дазваляў гонар.

Але, як на тое, Дануся не выходзіла з галавы.

Паненка нібы прывязала мяне невідочнай вяровачкай. Каб адагнаць ад сябе думкі пра яе, я накіроўваў іх так, каб паненка выглядала ў чорным святле.

Успамінаў, напрыклад, сваю хату — з аброслай мохам страхой, з крапівой пад плотам, з сякерай у калодцы сярод двара. Маці дажывала свой век, а так і не навучылася ўжываць слова «кіламетр». Калі незнаёмыя пыталіся пра адлегласць да якой-небудзь вёскі, яна адказвала «блізка» ці «далёка» і ў залежнасці ад адлегласці дадавала «зусім», «вельмі». А калі трэба было сказаць, напрыклад, у якім годзе што-небудзь здарылася, маці гаварыла: «Гэта было за тыдзень перад піліпаўкай, калі паморак свіней выдушыў, а Канцавая Верка выходзіла замуж...»

І, разжаліўшы сябе такім чынам, я ўспамінаў Данусін дом, дзе адной прыслугі было некалькі чалавек.

Эх, каб стала рэвалюцыя, праперлі б паноў, у генеральскім доме зрабілі б бібліятэку ці аддалі б, напрыклад, беларускаму музею. А то падсялілі б у яго нас з Суткусам... Генеральская сям'я і іхняя дачка загаварылі б са мной інакш!..

Толькі хтосьці ў душы мяне стрымліваў і заўважаў, што рэвалюцыя тут ні пры чым, што мая хата і маці ні пры чым таксама, ні пры чым і Дануся — бацькоў не выбіраюць...

Так мінула некалькі дзён.

## 3

Як на злосць, я пачаў часта сустракаць Данусю з Браніславам.

Вось і цяпер вяртаўся я з чарговых пошукаў работы і сустрэў гімназістак з князем.

Пасля бойкі ля універсітэта Любецкі, як і належыць шляхетнаму пану, мне не помсціў. Нават не падаваў выгляду, што між намі нешта адбылося.

У Любецкага была падвязана чорнай хусцінкай рука, забінтавана галава і заклеены пластырам твар. З вонкавай скромнасцю, ідучы насустрач паненкам, ён выстаўляў гэта напаказ. Паненкі абдарылі яго шумлівым захапленнем, нібы героя, які, прынамсі, вярнуўся з-пад Рацлавіц!

— Выбягаю я на пляцоўку, а іх — сотні! — з захапленнем апавядаў ліцэісткам.— Я першага кацапа з левай — раз! Тады правым гакам — накаўт! Пакуль ён падаў, я яму яшчэ — раз! раз! раз! Ускочыў у самую гушчу і — налева! направа!.. Наклаў жа іх я там! Папомняць мяне бальшавікі-і!..

— О-ей! Пан Браніслаў граміў іх, як Валадыёўскі татар на Украіне!..— заўважыла Данута, і паненкі рассмяяліся.

Як звычайна, Дануся мяне не заўважала.

«Нябось, не прызнаецца ёй, хто яго так размаляваў!..»

Надта хацелася, каб паненка даведалася, што менавіта я аддубасіў так яе прынца.

«Вось табе твая Данута!.. І калі ўжо станеш самастойным чалавекам, неданосак?! — дакараў я сябе.— Нікчэмная, як і гэты бяздарны франт!.. Затое ж і даў яму, папомніць нашых!»

Але задаволенне ад такіх уцех было невялікае.

Я бачыў, што ўсе старанні забыць Дануту ляцелі да д'ябла. Лаяў сябе, прыдумваў зноў прычыну зайсці да генерала, у думках працягваў размову з Данусяй і маці. Колькі ў маёй галаве з'яўлялася варыянтаў таго, што магло здарыцца, каб я сябе інакш паводзіў тады! Што ж, заўсёды знаходзіў словы, калі ўжо было позна. Зусім відочна — Дануся не хацела са мной знаёміцца не таму, што яна дачка генерала. Не выдуманыя ж выпадкі ў кніжках, калі дочкі багатых бацькоў кахалі простых хлопцаў!..

Грызла самалюбства: мною ганьбуюць. Вядома!

Раней я думаў, што Данусі не было выпадку прыгледзецца да мяне, таму яна не звяртала ўвагі. І вось я пабы-

ваў у яе дома, яна не толькі прыгледзелася — гаварыла са мной, а што толку? Успомніў, як прапанаваў ёй пайсці разам у залу Снядэцкіх, і зазлаваў на сябе.

Недарэка!

Прыгадалася дзяцінства. Неяк варона пакрала куранят. Маці пайшла ў лес, убачыла вароніна гняздо на сасне, паклікала нас. З хлопчыкамі пабег і я. Па гладкім, як заводскі комін, камлі я не мог падняцца і на метр, а бедны сірата, вясковы пастух Мішка, зняў паясок, прывязаў яго да босых ног і, як малпа, палез угору. Мяне ўпікнуў дакорлівы позірк маці...

Або цяпер. На вячэрніх курсах кожны хлопец мае сабе дзяўчыну, ходзіць з ёю ў кіно, вучыць урокі, толькі я адзін хаджу ля дзяўчат воўкам...

У маім узросце бацька ўжо цэлую сям'ю карміў, хату пабудаваў, іншыя людзі навуковыя адкрыцці паспелі зрабіць, а я? Сяджу ў бацькоў на шыі!..

Размінуўшыся з Любецкім і кампаніяй, я бяздумна спыніўся ля вітрыны найбольшай у Вільні кнігарні «Гебертнера і Вольфа». Памалу дайшоў да сэнсу слоў, якія красаваліся за вялізнай шыбай:

*«Увага, грамадзяне!*
*Чытайце амерыканскага Шолахава — Роберта*
*Кентса! Выйшла яго кніжка на польскай мове*
*«Лясныя людзі»!»*

Але ні гэтая аб'ява, ні ўспамін пра бібліятэку з чаргой за «Ціхім Донам» не ўзрушылі мяне.

Заглянуў яшчэ раз у краязнаўчы музей. Гаспадар музея Луцэвіч якраз праціраў рыцарскія латы і кальчугі машынным маслам.

— Дазвольце памераць! — успомніў я, што ў мяне быў калісьці такі намер.

— Калі ласка!

Я скінуў пінжак, пачаў надзяваць на сябе жалеззе. Што за ліха, не налазіць!

— Дарма-а! — рассмяяўся Луцэвіч.— Вам ні адзін камплект не падыдзе!

І праўда. Перабраў я з дзесятак панцыраў і кальчуг, а ўсе малыя. Рыцары былі зусім не волаты.

— Яны былі нават меншыя за нашых людзей сярэдняга росту! — паясніў мне чалавек.

Але і гэтая навіна заняла мяне толькі на хвіліну. Выйшаў я на вуліцу, а на душы па-ранейшаму моташна, горад такі невыносны, што я не ведаў, куды дзецца.

4

Толькі я адышоў ад беларускага музея, як мяне акліснулі:

— Дзень добры, волат!

Я ўздрыгнуў. Перада мной стаяў Яцкевіч — той студэнт, які камандаваў намі ля універсітэта ў час бойкі.

— Ну, як тваё пераноссе?

— Зажыло...— буркнуў я, нездаволены, што перашкодзілі пабыць аднаму са сваімі перажываннямі.

— Э-ге, ужо амаль нічога не пазнаць, «ліхтары» пажаўцелі! І астатняе да вяселля зажыве!

Студэнт размаўляў са мной манерай чалавека, перад якім хоць і добры вясковы хлопец, але вялікая недарэка ў параўнанні з ім, гарадскім воўкам.

— Што з таго...

— А чым ты нездаволены? — спачувальна спытаў ён.

З памятнага вечара ля універсітэта гэты студэнт зрабіўся для мяне аўтарытэтам і, бадай, адзіным блізкім чалавекам у Вільні, не лічачы Суткуса. Таму я сабраўся адкрыць яму сваю таямніцу.

— За навуку трэ плаціць, а няма чым. Работы шукаю...

— А як ты жыў дагэтуль?

— От, неяк жыў...

— А цяпер ужо не можаш? То схадзі на Нямецкую вуліцу. Там існуе дабрачынпае таварыства, паможа,— кінуў ён ні то жартам, ні то сур'ёзна.

Студэнт, відаць, хацеў мяне бачыць дужым, здаровым, і я яго расчараваў.

— Не бядуй, будзе і на нашай вуліцы свята, пабачыш!

— Сам ведаю. Але калі?

Раптам ён ажывіўся:

— А ты, хлопча, хват! Толькі прыкідваешся такой авечкай!

— ...

— Нават рэвальвер маеш! І хто б падумаў, а? Такі сабе ціхі і спакойны, ды з вёскі... Добра. Калі-небудзь спатрэбішся для нас з ім. Прыйдзеш?

— Магу.

— Буду мецъ на ўвазе. А рэвальвер трымай. Толькі асцерагайся, за яго — пяць гадоў турмы! І не падай духам... Ведаеш, хто сказаў пра рэвальвер? Студэнтка, якая цябе ратавала. Дарэчы, гэта пра яе газеты пісалі, што шлюб у турме брала, чытаў?

— Пра яе?.. Я нават у Лукішках быў!

— Во, бачыш!

— Дык гэта яна-а? — ажывіўся я.

— Салют!

Студэнт знік, а я нейкі час стаяў расчараваны. Тая самая гераіня. Такая звычайная, з крывымі зубамі нават?!. Гы!

Хутка, аднак, забыўся і пра яе.

«Расплакаўся як слізняк, знайшоў перад кім!.. І чаго ты перад кожным сябе трымаеш гэтак, бытта ён бог, а ты нішто?»

Я пакрочыў далей больш рашуча.

Успомніў, як гадзіну таму назад прахожы ля Залкіндавага магазіна наступіў мне на нагу і не ён у мяне, а я ў яго папрасіў прабачэння. Захацелася вярнуцца, знайсці таго чалавека і пасварыцца з ім.

Успомніў словы студэнта пра дабрачыннае таварыства. Сапраўды, чаму б не схадзіць на Нямецкую? Мне абавязаны дапамагчы! Не вяртацца ж цяпер дадому!

5

У сярэдневяковых мурах — сырых і аблупленых — на вузенькай вулачцы, дзе калісьці злавілі Кастуся Каліноўскага, я знайшоў шыльду з надпісам: «Дабрачыннае таварыства жанчын-каталічак». Адчыніў дзверы. Нейкая старая спытала, хто я і чаго хачу.

— Дзе-небудзь зарабіць пятнаццаць залатовак у месяц, каб заплаціць за курсы...— напусціўшы на сябе вінаваты выгляд, прызнаўся я.

— А ты католік?

Я сарыентаваўся, што для фанатычнай клікушы пытанне гэтае — прынцыповае.

— Ну...— ні то адказаў, ні то спытаўся, бо сам быў з праваслаўных.

Я ёй яўна спадабаўся. Каб не расчаравацца, удакладняць яна не стала.

— Падумаем, дзіцятка, і што-небудзь зробім.— Пані запісала маё прозвішча і запрасіла на абед.

Мы апынуліся ў змрочнай зале з нізкім скляпеннем. Маленькія нішы-акенцы былі завешаны марлевымі фіранкамі, пафарбаванымі ў зялёны колер. Ад сырасці на фіранках павыступалі белыя плямы. У зале сядзелі стараватыя мужчыны ў неахайнай вопратцы. На стале стаялі драцяныя кошыкі з хлебам і вялікія белыя пасудзіны. Бедакі трымаліся чынна, з напускной пакорай, і не адводзілі вачэй ад пасудзін, з якіх біў у нос заманлівы пах разваранай фасолі з перцам і лаўровым лістам.

Пані, якая, відаць, была тут за старэйшую, паказала мне месца за сталом. Затым загадала ўсім устаць і зацягнула:

— Отчэ наш, іжа ясі на небясі, да свяціцца імя тваё, да прыйдзе царства тваё...

Людзі пачалі паўтараць за ёй:

— ...Хлеб наш насушны дан нам днесь...

Гэ, дакладна такая самая малітва і ў праваслаўных! Якой тады халеры яны не паладзяць між сабой?!. Здзіўлены гэтым адкрыццём, я цярпліва стаяў і думаў: «Дай ты толькі работу, а далей будзеш мяне бачыць як сваё вуха!..»

— Калі ласка, дзіцятка, адрас члена таварыства пані Курпёвай,— пасля абеду старая падала паперку.— Ёй патрэбна аднаразовая дапамога. За гэта ў нас плацяць злот...

Я накіраваўся шукаць Курпёву. Што мне прыйдзецца рабіць? Пілаваць дровы, насіць з рынку бульбу?.. Падумаеш, можам прынесці, карона з галавы не спадзе!..

Але не ўгадаў...

Пані Курпёвай уздумалася перабірацца на іншую кватэру. Я павінен быў на двухколцы перавезці яе рэчы — вядро пасуды, кардонныя карабкі ды рулон паперы. Паперы я знімаў са сцен — карту Польшчы 1793 года, плакат-рэкламу аб карысці стравы з булёну ў канцэнтраце, адбітак павялічанага чалавечага вуха ў разрэзе і малюнак: святы Ёсіф з каровамі. Усё бруднае, заседжанае мухамі!..

Калі я з агідай ладкаваў рэчы, пані Курпёва трымала на павадку маленькага слязлівага сабачку і часта перабівала мяне недарэчнымі парадамі. Аднак я цярпліва слухаўся. Ліха цябе бяры. Затое праз гадзіну ў мяне будзе залатоўка. Так, іграючы, за пятнаццаць дзён зараблю на вучобу, замест таго каб цэлы месяц, высалапіўшы язык, бегаць па Вільні пасыльным. А яшчэ панікаваў! І ёсць жа дзівачкі. Рамізнік за прывоз яе з усім багаццем і сабакам узяў бы толькі шэсцьдзесят грошаў!

Прывязваючы карабкі да двухколкі, я пачуў, як старая хваліцца суседцы:

— Ладны кавалер, не?

— Нішто! — пацвердзіла тая.

— Над ім, пані Васілеўская, нашае таварыства ўзяло шэфства! Ужо некалькі дзён ён не меў кавалка хлеба ў роце! Прыйшоў да нас у сталовую, то так еў, так еў, што не маглі надзівіцца! Аж чатыры талеркі супу, бедачыска, спаражніў адразу!

— Езус Хрыстус!

— Як бога кохам!

— Колькі разоў я цвярдзіла ўсім пра ваша літасцівае сэрца!

— Запісуйся, пані, у наша таварыства!

— Трэба падумаць.

— Над чым думаць?

Халера, вы нават падлічылі, колькі я з'еў! І недакладна! Чацвёртую мне вельмі хацелася наліць, але сарамлівасць заела!..

Старыя гулялі ў дабрачыннасць, ім трэба было, каб усе пра гэта ведалі, і ад няма чаго рабіць — гатовы былі падапечным заглянуць у рот.

Дык вось чаму ў вашай сталовай не было моладзі!.. Не кожны можа патураць здзяцінелым бабам! Цьфу, ну ж і ўліп у гісторыю, што нікому не расказвай. Яцкевіч жартаваў, калі раіў сталовую!..

Увесь настрой ад заробленай залатоўкі развеяўся. Але цяпер я не страціў надзеі. Нейкі зарад, атрыманы пару дзён таму назад, дадаваў упэўненасці: быць таго не можа, знайду работу!

6

— Вы маеце крыху часу? — спыніў мяне на вуліцы Луцэвіч з краязнаўчага музея, калі я вяртаўся ад Курпёвай.

— Го, чаго-чаго, а часу хапае, магу ім гандляваць нават. А вам падарую так!

— Патрэбны вы мне. Вяду доследы, але не маю ўжо тое моцы, што вы, малады. Дапамажыце, буду вельмі ўдзячны!

У музеі я быў частым госцем, таму адмаўляцца не выпадала. Зрэшты, часу меў я і праўда шмат, а з Луцэвічам вадзіцца было цікава.

Беларускі краязнаўчы музей у Вільні быў бедны. Ад дзяржавы сродкаў не атрымліваў, існаваў фактычна на ўтрыманні гэтага дробнага памешчыка Луцэвіча, які пусціў на музей усю сваю гаспадарку. Хоць сам ён жыў як папала, але яшчэ вёў доследы, і яны забіралі яго апошнія грошы.

У навуковым свеце тады панавала думка, што старажытныя людзі з эпохі каменнага веку прылады вытворчасці рабілі надта марудна. Былі меркаванні, бытта наш продак, напрыклад, сякеру з граніту адшліфоўваў цэлых паўгода, а касцяны нож — некалькі месяцаў. Луцэвіч хацеў давесці свету, што гэта не так. Але сам ён быў ужо стары, і яму патрэбны былі маладыя рукі.

Ідэя захапіла мяне. Я адразу пачаў ствараць фантастычныя праекты, як зраблю навуковае адкрыццё і стану славутасцю. Як-ніяк да камня я маю адносіны! Камень да жоран высякалі, бывала, мы з бацькам за паўдня; мала больш часу зойме гэтая работа. З усёй энергіяй узяўся я за справу.

Раніцой наступнага дня мы з Луцэвічам выбралі кавалак граніту і пустую, як трубачку, усярэдзіне костку. Трубачку гэту я ўзяў паміж далоняў, паставіў адзін канец на камень і стаў вярцець, а Луцэвіч пачаў сыпаць на камень пясок і ліць ваду. Без асаблівага намагання, пакуль ісці на вячэрнія заняткі, навылет прасвідраваў у камені дзірку для чаранка сякеры!

— Ты сабе не ўяўляеш, што натварыў! — паціху, бытта баючыся, каб нас хто не падслухаў, казаў стары.— Не ўяўляеш, праўда?

— Усяго дзірку ў камені! — адказаў я, шчаслівы, зализваючы на далоні мазалі.

Праз пару дзён каменю з дзіркай я надаў выгляд сякеркі — абчасаў бакі. Тады ўзяўся за чаранок. На яго патраціў пару дзён. Чаранок ніяк не хацеў трымацца. Калі махну з усяе сілы, сякера злятала. Як нашыя продкі прымацоўвалі чаранок — таямніца. Дома я шмат пераплёў кошыкаў, і лазовыя дубцы ў маіх руках былі гнуткімі, як вяровачкі. Але нашыя продкі, відаць, умелі вязаць толькі ім вядомым вузлом.

Стары прынёс ад хірурга бычыныя жылы.

— Спрабуй, Іване, гэтым. Цалкам, магчыма, яны маглі такія жылы вырабляць...

Чаранок я заклініў костачкамі, заліў смалой, прывязаў сухімі жыламі.

— Залатыя ў цябе рукі, сынок! — ледзь не расцалаваў мяне Луцэвіч, параўноўваючы маю сякеру з той, якая ляжала ў экспазіцыі.— Ты і сам не разумееш, што зрабіў!

Сам-то я разумеў. Цяпер у кожным падручніку гісторыі трэба ўдакладняць, што зрабіць каменную прыладзіну — справа не лёгкая, але ўжо не такая і цяжкая, як лічылася дагэтуль.

— Цікава, ніхто з вучоных не здагадаўся праверыць на практыцы такую простую рэч?!.— Стараўся я ўявіць сабе твары людзей, калі яны даведаюцца пра маё адкрыццё.

— Вялікія адкрыцці заўсёды простыя! — паддаваў мне жару стары, праціраючы сваё старамоднае і вышчарбленае пенснэ.

Яшчэ Луцэвічу я зрабіў касцяны нож. Потым паехалі мы з ім у лес, там я выбраў сасну і пачаў яе сячы самаробным тапаром. Не раю нікому рабіць гэтага. То была дзятлава работа. З мяне выцекла сем патоў, пакуль я зваліў дрэва, а кожнай сваёй клетачкай адчуў, што азначае цывілізацыя.

Вынікі працы нас радавалі. Аднак Луцэвіч не мог надрукаваць артыкул у бліжэйшы час, і са сваёй работы мы пакуль што карысці не мелі. Парадокс! Такое глупства, як развод артысткі Лясоцкай з адвакатам Руцелем надрукавала кожная з трынаццаці віленскіх газет — польскія і беларускія, яўрэйскія і літоўскія, руская і нямецкая, але ніводная не выказала цікавасці да Луцэвічавай інфармацыі.

Ну і парадкі на свеце гэтым!

Нацешыўшыся навізной факта, праз два тыдні я пакінуў музей і зноў пачаў шукаць работу, а пазіраючы на карабок цэментавага будынка за драцяной сеткай, усё нечага чакаў, чакаў і чакаў.

## 7

Блукаючы так па вуліцах, у сярэдзіне лістапада я ўбачыў аб'яву: «Віленская спартыўная школа запісвае ў секцыі футбола, тэніса, бокса...»

Далей ішоў яшчэ доўгі пералік розных відаў спорту, але мае вочы спыніліся на заманлівым і мужным слове «бокс».

А чаму б мне не стаць баксёрам?!

Я напружыў мускулы і адчуў у сабе вялікую сілу. Здаецца, каб развёў рукі і крутануў імі навокал, прахожыя ляцелі б ад мяне, як яблыкі, збітыя з галін. Нездарма Луцэвіч, вітаючыся, загадзя прысядаў і сыкаў, баючыся, што раздушу яму пальцы.

Аб'ява вісела на высокім і глухім плоце з тоўстых дошак. Я азірнуўся, ці няма каго блізка, тады садануў кулаком у сцяну — раз! другі! трэці!.. Дашчаная сцяна захісталася, за ёю трывожна загульдыкалі індыкі, а з даху ўспырхнулі галубы.

Сапраўды, як мне не прыходзіла ў галаву: я ж прыроджаны баксёр! Няма нічога больш простага, як прафесія баксёра!

Праз хвіліну я ўжо бачыў сябе героем рынга, якога ведае ўся Вільня. За пару мінут пакладзі праціўніка на брызент — і генералава дачка загаворыць з табой інакш! Усім вядома, як дзяўчаты любяць спартсменаў! Толькі такім шляхам можна да яе дабрацца!..

Я і сам не заўважыў, як апынуўся ў спартыўнай школе і ў мяне ўжо мералі аб'ём лёгкіх.

— О Езус коханы, пане Левандоўскі, глядзіце, аж сем літраў! — з непадробленым здзіўленнем закрычала лабарантка да трэнера, паказваючы на шкалу спірометра.— Такога ў нас яшчэ і не было!

Я вінавата аддаў паненцы шланг, праз які дзьмуў паветра.

— Нічога сабе! — ледзь стрымліваючы захапленне, прамовіў трэнер. Ён употай і прагна абмацаў вачыма мае ногі, грудзі, рукі і шыю.

— А ты сур'ёзна вырашыў стаць баксёрам?

За абыякавасцю ў голасе трэнера я адчуў ноткі сімпатыі, добразычлівасці і лікавання.

— Сур'ёзна...

— А ведаеш, што бокс — перш за ўсё цяжкая праца на трэніроўках?

— Да яе мне не прывыкаць!

— Гм,— падумаў ён хвіліну.— Веру. Тады прыходзь займацца!

— Калі?

— Сёння вечарам зможаш?

— Змагу!

І ў той самы вечар адбылося маё хрышчэнне. Яго варта апісаць падрабязна.

Тапачак і майкі я не меў. Выйсці на рынг давялося ў адных трусах і шкарпэтках.

— Болек, прымі новенькага! — паклікаў трэнер нейкага рыжага дзецюка ў баксёрскай форме.

Той толькі дурнавата ўсміхнуўся.

— Хутчэй, Барташэвіч, надзявай! — падаў мне трэнер пальчаткі.— Пабачым, што ў цябе атрымаецца. Галоўны наш дэвіз — не трусіць!

Я паслухмяна пачаў нацягваць нязграбныя скураныя гамоліны. Хацеў іх зубамі зашнураваць, але ад таго, што на мяне глядзелі, я забыў, што маю рабіць.

— Правільна, навошта завязваць? І так атрымаеш! — крыкнуў нехта.

— Ледзь панясеш!

Чаго яны так?

Я разгубіўся дарэшты. Жадаючы дагадзіць публіцы, зноў узяўся зубамі за шнуркі, але зараз жа пакінуў.

Уздоўж канатаў выстраіліся хлопцы, якія чакалі трэніроўкі. Змоўніцкія позіркі, незвычайныя пальчаткі ды выстаўленае напаказ маё голае цела зусім збівалі мяне з панталыку. Чаго яны на мяне глядзяць гэтак? Я ж ім нічога дрэннага не зрабіў!.. Нібы я тут — галоўны герой здзекліва-ганебнай камедыі, якая вось-вось пачнецца.

Усё гэта рассейвала маю ўвагу, і я слаба разгледзеў праціўніка, хоць і бачыў, што менавіта да мяне ідзе рыжая істота: нехлямяжая, з вузкім ілбом і вогненна-жоўтым вожыкам.

— Бокс! — чамусьці крыкнуў трэнер.

Здаецца, я не ступіў яшчэ і кроку, а ў маёй галаве ўжо памутнела, паплылі кругі, сцены і столь захісталіся, а нейкая магутная сіла абрынулася на мяне, і я апамятаўся на брызенце. Моцна балела сківіца. Толькі цяпер дайшло — гэта мне так садануў вузкалобы.

— Дык я яшчэ не...— вырвалася з мяне скарга, калі я, здзіўлены, уставаў з брызенту.

— Го, чулі?

— Ён «яшчэ не»! — перадражнілі навакольныя і зарагаталі.

У затуманенай галаве пачало расці крыўднае ўсведамленне, што я гэтым зубаскалам дастаўляю вялікую радасць. Але чаму? Што я ім дрэннага зрабіў?!.

Уражаны сваім адкрыццём, я аж азірнуўся. Сур'ёзны

трэнер нібы не бачыў майго позірку, ён бязлітасна закрычаў:

— Ну, чаго насталі? Пайшлі, бокс!

Вузкалобы вырас перада мной зноў. Я інстынктыўна засланіў кулакамі пабітае месца на твары, механічна прыпадняў локці, і баксёр садануў мне пад грудзі. Ад падзення на гэты раз уратавалі толькі канаты.

Пакуль я, ашаломлены, вісеў на вяроўках, вузкалобы са смакаваннем біў мяне і біў куды адно хацеў.

— Пачакайце! — зноў вырвалася ў мяне ні то просьба, ні то абурэнне.

Навокал зарагаталі яшчэ мацней. Гледачы ўвайшлі ў экстаз:

— Размалюй яго, Рыжы!

— Так яму, во!

— Давай, Рыжы, давай!

— Бокса захацеў? То атрымаеш!

— Няхай не вылазіць другі раз! — ляцелі выкрыкі з усіх бакоў.

На такі цынізм маглі быць здольныя толькі мяшчанскія абібокі.

— Ага, папаўся! — цешыліся.

Адно цяпер дайшло, што спектакль падрыхтаваны, а для публікі я — кролік, якога заманілі да льва ў клетку — бессардэчнага, цынічнага і крыважаднага.

За нейкі міг я адчуў усю наіўнасць стаць праз бокс героем. Мне нават зрабілася шкада, што мары не споўняцца і ўсё застанецца па-ранейшаму і ўжо нічога, нічога не дасць ім здзейсніцца. Але і гэтыя пачуцці вузкалобы зараз жа ва мне згасіў.

— Рыжы, не адпускай кацапа! — крычалі ў зале.

— Трымай яго, не давай уцячы,— даходзіла да мяне нібы праз сон.

Толькі я ўзнімаўся на ногі, зноў гучала каманда — бокс! І я бездапаможным кулём валіўся на брызент, ажно тупа грымела падлога ды выбухаў новы ўзрыў весялосці.

Я аслеп на адно вока. Пацёр яго і ўбачыў на руцэ кроў. Тады зірнуў сабе на грудзі. Яны былі ў чырвоных плямах: вузкалобы разнёс маю кроў па ўсім целе.

Салёны смак яе адчуваўся нават у роце.

«Заб'е!

Апісваліся ж выпадкі ў газетах, калі так, на рынгу, паміралі!»

Я раптам адчуў усю асалоду жыцця. Чакаць дапамогі

не было адкуль. І мяне разабрала шалёная роспачлівая лютасць загнанага звера, які гатовы на ўсё. Я яшчэ ніколі ў жыцці не быў у такім стане. Ад злосці нават перастаў чуць боль.

Калі баксёр каторы раз кінуў мяне зноў на канаты, я адной нагой упёрся ў жалезную стойку, адпіхнуў нахабніка і з усяе моцы другой нагой ударыў яго ніжэй жывата.

— Ах! — толькі жахнуліся ў зале, і адразу запанавала мёртвая цішыня.

— М-м-м! — нема застагнаў мой вораг.

Шчасце яго, што на нагах былі адно шарсцяныя шкарпэткі, прысланыя з дому на зіму.

Калі ён хапіўся за пахвіну, я сарваў пальчаткі, адкінуў іх і па-вясковаму, з усяе сілы, жарнуў кулаком наводмаш у ненавісны рыжы вожык. Аглушаны баксёр павіс на вяроўках — аж скрыпнулі канаты, бытта з сілай хто кінуў на іх мяшок зерня. Тады я адважыў рыжаму аплявуху з левай, а пасля з правай рукі і стаў малаціць куды папала.

— Во табе, маеш! На! Заменак, халерны, на! — чуў я ў цішыні свой раз'юшаны голас і дзікую асалоду, што мае рукі і ногі месяць цёплае і тугое ненавіснае цела.

— Што гэта робіцца? — дзівіліся аслупянелыя юнакі навокал канатаў.

— Барташэвіч, адыдзі! Звар'яцеў? — крыкнуў трэнер ды нырнуў да нас пад вяроўкі.

## Раздзел шосты

### 1

У трэнера Левандоўскага быў свой прыём. Зялёнаму навічку ён надзяваў пальчаткі і выпускаў на рынг з баксёрам-першаразраднікам. Той бязлітасна збіваў новенькага. Калі хлопец і ў наступны раз прыходзіў на трэніроўку, Левандоўскі лічыў, што з такім варта займацца, і запісваў у секцыю.

Такую штуку трэнер думаў разыграць і са мной, але я экзамены яму пабунтаваў. Баксёру-граміле давялося адпраўляцца са спартыўнай школы ў машыне з чырвонымі крыжамі на кузаве ў бальніцу.

Пасля славутага паядынку я надта пакрыўдзіўся і ў спартыўную школу вырашыў не паказвацца. Паненка таго не варта, каб з-за яе цярпець столькі здзеку, а Рыжы мяне запомніць!.. Яшчэ і закажа іншым!..

Праз пару дзён у хірурга я спаткаў Левандоўскага.

— Барташэвіч, дарагі, што тут робіш? — шчыра, як брату, узрадаваўся трэнер.

Непадроблены тон яго мяне раззброіў, і я забыўся на абразы.

— Палец распух,— паказаў я нагу, абутую ў стары галёш ад прачкіных цёсанак.— Халера, чамусьці доўга не гоіцца!..

— Едзем да нас у школу! Там палечаць цябе бясплатна! Ану, пакажы!.. Фю-у-у, як разнесла!.. А што? Голымі фалангамі так жарнуць — яны ж для гэтага не сканструяваны прыродай!.. Магло быць горш. Але ж і даў ты рыжаму капралу! Шчасце, што босы, быў бы ты абуты, і яму — капут!.. Давай, давай да нас, адкуль у цябе столькі гордасці? Не з князёў жа!..

Выяўляецца, вузкалобы — вайсковец.

Нядобразычлівасць трэнера да баксёра мяне купіла.

Левандоўскі наняў вазніцу, дапамог мне залезці ў фаэтон, і мы адправіліся.

У спартыўнай школе медсястра паставіла на месца вывіхнуты палец, нацерла нечым, моцна яго забінтавала і адпусціла. Праз тыдзень я з'явіўся на першую трэніроўку.

## 2

Левандоўскага я заўважыў у горадзе даўно. Не раз, сустрэўшы на вуліцы, захапляўся яго фігурай, энергічнай хадой і незалежнымі манерамі.

Яму было пад пяцьдзесят. Але гэты чалавек не ведаў смаку гарэлкі, не нюхаў табакі, хвіліны не правёў без цікавага занятку і выдатна захаваў сваё сэрца, лёгкія і здольнасць цвярозага мыслення. Яго дэвізам заўсёды былі: паветра, вада, добрае харчаванне і дзейнасць. Ён быў увесь напоўнены цікавасцю да жыцця, імкненнем быць карысным людзям.

— Чалавек датуль малады, пакуль сам хоча ім быць! — навучаў ён нас.— Запомніце: маладосць чалавека ў яго руках!.. Не глушы ў сабе бадзёрасці, якая запраграмавана ў тваім арганізме, закладзена ў храмасомах; дапамагай сабе праяўляць свае здольнасці!.. Той не мужчына, хто баіцца скразняку. Адчыні, адчыні вокны шырэй!

Левандоўскі быў заўсёды чыста паголены, падцягнуты, жыццярадасны, апранаўся ў светлыя клятчастыя і шыро-

кія ў плячах пінжакі, насіў белую шапку. Гэта яго маладзіла, дадавала статнасці.

Прыемна было глядзець на такога чалавека. Ён і сам гэта адчуваў.

Такі ж акуратны трэнер быў і на сваёй рабоце.

Між іншым, польскія спартсмены тады славіліся. Палякі нават паклалі пачатак некаторым сусветным відам спорту, напрыклад, стральбе з лука. Польскія баксёры ўступалі толькі амерыканцам і немцам. І ўсё самае лепшае з айчыннага спорту ўвабраў у сябе наш трэнер. У горадзе яго прозвішча ведалі, як ведаюць прозвішча выдатнага ўрача, адваката або інжынера.

Нас у групе налічвалася чалавек дваццаць. У час трэніроўкі Левандоўскі трымаўся такога правіла: хочаш, каб цябе слухалі, многа не гавары і не крычы. Каманду падаваў скупа, коратка.

— Гетро! — кіне, бывала, толькі адно слова, і мы, як механізмы, пачынаем бегаць.

Практыкаванні стараліся выконваць з усяе сілы, бо ведалі — ніякія фіглі не пройдуць незаўважанымі, а тое, да чаго ён нас змушае, нам неабходнае.

— Давай! Давай! — яшчэ падганялі шэптам адзін аднаго.

— Час! — зноў гучыць каманда, і мы ўжо моўчкі пачынаем лезці на шведскую сценку, на канат ці рабіць што іншае, згодна з праграмай, якую ведалі назубок.

Баксёрам трэба нарадзіцца, Левандоўскі гэта добра ведаў і першым чынам шукаў «геніяльныя загатоўкі», як ён выражаўся. Трэніруючы іх, ён выхоўваў у будучых майстроў дысцыпліну, дапамагаў асвоіцца з рынгам — майстроў як бы выцесваў з грунтоўнай асновы. Каб даць нагрузку нашым мускулам, трэнер вывозіў нас за горад. Там прымушаў лазіць па дрэвах, саджаць на плечы таварыша і бегчы з ім па бездарожжы.

— У нас няма месца для тых, у каго думкі ў небе, а ногі — у ложку! — заяўляў сваім выхаванцам ён на кожным кроку.

І гэта была праўда.

Кулачны спорт, выяўляецца, цяжкі, яго нават нельга параўнаць з якім-небудзь іншым, найбольш напружаная трэніроўка — у баксёраў. І мы кожны дзень працавалі як мае быць. Вольных ад заняткаў на курсах у мяне было толькі два вечары, калі не лічыць нядзелі, і таму чатыры разы на тыдзень я прыходзіў трэніравацца днём.

## 3

Баксёрства давалася мне нялёгка. Не хапала спрыту гарадскога юнака. У мяне, напрыклад, ніяк не ладзілася са скакалкай. Я доўга не мог навучыцца гэтай звычайнай дзіцячай гульні. Не было і хуткасці рэакцыі, пачуцця дыстанцыі...

Але я браў іншым.

Нярэдка ў гарадскім парку людзі апладзіруюць і захапляюцца тым, хто аберуч выцісне на манометры дзевяноста кілаграмаў. Часта апладысменты дастаюцца «парніковаму» рэкардсмену, які можа паўтарыць фокус толькі тры разы.

Мне даводзілася карчаваць лес, калоць тоўстыя бярвенні на дровы, спускаць на ваду і сплаўляць сосны, цягаць падоўжную пілу, у гэтых выпадках трэба было напінацца куды мацней, чым аматарам у парку, прычым з раніцы да вечара, кожны дзень.

У мяне была закалка, а гэта не тое самае, што ўмець гладка выпаўніць практыкаванне на турніку ці на брусах. Я быў вынослівы, і гэта цяпер мяне выручала.

На трэніроўцы маё сэрца набірала хутка адпаведны тэмп, і я адчуваў сябе свабодна якраз тады, калі спрытныя гарадскія юнакі ўжо выдыхаліся і выглядалі як мокрыя кураняты.

— Цяжкавата выстаяць на рынгу пятнаццаць раундаў! — скардзіліся такія.— І навошта столькі? На практыцы спатрэбіцца ўсяго — пяць-шэсць!

— Калі выжывеш пятнаццаць, то пяць выстаіш на адной назе! — непахісна вёў сваю тактыку Левандоўскі.

«Ага, ужо вам цяжка! А памятаеце, як з мяне смяяліся і здзекаваліся?..»

Праз два месяцы ў мяне ўжо з'явіліся прыкметы паставы, якой вылучаюцца штангісты, лыжнікі ды баксёры. Тыя самыя людзі, што так цешыліся тады, калі Рыжы мяне лупцаваў, цяпер на трэніроўках глядзелі на мяне з надзеяй, нават са страхам і былі шчаслівыя, калі я з імі загавару.

— Ну і пары ў яго кулаках! — казалі яны з захапленнем, укладаючы ў слова «яго» ўсе свае надзеі. (У 1938 годзе ў Вільні панаваў яшчэ век паравых машын.)

Але, прызнацца, сам я гэты від спорту не любіў. І наогул яшчэ ў вёсцы цярпець не мог боек, скандалаў, а калі бачыў кроў, то мяне прапываў мароз і пранізвала нейкім

токам. Маці, бывала, не магла дапрасіцца мяне зарэзаць курыцу.

Я пайшоў у бокс не па прызванні, і захапленне хлопцаў мяне зусім не кранала. А яшчэ я не цярпеў людзей, якія ад варожасці і пагарды хутка пераходзяць да любві: яны могуць стаць ранейшымі, няхай ты толькі спатыкніся.

Левандоўскі «выціскаў» з мяне ўсё магчымае ды часта рабіў гэта бязлітасна. Яго мудрагелістыя практыкаванні я выконваў з дзікай упартасцю, абкружаны закаханымі позіркамі.

У палове студзеня я стаў выходзіць на рынг, і часамі маё сэрца замірала пры думцы, што набліжаецца ракавы дзень. Я прыдумваў спосаб, як на матч зацягнуць Данусю. Трэба кінуць генералу ў паштовую скрынку запрашальны білет. Або пакласці яго ў канверт, падпісаць адрас ліцэя, вывесці прозвішча «Янкоўскай Дануце» і паслаць. Так яшчэ лепш: падумае, што запрашэнне прыйшло ад настаўніка фізкультуры з ліцэя, і будзе на спаборніцтве баксёраў абавязкова. Глыбокай зімой правялі адборачныя сустрэчы, і мяне дапусцілі змагацца за першынство горада.

4

— А, зямляк! Сэрвус!.. Выгляд у пана нядрэнны. Я ведаю, пан ходзіць у спартыўную школу! — звярнуўся да мяне па-польску Станеўскі ў гарадской бібліятэцы.

Чаго ты такім шцілем загаварыў? Хто цябе прымушае крыўляцца? Я нават азірнуўся — паблізу знаёмых не было.

— А мы таксама займаемся спортам! — пахваліўся ён.

— Та-ак?..— працягнуў я разгублена, не разумеючы, каго ён мае на ўвазе яшчэ.

— Толькі — шпагамі. Ходзім з князем у клуб карпарантаў «Баторыя»!

— А!..

Сустрэліся мы ў бібліятэцы імя Тамаша Зана. Я зайшоў туды, каб даведацца ў энцыклапедыі, што азначае па-латыні слова «Данута», бо каталіцкія імёны пераважна ўзятыя з антычнай міфалогіі.

— Што пан чытае? — пацікавіўся Станеўскі.

— От, глупства!..— Я паспешліва закрыў кніжку і пачырванеў.

— Што пішуць пану з дому?

— Усё пра тое самае... Гэта памалацілі, гэта яшчэ не, авёс мышы пасеклі...

— О! дакладна так пішуць і мне!..

Які табе, халера, я пан! Чаго ты выпендрываешся, чаму не можам гаварыць па-простаму!

Некалькі хвілін ён намагаўся яшчэ нешта спытацца. Аднак дарэмна. Размовы ў нас не атрымалася. Ужо мы настолькі адышлі адзін ад аднаго, што і натацыі чытаць яму было нязручна.

Любецкі і шпага! — запалі мне словы земляка.

Я адчуў зайздрасць і ўвесь насцярожыўся, бытта баяўся, што Браніслаў мяне абгоніць. Захацелася некуды бегчы, нешта папярэдзіць.

А мо Генрых брэша, як не раз брахаў? Тытулы князёў у Польшчы ўжо даўно не ў модзе. Словам «князь» Станеўскі спекулюе, набівае сабе цану, і тут ён хлусіць.

Станеўскі і карпаранты? Яны фанабэрыстыя, гаварыць з ім не надта захочуць!

Памешчыцкія сынкі з-пад Вільні сядзелі ва універсітэце гадоў па дзесяць. У большасці сваёй яны паступалі на факультэт права, дзе паўгода можна было строіць дурня і на вучобу не хадзіць. У канцы семестра неслі прафесару свае «матрыкулы» — заліковыя кніжкі, і ён, не чытаючы прозвішча, ставіў адзнаку, што такі-та студэнт наведваў лекцыі.

«Залатой» моладзі экзаменаў здаваць не хацелася, і іх пераносілі з семестра на семестр. Ім не было куды дзяваць час, і такія студэнты аб'ядноўваліся ў карпарацыі.

Кожная карпарацыя мела свой клуб-шынок. Дні і ночы «залатая» моладзь праводзіла ў бестурботных п'янках і спрэчках — хто мае ў сабе больш блакітнай крыві. Часамі па прыкладу нямецкіх буршаў яны біліся на шпагах.

Ва ўрадавых колах лічылася, што карпаранты — носьбіты нацыянальных традыцый, і ім ствараліся ўсе ўмовы для вясёленькага жыцця. А гэтыя абібокі не ведалі, куды дзяваць татавы і дзяржаўныя грошы, за нацыянальныя звычкі выдавалі самыя горшыя звычкі і манеры колішняй шляхты.

Любецкі належаў да карпарацыі батораўцаў, бо наведваў клуб «Баторыя».

5

Міналі дні, а я не мог забыць слоў Станеўскага. Нейкая сіла цягнула ў шынок карпарантаў. Некалькі дзён я хадзіў каля «Баторыя» і заглядаў у вокны.

Нічога не мог даведацца!

— Альбінас,— нарэшце не вытрымаў я і папрасіў Суткуса,— дапамажы. Баюся, што мяне аднаго адлупцуюць там... Не пытайся ні пра што — таямніца. Твая справа будзе пастаяць на варце, а спатрэбіцца — выручаць.

— Магу! — адразу згадзіўся дружны літовец.

Вярнуўшыся з курсаў, я павячэраў, паклаў у кішэню наган і пайшоў. У скверы ля «Баторыя» мяне ўжо чакаў сябар.

— Ну, давай работу. Вось мае рукі, вось я сам — і рабі што хочаш з намі!..

— Ясна. Так і сядзі. Спатрэбішся — буду крычаць! — накіраваўся я ў дзверы.

Але лёгка сказаць — накіраваўся.

У дзвярах мяне сустрэў барадаты волат з залатымі лампасамі. Ён паглядзеў з такой надменнай важнасцю, што ў мяне ёкнула сэрца. Бытта не сваёй рукой я працягнуў старому манету — карпарантаў ён ведаў усіх з твару і мяне ўпускаць не меў права! Але швейцар са спрытам цыркавога фокусніка манетку перахапіў і, не збаўляючы важнасці, панёс на вешалку маё паўпальтка. Я пасмялеў і пакрочыў у залу.

У памяшканні стаяў страшэнны гармідар. Паветра так было напоўнена віннай парай, што не прадыхнуць. Карпаранты цягнулі «Gaudeamus igitur!». Усе былі незнаёмыя, і я адправіўся далей.

У суседняй зале карпаранты пілі, елі, а іншыя блукалі без мэты і задзіраліся, як пеўні.

У адным месцы спойвалі хлапца. Яму падносілі піва. Хлапец перакульваў куфель, ставіў пустую пасудзіну на стол, пстрыкаў па ёй, і куфель са звонам ляцеў на падлогу.

— Го-го-го-го! — выбухаў дружны рогат.

— Давай яшчэ!

— Яшчэ нясі! — загадвалі афіцыянту.

— Каму сказана? Нясі, хлоп!..

Ля стала валялася горба бітага шкла.

Дарма я трымаўся ўвесь час бліжэй да дзвярэй і акон. Некаторыя былі п'яныя да такой ступені, што наўрад ці бачылі каго-небудзь у зале. А для тых, якія яшчэ трымаліся, я быў чалавекам, перад якім можна парысавацца. Ліха яго ведае, чаму ў п'яных такая прага парысавацца?.. Не падаючы і віду, што бачаць чужога, яны спецыяльна павышалі галасы, крыўляліся.

Непрыемна цвярозаму чалавеку глядзець на п'яных. І я паспешліва пачаў шукаць вачыма таго, хто мяне цікавіў. Нарэшце знайшоў.

У канцы вялізнай залы быў памост. На ім двое студэнтаў са шпагамі рыхтаваліся да бою. Любецкі стаяў са шпагай побач. Я прабраўся бліжэй.

Белая, як у паненкі, рука Браніслава трымала бліскучы дубец, на канцы якога быў надзеты гузік. Калі студэнт дакранаўся металічным прутам да другой шпагі, непрыемна звякала, бытта шпагі былі бляшаныя. Дакладней, гэта было крыху падобна на звяканне кос. Усё тут нагадвала ігру статыстаў у тэатры. Куды ім з выхаленымі рукамі да сапраўднага спорту. Ім патрэбны толькі драпіны на твары, каб потым хваліцца перад паненкамі.

Я выбраўся на вуліцу.

— Ведаеш,— пачаў я хлусіць Суткусу,— таго чалавека, як на злосць, няма. Адно Станеўскага спаткаў...

— О! ррупужэ, дзе гэтага хлюста няма!

— І пускаюць жа да сябе такога паны, глядзі?

— Думаеш, за так? Ён там мае цвёрды абавязак: падаваць шпагі панічам і чапляць гузікі на вастрыё, каб сталь не калолася!

## 6

У другой палове студзеня пачаліся ўнутрышкольныя сустрэчы баксёраў. Я з такой лёгкасцю перамагаў сваіх праціўнікаў, што яны ў маёй памяці не пакінулі і следу.

І вось надышоў дзень, калі паміж нацягнутых канатаў я павінен быў зноў сустрэцца з вузкалобым — адзіным у Вільні праціўнікам, якога я баяўся.

— Сапраўдная гарыла! — казалі аб ім тыя, хто першы раз баксёра бачыў.

Капрал пры сваім невялікім росце — сто семдзесят чатыры сантыметры — меў шырачэзныя грудзі — аж сто трыццаць у акружнасці! У гэтай скрыні, а не груднай клетцы, памяшчалася сэрца, якое не ведала стомы, а цела і мускулы здаваліся жалезнымі. І калі іншым людзям такіх якасцей трэба было дабівацца трэніроўкай — яму гэта дала прырода. Доўгія рукі вайскоўца былі аднолькава моцныя — і левая, і правая.

Думаеце, выпадкова, што ні адзін вулічны задзіра не стаў чэмпіёнам па боксе? На рынгу чалавек як на далоні. На агароджанай канатамі арэне рысоўка не паможа, бо

там няма куды ўвільнуць, няма кім засланіцца. На брызенце вас двое: ты і твой праціўнік, і, для таго каб яго перамагчы, мусіш спадзявацца толькі на сябе.

Па тым, як у такую хвіліну баксёр дае сабе рады, як сябе паводзіць, можна беспамылкова вызначыць характар чалавека.

У вайскоўца было штосьці бяздушнае, подлае і, бадай, звярынае. Пры дапамозе замаруджаных кіназдымкаў сусчасным вучоным удалося ўстанавіць, што жаба робіць скіміцамі амаль чатыры тысячы жавальных рухаў ні то ў мінуту, ні то ў секунду! Іншыя вучоныя падлічылі сілу жабіных ног. Гэтая, так груба створаная прыродай, істота можа скочыць на адлегласць у дваццаць разоў большую за даўжыню свайго цела! Але якія б лічбы гэтыя ні былі вялікія, яны халоднай і барадаўчатай жабе ані крыху не прыбаўляюць інтэлекту і не выклікаюць у нас да яе сімпатыі. Таксама сіла і мускулы капрала не паднімалі ў нашых вачах яго аўтарытэту. Рыжага мы нават не лічылі за чалавека.

Не любіў капрала і трэнер.

— І носіць жа такога зямля на сабе! — бывала, у вочы яму гаварыў Левандоўскі ды ківаў галавой: — Скажы, Болек, няўжо і ў цябе была маці?

Але вочы капрала нічога не выражалі.

Іронія лёсу! Ён, як і я, паходзіў з беларускай вёскі, толькі з глухой, забітай. Трапіў у Вільню, да войска, і тут у яго адкрылі талент баксёра. Але гэта яму не пайшло на карысць. Рыжы зрабіўся выскачкай, эгаістам і за хвіліну славы не палічыўся б нават з родным братам.

Былі ў яго і слабыя месцы. Некалі на рынгу капрала моцна стукнулі па галаве, і ў яго наступіла зрушэнне мазгоў. Вось чаму ён быў неахайны, тупаваты, заікаўся ды яшчэ да таго ж — не надта паваротлівы.

Асабістую асалоду для капрала прыносіў здзек з навічкоў. Ён спачатку прыкідваўся няўмекам, гуляў з ахвярай, як кот з мышшу, а потым «выпісваў» узоры на тварах тых, хто трапляў яму на «апрацоўку».

Чамусьці я мала памятаю, пра што гаварыў са мной Рыжы, але ніколі не забуду яго тактыкі. Бывала, гора, калі ты зазяваешся, і не дай бог табе спатыкнуцца! У гэты момант ён абавязкова не праміне ўдарыць цябе кувалдай-рукавіцай (баксёр-цяжкавагавік б'е з сілай пяцьсот кілаграмаў!). А калі суддзя не бачыў, ён прымяняў фокусы і мудрэйшыя. То бытта ненарокам пырне табе пальцам у

вока, то падставіць нагу, а схопішся ўпрытык — націсне рукой на горла, каб заняло дыханне...

Памалу я навучыўся расшыфроўваць намеры Рыжага, прызвычаіўся да яго фокусаў і прымусіў лічыцца з сабой.

— Брава, Барташэвіч! — паціху, каб не чуў капрал, падбадзёрвалі мяне члены секцыі, жадаючы, каб я добра даў ненавіснаму рыжаму тыпу.

Я іх разумеў. Кожны чалавек з маёй групы прайшоў праз яго рукі. Але і я не забыўся, як яны пацяшаліся з мяне, а таму і не надта прыслухоўваўся, што яны гавораць.

Відаць, у кожнай вялікай справе патрэбны перш за ўсё сумленнасць і вера, што ўсё будзе па-твойму. Гэта і вызначыла мае паводзіны ў той час.

Мая ўпэўненасць і ўпартасць збівалі праціўніка з панталыку. Адчуваючы, што яго песня спета, вузкалобы знарок пазбягаў сустрэчы. Распускаў пра мяне плёткі, абзываў яўрэйскім парабкам — любімай мянушкай шавіністаў. Гэтым ён хацеў дыскрэдытаваць мяне і дабіцца, каб я не выйшаў у фінал. Але Левандоўскі не паддаваўся на правакацыі, і ад сустрэчы са мной капрал не мог ухіліцца — круці не круці!

7

У агромністую залу спартыўнай школы сышлася процьма народу. Памятаю чорную бездань залы, цікаўныя позіркі, накіраваныя на мяне знізу, асляпляльнае святло юпітэраў — нас здымалі для кінахронікі.

Пакуль мы на рынгу віталіся, адказвалі на пытанні і рыхтаваліся да сустрэчы, я паспеў некалькі разоў зірнуць у залу, туды, дзе сядзела найбольш паненак. Здалося, што я пазнаў пару расшыраных ад жахлівага чакання вачэй, яны мяне як бы акрылілі, і я ўпэўнена ступіў насустрач гарыле.

Капрал набліжаўся асцярожна і ўвесь сабраны, нібы хацеў учапіцца мне ў горла зубамі. Золатам пераліваўся ў электрычным святле вожык вайскоўца, а яго рыжае цела бліщчала, бытта абсыпанае жоўтым нафталінам. Я чакаў вузкалобага з ціхай радасцю.

«Бліжэй, бліжэй, дубіна, зараз ты ў мяне атрымаеш!..»

Калі не лічыць нездаровыя дрыготкі і лёгкае галавакружэнне, я быў у добрай форме.

— О, гэта дык гэта!

— Ну і калосы два!

— Такі як упадзе, памост праваліцца! — несліся выкрыкі з задніх радоў: нашае спаборніцтва для іх усяго цікавае відовішча.

Эх, людзі, шкада, што вы бачыце баксёраў толькі звонку.

— Дзэн-н! — рэзка прагучала медзь гонга, і мы адразу перайшлі ў атаку.

Ад секундантаў я адмовіўся: у баі ў мяне былі свае меркаванні, свая мэта, і я сам буду перамагаць. Няпрошаным памочнікам вызваўся быць Левандоўскі.

— Асцярожна! — кінуў ён знізу.

Я адмахнуўся локцем.

— К-кам-муніст прак-кляты! — пракрычаў ля майго вуха капрал, калі мы счапіліся ўпрытык.— Я ц-цябе стаўку на г-горкі яблык, можаш быць п-пэўны!

Рыжы хацеў перацягнуць на свой бок публіку, не ўсё роўна, як да баксёра адносяцца ў зале. Але на задніх радах людзі яшчэ толькі ўсаджваліся, і капрала мала хто чуў.

— Паспрабуй, заіка! — прыняў я выклік, набіраючыся злосці.

І з лёгкасцю адбіў першую атаку, са здавальненнем адчуваючы, які я ўвесь спрытны і сабраны.

— Давай, давай! — нецярпліва гулі людзі.

— Бартэк! — крычалі мае балельшчыкі цывільныя.— Толькі адважны будзь, і ты пераможаш!

— Адразу ■ левай кацапа! — раўлі нядобразычліўцы-салдаты і капралы, ускакваючы з месц.

— У пашчэнку яго!

— Гукам! Гукам!..

У зале людзі раздзяліліся на два лагеры. Маіх балельшчыкаў-цывільных было больш.

Для гледача раунд праходзіць надзвычай хутка. Але ж — ой як доўга цягнуцца гэтыя тры мінуты для баксёра ў цеснай клетцы рынга! Колькі ён, небарака, перажывае за сто восемдзесят секунд, якім, здаецца, ніколі і канца не будзе!

А колькі за гэты час прамільгне ў яго перад вачыма вобразаў, успамінаў.

Мой праціўнік зноў наблізіўся ўпрытык. Карыстаючыся тым, што суддзі супакойвалі балельшчыкаў, ён цыркнуў мне слінай у вочы. Вузкалобы хацеў мяне асляпіць ці вывесці з раўнавагі, але я не аслеп і на зачэпку не паддаўся.

— Ужо ваду пускаеш! — пакпіў я толькі.

Тады ён прымяніў трук неспадзяваны. Калі мы сышліся трэці раз, Рыжы замахнуўся правым сярпом, знарок абмінуў цэль, а потым, нібы адводзячы назад руку, трэснуў мяне локцем у пераносіцу. Ну, з мяне было дастаткова!

Ва мне абудзілася страшэнная злосць. І я з усяе моцы ўдарыў вайскоўца ў дыяфрагму.

— Ух! — выдыхнуў ён і адступіў, выставіўшы доўгія ручышчы, як упоры, каб трымаць мяне на дыстанцыі. Але я быў дужэйшы і цяпер умеў карыстацца сваёй сілай.

— Гу-у-у! — зараўла аўдыторыя, калі Рыжы першы раз апынуўся на брызенце ў накдаўне.

— У куток! — пагнаў мяне суддзя, бачачы, што я ўжо раз'юшыўся.

Суддзя стаў адлічваць секунды, а я толькі стаяў і не верыў сваім вачам: няўжо гэта ў мяне пад нагамі валяецца ненавісны Рыжы?

Валяўся ён!

— Не падабаюцца мне твае фіялетавыя плямы,— кінуў знізу Левандоўскі.— Нібы ў саракагадовай бабы на вятру!..

— Глупства! — адмахнуўся я рукавіцай.

— Толькі спакойна! Толькі, прашу цябе, не пары гарачкі, не зазнавайся! — маліў трэнер.

— Ладна, як яно ўжо бу-удзе!..

— Сем, восем... Но, пайшоў, бокс! — загадаў суддзя капралу, калі той быў ужо на нагах.

Але тут прагучаў гонг, і мы пайшлі адпачываць.

Аб'явілі пачатак другога раунда, і ў зале закрычалі:

— Куды Рыжы ідзе, глядзіце!

— Гарыла, пашлі каго прынесці падушкі, каб мякчэй было падаць табе!

— Волат, не шкадуй яго, бэнцні ў сківіцу яшчэ раз! Толькі адзіны раз!

— Болек, пся крэў, дзе твая форма?! — патрабавальна раўлі вайскоўцы.

— Морду набіць табе мала!..

Рыжы раззлаваўся, перастаў валодаць сабой і бяздумна палез на мяне, абдаючы хваляй церпкага поту. Ага, гатоў, галубок!..

Да канца другога раунда я адводзіў сваю душу. За кароткі час капрал падаў некалькі разоў. То на пяцёрцы паднімаўся, то на тройцы, то на двойцы, то стаяў нават

на каленях — я гульню гэтую знарок цягнуў, каб нацешыцца.

— Дзэн-н! — нечакана прагучаў гонг.

Ладна, у трэцім раўндзе цябе даканаю.

— Во, глядзі сюды! — сказаў я Рыжаму і ткнуў нагой у месца, дзе калісьці я першы раз упаў на брызент.— Ляжаш тут зараз як міленькі!

Але са мной пачало адбывацца нешта нядобрае.

Неспадзявана заімгліліся вочы. Спачатку я падумаў, што гэта ад поту, і падаўся ў куток на адпачынак. Ды рапітам мяне апанавала дзіўная млявасць, зала з людзьмі загойдалася. На хвіліну здалося, што я лячу ў паветры і мне надзвычай хораша, а нешта салодкае ды цёплае разліваецца па жылах. Потым стала ціха, і я ўжо не чуў, як грымнуўся на памост.

8

Апрытомнеў я ў гардэробе. Нада мной схіліліся людзі.

— Гэта ў яго ад голаду. Аслаб. Нічога страшнага, зараз пройдзе, малады, здаровы! — па-мужчынску скупа гаварыў Левандоўскаму ўрач у белым халаце, трымаючы мяне за пульс.

— Але ж дзіўна! Ён так выдатна правёў два раўнды!

— На нервах,— нездаволена буркнуў доктар.— На вайне людзі ў стане нервовага ўзбуджэння без ног нават хадзяць. Нічога тут няма дзіўнага — сіла эмоцый!

— Янэк, ну як! — убачыўшы, што я расплюшчыў вочы, з дакорлівым спачуваннем спытаўся трэнер.

Я вінавата нешта прамычаў ды паспрабаваў узняцца з канапы — але дзе там! Цела было нібы чужое, у галаве памутнела зноў.

— Ляжаць! — сурова загадаў урач, схапіў мяне за плечы ды прыціснуў да канапы.

— Хіба ж у цябе не было чаго есці? — шчыра здзівіўся трэнер.— Твае ж бацькі — гаспадары, маюць зямлю!.. Чаму ты мне не гаварыў ніколі, што галадаеш? Знайшлі б спосаб, каб не галадаў!

Я толькі пакруціў галавой.

— Ну, хопіць ляжаць. Уставай і скончы сустрэчу з капралам!

— Пра гэта не можа быць і гаворкі! — катэгарычна заявіў доктар і напаў на трэнера: — Вы сваіх спартсменаў хоць бы кармілі перад выступленнямі, інакш пазаганяеце ў сухоты. Гэта ўжо не першы выпадак!

— Божа свенты, такую сустрэчу змарнаваць і аддаць першынства гэтай смярдзючай гарыле! — не ўнімаўся Левандоўскі, у адчаі хапаючыся за галаву.— Пане Ліпец, можа, дасце ўкол, каб ён вытрымаў яшчэ адзін раунд? Адно адзін! На Захадзе допінгі — звычайная рэч!

— Як урач зрабіць гэтага не магу! — катэгарычна адказаў доктар, шукаючы ў мяне пульс.

— То што ж будзе? — спытаўся я ў трэнера шэптам.

— Нічога. Усё прапала. Да наступнага года, мой дарагі, разумееш?

Давялося зразумець.

За сцяной увесь час стаяў страшэнны свіст і грукат. Прыбег пажарнік і закрычаў:

— Пане трэнер, пане доктар, ідзіце хутчэй!

— Што там яшчэ?

— Цывільныя счапіліся з вайсковымі. Рынг разламваюць! Суддзяў б'юць! Ратуйце іх!

— У чым справа?

— Аб'явілі капрала пераможцам, вось яны ўсе і рынуліся на памост! Вяроўкі паразрывалі, прэнты выкручваюць! Капрала прыціснулі ў праходзе, здзерлі майку і піўной бутэлькай галаву расквасілі!

Доктар схапіўся ды паляцеў у залу.

— Нічога,— вяла праказаў Левандоўскі.— Паліцыя сама навядзе парадак, там жа ёсць іх група... Янэк, ты плачаш?

— Не...

Я адвярнуўся тварам да сцяны, а ў самога перад вачыма — вузкалобы, якому суддзя на рынгу паднімае руку ў знак перамогі.

Усе спадзяваліся, што пасля спаборніцтва ваявода прыме ў сябе пераможцаў. Мая фантазія ўжо малявала, што я, нібы той беларускі паэт мінулай восенню, сустракаюся ў ваяводы з Янкоўскім. А цяпер... На табе!

## 9

Хоць і няёмка прызнавацца ў такіх рэчах, але, як кажуць, з песні слоў не выкінеш. Пасля кожнай трэніроўкі ў мяне абуджаўся такі апетыт, што я адчуваў страшэнныя пакуты.

Грошы, якія прысылалі бацькі, цяпер ішлі на плату за курсы. Харчаваўся я тым, што прыходзіла ў пасылках з дому спачатку раз на тыдзень, а цяпер адзін раз у два тыд-

ні. Я акуратна дзяліў усю ежу на чатырнаццаць частак, але ніколі не вытрымліваў. І сыты бываў адно першы тыдзень.

Часам на трэніроўцы, бачачы, як тыя, у каго шаўковыя майкі, трусы з кішэньчыкамі, модныя тапачкі, хрумстаюць з апетытам шакалад ці халву, я адчуваў, як у мяне сцягвала сківіцы, па целе прабягалі дрыготкі, а скура рабілася вялай. Але я не паддаваўся і цешыў сябе— даб'юся свайго, ад'емся.

Пасля апошняга матча з капралам плёўся я па вуліцы Міцкевіча і ў кожнай паненцы ў гімназісцкім паліто з футравым каўняром бачыў генералаву дачку. Як на злосць, паненак такіх спатыкаў многа: была нядзеля. І зноў мае мары аб Дануце здаліся мне наіўнымі і беспадстаўнымі. Стала сорамна за фатаграфію ў кішэні. Я выняў яе з вокладачак, а цэлафан з бліскучай рамкай схаваў у кішэню назад.

«Вось і ўсё!» — сказаў пры гэтым, стараючыся ўздыхнуць з палёгкай.

«Ой, штосьці не верыцца. Каторы раз ты ўжо заракаешся!» — горка ўпікнуў мяне ўнутраны голас.

«Не-е, гэты раз — апошні!» — запэўніў я сваё сумленне.

Фатаграфію парваў на дробныя кавалачкі, і зімовы вецер пагнаў папяровую сечку па снезе.

# Частка другая

## Раздзел першы

### 1

Цэлую зіму з маёй галавы не выходзіла Дануся, і я не меў спакою з-за яе ні дня, ні гадзіны, ні мінуты. А потым усё перамянілася, як бывае толькі ў казках або ў сне. Цяпер і самому не верыцца, што магло ўсё так проста вырашыцца.

У маім жыцці атрымлівалася гэтак не адзін раз. Бывала, хачу чаго-небудзь дабіцца, складу план, пачну дзейнічаць, але ці таму, што гарачуся, ці план мой занадта утапічны, усё, мною створанае, паўстае супроць мяне, а вынік адзін — я аскандалюся. Потым тое, дзеля чаго лез на ражон, прыходзіла нечакана лёгка, само сабой, калі яго я ўжо і не чакаў. Так здарылася і цяпер.

Але не буду забягаць наперад, раскажу ўсё па парадку.

### 2

Надышла вясна — ранняя, цёплая, з навальніцамі, нібы ведала, што апошні раз перад вайной цешыць людзей. Ужо ў сакавіку зазелянелі травы, у красавіку дрэвы пусцілі лісце, і генеральскі панадворак нагадваў пышны кветнік буйной і сакавітай зеляніны. Я не спускаў з яго вачэй.

У гэты дзень, нічога не падазраючы, сабраўся я ісці ў краму. Працу знайшоў яшчэ тры месяцы таму назад.

У тыя часы сельскагаспадарчыя прадукты збыту не мелі. Каб прадаць кілаграм масла або літр малака, чаго толькі людзі не прыдумвалі! І вось адзін афіцэр запасу, нехта пан Матыка, сябар Левандоўскага,— ён ля горада меў маёнтак,— ухітрыўся выраблядь малако з павышанай да дзесяці працэнтаў тлустасцю. Каштавала такое малако дорага, але на яго пакупнікоў хапала.

Адразу пасля няўдалага матча трэнер падказаў мне, што пану Матыку патрэбны разносчыкі, і даў мне яго адрас.

Я наняўся на работу. І цяпер кожную раніцу разносіў па багатых кварталах сотню поўных бутэлек, якія фурман пана Матыкі прывозіў з вёскі яшчэ да світання. За гэта я атрымліваў дваццаць злотых у месяц і кожны дзень бутэльку выдатнага малака. Цяпер я быў не галодны і багаты...

Такім чынам, я накіраваўся ў краму. Там купіў хлеба, бульбы, цукру і, прыціскаючы ўсё да грудзей, падаўся дадому. Каб не разарвалася папера і не высыпалася бульба, вымушаны быў крочыць памалу, асцярожна. Вузкая дарога між высокіх платоў ішла на гару. Мяне часта апярэджвалі людзі. Я заняў тратуар у адну плітку. І каб абагнаць мяне, людзі скакалі праз вадасцёкавы равок на брук, нездаволена бурчалі, а я вінавата маўчаў.

У адным месцы першакласніцы напісалі крэйдай на тратуары задачу і спрачаліся. Толькі я асцярожна абмінуў дзяўчынак, як раптам пачуў:

— Прабачце!

— Калі ласка! — адказаў я механічна, павярнуў галаву і сумеўся. Побач — прыціснутая мною да плота — Дануся!

Я адступіў, як мог, убок.

— Дзякуй! — кінула паненка і ўзняла вочы.

Не, гэтага моманту апісаць нельга, яго трэба бачыць.

Яна паглядзела на мяне так, як можа глянуць дзяўчына толькі адзін раз і ў пэўную пару. Я адчуў у паненцы маладую і здаровую кабету. У яе позірку было штосьці жаноча-прыхільнае, блізкае , заманліва-роднае і гуллівае. Адначасова ў глыбіні вачэй я заўважыў трывожны неспакой і выклік.

Ля брамкі Дануся паправіла ззаду берэт, абцягнула форменны фартушок і азірнулася яшчэ раз. Цяпер яна проста какетліва і крыху па-дзіцячы ўсміхнулася.

— Пхі! — чагосьці яшчэ пырснула нават і паляцела.

— Ты паглядзі!.. — вырвалася ў мяне здзіўленне.

Пастаяўшы крыху, я падаўся дадому, адчуваючы, як у мяне вырастаюць крылы, як маю істоту залівае нейкая шчаслівая радасць і ўпэўненасць, а грудзям робіцца прастарней дыхаць.

Вось цяпер, у гэтую хвіліну, штосьці адбылося. Што — я яшчэ не ведаў і сам, толькі разумеў: адбылося напэўна і — надта важнае!

## 3

Нядаўна ў маёй гаспадыні курыца вывела ў кошыку куранят. Калі я з пакункамі вярнуўся з крамы і зайшоў на кухню, там стаяў неверагодны піск.

— Глядзі, глядзі! — пазваў сястру маленькі хлопчык, унук прачкі.— Глядзі, дзядзя Ваня!

Я зірнуў туды, куды паказваў малы. Адно кураня ўпарта дзяўбло на падлозе сонечны зайчык, які падаў ад шыбы.

— Во! — прамянеў хлопчык, шчаслівы ад свайго адкрыцця.

Першы раз за восем месяцаў мы з хлопчыкам зразумелі адзін другога і рассмяяліся.

«Яны добрыя дзеці! Завошта я іх так не любіў і праганяў ад сябе?!»

— Пане Барташэвіч, стаўце абед, я пакінула вам месца на пліце,— сказала прачка.

— Потым навару, калі наварыце сабе вы!

— Занадта раскошна будзе! А дровы, думаеце, мне дарма хто выдае?!

Аднак мне было не да ежы.

«Ідзі ты, жмінда, да д'ябла!» — кінуў я на стол пакункі і пайшоў на двор.

Яшчэ некалькі хвілін таму назад я быў вялы і абыякавы, галаву меў цяжкую — хацелася спаць. Цяпер усё гэта бытта рукой зняло. Я па-сапраўднаму адчуў вясну з усімі яе пахамі, птушыным шчабятаннем. У вушах павясенняму звінелі кураняты. Яны нагадалі мне вёску, сіняватую рунь яравых, а за агародамі — луг, пакрыты ўжо лотаццю такой далікатнай жаўцізны, што дзіва брала, як гэткая прыгажосць можа ўжывацца з бруднай цінай.

Колькі часу я тады вартаваў на сваім панадворку, не адводзіў ад суседзяў вачэй, не памятаю.

Нарэшце за сеткай з'явіўся генерал. Ён цяпер быў у піжаме. Чорныя, пад Пілсудскага, маржовыя вусы яго грозна апускаліся ўніз. Гектар ляніва цёрся аб генералавы ногі. Данусін бацька, не спяшаючыся, абышоў клумбу, падняў грудку зямлі і адкінуў убок. Тады пад кранам спаласнуў рукі. Грудка магла сабе ляжаць, дзе ляжала, аднак генерал адкінуў яе, бо прыемна было яму адчуваць пахучую зямлю, халаднаватую ваду — іграць ролю гаспадара, наводзіць парадкі. Ён ствараў уражанне чалавека стомленага, занятага клопатамі, якому, дзякаваць богу, выпала вось хвілінка перадыхнуць.

І генералам жывецца нялёгка?!.

— Кубусь! — пазваў ён як чалавек, які прызвычаіўся, што кожнае яго слова пачуюць тыя, да каго звяртаецца.

— Естэм, пане генерале,— з'явіўся на парозе прыгажун ад'ютант.

— Пошту прынясі!

— Слухам, пане генерале!

Ад'ютант вынес крэсла-раскладушку і рознага фармату канверты. Генерал пакасіўся на галчыны гнёзды, выбраў месца далей ад іх ды сеў на раскладушку. Тады ён разарваў вялізны канверт, разгарнуў, як прасціну, газету і замёр. Ля ног гаспадара прымасціўся Гектар. Па загалоўку я ўбачыў, што газета замежная. Генерал глядзеў у яе заклапочана, насцярожана, трывожна хмурыўся, як хмурыліся тады, гледзячы ў газеты, мой бацька і ўсе старэйшыя людзі.

Я доўга назіраў, а генерал усё чытаў. Дзіва. Я праглытваў старонкі газет з бесклапотнай асалодай, а для генерала чытанне іх — складаны рэбус, цяжкая работа. Часамі ён нешта крэсліў алоўкам на паперы, неспакойна варушыўся, соп, бурчаў, ківаў галавой і час ад часу лаяўся ўслых:

— Ах, пся крэў, хо-ле-ера я-асна!.. То неможлівэ!..

— До пе-ру-на!..

— А-яй-яй, но, про-ошэ!..

Нарэшце Гектару надакучыла з гаспадаром. Сабака ўстаў і пайшоў за дом. Мне здалося, што там ёсць абавязкова нешта цікавае і для мяне. Я асцярожна пачаў прабірацца ў канец драцяной сеткі.

За ўвітай дзікім вінаградам агароджай пачуліся дзявочыя галасы. Я стаў на пянёк і зазірнуў цераз вінаград. Там загаралі Дануся з Бэтай.

Яшчэ ў спартыўнай школе я доўга не мог прызвычаіцца да хлопцаў у майках і трусах. У нас на вёсцы паказаць голае цела можна было адно ля ракі. Нават стары дзед, косячы на балоце, накідаў на сябе зашпіленую на ўсе гузікі кашулю і белыя порткі. А тут у цэнтры горада ў адных купальных касцюмах бессаромна валяліся жыватамі ўніз паненкі, надзеўшы на галовы папяровыя каўпакі і наклеіўшы на насы лісты бэзу. Дануся нешта ўголас чытала, а Бэта слухала. Яшчэ яны бестурботна памахвалі ў паветры ружовымі пяткамі.

На мяне гыркнуў Гектар, і я ўцёк.

— Ідзіце, я вам нагатавала супу! — паклікала гаспадыня.

— Дзякуй...

— Унь, я наліла ўжо!

— Ладна. Мне не хочацца яшчэ есці!..

— Ой, што з вамі, Янку, вы не захварэлі часам? Штосьці вы з раніцы сам не свой!..

Але я кабету не надта слухаў. Мне не верылася, што сёння сустракаўся перад брамкай з Данусяй. Але ж гэта быў не міраж!.. Падрабязнасці сустрэчы так і стаялі перада мной. Толькі не прападаць жа страве, і жанчына прывязалася як смала!.. Вельмі неахвотна я накіраваўся дадому.

4

Назаўтра вярнуўся я з работы а дзевятай гадзіне раніцы і пайшоў па ваду. Яе бралі ў глыбокім яры. Там, дзе была студня, горы ўтваралі маляўнічую цясніну, панавалі цішыня і спакой, бытта цясніна была ў глухім полі.

Яшчэ здалёк я ўбачыў, што побач з цэментавым кругам стаіць новенькая эмаліраваная пасудзіна з ручкай: высокая, унізе шырэйшая, а ўверсе вузенькая, з раструбам. Але я не звярнуў на яе ўвагі. Мала хто мог паставіць. Горад. Навокал тысячы людзей. Паставіў і возьме, калі будзе трэба.

Нічога не падазраючы, падышоў я да студні і пачаў прывязваць да вядра вяроўку.

— Дзень добры! — раптам пачуўся крыху як бы знаёмы голас.

Я аж уздрыгануў ад нечаканасці. На адхоне стаяла Данусля і трымалася за ствол клёна.

Я марыў сустрэцца з ёю ў фае тэатра, у краме, на параходзе, нават на самалёце, калі зраблюся славутасцю. Марыў спаткаць яе ў доме ваяводы пасля таго, як перамагу рыжага капрала. Падрыхтаваў нават словы, з якімі звярнуся да яе. Але спаткацца гэтак?..

— Гэта вы-ы? — вырвалася ў мяне.— Сэрвус...

Я разгубіўся дарэшты, не ведаў, што рабіць і што гаварыць, падрыхтаваныя словы ніяк не падыходзілі. Мяне апанаваў нейкі жах. Хацелася даць драла, але ногі бытта анямелі, нібы прыраслі да зямлі.

— Пан дазволіць сваёй вяроўкі, калі дастане сабе вады? — папрасіла яна і пажалілася: — Я не ўзяла!

— Вазьміце...

— Думала, хто-небудзь будзе тут абавязкова... Прыйшла, чакаю, чакаю, і ніхто, як на злосць, не з'яўляецца. Таму, мусіць, што нядзеля. Першым прыйшоў пан...

— Бярыце...— паўтарыў я няўпэўнена, стрымліваючы ў сабе радасць, што Дануся звяртаецца да мяне за дапамогай.— Вы носіце адгэтуль ваду таксама? У вас жа свой водаправод! — ускрыкнуў я з папрокам і адразу ж спалохаўся.

— Мы бяром тут ваду для таты.

— ...

— Доктар прыпісаў яму піць яе, тут солей багата...

— А-а...

Дануся, падтрымліваючы рукамі падол просценькай сукенкі, зляцела да мяне з гары.

Белую кашулю раніцой я вымыў і развесіў на плоце сохнуць, а апрануў вышываную — з-за ідыёта-«прафесара» толькі і заставалася насіць у ёй ваду.

— Гы!.. — паненка нібы спатыкнулася, убачыўшы зблізку маю вышыўку.— О-ей, якая прыгажо-осць, як цудо-оўна!..

Я разгубіўся, і яна адвяла вочы. З цікавасцю заглянула ў студню, закрычала:

— Глядзіце, яшчэ лёд!

— Бо паміж гор. У гэтую цясніну сонца мала заглядае,— пачувальна растлумачыў я.

— Та-ак?

Я ўжо спахапіўся. Калі надарылася магчымасць спаткацца са сваёй багіняй, то трэба гаварыць інакш. Але пра што?

Мы крыху памаўчалі. Можа, я сплю?..

Я ўважліва паглядзеў. Дануся стаяла бокам. Яе маленькае вуха і шаўкавістыя валасы, асветленыя сонцам, былі блізка ад маіх вачэй. Над верхняй губой у паненкі залаціўся ледзь прыкметны пушок. Твар яе быў крыху смуглы ад лёгкага загару...

Не, я не сніў і ўсё адбывалася наяве.

Недалёка ляжаў ляшчынавы кій. Паненка яго падняла і нязграбна пасунула ў студню:

— Моцна ён яшчэ трымаецца?..

З глузду з'ехала? Гэтага яшчэ не хапала!..

— Насыплецца ў ваду! — перахапіў я кій.

— О-ей, прабачце! — вінавата праказала яна, назіраючы з пашанай, як я вымаю з кішэні газету, абціраю ляшчыну.— Дакладна зрабіў бы так мой тата...

— Цяпер можна,— аддаў я кій.

— Дзякуй...

Дануся пачала адколваць край ледзянога шэрага ды залізанага вадой наздраватага абруча, што нейкім цудам трымаўся на абымшэлых цэментавых сценах калодзежа.

— О-ей, нібы з жалеза! Як камень!

— Так нічога не будзе! — адабраў я ляшчыну зноў, засадзіў яе паміж зялёнай сценкай калодзежа і лёдам ды лёгка абрушыў яго ў ваду.

— Ух-х! — ускрыкнула яна, калі ў калодзежы плюхнула. Яе вочы заблішчалі шчырым захапленнем.

Зблізу паненка была прыгажэйшай, чым я сабе ўяўляў. Яе твар нібы прамянеў нейкім святлом, ад чаго я не мог на яе доўга ўзірацца. Гэта мяне надта бянтэжыла. Скоўвала ўсведамленне, што перада мною — чалавек з іншага свету.

Дануся, мабыць, адчувала, што робіцца ў маёй душы, і гаварыла як з роўным, не заўважаючы маёй збянтэжанасці і памылак у польскай мове.

— Ну, даставайце! — заахвоціла паненка, бытта я меўся рабіць нешта незвычайнае.

Я закінуў на гару кій, прывязаў вяроўку да свайго вядра, выцягнуў адно, потым другое. Дануся ўсё глядзела. Ліха на яго, такое глупства можа выклікаць у чалавека шчырую цікавасць?!.

Я адвязаў вяроўку. Падаючы яе, запрапанаваў:

— Ну!

Дануся разгубілася і не магла даць рады вяроўцы.

— Зараз! Я хутка!..— цвярдзіла яна.

Тонкія і жывыя пальцы паненкі доўгі час бездапаможна перабіралі тоўстую вяроўку, канец якой намок і стаў тугі ды непадатлівы, нібы карабельны канат. А калі нарэшце яна зрабіла нязграбны вузел, эмаліраваная пасудзіна не хацела ў студні тануць.

Толькі цяпер я падумаў, што трэба дапамагчы, і запрапанаваў:

— Ану, я!

— Сама ўмею!

— Так я і паверу!

— Але ж — даставала!..

— Э-э!..

— Праўда, праўда! — ледзь не плакала яна з крыўды.— Як бога кохам, даставала!

— Ла-адна, паве-ерым! — кінуў я паблажліва, бесцы-

рымонна адабраў канец вяроўкі і перадражніў яшчэ нават: — «Уме-ею», «Сама-а», «Як бога ко-охам!..»

Выцягнуў пасудзіну, выкінуў з яе трэсачку, наліў вады са свайго вядра.

— Дзякуй пану! — сказала Дануся, чакаючы, пакуль я даставаў сабе ваду, і пачала апраўдвацца: — Кожны раз сюды ходзіць наша цётка Антося, але ўчора мамуся пусціла яе дадому!

— На вёску? — удакладніў я, бытта мне важна было гэта ведаць.

— Не-е! Цётка Антося на акраіне мае сваю хатку!

— А-а...— не знайшоўся я што сказаць.

— Пойдзем! — запрапанавала яна зусім проста.

І мы пайшлі.

5

Мяне апанаваў страх: калі на працягу бліжэйшай хвіліны не здарыцца што-небудзь незвычайнае, калі чаго-небудзь не прыдумаю, Данута так і пойдзе дадому. Тады ўсё прапала! Наўрад ці здарыцца яшчэ такая сітуацыя. Як на тое ліха, думкі бытта хто выключыў: я нічога не мог скеміць, хоць ты трэсні! Я толькі глядзеў.

А яна ішла наперадзе, несла пасудзінку і часта мяняла рукі. Кінуліся ў вочы мяккія абрысы яе падбародка, кранутая загарам шыя...

Трэба гаварыць, але пра што? Ліха на цябе, як парушыць маўчанне?..

Дануся, відаць, перажывала тое самае. Як бы з гатоўнасцю яна часта паварочвала да мяне галаву, і я бачыў насцярожана-вінаватыя вочы дзяўчыны, якая хоча зрабіць нешта добрае, але таксама не ведае як.

Так мы і рухаліся.

У цясніне панавала застылая цішыня, і выразна чуліся нашыя крокі; стукалі льдзінкі аб сценкі вёдзер, ды плюхала вада, выплёскваючыся на жвір. Час з кожным крокам убываў, а я ўсё дарэмна намагаўся нешта прыдумаць. Знячэўку выліць вядро вады пад ногі, ці што? Гэта было б ашуканствам, а я не мог абыходзіцца з паненкай несумленна — у яе было столькі добразычлівасці...

— Уф-ф! — выдыхнула яна, паставіла пасудзінку і памахала рукамі, бытта яны замерзлі.

— Цяжка?

— Цяжка! — пажалілася яна.

— Што вы! — шчыра здзівіўся я, ставячы і свае вёдры.— У гэтай банцы літры чатыры, не болей!

— Ну, вядома, для вас — такога Галіяфа — гэта нішто! — прытворна пакрыўдзілася яна, азіраючы маю постаць з галавы да ног.

Мне гэта вельмі палесціла. Я бытта паспрабаваў адарваць пасудзінку ад зямлі.

— У-ух, чорт, не зрушыць нават!.. А хочаце?.. Мне зусім нічога не значыць вас з цэлай гэтай банкай...

І я той самай рукой, што трымаў за вушка пасудзінку, дзёрзка абхапіў дзяўчыну ніжэй пояса ды, адчуваючы пасільны жывы цяжар, паненку крутануў пару разоў у паветры і зноў паставіў на зямлю.

— Во!

— О-ей, як было цудоўна! — ані крыхі не пакрыўдзілася яна, ловячы раўнавагу.— Як жудасна! Як галава закружылася! Го, нават вада не расплюскалася!..

На чорным саціне ў мяне былі вышытыя макі — свежымі ніткамі, чыста, з густам. Нібы здаровае дзіця, што прачнецца і адразу гатова чаму-небудзь дзівіцца, так і Дануся ўжо не адводзіла вачэй ад кветак.

— Такую прыгажосць у вас і зараз на вёсцы робяць? — пацікавілася.

— Кожная цётка! А гэта — мама вышыла...

— Прыгожа!

Яе ўвага мяне расчуліла і абудзіла крыўду, якую я насіў вось ужо паўгода.

— «У Афрыцы ёсць народы, якія прападаюць за каляровымі шкельцамі, ніткамі...— праказаў я з горыччу.— У нас на «крэсах усходніх» гэтае дзікунства захавалася ў тым, што мясцовыя сяляне расшываюць сваю вопратку. Глядзіце, перад вамі прыклад!..»

Дануся жахнулася:

— Хто такое глупства пасмеў сказаць?

Я назваў.

— Наш по-лёні-іста пан Зале-ескі? — працягнула яна з абурэннем.

— На курсы больш яе не надзяваю.

На паненчыным твары я прачытаў, выразна ўбачыў, што яна сябе лічыць вінаватай за дурную выхадку прафесара, але не ведае, як выказаць спачуванне, і аж чырванее ад бяссілля. Раптам мне зрабілася лёгка-лёгка на душы, як бывала толькі ў дзяцінстве, калі выкладзеш сваю крыўду маці.

— Ат, ліха яго бяры, перажывём! — ужо весела і легкадумна прамовіў я, падняў адшліфаваны каменьчык і запусціў яго высока ўверх.

Паненка з трывожным захапленнем сачыла за яго траекторыяй, пакуль камень не плюхнуў у кусты.

Мы пастаялі, паперажывалі кожны сваё, паазіраліся.

— Глядзіце, кветкі! — раптам узрадавалася Данута і палезла на гару, усмешкай заахвочваючы мяне.

На адхоне расла чаромха. Я з прыемнасцю пачаў ламаць галінкі з белым квеццем.

Збіраючы букеты, мы падніmaліся вышэй і вышэй. Дануся паабдзіралася аб кусты, але нічога не заўважала.

Нарэшце яна ўзабралася на самую гару.

— Я кожны раз дзіўлюся, якая маляўнічая адгэтуль Вілія! — праказала яна і адразу змоўкла, зачараваная.

Валасы яе былі ўсе абсыпаны белымі пялёсткамі. Ад напружанай хадзьбы дыханне паступова рабілася роўным.

Мне месца было добра знаёмае.

— Ну,— згадзіўся я.

— Нечым напамінае Альпы...

— Гэта яшчэ нічога. Во, я ведаю гару! З яе горад — як на далоні! Можна палічыць усе цэрквы і касцёлы. Нават Замкавая гара і Тры Крыжы адтуль відаць...

— Давайце сходзім! — не задумваючыся, запрапанавала яна.

— Можна...

Алеісці ў гэтую хвіліну мне ніяк не выпадала. Папершае, дома чакалі вады. Па-другое, пада мной гарэла зямля, я баяўся за вёдры: пакінулі ж мы іх на дарозе; ёй, генеральскай дачцэ, вядро — глупства, а мне?.. Да ўсяго, мой ідэал пачаў блякнуць. У той час, калі сталы чалавек шукае прадмет свайго абажання, каб зліцца з ім, юнаку патрэбен сам працэс скрытнага і маўклівага абажання. Уся прыгажосць для яго тоіцца ў безнадзейнасці яго кахання. Надзвычай лёгкае збліжэнне мяне раптам расхаладзіла. Адначасова гэтая шчуплая, з тонкім профілем паненачка ў просценькай сукеначчы ў сінюю клетачку выклікала ў мяне пашану і прыцягвала ўжо неяк па-новаму. Я ўжо і не ведаў, што гаварыць.

— Не-е, не цяпер. Калі іншым разам! — супакоіла яна, убачыўшы на маім твары нерашучасць.

Дануся нешта перажывала, а я выбіраў яшчэ лепшае месца недалёка ад таго, дзе мы былі.

— Прабачце, калі пан Залескі вам гэтак сказаў,— раптам прамовіла яна.

Дзіва — думае ўсё пра тое?

— То было восенню... Ну яго да д'ябла з Залескім — шавініст тупы!.. Вам кусты перашкаджаюць, хадзіце сюды, во!

— О-ей, колькі вежаў! Адна, дзве, тры, чатыры...— лічыла Дануся, паказваючы пальцам удаль.— Аж трыццаць два касцёлы і цэрквы ў нашай Вільні. Божа!

— Я налічыў сорак. Адсюль усіх не відаць, бо гэтая гара занізкая. Во, з той!..

Але паненка болей не цікавілася маёй гарой.

Я пашкадаваў ужо, што адразу не злавіў Данусю на слове і не прапанаваў, напрыклад, сёння яшчэ схадзіць на гару. Чорт іх бяры з вёдрамі, калі і прапалі б! І з прачкай бы нічога не страслося б без вады...

Але прыдатны момант вярнуць было ўжо немагчыма.

— Трэба ісці, дома будуць хвалявацца! — спаважнела Дануся.— Надта доўга затрымалася. Хадзем!

Лёгка і адважна збегла яна з гары, зняла тапачкі і дакладна так, як робяць дзяўчаты ў нашай вёсцы, стукнула адна аб адну, зноў надзела і падалася да вёдзер.

Нездаволены сабой, следам паваloкся і я.

На вуліцы акуратна на палавіну раздзялілі мы чаромху, ветліва кіўнулі на развітанне галовамі і разышліся.

## 6

Вярнуўся я з пустымі вёдрамі ў яр і задумаўся над студняй. Гэтае месца стала для мяне цяпер незвычайным. Як добра, што няма калаўрота, як на вёсцы, бо тады вісеў бы тут ланцуг і я з Данусяй не сустрэўся б.

Палез на гару, знайшоў ляшчыну. Гэта быў не проста кій. Яго карычневая кара з ружовенькімі вочкамі набыла таямнічую значнасць. Вось за гэтае месца Дануся трымалася, калі я ўзяў ад яе кій, ён яшчэ быў цёплы.

Я нават пагладзіў ляшчыну і чамусьці захаваў яе ў кусты.

Нанасіўшы вады, пайшоў на вуліцу.

Усё пачалося вось адсюль. Каб тратуар быў крыху шырэйшы, а вадасцёкавы равок не такі глыбокі, яна магла б мяне і не заўважыць, гэтак не паглядзець,— проста абышла б брукам. Зрабілася страшна, што ўсё адбылося дзякуючы звычайнай выпадковасці, якой магло і не быць.

Магчыма, Данусю да студні прыцягнула падсвядомае пачуццё, абуджанае нашым спатканнем на тратуары?

Я ад прыроды такі: калі мяне нешта ўсхвалюе, збіраюся і куды-небудзь іду.

У гэтую нядзелю я хадзіў па Вільні больш за ўсе дні. Хадзіў як бы падросшы, цяжэйшы, дужэйшы, разумнейшы ад таго, што нёс у сабе новыя ўяўленні, пачуцці і радасць. Дзе там хадзіў! Узрушаны ўвагай Данусі, я насіўся па горадзе як на крылах, а ва мне ўсё калабродзіла. Адначасна было так прыемна, бытта Дануся ішла побач. Усюды бачыў яе прысутнасць.

Вось — кіёск. Па дарозе ў ліцэй яна кожны дзень глядзіць на яго. Быць таго не можа, каб чалавек не пакідаў на прадмеце штосьці ад свайго позірку. На сініх фанерных сценках абавязкова ёсць сляды і Данусіных вачэй. Вось і я гляджу на кіёск...

Цікава, калі глядзець на яго Данусінымі вачыма, ён дакладна такі сіні, якім здаецца мне? Магчыма, у яе ўяўленні сіні колер выглядае зусім інакшым?..

Мне, нібы пасля першай вясенняй навальніцы, зрабілася лягчэй дыхаць, весялей жыць. Я прамянеў здароўем і шчасцем, з пачуццём перавагі сустракаў залётныя позіркі дзяўчат. Каб яны, бедныя, ведалі, якімі вартымі жалю, смешнымі і наіўнымі мне здаваліся!..

Я быў упэўнены, што абавязкова зноў сустрэнуся з Данусяй. Яна ж такая простая, зусім не падобная на фанабэрлівых паненак віленскай знаці, якія не лічаць цябе нават за чалавека.

Ад радасці, што ўсё наперадзе, захацелася бегчы дахаты, легчы на ложак і праспаць увесь гэты час, абы толькі не пакутаваць ад чакання. Эх, каб які чараўнік зрабіў мяне на гэтыя дні нячулай скалой, як бывае ў казках!..

Позна ноччу, вяртаючыся дадому, я стаіўся каля генеральскай брамкі і зноў пачаў вартаваць.

Выйшлі дзве дамы, спыніліся на тратуары. Адна з іх была генеральша. Яна, мусіць, праводзіла сяброўку. Дамы некалькі хвілін меркавалі, ці трапна апрануліся. Дзіўна. Пра гэта яны гаварылі сур'ёзна, нібы ў тым, якое адзета паліто, увесь сэнс чалавечага жыцця на зямлі.

— Пані Вацлава,— спыталася незнаёмая,— колькі зарабляе цяпер ваш муж?

Генеральша нешта прабумболіла.

— І пані не мае даўгоў?

— Не.

— О Езус каханы! Мой муж атрымлівае ў два разы больш, і я вечна ў даўгах!

— Эканомлю, ласкава пані, і трымаю добрых служанак.

Толькі цяпер я здагадаўся, што незнаёмая — жонка ваяводы, пані Бацянская.

— О, та-ак, добрая служанка — вялікае шчасце ў доме! — з перакананнем пацвердзіла яна, цяжка ўздыхаючы.— Але адкуль такіх узяць у наш час? Каралі і служанкі цяпер не ў модзе, кажа мой муж. Ваша Антося заўсёды дома, калі б я да пані ні зайшла! А сёння, напрыклад, я сваіх служанак адпусціла з вечара да раніцы. І хоць ведала, што яны правалочацца з салдатамі, але падумала: няхай сабе выйдуць на волю...

— Таму я і трымаю адну старую, другую ідыётку і нікуды кроку лішняга ступіць на дазваляю,— дзялілася вопытам генеральша.— Нявольнікі няўдзячныя. Няўдзячныя нават за волю!

— Праўда, праўда, ласкава пані! — жыва падхапіла яе Бацянская.— Гэта і мой муж кажа! А яшчэ гаворыць, што праз некаторы час іх абавязкова трэба мяняць, бо надта хутка псуюцца. Ды я такая добрая — анёлам мне б толькі быць! Адгэтуль і грошай заўсёды не маю, даводзіцца пазычаць у вас...

Генеральша яе супакоіла:

— Не трэба сябе так касціць, дарагая пані, вы тут ні пры чым! Варшаўскія вяльможы выязджаюць на нас!.. Пан Бэк, Славой-Складкоўскі за кошт дзяржавы трымаюць слуг, па тры лімузіны!.. Маюць вілы ў Закапанэ, яшчэ будуюць сабе і ў Жэневе, а ты заедзеш у Цюрых і тулішся ў пансіянаце, бы жабрачка!..

Генеральша кранула ў Бацянскай набалелы мазоль.

— Ой, пані Вацлава! — з жарам загаварыла яна.— Іхнія жанкі якіх толькі падарункаў не прывозяць з заграпічных камандзіровак!.. Бэк узяў сваю кікімару ў Берлін, і Рыбентроп саболевае футра ёй падараваў!.. Мой гаворыць: «За што мы кроў пралівалі ў легіёнах?! А хто такі Славой? Такая самая выскачка!»

— Бо жывуць ля залатога карыта,— растлумачыла генеральша.— Пахапалі сабе смачнейшыя кавалкі, а нашых мужыкоў, сапраўдных герояў «Цуду над Віслай», у глушыню спіхнулі слухаць злавеснае карканне гэтых варон!.. Здаецца, з торбай пайшла б па свеце, ды ніхто не заўважыць!..

— Глушыня-а, пані Вацлава, страшэнная! Нікуды не вылезеш — пясок, камарыльня, хваробы, а з-за дзікунскага дыялекту ні з кім не абмяняешся на вёсцы і словам!.. Ужо лепш чалавек знаходзіўся б у якой-небудзь Афрыцы!.. Мой гаворыць, калі выдзеляць там Польшчы калоніі, папросіцца ў прэзідэнта губернатарам у Мадагаскар!.. Хопіць з-за камуністаў псаваць тут нервы! У Афрыцы брыльянтаў, кажуць, многа ў пясках!.. І дзеці прагнуць так экзотыкі!.. Сланы... Пальмы... Свежыя фрукты...

Ваяводзіха ўспомніла і ажывілася яшчэ больш:

— На Капры адзін амерыканец запрасіў нас у госці, і яны нам прыслугоўвалі! Такія паслухмяныя!.. Пачуеш ад іх толькі і ўсяго: «Так, мадам!», «Так, монсер!» Дарагая пані, а што за цудоўная гармонія!.. Сіняе-сіняе неба, галубое мора, белая віла, чорныя слугі і гувернанткі!.. І я, пані, скажу, іхняе цела зусім не пэцкаецца, я добра прыгледзелася!.. Іхняя чарната нейкая ўнутраная, нават на белым каўнерыку не пакідае следу!.. Калі ім павязаць яшчэ аранжавыя фартушкі — цуд шэдэўральны!.. Негры зусім мала ядуць, не тое што мае русінкі — адной бульбы ім не напасешся: як сядуць усе трое, як навернуць!.. Ад таго ім потым і да салдат хочацца!..

Генеральша яе мала слухала, у яе быў свой клопат:

— «Сабаліную накідку!..» Праўду пані гаворыць!.. А хто такі Бэк? Усяго палкоўнік кавалерыі! Так мой жа генерал!.. Не-е, шаноўная пані Бацянская, я адгэтуль нікуды не паеду. Я сваё права ведаю, ад варшаўскіх магнатаў выдзяру, што нам належыць, хоць і будзе ўсё гэта мне каштаваць новых маршчын!

Нячутна пад'ехаў магутны кадзілак з адкрытым верхам, спыніўся. З яго вылез ад'ютант і, прытрымліваючы дзверцы, узяў пад казырок:

— Машына падана!

— Дзякуй, Куба! — кіўнула генеральша.

Дамы накіраваліся да лімузіна. Было чуваць, як генеральша абураецца:

— Цяпер тут ціха. Днём на нашай вуліцы столькі мужыцкіх фурманак, што не праехаць!.. І чаму гэтыя мужыкі не працуюць, а толькі раз'язджаюць па гарадах, што ў іх за справы ў Вільні могуць быць?

— Я пагавару з мужам, пані Вацлава, каб ён забараніў ездзіць фурманкамі па вашай вуліцы. Павесіць знак!.. Пані Вацлаве на маршчыны няма чаго скардзіцца. Пані гэтак молада выглядае! А ўсё таму, мабыць, што маса-

жыстку прымае. А я кожны раз яе ад сябе адсылаю — не хапае часу з ёю вазіцца. Муж злуе, што дарма плацім шалёныя грошы...

Дамы развіталіся. Машына з Бацянскай паехала сабе, а генеральша вярнулася дадому. На верандзе адразу напала на служанку:

— Эрмітэй, ты ў мяне сцягнула халат з карункамі?

Пачуўся голас маладой дзеўкі:

— Агы!.. Бо вы яго выкінулі...

— «Агы!..» — з нянавісцю перадражніла яе генеральша.— Бачыш ты, ужо запіхнула сабе ў торбу?!. Пяць злотых штрафу вылічу з палучкі!

З хітраватай наіўнасцю служанка праказала:

— Пані Вацлава, а я ўжо казала, што мяне ў дзярэўні звалі Просія!.. І яшчэ Фруза!.. А то — Эмі... Эмры... Я і не вымаўлю так!..

— Пакінь цябе, зладзейку, без нагляду на хвіліну!.. Марш да працы!

«Міраеды!» — з жахам падумаў я пра яе і Бацянскую.

Сцэнка мне яшчэ раз напомніла, з кім я звязваюся. Прыйшоўшы на кватэру, я ніяк не мог заснуць. Мусіў устаць, запаліць святло. Пачаў прыводзіць да парадку абцёпканыя нагавіцы.

Заняты справай, каторы раз пытаўся ў сябе, ці правільна раблю? Паддаўся на вудачку якойсьці паненачцы з варожага лагера! Але штосьці ўжо грунтоўна перамянілася ў маіх поглядах. Я адкрыта глядзеў у твар таму, хто сарамаціў. Ну і што? Яна ж не вінавата, што нарадзілася дачкой польскага генерала! Я мог бы з такім жа поспехам нарадзіцца сынам султана Саудаўскай Аравіі!..

Дануся не генеральша і не жонка ваяводы. Ці мала было выпадкаў у грамадзянскую вайну, калі адзін брат у белых, а другі — у чырвоных? Дачка — камуніст-камісарка, а бацька — палкоўнік у Дзянікіна?!. Урэшце, Данута мне падабаецца — і годзе.

Як яна абурылася на Залескага!.. І цяпер недзе перажывае за мяне!.. У генеральскай, буржуйскай кватэры ляжыць, мабыць, варочаецца ў ложку і перажывае!..

Стала адразу лягчэй.

Цяпер я клаўся спаць і думаў, што заўтра мяне зноў чакае нешта прыемнае. А ў наступны дзень яшчэ не прачнуўся, як успомніў — учора ў маім жыцці здарылася нешта надзвычай важнае. Я ўсхапіўся з ложка з цікавасцю да ўсяго свету, бадзёры і свежы.

## 7

Прайшоў цэлы тыдзень, але так нічога і не здарылася.

Настала зноў нядзеля. Як і ў мінулы раз, я пайшоў да студні, прасядзеў там з дзесяці гадзін раніцы да палудня, а Дануся па ваду так і не прыйшла. Настрой у мяне адразу сапсаваўся.

Генеральскі панадворак быў пусты, я пайшоў у горад. Надвор'е стаяла выдатнае: у небе — ні хмурынкі, моцна пякло сонца, пахла нагрэтымі мурамі. Паветра было сухое, крыху насычанае азонам ад быстрай рэчачкі Віленкі, таму дыхалася лёгка, і мяне настроіла на бадзёры лад зноў.

Выбіраючы пустыя вуліцы, дайшоў я да квартала з казармамі. Там стаялі прывязаныя кавалерыйскія коні і таптал свежыя ды тугія яблыкі залацістага калу, якія пахлі моцна, як спірт. Мяне, сялянскага сына, так і пацягнула да коней. Я падышоў, ляпнуў крайняга па лапатцы, конь адразу стаў на дыбы, ажно зазвякалі на ім жалязякі. От бы на такім пранесціся па полі! Агонь!

З брамы выйшаў элегантны афіцэр і стаў нацягваць скураныя пальчаткі.

— Ну, Фацэт, паедзем? — спытаўся ён, і той самы конь радасна пачаў грэбці капытам, паціху ржаць.

— Ах ты, мой хлопчыку, засумаваў так! — паспачуваў гаспадар і пагладзіў Фацэта па храпе.

Я з зайздрасцю паўзіраўся, як афіцэр адвязаў повад і скакун паслухмяна пайшоў за ім, змейкай выгінаючы тонкую шыю. Вайсковец, бадзяга, лёгка, іграючы, ускочыў у сядло, пагнаў рыссю, але ў каня моцна заквактала селязёнка, і коннік перавёў яго на спакойную хаду.

Я падаўся далей.

У вокнах шэрай і доўгай будыніны сядзелі з люстэркамі ў руках салдаты і пускалі сонечныя зайчыкі ў вочы паненкам, якія праходзілі міма; тыя жмурыліся, пішчалі, аднак адыходзіць не спяшаліся.

— Пане капрал, закурыць дасі? — шматзначна і залётна пыталіся падазрона нафарбаваныя жанчыны ў вайсковых, якія выйшлі з адпускнымі білетамі і тоўпіліся ля варот.

— Можам даць!

— Яшчэ як!..— гагочучы, адказвалі салдаты з ліха насунутымі набакір пілоткамі.

Я павярнуў назад.

А вось і лазня літоўскай арганізацыі, яе паказаў мне Суткус. Цяпер я яе часта наведваў. Праз усю даўжыню агромністага памяшкання — трубы, з іх льецца гарачая вада. Заходзь адразу хоць тысячу чалавек і бясплатна сабе мыйся — рана, у абед, вечарам... «Літоўцы народ арганізаваны, дружны, клапоцяцца адзін аб другім, не тое што мы!» — з зайздрасцю падумалася мне.

Разважаючы гэтак, я непрыкметна апынуўся ля дома, з чыйго панадворка сёння выносіў малако.

Раніцай, калі я заносіў на кухню пустыя бутэлькі, прыйшла мыцца дачка пана Матыкі і, сонная яшчэ, ледзь не налезла на мяне. Прыгледзелася, спалохана ўскрыкнула і пабегла назад, абдаючы мяне цяплом пасцелі і паказваючы з-пад стракатага халаціка белыя ногі. Я аж пачырванеў. З-за дзвярэй паненка з какецтвам і цікаўнасцю азірнулася, бліснуўшы зубкамі, і захінула халат.

Ля дома памешчыка я ўсё гэта ўспомніў з выразнай дакладнасцю. Зрабілася невыносна сорамна — хоць лезь пад зямлю!

Я зноў павярнуў да Віліі.

## 8

Па тратуары набярэжнай цяклі патокі людзей.

Раптам мяне насцярожыў нечы позірк і развеяў вобраз дачкі Матыкі. Я ўважліва прыгледзеўся ды падумаў, што вось гэтую смуглявую і чарнавокую студэнтку ўжо недзе спатыкаў. Напэўна спатыкаў. Толькі дзе?

Я не адводзіў ад яе вачэй, і студэнтка пасмялела, накіравалася да мяне.

— Дзень добры! — узрадавалася яна.— Нарэшце праз паўгода я вас спаткала!

— Дзень добры...

— Няўжо забылі? — з дакорам і расчараваннем паківала яна галавой.

— Памята-аю...— схлусіў я, жмурачы вочы ад бліскучага казырка студэнткі.

— Давайце пазнаёмімся. Тады не было часу. Вольга,— падала яна руку і сарамліва ўсміхнулася.

Толькі цяпер я пазнаў, хто гэта.

Ля універсітэта мінулай восенню яна памагла мне апрытомнець і прыхавала наган, калі ён выпаў з кішэні. Успомніў я дзяўчыну па адной прыкмеце. Кідаўся ў вочы яе крывы пярэдні зуб. Таму, усміхаючыся, Вольга ста-

ралася не надта адкрываць рот, але я бессаромна ў яго заглядаў — мае вочы цягнула туды як магнітам.

— Ну, як жывяце? — пацікавілася яна, чырванеючы.

— От, сяк-так жыву...

Міжвольна я заўважыў трэшчынку на казырку, зацыраваны каўнерык кофты, якая ўжо добра-такі выцвіла, старэнькія аблезлыя туфлі. Параўнаў з вопраткай Данусі — лёгкай, свежай, з тонкім араматам...

Калі сустрэнуцца два чалавекі, дастаткова аднаму пра нешта спытацца і адразу завяжацца гутарка. Але я да размовы ў кампаніі, ды яшчэ з дзяўчатамі, быў няздатны.

— Вы не прысутнічалі на канцэрце ў нас, калі спяваў Забэйда Суміцкі? Не? Шкада!.. Я была ўпэўнена, што будзеце, і ўсюды вас шукала!..

Мы хвіліну памаўчалі.

— А на мітынгу антыфашыстаў? — успомніла студэнтка.— Таксама — не?.. Хутка ў нас адбудзецца сход беларусаў і ўкраінцаў, прыйдзеце?

Я ўсё цярпліва адказваў «ага», «не», «не ведаю», хоць і адчуваў да студэнткі ўдзячнасць за тое, што яна для мяне зрабіла, але думаў толькі, як адчапіцца.

Дзяўчына ўсё не адыходзіла.

— Я была тады і ў спартыўнай школе, калі вы сустракаліся з вайсковым на рынгу.

— Былі-і?!.

— Вам пяршынства спрабавала адваяваць з іншымі, але дзе там!..

— Даўно то было...

— І на вуліцы вас часта бачыла. Вы прыкметны. Аднойчы сустрэла ў гарадскім парку. Ліў дождж — халодны, пранізлівы, а вы нічога не прыкмячалі і памалу пахаджвалі, думалі аб сваім. На вашым твары было такое багатае выражэнне, што стала шкада вас напакоіць, таму не павіталася...

— Дарма.

— Потым сустракала вас на Замкавай зімой,— спавядалася яна нібы з папрокам, бытта чакала ўзнагароды.— Вы былі з непакрытай галавой. Здаецца, вы прахадзілі ўсю зіму так...

— Ага...

Кепка, якую збіў паручнік шабляй, засталася на вуліцы, а другой я не купіў — не толькі таму, што грошай шкадаваў. У Вільні нават у вялікія маразы хлопцы фар-

сілі з непакрытымі галовамі, фарсіў і я. Але навошта ёй пра гэта ведаць?..

І тут я раптам успомніў, як восенню хваляваўся ў натоўпе моладзі на Лукішках, пакуль у турме ішоў шлюб.

— Праўда, што гэта вы тады вянчаліся ў турме?

— А-а, вы пра тое!..— пасмутнела дзяўчына і ўздыхнула: — На жаль, я тады зрабіла глупства.

— Глупства?..

— Не было чалавека, які б мяне тады схапіў за руку, адзёрнуў.

— Але ж чаму? — распальваўся я ад цікавасці.

— Складаная справа...— уздыхнула яна зноў.— Давайце сыдзем з тратуара пад ліпу, раскажу...

Я падаўся за студэнткай.

— З жаніхом да гэтага я нават добра і не бачылася,— пачала апавядаць яна на новым месцы.— От, перастукваліся ў турме праз сцены марзянкай, рабілі адзін другому знакі праз акно, калі каго з нас выводзілі на шпацыр. Мяне выпусцілі з Лукішак раней, і мы пачалі перапісвацца. Мне здалося, што я закахалася. Першы раз, горача, назаўсёды! Ён мне пісаў доўгія лісты, яшчэ даўжэйшыя пісала я. Дамовіліся мы пажаніцца. З фотакарэспандэнтамі і сведкамі ўвайшла я ў камеру і першы раз паціснула яму руку. Капелан нас павянчаў. Усе выйшлі, далі нам дзве гадзіны пабыць разам. Селі мы на лаву, узяліся за рукі. Сорамна. Наглядчык адвярнуўся, і муж мяне ўпершыню пацалаваў. Стала надта непрыемна. Я збаялася, каб ён не пацалаваў мяне другі раз, выняла з сумачкі шакаладку, піхаю яму ў рукі, але ён шакаладку адклаў ды пацалаваў усё ж такі зноў. І тут я зразумела, што яго не кахаю... Вось так! — уздыхнула яна і паглядзела, якое ўражанне зрабіла на мяне.

— А-яй-яй! — не ўтрымаўся я і паківаў галавой.— Ну і... А цяпер?

— Нашу рэгулярна ў Лукішкі перадачу, пішу акуратна ў турму пісьмы, падпісваю іх: «Твая Вольга!..», лічуся законнай жонкай, а яго не кахаю...

Гісторыя!

Я не ведаў, што гаварыць, як суцешыць дзяўчыну, адно спачувальна пазіраў і пераступаў з нагі на нагу. Гэтак мы стаялі даволі доўга. Нарэшце студэнтка ўздыхнула і стала пацяшаць ні то мяне, ні то сябе:

— Не дзівіцеся! Мне сказаў наш віленскі пісьменнік: ёсць праўда жыцця і — праўда мараў, лозунга. У мяне

праўда мараў і лозунга, якому мы ўсе служым, сутыкнулася з праўдай жыцця і атрымалася вялікая драма!

— Гм!..— нічога не зразумеў я з яе філасофіі.

Пакуль мы так гаварылі, да прыстані падышоў параходзік. З яго хлынула на бераг моладзь. Мы апынуліся сярод юнакоў і паненак. І тут я ўбачыў Данусю.

Яна была ў белай тэнісцы, якая прыгожа адцяняла смуглае, загарэлае цела. Побач ішоў Браніслаў і нёс кніжкі, тэнісныя ракеткі, партфель. У абаіх былі цёмныя акуляры, якія тады толькі ўваходзілі ў моду.

Убачыўшы яе з Браніславам, я ўмомант забыўся пра тое, што расказала студэнтка, занепакоіўся і адразу ўпаў духам. Калі Дануся наблізілася, я адвярнуў галаву.

— Добры дзень! — пачуўся яе голас.

Студэнтка здзіўлена зірнула на мяне, потым на Данусю, Браніслава.

Пакуль я што-небудзь скеміў, Дануся нас абмінула. Я пачаў ужо сумнявацца: сказала яна «дзень добры» мне ці каму іншаму. Мужыцкая асцярожнасць не дазваляла паверыць. І тут я заўважыў, як Вольга перамянілася. Яна змерала нядобрымі вачыма генеральскую дачку, а тая таксама азірнулася і гэтак жа агледзела студэнтку.

Цяпер сумнення, з кім Дануся віталася, не было.

— Што ж, бывайце, калі так!..— холадна кінула Вольга.

Тое, што адбылося, яшчэ не паспела як належыць дайсці да маёй свядомасці. Разгублены дарэшты, я нічога не адказаў, хоць і ўлавіў у словах дзяўчыны папрок. Пра Вольгу адразу забыўся, увага была занята другім.

Тады ля студні мы з Данусяй, бытта баючыся дакрануцца, не падалі адно аднаму рукі і не называлі сваіх прозвішчаў. Я не зрабіў гэтага першы, бо такая галантнасць была не ў маёй натуры, але Дануся?.. Потым я баяўся нават успамінаць, каб не расчаравацца, калі гэта была простая выпадковасць.

Цяпер жа, пасля таго, што адбылося ля ракі, я ўжо смела ўспомніў той выпадак і паверыў у сваю зорку.

9

Многа яшчэ прахадзіў я па горадзе, спадзеючыся спаткацца з Данусяй. Хадзіў заўсёды адзін, каб зручней было загаварыць. Зачапіць яе цяпер было, здаецца, лёгка: я ж маю права, як з кожным знаёмым, вітацца з ёю.

Цэлыя гадзіны прастойваў я ў яры над калодзежам. Не мог сабе даравацъ, што яна мяне бачыла са студэнткай.

«Вось табе за тое, што такая булдавешка! Так табе і трэба!» — губляючы веру, што калі-небудзь зноў выпадзе такая сустрэча, дакараў я сябе.

Але вёдры стараўся трымаць лёгка, на выпадак, калі б Дануся сачыла за мной з кустоў.

— Пане Янку, насячыце мне, калі ласка, дроў! — папрасіла прачка.

— Магу! — абрадаваўся я: нашы дровы былі добра відочны з генералавых акон.

«На якую халеру ты ўзяў сабе тады частку той чаромхі? Ведаеш жа, што паненкі даражаць кветкамі! Не мог аддаць ёй усе? Пашкадаваў такога дабра? Усё роўна гаспадыня потым выкінула на сметнік, бо ёй галава ад паху баліць!»

— Дзядзя Ваня! — перабіў мяне сын прачкі.— А чаму гэты дроў такі зілё-оны?

— Гэта мох на палене, дурань!

— А што такое мох?

— Ну, заладзіў свае пытанні! Ведаю, ім канца не будзе!..

Прысутнасць «памагатара» перашкаджала выкананню майго плана. Я зазлаваў і папёр беднае дзіця:

— Кідай дровы, панашу сам! Марш дадому!

«І навошта было гаварыць тады, што яе пасудзінка лёгкая? Паненкі ж любяць, каб іх падхвальвалі, яны — нібы дзеці!..»

Я браў палена і, як цыркач, падкінуўшы яго, спрытна лавіў за другі канец — на выпадак, калі б Дануся сачыла за мной праз адное з акон.

## Раздзел другі

### 1

Усе мае пакуты хутка скончыліся. Нечакана мне дапамог наш швейцар, пан Войцех.

Аднойчы пад канец заняткаў я пранік у ліцэй і стаіўся ў калідоры. Больш паспешліва, чым звычайна, снавалі выкладчыкі, таропка прабягалі з класа ў клас ліцэісткі. Усе яны бытта і праўда былі заняты, а на самой справе прагаладаліся і паспяшалі дадому.

Мой план быў просты: Дануся будзе ісці, мы павітаем-

ся, пачнём гутарыць, і я запрапаную схадзіць на гару. Так ёй аб гэтым і скажу — проста і без абінякаў. Ва мне ўжо настолькі паспела рашэнне, што яшчэ ўчора ніякай сілай я сябе не прымусіў бы гэта зрабіць, а цяпер мне здалося зусім простым і звычайным. Толькі выбраў нязручны момант, трэба было ісці вартаваць яе на вуліцу.

Калі я ўжо выходзіў, мяне перапыніў пан Войцех:

— Янэк, ты што тут робіш?

— Проста сабе зайшоў...

— Ага, ішоў, ішоў і зайшоў! Проста!..

— Ну...

— Кунцэвіч вызываў чагосьці...

— Зноў маніш!

— Праўда, праўда, Кунцэвіч...

— А чаму мне ў вочы не глядзіш?

— ...

— Я вас, ухажораў, усіх па вачах пазнаю!.. Ладна. Хадзі са мной! — адзваніўшы на ўрок, пазваў мяне стары ўніз да дзяжурнага стала.

Я ведаў, чым магла скончыцца для швейцара мая прысутнасць у ліцэі, таму адчуў да старога ўдзячнасць.

— Ну, кажы як на споведзі перад ксяндзом, каторая табе тут папала ў вока! Прызнавайся! — ні то жартам, ні то сур'ёзна спытаўся ён, заглядваючы мне ў вочы.

Ад хітрых, дабрадушных вачэй старога я паступова пачаў размякаць, але маўчаў.

— Чаго раскіс? Паглядзі на сябе ў люстэрка! Ты ж увесь скрыўлены як серада на пятніцу, як пабітая баба! Яшчэ і не спіш недзе, уздыхаеш, [redacted] з-за чаго? Каб потым, калі даб'ешся, сказаць сабе: «Ну і дурань жа быў!»

— Не даб'юся...— выдаў я сябе, і штосьці мяне сціснула за горла.

— Не сумнявайся! — суцешыў стары як малога.— Я дапамагу!

— Вы?

— Го, колькі вашага брата на свеце, каму памог!..

У калідоры з'явіўся настаўнік, і стары змоўк. Калі пагроза мінавала, ён загадаў:

— Пішы запіску, перадам!

— Запіску?

— Пішы, пішы! Няма чаго з імі асабліва цырымоніцца, будзь мужчынам!

— Запіску, гы?!.

— А што, непісьменны?.. Глядзі, колькі мне іх пера-

даваць! — дзядзька адкрыў шуфляду і паказаў з дзесятак заклееных канвертаў без марак.

Я тады ўспомніў, як яшчэ мінулай восенню каля Войцеха заўсёды круціліся старэйшыя вучні ўсіх амаль віленскіх гімназіяў, а ліцэісткі часта да яго падбягалі і таямніча шапталі:

— Для мяне нічога няма?..

— Пане Войцех, ніхто мяне не пытаўся?..

І да чаго ж проста гэтую праблему вырашыць праз запіску!..

Закаханымі вачыма паглядзеў ужо я на шчупленькі тварык старога, які, каб дадаць сабе важнасці, фарбаваў вусы. Але і фарбаванне яго не ратавала. Вусы былі рэдкія, тапырыліся, адно смяшылі. На акне ляжаў яго старэнькі капялюш. Шаўковая падкладка ў ім была такая зашмальцаваная, што нагадвала патэфонную пласцінку, пакладзеную на дно капелюша.

— На табе аловак, паперу! — загадаў швейцар.

— Што вы! — спалохаўся я, уяўляючы сабе, як я зараз дзе-небудзь закрыюся і з якой прыемнасцю і трапятаннем душы буду выконваць яго прапанову.— Пісаць пайду дадому!

— Валяй!

Праз гадзіну я даручыў яму канверт. Прачытаўшы на ім прозвішча, пан Войцех перапалохаўся:

— Генералавай дачцэ?.. Э-гэ, як ты высока, братка, меціш!

— Бо і сам не з нізкіх! — асцярожным жартам прыкрыў я трывогу: возьме дзядзька ці пабаіцца?

— Ты ж з-за яе, здаецца, прошлай восенню пагарэў, мала табе аднаго скандалу?

Я ўсё таптаўся.

— Што ж, трэба выручаць свайго брата, сам да дзевак быў яры...— Стары адной рукой задуменна чухаў пад пахай, а другой — хаваў маё пісьмо ў шуфляду.

## 2

Ішоў я да студні, а пара біла ў нос з-пад пінжака. Не было часу сушыць верхнюю кашулю, давялося апрануць мокрую.

Ля студні нікога не было. Я схаваўся за дрэва, пачаў вартаваць. Праходзілі хвіліны, а на сцежцы ніхто не з'яўляўся.

«Няўжо стары не перадаў?» — толькі паспеў я падумаць і ўбачыў Данусю.

Яна была ў лёгкім плашчы і ў шапачцы. Напускная вясёлая абыякавасць не магла схаваць скаванасці і страху на яе твары. Мне трэба было выходзіць, ды ногі быццам прыраслі да зямлі ад няўпэўненасці.

Дануся тым часам мінула студню і завярнула назад. Усё выглядала так, бытта яна тут не па маёй запісцы. От, ішла сабе дарогай, ды раптам успомніла, што нешта важнае забылася дома.

«Пойдзе, трэба хутчэй затрымаць, больш хавацца нельга! І чаго мне баяцца? Па запісцы прыйшла, не святая!..»

Калі я вылез з кустоў, у мяне так замірала сэрца, бытта я ныраў з гары ў бездань.

— Сэрвус! — з напускной зухаватасцю павітаўся я па-лацінску, як віталіся віленскія гімназісты.

— Дзень добры...

— Даўно чакаеце? — прамямліў я непаслухмянымі вуснамі, падыходзячы да студні.

— Не-е...— Збялелая паненка часта дыхала, і голас яе дрыжаў. Ёй было сорамна.

— Бо мяне затрымалі...

— Ці не студэнтка? — узялася яна за цэментавы круг.

— Студэнтка? — здзівіўся я, беручыся за бетон з другога боку.

— Вядома, у пана ёсць цяпер цікавейшыя сябры!.. З універсітэта імя Стэфана Баторыя!..

У тоне яе голасу я са здзіўленнем адчуў дакор і нешта набалелае. Ну дакладна так сказала б вясковая дзяўчына, абразіўшыся, што яе хлапец пайшоў з другой!

Што было далей, памятаю дрэнна. Чамусьці памяць у нас адваротна прапарцыянальна напружанню нашых пачуццяў. Моцна ўсхваляваны чалавек заўсёды памятае падзеі горш. Вось і я тады знаходзіўся не на гэтым свеце. У памяці цьмяна захаваліся толькі некаторыя эпізоды з той сустрэчы.

Помніцца, мы лезлі на гару. Перада мною — стройныя ногі, на якіх галінкі пакінулі белыя крэскі.

Добра запомнілася, як Дануся стаіць наверсе і з жаночай нязграбнасцю — аднолькава левай і правай рукой — кідае ўніз каменьчыкі ды просіць:

— Ану, цяпер пан!

Мяне ў гэты час апанавала жаданне парысавацца.

Я скакаў з абрыву, кідаў вялікія камені, пераскокваў яры. Як тады не скруціў сабе шыі, не зламаў нагі, не ведаю! Кажуць, п'яным і закаханым заўсёды шанцуе. Не ручаюся за п'яніц, бо п'яным ніколі не быў, а закаханым, відаць, праўда шанцуе, і яшчэ як.

— Я нават не бачыла, каб мужчына так скакаў! — шчыра дзівілася Дануся, калі я, знайшоўшы кавалак тэлефоннага кабеля, паказваў сваё майстэрства.

З-за адной гэтай пахвалы варта было перацярпець кулакі рыжага капрала і нудныя практыкаванні педанта Левандоўскага.

Трымаліся мы зводдаль, стараючыся не сустракацца вачыма. Нібы займаліся кожны сваім, але гэта было няпраўда. І хоць Дануся часта вохкала, любуючыся краявідамі, я выразна чуў у яе голасе і нейкі страх, і заахвочванне, і дрыжанне, а мае паводзіны былі як бы часткай паводзін і яе.

Часамі яна нагадвала дзіця, якое вырвалася на волю і старалася нацешыцца, пакуль не пакліча маці.

Яшчэ перад спатканнем я добра абдумаў, куды і як пойдзем. Мы ўзабраліся на аблюбаваную гару, нікога не спаткаўшы. І на вяршыні нас ніхто бачыць не мог, затое мы бачылі ўсё.

Няёмкасць, якая была пры спатканні ля студні, прайшла. Абое мы нібы ап'янелі, нават пустая гаворка нам здавалася значнай. Я пра нешта выхваляўся, гаварыў рукамі, плячыма, выхадкамі. Дануся слухала, глядзела, смяялася.

У дзяцінстве я верыў у казкі пра рай. І цяпер у мяне было адчуванне, бытта знаходжуся ў гэтым самым раі.

І не было курсаў.

Не было сотні праклятых паўлітровак, якія мне, сонаму, заўтра на світанні трэба разносіць па кватэрах.

Не было маёй вёскі, бацькоў і надзённых клопатаў.

Вакол ззяла вясна, існавалі Дануся і я. Гучалі цудоўныя мелодыі, зіхацела сонца, а час спыніўся, застыў.

Я некалі марыў, як прытулю яе да грудзей, сваімі вуснамі самну яе вусны, а на гары баяўся да яе нават дакрануцца. Як зачараваны таропіў на паненку вочы, маўчаў.

Ёсць нейкія амаль няўлоўныя рысы, па якіх можна адгадаць нацыянальнасць чалавека. Многім полькам была ўласціва некаторая сухасць, што ішла ад набожнасці. Але ў Данусі гэтага не было і следу.

У паненкі былі блакітныя вочы і гладкі лоб з выразнымі тонкімі бровамі, прывабныя вусны.

У яе яшчэ згадвалася парода, якую, відаць, выводзіла не адно пакаленне старажытнага роду. У пругкім целе аж кіпела здароўе. А зубы і валасы паненкі вылучалі лёгкі бляск.

Калі яна смяялася або гаварыла, смяялася і гаварыла ў ёй усё: пастава, твар, бровы, лоб, а найбольш — вочы. Яны мяняліся тысячу разоў і мелі неабмежаваны ўплыў на мяне. Узіраючыся ў іх, я бытта нешта піў, піў, піў і не мог ні напіцца, ні адарвацца.

### 3

— А мы паляністу на ўроку зрабілі кацячую музыку!..— пахвалілася яна.— Такі наладзілі прыма апрыліс, што бегаў скардзіцца дырэктару!

Першага красавіка і нашы курсанты выкарысталі для звядзення рахункаў з нелюбімымі настаўнікамі.

— Залескаму?! — узрадаваўся я вельмі, што яна ў згоprofile са мной.

— Адзін апрыліс ужо прайшоў, але я ўспомніла пра стары стыль. Ну, думаю, пачакай!.. А ўчора на гісторыі пан прафесар нам зачытваў дакументы Ягелы з Вавеля. На беларускай мове кароль пісаў...

— Ведаю...

Я адчуў, што праз гэты факт вырастаю ў яе вачах яшчэ больш.

— Беларуская — тады была прыдворнай мовай, побач з французскай і лацінскай! — выкладваў я ёй звесткі, атрыманыя ад Луцэвіча з музея...

Мы прабылі так разам мо гадзіны дзве, раптам Данўся спахапілася:

— О-ей, трэба ісці...

— Ужо-а? — прачнуўся я.

— Мне час...

Гордасць ёй, відаць, не дазваляла прызнацца, як даводзіцца хітрыць, казаць дома няпраўду, калі трэба кудынебудзь схадзіць, вось як цяпер.

Мае старанні затрымаць яе былі дарэмныя. Аднак цяпер я быў смялейшы. Гледзячы ў зямлю, нязграбна, нібы герой рыцарскага рамана, я аб'явіў:

— Каля студні пакладу камень. Пад ім будзе запіска...

Данyся нічога не адказала. Толькі ёй нібы раптам спатрэбілася сарваць травінку, і паненка нагнулася. Але па рухах яе я зразумеў, што ўсё будзе добра.

— Вы яшчэ крыху пабудзеце тут, праўда? — Просьба Данусі прагучала як загад.

Я зразумеў, што павінен тут пачакаць, пакуль яна дойдзе дадому, і падумаў, якая яна далікатная і разумная!..

— А-а, пабуду!.. Трэба дубцоў наламаць на венік гаспадыні!

Мы развіталіся.

Вярнуўся я на панадворак і не ведаў, што рабіць. На гару былі адчынены дзверы, прыстаўлена драбіна,, прачка якраз туды насіла вешаць бялізну. Я ўмомант апынуўся на гары. Асцярожна прыпадняў адну дахоўку і паглядзеў у генералава акно.

Я выразна ўбачыў, як у пакой уляцела Данyся і прыпала да люстэрка. Яна шчасліва ўсміхалася і паўтарала выражэнні твару, якія ў яе былі са мной. Гэта ёй лёгка ўдавалася, яна была яшчэ ўзбуджаная і распрамянёная.

Наглядзеўшыся на сябе, яна адчыніла шафу, павесіла туды плашчык. Тады зноў падышла да люстэрка і пачала вытвараць нейкія камбінацыі з шапачкай і смяяцца. Пачуўся скрып драбіны: прачка несла развешваць бялізну. Нічога не зробіш, давялося пакласці дахоўку на месца.

4

Пасля сустрэчы ля калодзежа я адразу перамяніўся. Я стаў багатым, валодаў таямніцай, якую не памяняў бы ні на якія мільёны! Я зрабіўся ўпэўнены, здаволены, шчаслівы — у мяне нават прачнулася пачуццё гумару, якога я ў сабе дагэтуль, бадай, і не заўважаў.

...Да парадных дзвярэй ліцэя прывалаклася з таварам гандлярка. Баязліва азіраючыся, каб не наляцела паліцыя, жанчына развязала кошык, выставіла тавар напаказ.

— Мандарынкі ўнізе па пятнаццаць грошаў за штуку! — у час перапынку прагучала ў калідорах усіх пяці паверхаў.

У гэты дзень раніцой я паклаў пад камень ля студні пісьмо, і праз пару гадзін яго ўжо там не стала. Ці не дзеці выцягнулі часамі адтуль?.. Я пастараўся прыйсці ў ліцэй да канца заняткаў, каб спытаць Данусю, ці брала яна пісьмо.

Калі я заглянуў у будынак, паненкі атакоўвалі ганд-

лярку з мандарынкамі. Толькі Дануся з сяброўкай стаялі ўбаку.

Убачыўшы мяне, дзяўчына ўзрадавалася:

— Пане Янку, вельмі прашу, пазычце нам, калі ласка, трыццаць грошаў!

У мяне ад шчасця перахапіла дух. Дрыжачай рукой я дастаў тры апошнія манеткі па дзесяць грошаў і, як гэта рабіў ад'ютант Куба, стукнуў абцасамі:

— Калі ласка, панна Янкоўская!

— Дзякуем! — кінулася Дануся і ўмомант апынулася ў гушчы сяброўак.

Ліха яго бяры з пісьмом! Я не стаў пытацца.

Вярнуўшыся дадому, пачаў прыдумваць, як адмовіцца ад грошай, калі Дануся будзе вяртаць доўг. Але ўсе мае выдумкі былі непрыдатныя.

Пасля абеду, калі я ішоў на курсы, да генералавай сеткі раптам падбегла паненка і працягнула на далоні дзве манеткі — дзесяці- і дваццаціграшовую:

— Я пану вельмі ўдзячная...

Вінаваты і збянтэжаны выгляд паненкі дадаваў мне ўпэўненасці.

— Гм!..— насупіў я бровы.— Што паненка з мяне дурня строіць?

— Чаму? — спалохалася яна.

— Хіба я вам даваў такія грошы?

— Але ж, прашу, вазьміце! — закрычала яна, смеючыся з майго жарту.

— О-о, не-е, мяне не ашукаеце. Гэта не мае грошы! Падумайце самі, хіба я магу ўзяць іх? Бралі-то вы іншыя? — Катэгарычна накіраваўся я на вуліцу.

Для мяне трыццаць грошаў — цэлае багацце, а я радаваўся.

«Купіў! І дадумаўся ж, глядзі, вось табе і тупіца!.. Вось так і далей будзем!..»

Я быў гэтак задаволены сабой, што нават забыўся, пра што хацеў спытацца ў яе.

## 5

Цяпер Дануся прыходзіла па маіх запісках. Калі ж яна не магла выйсці з дому, цётка Антося клала пад камень пісьмо.

Аднойчы паненка прынесла загорнутыя ў сярэбраную паперу пліткі шакаладу.

— А колькі гэта каштуе? — вырвалася ў мяне.

— Здаецца — злот,— адказала яна бяспечна.

— Цэлы зло-от?

— Ага!

— ?..

— Няхай пан Янэк есць! Я для яго спецыяльна прынесла! — заахвочвала яна, паводле польскага звычаю ветлівасці звяртаючыся ў трэцяй асобе.

Побач ляжалі яе сшыткі, кніжкі і аўтаручка амерыканскай фірмы «Ватэрман» з залатым пяром. Я пацікавіўся:

— А колькі яна каштуе?

— Дванаццаць злотых!

— Не можа быць!..

— Чаму?.. Магчыма, і болей, не памятаю. Але здаецца, што плаціла столькі...

На хвіліну я анямеў ад здзіўлення. За дванаццаць злотых мне трэба было дваццаць дзён насіць малако! За гэтую суму на вёсцы дзядзька прадасць цяля, ён гэтага дня чакае цэлы год і загадзя вылічвае з усёй сям'ёй, што за такую горбу грошай купіць.

— Але ж, прашу! — з капрызнай нецярплівасцю загадала паненка і бесцырымонна пачала разрываць бліскучыя паперкі.

Дануся заўсёды прыносіла з сабой прадметы свайго свету: тонкія пахі духоў, цукеркі, ілюстраваныя часопісы — польскія, нямецкія, французскія, англійскія — яна выдатна валодала гэтымі мовамі. На маіх курсах таксама шмат увагі ўдзялялі замежнай мове, і ў нямецкім часопісе я мог тое-сёе зразумець. Вядома, такія часопісы праглядаў я з прагнай цікавасцю.

Памятаю, неспадзявана зрабіў адкрыццё, што ў польскім правапісе часамі не ставяць коскі там, дзе ставяць у нямецкім. У сказе «Яна запрапанавала мне пайсці на экскурсію» была коска: «Sie schlug mir vor, einen Ausflug zu machen».

— Ты не ведаў? — здзівілася Дануся.— Англічане ставяць коску яшчэ іначай!

— Няўжо?

— І ў французскай мове бывае так! І ў рускай, глядзі!

Дануся пачала выводзіць прыклады ў сшытку.

— «Дом, у якім я жыву, вялікі». Бачыш? Мы тут паставілі дзве коскі. А па-французску «La maison qui j'habit est grande». Коскі няма?

— Ну, няма...

— Тое самае па-англійску: «The house where I live ist large». Таксама няма?

— Тады навошта наогул існуе яна, калі можна яе гэтак свабодна перастаўляць? — абурыўся я.

— Як гэта «навошта»?

— А — так! У мяне даўно была падазронасць, што яна зусім непатрэбная, яе прыдумалі, каб задаць вучням работы. Я яе вучыў на ўсялякі выпадак. Цяпер няхай зубрыць той, хто яе прыдумаў!

Данусю гэта забавіла.

## 6

У нас была свая гульня. Я крыўляў якога-небудзь галівудскага кінаакцёра. Дануся прыкідвалася абражанай і біла мяне кніжкай па галаве, я лямантаваў.

Або гулялі ў іспанскі цырк. Гектар быў быком, я — тарэадорам, а Дануся — суддзёй.

Бывала, Дануся са смехам давала мне замест законных трафеяў тарэадора — вушэй, капытоў і хваста — штонебудзь смачнае, у гэты час Гектар хітра лашчыўся да мяне.

Аднаго разу на гары застаў нас цёплы дожджык. Яшчэ ён зусім не сціх, а ўжо заззяла сонца, заблішчалі мільёны сярэбраных кропель. Перад намі мо на дваццаць колераў заіграла дзіўная дуга вясёлкі — выразная, свежая і вялізная, на ўсё неба.

— Ведаеш, што гэта? — схапіла мяне за руку Дануся.— Глядзі, для нас вароты неба зрабіла, бачыш? Хадзем пад іх!..

Мы ішлі, а вясёлка дражнілася, адступала, пакуль не растварылася зусім. Часамі Дануся перакладала змест артыкула з якога-небудзь замежнага часопіса, і мы разам захапляліся рознымі дробязямі.

Дзівіліся, напрыклад, што ў Англію прыехаў індыйскі магараджа і загадаў сабе ўставіць зубы з ... брыльянтамі!

Дзівіліся, што чалавечы арганізм створан з такім запасам трываласці, што, напрыклад, косць галёнкі можа вытрымаць дваццаціпяціразовую вагу ўсяго цела.

Дзівіліся, што, каб днём убачыць зоркі, дастаткова залезці ў калодзеж!..

Часамі прачытанае выклікала ў нас гарачую дыскусію, і мы спрачаліся, забыўшыся пра ўсё на свеце.

У польскім часопісе «На шырокім свеце» пад фатаграфіяй няголенага пажылога тыпа стаяў сенсацыйны подпіс, надрукаваны тлустымі літарамі:

«Глядзіце, добра прыглядзіцеся, вось гэты немалады чалавек, інжынер Збігнеў Дунікоўскі з Варшавы, вынайшаў спосаб, як са звычайнага рачнога пяску рабіць золата!..»

Не ведаю, ці верыў хоць адзін чалавек з рэдакцыі часопіса ў тое, што там было напісана, але мы паверылі адразу і пачалі фантазіраваць, што б рабілі, калі б авалодалі такім вынаходніцтвам.

— Я паклала б золата ў машыны, ездзіла б па Польшчы і раздавала б яго бедным,— з упэўненасцю заявіла Дануся.

— А калі да машыны падыдзе пераапрануты багацей, тады што? Ім жа заўсёды мала свайго, яны папруцца да цябе ў першую чаргу, адно пакажыся з такой машынай!..

Не, гэты аргумент не надта страляў, я пашукаў іншы.

— Чаму ты тады ўся скурчылася, калі маці ля касцёла раздавала жабракам грошы?.. Адчувала, што не вельмі прыемна браць падачкі. Ты сама ўзяла б?

— Відаць, не,— прызналася яна.

— Бачыш! Ну, а яшчэ?

— Наладавала б у машыну цукерак, істужак, ездзіла б па вёсках і раздавала б дзецям цукеркі, а дзяўчынкам банты павязвала б...

— Ага, банты. А яшчэ?

— Во, я ведаю, што яшчэ зрабіла б! Каб мела шмат грошай, дала б іх у першую чаргу віленскаму «Дабрачыннаму таварыству жанчын-каталічак»!

— Тава-арыству?

— Гэта мая мара! Таварыству трэба шмат грошай, каб карміць бедных, выдаваць ім дапамогу. Мамуся кажа, у варшаўскіх сталовых гэтай арганізацыі вісяць нават шаўковыя фіранкі, а ў нас — толькі з марлі. І то іх парабілі мы з Яняй, дачкой пана старосты, ведаеш яе?.. Цяпер эканомлю кожны дзень на грошах, што выдае мамуся, і заношу іх у таварыства. Хутка мне споўніцца роўна васемнаццаць, тады мяне прымуць у члены таварыства і, як і мамусі, білет з пячаткай выдадуць!

Я ўспомніў, як мінулай восенню зарабляў залатоўку. Успомніў старых, якія выжывалі з розуму. Успомніў нават тыя фіранкі з белымі плямамі ад сырасці.

— Ха-ха-ха-ха! — зарагатаў я.— Ну ж і прыду-умала!..

— Чаго ты? Праўда, праўда! — горача ўзялася яна мяне пераконваць.

Тады свае пражэкты абвясціў я. Былі яны шырокія, не падобныя на Данусіны.

Першым чынам я над Віліяй набудаваў бы шыкоўных мураванак і туды перасяліў бы з усяе Вільні такіх цётак з дзецьмі, як мая прачка, ды бяздомных студэнтаў, як Суткус.

Тады накупіў бы бамбардзіроўшчыкаў, лінкораў і навейшых танкаў ды паслаў бы іх у Іспанію на генерала Франко — помсціць за Рэспубліку.

А яшчэ, каб меў шмат грошай, пабудаваў бы плаціну на рацэ Конга і абваднiў бы Сахару (у часопісе пісалі, што французскія інжынеры прыдумалі план, як гэта зрабіць, толькі не маюць сродкаў на яго ажыццяўленне).

Затым у сваёй вёсцы праклаў бы водаправод, правёў бы электрычнасць, пабудаваў бы лазню, а кожнаму дзядзьку — новую хату! У новыя дамы мужыкам машынамі навёз бы солі, мыла — дзядзькі, нябось, ведаюць, што мыла не ядуць!..

Дануся слухала мяне з захапленнем. Яна была ўжо згодная адмовіцца ад свайго плана і з гатоўнасцю аб'явіла:

— А я паехала б з табой у Конга! Праўда, праўда. І табе было б няцяжка ўзяць мяне, бо я маю заграні́чны пашпарт. Кожнае лета мы з мамусяй ездзім у Швейцарыю. У Афрыцы я табе памагала б...

— Эк, памагатарша!

— Праўда, праўда! Я дома часта памагаю Антосі, тата нават хваліць за гэта!

— Эт, дзіця горкае! — кінуў я, успамінаючы, як яна даставала са студні ваду.— Адная ты ў яго, то ён і не ведае, як цябе песціць!..

## 7

Аднойчы Дануся прынесла французскую кніжку — правілы добрага тону.

— Янку, табе варта з ёю пазнаёміцца!

— Што ж, давай вучы мяне добраму тону! — Зрабілася надта смешна, як падыдзе гэта да мяне.

Дануся пачала тут жа перакладаць:

— «За сталом ніколі не падчышчай талеркі, не хапай апошні кавалак хлеба, няхай ён лепш застанецца...»

— Брахня! — перабіў я.— Бываў у вашых рэстаранах і бачыў, як вы там ясцё! У нашай мясцовасці правілы добрага тону такія: калі ты ясі, даядай да канца, не псуй харчоў, памятай, іх дабываюць потам!

Дануся не ведала, што адказаць.

— Чаго так узіраешся, мо няпраўда?! Бачу, колькі ваша Антося кожны дзень вывальвае недаедкаў у скрыню,— хапіла б яшчэ на цэлую сям'ю! Ваш Гектар нават каўбасу не заўсёды і не адразу з'есць: сем разоў панюхае, тады зробіць ласку і праглыне!.. Вас бы, буржуяў, патрымаць з тыдзень на адной вадзе, каб вы пазналі цану хлеба!.. Адным словам, ясна. Чытай далей!

— «Чаму так мала людзей, прыемных у размове? Бо кожны думае больш аб тым, што хоча сам сказаць, чым аб тым, што гаворыць яго субяседнік... Замест таго каб яму пярэчыць, перабіваць яго, трэба ўваходзіць у спосаб яго мыслення, у яго густ...»

— А-га, і яшчэ падтакваць яму?

— Янку, але ж нельга і крыўдзіць, абражаць чалавека толькі таму, што ты з ім не згодзен!

— Ну, такая філасофія мне не падыходзіць!

— Але ж чаму?

— Хто-небудзь будзе малоць глупства, а мне трэба не толькі цярпець, а яшчэ і «ўваходзіць у спосаб мыслення...»? Дык ён можа дагаварыцца да таго, што пасля яго слоў яму трэба будзе набіць морду!

— О-ей, Янку, чаму ты такі рэзкі, бескампрамісны, грубы! Я не збіраюся рабіць з цябе графа, але хачу навучыць, каб не быў такім дзікуном. Так вучыся! Ёсць жа цэлая навука, як сябе паводзіць сярод людзей!

— Табе здаецца, што я грубы. Бо цябе выхоўвалі на такіх пустых буржуйскіх кніжачках. Вучылі ўсюды быць добрай. А мяне бацька вучыў, што для ўсіх добрым быць немагчыма, бо тады трэба аднолькава кланяцца і разумным і ідыётам! Маці вучыла гаварыць усюды праўду і адно праўды трымацца. Я не грубы, я трымаюся бацькавай і матчынай філасофіі!

Дануся не ведала, што казаць.

— Гм, па-твойму, калі перада мной дурань гаворыць глупства, то ў імя твайго правіла, якое нехта там выдумаў у разбэшчанай Францыі, я не маю права яму сказаць: ты дурань, змоўкні, не мялі глупства, а паслухай лепш, што скажуць разумныя. Яшчэ павінен падстройвацца пад яго тон, так?

— Ён жа таксама чалавек, Янку, яго таксама шкада!

— То няхай не будзе дурань, калі чалавек. А калі ідыёт, то які ж ён чалавек?

— Навошта ж яго абражаць, Янэк? Лепш знайдзі аргументы і пераканай яго імі!

— Да дурня аргументы, думаеш, даходзяць?.. Як бы не так!.. Я не абражаю, я дыягназ яму стаўлю, і ён павінен быць мне яшчэ ўдзячным за гэта!

— Трэба ж быць ветлівым!

— Ветлівасць — форма прытворства. У нас цярпець не могуць прытвор!

— У цябе гэта ад сялянскай праматы! Але ты павінен яшчэ набрацца і мудрасці, цярпімасці да людзей, набрацца інтэлігенцыі... Каб мы селі есці, няўжо ты ўзяў бы апошні кавалак хлеба?!

— А калі б ты ўжо наелася і яго не хацела? Ён жа — прапаў бы!

— Мне магло б быць сорамна прызнацца, што я яшчэ галодная?

— Гэтага хіба саромеюцца?

— А — не? Падумай сам!.. Ты толькі так гаворыш, бо і сам апошнюю скібачку пры мне не ўзяў бы, бо ў цябе ж шчодрае сэрца, Янку!

— Гм... Во як перакруціла!..

— Нічога, паступова зраблю з цябе чалавека!

— Валяй, дазваляю!..

Так мы спрачаліся без канца.

Нагаварыліся, што аж языкі забалелі. Пасля моўчкі ляжалі ды разглядалі зямлю.

Праз хвіліну нас ужо дзівіла, што кожная пясчынка не падобная на суседнюю. На гары іх мільярды, і ўсё розныя!

Прыглядзіся добра да травінак: дзвюх зусім аднолькавых таксама не знойдзеш!

А лісце?

А кветкі?

А дрэвы?..

— Зімой, ідучы з ліцэя, люблю разглядаць квяцістыя ўзоры на вітрынах,— прызналася Дануся.— На кожнай шыбе іншакшы, а мароз аднолькавы...

— Во, гэта прыкмеціў і я!.. Таксама і людзі, заўважыла?.. Мы гаворым: ён падобны да нашага знаёмага. На самай справе падабенства далёкае. На свеце жыве нас два

мільярды, і кожны іншы! Ух, аж страшна: адкуль у прыроды такое багацце форм?

— Не ведаю! — прашаптала ўражаная Данупся.

Мы так захапляліся нашымі гутаркамі, бытта чыталі вельмі цікавую кніжку...

## 8

Няўдалыя паўстанні, турмы, шыбеніцы і ссылкі лепшых людзей Польшчы ў мінулым прывялі да таго, што народ польскі пачаў сабе ствараць уяўных герояў мінулага. Што ж, паўтараста гадоў трымалі ў сваіх кіпцюрах магутныя дзяржавы багаты гістарычным мінулым край: людзі міжвольна шукалі ўцехі ў марах, і ў палякаў нарадзілася ўяўленне аб ідэальнасці, надзвычайнай геранчнасці і вялікай дабраце іхніх каралёў, князёў.

Таксама ўяўляла сабе мінулае і Данута.

На гары, калі мы пералічвалі сваіх любімых герояў, яна нечакана прызналася:

— А мой ідэал мужчыны — ксёндз Кардэцкі! [1]

Я так здзівіўся, што не знайшоў што і адказаць. Спадзяваўся — назаве Касцюшку, нават — Пілсудскага, які меў поспех у польскай ваеншчыны і буржуазіі, але каб поп?..

Гэта ў яе ад рэлігійнага дурману. Нічога, пройдзе!..

Развітаўшыся з Данусяй, я пачаў марыць, як дапамагу генеральскай дачцэ стаць рэвалюцыянеркай.

Што так будзе, амаль не сумняваўся.

Толькі ўчора скончыўся судовы працэс у Гдыні, які нашумеў на ўсю Польшчу. Дачка аднаго віленскага фабрыканта трапіла паліцыянтам у лапы, калі раздавала курортнікам на пляжы марксісцкую літаратуру.

А гады два таму назад у нашу вёску прыязджаў студэнт. Ён нібы чытаў сялянам лекцыю пра зоркі, а на самай справе прывозіў падпольшчыкам новыя інструкцыі. Тады хлапец расказаў, што ў горадзе ў яго ёсць сябар — генералаў сын — камуніст.

— Дома ў іх на стале,— казаў ён,— стаіць бронзавы

---

[1] Ксёндз Кардэцкі — герой рамана Генрыка Сянкевіча «Патоп». Паводле аўтара, у 1665 г. Кардэцкі арганізаваў абарону касцёла на Яснай Гуры ў Чанстахове ад шведаў. З той пары касцёл стаў месцам пакланення набожных палякаў, а Кардэцкі для некаторых палякаў — нацыянальным героем.

бюст маршала Пілсудскага. Генерал і не ведае, што сын трымае ў бюсце камуністычную літаратуру!

Чаму ж тады не зрабіць падпольшчыцай і паненку? У яе такое чулае і добрае сэрца!

Данýся не мела якога-небудзь асаблівага таленту. У ліцэі яна была не найлепшай вучаніцай, атрымлівала пераважна чацвёркі і рэдка — пяцёркі. Гэтаксама ў яе было з музыкай, ігрой у тэніс — і там заўсёды былі лепшыя за яе. Але паненка расла ўсебакова развітым чалавекам. Ці не з такіх менавіта выходзяць сапраўдныя людзі?

Няўжо яна мяне не зразумее? Трэба выбраць зручны момант і ўзяцца за справу.

9

На Вялікай вуліцы быў кінатэатр паўторнага фільма. Калі меў грошы, я хадзіў толькі туды. За невялікую плату ў сеанс там паказвалі аж два прыгодніцкія фільмы — на паднішчанай кіналенце, але за чатыры гадзіны наглядзішся і наперажываеш уволю.

Тады мне падабаліся кніжкі пра Ната Пінкертона і фільмы пра каўбояў. Я захапляўся спрытнымі людзьмі, якія баранілі слабых, мужнасцю і сумленнасцю дзяцей прэрый. У фае і ў зале ніколі не ўключалі святла, і можна было не асцерагацца, што трапіш на вочы знаёмым.

Мне ўдалося ўгаварыць Данусю, і мы пайшлі туды разам.

Калі пачалася карціна, Дануся стала падобна на хлапчукоў у зале, якіх можна было ўшчыпнуць, і яны нават не пачулі б.

Вяртаючыся з кіно, паненка спыталася, чаму я цяпер не працую пасыльным. Я расказаў, як мяне зладзілі з пісьмом і праперлі з работы, як цяпер устаю ў чатыры гадзіны і да васьмі разношу па кварталах бутэлькі з малаком.

— А ты ў гэты час толькі паварочваешся на другі бок у сваім мякенькім ложку!

— Божа, чаму ж адразу пра гэта не сказаў? — ускрыкнула яна з дакорам.

— Ну во, будзеш ведаць цяпер!..

— Матка боска, што рабіць?!. У мяне ёсць дзесяць тысяч злотых на ашчаднай кніжцы, але мне не споўнілася яшчэ васемнаццаці гадоў, не выдадуць у касе... Мо сукенкі мае старыя прадаць?.. Цяпер разумею, чаму цябе так дзівіла, колькі што каштуе!..

— Ага, разумееш!..

Вярнуліся мы вечарам. Ісці дадому праз брамку Дануся не адважылася, я перасадзіў яе цераз зарослы дзікім вінаградам плот, і яна мякка скочыла на зямлю.

— Янэк, нахілі галаву, штосьці скажу! — усхвалявана шапнула паненка.

Я нагнуўся да агароджы. Дануся прыткнулася губамі да маёй шчакі. Я адчуў пацалунак, лёгкі, нібы да твару дакранулася вуснамі дзіця.

— Гэта — мая ўзнагарода, мілы, за ўсё, за ўсё!..— выдыхнула яна і панеслася дадому.

Нейкі час я стаяў нерухома, чуючы шэпт, які выйшаў з глыбіні Данусінай душы. Адчуваў дотык яе губ — халаднаватых, як рукі, да якіх незнарок дакрануўся шчакой, перасаджваючы дзяўчыну цераз плот. Гэта быў холад здаровага дзявочага цела, які валодаў уласцівасцю кружыць галаву і прысцяшаць біццё сэрца.

## 10

Яна мяне пацалавала!

У наступны дзень я вырашыў праявіць ініцыятыву. Да самага вечара дрыжаў ад хвалявання.

Спаткаліся мы, калі зайшло сонца.

— Янэк, перастань!..— нібы праз сон пачуў я спалоханы голас Данусі.

Разгадаўшы мой намер, яна ўперлася далонямі мне ў грудзі.

Я лёгка перасіліў супраціўленне паненкі, абняў і стаў вуснамі шукаць яе вусны. Дануся вырывалася, і я пацалаваў яе паспешліва і так нязграбна, што сваімі зубамі стукнуўся аб яе зубы.

— Як ты смееш! — кінула яна з абурэннем і вырвалася.

У параўнанні са мной у яе было сілы якраз столькі, як у кураняці. Але гэтая слабасць мяне і раззброіла. Я стаяў вінаваты, часта дыхаў і дурнавата ўсміхаўся.

— Што, адно табе можна цалавацца? — пераводзіў я ўсё ў жарт, адчуваючы, што гавару не тое, што трэба.

У здзіўленых і пакрыўджаных вачах Данусі было нямое пытанне.

Дурань! Давёў сябе да таго, што пацалунак зрабіўся самамэтай. І цалавацца ў тую хвіліну мне зусім не хацелася, рабіў усё з упартасці.

Ад дотыку да яе вільготных вуснаў я не толькі не адчуў прыемнасці, але быў нават расчараваны — і гэта ўвесь смак ад таго самага таінства, пра якое столькі гавораць і пішуць у кніжках?

Усё гэта мяне адразу апрытомніла.

Пакрыўджаная Данускя з абурэннем папраўляла валасы і вопратку.

— Грубіян! — кінула яна зноў, і яе голас задрыжаў ад плачу.

— Ну! Бо з вёскі!..— разжалабіў я сябе, добра разумеючы, што гавару не тое.

Каб супакоіцца, я назбіраў каменьчыкаў і са злосцю пачаў шпурляць іх з гары. Калі адвярнуўся, ля мяне ўжо нікога не было.

«Пайшла? То ідзі сабе! Патрэбна мне такая генеральша, падумаеш!..»

Раззлаваны і ўстрывожаны, пазаглядаў я сюды-туды і пачаў спускацца з гары.

11

Аднак Данускя мне ўсё даравала. У наступны дзень нават прызналася, што яе ўжо цалаваў адзін чалавек. У прызнанні было столькі шчырай даверлівасці, што вестка зрабіла паненку яшчэ больш прывабнай.

Вось прыкладна тады і наступіў момант, ад якога пачаліся нашыя непаразуменні.

Паміма маёй выхадкі Данусі імпанавалі мой рост і сіла, таму я стараўся іх падкрэсліць. Каб здавацца яшчэ вышэйшым, станавіўся на высокія месцы, хваліўся сваім наганам... Паспешліва выстаўляў напаказ усе якасці, бытта баяўся, што потым будзе позна.

— Лёнгінус! — пяшчотна пазвала мяне Данка імем героя рамана Сянкевіча «Агнём і мячом».— О-ей, які ж у цябе дужы карак! Я недзе чытала, што гэта — прыкмета ўпартасці!

— Упартасці ў мяне хапае, магу табе пазычыць!

Данускя хвіліну памаўчала і ні з таго ні з сяго спыталася:

— Янэк, Адам Міцкевіч меў рост сто семдзесят восем сантыметраў. Гэта мала ці многа? Хто з вас большы?

Я паказаў далонню: паэт быў мне якраз па вусны.

Пытанне было не выпадковае.

У кожнай яе кніжцы ляжалі рэпрадукцыі нейкай бе-

лакурай паненкі, імі Данусл закладвала старонкі. Часамі ад няма чаго рабіць яна разглядала іх і ўздыхала.

— Хто гэта? — пацікавіўся я.

— Мой ідэал жанчыны — Марыля Верашчака.— І Дануся зрабілася сумная і задуменная.

Нічога не падазраючы, я пытаўся далей:

— Чым жа яна так праславілася, што прадаюць яе фота?

— Марыля кахала Міцкевіча, але пайшла на самаахвярны ўчынак. Каб зрабіць бацькам прыемнасць, выйшла замуж за нялюбага магната Путкамера...

Па тым, як вінавата Дануся апусціла вочы, я раптам зразумеў, для чаго яна гэта гаворыць, і пахаладзеў.

Няўжо яна гэтаксама хоча выйсці за нялюбага Любецкага? Няйначай!.. Данусі цяжка, і, каб супакоіцца, яна прымушае сябе часта ўспамінаць Марылю. Але ж гэтага не можа быць!..

— Няўжо і ты?..— жахнуўся я.

Дануся не адказала. Выходзіць, пытанне дарэмнае.

Мы доўга маўчалі. Мяне агарнуў якісьці холад, я зноў адчуў самотнасць, пачуў сябе страшэнна адзінокім.

Нарэшце я адважыўся паўтарыць пытанне:

— Гэта праўда, Данка?

— Праўда, Янэк...— прашаптала яна, бездапаможна і вінавата апусціўшы галаву.

Чаго я тут сяджу?!. Я ўсхапіўся на ногі.

Дык вось хто яе першы пацалаваў — гэты нікчэмны Браніслаў!

Вось чаму яна распытвала пра рост Міцкевіча!

А я, дурань, так радаваўся апошнія дні. Жаніха іграў!.. А чаго ад яе хацець? Яна — прадукт свайго асяроддзя!..

Я стаў глядзець на Данусю нібы на асуджаную. Але паказаць усю бязглуздасць яе намеру не ўмеў. Да таго ж ва ўсёй гэтай гісторыі быў зацікаўленай асобай, і гордасць не дазваляла яе адгаворваць. У яе было столькі самаадданасці, што ў мяне паступова праявіліся да паненкі спачуванне і жаласць.

Аднак усё гэта ўзнікла потым. Пасля апошніх Данусіных слоў мяне ўкалола страшэнная рэўнасць, агарнула абурэнне:

«Колькі дзён я нічога не ведаў! За каго яна мяне тады лічыць, за хлопчыка для забавы?.. Якая мая роля ў гэтай гісторыі?!. Блазна прыдворнага хацелі з мяне зрабіць?!.»

І Дануся зрабілася такой недасяжнай, як і восенню.

## 12

Прайшло некалькі дзён.

Нягледзячы на прызнанне, паступова я супакоіўся, а Дануся стала мне яшчэ даражэйшай. Кажуць, мы болей любім чалавека, калі ведаем, што ён не для нас. А яшчэ кажуць, каб мацней паверыць, трэба пачынаць з сумнення, а каб мацней палюбіць — з нянавісці. Я амаль гэтак пачынаў.

Некаторыя хлопцы мяне дзівілі сваімі адносінамі да дзяўчат. Мне ж дзяўчаты заўсёды здаваліся недасяжнымі і казачнымі багінямі і анёламі. Я па натуры быў няўлюбчывы і сваімі пачуццямі не раскідваўся. Я іх збіраў, капіў, і цяпер яны выбухнулі.

Каб пакахаць чалавека, адных позіркаў мала. Трэба счапіцца характарамі, імкненнямі. Дануся мяне прывабіла не толькі абаяльнасцю і крамлівасцю цела пісанай прыгажуні полькі.

Учынкамі людзей таго свету, з якога я паходзіў, кіравалі штодзённыя клопаты пра кавалак хлеба, ім была вядома адна работа — мускульная.

У нашых сем'ях ласкі і чуласці сароmеліся.

Казкі апавядалі дзецям толькі для таго, каб малыя засыналі або не плакалі: інакш які сэнс траціць час на глупствы?

На кветкі звярталі ўвагу толькі маладыя, і то паміж работай.

Вырасце ля хаты дрэва, яго маглі ссекчы, бытта цень прыносіць у хату сырасць: яшчэ грыб паесць сцены!..

Цётка магла пражыць свой век і не пабываць у суседняй вёсцы.

Паедуць, бывала, два дзядзькі на цэлыя суткі да млына. Аднаму жонка дасць торбачку з ежай. Ён есць пры сябру, з якім праходзіла яго жыццё, і ў дзядзькі не з'явіцца нават думкі падзяліцца кавалкам хлеба, а сябар за гэта і не пакрыўдзіцца.

І жаніліся ў нас па-свойму. Хлопцу нявесту падбіралі ў залежнасці ад колькасці кароў, якасці воза — пасагу маладой!

Канечне, было і каханне, а як жа!

Недалёка ад маёй вёскі ля дарогі ляжыць і да сённяшняга дня крушня каменняў. Яшчэ нядаўна, бывала, калі ішлі жанчыны ў лес па ягады, старыя з прыполу вымалі каменні і шпурлялі ў горбу. Некалі адна дзяўчына з на-

шай вёскі не вытрымала, што яе хлапца ажанілі з другой, і ўтапілася.

— Звар'яцела! — сказалі адны.

— Гэта яе д'ябал збіў з тропу! — казалі другія.

Бедную поп нават не дазволіў пахаваць на вясковых могілках. Закапалі яе ў чыстым полі ля дарогі, і аж да 1939 года нашы жанчыны ў яе магілку з пагардай і праклёнам шпурлялі каменнямі!

Толькі ў апошні час людзі маёй вёскі пачалі адчуваць, што недзе ёсць яшчэ іншы свет, ім невядомы. Мне здалося, што Дануся якраз з таго свету. І мяне туды пацягнула. як расліну да сонца!

Я быў тады малады і, як кожны малады, шукаў вакол сябе штосьці лепшае: людзей, сацыяльны ўклад...

Яшчэ трэба сказаць і пра іншае.

Мы спаткаліся ў такім узросце і ў такую пару, калі гатовы былі закахацца ў чалавека, які адпавядаў нашым патрабаванням: я — ёй, яна — мне. Як толькі зарадзілася глыбокае пачуццё ў аднаго, у сілу сваіх таямнічых законаў яно вызвала такое ж самае пачуццё і ў другога. Няважна, што мы паходзілі з розных асяроддзяў і гэта рабіла нашае збліжэнне нелагічным. Хіба ў каханні заўсёды пануе логіка?

## Раздзел трэці

### 1

Пасля Данусінага прызнання я хадзіў прыбітым, сам не свой.

— Янэк! — пазвала аднойчы мяне паненка з гары, калі я браў у калодзежы ваду.— Ідзі да нас.

Я праглынуў камок крыўды.

— Хадзем, ну, не злуйся! — збегшы ўніз, пацягнула яна за рукаў...

Гордасць мая некуды знікла, і я пакорна пайшоў за ёй.

— Мая калежанка Бэта! — адрэкамендавала яна мне Залкіндаву дачку.

Ад нечаканасці я не ведаў, як сябе паводзіць.

А паненка не давала апамятацца. Яна зняла з пляча лейку і загадала:

— Ану, стань побач з Бэтай, я вас здыму!

— Бэтачка, на, здымі мяне з панам Янкам! Я яго навяла, толькі націсні спуск.

Дануся стала побач са мной. Дзяўчына нас шчоўкнула і вярнула апарат. Усё адбылося на працягу лічаных секунд.

— А цяпер на, раздушы! — працягнула мне жменю валоскіх арэхаў.

Дануся хацела пахваліцца, які я дужы. Мне было няёмка, я ўпіраўся.

— Сцісні, сцісні! — дамагалася яна настойліва, паклаўшы мне на далонь арэхі і загінаючы пальцы ў кулак.

Я паслухаўся, і арэхі луснулі з сухім трэскам.

— Бачыш? — пераможна зірнула яна на Бэту.

Дзяўчына працягвала вывучаць мяне разумнымі карымі вачанятамі — такімі прыгожымі і выразнымі, якія бываюць толькі ў яўрэек.

— Пане Браніславе, сюды! — закрычала Дануся.

Я зірнуў уніз. Там ішоў Любецкі.

Стаяла такая цяплынь, што хацелася разуцца, скінуць з сябе кашулю, а князь быў у новым цёмным касцюме, накрухмаленай кашулі і пад гальштукам. Крочыў ён павольна, як чалавек, які ў святочны дзень выйшаў прайсціся.

— А, сэрвус! — убачыў ён нас.

Яго яшчэ не хапала.

На ўзроўні маіх ног паказаліся бліскучыя залысіны, шыя і плечы.

— Дзень добры, панно Данута! Дзень добры, панно Бэто! — часта дыхаючы, праказаў Любецкі.— Го, панно Данка з фотаапаратам? Выдатна!

— А ў мяне плёнка скончылася! — пераможна, нібы ■ радасцю паведаміла яна.

— Шкада...— апёкся Браніслаў.

Толькі цяпер ён убачыў мяне і разгубіўся.

— Пан Янэк, знаёмцеся!

— Знаёмы...— прамямліў вечны студэнт з дурнаватай усмешкай.

— Вы ўжо знаёмы? — зрабіла вялікія вочы Дануся.

Ніхто ёй не адказаў.

Я за ім сачыў незалежнымі вачыма. Любецкі зрабіўся вартым жалю. Усё выглядала так, бытта тут стаяў настаўнік, якога вучань Браніслаў вельмі баіцца. Ён перайшоў амаль на шэпт:

— Панно Данко, вас можна на хвілінку?

— Калі ласка! — пераглянулася яна з Бэтай.— Прабачце, пане Янэк!

Я не паспеў адказаць: рэакцыя ў маёй галаве праходзіла замаруджана, усё адбывалася нібы ў сне.

Браніслаў павёў паненку ўбок, але Дануся весці сябе далёка не дазволіла.

— У тэатр, як дамовіліся?

— Вядома! — капрызна паціснула яна плечыкамі і вярнулася да нас.

— Бывайце! Мяне на Антаколі чакаюць нашы карпаранты!

— Калі ласка, клічце і іх сюды!

— Яны нешта арганізуюць!.. Прыемнай забавы! — кінуў ён, стараючыся не сустрэцца з маімі вачыма, і пайшоў.

Брэшаш, ніхто цябе не чакае. Заела самалюбства. З ахвотай ты пабыў бы тут, каб не я.

Мы трое глядзелі яму ўслед. Браніслаў нехлямяжа крочыў у чорных лакірках, прыпаднімаючы калашыны і выбіраючы месца, куды паставіць нагу, каб не надта запыліць абутак. Дануся з Бэтай не вытрымалі і пырснулі. А ў мяне бытта зняў хто з сэрца вялізны цяжар.

Не вельмі мяне кранула, калі пад вечар я ўбачыў, як Браніслаў выходзіў з генеральскага дома і вёў Данусю.

## 2

Міналі лепшыя нашы дні.

Дануся пасля абеду з падручнікамі спяшалася да мяне, а дома гаварыла, што ідзе да сяброўкі.

Мы вельмі адно аднаго дапаўнялі і ў той жа час не разумелі адно другога.

Аднойчы, напрыклад, яна шчыра рассмяялася з мяне, што я па смаку не адрозніваю гатункаў цукерак і яны для мяне ўсе аднолькава салодкія. Якраз у гэтую хвіліну, асцярожна абыходзячы дубцы, наставіўшы клінам свіную мысачку, праклыпаў ля нас вожык. Калі ж я сказаў, што вожык зімой спіць у трухлявым пні, сівее ад старасці, любіць лізаць расу і вельмі храпе ў сне, Дануся паглядзела на мяне ўжо з павагай.

— Чаму ў цябе ў адным чаравіку падэшва дзіравая, а ў другім — цэлая? — выбухнула яна смехам зноў.

— Бо на левай абутак заўсёды хутчэй рвецца, нават — у цябе.

— На правай!
— Якраз наадварот.
— Та-ак?..
Усё гэта ёй было так цікава, што яна не знаходзіла слоў, каб выказаць здзіўленне.
У адзін пагожы дзень выбраліся мы за горад. Па дарозе Дануся пачала расказваць аб сваёй паездцы за граніцу. Яна бачыла там такое, пра што я чытаў толькі ў кніжках.
— Паехалі мы першы раз у Германію з паняй ваяводавай. У Дрэздэне зайшлі ў карцінную галерэю. Пані Бацянская падышла да адной карціны і расчаравана закрычала: «Дык такая ж вісіць у мяне на кватэры ў Вільні!» — «Тут арыгінал!» — тлумачу ёй. «Варта было толькі з-за гэтага ехаць тысячу кіламетраў?!» Адтуль адправіліся на мора...
— Раскажы пра яго!
— Ты яшчэ ніколі не бачыў?! — здзівілася паненка, калі мы крочылі палявой дарогай.
— Дзе ж я мог бачыць?!
— Слухай тады. Пад'язджаем да Трыеста, і мамуся кажа: «Глядзі, мора!» Зірнула я праз акно — ніякага мора! Толькі чамусьці па небе плавае бервяно, а над небам высяцца спічастыя хмары. Калі добра прыгледзелася, ажно гэта не хмары, а — горы са снегам і ніякае не неба, а вада, і па ёй плавае не бервяно, а — лодка з чалавекам!
Яшчэ мінулай восенню, калі не знаходзіў сабе месца ў Вільні, я аблюбаваў за горадам азярко. Цяпер прывёў да яго Данусю.
У апошнія дні моцна прыпякала сонца, азярко высахла і нагадвала вялікую лужыну, якая густа зарасла травамі, трысцём і аерам. Дануся падбегла да берага і анямела.
Дзіва! Чым тут захапляцца? Усё звычайнае.
Пахнуў разапрэлы сітнік, і над ім трашчалі крыльцамі з сухога цэлафану конікі. На супрацьлеглым баку азярка пад кустом спаў пастух. Яго каровы пазалазілі па самыя жываты ў ваду і лянiва шлёпалі сябе мокрымі хвастамі па баках. Здавалася, прырода — нібы гэтыя каровы — растлусцела, аблянілася, млее ад раскошы і ні аб чым не хоча ведаць. Успомніліся доўгія нудныя дні, калі я з торбачкай цераз плячо гэтак цэлыя дні, тыдні, месяцы праводзіў са статкам, кожны раз не могучы дачакацца, калі настане той вечар.

— А чаго яны забраліся ў ваду, Янэк? — спыталася Дануся.

— Каб малако не скісла ў вымі.

— А-а...— прыняла мой жарт за праўду.

Божа, да чаго ж яшчэ дзіця.

— А хвастамі чаму махаюць, сказаць?

— ?..

— Хвасты ў іх для таго, для чаго пані Бацянскай служыць веер на балу. А смятана адкуль бярэцца, ведаеш? У каровы з вымені звісаюць унь, бачыш, чатыры такія штучкі з кранікамі. Адзін адкруціш — сырадой пацячэ, другі — смятана, трэці — масла стане капаць...

Толькі цяпер яна зразумела, што я жартую, і мы абодва зарагаталі. Гэтым часам яе настрой перадаўся ўжо і мне. Я ўжо паглядзеў на прыроду ігрыва, рамантычна, як у дзяцінстве.

— Кум! Кум! — тужліва паскардзілася жаба.

— Кум-кума, дай палатна! Нашто табе? Дзяцей хрысціць! — падхапіў я.

Каля нас у аеры нешта пакешкалася, пакешкалася, а потым плюхнула ў ваду, а плынь нібы ціха ўздыхнула і аж зморшчылася коламі.

— О-ей! — уздрыганула паненка.

— Не бойся, усяго толькі жаба! Думае, што нас ашукала і мы ўжо яе не бачым. Во, глядзі, ляжыць, хітруня, на дне з вылупленымі вачыскамі...

— Ага, бачу!

— Няхай ёй здаецца, што мы дурні! Пакінем яе ў спакоі... Лепш паслухай, што робіцца ў кустах!

А ў прыдарожным алешніку, зашыўшыся ад спякоты ў лісце, заліваўся салавей.

— Цёх, цёх, цёх! Пабёг, пабёг, пабёг! Па пятах, па пятах, па пятах! Кі-ям, кі-ям, кі-ям! Ф-іі-і! — пачаў я птушку дражніць.

Дануся рассмяялася.

— Я ведаю ўсе іхнія дванаццаць кален!.. Во курскага пачуць бы, тыя спяваюць на пятнаццаць!..

Абудзіўся пастух, павыганяў з вады жывёлу, і яна стала пасвіцца. Паміж кароў важна пахаджвалі буслы.

— А чаго яны разам?..

— Каровы выганяюць з травы жаб, а буслы іх ловяць, прыглядзіся!

— Узаемная дапамога?.. Якая гармонія, якая прыгажосць, якое неба!..

— А ты яшчэ ездзіш за граніцу шукаць хараства! Што тваё мора, што чужая Швейцарыя, паглядзі на свой край як след!

— О божа мілы!

— Пры чым тут твой бог?

— Янку, нельга блюзніць! — спалохана азірнулася яна, бытта нас маглі падслухаць на небе.

Во калі вазьмуся за цябе!

Я адвёў паненку ад возера і пасадзіў у жыта.

— Данусяˌ— прыступіў я да справы,— ты ж такая вучоная, культурная і разумная паненка! Як ты можаш сур'ёзна верыць у папоўскія казкі?.. Вучыла, нябось, біялогію, ведаеш, што свет узнік не за шэсць дзён, а развіваўся мільёны гадоў!

— Які ты, Янку, наіўны. Біблейская легенда аб стварэнні свету дайшла да нас ад старажытных яўрэяў. А слова «дзень» па-стараяўрэйскаму азначае і суткі, і год, і эпоху. Шэсць сутак трэба разумець у пераносным сэнсе, кожны дзень — цэлая эпоха! Гэта ж так проста!..

Дрэнны з мяне быў настаўнік. Убачыўшы, што адразу не магу пераканаць, я зазлаваў:

— Няма чым ім крыць, падтасоўваюць факты! А ты слухай! Ты вер ім!.. Вер французскім кніжачкам... Ну і балда ж ты, хоць і надта вучоная ды з такой сям'і! Аб чым з табой гаварыць пасля гэтага?

— Янэчку, супакойся!.. Я пастараюся ўсё-ўсё зразумець!

І тады ля возера я прачытаў Данусі палітычную лекцыю.

Я сам у той час больш адчуваў, чым разумеў, і што мог расказаць, мне цяжка цяпер і ўявіць. Памятаю, Дануся слухала пакорна і згаджалася, што рэлігія — мінулае, а ідэі сацыялізма — будучыня народаў. Я палічыў, што дабіўся поспеху. Гэта мяне ўзняло ў сваіх вачах. Пачакай жа ты, князь Любецкі, падсуну табе дулю пад самы нос!

Я не вытрымаў, прыгарнуў яе і пацалаваў.

Дануся дазваляла дакрапуцца толькі на адну хвілінку, бытта цалавацца коратка — злачынства меншае.

— Ужо хопіць, Янку! — за кожным разам палахліва ўскрыквала яна, задыханая, і вырывалася.

Гэта мяне толькі дражніла. Я ганяўся за ёю па жытах, падаў у густую шчотку з пругкіх, як дрот, ядраных сцяблінак і цалаваў, цалаваў зноў.

## 3

Пад вечар, шчаслівыя і здаволеныя, мы вярталіся з возера.

Па дарозе абагналі п'янага дзядзьку. У абшарпанай саматканай вопратцы ён чагосьці на ноч валокся ў горад.

П'яны раптам стаў рысавацца. Абняў тэлеграфны слуп і зацягнуў маналог:

— Ах, сасёначка!.. Расла ты сабе прыгожая ў лесе і гора не ведала! А што з табой паны зрабілі: спілавалі, абадралі, акавалі жалезам, начаплялі нейкіх чарак, дратоў, і век табе тут, беднай, гараваць! І ў дождж, і ў мароз, і ў спякоту ніхто цябе, бедную, не пашкадуе, нікому да цябе няма справы!.. Ты аж патрэскалася ад натугі, высахла ўся, цябе ўсю стачылі караеды!.. Ах мая ты сястрычка, што з табой злыдні зрабілі!..

Мы засмяяліся і пайшлі далей.

На ўскраіне Вільні паказаўся прыгожанькі домік. Ля яго акон тоўпіліся людзі.

— Давай пабачым, што там здарылася! — зацікавілася Дануся.

— Можам...

Мы збочылі з дарогі.

Ля дзвярэй доміка з апушчанымі пад бараду пасачкамі дзяжурылі салдаты. Духавы аркестр зайграў жалобны марш.

Уціснуўшыся між людзей, мы даведаліся: у гэтым доме памёр палкоўнік.

Людзі навокал нас голасна гаманілі. Ніхто па нябожчыку не бедаваў. Гэта ўразіла Данусю, і яна ўзняла на мяне поўныя слёз вочы. А натоўпу і далей не было ніякай справы да настрою нейкай там паненачкі, у якой бацька таксама вайсковы чын.

— Ты не памятаеш — у католікаў ці праваслаўных перад тым, як забіць труну, накрываюць твар нябожчыку? — абыякава пыталася нейкая жанчына.

— Я адно ведаю, што ў яўрэяў пакойніка кладуць у саван. Найлепш з суровага палатна...

— Ат, яму ўсё роўна!

— А наро-оду сабралася!

— То дзіва! Як багаты памрэ, то і апошні з хаты прэ, а як бедны-худачок — толькі попік і дзячок!

— Калі ж цяпер будуць плаціць удаве?

— Эт, бяда не вялікая!

— Чорт яе не возьме, не бойся, заплацяць, больш, чым нам з табой...

Данусі гутарка здалася дзікай, і яна пацягнула мяне за рукаў:

— О-ей, які цынізм!

Прываляокся той самы п'яны дзядзька і пачаў дапытвацца:

— Чаму граюць, га? Чаму граюць, а не танцуюць?

— Пане, цішэй, тут чалавек памёр! — узмалілася Дануся.

— Хто памёр!

— Пан палкоўнік!

— Будзе другі, падумаеш!

Людзі зарагаталі.

— Вы п'яны! — Дануся прамовіла гэта так, бытта ад яе слоў чалавек меўся зараз жа згарэць ад сораму.

— Хто п'яны? Я-а?.. Та-ак... Я, канечне, п'яны. Ну і няхай сабе!

— Пане пастарункові, тут хуліган! — паклікаў нехта паліцыянта.

Тым часам дзядзька, дастаючы з-за пазухі бутэльку самагонкі і тыцкаючы папяровым коркам Данусі ў нос, урачыста прадэкламаваў:

Я п-п'ю не панскія ш-шампаны —
Зямелькі роднай горкі сок,
От!

З'явіўся нарэшце паліцыянт і пад дружны рогат натоўпу дзядзьку павалок.

— Хадзем адсюль, не магу я тут больш! — расплакалася Дануся.

Я суцяшаў, а яна цвярдзіла сваё:

— Я яго ведаю. Яго ўвесь горад ведае! Пан Мечыслаў Станкевіч. Адзінокі стары. Яго дзеда Мураўёў павесіў за паўстанне. Бацька за Польшчу памёр у царскай турме. Жонка памерла ў вайну ад тыфусу. Сам ён — апошні з роду Станкевічаў, у нас бываў не раз, мне гісторыі даваенныя расказваў... Увесь яго род загінуў за Польшчу, за іх, а яны такія няўдзячныя, подлыя, чаму, чаму?.. Ён ляжыць мёртвы, а яны...

— Супакойся!..— Але я адчуваў, што яна па-свойму мае рацыю.— Перастань!.. Выходзіць, і ім трэба класціся ды паміраць?

— Не люблю цябе, і ты такі самы цынік!

— Называй мяне цынік, бляшанік — як хочаш, але ж супакойся, вазьмі сябе ў рукі!..

Нарэшце мы пайшлі.

У Вільні ўжо ювеліры паздымалі з вітрын свае бліскучкі і пахавалі іх у сейфы. Бразгалі жалюзі — крамнікі зачынялі на ноч вокны і дзверы. Служанкі выводзілі на прагулку пакаёвых сабачак. У касцёлах званілі на вячэрню.

Праходзячы па Антаколі, насупраць касцёла Пятра і Паўла, калі прагучаў першы звон, Дануся застыла і памалілася. Убачыўшы, як яна набожна, на каталіцкі манер — цэлай далоняю — хрысціцца, я вылаяўся:

— Вось табе і сагітаваў!

## 4

Над Вільняй у цэнтры горада стаяў вялізны палац Урублеўскіх. Некаторыя выхадцы з гэтага палаца праславіліся ў народзе.

У 1906 годзе на судовым працэсе адвакат Урублеўскі выступаў з палымянай прамовай у абарону лейтэнанта Шміта.

Іншыя Урублеўскія збіралі грошы для рэвалюцыі...

Цяпер жа ў агромністых залах гэтага будынка паны наладзілі выстаўку, прысвечаную гадавіне вайны з Савецкай Расіяй. Сярод нямногіх наведвальнікаў выстаўкі быў і я.

У палацы на сценах віселі карты з чорнымі стрэлкамі наступлення легіянераў Пілсудскага. На таблічках значыліся лічбы забітых і ўзятых у палон чырвонаармейцаў. Пад шклом іржавела некалькі трафеяў: руская граната «бутэлька з кальцом», тульская вінтоўка, кулямёт «максім»... Віселі фатаграфіі.

Кідаўся ў вочы адзін здымак. Французскі карэспандэнт зняў генерала ў цынічна-фанабэрлівай позе над трупам чырвонаармейца. Генерал, падкруціўшы вусы, узяўшыся ў бокі, зухавата глядзеў у аб'ектыў, а бліскучы яго бот стаяў на грудзях маладога будзёнаўца. У хлапца са штаноў вылезла ніжняя кашуля і плавала ў лужыне.

Генерал не быў Данусін бацька, але я ў ім убачыў Янкоўскага. Ноччу мне нават прыснілася вайна. Страчылі кулямёты, салдаты Янкоўскага ў мяне стралялі, а я ўцякаў скрозь нейкія кусты. Прачнуўся ўвесь спацелы.

З таго дня перад вачыма часта паўставала карціна — фанабэрлівы генерал з закручанымі вусамі над забітым

будзёнаўцам. Мне рабілася страшна, што я закахаўся ў такога далёкага чалавека. Што я скажу сябрам у вёсцы, як пагляджу ім у вочы?.. І мне ўжо здавалася — каханне прайшло, бо, седзячы побач з ёю, думаў адно пра генерала.

Іншы раз, калі мы бывалі разам, мяне агортвала такая лянота, што, здаецца, і пазяхнуць не хапіла б сілы. Хіба ж гэтак сябе адчуваюць у прысутнасці каханай?

«Так яно і мусіць быць, гэта ж дачка польскага генерала!» — пераконваў я сябе і ўспамінаў, як Дануся хрысцілася ля касцёла, як спачувала нябожчыку легіянеру. На душы рабілася лёгка і свабодна, і я думаў ужо пра тое, як неўзабаве пакіну гэты смярдзючы горад і паеду дадому.

Мяне напоўніла ўпэўненасць — бытта пасля ўдала завершанай справы. На Дануту я пазіраў цяпер паблажліва, як бы рабіў ласку, што хадзіў на спатканне.

Адбывалася такое, што я пераставаў разумець.

Часамі варта было Данусі пусціць слязу або выказаць якую-небудзь просьбу, і ўвесь мой холад да яе адразу знікаў. Калі ж я бываў найбольш няўважлівы, яна яшчэ мацней імкнулася да мяне.

## 5

Аднойчы, калі мы гулялі за горадам, на Віліі, Дануся ўважліва паглядзела на мяне і загадала:

— Павярні твар!

Я не зразумеў, для чаго яна дастае хустачку — маленькую, пахучую — і разгортвае яе, нібы пялёсткі кветкі.

— Нагніся, Лёнгінус! Штосьці ў цябе тут...

Старанна выцершы мой твар, яна загадала зноў:

— Здымі кашулю, я прапалашчу!

— Ты?..

— Думаеш, не здолею? Здымай, здымай!

— Калі ласка, на!

Праз хвіліну я назіраў, з якім захапленнем і любоўю паненка церла ў рэчцы маю кашулю, і падтрунькваў:

— Умееш, умееш...

— Мне так хочацца зрабіць што-небудзь добрае табе!.. О-ей, каўнерык ужо трэба зашыць!.. Заўтра прынясу іголку і ніткі! — Заклапочаная, яна ўжо развешвала кашулю на куст.

— Го, выдатна! Такой работы я табе падкіну, будзеш яшчэ не рада! — прамармытаў я вяла.

— І праўда, прынось!

Мяне зусім размарыла на сонцы і апанавала дрымота. Я выцягнуўся пад кустом і прыкінуўся, што сплю. Дануся падсела побач і зашаптала:

— Паспі, Янэчку, паспі. Ты сёння рана ўстаў, бедны, напрацаваўся, табе трэба адпачыць. Паспі, любы, я цябе павартую...

Хоць я ўжо амаль і не валодаў сваім целам, але ўсё чуў і бачыў. Скрозь прыадчыненыя павекі я назіраў, як яна ўважліва разглядае мой твар, вопратку. Потым асцярожна, каб не разбудзіць, пакратала далонню мой падбародак, шчаку, лоб, нос — чула і ласкава, нібы хацела ўкласці ўсю сябе ў гэты дотык. Да мяне прычапілася муха. Дануся датуль махала рукамі, пакуль муха не паляцела. Тады пачала кранаць мае плечы, затым прыклала шчаку да маёй рукі і замерла.

А то аднаго разу было так: сядзеў я на гары вельмі маркотны. Дануся, убачыўшы ў мяне пісьмо, папрасіла:

— Дазволь...

Я падаў канверт.

З вёскі пісалі, што маці Сцяпана Рамановіча лягла на аперацыю і старой спатрэбіліся сродкі. Нават самая нескладаная аперацыя ў Польшчы тады каштавала столькі, што можна было купіць на гэтыя грошы карову. Каб памагчы жанчыне, мае сябры хадзілі ўжо касіць да памешчыка, але зарабілі яшчэ недастаткова.

Сцяпанаў наган — таксама грошы, і цяпер я не меў права яго трымаць.

— Давядзецца развітацца з ім! — паскардзіўся я.

— Разумею цябе,— з павагай вярнула яна пісьмо і задумалася: — Пачакай, Янку, нешта прыдумала!..

Пад вечар пайшоў я на ўрокі і паведаміў аб сваім клопаце Суткусу. Альбінас узяўся дапамагчы.

І праўда. Не прайшла і гадзіна, як ён прадаў рэвальвер Генрыху Станеўскаму за пятнаццаць злотых. Я не дасядзеў да канца заняткаў: пабег на пошту адсылаць грошы.

Вяртаўся я назад нібы пасля развітання з дарагім чалавекам. Дома ляжала запіска: мяне выклікалі.

На гары чакала Дануся. Са змоўніцкім тварам яна разгарнула газету, падала мне бліскучы прадмет і шапнула:

— Ад мяне падарунак!

Я ўтаропіўся на тое, што ляжала на маёй далоні, і адчуў, як задрыжалі мае рукі.

— Уй, малайчына, Данка!

— Ты толькі цяпер пра гэта даведаўся?

— Але ж адкуль гэта ў цябе, Дана? — спытаўся я, шчаслівы, аглядаючы рэвальвер.

Яшчэ зусім новенькі. Са свежымі фабрычнымі знакамі на рукаятцы — двума жарэбчыкамі.

— Не бойся, мілы, бяры! — Мая разгубленасць была ёй, відаць, прыемнай.— Гэта толькі адзін з калекцыі таты! Фірмы «Кольт»: па-англійску «кольт» — жарабя. Бяры, бяры, не сумнявайся, я апраўдаюся перад татам, не бойся!.. І цяпер ён не хутка вернецца ў горад...

Але ўдзячнасці ў мяне хапіла ненадоўга.

## 6

Сядзелі мы на сваёй гары, схаваўшыся за кусты. Нізам па сцежачцы ўвесь час хадзілі людзі, мы за іміназіралі.

Дануся, як усе жывыя натуры, не патрабавала для вучобы спецыяльнай цішыні, умоў. Яна адначасова вучыла, гаварыла са мной, сачыла за тым, што адбывалася навокал. Раптам Дануся закрыла падручнік і паказала мне на паненку на сцежачцы:

— Падабаецца?

Я прыгледзеўся. Паненка як паненка. Толькі з чорнай радзімкай ля носа.

— Цікавае ў ёй адно гэта! — паказаў я сабе на шчаку, незадаволены тым, што перапынілі мае думкі.

— Сядзіць са мной, а душа недзе лунае...

— З кім, па-твойму?

— Са студэнткай!

Убіла сабе ў галаву, столькі разоў ужо дапікала Вольгай, што мяне нарэшце гэта раззлавала:

— Што ты заладзіла — адно і адно! Ідзі да д'ябла са сваёй студэнткай!

— Не буду, Янэчку! — пачала яна лашчыцца.— Толькі не сярдуй. Ты — адзін чалавек, з якім мне так хораша!

Мне зрабілася яе шкада, я размяк і зноў забыў пра сваю тугу, пра ўсё на свеце.

Назаўтра Данусі з'явілася з кавалачкам аптэкарскага пластыру на шчацэ.

— Вязальнай спіцай укалолася,— паясніла яна.

Лапінка адстала, і я заўважыў кропку, выпечаную ляпісам.

— Не глядзі! — пачырванела яна і прыціснула пальцам пластыр.

Мяне гэта кранула. Зноў зрабілася яе шкада. Агарнула такое жаданне схапіць паненку на рукі і пацалаваць, што гэта нават яна адчула. Хутка закрыла падручнік і насцярожылася. Ад чыстых і спалоханых яе вачэй я сумеўся. Толькі нязграбна ўзяў яе касу і, як у нас на вёсцы хлопцы з-за самалюбства прыкрываюць сваю чуллівасць грубасцю, праказаў:

— Эк, хвост... Бабскія фокусы...

Данусі пакрыўдзілася, адабрала касу і закінула на плячо.

Наогул я часта заўважаў, што грубыя і часамі дурныя мае выхадкі надта яе абражаюць, але дзяўчыну цягнула да мяне нейкая сіла, якой паненка, відаць, не магла даць рады. І Данусі з яшчэ большым імкненнем спяшалася на спатканне ды старалася дагадзіць мне.

Так здарылася і на гэты раз. У наступны дзень яна прыйшла ў хусцінцы і спыталася:

— Нічога не заўважаеш?!. Не?!.

— Абсалютна! — здзівіўся я.— А што?

— Тады пачакай тут, а я зайду на гару першая.

У гэты дзень я наогул мала бачыў з таго, што рабілася навокал. Калі я ўзабраўся на гару, Данусі была ўжо без хусцінкі.

— Ну, а цяпер? — спыталася яна зноў.

Нібы іншай канфігурацыі твар?.. Не, мабыць, мне так здаецца.

— А ў чым справа, вытлумач!..

— Па-твойму, сёння я такая самая, якая была ўчора?

Толькі цяпер я спахапіўся, што ў яе не было кос. Валасы Данусі былі падстрыжаны так, як стрыгуцца кітайскія ці карэйскія дзяўчаты.

— Я іх спецыяльна... Яны табе не падабаліся...

— Выдумала нешта!..— адвярнуўся я, нездаволены.

Яна пакрыўдзілася зноў. Крыўда была ціхая, бяссільная. Данусі пайшла на край гары, села, апусціла галаву і заплакала.

— Слёзка мая...— вырвалася ў мяне, калі я яе прытуліў да грудзей.

Дануся захлябнулася ад шчасця:

— Як ты сказаў? Скажы яшчэ раз!

Я паўтарыў.

— О-ох, як мне добра! — выдыхнула яна з набалелай асалодай.— Толькі цяпер бачу, які ты да мяне нераўнадушны!.. Ты сваёй грубасцю прыкрываеш пачуцці, праўда?.. Чым ты грубей са мной, тым больш...

— Так у нас на вёсцы...

— А ты кінь дзеравеншчыну!.. Выкінь яе, добра?.. Я нічога кепскага не думаю пра вёску, але ты не будзь такім!..

— Я і сам бачу, часамі раблю ці гавару не тое, што трэ... А ты разумная, Дана!.. І дзіўна падобная на маю маму! — упершыню я гэта заўважыў і далонню адгарнуў навісшыя ў яе валасы.

— Праўда? — узрадавалася яна.

— Лоб — дакладна як у маёй мамы, сур'ёзна!..

— А ты, Янку, як глыба!.. О-ей, як я цябе такога люблю!.. Скажы, мая прычоска табе падабаецца?

— Ужо адно таму, што яна твая!

— Гэткую насілі ўсе рэвалюцыянеркі! І Эмілія Плятэр. І Марыя Канапніцкая. І пані Пілсудская, калі яе муж быў у Сібіры... Нават твая Вольга носіць такую!

— Ну-у?!.— здзівіўся я.

— А ты, дурненькі, і не заўважыў?!.

— Калі ўсе рэвалюцыянеркі пачнуць аднолькава падстрыгацца, лёгка будзе дэфензіве працаваць!

— Вядома, і тут ты свой практыцызм прымяніў!.. Што з табой сёння?.. Ты ўсё нешта ўтойваеш ад мяне, нібы не давяраеш!..

— Дануся,— пачаў я апраўдвацца,— зразумей, ёсць такія справы, пра якія я не маю права гаварыць!

— Не верыш мне? Так? Не верыш?.. Няўдзячны! — расплакалася яна па-сапраўднаму.

Я пачаў паненку суцяшаць. Дарэмна! Скрозь слёзы яна цвярдзіла:

— Я хачу пра цябе ўсё-ўсё ведаць! Клянуся памяццю мамусі, нікому не скажу!

— Не мялі глупстваў, перастань, я ж табе веру, адкуль ты ўзяла!..

Што яна нікому не скажа, я быў упэўнены. Калі так, чаму ж не адкрыць ёй таямніцу? Хіба канспірацыя існуе

для канспірацыі? Яна ж нават рэвальвер дала, не пабаялася!

«Вялікае геройства — узяць з дому і падарыць татаву цацку! — гаварыла ва мне развага.— За рэвальвер дачку генерала не пасадзяць!..»

## 7

Аднак таямніцу ёй усё ж такі адкрыў.

У той час урад меў шмат клопату са студэнцкай дэмакратычнай арганізацыяй. Кіраваў ёю аўтарытэтны Юзэф Шус. Не прыдумаўшы нічога лепшага, дэфензіва нанесла арганізацыі ўдар метадам царскай ахранкі. Сышчыкі падпільнавалі Шуса на вуліцы, упіхнулі ў машыну, завезлі за горад і падстроілі так, бытта студэнт сам павесіўся. Да мяне на кватэру прыходзілі раніцой Яцкевіч з нейкім чалавекам і прапанавалі з'явіцца ноччу ў гарадскі парк, там мелася нешта адбыцца.

— Перайшлі яны да адзінічных забойстваў, будуць справу мець з масай, папомняць нас!..— пагразіўся я.

— О-ей, як цікава!..— выслухаўшы мяне, ускрыкнула Дануся.— А можна з табой?

Выпадак ускалыхнуў усю Вільню, а яна нічога не чула?!. Для яе гэта ўсяго сенсацыя, цікавая і рамантычная экскурсія?!.

— І чаго ты зноў надзьмуўся! — прыстала яна ледзь не з плачам.

— Калі ты нейкая...

Яна закрыла мне далонню вусны:

— Янку, я хачу быць такой, якой ты мяне хочаш бачыць! Ну, як найлепшай! І буду, паглядзіш!..

Сіла пераканання ў яе голасе і позірку зноў мяне абяззброілі, і мы памірыліся.

Тады яна даверыла мне свае таямніцы.

Бацька яе — камандзір дывізіі — з зімы стаяў на нямецкай граніцы ля Пазнані.

Маці яе была чэшка і памерла, калі дачка мела ўсяго два гады. Генерал узяў за жонку старую дзеўку, пані Вацлаву. Другая жонка дала зарок не мець сваіх дзяцей, каб яны не перашкаджалі выхаванню малой падчарыцы.

Даведаўшыся пра зарок пані Вацлавы, Дануся, каб аддзячыць, дала слова выйсці замуж толькі за таго, каго выбера мачаха. І тая выбрала.

— Многа разоў яна гаварыла пра Любецкага,— ра-

сказвала Дануся,— але я ўсё прапускала міма вушэй, пакуль не паехалі ў Закапанэ на міжнароднае спаборніцтва па лыжах. Туды з'ехалася знаць з цэлага свету. Пасля спаборніцтва быў баль. Памяшканне напоўнілі славутасці. Дзеці Радзівілаў, Сапегі, Ротшыльдаў, Крупа... Мужчыны — у чорных фраках, дамы — у дэкальтэ, з брыльянтамі ў прычосках і на шыях... Любецкі стаў да мяне заляцацца, а я саромелася ісці з ім танцаваць. Князь пакрыўдзіўся і выйшаў на двор. Там стаялі фурманы з фаэтонамі. Браніслаў сунуў вазніцы жмут грошай і загадаў распрагаць каня. Тады сеў вярхом і накіраваўся ў залу. Музыка змоўкла, узняўся гвалт, пары сталі ціснуцца да сцен... Браніслаў хапіў мяне за талію, падняў на каня і паехаў па зале, дзе танцавалі... Яшчэ і там, дзе былі накрытыя сталы... Нават не выклікалі паліцыю. Любецкі заплаціў за папсуты паркет, пабіты посуд, паламаную мэблю... Мне тады сталі ўсе зайздросціць, называць княжонай, і гэта мне вельмі падабалася.

## 8

Апоўначы Дануся вышмыгнула праз акно, і мы накіраваліся ў горад.

Ля парку я пакінуў яе на тратуары, а сам пайшоў да кампаніі.

Студэнты ў прыватнай друкарні нарыхтавалі некалькі тысяч пракламацый, якія пагражалі забойцам і заклікалі жыхароў Вільні выходзіць заўтра на пахаванне. Гэтыя лістоўкі трэба было параскідаць па горадзе.

У парку знаходзіўся і Суткус. Было сорамна глядзець яму ў вочы: Альбінас нічога не ведаў пра нашы адносіны з Данутай. Цяпер ён адразу здагадаецца, чаго некалі я цягнуў яго да шынка «Баторыя»...

— Рэвальвер з табой? — сустрэў мяне пытаннем Яцкевіч, які і тут кіраваў усёй справай.

Я расказаў пра Данусю.

— Знайшоў час на амуры!.. А ручаешся за яе?

— Вядома...— разгубіўся я дарэшты.

І тут я ўлавіў дакорлівы позірк Вольгі. Яна стаяла збоку і прыслухоўвалася. Мяне разабрала злосць. А ў чым я вінаваты? Сама апавядала мне турэмную гісторыю!..

Спалоханая Дануся спаткала мяне пытаннем:

— О-ей, Янку, я за цябе так баюся! За такія штучкі не трапіш у турму?

Трывожна-насцярожаны настрой студэнтаў перадаўся ўжо і мне, пытанне паненкі раззлавала дарэшты. Я схапіў Данусю за руку, пацягнуў:

— Хадзем!

О зменлівы жыццёвы шлях чалавека! Ці мог я спадзявацца паўгода назад, што тая самая генеральская дачка, з-за якой я абліваўся потам на рынгу і дзёўб каменні ў музеі, стане для мяне цяжарам?!

— Ну, баксёр, не забывай, мы — у тваіх руках! — аб'явіў Яцкевіч, калі я падышоў зноў.— На твае кулакі і на тваю гармату ўся наша надзея!

Я нічога не адказаў: мой настрой сапсаваўся. Баючыся спаткацца вачыма з Суткусам, я пабег наперад, подла пакінуўшы Данусю. На шчасце, яе адразу падхапіла Вольга.

## 9

З парку мы накіраваліся ўверх па галоўнай магістралі — вуліцы Міцкевіча. Некалькі чалавек з Суткусам на чале падаліся ў бок Віліі, дзе жылі сем'і афіцэраў. Я пасмялеў ды пачаў шукаць вачыма Данусю. Паненка з Вольгай, абняўшыся, крочылі дружна і пра нешта гутарылі. «Аб чым яны гавораць?» — зацікавіла мяне.

Памалу група меншала. Нарэшце засталіся толькі паненкі, за імі я і Яцкевіч. Мы трымалі пад пахамі пакецікі. Была гадзіна ночы. На залітай яркім святлом вуліцы — ні душы.

— Тут,— шапнуў студэнт, пераводзячы дых, калі мы дайшлі да сквера, і сыкнуў на дзяўчат, каб спыніліся.— Высыпай ты свае, каб рукі былі свабодныя, а на Лукішскім пляцы я выкіну свае!

— Ты ачмурэў? — абурыўся я, адгадаўшы задуму студэнта.

Такія «героі» і ў нашай вёсцы выкідвалі лістоўкі проста на вуліцу і лічылі, што заданне выканана. А раніцай лістоўкі ўбачыць які-небудзь здраднік, заявіць у паліцыю, і яны, нікім не прачытаныя, павандруюць у печ. А тут іх знойдуць яшчэ хутчэй, бо кожную хвіліну снуюць паліцыянты.

— Глядзі за вуліцай! — загадаў цяпер я і накіраваўся ў пад'езд з цясанага граніту. Сюды я насіў малако.

У гэтым раёне жыло адно панства. Са здавальненнем пачаў я запіхваць лістоўкі ў паштовыя скрынкі, пад дзве-

ры, у выстаўленыя для булачнікаў кошыкі, вешаў на цвікі...

— Гэтак мы будзем да самай раніцы тут калупацца...— цяжка дыхаючы, нездаволена сустрэў мяне Яцкевіч: яму было сорамна перад паненкамі.

— Ну і будзем, калі трэба, а ты думаў — ляп-цяп? — абрэзаў я студэнціка.

Толькі цяпер кінуліся ў вочы яго запалыя шчокі, якія бываюць звычайна ў мужчын каля трыццаці год, ды пад студэнцкай кепкай — адтапыраныя вялізныя вушы. І ростам ён нібы паменшаў: што за мужчына, мне па плячо?!. У такога яшчэ шукаў падтрымкі... Шляхцюк гарадскі, прайшоўся пару кіламетраў і ўжо задыхаўся.

— Годзе стаяць, давай далей! — пагнаў я Яцкевіча, беручы ініцыятыву ў свае рукі.

Калі на Лукішскім пляцы канчалі мы сваю справу, дзяўчаты пачалі чыхаць — сігналіць трывогу. Набліжаліся два паліцыянты і шпік у цывільным.

— Панна Янкоўская, і вы тут? Так позна? — пачуў я знаёмы ґолас.

— Не, мы так...— запнулася Дануся.

— Можа, вас правесці дадому?

— Дзякуй, зайду з паннай Оляй... Вы не знаёмыя?

— Не меў гонару!

— Знаёмцеся. Мая калежанка!

— Вельмі прыемна. Генрых. Я маю гонар пазнаёміцца са студэнткай, праўда?

— І я шчаслівa — пазнаёмілася з такім ладным панам. І на самай справе, правядзіце нас! Далібог, цікава з такім сімпатычным спадарожнікам прайсціся ў такую цудоўную ноч! — загаварвала зубы Вольга.

— Правядзіце, правядзіце нас, пане Генэк! — спахапілася ўжо і Дануся.

— Прабачце, прапанаваў, а не падумаў, што не маю часу.— Цяпер я пазнаў: гаварыў Станеўскі. Толькі голас у яго быў дзелавы, упэўнены, узбуджаны.— У горадзе трывога. Заварушыліся камуністы. Ловім іх. Мы і вас палічылі за чырвоных!

— А як жа, адгадаў пан! Мы чырвоныя, нібы радыска: разрэж, а ўсярэдзіне — белая! — жартавала бойка Вольга.

— Го-го-го-го, але ж брава!

— Вы не ведаеце тых тыпаў? — перабіў іх сур'ёзны

голас паліцыянта, якому ўжо не цярпелася прыступаць да выканання службовых абавязкаў.

— Не! — катэгарычна заявіла Вольга.

— Тых двух?!. Нашы бурсакі з гімназіі Касцюшкі,— падхапіла Дануся.— Няўжо пан Генрых такі службіст: не правядзе нас, калі нават я загадаю?

— Панна Данута на гэты раз павінна прабачыць, я не адзін...

Пакуль адбываўся гэты дыялог, мы стараліся адысці як мага далей.

«Ах ты, гадзіна! — падумаў я пра Станеўскага. Што ён працуе ў дэфензіве [1], было для мяне громам з яснага неба.— Дык вось чаму ты так пазбягаў мяне! — прамільгнулі ў памяці ўсе неасцярожныя словы, якія я пры ім сказаў.— Вось чаму ты апранаешся, як кароль, маеш на халву і шакалад, звяртаешся да ўсіх з развязнай фамільярнасцю!.. А я, дурань, яшчэ збіраўся пагаварыць з табой як са сваім хлопцам, каб не блытаўся з эндэкамі!.. Дзе была мая галава?.. Тады дзіўна, навошта ты купіў Сцяпанаў наган? Няўжо табе, халую, дэфензіва не давярае казённы?»

Наша спешка выклікала падазронасць. Патрулі пакінулі паненак і затупалі ў наш бок. Ноччу на пустой вуліцы — нібы зімой на лёдзе — цяжка вызначыць, блізка хто крочыць ці далёка. Часамі здавалася, што яны далёка, то зноў па спіне прабягалі мурашкі — вось-вось цапнуць за каўнер!.. Каб не выдаць сябе канчаткова, азірацца не адважваліся.

Усе брамы былі пазамыканыя, а ззаду паліцыя. Мы несліся з усіх ног!

— Колькі патронаў? — спытаўся студэнт.

— Барабан. Але страляць нельга. Паліцыянты з карабінамі, у шпіка — наган, адкрыюць пальбу — мы прапалі. І Станеўскаму толькі выдам сябе. Чорт, чаму я такі доўгі!

— А можа, і не пазнае! — няўпэўнена пераконваў сябар: бяда нас ужо з'яднала.— Вось што мне рабіць? Засталося некалькі лістовак... Уздумаў ты раздаваць іх па кватэрах, нібы візітныя карткі!

Сапраўды ж была сітуацыя. Мы нібы ў мяшку. Толькі далёка ўперадзе, ля калон кафедральнага касцёла, віднелася агароджа парку, за ёю — дрэвы.

---

[1] Дэфензіва — тайная паліцыя ў буржуазнай Польшчы.

— Памчым туды, перамахнём агароджу, скочым у кусты, і мы — уратаваныя!

— Які ты разумны! — абрэзаў я сябра.— У парку абавязкова хто-небудзь вартуе з паліцыянтаў. Гэтыя засвішчуць, і ў кустах будуць нас чакаць, як зайцаў. Там цёмна. З асветленага месца мы іх і не ўбачым!

— А што нам застаецца?.. Стоп?.. Ціха, ціха...— У голасе таварыша прагучала надзея: — Барташэвіч, хто не рызыкаваў, той не перамагаў, хадзем да яе!

Пад лямпачкай тырчала самотная постаць жанчыны. Адзенне і пастава яе не выклікалі сумнення — прастытутка закінула вуду. Калі ноччу даводзілася ісці па горадзе, то я выбіраў у пяць разоў даўжэйшы шлях, абы толькі менш сустракацца з такімі.

— Алё, кветачка, мы цябе столькі шукаем! — крыкнуў ёй студэнт.

— А я вас даўно чакаю! — у тон адказала шыракатварая дзяўчына і роблена ўсміхнулася. Голас яна мела трубны, ад грымасы твар і моцна нафарбаваныя вусны зрабіліся агіднымі.

Дзяўчына падалася насустрач.

Я аж жахнуўся. Гэта яна восенню прыставала, калі я еў марожанае! Вядома! Той самы шырокі твар, яна!.. Многа разоў выглядаў яе на вуліцы, адчуваючы жудасную, нездаровую, хвалюючую цікаўнасць. І на табе!..

Студэнт узяў дзяўчыну пад руку, мне трэба было браць пад другую, але я не мог адважыцца. Утраіх падаліся мы да парку.

Патруль увесь час ішоў на дыстанцыі, не рызыкуючы нас затрымаць і праверыць. Калі мы не тыя, трэба прасіць прабачэння. Паліцыянты трапіліся, відаць, з гонарам. Прызнацца, што яны памыліліся?.. Яны сачылі за намі зводдаль. Убачыўшы, як мы падчапілі жанчыну, паліцыянты вырашылі, што мы звычайныя распуснікі, і адразу адсталі.

Не такі ўжо і дурань Яцкевіч.

— Ну, стакротачка, дзякуй табе, дарагая, за ўсё і шчыра жадаем поспеху — багатых кліентаў, а нам твой тавар не патрэбны! — аб'явіў пасмялелы студэнт жанчыне ў парку.

— А-а, та вы та-ак? Хамы, свінні!.. У паліцыю заяўлю на вас!..

Пакінуўшы яе адну, раззлаваную, мы з усіх ног пабеглі.

— Ты не ведаеш, кожнаму шпіку даюць рэвальвер? — спытаўся я ў сябра, калі мы апынуліся на гары Гедыміна. Пытанне не вылазіла з галавы.

— Кожнаму.

— Дык чаму Станеўскі купіў сам наган?

— Ён толькі практыкант у іх.— Яцкевіч добра разбіраўся ў гэтых справах і віленскіх сышчыкаў пазнаваў нават на вуліцы.

Генрых не можа дачакацца і купіў зброю за свае грошы. Ведаў жа я, каму прадаць! Устаў бы з магілы Сцяпан, што б ён мне сказаў?!.

## 10

Па дарозе дадому я хваляваўся за Данусю: была ўжо трэцяя гадзіна ночы. Паненка і не ведала, што ўратавала нас: патруль затрымаўся толькі з-за яе.

Я знайшоў Данусю ў альтанцы садка. Дадому яе правяла студэнтка.

— Янэчку, мілы, ты жывы?.. Я за цябе так баялася! — кінулася дзяўчына мне на грудзі.— Вярнулася і прачакала тут да світання! Чамусьці здалося, што цябе больш ніколі не пабачу! Зрабілася страшна-страшна... Я ўжо і малілася: «Езу каханы, вярні мне яго хоць бы жывым!..»

Удзячны і ўзрадаваны, я прыпаў да яе вуснаў.

Калісьці Дануся пацалавала мяне праз сетку: нясмела і лёгка, нібы ластаўка на ляту кранула грудзьмі паверхню вады. Цяпер яе падатлівыя вусны затуманілі маю галаву. Цалуючы дзяўчыну, я адчуваў, як яна ўся горнецца да мяне, а па шчоках яе цякуць слёзы. Няўжо я змагу яшчэ калі яе пакрыўдзіць?

— Ты так за мяне хвалявалася?

— Ах... Ах...— давілася яна шчаслівым плачам і разпораз уздыхала.

— Я адразу ж і паляцеў сюды, як толькі вырваўся!

— Колькі з-за цябе перацярпела, перадрыжала! — скардзілася яна ціха ў мяне на грудзях.

— А я цэлы і здаровы, бачыш? Станеўскі якраз бы налез на мяне, каб не вы з Вольгай, і сядзець бы мне цяпер у халоднай!

— А ты яшчэ і браць мяне не хацеў!

— Быў грэх, каюся!.. Ну і хітры Яцкевіч!.. Падчапіў гэтую жанчыну!..

— Паліцыянт убачыў вас з ёю і кажа сябрам: «Мы,

здаецца, памыліліся!..» І адразу перасталі вамі цікавіцца!.. Прызнайся аднак, гэтая жанчына табе не была знаёмая?..

— Адкуль?!.

— А чаму ў цябе вочы сарамлівыя?!. Ты такі адважны, я цябе за гэта так кахаю...

Узышло сонца.

У Данусі твар быў бледны. Выпадак з лістоўкамі забраў у яе многа сілы. Напружанне цяпер у паненкі змянілася вяласцю і бяссіллем.

— Ну, на сёння хопіць. Ідзі адпачывай! — зжаліўся я.— Пайду на работу!

— Але ж я спаць не хачу! Праўда, праўда, не хачу! Вазьмі мяне з сабой разносіць малако! Раніцай мяне ніхто не пазнае, нашыя спяць, а з цёткай Антосяй я дагаваруся...

— Яшчэ што: дачка генерала разносіць малако. Усе газеты напішуць пра гэта!

— Вазьмі-і!

— Пабачым!.. Ах як я прашляпіў Станеўскага!.. І не падумаў — адкуль у яго капелюшы, касцюмы... Я лічыў, Генрых — няшкодны, падхалім...

— Ён цябе не выдасць. Беларус таксама!

— З тых, што прыйшлі б сёння туркі, ён ужо служыў бы ім!

— Дык бярэш мяне з сабой!

— Выдумала! Слухай, што табе гавораць старэйшыя! Праваліш з-за мяне экзамены!

— Не правалю, любы! — Твар і вочы яе запрамянелі ласкай.— Адно скажы, што мяне кахаеш!.. О-ей, які ты ў мяне цудоўны!.. Спачатку ты мяне проста зацікавіў. Цяпер — жыць без цябе не змагла б!.. Кажы!

— Ну!

— Не «ну», а «ка-хаю»!

Я саромеўся гэтага слова, яно аніяк не праходзіла скрозь горла.

— Сама сказала за мяне.

— Ай! Хачу пачуць ад цябе! Кажы, хутчэй, чакаю!

— Ну, на табе. Кахаю...

— О! «Ка-хаю»! — перадражніла паненка.— Не так, а з пачуццём!

— Ведаю цябе, гэтаму і канца не будзе! Марш спаць!

— Ш-ш-ш! — закрыла яна мне вусны.

На панадворку з'явілася Антося з талеркай аб'едкаў.

Служанка наблізілася да сеткі, за якой лазілі куры маёй прачкі, і паклікала:

— Ціп-ціп-ціп!..

З усіх канцоў панадворка кінуліся куры.

— Бяжыце прэндзэй, куркі, прэндзэй!.. Згаладаліся? Наце, даражэнькія, паснедайце!..— Антося пачала крышыць булку і кідаць праз сетку.

Куры дружна застукалі па вытаптаным і вільготным ад расы панадворку.

— Во, во, курачкі, будзіце зямельку, будзіце,— прыгаварвала над імі цётка.— Тук-тук-тук, зямелька, уставай прэндзэй, хопіць табе спаць! Тук-тук-тук!..

Жанчына паводзіла сябе так, бытта, акрамя гэтых курэй і яе, на вуліцы нікога не было. Мы пераглянуліся і шчасліва ўсміхнуліся.

Калі Антося пайшла дадому, паненка папрасіла:

— А цяпер вазьмі мяне на рукі і пакалышы!

Я выканаў яе просьбу. Дануся ціха ўздыхнула:

— Як мне добра!.. Кажы за мной: сонца, не свяці ў пакой маёй прыгажуні, каб шум тваіх промняў не разбудзіў яе!.. Ну, кажы!.. Кошка, не хадзі па падлозе, каб твае крокі не абудзілі яе! Кажы!.. Кветка, пачакай, не распускай свой бутон, абудзіш маю каханую!.. Паўтарай!..

## 11

Раней, бывала, ад ранішняй сырасці асіпну, як п'яніца, у галаве — гудзе ад недасыпання, увесь свет ненавісны. Ідуць па мармуровых сходках булачніцы, разносчыкі газет, і ў іх такі самы настрой, ім таксама хочацца спаць. Адзін аднаго мы бачым нібы праз сон або павуціне, размінаемся, як прывіды, сапучы насамі. Няма настрою нават гаварыць да сяброў, а спытае што ў цябе ў гэты момант нехта, і ты гыркнеш штосьці злое, невыразнае.

А сёння, ідучы з Данусінага садка разносіць малако, упершыню адчуў я прыгажосць ранку. Дыхалася лёгка, думкі былі ясныя, а сам я — бадзёры. Эх, з якім задавальненнем на вуліцы Міцкевіча падміргваў я служанкам і шматзначна гаварыў:

— Штосьці ў вашым доме сёння ва ўсе кватэры — пісьмы аднолькавага зместу?!

На жаль, служанкі — забітыя і непісьменныя вясковыя дзеўкі,— акрамя танцаў і салдат, нічога не ведалі. У адказ яны адно дурнавата ўсміхаліся.

Толькі адна, да якой я быў нераўнадушны, мяне зразумела. Калі я падышоў, дзяўчына стаяла ў калідоры на табурэтцы і здымала з цвікоў мае паперкі.

— Сёння свята такое! — адказала яна мне ў тон.

...Пакуль ісці ў школу, я ўсё ж такі выспаўся, бо пахавання не адбылося. Паліцыянты яшчэ ноччу забралі з морга цела Шуса і вывезлі невядома куды. Каб у гэты дзень студэнты не маглі чаго-небудзь выкінуць супроць улады, Яцкевіча і яшчэ сорак завадатараў заладавалі раніцой у машыны, вывезлі за горад кіламетраў за пяць — дзесяць і выпусцілі ў поле. Пакуль хлопцы прывалакліся ў Вільню, ужо было позна што-небудзь рыхтаваць зноў.

## Раздзел чацвёрты

### 1

Стаяў гарачы летні дзень. Я чагосьці шукаў на панадворку. За металічнай сеткай, ля клумбы, пад вялізным парасонам генеральша чытала кніжку. Ля яе ног драмалі белы кот і Гектар.

З дома выйшла Дануся, расклала брызентавую табурэтку, прымасцілася побач з мачахай і пачала гартаць падручнік. Але паглыбляцца ў навуку ёй не хацелася. Яна крадком азірнулася, прыжмурыла вочы, зрабіла мне грымасу і паказала язык. Я сеў на ганку, засланіўся ад генеральшы рукой і стаў адказваць.

І пачалася ў нас бясслоўная гутарка. Абаім было прыемна, нібы сядзелі побач.

Але гэты дыялог працягваўся нядоўга — з'явіўся Любецкі. Я, злосны, сабраўся дадому, ды ля нашай брамкі ўбачыў сваіх хлопцаў. Да мяне валілі — Яцкевіч, Суткус, Вольга і студэнт Шыманскі. З апошнім мы пазнаёміліся ў той вечар, калі раскідалі лістоўкі. Хоць яго прозвішча і мела польскую канцоўку, аднак гэта быў заядлы ўкраінец.

— А-а, так він ось дэ спратався! Мы — аддувацца, а він — загорае, як на курорце! — пракрычаў украінец.

Я адразу забыўся на суседку. Стаў выносіць табурэткі:

— Сядайце хто дзе!

Хлопцы прывіталіся. Я не мог нацешыцца. Эх, каб бачылі маці, бацька, вясковыя хлопцы, якія ў мяне сябры!..

— Захацелі надта піць,— паясніў Яцкевіч,— а на За-

рэчную, у ларок з напіткамі, далёка. Ты хваліўся, што ў цябе лячэбная вада. Давай, пai!

Вялізны і рыхлы Шыманскі са светлымі, бытта заспанымі вачыма нагадваў лянівага падлетка.

— Хімікаты з газіроўкай атруцілі нутро! — паскардзіўся разапрэлы ўкраінец.— От бы хто здагадаўся даць кіслага малака са склепа! Або калодзежнай вады — каб аж зубы ламала і дух займала!

— Пачакайце, збегаю ў яр, прынясу свежай! — кінуўся я на кухню па вядро.— Альбінас, будзь тут за гаспадара! Ну ж і дасталася вам, бедным! І куды яны вас заперлі?

— Пад Эйшышкі!.. Усё з-за таго, што Камінтэрн распусціў партыю! [1] — заўважыў Яцкевіч.— Была б партыя, мы гуртам панам фокус паказалі б!

— Распусцілі, яшчэ і абвінавацілі нашых хлопцаў у прадажніцтве! — дадаў Суткус.

— Трэба было і — абвінавацілі! — запярэчыла Вольга.

Ух ты, якая яна!

— Лес сякуць — трэскі ляцяць! — дадала яшчэ студэнтка.

— А каб мы з табой трапілі ў гэтыя трэскі? — падскочыў да дзяўчыны літовец ледзь не з кулакамі.

— І вокам не міргнула б, прыняла б свой лёс! — закрычала яна ў такой запальчывасці, у якой я яшчэ яе і не бачыў.— Я — шрубка, салдат рэвалюцыі і, калі партыя загадае, гатова зараз памерці!

— О рропужэ, але ж яе няма, распусцілі!

— Партыя ў мяне тут, у сэрцы!

— Рэзанёрства там у цябе адно! Калі прыпіраеш цябе фактам, ты адразу выкідваеш чырвоны сцяг і хаваешся за яго! Знамёны нам даюцца для таго, каб іх абараняць, а не прыкрывацца імі!

У іхнюю спрэчку ўмяшаўся Яцкевіч:

— А навошта лес сячы?!.

Але я далей не слухаў, панёсся з вёдрамі. Бегучы да калодзежа, я падумаў, што хлопцы прыйшлі не так сабе. Іх жа паліцыя вывозіла з-за Шуса за горад. Вярнуліся ў Вільню, адаспаліся і нешта задумалі зноў. І ўсе яны былі, выяўляецца, некалі ў партыі!..

Калі я вярнуўся, хлопцы сядзелі на ганку і перагаварваліся ўжо з Данусяй.

[1] Рашэннем Камінтэрна ад 1938 г. Кампартыя Заходняй Беларусі была распушчана.

— Пане Барташэвіч, запрашаю ўсіх да нас! — закрычала яна.— Пазнаёмлю з мамусяй, з панам Браніславам!

— Мы паненцы нічога не маглі адказаць, бо самі ў гасцях,— растлумачыў Суткус.— Чакалі гаспадара. Цяпер ты і вырашай!

Разгублены, я стаў па чарзе падносіць ім кубак. Дануся ўсё чакала.

Суткус над ёй зжаліўся:

— Зараз. Толькі нап'ёмся!

— Пойдзем пагутарым! — падтрымаў Яцкевіч, выціраючыся.

Шыманскі піў проста з вядра. Нарэшце ён адарваўся ад вады, перавёў, нібы паравоз, дых, прыляпіў сабе на макаўку аксамітную кепку і аб'явіў:

— Цяпер можам і пайсці!

Я занёс вядро і кінуўся даганяць сяброў. Вольга накіравалася ў горад.

— Куды ты? — спытаўся я.

— Галантнічаць перад класавым ворагам не стану! — кінула яна мне раззлаваная.— Хопіць, вечар цэлы правазілася з той паненкай!..

2

Дануся падводзіла нас па чарзе да мачахі пад квяцістым парасонам і знаёміла. Не кранаючыся з месца, дама кожнаму падала руку, затым зноў паглыбілася ў кніжку. Настаў чарод вітацца з князем.

— Але і хлопы! — кінуў ён.

— І ўсё беларусы! — з гордасцю пахвалілася Дануся.

— О, выдатна! — ускрыкнуў Браніслаў.— У нас з беларусамі ніколі не было канфліктаў!

— Так? — разгубіўся я.

— Пан упэўнены? — кінуў Шыманскі з двухметровай вышыні.

— Сядайце, панове! — замітусілася Дануся, адчуўшы няладнае.— Сюды можна і сюды...

— Паненка вельмі клапатлівая.— Шыманскі апусціўся на лаву, ляпнуў далонню па афарбаваных у зялёны колер планках.— І на самай справе, сядайце, калегі!

— Ты не злуеш? — шапнула мне Дануся.— Янку, глядзі, у мяне тут левыя і правыя — нібы ў салоне Марылі Верашчакі ў Туганавічах: філарэты і філаматы...

Аднак не ўсе былі такія стрыманыя, як украінец.

Князь закрануў нас за жывое. Хацелася спрачацца, біцца, а чалавек дужэйшы, калі стаіць на нагах.

Тым часам Браніслаў працягваў:

— Я ўпэўнены — у нас тры закаранелыя ворагі: украінец, яўрэй і літовец. З беларусамі ў нас мір.

Чатыры пары нашых вачэй спаткаліся. Першым пайшоў у наступленне Шыманскі:

— А чым, напрыклад, украінцы праштрафіліся?

— Але,— падхапіў Яцкевіч.— Чым ты, хахол, дапёк ім гэтак, што яны цябе лічаць ворагам нумар адзін?

— То пан украінец? — жахнулася Дануся.

— Самы сапраўдны.— Шыманскі зухавата расклаў на спінку лавы мясістыя рукі.

Любецкі не ведаў, што казаць.

У генеральшы выпала кніжка. Дама павярнулася і кінула зводдаль:

— Вы забралі ў нас Кіеў і хочаце яшчэ Львоў!

— Пані Вацлава мае рацыю! — апамятаўся Браніслаў.— Гэтыя землі — кавалак нашай гісторыі!

— Так ужо і вашай!

Дануся стаяла побач. Я адчуў, як і яе ўсю падмывае. Яна не вытрымала, дапамагла мачасе:

— А Збараж? А Вішнявецкі?

— Што ваш Збараж? Што Вішнявецкі?! — выбухнуў Шыманскі.— Кіеў — наша сталіца! А Львоў — пабудаваны нашым князем Данілам у гонар сына Льва!

Я прыстаў да паненкі:

— Цікава, каб хто ў вас забраў Кракаў і хацеў заняць яшчэ Варшаву, як бы вы да яго аднесліся?

Дануся прыціхла. Генеральша мелася кінуць нешта вострае, але чамусьці не адважылася і аж пачырванела.

— Не ўсім палякам мы ворагі,— аб'явіў Суткус.— Юзэф Шус нават сябраваў з намі!

— Думаеш, яны ведаюць, хто такі — Шус? — заўважыў Шыманскі і разваліўся на лаўцы яшчэ больш задзірліва. Тады ён змераў вачыма князя і паказаў на Суткуса:

— Ён — літовец. Цікава, што яму скажаце?

— Літва ў нас Вільню хоча забраць!

— Вільнюс — наша сталіца! — абурыўся Альбінас.— Вы яго трымаеце сілай, бо нас у дзесяць разоў менш, чым палякаў! Настане час, і мы вернем сталіцу!

— І беларусы маўчаць не так сабе! — падступіў я да князя.— Не было выпадку нам гаварыць. Настане і наш дзень, скажам і мы сваё!

Абодва бакі яшчэ мелі аргументы, але раздуваць спрэчку пры жанчынах было няёмка. І ўсе прыціхлі.

— Панове, давайце гаварыць пра што-небудзь іншае! — папрасіла Дануся.

Весці свецкую гутарку было ўжо немагчыма. Заставалася адно — разысціся. Але нас сюды запрасілі. Сабраць проста і пайсці — не выпадала. Я нерашуча азірнуўся.

Як і раней, драмаў кот, а Гектар клацаў зубамі на мух. Гэтаксама пякло сонца. Толькі мы не былі тыя самыя. Хлопцаў аж разрывала ад узбуджэння.

Надзьмутая, як сава, генеральша паспешліва гартала кніжку і ніяк не магла знайсці патрэбную старонку. Дануся роспачліва зыркала на мяне, шукала ратунку. Гэтыя пытанні з ёю мы ўжо даўно абгаварылі. Было яе шкада. Трэба было падаць прыклад і пачаць развітвацца. Ды ўкраінец справакаваў новы выбух.

— Пагутарылі, называецца. А ўсё з-за гэтага яўрэя,— штурхануў ён Яцкевіча.— Зацягнуў нас сюды...

— То пан яўрэй? — здзівілася зноў Дануся.

— Жыд! — гледзячы ёй у вочы, заявіў Яцкевіч.

— ?!

— І вось стаю побач, не кідаюся на вас. Нават адзін вечар выконваў з вамі небяспечную работу на вуліцы Міцкевіча. Памятае паненка?

Генеральша насцярожылася.

— Але ж я не раблю ніякай розніцы паміж нацыямі!..

— Толькі пан Браніслаў і пані Вацлава?

— Уся польская эканоміка — у іхніх руках. Мы павінны змагацца з яўрэямі насмерць! — кінуў князь.— Інакш яны нас задушаць ва ўласнай краіне!

— Пан католік? — спытаўся Яцкевіч.

— Католік.

— І верыць пан у бога? Ваша рэлігія вучыць вас цкаваць адных на другіх?

— Дэмагогія!

Генеральша адвярнулася зноў:

— Жыды замучылі на Галгофе Хрыста!

— Іуда быў яўрэй! — выйшаў з сябе князь.

— Прабачце, а хіба сам Езус Хрыстус не быў жыдам? — спакойна заўважыў Яцкевіч.

— Не па методзе Іуды заманілі вашыя хлапца ў пастку і павесілі? — напаў на генеральшу ўжо я.— Вы ж столькі гадоў былі ў няволі, вас ссылалі, вешалі, чаму ж

вешаеце і трымаеце ў няволі вы? Няўжо нічому вас не навучыла гісторыя?

— Счапі-іліся! — з хваляваннем працягнуў князь, які ўжо шукаў прымірэння.— Эх, хлопцы капітальныя — я вам скажу! Шкада, не карпаранты!.. Дарагія, вы не на правільным шляху, пся крэў!.. Ну, даб'ецеся, што адзін горад будзе лічыцца ўжо вашым, а ці пастанеце шчаслівымі?!. Ці будуць шчаслівыя людзі, якім вы гэтага дабіваецеся?.. Адумайцеся!.. Вы — нявольнікі ўмоўнасцей і сваіх сектанцкіх ідэй, якія самі сабе стварылі вы — баптысты, суботнікі!.. Даб'ецеся свайго — і зноў будзе столькі ж нездаволеных!.. Глупства ўсё гэта!.. У майго старога было семнаццаць жонак, сярод іх — сусветныя артысткі!.. Ён мог запрэгчы летам чацвёрку коней у сані і ехаць па дарозе, высыпанай соллю!.. І я шчаслівы, бо магу рабіць што хачу!.. Пся крэў, я ўехаў на кані ў банкетную залу, вы ўехалі б?!.

Нейкая сіла кінула мяне на яго з кулакамі:

— Чым гарбом ты шчаслівы, ты?!. Якой цаной твой бацька быў шчаслівы?!

— Я не згодзен весці гэтак дыспут! — адступіў ён, перапалоханы.

— А я пляваць хацеў на тое, з чым ты згодзен, з чым не!

— Пані Вацлава, я пратэстую! Мая нявеста тут цэлы Камінтэрн сабрала, не хапае толькі негра і кітайца!

— Данка, пана Браніслава абражаюць!..

— Янку! — з папрокам накінулася на мяне Данусся.

Але я яе не паслухаў:

— Ты ўехаў на баль дзеля паненкі?!. А я адбяру ў цябе тваю нявесту, і што ты зробіш?! А ты — што, зноў будзеш вучыць мяне правілам добрага тону і добрых паводзін?!.— прыстаў я ўжо да Данусі.

Больш ужо ніхто і не думаў пра ветлівасць.

— Пагуто-орылі, называецца! — кінуў Шыманскі, калі мы пакідалі панадворак генерала нібы поле бою.

## 3

Набліжаўся канец навучальнага года. У мяне на курсах ніякіх экзаменаў у гэтым годзе не было. З кожным днём я меў усё больш вольнага часу.

Аднаго разу на гары я назбіраў розных чарапкоў і разглядаў іх. Абудзіў ва мне гэтую схільнасць Луцэвіч з

музея. Цяпер куды б я ні ішоў, заўсёды ўважліва глядзеў сабе пад ногі і ў кожным кавалачку крэменю бачыў наканечнік стралы, скрэбла, а ў чарапку — рэшткі пасуды продкаў.

Данусл не здала толькі антычную літаратуру і якраз зубрыла Юлія Цэзара. Але вучоба ў той дзень штосьці не лезла ёй у галаву. Гартаючы старонкі, яна нясмела праказала:

— Янку, мамуся ўчора паехала ў Познань да таты...

— Ну?

— На чатыры дні...

— А што мне за бяда?

Увесь час я прыкідваўся, што мне няма ніякай справы ні да яе бацькі, ні да мачахі. І сапраўды, яны мяне не цікавілі. Цяпер жа я выпусціў з рук чарапкі. Калісьці Дануся казала, што на лета збіраецца з маці за граніцу. Праходзілі апошнія нашыя дні, мяне кранула трывога.

— Пан Фелікс — у Новай Вілейцы. Фрося таксама паехала на вёску. Мы засталіся з Гектарам і цёткай Антосяй. Цётка цябе любіць... Ты ёй нагадваеш аднаго хлопца, які загінуў у вайну...— Грудзі яе часта ўздымаліся, нібы ім не хапала чым дыхаць.

Я здагадаўся — хоча запрасіць мяне ў госці. Раптам не хапіла паветра і ў мяне.

— А яшчэ застаўся Браніслаў, чаму яго не лічыш? — упікнуў я, сам не ведаючы навошта — проста мне сказаць так захацелася. Да гэтага часу, бытта згаварыўшыся, мы князя ніколі не ўспаміналі.

— Ты ўсё, Янэк, жартуеш, а я — сур'ёзна...— у Данусі смешна ўздрыганула ніжняя губа.

Я размяк.

Было страшнавата. Але падбадзёрвала ўсведамленне, што хутка паеду дамоў. Атмасфера роднага кута, якой я ўжо дыхаў, дадавала адвагі і незалежнасці. Чаму і не схадзіць? Чаго я ўсяго баюся?.. Што трачу? Добра-то добра, а не, ліха з вамі, паны, завярнуўся і — назад.

## 4

Ва ўмоўлены час я накіраваўся ў генеральскі дом. Дануся з сяброўкай ужо чакала на парозе, вочы яе казалі: ага, бачыла, які ён у мяне зух!

— Сюды ці не сюды? — замяўся я ля парога.

— Просім! Мы ўгледзелі пана яшчэ на вашым панадворку...

Дзіўна, Дануся яшчэ ніколі так не бянтэжылася, як цяпер, у сваім доме. Я ад гэтага асмялеў.

— Калі ласка, заходзьце! Асцярожна, Лёнгінус, не пабіце галавы!..

Я быў хоць і высокі, але да вушака парадных дзвярэй ледзь даставаў бы і рукой. І ад перасцярогі Данусі стала няёмка, бытта расказаў анекдот чалавек, у вуснах якога ён не гучыць.

— Яніна! — прадставілася гімназістка і какетліва ўскінула на мяне карыя вачаняты.

Мне здалося, што ў дапытлівых яе зрэнках мільганула насмешка. Я нагадаў свой першы выхад на рынг, калі на мяне глядзелі гэтаксама з абразлівай цікаўнасцю. Я быў нездаволены: мы не дамаўляліся, што будзе яшчэ нехта,— на якое ліха тут гэтая фіфачка?!.

Але Дануся не адчувала майго настрою. Яна наогул страціла галаву, таропка кідалася то сюды, то туды. Пакуль я нехлямяжа крочыў па генеральскім калідоры, баючыся, каб не пакаўзнуцца, ад мяне не адставала Яніна. Яна залётна ўсміхалася.

— О-ей, прабач, пан! — вінавата ўскрыкнула Дануся, калі я спатыкнуўся аб раскладзены ложак з пакамечанай коўдрай і прасцінай.— Тут начаваў пан Фелікс, і Антося не паспела яшчэ прыбраць. А там спіць Гектар! — яна паказала на сяннік, кінуты на падлогу ў цёмны куток.

Мы зайшлі ў пакой.

У багатай зале кінулася мне ў вочы пакрытая чорным лакам аграмадзіна фартэпіяна. Дануся прапанавала сесці. Я апусціўся на мяккае крэсла і праваліўся аж да зямлі.

— Гу, нібы на купіну моху! — вырвалася ў мяне.

Яніна рассмяялася.

З дзвярэй выйшаў сабака, падышоў да мяне і прыязна паклаў на мае калені пысу.

— Здароў, Гектар! — паляпаў я яго па галаве: мы ўжо даўно былі сябрамі. Цяпер, калі ноччу я перабіраўся цераз сетку ў генералаў садок, сабака з радасці толькі вішчаў.

— О, трэба было бачыць, як наш Гектар сёння чорнага ката загнаў на яблыню! — успомніла Дануся.

— Не чорнага, а — шэрага! — папpавіла яе гімназістка сур'ёзна.

Часамі ўбачыш першы раз чалавека, ён табе спадабаецца, і ты ўжо гатовы ў яго нават закахацца. Але вось ён

зрабіў толькі адзін рух або прамовіў адну фразу, і ты яго адразу ж перастаеш заўважаць. Пасля гэтых слоў так я расчараваўся ў Яніне.

— Давайце сыграю вам Шапэна, калегі! — запрапанавала Данусяі.

Далей у мяне атрымалася зусім не так, як паказваюць у фільмах або пішуць у раманах, калі дзяўчына пакарае хлопца сваёй музыкай.

Спачатку мне было цікава глядзець, як яна перабірае клавішы і націскае на педалі. Дануся ўся аддалася ігры. Я заўважыў нават, як у суладнасці з рухамі ног і рук у яе хадзіў падбародак, затрымлівалася дыханне. Нібы шафёр за рулём!.. Ды мне, як кажуць, ад роду мядзведзь наступіў на вуха. Як і тады, на канцэрце ў тэатры, я ўжо, здаецца, злавіў мелодыю, пачаў за ёю сачыць, але яна нечакана распалася, і я засумаваў.

Раптам пачаў успамінаць, што ж такое мне снілася сёння? Ага! Бытта я дома. Вечарам жану з лесу кароў. Рагулі важныя, тоўстыя, за лета набралі цела, і мяне з імі звязвае інтымная цяплынь ад узаемнага здавальнення — гэта я ім знайшоў і даў насыціцца ўволю пахучымі травамі, кветкамі і гэта яны далі мне адчуць прыемнасць ад карысці, прынесенай мной няўклюдным рагатым істотам, бацькам, людзям. Маці пачала кароў даіць. Пахне свежым малаком ды цёплым і родным дыханнем жывёлы. Падаіўшы, яна мяне кліча: «Яначка, ідзі пазрывай у Красулі кляшчоў з жывата!..» Я падыходжу, а ля каровы ўжо сядзіць Станеўскі з падручнікамі — як звычайна, яны свежанькія, новыя!.. І трэба ж так — цэлы дзень намагаўся ўспомніць сон, ды толькі цяпер удалося...

Нагадаў зноў, што хутка паеду дамоў. На душы зрабілася весела і свабодна. Паглядзеў на кватэру генерала з пункту гледжання вяскоўца.

Садоўнік спіць разам з сабакам, а Дануся лічыць гэта зусім натуральным. Барства? Наіўнасць?.. І ў бога верыць...

Якая мне справа да гэтых паненачак? Што ў мяне агульнага з імі?!.

Я выпрастаўся і пашукаў вачыма Яніну.

Яна ўзлезла каленьмі на крэсла, уперлася локцямі на стол, а на кулакі паклала галаву. Сукенка яе мела вялікі выраз на грудзях. Паненка са здавальненнем зіркнула сабе на грудзі і сустрэлася са мной позіркам. Мне стала сорамна, як тады, калі ўгледзеў дачку пана Матыкі ў рас-

хлістаным халаце. Мяне заліла чырвань, а Яніна так усміхнулася, што я не ведаў, як разумець яе, і адвярнуў галаву.

Навокал было многа прадметаў, якія бачыў я ўпершыню. Вось бліскучае і сакавітае лісце фікуса. Нібы ракіта. Толькі ліст большы. Ды ракіта гнуткая, жывая, а гэтая расліна сонная, рыхлая, адным словам — панская.

Тады мяне зацікавіла падлога. Яна блішчала, што люстра. Я дакрануўся пальцамі — вашчаная!

Яніна пырснула смехам.

Я перанёс позірк на шафу. Няўжо можа быць такая шырозная і сучкастая бярозавая дошка? Расце ж дзесьці гэткая бярэзіна, глядзі ж ты!..

Я ўстаў, падышоў да шафы, скрыпнуў пальцам па лакіраванай сценцы, паспрабаваў яе пазногцем. Цвёрдая, зараза, як з пластмасы!..

Яніна засмяялася зноў.

«Фінціклюшкі шляхоцкія! — пачало мяне разбіраць.— Як адгэтуль пайсці: пасварыцца з імі ці так?..»

— Я магу зразумець мастака, магу зразумець пісьменніка, як ён піша кніжкі,— раптам сказала Дануся, скончыўшы ігру.— Але як кампазітары ствараюць такую цудоўную музыку?.. Відаць, для гэтага трэба быць чарадзеем... О-ей, а чаго вы злуецеся?

У вачах яе было столькі просьбы, што я абмяк.

Дануся ўжо авалодала сабой і працягвала ролю гаспадыні.

— Ведаеце, калегі, а цётка Антося жыве ў нас пятнаццаць год, ды так і не навучылася вымаўляць слова «фартэпіяна». Кажа яго па-свойму — «партафяна»!

Але я не засмяяўся.

— Гэта мая скрыначка! — убачыла яна, што я бяру з тумбачкі карабок са сланоЬвай косці.— Тата прывёз з Японіі, калі працаваў там у аташэ. Праўда, прыгожая? Сюды яшчэ клала каляровыя паперкі ад цукерак... Янэчак, будзем зараз абедаць! Займіся чым-небудзь сам, а мы тым часам пойдзем на кухню гаспадарыць!

## 5

Застаўся я адзін і падумаў, што вось тут часта бывае пані Бацянская — жонка таго ваяводы, імя якога ведае кожны мужык і маёй вёскі!.. Расхаджваюць тут генералы!.. Куды мяне занесла? Год таму назад хіба я сніў аб такім?..

Тут недзе выседжвае час і Браніслаў ды пазірае ласымі вачыма, як перад ім ходзіць генералава дачка!

Дануся ні разу не прапусціла сустрэчы са мной. Аднак у той жа час яна па-ранейшаму лічылася нявестай Любецкага, пра гэта ведала нават мая гаспадыня. Тады ж хто я такі? Хлапец для забавы?.. І Любецкі не можа не ведаць пра нашыя спатканні з Данусяй!.. На вёсцы, калі нявеста пойдзе з другім хлопцам, жаніх дасць ёй па мордзе і больш з ёй гаварыць нават не захоча!.. Іншая жонка няхай толькі гляне на чужога мужчыну!.. А сярод гэтага панства, кажуць, лічыцца шыкам мець палюбоўніка, і пра іх ведаюць мужыкі, жаніхі, ды робяць выгляд, што нічога не адбываецца, цьфу!..

Мяне апанавала злосць.

Каб супакоіцца, я заглянуў у суседні пакой. За шклом — кніжкі ў скураных пераплётах. Ля масіўнага стала — крэсла, абабітае цёмнай скурай. На сцяне — «круцыфікс» [1].

Генералаў кабінет!

Я ўвайшоў у пакой і спыніўся ля шафы з масіўнымі тамамі. Чамусьці старэнькія томікі з бібліятэкі беларускага музея прыцягвалі да сябе больш, так і хацелася гартаць іхнія пажоўклыя старонкі, упівацца вачыма ў старажытныя шрыфты, адчуваць сябе Калумбам. Гэтыя — у пышных пераплётах — выклікалі толькі павагу, нібы генеральша, калі крочыць у касцёл!

Адчыніў я шафу і пачаў перабіраць кніжкі.

У чырвоным каленкоры — дзесяць тамоў Юзэфа Пілсудскага. Пра што ён мог аж столькі напісаць?.. Пагартаў першы том. Копія заявы ў Харкаўскі універсітэт з просьбай прыняць на факультэт медыцыны. Гм... Пілсудскі — медык?.. Далей — стэнаграма пецярбургскага суда ад 29/IV 1887 года. О-го! Юзэфа з яго братам Браніславам судзілі за спробу забіць цара!..

Вось як я ведаў сваіх ворагаў! — Уражаны, паставіў я кніжкі.

У суседнім пакойчыку кінуліся ў вочы іконы. На адной з іх маці божая з адкрытым сэрцам на грудзях. Сінія і ружовыя фігуркі маткі боскай стаялі на падстаўках. Тут, відаць, моліцца генеральша. Ад пакоя павеяла касцёлам.

Агледзеўшы ўсё, я пачаў сумаваць.

На двары загрымела, збіралася на дождж. Успомнілася

---

[1] Крыж *(лац.)*.

вуліца маёй вёскі пасля навальніцы. Цёпла і парна. Хмары яшчэ не разышліся, і таму змрочна. Прыемна хіліць да сну. За платамі заблытаныя дажджом і набрынялыя гронкі бэзавых кветак. На панадворках — хвалістыя лініі з трэсачак і кары — межы, дзе зусім нядаўна стаялі лужы. Уся прырода, напіўшыся дажджу, нібы ап'янела. Цішыня. Толькі жаласліва мэкае мокрае цяля, якое людзі забыліся адвязаць і ўпусціць у хлеў... А тут — смярдзючы горад, халодная кватэра генерала!..

Уцячы?..

Я ўсадзіў рукі ў кішэні і шалёна засвістаў, падрыгваючы нагой у калене. Мне і свістаць не хацелася, але рабіў гэта таму, што здавалася, бытта гэтак рабіў бы той, з каго я браў цяпер прыклад.

— Янэчку, каханы! — выскачыўшы з кухні, палымяна зашаптала Дануся і павісла ў мяне на шыі.

Зноў я размяк. Нацалаваўшыся да ап'янення, паставіў яе на падлогу.

— Будзь разумны,— узмалілася,— я цябе вельмі прашу, не крыўдзь Янусі...

— Ого, так і пакрыўдзіш гэтую цытру!

— Пацярпі! — горача зашаптала яна.— Тата выбраў мне яе ў сяброўкі яшчэ з першага класа гімназіі. Яна ведала ўсе мае сакрэты. Калі ішла да цябе на спатканне, дома казала, іду да Яніны, а яна потым пацвярджала... Мы ёй абавязаны... Будзеш разумны, праўда? Не задзірайся!

— Што з вамі зробіш!.. А ты добранькая таксама! Пакінула тут аднаго з іконамі і Пілсудскім...

— То ходзь да нас, мілы, будзеш дапамагаць! — пераконувала яна прыгожай інтанацыяй польскай мовы, якой, на жаль, нельга перадаць.— І цётку Антосю знарок адпусціла дадому, і пана Фелікса паслала ў Новую Вілейку — усё для цябе, дарагі!

— Толькі яшчэ раз засмяецца — і няхай злуе на сябе!

— Ну, ну, супакойся, вазьмі сябе ў рукі!..

## 6

На кухні ўсё выглядала так, бытта дзве дзяўчынкі, абвязаўшыся фартухамі, гулялі ў гаспадынь, маючы багатыя харчы. Няўмела адкрывалі яны банкі, ставілі на стол талеркі, запэцканыя ў муку, хадзілі ля пліты, перакульвалі каструлі...

— Мужчына, рэзаць хлеб! — з робленай весялосцю загадала Дануся. Яна была паміж двух агнёў, але і ў яе пачаў прабівацца на сяброўку гнеў.

Я ўзяўся за нож. У мяне атрымаліся тоўстыя лусты. Убачыўшы іх, Яніна, вядома, не стрымалася, зноў пырснула смехам. Наогул яна тут прысутнічала нібы для таго толькі, каб заўважаць мае памылкі. Ад яе вачэй я не ведаў, куды падзець рукі, як паставіць нагу. З-за яе і маўчаў, бо баяўся нарабіць памылак у польскай мове і паказацца смешным.

Абрэзаў бы я паненку даўно, ды яна не прапускала моманту ўсміхацца да мяне, бліскаць зубкамі. А найлепш было б наогул не звяртаць на яе ўвагі: сапраўды, хацеў я таго ці не, але я так сябе паводзіў, што было з-за чаго смяяцца. Аднак тады я сам шукаў зачэпкі.

Селі мы за стол.

У нас дома ежу клалі ў місы як папала. Паненкі ж расклалі на талеркі сыр, каўбасу, селядзец мудрагелістымі ўзорамі, ды такімі прыгожымі, нібы іх мералі цыркулем і лінейкай. Шкада было нават разбураць гэтую прыгажосць.

— На гэта толькі трэба глядзець, а не есці! — дзівіўся я.

Яніна пырснула.

— Усё тут для цябе, не сумнявайся! — Дануся першы раз сказала мне перад Янінай «ты».

— Адкрывай! — падала яна штопар і бутэльку віна.

Я нязграбна дастаў корак, разліў ружовую вадкасць.

— Ну, на здароўе... За цябе! — узняла яна чарку.

Яе вочы засвяціліся ласкай і адданасцю. Каб не паказаць Яніне, як мяне гэта кранула, я свае вочы апусціў.

— Янэк, ты першы!

— Я не п'ю.

— Не п'е-еш?

— Не!

— Зусім?

— Ні кроплі.

Яніна пырснула.

У той час падпольшчыкі давалі сабе клятву ні ў якім выпадку не піць гарэлкі і не курыць. Клятву ўзялі і з мяне.

— Хоць крыху! — не адставала Дануся.

Па яе інтанацыі я адчуў, што такая якасць яшчэ больш узняла мяне ў вачах паненкі.

— Віно, кажуць, мазгі выбівае!.. Нават кроплі ў рот не вазьму гэтай атруты, не прасі!

Дануся не ведала, што рабіць.

— Не звяртайце на мяне ўвагі, піце самі. Няхай вам будзе на здароўе!

Яніна паднесла чарку да вуснаў, але на яе строга глянула Дануся, і паненка папярхнулася.

Паставілі чаркі.

— То еш!

— О, гэту работу люблю, і жывот у мяне ўмяшчальны, будзь спакойная! — пачаў я выграбаць з талерак.

Яніна зноў пырснула.

З кніжак я ведаў, што багачы ў абед карыстаюцца сурвэткамі. Калі ж пад руку трапіла накрухмаленая палатніна, я яе паклаў на буфет.

— Няхай ляжыць, будзеш выцірацца, Ясю! — заўважыла Дануся.

— Хіба я грудное дзіця і пачну тут бурбалкі пускаць?!. А, правіла добрага тону, прабач!..

Яніна на гэты раз ад смеху аж зайшлася. Ну, з мяне хопіць!.. Я ўскочыў з-за стала. Узнялася і Дануся.

— Не падабаецца табе? Не затрымліваю, можаш ісці! — заявіла яна, абураная, і паказала сяброўцы на дзверы; вочы яе блішчалі гневам.

— Дурніца! — захлынаючыся, здолела толькі выціснуць з сябе і пакацілася да выхаду Яніна.

— Я табе гэтага ніколі не дарую! — кінула Дануся наўздагон сяброўцы і папрасіла мяне: — Еш, Янусь, калі ласка, не звяртай увагі, прашу!..

## 7

Але я ўжо больш не сеў.

Раздражнёныя, выйшлі мы ў залу.

— Ну вось, нарэшце мы і адны!..— паспрабавала мяне развесяліць Дануся.— Я яе прагнала, ты здаволены?.. Панасі мяне на руках, Янэк... І сцісні моцна-моцна, як на гары, каб аж косці затрашчалі і дыхаць не было чым! О, як я люблю гэтыя ўладарныя рукі! Якія яны мне родныя!.. Яны ў цябе як з жалеза... Скажы, ты мяне кахаеш? Ну, гавары: слёзка мая...

На фартэпіяна ў рамцы стаяла яе фатаграфія з Любецкім.

— Прасі князя, няхай носіць, рукі яго дарагім мылам

пахнуць!— буркнуў я, успамінаючы спачувальную інтанацыю, з якой яна гаварыла «еш, Янусь!».— І няхай ён прызнаецца табе ў каханні! — кінуў я на фота.— Любецкі ўмее гэта рабіць куды лепш за мужыка!

— Ага, нездаволены, што прагнала яе? — успыхнула Данута.— Бачыла, як на яе пазіраў, як рысаваўся!

— Я рысаваўся?

— А то не? Нават какетнічаў!

— Я какетнічаў?

— А тады са студэнткай над Віліяй? Думаеш, дурная, нічога не бачу?

Расчырванелая і злосная, Данутя цяпер чамусьці нагадвала раз'юшаную кошку. Нешта прыгожае было ў яе гневе. Але пра гэта я ўспомніў потым.

— Ты што, ачумела? — не знаходзіў я слоў.

— Янэк, я, мажліва, і праўда ачумела, сказала глупства. Але ж гэтак далей нельга! Ты заўсёды такі грубы, няўважлівы... Узяў мяне лістоўкі разносіць, а пры сябрах сваіх не адважыўся падысці нават... Добра — іншыя зжаліліся, падабралі мяне!.. З-за цябе я столькі цярплю кожны дзень, кожную гадзіну, а ты гэтага нават не хочаш заўважаць...

— З-за мяне?

— З-за цябе!

— Гэта ты з-за мяне церпіш?

— Спецыяльна выправадзіла ўсіх з дому, каб ты лепш сябе адчуваў...

— Выправадзіла? Бо баялася, што цябе хто ўбачыць са мной. А вечарам, пры людзях, пойдзеш у тэатр з Любецкім!

— Ты несправядлівы! Я з ім нават...

— Ну?

— Я для цябе...

— Што ты для мяне? Ага, няма чаго і сказаць? У кіно днём і то баішся ісці!

Відаць, рэдка не памыляецца той, хто зробіць важны крок у сваім жыцці ў парыве злосці. І ў мяне тады злосць затуманіла мазгі. Я раптам убачыў і адчуў яшчэ раз усю ганьбу, якую перанёс у Вільні, і звязаў гэта з генералам і яго сям'ёй.

— Вы нават за чалавека мяне не лічыце! — закрычаў я.— Хто я для вас? Скажы, хто?!.

— Няпраўда...— У голасе Данусі пачуліся слёзы.— Ты не маеш права на мяне так гаварыць!

— Мо не, скажаш?
— Не!
— Не?
З кухні выйшаў белы і пушысты кот. Ён, як нічога не было, пытальным знакам выгнуў хрыбет, лянiва пацягнуўся, грэбнуў кіпцюрамі паркет, пазяхнуў ружовенькім роцікам, паставіў хвост трубой і накіраваўся да мяне.
— Мурэк! — пазвала яго Дануся і нагнулася, каб схаваць слёзы.
Кот прамурлыкаў.
— Бедны Мурэк, змок увесь на дажджы...
Мяне апанаваў новы прыступ злосці.
— А-га? Няма чаго больш сказаць? Хто я для цябе? Я скажу, калі маўчыш! Я для цябе — забава! Бы гэты кот!
І я з усяе сілы ўдарыў яго нагой.
— Вя-аў! — прарэзліва віскнуў ён у паветры, грымнуўся аб сцяну, а пасля куляй сігануў пад шафу.
— Грубіян! — пачырванела ад абурэння Дануся і кінулася да шафы.— Што ты нарабіў, дзікун?!
Мяне гэта раззлавала яшчэ больш. Я зноў гнеўна загаварыў. Гаварыў на вясковы манер, не думаючы, што могуць пачуць суседзі, махаў кулакамі:
— Ды ідзі ты, урэшце, к чортавай мацеры са сваімі Янінамі, Любецкімі, Станеўскімі, буржуйка ты няшчасная! Гуляй тут са сваімі сабакамі, катамі, лялькамі! Або едзь у сваю Швейцарыю, там цябе чакаюць такія ж самыя!
І выбег на двор.

## 8

У наступны дзень, калі я вярнуўся з горада, гаспадыня з таямнічым выразам твару паведаміла:
— А ў вас былі госці і штосьці пакінулі!..
Я агледзеў пакой, але нічога не знайшоў.
— Пад падушкай! — падказала яна.
Я прыпадняў падушку. Там ляжаў доўгі карабок з шакаладам. На шаўковай істужцы блішчала сярэбраная лічба «19» і мае ініцыялы. Тады толькі я ўспомніў, што сёння дзень майго нараджэння. У той час у маёй вёсцы дзень нараджэння ніхто не адзначаў. Нават не было такой звычкі памятаць, калі ты нарадзіўся.
Здзіўлены, я пастаяў, падумаў. Потым узяў падарунак пад паху і пайшоў на двор.

Якраз у гэты момант да генералавых дзвярэй набліжаліся Браніслаў і ксёндз, які некалі частаваў мяне слівай. Дануся трымала Гектара за аброжу і какетліва казала:

— Прашу, праходзьце, ён не ўкусіць!

— Калі ласка, айцец Валенты! — ветліва прапускаў Браніслаў госця ў чорнай сутане, нібы быў тут гаспадаром.

Дануся, упэўніўшыся, што я на яе гляджу, адпусціла сабаку, пабегла да Браніслава і, як мне здалося, радасна праказала:

— Дзень добры, пане Бронэк!

Я вярнуўся на кватэру.

— Вось і ўсё! — вымавіў я, цяжка ўздыхаючы.

Азірнуўся навокал і ўпершыню ўбачыў, што мутна-зялёныя абоі на сценах з нейкімі тлустымі плямамі. Бр-р-р, якія агідныя!.. І як я тут жыў амаль цэлы год! Паўслухаўся. На кухні абедалі. Дзяўчынка карміла брата і павучала:

— Чаму ты бульбу не абіраеш? З лушпайкамі толькі некалі дзікуны елі!

— Ы-ы-ых! — са здзіўленнем уцягнуў у сябе паветра малы, робячы для сябе адкрыццё.— Тады хлеб людзі будуць есці калісь без скарынкі, так?!.

— Не выдумвай, дурань!..

Малы з захапленнем ужо казаў:

— А малако хало-однае, хало-однае, ну, проста нібы з-пад каровы! На, ты адно паспрабуй, Валя!

— Ну і няхай, а ты еш!

Тут нешта стукнула, палілося, і дзяўчынка закрычала зноў:

— О, разліў ужо! Выліжы, а то маме скажу!

— Выліжу, Валечка! — вінавата і пакорна паабяцаў хлопчык.

Пачулася сапенне, потым стараннае сёрбанне.

Праз хвіліну сястра накінулася на брата зноў:

— Ты што бульбу раскідаеш?

— Яна не ўпала, Валечка. Я затрымаў яе нагамі. Во, глядзі, калі не верыш...

Бедныя, нават не ведаюць, што малако з-пад каровы якраз цёплае, а старую жанчыну прызвычаіліся называць мамай!..

Калі, бывала, яны садзіліся сям'ёй абедаць, прачка ніколі не брала ў рот цэлага кавалка хлеба. Ела толькі недаедкі. Распускала тлушч на страву, вылівала яго да кроп-

лі дзецям у талеркі, а сабе налівала супу ў пустую патэльню — ёй даставаўся толькі пах ад тлушчу!..

Я ўстаў, пайшоў на кухню і аддаў дзецям каробку з шакаладам.

Назаўтра цётка Антося прынесла мне пісьмо.

— Бярыце...

— Не вазьму!

— А то чаму? — спалохалася жанчына.— Вы ж не можаце жыць адно без аднаго!

— Хто гэта вы?

Антося глядзела на мяне з жахам.

— Якачка, чаго ж ты так?

— Было, ды сплыло!

— Чаму?

— Індык свінні не таварыш!.. Адным словам, нясеце, цётко, назад!

Праз хвіліну я ўжо адумаўся: Дануся ні ў чым не вінавата. Гэта я ў апошні час стаў нястрыманым эгаістам. Але самалюбства не дазволіла паклікаць цётку назад.

Ролю абражанага цяпер трэба было іграць да канца. Заставаўся яшчэ генеральскі кольт. Чамусьці да яго я не мог прызвычаіцца, як да падзёўбанага ржой Сцяпанавага нагана. Я загарнуў яго ў паперу і выйшаў на двор. Дзесьці ў душы таілася надзея, што рэвальвер — апошняя магчымасць пагаварыць і памірыцца з Данусяй. Але генералаў панадворак быў пусты.

Ля Залкіндавага дома старая ганялася за дзяўчынкай і прымушала ўнучку скінуць школьную форму. Калі Бэта засталася адна, я паклікаў яе да сеткі.

— Аднясі Янкоўскай Дануце! Зараз жа!

— А што тут?

— Не твая справа!

Папера разгарнулася, і ў вялікіх вішнёвых вачах дзяўчынкі з'явіўся жах.

— Нясі! — загадаў я.

— А ён не выстраліць?..

— Не бойся!

9

Надышоў дзень майго ад'езду.

Я доўга хадзіў па горадзе сам не свой і ўжо шкадаваў, што з-за празмернай крыўдлівасці і нейкай упартасці паспрачаўся з такім блізкім мне і дарагім чалавекам у Віль-

ні. Навошта, хамут, яе пакрыўдзіў? Недзе, бедная, месца сабе не знаходзіць!..

Я выйшаў з дому з надзеяй на шчаслівы выпадак.

Прайшоўся ля Данусінага дома. Як на тое на панадворку — ні душы. Толькі ў зацененых дзікім вінаградам вокнах лёгка варушыліся гардзіны ды ля брамкі сядзеў пушысты кот. Убачыўшы мяне, ён раптам устрапянуўся і так хутка скочыў у кусты, нібы ў паветры хто правёў белую рысачку. Ва мне абудзіліся ўчарашнія крыўды.

«Няма чаго шкадаваць і мучыць сябе, трэба раз і назаўсёды адрэзаць і выкінуць усё з галавы ды збірацца дадому!»

Я рашуча накіраваўся ў краму. За апошнія грошы купіў падарунак маці — дошку для мыцця бялізны з гафраванай бляхі ў драўлянай рамцы.

Вяртаючыся з пакупкай дадому, я спаткаў Данусю з Любецкім. Калі ўбачыў яе з князем, ахвота закрануць паненку адпала адразу. Дануся зусім не нагадвала чалавека, які перажывае. Яна ўся аж квітнела, а я, дурань, бедаваў, што памірае з-за мяне...

Вось табе і на!

Зрабілася няёмка за сваю вопратку і за дошку пад пахай... Мільганула зноў перад вачыма крапіва пад плотам, сярод панадворка — разбітая калодка з сякерай, заткнёнае анучай акенца хлеўчука... Ва мне ўжо загаварыла гордасць. Мінаючы пару, я нават не глянуў на Данусю. Мы параўняліся, і паненка голасна і паспешліва загаварыла, засмяялася.

Смейся, ліха цябе бяры, калі так табе весела!..

На вузенькай вулачцы я яшчэ раз сустрэў гэтую пару — нечакана апынуўся ў іх ззаду. У Браніслава з-пад маленькай кепкі звісаў лісіны хвост — адзнака, што Любецкі правінаваціўся ў нечым. Мо вызваўся выпіць літр гарэлкі, ды ад другой шклянкі зваліўся пад стол, а мо збрахаў не дастаткова гладка!.. Я падкраўся да пары і пачаў прыслухоўвацца.

— Ой, і забіяка я быў у школе, панно Дануто! — хваліўся князь.— Пабачыла б мяне тады паненка! Нядаўна я наведаў прафесарку, пані Перагут...

— З гімназіі Элізы Ажэшковай? Яшчэ майго тату гэтая пані вучыла!

— О, цікава!.. Яна была ласкавая паказаць свае запіскі з таго часу. На кожнага з нас у спецыяльным сшытку пані Перагут заводзіла па старонцы. Пра мяне там напі-

сапа так: «I клас гімназіі. Кінуў яблык у прахожага і разбіў яму акуляры. IV клас гімназіі. Сеў у фаэтон, праехаў і не заплаціў фурману. VIII клас. Учора на Гандлёвай вуліцы спаткала Любецкага з маноклем у воку і ён са мной не павітаўся...» Эвалюцыя, не? Ха-ха-ха-ха!

Дануся таксама рассмяялася, але няшчыра, нервова. Я зразумеў яшчэ раней, што дзяўчына адчувае на сабе мой позірк. Інтымная размова з князем — дэманстрацыя.

Ліха вас бяры, радуйцеся сабой! — сказаў я сам сабе і ад іх адстаў.

Каб скараціць сабе час да раніцы, калі ішоў мой поезд, я крыху пахадзіў па горадзе. Засмечаныя тратуары без зялёных прысадаў наводзілі сум. Лета. На вёсцы зараз мужчыны не маюць часу лоб выцерці, жанчыны — накарміць дзіця. А тут усе млеюць ад ляноты. Эх, паперці бы іх на касьбу або на торф... Зрэшты, і я колькі часу блытаюся як гультай!..

Горад ужо так прыеўся, што я нават у твар пазнаваў некаторых гараджан. Я сябе ўгаварыў, што тут усё мне абрыдла, хочацца вельмі на чыстае паветра, да сваіх людзей, да працы, каб не адчуваць ні рук, ні ног.

Аднак усё гэта было ва мне павярхоўнае.

## 10

Набліжаючыся да дома, убачыў я ля варот Янкоўскіх машыну з ад'ютантам і адразу пра ўсё забыў. «Значыць, вярнуўся яе бацька?!» — з жахам падумаў я, перамахнуў металічную сетку, забраўся ў бэз ды стаіўся пад акном.

— ...Дзе Данка, чаму ты не цікавішся дачкой, чаму ты такі раўнадушны да дзіцяці? — чуваць было выразна, як гаворыць генеральша.

— Дарагая, пакінь яе ў спакоі, за ёю паглядзіць Антося! — супакойваў яе муж.— Раніцой вернемся, і ўсё будзе ў парадку!

Я ўвесь пераўтварыўся ў слых.

— Пані Вацлава, гэта было ў бялізне! — пачуўся ўжо голас маладой служанкі.— Афішка!

— Учора ў паштовай скрынцы ляжалі!..

— Ну і што?

— Хуліганы! — выбухнула генеральша.— Страляць іх трэба! Божа, калі ў Польшчы забароняць гэтую свабоду?!.

— Нічога, нічога, Ваця, тут пішуць пра Гітлера!.. І маюць рацыю!

— То няхай сабе пішуць!

— Ён падцягвае войскі к «калідору» з танкамі, а мы супроць іх трымаем там кавалерыю з пікамі, усё тут напісана правільна!.. Замест таго каб прадухіліць катастрофу, чым мы занімаемся? Раутамі!..

— Не задзірайся з імі, чуеш? Гэта к дабру не прывядзе! Хоча Гітлер нашае Балтыйскае ўзбярэжжа і няхай бярэ! Якую карысць ад Балтыкі мае польскі народ?

— Вя-лі-ікую!..

— Больш двух тыдняў на ёй не выседзіш, такая халадзіна! Забярыце лепш у бальшавікоў доступ к Чорнаму мору, там цяпло, кіпарысы, дыні!..

— Ха-ха-ха!

— Езус Хрыстус, гэтыя хваляванні разрываюць мне сэрца на кавалкі, яшчэ і палітыкай занімайся!..

— Дарагая, мы на грані вайны!

— Ну і што? Генералаў пад кулі хіба пасылаюць? І мяне не палохай, я перажыла ўжо адну вайну! Увойдуць у моду зноў высокія боты са шнураваддамі ды — во такія! — вайсковыя шапачкі! Яны мне да твару, а ног сваіх не маю чаго саромецца, хай перажывае жонка ваяводы — яны ў яе як у сланіхі!.. Бачыце, я памаладзела, бо прымаю масажыстку, а без яе бытта я — старая!.. Паручнік Казакевіч кіне — пабяжыш яшчэ і ты да масажысткі!..

Чуваць было, як у пакой энергічна ўваходзіць ад'ютант і гаворыць:

— Пане гэнэрале, машына падана!

— Дзякуй, Куба, зараз мы з'явімся!

— Слухам!..

Зноў азвалася генеральша:

— Антося, вернецца дзіця, накармі!

— Добра, ласкавая пані!

— Эрмітэй няхай адпрасуе ўсё, што ў Швейцарыю бярэм!

— Адпрасуе, ласкавая пані!

— Прасачы за ёй, Эрмітэй нічога не ўмее рабіць!

— Прасачу, ласкавая пані!

— Ды закрывай на ноч вокны, а дзверы — на засаўку!

— Закрыю, ласкавая пані!

— Гектара прывяжы на верандзе!..

— Прывяжу, ласкавая пані!

— Не трэба так на яе крычаць, гэтая дзеўка — бяскрыўдная істота! — заўважыў муж.

— Мяне бы так пашкадаваў! — выбухнула жонка

зноў.— Што ў цябе за выгляд?! Забыўся, што ідзём на баль да ваяводы, дзе будзе румынскі прынц? На, шаблю пачапі!..

— Яшчэ і гэтае свінства? — бараніўся генерал.— До яснай холеры!.. Адслужылі свае шаблі і эпалеты!

— Рэспублік усюды нарабілі!.. Пры манархіях, прынамсі, цырымоніі былі! Не разумееце, як самі сябе абкрадваеце!

— Во-во. Некаторыя прэзідэнты і зараз уводзяць прыдворны этыкет!..

Вярнуўся я на кватэру і ў сенях пачаў разбіраць скрынкі ад пасылак, каб фанеру завезці дамоў. Фанерныя квадраты былі падзіраўленыя цвікамі, спісаныя хімічным алоўкам і больш для пасылак не падыходзілі. Але пакінуць іх тут са слядамі бацькавых каракуль я не мог. Заняты справай, я ўспамінаў кожную, падслуханую ў генералавым доме, фразу ды ўсё ківаў галавой, а час цягнуўся вельмі памалу. Вестка пра тое, што хтосьці разносіць лістоўкі, прыглушыла раптам ва мне жаданне ад'язджаць.

Мяне ўжо падмывала пабегчы ў горад і пашукаць хлопцаў...

Міжволі давялося падслухаць яшчэ адзін дыялог.

Выйшла на ганак ды прысела на прыступкі мая гаспадыня. Да сеткі з другога боку падышла Антося з тазікам, пачала развешваць бялізну. З сяней мне выразна было чуваць іхнюю размову.

— Дзень добры, суседачка! — павіталася мая гаспадыня.— Чулі? У горадзе людзі ў запас купляюць соль, газу, цукар!.. Кажуць, вайна хутка пачнецца!..

— Езус Марыя!..— з глыбіні падворка адказала ёй служанка.— Што ж, грашылі людзі, грашылі і даграшыліся! Нельга без канца паспытваць цярпенне боскае!

— Пачнецца катавасія, чым я дзяцей карміць буду, куды я іх дзену?!

— Хоць жывым у яму лезь!

— Яшчэ, кажуць, немец пускае бомбы проста на дамы!..

— Ад іхніх цыпілінаў і ў тую вайну не было ратунку! Памятаю!..

— ...То на гэтую невядома што яны нарыхтавалі...

— А бомбы, кажуць, ён пускае найсамперш туды, дзе генералы жывуць!

— Ну,— згадзілася Антося і з гэтым.— Генерал для іх — чалавек не просты!..

— То ўся вуліца ганарылася, што на ёй стаіць генеральскі дом, то цяпер лаяць усе яго будуць!..
— Людзям не дагодзіш, пані.
— Людзі такія!
— Усё, суседачка, у волі боскай! Нам трэба ўсім маліць багародзіцу!
— Праўда, пані Антося!.. Хай нас крые найсвяцейшая мацер божая з Вострай Брамы!
— Амін.

## 11

Пачало цямнець, і ў генералаву альтанку накіраваліся генеральша, Дануся, панічы і паненкі. У цішы чэрвеньскага вечара доўга былі чуваць бестурботны смех, песні, нават — апладысменты, як у тэатры. Я стаіўся на ганку і слухаў.
Галасней за ўсіх гаварыла Дануся, і я ўпіваўся яе голасам, інтанацыяй.
Зрабілася шкада, што нельга нічога вярнуць, прынамсі, да наступнага навучальнага года.
Генеральша, мабыць, прыехала забіраць дачку за граніцу...
Усе прасілі Браніслава пра нешта расказаць. Ён крыху паламаўся і пачаў:
— У нашай сямейнай хроніцы запісана, што ў 1768 годзе, калі да майго прапрадзеда ў замак пад Лодзь прыехаў на вялікдзень князь Сапега са світай, на балі было з'едзена сорак валоў, дзвесце пяцьдзесят цялят, сорак бараноў, дзвесце свіней, васемнаццаць тысяч курэй, дваццаць тысяч рыб, пятнаццаць корцаў ракаў. А венгрына выпілі столькі бочак, колькі дзён у годзе, а кварт мёду — колькі гадзін у годзе...
— О Езус Марыя, куды гэта дзявалася ў іх!
— Нашыя продкі мелі па тры страўнікі!
— Абжорамі былі!
— Хіба што!
Нягоднікі.
Рамантыку бачыце ў колькасці прыслугі, у этыкетах, цырымоніях, балях... Дзеля яе можаце кідаць тысячы на карты, гонар... Забываеце, што за гэтымі злотымі, корцамі, баранамі — людзі, якія хварэлі, іх здабываючы, паміралі нават...
Ведаем такіх рамантыкаў!

Бестурботная весялосць панства пачала мяне раздражняць. Захацелася выкінуць які-небудзь фокус. Я нават падняў кій, каб запусціць ім у жалезную бочку ад генералавага душа, але перадумаў — кій можа адскочыць ад бочкі і трапіць каму ў галаву, яшчэ давядзецца справу мець з паліцыяй!

Ля ганка рос ясень. З'явілася жаданне залезці на дрэва. І я палез.

Магчыма, гэта было звычайнае блазенства, і калі я цяпер успамінаю, мне робіцца сорамна. А мо я зрабіў гэта, каб толькі звярнуць на сябе ўвагу Данусі?..

Я залез аж да тонкіх галінак і стаіўся. У альтанцы гамані і на мяне, дзівака, не звярталі ніякай увагі. Тады, гойдаючыся ў такт песні, пачаў я спяваць першае, што ўзбрыло ў галаву:

Стуку, груку, дзверцы,
Едуць кавалерцы!
А сучачка — цях-цях-цях!
А сардэчка — тах-тах-тах!

Ніякага эфекту.

Я прадоўжыў:

Гуляй, дзеўка,
Красуйся!
Рана замуж —
Не сунься!
Бо замужам
Трэба знаць,—
Позна легчы,
Рана ўстаць!
А свякрусе —
Дагадзіць,
Як па брытвачцы
Хадзіць!

Спыніўся і паслухаў. Нарэшце ў альтанцы мяне пачулі і змоўклі.

— Глядзіце, глядзіце туды, на прасвет! Вунь, на светлым фоне, на кроне дрэва — чалавек сядзіць! — пасля маўчання закрычаў незнаёмы голас.

У альтанцы зашморгалі хмелем, відаць, яго раздзіралі, каб лепш бачыць.

— О, і я бачу!

— А-га!..

— Дзе, дзе?

Некалькі хвілін у садку панавала цішыня. А калі здзіўленне прайшло, панства раптам пачало смяяцца. Смяяліся доўга, абразліва, як з дурня.

Нарэшце смех перакрыў Данусін голас:

— Нічога тут няма смешнага! От залезце вы, рыцары, аж туды!

У альтанцы загрукатала.

— О-ей, куды вы? Не разыходзьцеся, прашу! Пане Браніславе, не ідзіце, прашу!

— А каторая гадзіна?

— Ужо позні час!

— У-у, як засядзеліся!

— І мне пара!

— Прабачце!

— Дзякуем за прыемную кампанію!

— Пара і нам!..

Адчуваючы зларадная здавальненне, што сапсаваў панству вечар, зноў пачаў я гойдацца і спяваць:

Сме-ла, та-ава-ры-шы, ў но-огу!..

Спяваў датуль, пакуль не зразумеў, што ў садзе — ні душы. І мне зрабілася так сорамна раптам, як бывае толькі ў сне, калі прысніцца, што ідзеш па вуліцы без нагавіц і на цябе ўзіраецца народ.

Я хутчэй злез на зямлю.

Ад'язджаючы з Вільні яшчэ ў тую ж ноч, я адчуў, як нешта назаўсёды тут пакідаю. Тады я яшчэ не ведаў, што ў гэты дзень скончылася маё юнацтва.

# Частка трэцяя

## Раздзел першы

### 1

Прыехаў я дахаты, а праз два месяцы пачаліся падзеі. Першага верасня 1939 года выбухнула вайна Германіі з Польшчай. Семнаццатага — у Заходнюю Беларусь увайшла Чырвоная Армія.

І тут завярцелася.

Парушылася вартасць грошай, паламаліся звычкі, погляды, паняцці; за адзін дзень іншы чалавек цяпер назіраў столькі, што дагэтуль не бачыў і за ўсё жыццё!

Доўга яшчэ я адчуваў сябе як пасажыр, які едзе поездам з хуткасцю сто кіламетраў у гадзіну: мільгалі вобразы, але не было магчымасці затрымаць на іх вочы.

Адчыніліся школы сярэднія і вышэйшыя ды ўсе бясплатныя — вучыся сабе колькі хочаш! Пачалося нябачанае будаўніцтва, і раптам не стала хапаць рабочых рук...

Вучыўся я ўжо ў другім горадзе. Але па-ранейшаму цягнула мяне да Данусі, хаця гордасць і не дазваляла паказацца ёй на вочы. Хацелася паглядзець на яе крадком — якая яна цяпер там? Яна ж выхадзец з буржуазнага свету, мо перажывае нястачу — нават хлеба не мае?..

У час летніх канікулаў 1940 года адправіўся я ў Вільню. Горад быў падобны на разварушаны мурашнік. Усё было яшчэ не ўладжана, людзі жылі нібы на вакзале.

У генералавым доме незнаёмыя кватаранты сказалі, што цётка Антося перабралася ў канец горада ў сваю хату. Я падаўся да яе.

— Як паехала генеральша з дачкой да вайны, так і не вярнулася! Можа, дзе загінулі там: Гітлер, кажуць, лютуе цяпер надта на свеце! — паведаміла мне яна і параіла схадзіць да Левандоўскага: — Ён павінен ведаць нешта пра іх! Я і сама збіраюся да яго, толькі агарод прапалю...

— Левандоўскі вярнуўся з заграніцы?

— Залкінды мне гаварылі. Стары Залкінд хадзіў да

яго распытваць. Усё яму тут не падабаецца. То ў сталовых чай падаюць без сподкаў, то за магазін прыдзіраюцца, то служанкі знайсці не можа... Дастаў ужо нават загранічны пачпарт для сям'і. Але пагаварыў з Левандоўскім і абсеў. Той бытта сказаў, што і там не соладка. Учора спаткала яго ў кнігарні: рускія падручнікі шукаў для сваёй Бэты...

Калі год таму назад часці польскай арміі ўпарта супраціўляліся нямецкай навале, вышэйшыя чыноўнікі ўцяклі ў Румынію. Я падумаў, што туды мог уцячы і генерал. У такім выпадку ён за граніцай знайшоў сваю сям'ю. Чаго тады Дануце вяртацца ў СССР? Недзе за бацькавы долары, пакладзеныя яшчэ да вайны ў швейцарскія банкі, жыве сабе там бы каралева! А я, дурань, дапамагаць ёй ехаў...

Ад Антосі я падаўся да былога трэнера.

## 2

На кватэры ў Левандоўскага было многа народу. Усе прагнулі даведацца пра лёс родных і знаёмых, паслухаць нешта цікавае, падбадзёрыць сябе.

Для многіх палякаў — асколкаў былога ладу — Англія тады была той запаветнай дзяржавай, якая, на іхнюю думку, мелася выратаваць з бяды Польшчу — праперці немцаў і бальшавікоў, вярнуць на страчаныя пасады ўсіх чыноўнікаў ды вайсковых, яшчэ і выплаціць адшкадаванне. Кожная вестка з Англіі прагна ўспрымалася гэтымі людзьмі.

Тады, калі збіралася некалькі чалавек, то абавязкова яны гаварылі на палітычныя тэмы і з-за гэтага маглі не есці, не спаць. А ў Левандоўскага адбывалася ўжо цэлая прэс-канферэнцыя. У яго кватэру набілася столькі людзей, што мяне нават ніхто і не заўважаў.

— ...Сто пяцьдзесят гадоў з нас здзекаваліся, нас стралялі, гнаілі ў турмах. За намі шпіёнілі, забаранялі размаўляць на роднай мове,— з набалелай горыччу скардзіўся былы трэнер.— Незалежнасць мы выпакутвалі, як вандроўнікі тыя пасля доўгай спякотнай дарогі ваду ў пустыні. Атрымаўшы яе ў 1918 годзе, мы ап'янелі ад радасці, не разабралі, дзе нашы ворагі, дзе сябры. Расія? А, тая, дзе Сібір, дзе звінелі кандаламі пакаленні нашых продкаў!.. Кажуць, у ёй штосьці новае? Гэта яшчэ паглядзім, а пакуль што мы не зрабілі з імі парахункаў!.. У Са-

ветаў ёсць добрыя танкі? Няпраўда! Дык вось фатаграфіі!.. Хлусня, гэта пацёмкінскія вёскі, яны з фанеры!.. І мы сталі заігрываць з далёкай Францыяй, Англіяй. «Магутная, непераможная!» — фанабэрыліся мы, хвалячы сваю армію. А дайшло да справы, і давялося кідаць кавалерыйскія эскадроны на нямецкія танкавыя калоны, а супроць кулямётаў уланам выстаўляць пікі!..

У гэтым стомленым і маральна зламаным чалавеку ледзь можна было пазнаць былога віленскага атлета і зухаватага мужчыну прыгажуна.

— А потым?.. Прыехалі мы ў Румынію голыя, брудныя, абшарпаныя, прыбітыя — зноў, як дваццаць тры гады таму назад, бязродныя. Пашкадавалі нас суседзі, далі хлеба, мы наеліся і пачалі ўжо хадзіць гаспадарамі, пазіраць на румын звысоку, як каланізатары на туземцаў, абзываць іх «мамалыжнікамі»!..

У нас, палякаў, многа шляхецкага зазнайства... Пыха, самы сапраўдны эгаізм, прыкрыты таннымі патрыятычнымі лозунгамі, перамешваліся ў кожным з нас з уяўнай рамантыкай мінулага, сталі нашым характарам! — працягваў ён з болем.

— Далей было яшчэ горш. З Румыніі паехалі ў Аўстралію. У Сіднеі, у гарадскім парку, гадуюць кенгуру. Да іх прыходзяць забаўляцца гарадскія лодыры. Так, так, панове,— хто на вайне ад смагі паміраў у пустынях Афрыкі, а хто не ведаў, куды падзець лішні час!.. Кенгуру любяць баксіраваць. Для пацехі публікі я, трэнер першай катэгорыі, быў наняты за грошы ў партнёры смярдзючаму зверу!.. Надзеўшы баксёрскія пальчаткі з раніцы да вечара я выходзіў на «рынг». Кенгуру намерваецца ўдарыць задняй нагой, а я не даюся. Аднойчы пана Кавальскага з Варшавы — ужэндніка пошты з Алей Уяздоўскіх — звер на маіх вачах распаласаваў з галавы да ног, і кішкі вываліліся на пясок. Тады я адмовіўся ад такой работы...

— У войска паслаць мяне не захацелі: стары. Прыставілі да коал. Гэта — маленькія мядзведзі, харчуюцца лісцямі эўкаліпта, а ў іх шмат алкаголю, таму яны ўсё жыццё п'яныя. Цэлы дзень у парку з коал рагаталі людзі, а мне здавалася — з мяне!.. Абрыдла смяшыць народ і быць блазнам, абрыдла чужына, захацелася дадому. Прыбыў савецкі гандлёвы карабель, і я на ім уцёк. Патрымалі крыху ў Лукішках, і вось — выпусцілі, жыві, сказалі...

Левандоўскі калісьці ведаў мае палітычныя перакананні. І мне вельмі ж не хацелася сустракацца з ім пры

Савецкай уладзе нязначным чалавекам, ды яшчэ і ў беднай вопратцы. Таму я доўга вагаўся, пакуль нарэшце спытаўся пра генерала.

У стомленых вачах Левандоўскага адбіліся здзіўленне і радасць. Я прыкінуўся, што бачу яго ўпершыню, і жывыя іскрынкі ў пажылога трэнера згаслі.

— Не, Янкоўскага там не бачыў,— адвёў ён ад мяне сарамлівыя вочы.— Я нават не чуў пра яго. Прыкладна лёс яго магу сабе ўявіць. Генерал — са старых кадраў польскіх патрыётаў, такія з бацькаўшчыны не вельмі ўцякалі. Найхутчэй — у палоне нямецкім або галаву зложыў...

Пайшоў я ні з чым.

3

Ніхто нічога не мог сказаць мне і пра князя. Толькі потым я даведаўся, што Браніславам Любецкім яшчэ мінулай восенню цікавіліся нашы органы, пасля гэтага ён некуды знік.

4

Канчаткова сапсаваў мне настрой пан Войцех.

Былы швейцар ліцэя паведаміў, што Альбінас Суткус да апошніх дзён лета 1939 года працаваў у рэстаране, тады яго мабілізавалі ў польскую армію, і ён загінуў у баі з фашыстамі ў канцы верасня пры абароне польскай сталіцы.

— Мой зяць быў разам з ім у Варшаве,— уздыхнуў стары.— Зяць яго і пахаваў там на Макатове...

Бедны Альбінас!

Увесь час ён клапаціўся аб тым, каб забяспечыць сябе кавалкам хлеба, цярпеў здзек якраз ад тых, за чые інтарэсы давялося злажыць галаву. У часы выпрабавання мы не маглі нават замацаваць нашу дружбу. І вось назаўсёды сышоў з майго жыццёвага шляху яшчэ адзін блізкі мне чалавек.

Пан Войцех даў мне адрас дачкі старасты, Яніны. Беднай гімназістцы выбухам нямецкай бомбы на Зарэчнай у пачатку вайны адарвала ногі.

5

Мяне ўразілі запусценне і бязладнасць, якія панавалі ў кватэры былога мажнага чыноўніка.

У пакоі ляжала дачка-інвалід, якой пашкодзіла яшчэ

асколкамі і пазваночнік, а яе маці лесціла мне і ўніжалася. Ад няёмкасці я не ведаў, куды падзець вочы. Гэтыя людзі, выхаваныя на легендах часоў Ягелы і Баторыя, на ідэі Польшчы «ад можа да можа», парабіліся бездапаможнымі авечкамі, калі гісторыя тыцнула іх насамі ў рэчаіснасць. Бацькі Яніны нават ва мне бачылі таго чалавека, у чыіх руках іхні лёс.

Нарэшце мне ўдалося пабыць адзін на адзін з Янінай. Яна ляжала на ложку з мноствам падушак. Дзяўчыну нельга было пазнаць. На худзенькім і бледным тварыку павыступалі вяснушкі. Такія самыя кропінкі былі на руках — худых і страшных, якія ў дадатак прасвечваліся, бы халадзец. Замест нястрымнай рагатухі і каравокай кокетачкі я ўбачыў расчараваную няшчасную істоту.

— Сядайце! — паказала яна на матрац.

Я ўсё тырчаў, аслупянелы, сярод пакоя.

— Што, не пазнаеце?

— Не...

— Аднак гэта я! Некаторыя пазнаюць мяне толькі па зубах, калі засмяюся. Сядайце, ну!

Крэслы былі завалены вопраткай і рэчамі. Куды тут прыткнуцца?

— На ложак апускайцеся, я не заразная!

Каб не пакрыўдзіць паненку, я сеў. Сеў якраз там, дзе павінны былі знаходзіцца яе ногі, дзе зараз была жудасная пустка. Толькі цяпер па-сапраўднаму да мяне дайшла ўся трагедыя гэтага нешчаслівага чалавека. Агорнуты жаласцю, я маўчаў, разглядаючы пакой. Гэта было нветліва, але я меў такую звычку. На крэсле ляжаў альбом.

— Калі ласка! — Яніна працягнула руку і падала яго.

Стаў я гартаць старонкі. На іх шмат фатаграфій генеральскай сям'і. Яніна выняла адзін здымак і прачытала на адвароце Данусіны словы:

Gdy w zyciu Cię kto zrani,
A w sercu pozostawi bliznę,
Pamiętaj, ze więcej cierpiała
Polska — Twa Ojczyzna [1].

Прайшла мінута няёмкай цішыні.

— Спаткаеце, перадайце, што перад смерцю пра яе думала і жадала вам абаім шчасця,— вымавіла Яніна

---

[1] Калі цябе хтосьці ў жыцці параніць, на сэрцы пакіне рану, то памятай, што яшчэ больш цярпела Польшча, твая радзіма! *(польск.)*

скрозь слёзы.— О, як вас Данка кахала, як кахалі яе вы!.. Мяне ніхто не кахаў... Я так зайздрошчу...

— Яніна, мы яшчэ з вамі...

— Маўчыце! Я разумею, так прынята суцяшаць з-за ветлівасці!.. Мы можам гаварыць прама!.. Мяне вы бачыце апошні раз! — цяжка ўздыхнула яна.

У вачах дзяўчыны з'явілася нешта сталае, і я зноў перастаў яе пазнаваць.

— Спаткаемся, няхай толькі ўсё ўляжацца...

— Не. Я вырашыла не мучыць сябе і бацькоў. Толькі мама хавае ад мяне ўсё вострае...

Суцяшаў я паненку і адчуваў, што словы мае гучаць зусім неперакананаўча.

6

Бачыў я тады і Станеўскага.

Былога шпіка дэфензівы я спаткаў у кампаніі вырафранчаных гультаёў. Яны хадзілі па горадзе і пасмейваліся з салдат з мангольскім тварам, а запыленыя боты выклікалі ўжо ў іх выбух весялосці. Верхаводзіў імі Генрых. Зусім мажліва, што ён меў і цяпер у кішэні Сцяпанаў наган. От гісторыя!..

Я доўга ішоў за піжонамі, адыходзіў убок і ўсё хацеў сустрэцца са Станеўскім вачамі, але ён адварочваў галаву. Нарэшце мне гэта абрыдла! «Ліха яго бяры, пабачым, што далей будзе!» — павярнуў я назад.

— Камісар з абцёпканымі порткамі! — пачуў я за сабой.

Мяне апанавала бяссільная злосць. Ды не біцца ж з гэтымі тыпамі на вуліцы!.. Здаць яго ў рукі міліцыі! Ён загубіў не аднаго добрага хлопца, няхай трыумфуе справядлівасць!..

Я нерашуча патаптаўся і, бяссільны, пакрочыў да Зялёнага моста. Пры вызваленні горада паміж савецкімі войскамі і эндэкамі тут былі стычкі. Ад перастрэлкі засталіся прабоіны ў сталёвых фермах. Тады гэта было яшчэ настолькі новае, што людзі ішлі глядзець на прастрэленае жалеза як на дзіва.

7

Дзень, пражыты ў Вільні, быў для мяне суцэльнай пакутай.

Прачка ўспомніла, што восенню ля студні ў яры знайшлі цела хлапца.

— Таго, што часта прыходзіў да вас з украінцам ды з крывазубай студэнткай!

Уражаны навіной, я накіраваўся ў аддзяленне міліцыі. Давялося нямала пахадзіць з кабінета ў кабінет, пакуль паказалі здымкі. Сумненне адпала — Яцкевіч! Забойца стрэліў яму ў скроню.

— Пакуль што злачынцу не выкрылі,— заявіў мне следчы, паказваючы тры шраціны.— Былі ў галаве... Зрэшты, такая неразбярыха навокал, што і брацца за справу няма каму — колькі бачыла таямнічых смярцей у апошні час наша Вільня!..

Зірнуўшы на тры кавалачкі волава, я падумаў, што імі можна было стрэліць і са Сцяпанавага нагана. Шраціны трапілі ў скроню з вялікай кучнасцю. Значыць, забойца страляў зблізку.

Работа Станеўскага, чыя ж яшчэ? Каму перашкаджаў гэты хлапец?!.

Цяпер шукаць яго не было сэнсу — не такі Генрых дурань, каб другі раз спатыкацца са мной. А пра злачынства яго я толькі здагадваўся — гэтага мала.

І каму гаварыць? Усюды панавалі сметонаўскія чыноўнікі, я па Зарэчнай нават баяўся хадзіць. У былым інтэрнаце езуітаў цяпер жылі не семінарысты. Туды пахаваліся літоўскія і польскія вайскоўцы чынам не ніжэй капітана. Інтэрнат для маладых ксяндзоў служыў цяпер шырмай. Там памяшчаўся цэнтр польска-беларуска-літоўска-яўрэйскага нацыяналізму, якому Сметона даў магчымасць аб'яднацца і чакаць падыходзячага моманту. «Выхаванцы» інтэрната, аб'яднаныя пагрозай, гатовы былі на любое злачынства, толькі б знішчыць сведкаў, а глухіх, зарослых густымі кустамі, закуткаў на акраіне горада хапала.

Некалькі гадзін я патаптаўся ля міліцыі, уздыхнуў ды пайшоў прэч.

## Раздзел другі

### 1

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны мяне не паспелі мабілізаваць у армію. І я не агледзеўся, калі апынуўся пад немцамі.

Абарваны, галодны і стомлены, даваломся я з тэхні-

кума дахаты: родны дом здаваўся адзінай крэпасцю, дзе нічога табе не пагражала.

Для маёй вёскі наступілі змрочныя дні нямецкай акупацыі.

Праз некалькі дзён ад матчыных харчоў у мяне з'явілася пругкасць у целе. Пад загоенымі ступнямі, як калісьці, зарыпелі дошкі падлогі. Прайшло атупенне.

Трэба было нешта рабіць.

Яшчэ перад вайной хлопцы раз'ехаліся па свеце, вёска апусцела. Старэйшыя людзі чакалі ад мяне якогасьці рашэння. А што ты можаш сказаць ім, калі ў цябе самога ў галаве ўсё ўверх дном. Якім жа наіўным і малазначным здалося цяпер тое, чым жыў я нядаўна: курсы, бокс, Дануся... Не хацелася нават выходзіць на двор, каб не сустракацца з суседзямі.

— Ах, Яначка, ах, сыночак, што ж цяпер будзе? — падвартавала мяне на вуліцы маці Сцяпана Рамановіча.

— Нічога, цётка Настуся. Толькі тут немцы прарваліся, а ў іншых месцах нашы ўжо да Берліна даходзяць! — праказаў я фальшыва-бадзёрым тонам легенду, якая тады бытавала.

Аднак доўга не мог забыцца папроку ў вачах старой...

Чаму так здарылася? Няўжо давядзецца пачынаць усё спачатку, з гурткоў, як семдзесят год таму назад пачыналі першыя рэвалюцыянеры?.. Што рабіць у даным выпадку мне? Што на маім месцы рабіў бы Рамановіч? І ён бы, напэўна, тут разгубіўся ды разводзіў бы бязрадна рукамі.

А жыццё цякло.

У мястэчку стаяў гарнізон. З яго зачасцілі салдаты. Звярталіся да нашых жанчын — «матка», а да маладзіц — «паненка», атрымлівалі яйкі або масла, клалі сабе ў сумкі з зялёнага брызенту, усміхаліся, паказваючы залатыя зубы... Не салдаты — дачнікі!

Выйдзеш у поле, дзе чыгунка,— на ўсход паўзуць і паўзуць цягнікі з авіябомбамі, танкамі і самалётамі, цыстэрнамі бензіну і з вайсковай амуніцыяй у запламбіраваных вагонах!

Схаваешся ў лес. Вакол стаяць раўнадушныя сосны, елкі. У арэшніку самотна і тужліва цягне сваю бяду сінічка:

— Пі-іць! Пі-іць!..

— Гур-р-р, гур-р-р!..— буркуюць дзікія галубы.

А ўверсе раздаецца нібы кулямётная чарга. Гэта — дзяцел. Толькі не караедаў ён шукае — бадзяга іграецца!

На высокай сасне знайшоў сухі, пругкі сук. Стукне дзюбай, і сучок-рэзанатар загудзіць, як басовая струна. Паўза. І зноў, амаль зліваючыся ў адзін радок, раздаецца кулямётная чарга:

— Ды-ды-ды-а-а-а!..

Дзяцел як бы абвяшчае на ўвесь лес: «Вось які я-а, вось што я магу-у, чуеце?!. Эх, і прыгожа, ліха на яго, жыць на свеце!..»

Усё як калісьці.

Толькі збярэшся з думкамі, пачынаюць раўці матory самалётаў. Іхняе выццё падхоплівае стогалосае рэха, пакрывае галасы сініц, галубоў. Над кронамі плывуць і плывуць ужо шэрыя аграмадзіны транспартных «юнкерсаў» — спакойна, нізка, хоць лічы рубцы на гафрыраванай бляхе абшыўкі з тонкімі літарамі, з ненавіснымі чорнымі крыжамі.

Ляж на зямлю, прыкладзі вуха да яе і ты пачуеш, як яна часта ўздрыгвае. Толькі гэта не франтавая кананада — немцы рвуць трафейныя снарады.

Ля вакзала ўсе платформы ўстаўлены — калясо ў калясо — савецкімі гарматамі: са свежай зялёнай фарбай, з чысценькімі баннікамі на баку, з крыштальным пераламленнем святла ў лінзах панарам. Гарматы немцы дзелавіта ладуюць на платформы — малога калібру на адны, большыя — на другія, гаўбіцы на трэція — і некуды адпраўляюць.

Ля шашы аўтагенам рэжуць нашы танкі. Тоўстыя пліты сталёвай брані паддаюцца лёгка, як бручка, пакорна кладуцца ў кузавы крупаўскіх тупарылых грузавікоў.

Каля мястэчка — агароджа з калючага дроту. За ёй — сотні палонных у шэрых шынялях: свае хлопцы — прыніжаныя, худыя,— адно скура ды косці!..

Родны лес палёгкі не дае — не можна загамаваць у чалавеку думак і ўспамінаў. Усюды — немцы, упэўненыя, спакойныя, ад іх няма нідзе ратунку!

2

Раней, калі я прыязджаў дадому на канікулы, маці была проста шчаслівая, што мела магчымасць глядзець на мяне цэлымі днямі. Затое бацька чакаў, калі пачну апавядаць штосьці асаблівае. Цяпер жа маці праяўляла такую чуласць, якой я не памятаў з дзяцінства. Інакш паводзіў сябе і бацька:

— Чуеш, маці? Учора прыехаў з мястэчка Васілёў Васіль і кажа мне: «Бачыў твайго сына ў горадзе. Перад жандарамі шапкі не здыме і не паклоніцца, ім, не-е! А так ідзе перад немцамі, што ты хоць шклянку вады стаў яму на галаву!..»

— Стары дурань, чым ты хвалішся?!. Ах, сынок, ці ж так можна? Асцерагайся, не лезь на ражон! — маліла маці.

— А ты хацела, каб ён перад імі вытанцоўваў? Недачаканне іхняе!

Маці не згаджалася. Яна несла то вішань, то свежага малака, то ягад. Ноччу падыходзіла да ложка і ўкрывала мяне, нібы маленькага.

Я разумеў, чуллівасць у яе — ад блізкай небяспекі. Было сорамна, што нічога не магу зрабіць, а шыю бытта сціскаў абруч, не даваў дыхаць на поўныя грудзі.

Аднаго разу спаткала маці старую Станеўскую, і тая пахвалілася:

— Нас пасцігла такое шчасце, такое шчасце, што не магу надзякавацца богу!

— Якое ж можа быць цяпер шчасце, цётку Станеўская, што вы кажаце!..

— То ж мой муж, выяўляецца, з немцаў!

Маці здзівілася.

— Далібог! Яго дзед быў чыстакроўны германец. Мы цяпер фольксдойчы. Да нас пазаўчора прыязджаў сам амтскамісар са сваімі пісарамі, спісаў гэтую, як яе... геаграфію... Такія каляровыя картачкі на соль, мыла, газу і цукар выдаў і аб'явіў, што цяпер мы такія, як ён!..

— Няўжо...

— Мы і вам дапаможам, бо нашы дзеці гэтак дружаць, разам у тым Вільні вучыліся!..

— Што ж, гэта добра... Можа, і мы вам калі дапаможам...— асцярожна ўставіла маці.— Цяпер усё такое няпэўнае, што не ведаеш, на якім свеце і жывеш...

— То вы баіцеся? — падхапіла добразычліва Станеўская.— Вам жа няма чаго баяцца, у вас — зямля, немцы такіх любяць! Пры паляках ваш хлопец займаўся крыху палітыкай — немцы даруюць, мы вам дапаможам, мой муж заступіцца перад амтскамісарам...

Маці скончыла апавядаць пра гэтую размову і ліслівa ўсміхнулася:

— А мо і праўда, Янка, дапаможа?..

— Мам, пакіньце іх! — накрычаў я на яе.— Каб вы

болей ні слова не гаварылі з гэтымі хрыстапрадаўцамі, чуеце?

— То я нічога і не сказала! — пакрыўдзілася яна.— Нават мяне заела: а скананне табе, не дачакаешся, каб у цябе прасіла дапамогі! І пайшла. А болей ёй нічога... Гэта ты ў мяне зрабіўся якісьці, што ўсюды лоб падстаўляеш...

— Самі вучылі быць праўдзівым!

— То і будзь сабе. Цяпер трэба быць яшчэ і асцярожным. Каму карысць, калі за няма што зложыш галаву? Як тады мы з бацькам, асірацелыя...

— Зноў пачалі сваё!

## 3

Неўзабаве спаткаў я і самога Генрыха.

Ішоў я з мястэчка. Ля дарогі быў аэрадром. У першую ваенную раніцу немцы тут разбамбілі ўсе нашы самалёты. Цяпер фашысты збіраліся аднавіць аэрадром, ды баяліся, што ён замініраваны. І вось прыгналі палонных, загадалі ім прайсціся па ўзлётным полі, нібы для таго, каб сабраць паперкі, павырываць бадылі. Сотні згорбленых байцоў у шэрых шынялях брылі падруламі аўтаматаў па полі з пакарабачаным жалеззем і вышчаранымі рабрынамі з былых грозных машын ды раз-пораз нагіналіся да зямлі.

Каля аэрадрома я і сустрэў Станеўскага.

Генрых ішоў у мястэчка — загарэлы, у адпрасаваным касцюме, каўнерык свежай кашулі вылажыў на пінжак і ў пальцах вярцеў разлапісты ліст клёна.

— А, калега Барташэвіч, сэрвус!

— Добры дзень...

Я спыніўся, пацІснуў пададзеную руку і адчуў: ён жа кіпіць ад упэўненасці, здароўя і задавальнення жыццём.

— Ну, як праводзім лета? — бытта не было ў нас з ім апошняга спаткання ў Вільні, загаварыў ён з падкрэсленай ветлівасцю і цеплынёй.

— ... ?!

— А я вось адпачну крыху і паеду ў Вільню. Вы туды не збіраецеся? «Людзі абліваюцца крывёю, а ты, нягоднік, канікулы сабе знайшоў?!»

— Не...

— Магчыма, Янкоўскія вярнуліся туды... Перадаць прывітанне панне Дануце?..— шматзначна ўсміхнуўся ён, падкрэсліваючы, што добра памятае пра нашыя з ёй інтымныя ўзаемаадносіны і ахвотна можа дапамагчы.

— Наўрад ці вярнулася,— непрыемна кальнула мяне рэўнасць.

Мы доўга пастаялі, не знаходзячы больш тэмы для размовы. Няёмкае маўчанне першым парушыў Генрых:

— Калега быў у мястэчку?

— Быў...

— Яўрэяў там ужо аддзялілі ў гета?

«Калі і аддзялілі, табе ад гэтага хіба лягчэй?.. Яшчэ пару ўсяго тыдняў таму назад ты нябось баяўся нават у родную вёску паказацца, а цяпер выпаўз, гад?!»

— Не ведаю...

Я гатовы быў узарвацца ад крыўды і злосці.

Чаму так пабудаваны свет гэты, што не магу даць мярзотніку ў морду, адказваю на ідыёцкія пытанні і вось насном бота, як малы, гладжу перад ім пясок?!.

Чаму я такі бяссільны?!.

З роспаччу я ўзняў вочы і зноў убачыў ланцуг смяротнікаў на мінным полі. Якім трэба быць зламаным фізічна і маральна, каб гэтак вось пакорна ісці, нібы збіраць паперкі ды вырываць бадылі, ведаючы, што фашысты цябе прыгналі, каб сваім целам ты паўзрываў міны?!. Не адзін я такі!

Стала нібы лягчэй. Але я ўжо спахапіўся: з кім раўняюся? Яны ўсе параненыя, пакалечаныя, згаладалыя, на чужыне ў няволі, а я ж — на свабодзе, у родных кутках!

— Ну і арганізатары немцы! — Генрых з захапленнем паказаў лістом на поле.— Хто б дадумаўся гэтак міны шукаць?!.

— Арганізатары, па-твойму? — узарвала мяне.— Так маглі б толькі якія-небудзь гуны рабіць!.. А мы вельмі проста маглі б з табой апынуцца сярод гэтых бедакоў, каб наш год перад вайной прызвалі ў армію! Як бы ты тады фашыстаў хваліў?!.

Генрых пачаў лепятаць, што ён згодзен увогуле са мной, немцы — бяздушныя, але не адымеш ад іх дзелавітасці і арганізатарскага спрыту.

Разышліся мы тады не развітаўшыся.

4

Памалу мяне падбівала да дзеяння. А тут яшчэ і падганялі.

Аднаго разу, калі я стараўся скласці абрыўкі газеты, у хату ўвайшоў бацька. Стары сеў за стол насупроць,

крэкнуў, адвёў вочы ўбок, памаўчаў. У яго быў такі выраз твару, што па маім целе прабеглі мурашкі. Я чакаў, што будзе далей, і механічна перабіраў старонкі нямецкага слоўніка.

Бацька нарэшце з'едліва спытаўся:

— Чытаеш?

— Чытаю...— адказаў я вінавата і няўпэўнена, не ведаючы, куды ён вядзе.

— Та-ак, чытаеш! Абрыўкі?

— «Фолькішэр беобахтэр» знайшоў раніцой ля чыгункі... Гэта ў іх цэнтральная газета, партыйны орган... З пасажыркі начной выпаў...

— Нямецкая! — Стары не хацеў і слухаць, з якой газеты паперкі.

— Ну і што, калі нямецкая...— слаба бараніўся я.— Хоць нейкую вестку можна пачуць, а то сядзім тут як у мяшку, нічога не ведаем...

— Як гэта што? — аж падскочыў ён на лаве.— Там дзесьці іхніх абрыўкаў нашы не збіраюць, а лупяць фашыстаў пачым зра! — Аднекуль перанятае бацькам выражэнне «пачым зра» азначала ў яго вышэйшую ступень накалу.

Стары ўсхапіўся з лавы і, згорблены ад няшчасця, пайшоў. Каля дзвярэй яшчэ спыніўся, паглядзеў на мяне так, што захацелася залезці пад стол, тады махнуў безнадзейна рукой:

— Значыць, не дарос! Э-эх!.. А я яшчэ траціўся, начэй недасыпаў, у самую Вільню тую сына вучыць пасылаў!.. Вывучыў, нічога не скажаш!..— уздрыгануў яго голас.— Дзякуй табе, сынок, узрадаваў бацьку вельмі, нямецкія абрыўкі падбіраеш!..

З сілай ляснулі дзверы.

Слоўнікываліўся ў мяне з рук.

Нешта падобнае адбывалася і ў іншых хатах.

І ўжо да першай восені ў нашых лясах арганізаваліся партызанскія групы. У іх, вядома, апынуўся і я.

Першая партызанская зіма была цяжкай, тады мне было не да Данусі. Але я на хвіліну перарву апавяданне пра ваенны час, забягу наперад.

### 5

Мінала гадоў з дзесяць пасля вайны.

Аднойчы ехаў я загарадным аўтобусам і звярнуў увагу на аднаго пасажыра. Ён сядзеў уперадзе.

У пасажыра кідалася ў вочы штосьці бутафорскае. На дварэ стаяла снежаньская сцюжа, а ён быў у канфедэратцы, пашытай са звычайнай цыраты, якой накрываюць сталы.

Яшчэ на ім было прыкметнае паліто — пераліцаванае, пашытае рэгланам з некалі дарагога сукна, а галіфэ — з салдацкай шэрай коўдры. На руках ён меў дзіравыя замшавыя пальчаткі з бліскучымі гузічкамі.

Насупраць яго вызвалілася месца, і я перасеў бліжэй.

Старэчая зморшчаная шыя незнаёмага з упадзінамі за вушамі ніяк не пасавала да ружовенькага маладжавага тварыка з кароценькімі вусікамі і жвавымі карымі вочкамі. Твар гэтага чалавека напомніў штосьці знаёмае, крануў нейкую балючую струнку, і я пачаў уважліва да яго прыглядацца.

Каб на чалавеку не было ўсё такое чысценькае, акуратна зацыраванае, каб суседка не выказвала яму такой пашаны, яго ў гэткім адзенні можна было б палічыць за вар'ята. Навокал нас — стомленыя камандзіраваныя, сялянкі з пустымі кошыкамі, бітонамі ад малака, вузламі і жоўтымі спружынамі абаранкаў.

Незнаёмы вельмі цікавіўся, што робіцца за акном, нібы яму доўга нельга было гэтага рабіць, а цяпер ён можа надзівіцца светам уволю.

Недалёка сядзеў чужаземец з тых, якія да нас зачасцілі ў госці, калі стала з гэтым лягчэй. Што ён паляк, можна было зразумець па шапцы, як у пілота, па светлым паліто, туфлях на тоўстай каўчукавай падэшве, па апельсінавым партфелі-чамадане ды па элегантнасці, якую палякі так старанна ўмеюць захаваць у любых умовах.

Незнаёмы ў цыратавай канфедэратцы нахіліўся і спытаў чалавека ў пілотцы:

— Адкуль пан?

— З Варшавы!

— З самой сталіцы?

— Так!

— О, выдатна!

Чалавек перайшоў на польскую мову:

— Масты Кербэдзя і Панятоўскага ўжо адбудаваныя?

— Даўно!

— А Каралеўскі замак?

— Не.

— Шкада!.. Якія зараз папяросы кураць у Варшаве?

— «Гевант», «Бельвэдэр», «Грунвальд»...

— А «Пласке»?

— Не!

— Шкада!.. Мае любімыя, даваенныя... Я таксама паляк. І еду туды!

— Ага!

— Ну, як там жыццё?

— Каб толькі было так да смерці!

— О-о, выдатна! — Карыя вочкі згаслі.

Побач з дзіўным пасажырам сядзела жанчына. Твар яе, пакрыты прыемным загарам, быў свежы, губы тонкія, а носік — з гарбінкай, але па аскетычнай сухасці вачэй, паводзін я адразу ўгадаў у ёй фанатычную каталічку.

Жанчына нешта сказала ці спыталася, і яе сусед гучна ды маладжава загаварыў:

— О-о, пані Гэлена! Многія мне там чапляліся на шыю, пані паглядзела б! І адукаваныя, і прыгожыя. Але я — польскі афіцэр з добрага роду. Што б сказалі таварышы, калі б такую ўзяў? І я ўзяў сабе польку. Выбіраць з чаго не было... Яна зусім непісьменная. Неінтэлігентная. Без роду... Завязу да Польскі, і няхай сабе жыве. У мяне сумленне чыстае, і я спакойны. Трэба дастаць ёй у Гродні пропуск за граніцу...

І толькі цяпер мне ўспомнілася Вільня.

Я раптам здагадаўся: перада мной — былы сапернік, «князь», Браніслаў Любецкі! Але ж яго арыштавалі немцы за крануты «мерседэс» ды меліся расстраляць?! Выходзіць, што выкруціўся тады, бо гэта — ён!

Бытта дапамагаючы мне ўспомніць, дзіўны пасажыр дадаў:

— Перад вайной, пані, у Вільні была ў мяне нявеста. Пекная. І з добрага роду. Заручыны мы зрабілі. Але немцы, холера ясна, яе гіляцініравалі.

— Што з ёю зрабілі?

— На гіляціне адсеклі галаву! Такі станок. Кладуць на яго пад нож і — раз! — правёў ён рабром далоні сабе па шыі.

«Што ён меле, Дануту немцы казнілі? З-за майго візіту ў генералаў дом зімой 1943? За Станеўскага? Пакаралі такой страшнай смерцю? Няўжо ўсё гэта можа быць?!.»

Мне зрабілася нядобра, а жанчына пасля апошніх слоў «князя» набожна перажагналася і праказала:

— Святая багародзіца, трымай пад апекай яе душу!

— Што пан намерваецца рабіць у Варшаве? — спыталася яна праз нейкі час.

— Го, пані Гэлена! Толькі зайду на Маршалкоўскую ў адну рэстарацыю, у другую, і знайду ўсё, што трэба — і кампанію, і занятак!

— Колькі пану год?

— Сорак сем. З іх дзесяць пражыў у Казахстане сярод азіятаў. Цяпер буду даганяць. Будзьце ўпэўнены, пані, яшчэ ў Польшчы зраблю кар'еру. У Англіі ў гэтым веку мужчына адно пачынае браць жыццёвы старт... Глядзі, пані, пабелены касцёл! — Браніслаў прыпаў да шыбы, але канфедэраткі не зняў, хоць, я ведаў, абавязкова зняў бы пятнаццаць гадоў таму назад.

— Але ж вы яе муж! — упарта думаючы аб сваім, дзівілася жанчына.

— Які я му-уж? Шлюбу ў касцёле не браў! У мяне сумленне чыстае, я спакойны.

Браніслаў закурыў. Грацыёзна трымаючы папяросу белымі пальчыкамі, якія павылазілі з дзірак замшавых пальчатак, ён казаў далей:

— Інакш я не мог. Павінен быў ажаніцца. Я афіцэр, на мяне глядзелі жанчыны...

Яго чулі пасажыры. Мясцовы народ выдатна разумее польскую мову. Звычайна пасажыры дружна нападаюць на курцоў у аўтобусе, але Браніславу не казалі нічога. Цярпелі, як церпяць п'янага, вар'ята або вартага жалю чалавека.

Раптам шасцідзесяцімясцовы прыгажун «ЗІЛ» вільнуў рэзка ўбок, пшыхнуў паветранымі тармазамі, і пасажыраў кінула ўперад. Машына спынілася, адчыніліся дзверы. Пачуўся адчайны крык вадзіцеля:

— Што ты, старая, прэш мне пад колы, я ледзьве аўтобус з народам не зваліў у кювет з-за цябе?!.

— Ах, шафё-орчыку, ах, сыно-очачку, падвязі-і! Мне толькі паўтара кіламетра! Вазьмі, шафёрчыку! — чуваць было, як моліць бабка ля кабіны вадзіцеля.— Да цэрквы бабы ідуць, і мне захацелася!..

У аўтобусе зарагаталі. Засмяяўся і «князь».

Мне было не да смеху.

Няўжо з-за мяне загінула Данута? Бо-ожа, што я натварыў! Патрэбна было тады чапаць гэтага Станеўскага, нікуды ён не дзеўся б ад расплаты!..

А мо Любецкі няпраўду кажа? Столькі гадоў правёў у Казахстане, адкуль можна дакладна так ведаць пра ўсё?.. Напомніць яму аб сабе?

Ад апошняга спаткання нас раздзяляла цэлая эпоха. Зараз мы з ім нібы памяняліся ролямі.

Кім быў ён у часы акупацыі? Кіраўніком, ідэолагам руху за незалежнасць Польшчы? Так, сярод такіх траплялiся і князі, як Яраслаў Дамброўскі. Але Браніславу стаць такім перашкаджалі ўпэўненасць у сваю выключнасць і клопаты аб сабе. Для кіраўніка Бранiслаў не меў характару. Быў прадажнікам? Немцы такіх зноў куплялі, а чым маглі купіць яго? Ён меў цэлы маёнтак, перад ім і так танцавалі людзі. У часы акупацыі Браніслаў блытаўся дзесьці пасяродку. Мабыць, піў, распуснічаў, праклінаў вайну, што не дае пажыць у яго разуменні. Такімі ганьбавалі і немцы і — мы. Чыста выпадкова трапіў да іх у турму за таго «мерседэса»...

Загінулі Зіна Кварцёнак, Пеця Трухан, Альбінас, трэнер Левандоўскі... Столькі харошых людзей склалі галовы за тыя гады, а гэты тыпус захаваўся. І навошта? Каб марочыць людзям галаву.

Злосная іронія лёсу.

— А пан мае спецыяльнасць? — не адставала ад яго суседка.

— Вядома, пані! Я — інжынер з загранічным дыпломам. Да вайны ў нас панаваў парадак: хто скончыць вышэйшую школу за мяжой, мусіў яшчэ здаваць экзамен і абараняць дыплом у Польшчы. Для гэтага я паступіў у Віленскі універсітэт. На жаль, абараніць дыплом не паспеў, пачалася вайна. Потым бальшавікі вывезлі ў Казахстан. Там мой начальнік смяяўся: «Ну, які з цябе, Бронэк, інжынер, калі ты нават электрычнага чайніка ці пробкі, калі перагарыць, не паправіш!..» А наогул, пані Гэлена, у Расіі працаваць навучаць! Цяпер ніякая цяжкая работа мне не страшная.

Сяляне пераглянуліся.

— Вы ля Вільні ў сваіх маёнтках былі?

— Няма чаго туды ездзіць, тут у вас усюды адно і тое ж. Але ж, пані, у мяне яшчэ ёсць тры маёнткі пад Лодзю. Вялікія. Пані пыталася, што буду там рабіць?

— Так.

— О-о, ручаюся галавой, як прыбуду да сваіх хлопаў і папрашу ў аднаго курыцу, то кожны прынясе па адной, і ў мяне адразу стане тры тысячы курэй!

Паляк з апельсінавым чамаданам шматзначна падміргнуў мне, бытта сказаў: «Хутчэй няхай едзе, там у нас такіх толькі і чакаюць, як жа!..»

— А дзе будзе пан жыць?

— Не прападу. Пад Лоддзю ў нашым доме толькі для гасцей з дзесяць пакояў... Адно Марысю трэба недзе ўладкаваць... Тады звярнуся да Гамулкі...

— Напішаце?

— Яму пішуць многія. Я паеду асабіста. Бо я — капітан і з вядомага польскага роду, якому ўжо семсот гадоў! Мне належыць добрая пенсія. Гамулка правільна робіць, што збірае палякаў да купы... Абы толькі дастаць у Гродні пропуск для Марысі. Але пані мне дапаможа, праўда?

— У маёй сяброўкі сястра працуе ў іхнім домаўпраўленні, я думаю, што справу ўладзіць...— няўпэўнена прамовіла жанчына.

Але «князь» яе ўжо не слухаў.

— О, і тут касцёл! — тыцнуў ён зноў нос у шыбу, аднак канфедэраткі не зняў і на гэты раз.

Любецкі гаварыў на ўвесь аўтобус, бытта ў ім больш нікога не было. У аўтобусе запанавала нацягнутая атмасфера. У машыне ехалі амаль усе сяляне, якіх калісьці розныя Любецкія прымушалі нізка кланяцца і цярпець. Але наш селянін — чалавек асцярожны і нетаропкі. Ён табе абы-дзе не пагарачыцца і дарма на ражон не палезе. Яны разумелі, што няма патрэбы пярэчыць і спрачацца з гэтай гнідай, таму маўчалі. Аднак балбатня яго хутка і ім надакучыла.

Аўтобус спыніўся — ссадзіў старую да царквы.

— Бачыш, хоча маліцца, а чаравік баіцца ў снег папэцкаць! — кінула нейкая жанчына, калі бабкі не стала.

Тады вясковы дзядзька ў кажуху, бытта нічога не чуў пра панскія пакоі пад Лоддзю, а ў аўтобусе не было ніякага Любецкага, пачаў голасна расказваць гісторыю, як некалі ехаў чыгункай і разам з ім ехала нейкая цётка ў Пачаеўскую лаўру.

— «Грэх табе, цётка,— кажу я,— ехаць у лаўру поездам. Туды адно пешшу дабіраюцца, інакш бог намаганняў не залічвае...» І што вы думаеце? Прачынаюся ноччу — дзіва! Мая цётка з клункам за плячамі ходзіць узад-уперад па вагоне. «Зубы баляць?» — пытаюся. «Не-е, у лаўру іду...»

У аўтобусе дружна зарагаталі. Дзядзька пачаў плясці іншае, а людзі панастаўлялі вушы зноў. Пра Любецкага ўжо забыліся. Не забыўся адзін я. Зрэшты, зусім не ён цяпер займаў маю галаву і ўсю душу.

Ва мне расла і расла трывога. Ажылі здарэнні трынац-

цацігадовай даўнасці. Я пачаў даводзіць сумленню, што ні ў чым не вінаваты, але нехта суровы мяне ўпікаў:

«Усё гэта так, а вось яе ўжо няма. І ніколі не будзе! А ты аддаў яе фашыстам і сабе жывеш, раз'язджаеш з нікчэмнасцю, смяешся з глупства...»

## Раздзел трэці

### 1

Вось што адбылося са мной потым, калі я пайшоў у партызаны.

Пасля Дануты я доўга не мог зблізіцца ні з адной дзяўчынай.

«Не тое... Не тое!» — кожны раз гаварыў я сам сабе, калі лёс мяне зводзіў з якой-небудзь.

Не мог загадаць свайму сэрцу, каб яно пакахала і Зіну Кварцёнак. Гэты чалавек шмат нацярпеўся і наплакаўся з-за мяне ды генеральскай дачкі.

Пазнаёміліся мы з ёю выпадкова.

Аднаго разу ў месячную ноч я назіраў з лесу за гарнізонам у Крупках — мы рыхтавалі супроць яго аперацыю. Ужо зусім развіднела. Я пабаяўся, што мяне з вартаўнічай вышкі заўважаць бобікі [1], апусціў бінокль і накіраваў свайго каня ў гушчар — пра дзённы распарадак у гарнізоне мы маглі даведацца ад сувязных.

Выбіраючыся з кустоў на бальшак, я раптам убачыў на дарозе ашалелага чорнага жарабца, які імчаў у бок Крупак. У санях цудам трымалася нейкая дзяўчына з перакошаным тварам.

— Каця-а! — чуўся бездапаможны крык, якім жанчыны выказваюць бяссільную скаргу, каб выклікаць спачуванне.— Страля-ай!..

І чорны каніска з дзікім храпам, тарапліва перабіраючы нагамі, праляцеў міма, як дэман, толькі абкідаў мяне грудкамі снегу з-пад капытоў.

Жарабец мог змаху ўдарыць сані аб сасну, і тады дзяўчыне канец. Або мог завезці партызанку ў Крупкі немцам проста ў лапы.

Я прышпорыў свайго гнядога і паімчаў за зверам.

---

[1] Паліцаі.

Супакоіць жарабца і вызваліць з лейцаў незнаёмую ўдалося аж на полі, на віду ў гарнізона.

— Бзіх! Бзіх! — зазвінелі над намі кулі.

— Давай да мяне! — уцягнуў я дзяўчыну на круп свайго каня, і хутка мы з ёю былі ўжо ў лесе.

Выплакаўшыся ад перапуду пасля такога шчаслівага ўратавання, дзяўчына паведаміла пра свае прыгоды.

Мінулай ноччу яны, дзве сяброўкі — Зіна і Каця,— ішлі з групай на заданне. Неспадзявана наткнуліся на засаду. Партызаны разбегліся хто куды. Дзяўчаты апынуліся ў полі. Стаяла ноч, а раніцай па следу немцы маглі іх лёгка знайсці. Трэба было спяшацца ў лес, а часу яны мелі мала. І партызанская зухаватасць падказала дзяўчатам спосаб.

— Да світання туды не дабяжым — няма чаго і думаць! — разважыла Зіна.— Хадзем у бліжэйшую вёску і возьмем каня!

Нічога не падазраючы, зайшлі яны ў самыя Крупкі. Вёска была вялікая, гарнізон стаяў з аднаго канца, а дзяўчаты трапілі ў другі.

Калі яны забраліся ў нечую стайню, з хаты выйшаў гаспадар. Партызанкам зноў пашанцавала, бо селянін не пабег у гарнізон з даносам. Але яму было шкада каня. Дзядзька пайшоў на хітрыкі:

— Дарэмна, дзяўчаткі, яго бераце! Мне ён непатрэбны, мне вас шкада! Ён у мяне, халера, такі, што абы-каго і не павязе яшчэ!

— Мы яго пытацца надта станем, упрошваць? — абурылася спраўная Зіна.— Як гэта — не павязе? А кій нашто?

— А так — не павязе, і годзе! Стане на дарозе і ні з месца, хоць ты яму ў лоб страляй, а не толькі кіем лупцуй!

Зіна заклапочана задумалася.

— І што тады рабіце? — спыталася наіўна Каця.

— Гм, што!.. Летам увязваю ў хвост камень... Але ж цяпер зіма, дзе вы знойдзеце тых каменняў? Пакіньце яго, дзеці, а то і самі загінеце ці пакалечыцеся, і каня мне змарнуеце. Мне яго не шкада, не думайце нічога такога, а вам папраўдзе... Гэ, ці мала ў вёсцы коней?..

Але дзяўчаты ўжо раскусілі яго.

— Не загаварвайце нам, дзядзька, зубы! — абарвала мужыка Зіна.

— Нічога, не прападзём! — запэўніла яго Каця.— І камень знойдзем, не бойцеся!

— Но-о! — ударыўшы лейчынай па баку, пагналі яны каня.

Адкормлены і застаялы ў хляве жарабец куляй вынес дзяўчат з Крупак.

Партызанкі праімчалі кіламетры са тры, і, сапраўды, ужо ў лесе жарабец занаравіўся. Але дзяўчатам вельмі хацелася пахваліцца ў лагеры канём. Замест таго каб кінуць яго да ліха і дабірацца ўжо да зямлянак пешшу, Зіна пачала сцябаць яго лейчынай, а Каця — лупіць кіем. Конь — ні з месца! Тады Зіна зрабіла з новых раменных лейцаў пятлю, надзела сабе на нагу, узялася за лейцы рукамі і пацягнула іх з усяе моцы. Зноў конь — ні з месца!

— Раіў дзядзька ўзяць лепшага каня! — упікнула сяброўку Каця.— А цяпер во гуляй тут з гэтым сланом!

— Цяпер і ты разумная! — агрызнулася Зіна.— Маўчы і шукай лепш камень!

Каця прыкладам разграбла снег, ды, як на тое, выкапала каменьчык, увязала каню ў хвост. Жарабец махнуў ім, пачуў нешта чужое ў хвасце і як апалелы паляцеў у Крупкі. Бедная дзяўчына не магла выскачыць з саней, бо пятля з лейцаў заблытала ногі, а Каця не адважвалася страляць па кані, каб не трапіць у сяброўку. Выблытваючы Зіну, я мусіў парэзаць новыя лейцы.

Каб не рабіць з дзяўчыны пасмешышча, я пра выпадак з жарабцом нікому не сказаў.

З саней выпала вінтоўка, трапіла пад полаз, і прыклад трэснуў. Я збіў яго Зіне бляшкамі ды выверыў у вінтоўцы бой. З той пары мы і сталі сябрамі.

## 2

Бліжэй з Зінай пазнаёміліся мы на заданні.

У пачатку красавіка нам было загадана выбіць немцаў і паліцаяў з тых самых Крупак. Гарнізон гэты нам даўно ўеўся ў пячонку — немцы з яго рабілі засады, абстрэльвалі з гарматкі партызанскія сцежкі, ставілі міны.

На заданне накіраваліся групамі. Мой узвод выйшаў на суткі раней, нам трэба было абысці вёску, і для гэтага камандаванне адпусціла групе ледзь не цэлыя суткі лішнія.

У лесе яшчэ ляжаў пласт набрынялага вадой снегу, а вялікія кроплі з дрэваў папрабівалі яго да моху. Палі ўжо чарнелі. Стылі лужыны мутнай сцюдзёнай вады, адусюль цягнула такой сырасцю, што здавалася, нават твае косці прамоклі.

На зямлю апусціўся не то туман, не то хмара. Было такое ўражанне, бытта на небе зіма з вясной счапіліся сагрудкі ў смяротным змаганні і часова пакінулі зямлю самой сабе, ад чаго застылае надвор'е не ведала, што рабіць, і насцярожана чакала выніку гэтай барацьбы.

— Хоць бы вецер, а то — як у мяшку! — уздыхалі старэйшыя партызаны.

— Нічога, хутка вясна сваё возьме,— абяцалі іншыя.

— Забруіць усё, зашчабеча...

— Дажыць бы да таго бруення і шчэбету...

А пакуль што даводзілася цярпець.

Лямкі з рэчавых мяшкоў паўпіваліся ў размоклыя кажухі і мулялі плечы. Боты раскіслі, зняць іх было цэлае мучэнне, прапускалі ваду, яна струменілася скрозь пальцы ўверх і ўніз — у такт кроку. А ночы насталі цёмныя, так і глядзі, каб не напароцца на яловы сучок, не праваліцца па пахі ў ваду, ды галаву ўвесь час трымай утуленай у плечы, каб не пасыпаліся за каўнер ледзяныя кроплі з дрэў. Натруджанае цела пякло і ныла, а час цягнуўся нібы вечнасць, і нічога не паказвала, што гэта хутка скончыцца.

Зіна таксама валакла цяжару кілаграмаў з трыццаць, і яе боты хлюпалі рытмічна, але трымалася яна не горш за хлопцаў.

Да Зіны ўсё падлабуньваўся прыгажун нашага атрада кучаравы Колька, якога мы празвалі за ліхую язду на коні Казаком. А яна, ускінуўшы на плячо вінтоўку прыкладам угору і падсадзіўшы другую руку пад лямкі мяшка, каб не муляла, распрамянёная ад хадзьбы і цяжару на плячах, залётна страляла ў мяне вачамі, не заўважаючы Казака. Я нават западозрыў, што і ў групу Зіна напрасілася з-за мяне.

Ноччу, калі прадзіраліся праз гушчар, я ёй сказаў:

— У мяне, Зінка, дрэннае прадчуванне. Не напароцца б нам на міны!

— Я не хацела табе гаварыць,— прызналася і яна,— але і ў мяне цяжка на сэрцы. Як тады, калі налезлі ў Воўчым балоце на засаду...

— Загад ёсць загад, эх! — уздыхнуў я і зараз жа вылаяўся, бо галінка, якую адпусціў злосны Казак, балюча сцебанула мяне па твары.

— Кепска, пане Іване! — рассмяялася дзяўчына.

— Далі ў морду, і не ведаеш, з кім нават пасварыцца! — перавёў я ўсё ў жарт.

— А ты паплач, будзе лягчэй!

— Толькі што...

Мы адсталі ад групы. Партызаны ў цемры ззывалі адзін другога.

— Войска тваё пагублялася, глядзі, камандзір!..

— Вяроўкай нам звязацца, як альпіністы, ці што?!

— Парай хлопцам компасы панастаўляць! — запрапанавала Зіна.— Гм, ідэя...

Мы сабраліся, і я загадаў выканаць параду. Усе паклалі рукі сабе за спіну, і той, хто ішоў ззаду, цяпер бачыў фасфарычны агеньчык ад компаса таварыша. Хлопцы прыемна дзівіліся:

— Рацыяналізацыя!

— А ваш камандзір не хацеў мяне браць у сваю групу! — напомніла Зіна.— І я на нешта прыдалася!..

— Нічога не скажаш...— мне было няёмка, што да такой простай камбінацыі з компасам не дадумаўся сам.

Без асаблівых прыгод прыбылі мы на месца.

Наступленне на Крупкі мелася адбыцца а дванаццатай гадзіне дня, і наша атака збоку, дзе не было лясоў, мела быць нечаканасцю для ворага. Да ракавога моманту людзям трэба было адпачыць. На світанні ля вёскі мы зашыліся ў кусты дзікіх вішань у яры, паслалі плашч-палаткі, леглі цесна адзін ля другога, я ўсіх прыкрыў, а сам стаў на варту.

Заданне небяспечнае, бо гарнізон быў добра ўмацаваны і мала нам вядомы. Немцы ў яго то прыбывалі, то выязджалі на некалькі дзён, забіраючы з сабой частку паліцаяў. Бадай, няма большай небяспекі, як тая, якую ты чакаеш, але памераў яе яшчэ не ведаеш. Якія толькі страхі не лезлі ў галаву.

Вось нешта зашлёпала па полі. Я ледзь не выпусціў чаргу з аўтамата па чорным сілуэце.

— Гам! — брахнуў перапалоханы сабака, клацнуў зубамі ды сігануў у цемру.

Каб не наклікаў ён сюды каго!..

Развіднела. Цішыня. Толькі ў вёсцы спявалі пеўні, скрыпелі жоравы. У яры, дзе ляжалі сябры, нейкі час чулася стрыманая мітусня, прыглушаны шэпт. Я азірнуўся. З-пад плашч-палаткі вылецеў Колька Казак з ускудлачаныміваласамі і чырвонай шчакой. А хлопцы прыкідваліся, што спяць.

— Апёкся? — паспачуваў я.

— Ану яе!.. Святошу з сябе выстаўляе, чалавечых жартаў не разумее!.. Дай закурыць, братка!

— Справы дрэнь, калі ты ўжо нават забыўся, што я не куру!

«Аднак — баявая!» — першы раз звярнуў я ўвагу на характар дзяўчыны і адчуў да яе пашану.

## 3

Напад на Крупкі мы не прадумалі. Каб разграміць такі гарнізон, неабходны добрая сувязь, зладжанасць груп і гарматы — развярнуць земляныя ўмацаванні. А ўсяго гэтага ў 1942 годзе мы не мелі і за ўсё плацілі крывёй.

Ужо з гадзіну вялі мы рэдкі агонь па доце-бункеры, як яго ў нас называлі. Гэта быў высокі вал, за ім — жылы барак. Над валам віднеўся дах, а ў насыпе чарнелі амбразуры, з якіх пырскалі злосныя агеньчыкі. Ад куль вакол нас ажно разляталася зямля, і тады мы ціснуліся ў мокрыя барозны, імкнуліся расплюшчыцца на блін.

Мая група павінна была адцягнуць на сябе агонь праціўніка, пакуль асноўныя часці, хаваючыся за будынкамі, наблізяцца з супрацьлеглага боку і пойдуць на штурм. Адным словам, мы выконвалі ролю жывых мішэняў, загадзя ахвяраваных Молаху вайны, абы толькі ўдалася аперацыя.

Ляжалі мы ў барознах сярод аслізлых колікаў, што засталіся ад нейкай агароджы, і леташніх бадылёў капусты. Каб не даць праціўніку прыцэліцца, барозны мы часта мянялі. Не краталася са свайго месца толькі Зіна. Мо ранена?.. Мы з Колькам падпаўзлі да яе бліжэй.

— Чаго не перабіраешся ў іншае месца?! — закрычаў я, убачыўшы, што дзяўчына заядла лупіць з вінтоўкі ў паліцаяў.

— Лужыну нагрэла, я яе ведаю! — заўважыў Колька.

— Ну і нагрэла, шкадую пакідаць! — агрызнулася дзяўчына.— Не перашкаджайце!..

Паміж бункерам і намі стаяў мураваны дом. У ім заселі паліцаі з ручным кулямётам. Потым на такую службу немцы бралі і крывых і сляпых. У крупкінскі гарнізон яны паступілі па першым наборы. Усе мелі не ніжэй ста сямідзесяці шасці сантыметраў вышыні, былі дужыя, добра абучаныя — небяспечныя і смяротныя ворагі, з якімі справіцца было нялёгка.

Раптам з муравапкі перасталі страляць, відаць, скон-

чыліся патроны. З бункера туды папаўзлі дзве жонкі паліцаяў. Яны сваім каханым валаклі торбы з дыскамі.

— Куды прэце, сцервы! — раззлавалася дзяўчына і, пакуль мы агледзеліся, папаўзла наперад.

— Зіна, пачакай! — закрычаў я.

Яна не паслухалася.

— От баба дурная! — вылаяўся Колька ды падаўся за ёю.

Ад бункера іх прыкрывалі сцены мураванкі, а паліцаі ўсё не стралялі. Колька з Зінай паўзлі па адкрытым месцы. Каб падтрымаць іх хоць як-небудзь, я не даваў магчымасці падняць галавы жонкам паліцаяў, выпускаючы раз-пораз кароткія чэргі.

Перад домам Колька прыпадняўся і адвёў назад руку, каб шпурнуць гранату ў пустое акно, але з глыбіні будынка раптам секанула пругкая чарга. Я выразна ўбачыў, як сінхронна з гэтай чаргой на шырокіх плячах партызана выскачыў радочак з рваных кавалачкаў кажуха: апошнімі патронамі паліцаі прашылі Казака навылет. Хлапец мякка асунуўся на мокры чарназём паміж леташніх пнёў капусты.

— Коля! Казак! — ускрыкнула Зіна і пацягнула партызана за бот, але хлапец пасоўгаў нагамі ды назаўсёды замёр.— Ах, гады вы прадажныя, пачакайце ж!..

Яна схапіла яго гранату, праверыла ўзрывальнік, кінула яе праз акно і стаілася за сцяной. Пасля выбуху адважна палезла на падаконнік.

Я паклікаў хлопцаў і таксама пабег да будынка. Там была добрая пазіцыя: моцныя сцены, а з даху можна было заглянуць за земляны вал.

Калі мы забеглі ў будынак, Зіна праз задняе акно ўжо пастраляла паліцыянтавых жонак.

— Гэта вам за Кольку! — пракрычала яна, разлютаваная, у бок бункера.

## 4

Аднак цешыцца «мясцовай перамогай» давялося нядоўга.

Партызаны, якія меліся перад атакай перарэзаць тэлефонную лінію з Крупак, не выканалі ў час задання. І гарнізон паведаміў суседзям пра небяспеку.

— Калона бронемашын! — у самы разгар бою далажы-

лі нашы разведчыкі. Камандзір адразу выпусціў зялёную ракету — сігнал да агульнага адступлення.

Трэба было хутчэй дабрацца да лесу, пакуль браневікі не адрэзалі нам дарогу. Мы зняліся з пазіцыі і пабеглі, хаваючыся за ўзгоркамі.

Але і гарнізон не драмаў. Пад прыкрыццём станкавых кулямётаў і дробнакаліберная гарматкі высыпалі з бункера немцы з паліцаямі. Браневікі пачалі разварочвацца на гасцінцы ды заходзіць партызанам наперарэз.

І, як заўсёды ў такіх выпадках, бяда не прыходзіць адна.

У нас быў з сабой мінамёт з чатырма мінамі. Тры мы выпусцілі па гарнізоне ў час наступлення, чацвёртая нямецкая разрыўная куля трапіла ў стабілізатар.

Камандаваў намі капітан Фамін. У нашых лясах ён быў з першых дзён вайны: трапіў у акружэнне са сваім эскадронам. Гэты велізарнага росту адважны сібірак гаварыў нізкім густым басам такой сілы, што мы часта смяяліся:

— З яго голасам толькі на плошчы стаяць замест радыёрупара!

Убачыўшы, як фашысты высыпалі з бункера, Фамін грымнуў:

— Сто-ой! хлопцы! Я адгэтуль секану па іх з кулямёта, а вы ў самую гушчу кіньце апошнюю! Толькі добра прыцэльце!..

— Яна ж з пасечаным стабілізатарам, таварыш камандзір! — жахнуліся мінамётчыкі.

— Даляціць, кідай!

Перакруціўшыся некалькі разоў у паветры, міна шлёпнулася якраз ля Фаміна і яго ад'ютанта і разарвала абодвух на кавалкі.

Вестка аб смерці камандзіра дайшла да нас у той момант, калі мы ўбачылі браневікі. Узнялася паніка.

— Ратуйся хто як можа! — віскнуў нечы голас.

І партызаны пабеглі ўжо не азіраючыся. Уцякалі бяздумна, як цячэ вада з вышыні, і спыніць іх было ўжо немагчыма. Дарэмна камандзіры стараліся навесці парадак у сваіх узводах. Дарма і я крычаў на сваіх.

Толькі калі дабеглі да збаўчнага алешніку на балоце, куды, напэўна, не змаглі б дабрацца браневікі, я здолеў авалодаць сваім узводам і загадаў хлопцам заняць кругавую абарону.

Задыханы і ўзбуджаны, я доўга не мог скеміць, каго ж

такі ў мяне не хапае, чаму шаснаццаць чалавек, а не васемнаццаць?!. Нарэшце дайшоў да ладу. З такога разгрому мы выходзілі адносна цэлымі. Не хапала толькі Казака і Зіны.

5

Калі дзяўчына адстала, мы і не заўважылі. Немцы загналі яе ў балота, а яно месцамі пусціла ўжо, і чалавек правальваўся з галавой.

— Вось яна, красу-уня! — зларадна закрычаў пярэдні паліцай.

— Не страляць, бяры жывой! — пераможна загадаў камендант і, нагінаючы пад ногі сабе кусты ды сухое трысцё, першы палез у дрыгву.— Жывой, жывой яе!.. Яна нам усё выспевае ў камендатуры!..

І паліцаі, і камендант былі мясцовыя людзі. Для мяне заўсёды існавала вялікай загадкай псіхалогія здрадніка. Ліха яго ведае, як можа чалавек дайсці да такой нізасці, каб вось так старанна і з упаеннем праследаваць сваіх, выслужвацца перад тым, хто не ставіў яго ні ў грош.

— Заходзь ёй з тылу! — узбуджана, з азартам крычаў, дапамагаў свайму каменданту другі паліцай.

Замест кажуха з плеч у Зіны звісалі рваныя шматкі — так яго пасеклі кулямі і асколкамі. З усіх бакоў трашчалі кусты. Чвакала балота, цяжка дыхалі ворагі. Заставаўся апошні патрон, што Зіне рабіць?

Дзяўчына паставіла на купіну вінтоўку, прыклалася віском да канца ствала і наском паспрабавала наступіць на спускавы кручок. У гэтую хвіліну яна, канечне, не думала аб геройстве, яна ведала напэўна — зловяць жывой, будзе горш.

— Хутчэй, а то застрэліцца партызанская шкура! — падганяў паліцаяў камендант.

— А от і не возьмеце! Паспрабуйце, бобікі чортавыя, ж... лізы Гітлеравы! — упарта цвярдзіла Зіна, паспешліва шукаючы нагой спускавы кручок.

Узбуджаная, яна трапіла на скабу. Прыклад залез аж па магазінную каробку ў твань, і вінтоўка не стрэліла.

Зіна вырвала прыклад і пашукала больш цвёрдае месца.

Якраз у гэты момант падскочыў я. Дыскі мае былі пустыя. Спыняючы на полі партызан, я да таго ахрып, што зусім страціў голас. Але маё з'яўленне было для паліцаяў вялікай нечаканасцю. Яны на хвіліну разгубіліся, гэта і вырашыла справу.

З маіх грудзей вырвалася дзікае рычанне. Я з усяе сілы замахнуўся на крайняга паліцая і са здавальненнем адчуў, як пад маім дыскам хруснуў яго чэрап. Больш замахвацца не было часу.

Тут ва мне прачнуўся баксёр.

Наступнага ворага я збіў магутным хукам з левай у скіўіцу, трэцяга адзяліў куксай пад грудзі, і яны абодва папаўзлі ў гушчар. Я нагнуўся, каб забраць у забітага вінтоўку і наган.

Гэтым часам Зіна павалілася на купіну і заплакала.

— Ты што, ачумела, нашла месца? — накрычаў я.— Ану, уставай і марш да сваіх хлопцаў!

— І нікуды я не пайду-у! — выбухнула яна горкімі слязьмі.

— Звар'яцела?

— Ідзі сабе, а я тут застану-уся... Я не магу, я не хачу ўставаць...— Плечы яе ўздрыгвалі ад спазмаў.

Прыйшлося ўзваліць яе, расслабленую, сабе на плечы і валачы.

Памалу яна супакоілася. А неўзабаве я адчуў, што Зіна ўздрыгвае ад стрыманага смеху:

— Ты чаго там?

— Ну ж і паўзлі яны па дрыгве ад цябе, як уюны! — рассмяялася яна ўголас.

— Цырк сабе знайшла! — Падзявалася некуды ў мяне ўжо ранейшая злосць.

— Ваня, а ты мяне зноў выратаваў. Каб не ты, мне — капут! Ну, пусці, пайду сама!

— Падзякуй Янкоўскай, што прымусіла навучыцца боксу.

— Каму-каму?

— Жартую... Бачыла, які наган сабе здабыў?.. Марш уперад, а то згубішся яшчэ ў гушчары!

Не раз і Зіна ратавала мяне.

## 6

Летам пабылі ў нас дэсантнікі і пакінулі свайго разведчыка — Юзіка Савоську. Гэты чалавек трапіў да дэсантнікаў выпадкова. Яны яго раскусілі і вырашылі часова камандзіраваць да нас, каб потым заняцца яго лёсам. Мы гэтага тады не ведалі і думалі, што ў яго важнае заданне.

Юзікава новенькая дэсантная вопратка і аўтамат, які

аж пераліваўся сінявой варанёнай сталі, выклікаў у нас захапленне і зайдрасць.

Савоська быў лавелас. Заміралі сэрцы нашых партызанак, калі ён, акампаніруючы сабе на гітары і млява закаціўшы вочы, спяваў упершыню пачутую намі песню:

Те-емная но-очь!
Только пули свистят по степи,
Только ветер гудит в проводах,
Тускло звезды ме-ерца-ают...

Аж крыўда бярэ, калі ўспомніш, як гэты баязлівец і нікчэмнік у дзявочых сэрцах слыў героем.

Зіна выпрасіла для мяне ў Юзіка толу. З небяспекай для жыцця ўзрыўчатку мы здабывалі са спарадаў. Адшрубаваўшы ў іх узрывацелі, выплаўлялі яго на вогнішчы. Пры васьмідзесяці градусах Цэльсія тол тапнеў, пры вышэйшай тэмпературы — выбухаў: зносіў бліжэйшыя сосны і елкі ды ад вогнішча і часамі ад такіх піратэхнікаў не пакідаў і следу!..

Паспрабуй адгадай тэмпературу «на вока», выплаві яго без тэрмометра!..

І вось нарэшце ў маіх руках — жоўценькія, спрасаваныя, як мыла, кавалачкі фабрычнага толу, атрыманага за так. Я адразу ж змайстраваў міну і сабраўся яе выкарыстаць.

— Камандзір, вазьмі і мяне на «жалезку»! — напрасіўся Юзік: яму захацелася пахваліцца перад дэсантнікамі хоць чым-небудзь, калі тыя вернуцца.

— Давай!

Паязды тады ўзрывалі яшчэ рэдка, немцы былі не напалоханыя і чыгунку ахоўвалі днём слаба.

Быў поўдзень, калі мы ўтраіх дабраліся да чыгункі. Недалёка пралягала шаша. Зіну я пакінуў вартаваць ля шашы, каб немцы не паявіліся з тылу, а Савоську на ўсякі выпадак аставіў на краі лесу прыкрываць мяне, калі з'явіцца хто на пуці. Сам падпоўз да палатна.

Мне ў гэты раз не пашанцавала. Паўгадзіны таму назад трое салдат з чыгуначнай аховы пайшлі на хутар піць малако. Трэба ж было ім вяртацца да чыгункі якраз у той момант!

Я ўжо замацаваў пад рэйку торбачку з толам, заклінаваў яе каменнямі, калі за чатырыста крокаў ад мяне на пуць вылезлі гэтыя немцы. Салдаты здагадаліся, чаго я тут, і з калена пальнулі ў мяне з вінтовак.

Усё прапала!

Стала шкада Зінінага толу, і я пачаў хутчэй выдзіраць міну! Надта хацелася азірнуцца, але я падумаў: убачу, як немцы цэляцца, не вытрымаю, яшчэ кіну тол і пабягу...

— Ціў-у! Ціў-у! — прапелі ля мяне кулі.

Было страшна. Грэбаючыся ў жвіры і вострых каменнях, я сябе падбадзёрваў: «Абы выцерпець, абы выцерпець, халера!.. Ну, яшчэ хвілінку, зараз Юзік цябе падтрымае з новенькага аўтамата, вось зараз!..»

Я паспеў вырваць з-пад рэйкі тол і толькі тады пачуў стрэлы ззаду. Але страляў не аўтамат — бахала Зініна вінтоўка. Немцы пабеглі ў кусты, і я быў уратаваны.

— Дзе Савоська? — здзівіўся я, убачыўшы Зіну на яго месцы.

— Застрэлю гэтую сволач! Няхай толькі з'явіцца ў лагеры! — выбухнула дзяўчына.

Потым, калі мы беглі па лесе, расказала:

— Як немцы па табе стрэльнулі, ён і ўцёк. Я — «Юзік! Юзік!» — а ён нават і не азірнуўся! Мусіла пакінуць шашу і бегчы выручаць цябе. Ты ж немцам быў відзён як на далоні, падбілі б што зайца!

## 7

У палове мая фашысты блакіравалі пушчу. На гэтую аперацыю адцягнулі з фронту тры дывізіі.

Я ўжо гаварыў, што добрай зладжанасці паміж групамі мы тады яшчэ не мелі. Амаль увесь запас патронаў і гранат выкарысталі ў пачатку вясны, калі прабавалі ўзяць праклятыя Крупкі. Супроць загартаваных у баях фашыстаў, супроць іхніх танкаў, бронемашын, гармат і авіяцыі мы са сваімі ржавымі вінтоўкамі і кулямётамі, якія часта давалі асечку, былі бяссільныя.

Штаб склікаў нас, камандзіраў груп, на нараду:

— Што будзем рабіць, хлопцы?

— Сабярэмся ў кулак, ударым з усяе моцы і — або галава ў кустах, або грудзі ў крыжах! — закрычалі мы.

— Што тут доўга думаць — вядома!..

— Ну, ну, толькі збярыцеся — немец даўно чакае! Абкружыць, на крупу пакрышыць, з балотам змяшае!

— Для гэтага ў яго — рацыі, самалёты, матарызаваныя часці з рухомымі батальёнамі!

— «...Або галава ў кустах, або грудзі ў крыжах!» Усім вядома, што паміраць вы ўмееце па-геройску. Наша зада-

ча — застацца жывымі, выйсці з блакады з найменшымі стратамі, захаваць сябе для будучых баёў. Няхай кожная група ратуецца як можа!

І сталі мы «ратавацца хто як можа».

Адзін камандзір выкапаў вялізную зямлянку ў гушчары, добра яе замаскіраваў, схаваў туды цэлае аддзяленне ў надзеі, што немцы пройдуць і зямлянкі не заўважаць.

Другія ноччу паспрабавалі прасачыцца на стыку нямецкіх батальёнаў і ўцячы ў суседнія лясы. З такой групай пайшла і Зіна. А я з хлопцамі залез у балота і крытычны момант вырашыў перачакаць там.

Ежы ў нас было мала. Камплекцыя майго цела патрабавала больш калорый, чым іх трэба было сябрам, а пасада камандзіра прымушала часта адмаўляцца і ад сваёй порцыі. У цяжкія дні блакады мяне, аслабленага, больш за іншых мучыў голад.

Бывала, збяруцца ноччу партызаны ў круг і пачынаецца:

— Эх, у рэстаран ніхто не запрашае!..

— З адбіўнымі і біфштэксамі, м-м!..

— А я ўжо аб гэтым і марыць перастаў. Закурыць бы толькі!

— А-га! Глынуць бы папяроснага дымку, а там хай сабе цэлы полк танкаў прэ ці зямля валіцца!

— І я за дробку табакі не пашкадаваў бы, здаецца, і свайго жыцця!..

І раптам хто-небудзь са старэйшых, які пабываў днём у разведцы, дастае капшук і, не спяшаючыся, пачынае яго развязваць.

— Ах! — толькі вырвецца з прагных вуснаў прыемнае здзіўленне.

— Цур, адну зацяжку!

— Цур, я другі!!

— Трэці!

А гаспадар капшука пры месячным святле асцярожна, бытта крупінкі смярдзючай махоркі з чыстага золата, робіць самакрутку. І пойдзе цыгарка па кругу — па адной строга зацяжцы на брата. Настрой у таварышаў адразу ўзнімаецца, аднекуль з'яўляюцца і сілы.

Не прымаю ўдзелу ў курэнні толькі я.

— Жалезны ты чалавек, Ваня,— хваляць мяне хлопцы ды зацягваюцца дымам.— Мы хоць курым, нам лягчэй. А ты не курыш і не ясі...

— Нічога. Хутка немцам абрыдне бадзяцца па лесе, здымаць блакаду. Як-небудзь вытрымаю...— суцяшаю больш сябе, чым таварышаў.

Ніхто, вядома, не ведаў, што адбывалася ў той момант у мяне на душы. Кружылася галава ад голаду. Па целе прабягалі вядомыя яшчэ з віленскага жыцця дрыготкі, разлівалася слабасць, засцілала вочы імглой. Прыходзіла абыякавасць. Расслаблялася воля. Першы раз у жыцці я шкадаваў, што не навучыўся курыць.

— Братцы, вядро вады замяняе сто грамаў хлеба, даказана партызанскай навукай! — накурыўшыся да ап'янення, жартаваў хто-небудзь з хлопцаў і прыгаршчамі зачэрпваў тлустую і цеплаватую балотную ваду.

— Глядзі ты, пасля вайны рацыяналізатарам станеш ці дысертацыю абароніш на гэтую тэму! — гучалі павесялелыя значна галасы.

Толькі ў мяне няма настрою. Трэба браць сябе ў рукі!..

Яшчэ са школьнай парты я ведаў, колькі ў такой вадзе плавае мікраарганізмаў. Планктонам такія нават аграмадзіны як кіты сытымі бываюць! Агідна глытаць мікраскапічных казявак і слімакоў, але калі стаіш перад галоднай смерцю і няма выбару...

— А вы не смейцеся! Піце, хлопцы, гэтую ваду, яна пажыўная — бы зацірка! — заахвочваю я таварышаў і пераконваю сябе, што мяне таксама невыносна мучыць смага, і я цаджу праз зубы рудую вадкасць.

Удзень сонца пячэ бязлітасна, пот коціцца градам, і я п'ю зноў, якраз раблю тое, чаго рабіць нельга. Празмернае паценне прывяло да абяднення клетак солямі, парушыла іх здольнасць трымаць вадкасць, разладзіла ўзаемасувязь працэсаў у арганізме. Праз тыдзень я зрабіўся такі бязвольны і слабы, што не мог сагнаць з носа камара. А пусцяць немцы ракету, дык не здужваў нават прасачыць за яе палётам. Але ў роце адчуваў смагу і піў яшчэ і яшчэ. Даходзіла да таго, што сцісну пальцамі цела на грудзях — на скуры выступаюць кроплі вады, бытта я сціснуў мокрую губку.

— Трэба ж было залазіць да ведзьмы ў дрыгву, каб загінуць тут за нішто ад камароў і голаду! — нібы праз сон чуў я дакорлівыя словы.

— Што мелеш? Ён табе свой хлеб аддаваў, ад бульбіны апошняй адмовіўся, прыкідваўся, што не галодны, а цяпер, бачыш, як дайшоў? — баранілі мяне больш цвярозыя.

— Заступайся! Мо няпраўда? Загінуць, дык у баі, з гонарам! А то запёр сюды ў магілу! Вялікая мне радасць, што і ён разам тут здохне!..

Але паправіць што-небудзь было позна — усе паслабелі так, што не маглі нават трымаць вінтовак. Калі б у той час надышоў на групу адзін самы захудалы немчык, ён, мабыць, пабраў бы нас голымі рукамі.

І ўсё ж я знайшоў у сабе сілы арганізаваць вылазку. Ноччу ўзяў двух сяброў, і папаўзлі мы да немцаў.

Прабраліся праз ачапленне. Белая палатка. Калі мы ўскочылі ў яе, тры чалавекі на сене, пасланым на яловыя лапкі, не паспелі нават прачнуцца...

Патэфон. Стол з газетамі, кацялкамі. Вядро...

Мы шукалі ежу. У кутку нейкі мяшок. Намацалі — сухары! Схапілі яго і прэч з палаткі!

Адпаўзлі ў дрыгву, развязалі мяшок, а там — скура на падэшвы! Здаецца, гэта і быў той адзіны выпадак за вайну, калі я заплакаў.

На дзесяты дзень я пачаў траціць прытомнасць, мяне ўсё часцей апаноўвала дрымота. Але і скрозь затуманеныя вочы бачыў, як блішчыць вада, а губы самі цягнуліся да яе.

...Апрытомнеў я на сухім месцы. Нада мной схілілася Зіна і ліла ў рот з бутэлькі малако.

— Ты-ы? — хацеў я спытацца і захлынуўся.

— Ванечка, золатца, не разлівай, пі!

— Дзе хлопцы? — спытаўся я слаба.

— Яшчэ спяць!

— Спя-яць! Не маніш?!

— Давай я цябе падніму. Божа, які ты ў мяне лёгкі стаў!.. А цяпер паглядзі туды!

Я сеў, абапёрся спіной аб сасну і азірнуўся.

І праўда. Мае партызаны, разваліўшыся на паляне, храплі на розныя галасы. Я першы раз заўважыў, што кожнага з хлопцаў пазнаў бы па храпу. Паразвешаная на кустах вопратка сушылася на сонцы. Ад яе, нібы дымок, ляніва ўзнімалася пара.

За палянай на балоце мірна пахаджваў бусел, пакідаючы цёмны след на роснай траве. Там, дзе ляжаў я, быў прыемны халадок, дзе-нідзе сарамліва чырванелі першыя ў гэтым годзе бусінкі суніц, гойдалася ўсыпанае матавымі расінкамі павуцінне — па ім бегаў павук. А над усім гэтым стаяў такі птушыны шчэбет, што, здавалася, лісце і галіны дрэў аж варушыліся ад птушак. Я ўдыхнуў п'я-

ны водар ляснога паветра і так пацягнуўся, што аж затрашчалі мае косці, а па целе разлілася асалода.

— Усе цэлыя!

— Усе жывыя, не бойся! — судешыла з мацярынскай чуласцю дзяўчына.

— А астатнія групы, не ведаеш?

— І не пытай! У кожнай засталося па некалькі чалавек. Нават у зямлянцы немцы атруцілі ўсіх газамі. І з нашай палова не вярнулася. А твае — усе. Малайчына, камандзір! Хлопцы цябе хваляць... Толькі сам паддаўся, ледзь адратавала. А каб я вас не знайшла, то і памёр бы?.. Пі, спецыяльна з хутара свежага прынесла — на ўсю акругу адна карова там засталася!..

— А блакада? — успомніў я раптам мінулае, нібы цяжкі сон.— Дзе немцы?

— Ужо два дні, як зняліся!

## 8

Апрача ўсяго мы з Зінай мелі адну таямніцу.

Раздабылі з ёю толу і ўзрывальнік. Механіка ўзрывальніка была даволі простая. Ад батарэйкі кішэннага ліхтарыка ішлі два ізаляваныя дроцікі, адзін плюс, другі — мінус. З гэтых дроцікаў трэба было скруціць спіральку і пакласці на рэйку. Колы цягніка націснуць на дроцікі, зробяць замыканне, і міна здэтаніруе.

Пайшлі мы ўдваіх на пуць. Я заклаў міну, уставіў батарэйку, і мы схаваліся ў кусты.

Поезд праехаў, а міна не ўзарвалася.

Па інструкцыі міны ў такім выпадку кранаць нельга: замыканне можа наступіць нечакана. Але мы з Зінай пашкадавалі толу ды вырашылі яго забраць — занадта дарагім коштам ён дабываўся!

Мы яшчэ поркаліся ля рэйкі, як здалёк пачуўся гудок цягніка. Я ўспомніў: у гэтую пару праходзіць пасажырскі.

— Давай паспрабуем зноў! — шапнуў я дрыжачым ад хвалявання голасам.

— Толькі хутчэй! — падхапіла Зіна.

Частку дроцікаў колы аддавілі, яны зрабіліся надта кароценькія і не хацелі ляжаць на рэйцы. Я знайшоў кіёк, лёг на насып ды пачаў падтрымліваць дроцікі. Выцягнутая мая рука хутка самлела.

— Цяпер я! — шапнула Зіна.— Давай, будзем трымаць на змену!

Так мы і мяняліся, пакуль пад'язджаў поезд.

Калі цяпер колы зробяць замыканне, ад мяне і Зіны не застанецца і следу. Але нас ахапіў азарт. Мы думалі толькі аб адным: едзе поезд, у ім поўныя пульманы гітлераўцаў — упэўненых, здаволеных, з туга набітымі нарабаваным дабром чамаданамі... Мы гатовы былі яшчэ дапамагчы міне і падштурхнуць вагоны, каб яны лепш ляцелі пад адхон!

Па рэйках пакаціўся грукат, потым паказаліся фары. Яны раслі на вачах, пакуль не пранесліся над намі, і тады мы зноў апынуліся ў цемры. Поезд толькі выбіў з маіх рук кіёк, абдаў мяне ветрам, апарыў кроплямі гарачай пары, а пясчынкі балюча секанулі па твары.

— Будзем яшчэ раз спрабаваць? — спыталася разахвочаная дзяўчына.

— Хопіць. Не станем больш цягаць за хвост, выпрабоўваць свой лёс! — апамятаўся ўжо я.

Забралі мы тол і моўчкі падаліся ў лес.

Каб зрабіў гэта іншы партызан, я зараз жа аддаў бы яго пад суд: бяздумная ліхасць нікому не была патрэбнай, і ў лесе існавалі строгія на гэта законы.

## 9

Восенню 1939 года пасля ўз'яднання ў Заходняй Беларусі адчувалася няхватка кадраў. І на Міншчыне абвясцілі камсамольскі прызыў. Па гэтаму прызыву прыехала ў Заходнюю Беларусь і Зіна Кварцёнак.

Зіма ў тым годзе стаяла лютая. Зіна прыехала ў тоўстых, падшытых шмат разоў і зноў растаптаных валёнках, у зімовым паліто без таліі, бо вясковы кравец кіраваўся толькі адным прынцыпам: як найбольш усадзіць у яго ваты — так прасіла Зініна маці.

Гарады Заходняй Беларусі мелі бедную прамысловасць, іх засялялі пераважна чыноўнікі, гандляры і ўладальнікі крам. Не па душы была многім з іх Савецкая ўлада, не даспадобы былі і людзі, якія з ёй прыехалі.

— Глядзіце, яшчэ адна ўсходніца-калода! — смяяліся з Зіны ў Гродне модніцы ў фетравых боціках, у расшытых адмысловымі ўзорамі кракаўскіх кажушках.

Саромеючыся сваёй вопраткі, Зіна з кватэры прабірала-

ся завулкамі ў «Загатзерне», дзе працавала лабаранткай-прыёмшчыцай.

Разам з ёю працавалі і заўзятыя прыхільнікі былога рэжыму. Сыходзіліся яны раніцай, садзіліся ды пачыналі шаптацца.

— Дзяцей усіх да пяці гадоў будуць адбіраць у бацькоў для прыютаў і выхоўваць з іх бальшавікоў, як туркі некалі выхоўвалі янычар! — дзялілася плёткай адна з іх.

— Чулі? Выдалі яны загад — у гальштуках і капелюшах па вуліцы не хадзіць! — дадаваў другі.

— А мы сухары сушым! Усіх нас у Сібірскую тайгу збіраюцца вывозіць! — шаптаў трэці.

— Яшчэ напрацуемся, дзень вялікі! — абяцалі яны, калі Зіна глядзела на іх з дакорам.

А пасля полудня, склаўшы рукі, чакалі вечара.

— Хіба мы коні, каб цэлы дзень рабіць? — заяўлялі яны з цынічным спакоем і адводзілі душу на беднай дзяўчыне:

— Камсамолка, што ў вас за ўлада! Вось ты стараешся цэлы дзень, а на табе і сукенкі добрай няма!

— Нічога, яе за гэта на сходзе ў прэзідыум выклічуць пасядзець!

— Яшчэ ў загадзе адзначаць перад святам і вывесяць на сцяне!

— Як жа можна не працаваць? — дзяўчына аж кіпела ад іхняй нагласці.

— А я, быць можа, сёння якраз хачу спаць! Затое заўтра задумаю выйсці на работу і зраблю ўсё адразу. А мне гэтага твае парадкі не дазваляюць! Дзе ж тут асабістая свабода, калі я сам сабе не гаспадар? — прыставалі да Зіны пакрыўджаныя былыя ўладальнікі крамаў, майстэрняў, рэстаранаў і дробныя дзялкі. Прыставалі часамі так, бытта ўсяму, што з імі здарылася, віной — яна.

Дзяўчына не ведала, што і адказваць ім, толькі глядзела шырока адкрытымі вачамі: вось тыя людзі, пра якіх яна дагэтуль толькі чытала ў кніжках. Нездарма ў іх стралялі ў рэвалюцыю! І Зіна мацней сціскала зубы.

Неспадзявана выбухнула вайна.

Фашысты Зіне ў Гродне нічым не пагражалі — яна была ўсяго звычайнай лабаранткай. Яны не забілі нікога і з яе радні. Адным словам, у яе не было прычын для асабістых парахункаў з ворагам.

Дзяўчына не паспела атрымаць ні інструкцыі ў райкоме, ні парады ад таварышаў, бо іх раптам пагубляла.

Аднак з самага пачатку вайны шлях сабе абрала правільны. Калі чалавек у душы сумленны, мае сваю мэту, ён па наказу сэрца зробіць тое, што трэба. Па закліку сумлення Зіна і пайшла ў партызаны.

10

Пасля блакады мінуў месяц. Я ўжо ад'еўся і паправіўся, як толькі можа паправіцца малады і здаровы дыстрофік пасля месячнай галадоўкі.

Зіна цэлы тыдзень была з групай у паходзе, а цяпер вярнулася з задання.

— Бо-ожа, якая ў цябе кашуля! — першае, што яна сказала, калі мяне ўбачыла.

— Што ты, яшчэ зусім нармальная!..

— Скідай, скідай хутчэй! На, апрані чыстую. Несла спецыяльна дзвесце кіламетраў, з-пад самага Беластока! На свой пярсцёнак выменяла!..

— Пасля вайны будзем у крухмаленых хадзіць...

— Не лянуйся, апранай!

— Жывецца чалавеку як у мамкі за пазухай... Э-эх! — уздыхнуў малады партызан.

— Соль табе ў вочы,— агрызнулася задаволеная дзяўчына на зайздросніка.

— Заслужы, будуць насіць і табе!

— Барташэвіч, навучы, браток!

Мы спаткаліся на вачах у людзей. Побач на возе ляжаў паранены і чакаў аперацыі. Хлараформу не было, і медсястра дала яму шклянку спірту, хлапец ужо прыкметна захмялеў. За возам доктар тачыў нажоўку, якая ў кожнага партызана выклікала дрыготкі. Ля ног доктара двое партызанскіх дзетак прабавалі, у каго мацнейшы лоб. Дзве дзеўкі круцілі жорны, малолі на хлеб муку і не спускалі з нас вачэй.

— Хадзем адсюль! — шапнула Зіна, калі я нацягнуў чыстую кашулю.

Агорнутыя ўзбуджаным хваляваннем, мы, хаваючыся за фурманкі і буданы, падаліся ад зямлянак у лес.

Сама адцвітаў ландыш. Паветра п'яніла пахамі разапрэлай на сонцы зеляніны. Шасталі па халявах сухія былінкі, пахруствaў пад падэшвамі мох, усланы сетачкай іглiцы, утыканы шышкамі. Ад балота цягнула прахаладай. Але мы нічога гэтага не бачылі, адно адчувалі, што адышлі яшчэ мала. Нешта дрыжачымі галасамі гаварылі.

Абаім хацелася бегчы, і толькі стрымлівала сарамлівасць.

З дрэва капнула Зіне на твар расінка.

— Дождж! — схлусіла яна ды сабралася ляцець: — Уцякайма!..

Гэтае прытворства якраз было патрэбна і мне. Я пабег за ёю.

Мы апынуліся ля густога сасонніку. Зіна стала плячамі да дрэўца, нібы схавалася ад дажджу, выдыхнула:

— Станавіся побач!

Яе кароткія пальцы з мужчынскімі пазногцямі пачалі нервова і бязладна рваць зялёныя іголкі, бытта іголкі гэтыя — мяккія лісточкі мяты. Сама яна аж задыхалася.

— Ваня, ну! — папрасіла з тугой пабялелымі вуснамі.

Але я ўжо паспеў астынуць і нібы прачнуўся. Раптам адчуў, што ў адносінах з Зінай даўно перайшоў граніцу і што трэба з гэтым канчаць, пакуль не позна.

Я глянуў на ўсё цвярозымі вачамі.

Ніякая сіла не магла цяпер прымусіць мяне зноў дакрануцца да Зіны: калі сэрца не ляжыць да чалавека, нічога з сабой не зробіш! Мне быў непрыемны на яе пальцы след ад пярсцёнка. Вось ужо і забыўся, што на мне яе кашуля! А кашулю, што калісьці мне памыла над Віліяй Дануся, дык і цяпер памятаю, нават ведаю, дзе яна дома ляжыць. Калі бываю дома, абавязкова на яе пагляджу, і мне бы лягчэй...

Я паспрабаваў успомніць, колькі дабра зрабіла мне Зіна, пераламаць сябе, каб не крыўдзіць дзяўчыны, хоць пацалаваць яе: не адсыхалі ж мае вусны раней?!.

Не. Гэта было б падвоенае ашуканства. Трэба з гэтым канчаць. Сабрацца з духам і разануць — раз і назаўсёды. Зіна для мяне была як сястра і маці, ці можна без канца яе ашукваць, абнадзейваць, выкарыстоўваць яе пачуцці як жулік?

І яшчэ. Адзін крок — і, мне здаецца, я страчу сваю незалежнасць. Ва мне абудзіўся і ўсяго напоўніў інстынкт самаабароны.

— Ну, што ты?! — шаптала яна.

— Не трэба, Зіначка! — папрасіў я і далікатна адпіхнуў яе.

— Тут жа нікога няма!..— выдыхнула яна горача.

— Я не пра тое... Я даўно табе збіраюся прызнацца...

— У чым?

— Ведаеш, далей так у нас цягнуцца не можа...

— Каму мы перашкаджа-аем!..

— Некалькі год я кахаю чалавека...
— Вядома!..
— Зінка, толькі не крыўдуй на мяне! — узмаліўся я, не ведаючы, як мякчэй зрабіць ракавое прызнанне, каб не было ёй так балюча.— Гэта ад мяне не залежыць...
— Ах, во-ось яно што-о!..
Здалося, што на момант усё на свеце замерла, такая наступіла цішыня.
Раптам у гэтай цішыні пачуўся зычны трэск, а ў мяне перад вачамі ўсё захісталася — Зіна з усяе моцы пляснула мяне па твары.
Хвіліну я стаяў як ачмурэлы.
Так. Першы раз у жыцці атрымаў я па фізіяноміі. І дзіўна. Не раззлаваўся, не пакрыўдзіўся. А гатоў быў падставіць шчаку яшчэ і сказаць: бі, Зіначка, калі табе ад гэтага лягчэй, на, бі, бі мяне!
Зіна закрыла твар і захісталася ад роспачы.
— Ох, якая я дурная!.. Якая сляпа-ая!.. А я ду-умала!..— застагнала яна цяжка: — М-м-м!..
— Паслухай, але ж я ні ў чым не вінаваты, усё гэта адбылося міжволі!..
Гэтым я яшчэ больш распаліў дзяўчыну.
— Змоўкні, ты... не чалавек!.. Бо-ожа... Другі год я яму ўсю душу... Уся сама аддавалася яму і не ведала, што ў гэты час ён думае аб другой! Бо-ожа, завошта на мяне такая кара!.. Каб ты... Каб цябе...
Я зазлаваў.
А ў чым я вінаваты? Выходзіць, каб прамаўчаў, было б лепш?!.
Каб супакоіцца, адышоў крыху ў лес.
Калі я вярнуўся, Зіна ляжала на траве і плакала, як толькі можа плакаць чалавек у вялікім горы. Яна ўся аж уздрыгвала ад болю і бяссілля:
— І навошта я такая нешчаслівая нарадзілася на свет?..
Я бездапаможна таптаўся на месцы.
— Хто яна? — насцярожана прыпаднялася Зіна.
— Ат, ты не ведаеш!
— Хто?
— Што табе за карысць з гэтага?
— Не, ты скажы!
— Яшчэ невядома, ці засталася яна жывая пасля ўсяго, што здарылася за тры гады...
— Хто?

— Разумееш, да вайны я вучыўся ў Вільні і закахаўся там у адну...

— Ну?

— І з той пары не магу нікога пакахаць. Хачу, а не магу. Разумееш, не дам сабе рады...— паскардзіўся я.

— А-а, ты яшчэ і спачування ва мне шука-аеш? — выбухнула Зіна зноў.— Якая мне справа да гэтага?.. Прызвычаіўся плакацца мне ў прыпол?!. Чаму мяне раніш?..

— Зіна, вазьмі сябе ў рукі, партызаны мо глядзяць! Хадзем у лагер!

— І няхай глядзяць!.. Няхай усе бачаць, мне ўсё адно!.. Я не маю больш куды ісці-і!.. Янка, мо ты ўсё гэта выдумаў, мо беражэш мяне так, каб я менш перажывала, калі з табой што здарыцца кепскае? — І раптам узмалілася яна горача: — Ты памыляешся, мне так цяжэй!..

— Менавіта таму і не магу цябе ашукваць. Калі загіну, ты павінна ведаць праўду!

— Як гэта бязлітасна!..

— А лгаць, па-твойму, літасна?!.

— Так, так. Ты заўсёды нам служыў эталонам сумленнасці і праматы... Але які ты суровы... Як гэта жудасна...

— Ну, хопіць, Зіна. Пойдзем!..

— Яна прыгожая? — у голасе дзяўчыны пачулася варожая зайздрасць да незнаёмай саперніцы.

— ...

— Вядома, не такая брыдота, як я! — Зіна прамовіла гэта з нейкай нянавісцю да сябе.— Ма-ама, чаму ты мяне такой нарадзіла!..— упала яна зноў на мох.

У лагер вярталіся мы не разам. Я быў злосны і нездаволены сабой. Наўрад ці ўдасца яшчэ калі мне спаткацца з Данусяй. Дык што, так і бадзяцца да старасці аднаму?

## Раздзел чацвёрты

### 1

У наступную зіму стаялі мы кіламетраў за пяцьдзесят на поўнач ад Гродна, у Друскенікскім лесе. Узрыўчаткай нас ужо забяспечвалі з Вялікай зямлі. Партызанскі аэрадром быў тады далёка, аж у Літве, на возеры.

Яшчэ мінулай восенню ў нас пабывалі прадстаўнікі штаба партызанскага руху. Яны арганізавалі падпольныя райкомы, абкомы, рэдакцыі газет. З асобных, прасякну-

тых духам анархізму груп стварылі стройную сістэму партызанскіх атрадаў, брыгад, злучэнняў. Нябачнымі ніткамі радыёсувязі ўсё гэта аб'ядналі вакол адзінага маскоўскага цэнтра. Цяпер мы для працаўніка сталі грознай арганізаванай сілай.

Я тады быў камандзірам узвода разведчыкаў.

У пачатку лютага паслалі мяне на аэрадром за грузам, што прыслалі нам з Масквы. Са сваімі хлопцамі накіраваўся я на возера.

За лагерам нас дагналі некалькі саней — гэта адпраўляўся на заданне нейкі атрад. Хлопцы ехалі па-партызанску — са свістам і гіканнем, трымаючыся за дручкі, за кажухі сяброў, стоячы на адным калене, на полазе і нават на аглоблях, трымаючыся ледзь не за хвост каня.

— Раз-вед-чы-кі-і, даро-огу-у!

Мае хлопцы, вядома, не разгубіліся і на хаду пачалі ўскокваць у сані.

Я таксама схапіўся за дручок ад саней і ўпаў некаму на галаву, балюча ўдарыўшыся аб чужы дыск брывом.

З крыкам і жартамі партызаны пацясніліся, і я сяктак прымасціўся ды стаў церці пабітае месца. Тут я толькі ўбачыў, што сяджу разам з Зінай. Заражаная агульнай весялосцю, яна мяне таксама спачатку не заўважала. Пасля лета мы яшчэ ні разу з ёй не размаўлялі.

— Гэта ты-ы? — міжволі вырвалася ў мяне.

Зіна прамаўчала. Толькі твар яе пасур'ёзнеў.

Ехалі мы на нізкіх драўляных развалках. На іх і ад звычайнай язды кружыцца галава. А цяпер сані проста ляцелі, і ад гэтага ўсе былі як п'яныя і на нас з Зінай не звярталі ўвагі. Я дакрануўся да яе рукі, якая трымалася за дручок. Зіна не адказвала. Тады я асцярожна адарваў яе руку, пераплёў яе пальцы сваімі і сказаў на вуха:

— На тым скрыжаванні буду злазіць... Чуеш?.. Злазіць буду!

Яе твар ніяк не адрэагаваў.

— Зіна, давай памірымся!.. Прабач, будзь жа чалавекам!.. Няўжо не даруеш?..

Яна крадком азірнулася, тады паднесла маю руку да грудзей і мякка, далікатна паціснула мае пальцы.

— Дзякуй, Зінка!

— Шчаслiва...

Поўны пашаны да сябе, што тады летам рашыўся на такі крок, і ўзрадаваны, вылецеў я з саней да сваіх хлопцаў, якія ўжо абтрасаліся ад снегу.

— А намяло-о, браткі ж вы мае! — закрычаў адзін партызан.— Пратупай па такіх гурбах сто кіламетраў — ногі адваляцца: а дзвесце?

— Дзе ты бачыш гурбы! Гэта ж паркет — першай клясы! — заразіў я хлопцаў добрым настроем.

— Даёш паркет!

— Глядзі — з мяккімі ходнікамі нават!

## 2

Дзён праз пяць прыбылі мы на месца. З «дугласа» ўжо выгрузілі запакаванае ў брызент партызанскае дабро. Да прадстаўніка злучэння — вялізнага літоўца Шымкаса — падыходзілі па чарзе камандзіры груп, і ён надзяляў іх брызентавымі цюкамі — па аднаму, па два, па тры...

Я таксама прымасціўся ў чаргу і ад няма чаго рабіць пачаў разглядаць дзяўчыну. Зрэшты, я і сам не заўважыў, калі яна прыкавала маю ўвагу.

Дзяўчына стаяла зводдаль і зграбным носікам выдыхала ў настылае паветра струменьчыкі пары. Ад марозу і балотнай сырасці барты яе новага кажушка, вушанка звінелі, а белыя валёнкі і вопратка былі без ніводнай плямкі — як з іголачкі. Яны нагадвалі тылавы дастатак і спакой. У дзіцячым тварыку прабіваліся пашана і наіўнае захапленне ўвішнымі партызанамі. А хлопцы падхоплівалі брызентавыя цюкі і перлі іх да саней.

— Ты загляні, што ў ім, мо я пераблытаў! — раіў Шымкас падцягнутаму маладому камандзіру, але і гэты прытрымліваўся прынцыпу, што даронаму каню ў зубы не глядзяць,— махнуў рукой ды загадаў сваім партызанам валачы пасылку да коней.

Наступны цюк партызаны ўсё ж такі разрэзалі і заглянулі ў яго.

— Цьфу-у, зноў «сюрпрызныя» мі-іны! — пачуўся расчараваны голас.

Такія міны ў нас карысталіся дрэннай славай, на іх узарваўся не адзін партызан. Сярод партызан паўстала замяшанне.

— Казімір Вітольдавіч! — узмаліліся хлопцы да Шымкаса.— Лепш будзем паравозы за колы сцягваць з рэек, толькі не давайце гэтай дрэні! Замяніце толам, патронамі, лыжамі...

— Геро-оі, вельняй грыбіету! — прабурчаў ён Суткасаву лаянку.— Няма чаго звальваць на канструкцыю, ка-

лі не ўмееце карыстацца ўзрывальнікамі. Глядзіце сюды, пакажу вам без толу... Во, гэтую чаку трэба выцягнуць, вусікі гэтыя загнуць...

— Ага, без толу!.. Без толу — не ўзарвецца, яна не такая дурная!..

Дзяўчына на ўсё гэта глядзела з умiленнем. Новенькі аўтамат яе — заінелы, хоць пішы на ім пальцам,— быў сістэмы ППШ апошняга выпуску. Дзяўчына, мабыць, з Вялікай зямлі. Відаць, са службы аховы самалёта.

У той дзень я дрэнна сябе адчуваў.

Хвароба яшчэ толькі пачыналася: мяне ўсё раздражняла, усім быў я нездаволены, сам не ведаў, чаго хацеў. Раздражняла мяне гутарка людзей, смех, нават іхняя вопратка. І чамусьці найбольш злавала мяне прысутнасць гэтай дзяўчыны.

«Начыталася легкадумных кніжачак пра вайну і партызанскай рамантыкі шукаеш! — падумаў я непрыязна.— Добра, што хутка вернешся ў цёплую кватэру з вадаправодам ды цэнтральным ацяпленнем!..»

Яшчэ падумаў, што такой, мабыць, выглядала б і Данута, каб пераапрануць яе ў вайсковае і даць аўтамат.

Я ўздыхнуў.

Ад чэрвеньскага вечара, калі лазіў на ясень, мінула амаль чатыры гады. Столькі падзей адбылося! Але каханне — дрэўца, якое расце, калі на яго мы і не глядзім. Я часамі не знаходзіў сабе месца.

— Вам — радыстка! — перарваў мае думкі прадстаўнік злучэння ды паказаў на аўтаматчыцу: — Забірайце!

— Адну-у?

— А колькі б ты хацеў, дзесяць?

— Было б з-за чаго валачыся?

Я ўжо вельмі шкадаваў, чаму замест бездапаможнай дзяўчынкі не далі мяшок толу або патронаў ці нават «сюрпрызных» мінаў, у іх хоць узрыўчатка добрая. З гэтай адно клопатаў набярэшся. Яна — не Зіна Кварцёнак.

Маё расчараванне заўважыў прадстаўнік. Ён вылаяўся на мароз, парыпаў нагамі, бытта ў яго пад валёнкамі быў не снег, а сухі крухмал, нязграбна пагартаў паперы чырвонай набрынялай рукой і яшчэ раз зірнуў у спісы.

— Атрад Чапаева?.. Зараз, дзе ён тут у мяне... Э-ээ...— пацягнуў ён угару.

Шымкас прыціснуў рукой адну ноздру, чхнуў з сілай праз другую і паскардзіўся:

— Прастудзіўся дзесьці, вельняй грыбіету, халера!..

Ага, вось атрад Чапаева. Ну, чаго ты хочаш? Вам тут выпісана выразна: радыстка — адна! Рацыя — таксама адна. Што прасілі, тое і маеце! Вунь яна стаіць!

— Бачу сам...

За маёй спіной закрычалі адвакаты:

— Даць яму яшчэ што-небудзь!

— Не крыўдзіце маленькага!

— Падкі-інуць!..

— Барташэвіч, збірай сваіх хлопцаў і марш адсюль! Трэба адпраўляць самалёт ды разыходзіцца ўсім, пакуль нас не накрылі тут фрыцы!..

Я ўлавіў пакрыўджаны позірк дзяўчыны, але мне было не да сантыментаў.

— Ну, айда, бярыце рацыю! — злосны на скупога літоўца, загадаў я сваім разведчыкам.

— Я сама! — неспадзявана цвёрда запярэчыла радыстка, напружылася добра і закінула трыццацікілаграмовую бляшаную скрынку ў зялёным брызентавым футляры за плечы.

— О-го! — здзівіліся партызаны.

На яе глядзелі дзесяткі пар мужчынскіх вачэй. Прыгорбленая ад цяжару дзяўчына пераступіла з нагі на нагу, ловячы раўнавагу, ды стала паспешліва зашпільваць на грудзях рамяні. Ёй давялося зняць рукавіцы. Далоні ў яе былі маленькія, гнуткія, а пальцы — тонкія, з чыстымі і старанна паабразанымі пазногцямі — дакладна як ў Данусі!

Я адчуў сябе вінаватым і падышоў да радысткі:

— Давайце, дзяўчынка, пазнаёмімся насамперш!

— Не дзяўчынка, а — дзяўчына! — падала яна самыя кончыкі пальцаў.

— Ух ты-ы!

— Прычым у мяне ёсць імя — Станіслава Эдвардаўна Дварэцкая. Запамятайце сабе Ста-ніс-ла-ва Эд-вар-даўна Два-рэцкая! — паўтарыла яна. Узнімаючы шэрыя з заінелымі вейкамі вачаняты, з'едліва дадала: — А можна і таварыш Дварэцкая!

— Ну ж і нарваўся наш Барташэвіч! — паспачувалі мне мае хлопцы.

І ніхто не засмяяўся. Усім зрабілася няёмка перад гэтай сімпатычнай госцяй. Хлопцы ўжо з дакорам глядзелі на мяне.

## 3

Незвычайная была дарога ў лагер.

Нібы маім хлопцам хто ўвёў цудоўнае ўзбуджальнае лякарства, яно памаладзіла і дадало сілы.

Ніколі яшчэ так па-заліхвацку не сядзелі на галовах аблезлыя кубанкі з чырвонымі стужкамі. І ніколі ў партызан так не былі расхрыстаныя грудзі. Кожны нібы казаў гэтым: ану, каторы з нас найбольш не баіцца холаду, выбірай!

Усе вярцеліся перад Стасінымі вачамі. Нават перасталі лаяцца. А калі прыходзілі ў вёску, адзін перад другім галантна прапаноўвалі ёй немаведама як і дзе дабытае малако, масла, сыр.

Даўно ўжо разведчыкі адабралі ў яе цяжкую рацыю і неслі самі. Я сваіх хлопцаў ведаў добра. Раней калелі да смерці, а буданоў сабе не рабілі. То не было з чаго, то не было чым — проста валіліся ў снег, падцягвалі калені пад бараду і дрыжалі ў дрымоце. Затое для радысткі на кожную днёўку ўмомант сплялі буданчык — люба глядзець.

Толькі што скончылася Сталінградская бітва, і з Масквы перадавалі прыемныя весткі. На ўзбярэжжы Міжземнага мора саюзнікі таксама грамілі немцаў. Гэта яшчэ больш заражала хлопцаў энергіяй. Калі дзяўчына выказала жаданне ставіць рацыю, кожны з партызан лічыў за шчасце круціць дынамку. Адзін перад адным лазілі яны па дрэвах, развешвалі антэну.

— Не туды цягнеш! — спрачаліся.— Бачыш, якая тут густая елка!

— Ну і што?

— Што, што-о!.. Ведаеш, колькі ў яе іголках жалеза — магнітныя хвалі не будуць даходзіць у антэну! Стася не зможа прыняць радыёграмы!

— Выдумвай!

— Дубіна, слухай! Яна сама ўчора нам тлумачыла. Ты быў на варце якраз!

— Ну-у!

— Не нукай, не запрог!

— То ў які бок цягнуць?

— Так бы і спытаўся адразу! Бярэцца яшчэ за такую справу, ні шыла не разумеючы!

— Даўно ты пачаў шмат ведаць!

— Больш за цябе!..

Іншым разам радыстка, прачнуўшыся, расчырванелая

ад цеплыні ва ўхутаным плашч-палаткамі буданчыку, нападала на партызана:

— Таварыш Трухан, чаму мяне не пабудзілі на пост, калі змена падышла!

— Стасенька, родная, далібог, забыўся, хоць расстраляй мяне! — захлынаючыся ад шчасця, што ўдалося ашукаць дзяўчыну, па партызанскай звычцы хлопец ужо называў яе на «ты».

— Заўтра дзяжуру і за сябе і за вас!

— Вядома, аддзяжурыш!

Назаўтра паўтаралася тое ж самае.

Аднаго дня Стася яшчэ спала. А хлопцы ад холаду ўсхапіліся са снегу і стараліся сагрэцца: штурхаліся, тупалі, скакалі... Раптам той самы Трухан закрычаў:

— Глядзіце, што я ў кустах знайшоў!

Партызаны абступілі яго, разглядаючы скураную рукавічку.

— Чыя, ніхто не прызнаецца!

Добра ведалі, чыя рэч, і хлопцы, але не спяшаліся адказваць. Нібы гэта была не звычайная рукавіца з труса, толькі да смешнага малая, пашытая поўсцю ўсярэдзіну, — сонца, якое ўсіх абагрэла.

— Гляджу, штосьці ляжыць. Падымаю, ажно...— Шчаслівы Трухан трымаў рукавічку так асцярожна, бытта яна была з павуціння.

Кожны хацеў бы патрымаць яе таксама. А Трухан, бадзяга, на зайздрасць усім, яшчэ ўсадзіў свае брудныя і струпастыя пальцы ў шаўкавістую воўну:

— А цёплая, кхэ!

— Ну ты, абармот! — закрычалі на яго адразу ўсе дружна.— Гэта Стасіна!

— Стасіна?

— Не ведаеш!.. Пакладзі ў будан!

Хлопцы адразу неяк падабрэлі, парабіліся ціхія, паслухмяныя. Яшчэ доўга я заўважаў, як стараліся яны пабыць адзін на адзін з сабой, як свяціліся іхнія вочы.

У групе былі бывалыя сэрцаеды, і кожны з іх меў яшчэ свайго балельшчыка. І як балельшчыкі ні стараліся паглядзець які-небудзь поспех свайго аўтарытэту, Стася была з усімі аднолькава ветлівая. А гэта вельмі інтрыгавала. Бо ў маладосці надта ж хочацца таго, што аніяк не даецца ў рукі!

Яшчэ інакш радыстка ставілася да мяне. Яна ўмудралася гадзінамі быць са мной і маўчаць, гледзячы на мяне

нібы на пустое месца, а ў гэты час яна цікавіла мяне не менш, чым хлопцаў.

Стася была прыгожая і з тых дзяўчат, перад якімі так і хочацца парысавацца ды паказаць сябе з найлепшага боку. Хлопцы і не падазравалі, што радыстка і мяне заінтрыгавала, толькі я стараўся гэта хаваць. У дадатак я быў у горшых умовах.

Гордасць не дазваляла набівацца са сваімі паслугамі, бо гэта выглядала б так, нібы выкарыстоўваю службовае становішча. І пасля сцэны на аэрадроме было брыдка. А прасіць прабачэння не прывучылі мяне змалку. Таму са Стасяй я амаль не гаварыў. Толькі зайздросціў сябрам, што могуць адкрыта ёй зрабіць паслугу, і крадком назіраў, як радыстка з жаночай нязграбнасцю ў ватных штанах месіць снег. Моўчкі ішоў я следам ды лаяў сябе апошнімі словамі за нетактоўнасць.

Так мы і брылі чатыры дні.

## 4

Падыходзілі мы да крыніц. Праклятыя, іх нават не адзначылі на вайсковых картах-кіламетроўках, а ў прыродзе яны, на жаль, існавалі.

Крыніцы гэтыя перасякалі балота ў некалькіх мясцінах. Іх зімой не скоўваў лёд. У вялікі мароз з іх толькі валіла пара, і народнае павер'е сцвярджала, што там зімуюць лебедзі.

У наш лагер вялі тры дарогі. Адна — каля стаянкі атрада Арміі Краёвай [1], яна адпадала зусім. Заставалася другая, далёкая, або трэцяя — праз гэтыя балоты.

Калі б крыніцы замерзлі, у лагер мы прыйшлі б на суткі раней. Так апрыкраў пракляты холад, што мы згадзіліся брысці і скрозь найвялікшыя перашкоды, абы хутчэй дабрацца да цёплых зямлянак. Чамусьці апошнія метры здаюцца заўсёды найцяжэйшымі.

Я адправіў на балота разведчыкаў, а групу павёў на знаёмы хутар. Праз нейкі час мы апынуліся ў хаце.

І тут мае хлопцы рысаваліся перад Стасяй. Удыхнуўшы цёплага паветра, партызаны напоўнілі памяшканне маладымі бадзёрымі галасамі: глядзі, якія мы тут свае, як мы хутка дамаўляемся.

[1] Польскія партызаны дзяліліся на некалькі палітычных груп. Групай Арміі Краёвай камандавалі пераважна былыя пілсудчыкі, да савецкіх партызан яны адносіліся непрыхільна.

— Цётачка, нам бы крыху вады, а то есці ахвота і перапачаваць няма дзе!..

— Ах, божа, то што ж я вам дам, саколікі мае, я не ведала, што будзеце, не гатавала!..

— Кіслая капуста е?

— То е-е-е...

— А хлеб?

— Чаму ж і яму не быць!

— Нясіце місу, толькі поўную!

— Ды кола хлеба, самае большае!

— Сала кавалачак...

— Так з паўпу-удзіка, больш мы не з'ямо-о!..

— І запіць што-небудзь!

— Кароўчынай вадзіцы!..

І пачаліся бразганне, смачнае хрумстанне ды жарты, пасля якіх ад рогату аж уздрыгваў кволы агеньчык лямпы.

Добра наеўшыся мерзлага сала з квашанай капустай, апаражніўшы цётцы ўсе збаны з кіслым і салодкім малаком, хлопцы як сядзелі, так і пазасыналі... Толькі ў куце кешкаліся яшчэ двое.

— Сорам аддаваць яе людзям, такая брудная ў мяне кашуля, а братка ты мой! — паскардзіўся партызан сябру, нацягваючы атрыманую ад гаспадыні свежую кашулю на голае цела.

Цётка яе пасцірае і аддасць мужу, а ты глядзі толькі, каб сумленне было чыстае! — раіў яму сябра.

— Будзь спакойны за маё сумленне!

У гаворку ўмяшаўся дзед — гаспадар хаты. Ён расказаў, як у 1863 годзе адзін польскі паўстанец уцякаў ад царскіх войск ды залез у дупло. Там, казалі, яго і расстралялі, але вымаць не сталі.

— ...Я быў яшчэ хлопцам,— правіў стары.— Спілавалі мы з бацькам дуб, а ў дупле — заржавелая стрэльба, чалавечыя косці, гузікі, спражка. Селі мы і думаем: што з гэтым рабіць? Закапалі ля трыбы ўсё, на канец крыж паставілі. І цяпер яшчэ ён там дагнівае...

Радыстка перад печчу пераабувала валёнак і строга па інструкцыі трымала аўтамат між каленяў. Цяпер можна было добра прыгледзецца да дзяўчыны: яна глыбока задумалася, не слухала ні хлопцаў, ні дзеда, не адчувала і майго позірку.

У яе і Данусі я знайшоў штосьці агульнае: аднолькавую манеру гаварыць намёкамі і трымаць сябе незалеж-

на, з годнасцю. Стася нават прычоску і вопратку пры нашых умовах умела захаваць у такім парадку, па які, мабыць, здольны адно полькі.

Даўно я чакаў моманту для такой размовы. У мароз яшчэ не паспею прачнуцца, а падумаю, што з намі — Стася, устаю зараз жа і з вечара да раніцы асцярожна і цярпліва вартую. Нарэшце адпаведная хвіліна надышла... Трэба развеяць дзяўчыну, падбадзёрыць, я ж — камандзір.

Стася скончыла пераабувацца, устрасянула галавой, рассыпала цёмна-русыя кудзеркі і прыгаршчай правяла па валасах ад ілба да патыліцы з аднаго боку галавы, потым з другога — дакладна як некалі рабіла гэта Данусся над Віліяй. Яе аўтамат быў надта запацелы.

— Вытрыце яго, бо адразу заржавее! — падаў я анучку.— Праўда, праўда, заржавее! — І спахапіўся, што выражэнне «праўда-праўда» — Данусіна.

— Дзякуй,— узяла яна анучку ды абыякава стала вадзіць ёй па метале.

Я ўспомніў, што яе імя — Стася. Замест «малако» і «званіць» гаворыць «моoко» і «дзваніць». Дайшоў і да сэнсу дзедавага апавядання. Падумаў, што палякі ў часы небяспекі куды больш салідарныя, чым мы: яны майстры рабіць паўстанні, і наўрад ці хто лепш за іх умее канспіравацца. У падпольнай рабоце нам якраз і не хапае іхняй тонкасці. Нядаўна ў Варшаве фашысты знялі польскі надпіс з помніка Каперніку і замянілі яго нямецкім: «Дэм гросэн дойчэн астраномэн». Ноччу падпольшчыкі знялі шыльду і на цокалі зноў па-польску вывелі: «За тое, што вы хацелі мяне зрабіць фольксдойчам, я прадоўжваю гэтую зіму на шэсць тыдняў. Мікалай Капернік».

Палякі гордыя. Люблю гордых людзей.

А яшчэ яны маюць цікавы звычай: жанчын называюць паняй, незамужніх дзяўчат — паненкамі, а мужчын усіх — і міністра, і столяра — пан; у ветлівай форме да чалавека звяртаюцца чамусьці ў трэцяй асобе...

Кажуць, што з усіх жанчын полькі вылучаюцца вытанчанымі густамі, пачуццем прыгажосці, як немкі — акуратнасцю.

Калісьці мы, беларусы, непрыязна адносіліся да іх. Каб часамі павучыцца ў палякаў, колькі мы сказалі ў іх адрас абразлівых слоў? Я нават на Данусю глядзеў спачатку варожа з-за яе нацыянальнасці — смех!

— Вы полька? — спытаўся я з пашанай.

Дзяўчына непрыязна ўскінула на мяне шэра-сінія вочы.

— Ну і што? — адрэзала яна, бытта я збіраўся яе пытаннем абразіць.

Так мне і трэба — знайшоў час для знаёмства! Чацвёра сутак пераходу на такім холадзе для яе было занадта. Дзяўчына зрабілася запальчывай:

— А ведаеце вы, што два генералы Парыжскай камуны, што Фелікс Дзяржынскі былі таксама палякі?! Мой тата — член ЦК Польскай кампартыі і загінуў у Інтэрнацыянальнай брыгадзе ў Іспаніі! Гэта вас таксама здзівіць?

І Стася ад стомы і ад таго, відаць, што партызанскае жыццё не такое, якім сабе ўяўляла, расплакалася. Плакала, не хаваючы твару, з крыўдай, нібы я ўсяму віной. Гляджу я на яе вінавата ды не ведаю, што рабіць.

5

У хату ўваліліся разведчыкі:

— Камандзір, крыніцы не замерзлі!

Хтось адпусціў вострае слова ў адрас Арміі Краёвай, але партызана зараз жа абрэзалі — каб не слухала полька.

Трэба было вырашаць, як ісці. Я ўявіў сабе радыстку ў вадзе, убачыў нават, як яна вылазіць з ледзяной тоні ў прыліплай і пацямнелай гімнасцёрцы, як затым панцырам змярзаецца яе вопратка... Яна калі і пройдзе брод, дык позтым наўрад ці вытрымае! Колькі яе? Кілаграмаў шэсцьдзесят!..

— Усё роўна пойдзем бродам! Пад'ём!

Пакуль прачыналіся партызаны, бразгалі зброяй ды пазяхалі, Стася непрыкметна выцерла слёзы.

Ужо развіднела, але немцаў мы не баяліся: блізка партызанскі лагер. На балоце з крыніц узнімалася пара, нібы пад снег нехта закапаў катлы з варам.

— Ну, хлопчыкі, рыхтуйцеся прымаць ванны!

— Ад раматусу!

— Ого, па-лаціне ўжо загаварыў!

— І па-літоўску ведаю! Па-нашаму Нёман, па-іхняму — Нямунас. Баравік — баравікас!

— А дурань — дурніс!

— Адзін — ноль, у тваю карысць!.. Чаму валёнак не здымаеш?

— Яны воданепранікальныя! — паддаваў сабе бадзёрасці партызан і адважна пакрочыў у ваду.

Затрашчала крохкая альшына: хлопцы выламвалі са-

бе тычкі. Разважаць больш ніхто не збіраўся. Усе дружна паздымалі кажухі, пінжакі, разам з аўтаматамі паднялі вопратку над галовамі і адчайна закрычалі:

— О-ох!.. Мама, мама, мама ро-одная, ох, да чаго ж вада хало-одная!..

— О, р-р-ропужэ, о, вельняй грыбіету! — як сказаў бы наш Шымкас.

— Каравул!

— Ух-х!

І вось ужо прыціхлі, бо ўсе апынуліся па пахі ў ледзяной жыжцы. Адна Стася нерашуча тапталася на беразе, але і яна пачала расшпільваць кажух.

— Я вас перанясу! — аб'явіў я радыстцы.

У вачах дзяўчыны з'явіўся жах.

— А я не хачу... Пайду, як усе...

Гэтага з мяне было ўжо занадта.

— Мяне не цікавіць, што ты хочаш, чаго не хочаш! — зазлаваў я.— Тут камандую я, а ты будзеш мяне слухаць! І не думай, што насіць цябе на руках вялікае шчасце!..

Стася паўзіралася на мяне з разгубленай паслухмянасцю.

Я аддаў яе рэчавы мяшок, аўтамат бліжэйшаму партызану, узяў дзяўчыну на рукі і пакрочыў уніз.

Пякучая, як агонь, вада даходзіла да грудзей, але цяжар дадаваў мне ўстойлівасці. Толькі часамі я правальваўся глыбей, і тады Стася інстынктыўна хапалася за маю шыю, але зараз жа аднімала рукі і вінавата ўскрыквала:

— О-ей, даруйце, я незнарок!

— О-ей, я вас зноў!..

Гэтым яна толькі перашкаджала і адцягвала ўвагу.

— Сядзі і маўчы! А то кіну ў ваду, і будзеш ведаць!..

Стася змоўкла.

Далей яна нават старалася мне дапамагчы. Сядзела нерухома, калі не дыхаў я, пераставала дыхаць і яна. Паміж намі ўстанавілася блізкасць. Стала яе шкада. Чаго я на яе злуюся?!.

— А ведаеш, я памыліўся... Цяпер бачу, што з-за цябе можна і памокнуць...

— Та-ак? — разгублена працягнула яна.

Але зараз жа дайшоў да яе жарт, у вачах з'явілася ігрывасць, і яна стала яшчэ сімпатычней.

І тут, на марозе, брыдучы па пахі ў вадзе, якая пякла агнём, забівала дых, я ўспомніў, што і Дана ўскрыквала «о-ей!». Пыркі рэзалі твар і вочы, застывалі на каўнярах,

а мне хацелася верыць, што валасы, якія вылазілі з-пад яе вушанкі мне на лоб,— Данусіны.

Нарэшце мы выбраліся з ледзяной тоні.

— Тут ужо суха, пусціце! — ускрыкнула дзяўчына ды скочыла на зямлю.

Хлопцы нас ужо чакалі. Яны ляскалі зубамі і скакалі, што вар'яты. З мяне ў снег сцякала вада і валіла пара, бытта вопратку абліў хто варам. Стася глядзела на ўсё гэта з вінаватым спачуваннем. Я яе разумеў. Яна хацела падзякаваць, але ёй, відаць, здавалася — вельмі мала аднаго слова.

Нарэшце я праламаў лёд між намі!

— Не бойся, нічога са мной не здарыцца. Праз гадзіну высахну! — супакоіў я дзяўчыну.

— Камандзір-р-р-р, ведаеш, што я пр-р-рыдумаў? — ляскаючы зубамі, ледзь вымавіў Трухан. Яго язык нібы спатыкаўся на «р».

— Кажы.

— Калі зловім Гітлер-р-ра, халерр-ру, пакуль адсылаць у Маскву на р-р-расстр-р-рэл, давай пр-р-ратр-р-рымаем зіму фюр-р-рэр-ра ў кр-р-рыніцах!

— Толькі злаві! — дазволіў я пад рогат сяброў.

Першы раз шчыра і непасрэдна ўсміхнулася і радыстка.

— Ну, пайшлі! — прыязна паказаў я дзяўчыне ісці першай.

І мы падаліся далей ужо сябрамі. Стася часта і заклапочана азіралася на мяне, бытта хацела ўпэўніцца, ці жывы яшчэ, а мне здавалася, што гэта Дануся.

Заныла сэрца.

## 6

Вярнуліся мы ў лагер апоўначы. Сябры разышліся па сваіх зямлянках адсыпацца. Я далажыў камандзіру, здаў радыстку і таксама адправіўся да сябе.

У зямлянцы — здаровы партызанскі храп. Вобмацкам знайшоў я свабоднае месца і ўціснуўся на нары. Прыемная цяплынь агарнула мяне ўсяго, і я адразу заснуў каменным сном змардаванага ўшчэнт чалавека.

Прачнуўшыся, пачаў даходзіць да ладу, дзе я і што са мной. Панаваў паўзмрок. Падала толькі святло ад печкі, у ёй весела патрэсквалі сухія дровы. Побач на саломе — таварышы. Партызан — хадзячая энцыклапедыя — кагосьці павучаў:

— ...Назва «рэвальвер» паходзіць ад англійскага слова «ту рэвольв», што па-нашаму азначае — «круціцца». Рэвальвер адпавядае нашаму нагану, бо ў ім круціцца барабан...

Я здагадаўся, што ўжо вечар, а я праспаў канец ночы і цэлы дзень. Цела маё абнавілася, стала свежае і моцнае. Толькі на душы была нейкая цяжкасць.

Калі хлопцы ўбачаць, што не сплю, засыплюць пытаннямі: як садзіўся самалёт на возеры, ці быў лётчык з пагонамі (якраз іх тады ўвялі і ўсім надта ж было цікава — якія яны!), як перайшлі крыніцы, дзе стаяць немцы... А мне цяпер зусім не хацелася дзяліцца ўражаннямі, я прагнуў пабыць адзін. Таму я і не варушыўся. Пачаў успамінаць: што такое здарылася? Ага, Стася! І зараз жа — Дануся!

— ...Разумееш? А пісталеты маюць плоскую рукаятку і ў ёй — магазін. Могуць быць і браўнінгі, вальтары, парабелумы — усе маркі заводаў, бы наш «ТТ»...

От жа заладзіў тэму!

Гутарылі маладыя, неабстраляныя партызаны. Зброя для іх была яшчэ рамантыкай, як для мяне некалі ў Вільні. Цяпер мне яна здавалася ненавісным і цяжкім кавалкам жалеззя, я з велізарнай прыемнасцю закінуў бы і свой пісталет, і аўтамат у кусты, калі б не трэба было ваяваць з немцамі.

Асцярожна, каб не шастаць саломай, я падняўся і вышмыгнуў з зямлянкі.

Мяне апанаваў нейкі неспакой... «Нават кольт украла ў бацькі. Узняла з-за мяне ліцэй супроць шавініста Залескага. Прызналася сама ў каханні. На якія толькі не ішла ахвяры!.. А я? Адно цалаваў».

Раптам я выразна ўспомніў пах яе падатлівага цела. Дануся выразна паўстала перад вачамі і выклікала тужлівы боль. Мне, мужчыне, як цяжка ў вайну, а ёй?.. Захацелася яе, слабую, абараніць, заступіцца, дапамагчы. Я быў упэўнены — яна не за граніцай, яна — у Вільні.

— А-у-у-у! — апрытомнела мяне далёкае выццё ваўкоў.

Я прыслухаўся.

Адзін драпежнік выў нізка, да жудасці паныла і тужліва. Потым да яго далучылася скавытанне, поўнае пакут і болю. Азваліся і іншыя. Лясное рэха падхапіла гэтыя гукі, памножыла іх, і праз хвіліну не стала чуваць асобных галасоў, гучала толькі адна жудасная сімфонія. У парты-

занскіх буданах з перапуду захраплі коні ды жаласліва, у смяротнай і бездапаможнай трывозе забляяла авечка.

Я зусім апамятаўся і паглядзеў наўкола.

Стаяла месячная ноч без ветру. Перад маім носам пралунала алмазная сняжынка, збітая рэхам з галіны, і згубілася сярод мільярдаў іншых на іскрыстым снезе. Я быў ля вялізнага будана — партызанскай кухні. Скрозь дубцы яго працэджвалася ніклае святло ад вогнішча.

Ваўкоў, мабыць, патрывожыў наш патруль, бо выццё раптоўна абарвалася. На кухні нехта моцна дзьмуў, а заіклівы дзіцячы галасок пытаўся:

— Т-т-татка, а ч-чаму, каб агонь гарэў, на яго ты дзьмухаеш, і к-к-каб загасіць запалку, т-т-таксама т-трэба дзьмухаць?

— І каб выстудзіць суп — таксама дзьмухаюць!.. От, гэтак ужэ е, сынок!..

— А ч-чаму так, т-тата?!.

Гэта наш кухар Васіль са сваім сынам. Васіль яшчэ толькі за вячэру браўся. Жонку яго гітлераўцы расстралялі за раненага байца, якога яна карміла. Фашыст, што забіў жанчыну, потым загадаў пяцігадоваму Лёніку пашукаць сякеру, каб раскалоць палена. Хлопчык падумаў, што фашыст хоча яго засекчы, і з таго моманту стаў заікам. Ужо некалькі месяцаў кухар быў у лесе з Лёнікам, і сын не адыходзіў ад бацькі ні на крок.

Расклаўшы пад катлом агонь, яны грэлі рукі. Скрозь шчыліны будана я іх бачыў нібы праз рэшата. Бацька сядзеў на калодцы, між каленяў трымаў малога і быў заняты сваімі думамі. Вушаначка хлопчыка вісела на грудзях, зачапіўшыся матузкамі за гузік паліто.

Кухар пачухаў запэцканы ў сажу нос аб хлопчыкаў вожык, чыхнуў і смачна пацмокаў ротам. Не адказаўшы сыну на апошняе «чаму», ён надзеў малому вушаначку, засадзіў за халяву нажыска, узяў Лёніка за руку:

— Няхай сабе вада грэецца, а мы хадзем.

— К-куды?

— Завяду цябе ў зямлянку да дзядзькі Мікодыма.

— А т-ты што б-будзеш рабіць?

— Пайду рэзаць авечачку хлопцам на вячэру!

— І я з табой!

— Не трэба, сынок, каб ты на гэта глядзеў!

— Ч-чаму?

— Рана табе!

— Ай, мо-ожна! Ты с-сам гав-ворыш, што я ўжо в-вялікі!

— Э-э, дурач-ок...

Бацька з сынам набліжаліся, і я схаваўся за густую елку.

— Т-т-татка, а ч-чаму мы ідзём і м-месяц ідзе? І ч-чаму ён такі парэзаны?

— Так табе здаецца!

— Не-е, татка, п-пра-аўда!..

Падгледзеная спэнка мяне растрывожыла. Я адчуў пякучую зайздрасць да Васіля і ўнутраную цягу да малых. Захацелася патрымацца за дзіцячыя рукі, падыхаць іхнім пахам, падурэць з малымі: з якой бы прыемнасцю адказваў на Лёнікавы пытанні!..

Пачалі стынуць ногі, і я павярнуў да дзвярэй.

## 7

Калі я вярнуўся ў зямлянку, адзін наш хлопец апавядаў, як летам трапіў у лапы немцаў і як яго ўратавала невядомая дзяўчына. Расказ гэты я чуў мо дзесяць разоў, але не звяртаў на яго ўвагі. А цяпер з'явілася надзея і нават упэўненасць: Дануся недзе гэтаксама ратуе людзей, і мне трэба абавязкова ёй дапамагчы. Інакш загіне — яна ж зусім не прыстасаваная да цяжкасцей, а тым больш да нястачы ваеннага часу.

Я ўпаў на нары, лёг на спіну, падклаў рукі пад галаву і сціснуў губамі саломінку.

У Трухана засвярбела раненая спіна. Ён пачухаўся, падлажыў пад сябе аўтамат, паспрабаваў пацерціся аб дыск, ды было нязручна. Хлопец вылаяўся, падышоў да слупа, які падпіраў столь, ды пачаў церціся аб сучок.

— Кхэ-э!..

— Здурэў? — выбухнуў я.

— А табе што? — агрызнуўся ён, сонны.— Ляжы, калі ляжыш!

— Пясок у вочы сыплецца, дубіна!

— Ад яловага пня чую! — Ён спакойна працягваў занятак.

Гэта мяне ўжо вывела з раўнавагі.

— Перастанеш, ці мне табе заехаць?!.

— Но, но, лягчэй!..

— Што вы, хлопцы! — мірылі нас партызаны.— Пеця, не чапай слупа, і праўда, сыплецца!..

— Халерная рана зажывае, ведаеш, як свярбіць? Каб табе так, ты на сцяну палез бы!

— Ідзі на двор, патрыся аб сасну!

— Паны, маць вашу... пяску ўжо збаяліся! Ат, чорт вас бяры!..

Трухан упаў на салому і адразу захроп.

— Што з табой, Ваня? Чаму ты такі стаў раздражнёны, як баба, змрочны? — звярнулі ўсе ўвагу на мяне.

— Хіба няпраўда?! Чухаецца, як слон каласлівы, а яшчэ агрызаецца! Во, нават на зубах трашчыць!..

— Я ведаю, чаму ён такі,— у яго таксама ные рана — сардэчная! — пажартаваў сусед, нават і не падазраючы, як блізка да праўды.

— Гэта іх усіх радыстка параніла, пакуль прывялі яе з возера!

— А нічога не скажаш, спрытная полечка!

— Адна фігурка чаго варта!

— Халера, штосьці нездаровіцца,— прамовіў я.

— Хлопцы, даць любоўных капель Барташэвічу!

— Кладзіся ля печы! У маёй біклажцы малако ад шалёнай каровы — пяршак! Глынеш — да раніцы нібы рукой здыме, гарантую!

— Добра, толькі схаджу да начальства...

Усё раптам здалося мне малазначным, агарнула дзікае нецярпенне пабачыць Данусю: вось зараз, у гэтую хвіліну — я ўжо не мог чакаць ні мінуты!

Я накіраваўся ў зямлянку камандзіра брыгады. Раскажу яму падрабязна — не палена, зразумее і адпусціць з брыгады на два тыдні. Больш мне і не трэба... Эх, каб пусціў, панёсся б у Вільню як на крыллях!

У камандзірскай зямлянцы над рацыяй сядзела Стася. У яе пышных валасах блішчала нікеляваная палоска навушнікаў.

Дзяўчына ўся ператварылася ў слых, уставілася вачамі ў сцяну, бытта за тоўстымі бярвеннямі з пабляклай карой хавалася нешта надта цікавае і, апрача яе, ніхто гэтага не мог бачыць.

— У вас работа сама...— замяўся я.

— А, заходзь, Ваня, заходзь, чаго стаў на парозе?

— Я думаў, што вы...

— Ды заходзь і зачыняй дзверы, бо холаду напусціш! — прашаптаў другі раз камбрыг і паказаў на радыстку: — Не перашкаджай адно! Упершыню выходзіць у эфір на сувязь з Масквой!

— Мо по-отым...— разгублены і няўпэўнены, не выпускаў я клямкі ад дзвярэй.

— Як ведаеш, упрошваць не буду. Адно хутчэй — туды ці сюды!

— Лепш у наступны раз, таварыш камандзір! — кінуў я, злосны на сябе за такое бязволле ды як ашпараны вылецеў з зямлянкі.

Цяпер толькі я зразумеў, што па асабістай справе ніхто ў такі час у Вільню мяне ні ў якім выпадку не пусціць. Смешным выглядаў бы я, каб пачаў апавядаць камбрыгу, што калісьці там меў знаёмую генералаву дачку, што з-за яе яшчэ і цяпер сохну... Ці ж не дурань я?

Здзейсніць маё жаданне дапамог выпадак. Але цяпер раскажу, што здарылася, калі я вярнуўся ў зямлянку.

## 8

Калі я вярнуўся ад камбрыга, хлопцы сядзелі на нарах і моўчкі глядзелі на перамерзлага да касцей партызана. Ён разуваўся ля печкі. Я з пытаннем паўзіраўся на сяброў.

— Ваня, Зіны ўжо няма! — шапнуў нехта з цемры.

— Як няма? — здзівіўся я, не разумеючы яшчэ, пра што ён.

— А так, як бывае: сёння ты ёсць, а заўтра цябе вароны дзяўбуць, калі свае не паспелі закапаць...

А я ўсё яшчэ не разумеў. Было толькі ясна, што здарылася няшчасце, і ўсе хаваюць вочы, бытта я ў той бядзе вінаваты.

— Трухан! Пеця, прачніся! — будзіў нехта майго суседа.— Кварцёнак загінула!..

І толькі цяпер да мяне дайшла поўнасцю і ўразіла вестка. Чорт вазьмі, які я нікчэмнік — апошнія дні нават не ўспомніў пра Зіну!.. Дык гэта яе ўжо няма?!. Не можа быць!.. Па спіне прабег холад, дайшоў да галавы, аж замарочыла мазгі.

— Цьфу! — плюнуў разбуркаиы Трухан.— Кожны дзень так і чуеш — таго няма, гэтага няма!.. Цяпер — Зінка!.. Мы ж у адных санях з ёю на заданне ехалі!..

— Ты прынёс гэту навіну? — сурова спытаўся я ў незнаёмага партызана.

Ён нічога не адказаў. Толькі раскруціў памалу сырыя анучы ды падсунуў ногі да агню. Калі з іх паваліла пара, хлапец крэкнуў:

— Любата-а!

Ясна, ён. І Зіна сапраўды няма. І ніколі больш не будзе.

Вось як яна загінула.

## 9

Выканаўшы заданне, група вярталася ў лагер і заблудзілася. Партызаны вырашылі дачакацца світання, каб разгледзецца; ляглі яны ў баразну і заснулі. Калі, нарэшце, развіднела, усе папрачыналіся і аслупянелі: перад імі былі амбразуры нямецкага бункера, а вакол — чысцюткае поле, толькі кіламетры за два цямнеў грэбень лесу. Што рабіць?

— Не ўпусціце моманту! — кінула Зіна.

Яна схапілася і пабегла па адкрытым месцы, адцягваючы на сябе ўвагу немцаў, каб даць магчымасць сябрам непрыкметна адпаўзці за бліжэйшы пагорак.

Іхні кулямётчык, мабыць, спачатку разгубіўся і доўга не мог пацэліць у адзінокую фігурку. Тады обер-яфрэйтар адпіхнуў нагой кулямётчыка і прыпаў да станкача сам. Обера гэтага мы ведалі. Прыбыў ён сюды пасля ранення на Усходнім фронце: ён быў выдатным стралком. Першай жа чаргой немец скасіў рухомую фігурку, і яна ўпала перад хутарам на загон.

З бункера ў поле сыпанулі немцы. Перавярнуўшы кованым ботам Зініна цела, обер-яфрэйтар доўга ўглядаўся ў твар дзяўчыны. Тады нагнуўся і падняў тульскую вінтоўку. Павадзіўшы пальцам па бляшках, якімі быў абіты прыклад, здзіўлена паглядзеў на салдат. Тыя толькі паціснулі плячамі. Сапраўды, было незразумела, што дзяўчына з такой зброяй збіралася тут рабіць.

— Guck mal! [1] — закрычаў нехта.

І толькі тады немцы ўбачылі маленькія фігуркі партызан, якія ўжо дабягалі да лесу.

Чаму так сябе паводзіла партызанка, першы здагадаўся обер. Ён паківаў галавой, з захапленнем аб'явіў:

— Heldin! [2]

Пра гэта расказаў нам сувязны з хутара, на вачах у якога адбылася апісаная сцэна.

Потым паліцаі здзекаваліся з яе цела.

Даведаўшыся, дзе Зіна засталася на полі, я прымаца-

---

[1] — Паглядзі! *(ням.)*

[2] — Гераіня! *(ням.)*

ваў у наступны дзень да сядла лейцы і, калі сцямнела, ускочыў на каня. Мы былі навучаныя горкім вопытам: забітых партызанаў ворагі часта мініравалі.

Немцы з бункера раз-пораз кідалі ракеты, і мне з канём дабрацца да месца было не проста. Нарэшце я знайшоў цела, асцярожна прывязаў канец лейцаў да Зінінай рукі, адвёў каня наколькі дазваляла ляйчына, сам лёг у баразну, тузануў повад і пацягнуў гнядога на сябе.

— Бу-ум! — раздаўся страшэнны выбух, і каня з сілай кінула на зямлю.

## Раздзел пяты

### 1

З віленскага гета ўцякло да нас некалькі хлопцаў.

— Ратуйце ў Вільне народ! — узмаліліся яны.— Чаго вы сядзіце тут, загараеце? Ведаеце, што там робіцца?!

Кожны з іх на свае вочы бачыў жудасную трагедыю дзесяткаў тысяч няшчасных людзей. Там заставаліся іхнія сем'і, а фашысты ўжо збіраліся прыступіць да ліквідацыі гета. З вялікай масы яўрэяў там не знайшлося сілы, каб па прыкладу беластоцкага ці варшаўскага гета арганізаваць узброенае супраціўленне.

Паступова немцы ў віленскім гета перастралялі найбольш мужных. І цяпер тысячы людзей — старых, жанчын і дзяцей, загнаных за мураваныя сцены ў старажытныя кварталы горада, засталіся без важакоў. Гэта выкарыстаў савет гета, так званая юдэнрада.

Віленская юдэнрада складалася з прадстаўнікоў набожнай яўрэйскай буржуазіі. Замест таго каб выводзіць людзей у лясы да партызанаў або паднімаць хоць на якуюнебудзь барацьбу ў горадзе, усе яны прапаведавалі пасіўнасць.

Адна частка рады даводзіла: чым больш даваць гітлераўцам падарункаў, тым большы шанц перажыць вайну. І цяклі ад іх фашыстам каштоўнасці. Нават у выглядзе імянных свастык, зробленых выдатнымі майстрамі ювелірнай справы з чыстага золата.

Шматлікія штурмбанфюрэры, оберротэнфюрэры і розныя ляйтары ахвотна бралі гэтыя каштоўнасці, прыязна ўсміхаліся і ў той жа час рыхтавалі на станцыі эшалоны з пустымі вагонамі, каб вывезці вызначаных ахвяр у Трэб-

лінку — месца знішчэння! А яшчэ фашысцкія главары наносілі візіты членам юдэнрады, урачыста дзякавалі за дапамогу, а потым хапалі іх ды вывозілі на расстрэл, толькі ўжо не ў славутую Трэблінку, а — разам з палоннымі, заложнікамі-палякамі, за горад, у звычайныя Панары.

Другая частка самаўрада была бедная і дарыць немцам не мела чаго. Каб суцешыць людзей, гэтыя члены аднавілі запылены біблейскі закон.

«Што ж,— гаварылі яны,— калі нам выпаў такі лёс, давайце замкнёмся духоўна, пакарымся, загінем як адзін, ляжам немцам на сумленне — нас жа яшчэ чакае загробнае жыццё!.. А тых, хто паддаліся немцам і дапамагаюць расстрэльваць сваіх братоў, праклянём!..»

І пры ўпамінанні якога-небудзь здрадніка юдэнрада ўвяла звычай пляваццa і дабаўляць:

«Няхай імя яго будзе праклятае навекі!..»

Тым часам рабіны ўнушалі пастве, што Гітлера паслаў бог для выпрабавання яўрэяў, таму трэба сціснуць зубы, цярпець, не гневаць Іяговы скаргамі і непаслухмянасцю.

Вось што адбывалася ў віленскім гета ў пачатку 1943 года.

Трэба было нешта рабіць, нейкім чынам папярэдзіць людзей пра тое, што іх чакала. І нашае камандаванне вырашыла дапамагчы ім уцякаць у лес.

Ва ўсіх штабах абменьваліся разведданымі пра горад: удакладнялі адрасы сувязных, адзначалі на картах небяспечныя месцы. У атрадах рыхтавалі хлопцаў для паходу ў Вільню. Такое заданне, вядома, выпала і мне, бо мала хто гэтак ведаў куткі горада ды яшчэ валодаў нямецкай мовай.

Некалькі дзён я патраціў на падрыхтоўку: завучваў на памяць адрасы, знаёміўся з дакументамі са штаба злучэння: яны датычылі нямецкага гарнізона. З гэтых дакументаў я і даведаўся, што Данута Янкоўская цяпер там працуе адной з перакладчыц у нямецкай камендатуры.

У палове лютага я адправіўся ў дарогу. Лёс некаторых вільнян залежаў ад поспеху маёй місіі.

...Яшчэ летам неяк выпаўзлі мы на аўтастраду Беласток — Ваўкавыск ставіць міны. Зірнуў я тады на асфальт і сваім вачам не паверыў. Цвёрды, як граніт, панцыр аўтастрады, што не паддаваўся і лому, прабіў звычайны баравічок: беленькі, далікатны... Дзяўбці асфальт, дзе ён прабіўся, было б лягчэй, але мы яго пашкадавалі і тол закалалі ў іншае месца.

Цяпер, нагадваючы паход у Вільню, успамінаю той грыб: яшчэ невядома, каму з нас было цяжэй — яму асфальт праламваць ці мне — у горад прабівацца!

Вільню фашысты прызналі літоўскім, але, каб адных людзей нацкаваць на другіх, адміністратыўную ўладу аддалі былым зладзеям, шпікам ды правакатарам з палякаў. Гэтыя падонкі выслугоўваліся перад акупантамі, і ашукаць іх было цяжэй, бо яны ведалі ўсе хады і выхады.

Выйшаў я з групай, якую штаб паслаў пад Новую Вілейку. Ішлі мы толькі ноччу, варылі сабе ежу, жартавалі, смяяліся; удзень зашываліся ў гушчар і заміралі. Але як мы ні сцерагліся, а стычак з немцамі не пазбеглі. Асабліва мне ў памяці апошнія дні паходу.

## 2

На пятыя суткі перадняваді мы ў лесе і завідна ўвайшлі ў незнаёмую вёску. Тут група мелася збочыць на ўсход да Новай Вілейкі, а я — на поўнач.

Трэба было распытаць дарогу. У незнаёмым месцы найлепш размаўляць з селянінам без сведкаў. Я аддзяліўся і пакрочыў да аблюбаванай хаты.

Пад сцяной капаўся ў снезе стары, з-за пояса тырчала ў яго сякера.

— Дзень добры, бацька! Што робіце?

— Дзень добры... Хаваю топаль ад марозу,— уступіў чалавек са мной адразу ў гаворку.— Сабака, няма на яго скanання, выграб зноў!

— Топаль?

— Але. Яшчэ перад калядамі ездзіў у лес па дровы, то выдраў з мохам пару штук. Прывёз, кінуў у снег, падумаў: вясной пасаджу, а хто будзе жыць — дачакаецца дрэва. Дык сабака...

Яго агрубелыя рукі былі без рукавіц. На скуры паміж указальным і вялікім пальцам правай рукі зяяла вялікая трэшчына, счэпленая суравой ніткай. Вусы дзеда парыжэлі ад цыгарак. Вайна, бяда, а ён яшчэ дрэвы садзіць збіраецца. Аптыміст!..

Ад яго ўчынку, ад выгляду, мілай і роднай гаворкі, якую пачуеш толькі ля Вільні — у гэтым кангламераце беларусаў, палякаў і літоўцаў,— павеяла такім мірным жыццём...

— А яно добрае дрэва? — уздыхнуў я, мяркуючы, з якога боку прыступіцца да чалавека.

— О-го, топаль — цвярдзей за дуб!

«Адкуль цвярдзей — не з той пароды!»

— Ну-у?! — прыкінуўся я.

Дзядзьку бачыў я наскрозь. Стары мяне непрыкметна разглядаў, слухаў, відаць, уяўляючы, як будзе апавядаць суседзям пра дзіўнага асілка з аўтаматам: партызана не партызана, паліцая не паліцая, бандыта не бандыта.

Мы хвіліну памаўчалі. З такой пароды вясковыя людзі ніколі не пакажуцца табе адразу. Трэба было неяк асвоіць яго з сабой. Але ж як гэта зрабіць за некалькі хвілін?

— Фабрычная? — выцягнуў я ў старога сякеру і паспрабаваў вастрыё.

— Кавальская!.. Ты мне даплачвай, і я фабрычнай нават у рукі не вазьму. А гэта — агонь, а не сякера!

Цярплівасць мая скончылася, дыпламатыя надакучыла. Я адкрыта спытаўся пра дарогу да вёскі, ад якой, я ведаў, недалёка ўжо і Вільня.

— Вёрст трыццаць з гакам! — ахвотна адказаў дзед і паказаў рукой: — Туды, на Сыраежкі, Гліняны...

Даведаўся...

Вярста ў кожнай вёсцы розная, а «гак» — паняцце шырокае. Ад старога больш, відаць, не вывуджу звестак. Дзе па дарозе стаяць немцы, чалавек наўрад ці скажа. Прызнацца, што я партызан, не паверыць. Паліцаі пераапранаюцца пад нас, правакуюць людзей, а потым на месцы іх і расстрэльваюць. Ды невядома — «чырвоны» ты, дзеду, ці «белы»...

Я развітаўся з ім і пайшоў да хаты, ля якой на плоце круціўся ветрачок.

### 3

Бедна жылі ў той хаце. Гнілая падлога. Нізкая столь. Паўзмрок. Сырасць. Холад. У куце на саломе — цяля з засохлым кончыкам пупавіны.

На стук дзвярэй адвярнулася ад печы насцярожаная жанчына.

— Дзень добры, цётка! — пераступіў я парог, нагінаючы галаву.

— О, зноў нанесла нялёгкая! — буркнула кабета.

Дзяўчына, якая падмятала хату, аж села ад страху на табурэтку.

Вось дык прыём.

Партызаны былі вялікімі аптымістамі і ўмелі не звяр-

тацъ увагі на падобныя дробязі. Я закінуў рэмень аўтамата на шыю, сеў ля стала на лаве, дастаў хлеб і сялянскую каўбасу, пачаў есці: не бурчы, бабка, мне нічога ад цябе не трэба! Супакоішся — пагаворым!

Раззлаваная жанчына з чапялой у руках мітусілася некалькі хвілін без мэты па хаце. З-за печы паказалася ўскудлачаная галоўка з цікаўнымі вачаняткамі, пачуўся шэпт:

— Мам, гэта партызан?

Цётка прамаўчала.

— Ну, мамка, скажы — гэта партызан? — не адставаў малы.

— А хай іх халера!.. Немец бацьку твайго забіў праз іх і нас яшчэ падушыць, што рудых мышэй! — Жанчына са злосцю ўдарыла цяля апоркам.— Выцягнулася, гадзіна, сярод хаты, каб ты акалела!.. Данута, чаго расселася як пані! Бяры вядро, ідзі конскіх яблык назбірай свінням!.. Каму кажу, ну!..

— Паспею яшчэ...

Мне адразу расхацелася есці.

Але злавацца на жанчыну не было прычыны. Забітая і цёмная кабеціна была далёкая ад таго, што адбывалася вакол, і па-свойму мела рацыю. Ды і мужык мог зламаць галаву за нашага брата выпадкова...

Дарэмна сюды ішоў. Кепска, калі трапіш у вёску, дзе няма ні адной знаёмай душы.

Я паглядзеў на дзяўчыну на табурэтцы. Світэр на ёй вісеў нібы на пудзіле. Бледна-сіні твар. Гнойныя павекі і тлустыя валасы, бытта абсыпаныя попелам, а называецца, як у насмешку... Данутай. Бедная, нават ад роднай маці не чуе ветлівага слова. У хаце, мабыць, ад пачатку вайны не было і кавалка хлеба, ва ўсім адчувалася запусценне і адзічэнне, якое прынесла вайна.

Зрабілася няёмка, што гаротную і нешчаслівую сям'ю стаўлю пад небяспеку.

Побач на лаве ляжаў брусок. Я схаваў ежу, паклаў брусок на падаконнік і пачаў вастрыць фінку. Па замураваных грунтоўна марозам шыбах мільганулі цені — за акном прайшлі людзі. Відаць, нашы хлопцы...

Раптам знадворку нехта рвануў дзверы, і ў хату бухнуў клуб пары. На парозе вырас паліцай!

— Ці я не казала?!.— з варожым і роспачлівым абурэннем віскнула цётка.

Па яго паставе я зразумеў, што паліцаяў тут многа.

і адчуў, як ад страху агортвае мяне хваля холаду і здранцвення. Спачатку паралізавала ногі, потым зайшлося сэрца, запякло ў скронях і зрабілася млосна.

Але ў такім стане быў я з секунду.

«Спакойна, толькі без панікі!» — цвярдзіў я, беручы сябе ў рукі, застаючыся сядзець спіной да дзвярэй, павярнуўшы назад адно галаву.

— А-а, папалася птушачка! — пераможна і зларадна закрычаў паліцай, убачыўшы мяне нарэшце ў паўзмроку.

— Мама! — кінулася дзяўчына да маці.

— Магіла нам, дзеці!..

— Рукі ўверх! — скамандаваў бобік.

— Гм, навошта ўверх? Папаўся — бяры, нічога не зробіш, здаюся,— знарок расцягваў я словы: мне трэба было выйграць секунды, долі секунд, каб супакоіць бобіка, каб ён страціў пільнасць.

Раздумваў ён толькі хвіліну.

— О-о, хоць адзін разумны трапіў, хо-оле-ера! — паліцай прыспусціў аўтамат і ступіў да мяне.

Як мага спакойна я ўстаў.

Паліцай не чакаў, што я аж такі высокі. Толькі цяпер ён убачыў маю фінку і на долю секунды сумеўся. Я маланкава садануў яму левым хукам у сківіцу, і ён асунуўся ў пакдаўне, моцна стукнуўшыся галавой аб падлогу. Не раздумваючы, я яшчэ прашыў яго чаргой з аўтамата і кінуўся на вуліцу.

— А каб ты божага свету не ўбачыў, каб ты сканаў на месцы, як ты маіх дзяцей загубіў, душагуб ты праклятын! Мала з вас было іхняга бацькі?! — бегучы за мной, кляла няшчасная жанчына.

Але было не да яе.

Вёска аж кішэла жоўтымі шынялямі жандараў і чорнай вопраткай паліцаяў. Траскацелі аўтаматы, нібы хто сыпаў на патэльню гарох. Раз-поразу рваліся гранаты.

— У чым справа? Дзе была наша варта? — прыстаў да мяне ўзбуджаны партызан, бытта гэта яшчэ мела нейкае значэнне. Я кінуўся выручаць хлопцаў.

4

Сабралася нас у лесе менш. Трое назаўсёды засталіся ў вёсцы. Стаялі мы і маўчалі. Вецер даносіў пах гарэлай саломы. Месцамі аж пачарнеў ад сажы снег. На ноч бралася завіруха. Праз завейку пажар быў відзён ледзь-ледзь.

— Паляць,— з бяссіллем, якое ішло ад адчування непапраўнай бяды, цвярдзіў партызан, трымаючыся за раненую руку.

Другі ад узрушанасці ляскаў зубамі, але спрабаваў жартаваць:

— Эх і холадна, халера! Каб не дрыжаў, то, мусіць, замёрз бы...

— Ідзі ў вёску, настаў плечы да вогнішча, пагрэйся!

— Калі я бег сюды, крайняя хата згарэла ўжо зусім, а ветрачок на плоце сабе круціцца, як бы нічога не бывала!.. Ля плота ляжаў дзед з сякерай за поясам, відаць, мёртвы — шалёная куля зачапіла...

— Ты глядзі, дзірка! — паказваў здзіўлены хлопец полы прастрэленага кажуха.— Зблізку, гад, секануў, нібы прасмалена калёным жалезам!.. А во яшчэ дзірка, яшчэ...

Усе гаварылі паспешліва і бязладна, як у стане трызнення. Паступова ўзбуджэнне прайшло, мы аддыхаліся і пачалі прыходзіць да памяці.

Фашысты сурова расправіліся з жыхарамі дома, дзе загінуў іхні чалавек. Узнік перад вачыма хлопчык на печы і ветрачок. Успомніў і дзеда з сякерай. Трэба было паліцая пакінуць у спакоі, калі ён ляжаў у накдаўне, а так во!.. Сэрца маці адчувала бяду!.. Я паспрабаваў сябе супакоіць. «Пры чым тут я? Фашысты ва ўсім вінаватыя!» Але гэта гучала непераканаўча.

Паход у Новую Вілейку адмяняўся: трэба было завезці ў лагер параненых.

Адзін партызан прыбег у лес без аўтамата, я аддаў яму свой і пайшоў далей адзін. Пры мне былі два пісталеты, фінка, індывідуальныя пакеты, добрая пачка акупацыйных марак і рэчавы мяшок з клунам нямецкай вопраткі. Мне часта даводзілася пераапранацца ў немца: яўрэі з гродзенскага гета пашылі дакладна на мой рост мундзір нямецкага лейтэнанта.

## 5

Задняваў я на балоце ў стозе сена.

Сена трапілася сухое. Я хутка сагрэўся і моцна заснуў. Рука з компасам падвярнулася пад кабуру, і ад пісталета стрэлка размагніцілася — так неабходная прылада зрабілася непатрэбнай цацкай. Я з жалем зняў компас і шпурнуў яго ў снег.

Далей мусіў арыентавацца па зорках і ветры. Нават успомніў вычытанае з кніжак правіла для падарожнікаў пустыняў Казахстана: не забывай, што ў цябе правая нага робіць даўжэйшы крок за левую. Але што рабіць у такіх выпадках, каб не кружыць на адным месцы, не ведаў. І пачаў я блукаць, праклінаючы сябе за тое, што не далучыўся да таварышаў, якія пайшлі ў Вільню раней. Хаця і стараўся не апускацца, абы-чаго не есці, мыцца снегам, але аброс, як дзікун, схуднеў і страшэнна прамёрз.

Нарэшце, на чацвёртыя суткі, перад раніцай падышоў я да Парубанка — былога віленскага аэрадрома. Калісьці не раз прыходзіў сюды я глядзець на самалёты, лазіў з Данусяй па маляўнічых узгорках...

Цяпер я нават не стараўся ўспомніць пра той час. Холад і голад займалі маю ўвагу. І азіраўся я толькі для таго, каб пераканацца, што мне нічога не пагражае.

Да горада адсюль — кіламетраў восем. За вайну на гэтай тэрыторыі немцы маглі пабудаваць лагер смерці, склад ці ваенны завод з мінным полем паблізу. Каб не напароцца на нечаканасць, рэшткамі волі змусіў я сябе не бегчы ў горад да сувязных, а дачакацца дня, добра разгледзецца і выйсці вечарам. Узлез я на гару, зашыўся ў кусты, развязаў клунак і накрыўся нямецкай вопраткай.

Моцна хіліла спаць. Але засынаць нельга, зімовыя кусты — не летнія, скрозь іх чалавека відаць здалёк. Выразаў кароценькі патык, падставіў пад бараду. Калі засыпаў, далоні расслабляліся, кіёк калоў у бараду, і я прачынаўся. Гэтак у дрымоце і дачакаўся дня.

Ужо зусім развіднела. Унізе праехалі машыны: адна, другая, трэцяя. Што там за ліха?

Пачулася нямецкая лаянка, адчайны жаночы плач, брэх сабак. А праз хвіліну застукалі ламы аб мёрзлую зямлю.

Я ўсё зразумеў, калі падпоўз на край гары.

Унізе стаялі тры машыны з брызентавымі будамі. Да іх былі прывязаны аўчаркі. На снезе чарнела свежая зямля. Некалькі чалавек капалі яму. Засланіўшыся каўнярамі ад ветру, іх вартавалі паліцаі. За машынамі ў зацішку вясёлая кампанія немцаў нешта распівала з бутэлек. Я спахапіўся — карацелі прымалі свой паёк, які ім выдаюць перад «акцыяй»! Вецер даносіў да мяне ўрыўкі гартаннай размовы, нібы там некалькі чалавек адразу паласкалі горлы. Я адразу забыўся пра холад.

Доўгі і нехлямяжы немец адлучыўся ад кампаніі і захмялелым голасам прывітаў паліцаяў:

— Na, Tolen, heil Ridz Schmigly! [1]

І зарагатаў. Тады заглянуў у яму, ударыў аднаго, другога арыштаванага ботам і вісклівым істэрычным голасам залямантаваў:

— Los, los! Abev schnell, verfluchte! [2]

Калі цыбаты адышоў, паліцаі замітусіліся і пачалі гэтаксама пінаць людзей. Найбольш вылучаўся адзін. У бінокль быў добра відзён яго твар. Я доўга думаў, каго ён нагадвае, і ўспомніў: рыжага капрала, з якім я сустракаўся на рынгу! Такія самыя запалыя вочы, каржакаватая фігура гарылы...

Мой знаёмы крыкнуў немцам:

— Ferfig! [3]

— Gut! [4] — у адказ яму кінуў цыбаты унтэр-афіцэр.

З нездаволенай паспешнасцю, набіраючы злосці, фашысты заканчвалі свой баль.

Усё было відаць як на далоні. Рэдка траплялася такая выгадная пазіцыя. Можна было адной аўтаматнай чаргой разагнаць немцаў і паліцаяў. А каб быў аўтамат і я іх напраўду разагнаў?.. Адыдуць ад страху і зловяць!

Рэзка прагучала каманда:

— Anfanqen! [5]

Мне стала душна, на лбе выступіў пот.

Немцы вывалаклі з будаў чалавек з дваццаць арыштаваных і загадалі ім распранацца. Жанчыны лямантавалі, крычалі нешта і мужчыны, але распраналіся ўсе. Унтэрафіцэр расставіў у ачапленне паліцаяў, заглянуў у кузаў і за адзежыну вывалак яшчэ адтуль дзяўчынку, кінуў яе на снег, як кулёк:

— Mitnehmen diese Schei Be! [6]

Людзі паспешна пачалі распранаць і яе.

Нейкі голы дзядзька, сціскаючы ад холаду ногі, акуратна склаў на снезе вопратку і, паказваючы на яе рукой, папрасіў нешта ў паліцая. Рыжы яго здзяліў ботам. Тады бядак звярнуўся да бліжэйшага немца. Фашыст кіўнуў галавой. Чалавек нагнуўся, узяў шапку, надзеў. Мне быў

---

[1] — Ну, палякі, няхай жыве Рыдз Сміглы! *(ням.)*
[2] — Давай, давай, хутчэй, чорт вазьмі! *(ням.)*
[3] — Гатова! *(ням.)*
[4] — Добра! *(ням.)*
[5] — Пачынай! *(ням.)*
[6] — Забірайце і гэтую дрэнь! *(ням.)*

добра відаць кожны пазванок на худой спіне, калі чалавек, згорблены, стаў тварам да ямы.

Ляскаючы ад узбуджэння зубамі, я палічыў: немцаў і паліцаяў толькі восем. Сабакі прывязаныя. Ссунься з гары, падкрадзіся, дастань пісталеты... Следна, глыбокі снег. Пойдзе аблава, нікуды не дзенешся: тут ля аэрадрома іх цэлая зграя. Няхай толькі ўзнімецца страляніна — з'явіцца цэлая рота! Не, не маю права зрываць задання!

Пакуль я вагаўся ды раздумваў, затрашчалі аўтаматы, і ўсё было скончана.

...Прыцемкамі падаўся я на ўскраіну да халупкі цёткі Антосі. Знайсці мне яе было лёгка, горад я ведаў даскадала — служыў жа пасыльным ліцэя.

Да месца сустрэчы з людзьмі з гета я меўся праз горад ісці ў нямецкім мундзіры. Пераапрануты гэтак, потым я меўся нібы канваіраваць групу яўрэяў з Данусяй у поле, адтуль — у лес. Аднак апрануць мундзір яшчэ мала. Нашы хлопцы пападаліся фельджандармерыі толькі па тым, што ішлі ў горад няголенымі, са змучанымі тварамі і ў брудным абутку. Трэба было прывесці сябе ў парадак. Цётка Антося здавалася для гэтага больш надзейнай за сувязнога. Да яе цягнула як да роднай, і сэрцам я верыў — жанчына не з тых, якія здольныя мяне прадаць.

6

Жыхары тады былі так напалоханыя, што перад нямецкім мундзірам дзверы адчыняліся неадкладна. Гэтак жа яны адчыніліся і перада мной.

— Данута ў Вільні! — сказала мне цётка Антося тое, чаго я чакаў.— Жыве ў бацькавым доме... А, вы шчэ не ведаеце, што яна...— старая хацела нешта важнае паведаміць, але раптам прыкусіла язык.— Вы тут пасядзіце, а я прэндзэй злётаю па яе! Ураз збегаю!

Не, не з гэтага трэба было пачынаць: неабходна набрацца сілы.

Значыць, ужо не Данусvolume, а — Данута. Як яна тут жыве?.. Каб не пачуць штосьці страшнае, пытанне адклаў на пасля.

— Не трэба! — вярнуў я жанчыну з парога.— Заўтра вечарам схаджу сам.

Смяротны жах бабку ад мяне проста гнаў, яна не ведала, што рабіць: ёй трэба было параіцца з Янкоўскімі.

— У горад напрыязджала ўсялякіх яўрэяў вывозіць! — спрабавала яна мяне падпалохаць.

— Нічога, што наехала. Як-небудзь дам сабе рады. Пагутарым лепш, у нас ёсць пра што, праўда?

— Аб чым вам, маладому, з такой старой гаварыць? Паклічу Дануту, і гаварыце сабе з ёй...

— Не прыкідвайцеся, цётка, і перастаньце ўрэшце баяцца! Я падобны на пераапранутага прадажніка? Няўжо я такі кепскі чалавек быў, што нельга верыць?!

— Такі час, кожнаму ў душу не заглянеш...

— Тады зірніце на маю бараду, прыклеена? А рукі во якія! Паказаць кашулю?

— Сама бачу...

— Тады чаго вы?

Пра тое, што фашысты сабраліся ліквідаваць гета, мы ў лагеры ведалі са слоў тых, хто адтуль уцёк. Магчыма, гэта толькі чуткі?

Калі цётка крыху асвоілася, я ўдакладніў:

— Вы ўпэўнены, што немцы паз'язджаліся з-за яўрэйскага гета?

— А чаго ж тады? Ужо даўно, мо тыдні два таму немцы пазабіралі ў іх заказы: хто даваў адрамантаваць гадзіннік ці боты, так і забраў неадрамантаваныя. «Усім вам хутка капут!» — заявілі ім. Людзі ў нас толькі і гавораць цяпер пра гэта... Ой, чаго ж я расселася — трэба ў пліце распаліць!..

Праз нейкі час Антося нагрэла вады. Пакуль я галіўся, яна з маімі грашыма адправілася да спекулянта па харчы і мыла. Пачуўся далёкі гул самалётаў. Праз нейкі час халупку ўскаланулі выбухі: адзін! другі!.. Сінхронна з нашым прыходам у горад з Вялікай зямлі на Вільню пасылалася пара самалётаў. Сваімі бомбамі яны меліся адцягваць увагу фашыстаў — ствараць умовы пасланцам з лесу.

— Ага, прыляцелі! — пракрычаў я ў пустой хаціне, узрадаваны, што ў горад прыйшоў у вызначаны тэрмін, што я тут не адзін.

7

Наступны дзень слухаў я цётку і чакаў вечара. Яна ўспамінала маладосць, службу ў генерала. Дзяцей сваіх яна не мела і ўсё сваё душэўнае цяпло аддала Данусі.

Старая апавядала, як Данусі-падлетку аднойчы пашылі зімовае паліто і яна кожны ранак выбягала на двор выглядаць, ці не выпаў снег.

— Дакладна як мая сястра! — здзівіўся я.— А мне здавалася, у генералаў інакш...

— Вядома, у звычайных людзей не гэтак,— задумалася жанчына.— Бацькоўскага сэрца не заменіш сукенкамі і настаўнікамі. Яе аддалі ў чужыя рукі, а чужымі рукамі, за грошы дзіця не выгадуеш, я гэта добра ведаю, хоць і сваіх не мела. Бацька бываў дома наездамі. На яго наракаць не стану, ён і так, бедны, шчасця не меў. Што з таго, калі такі вялікі чын? Для паўнаты чалавеку яшчэ патрэбна і бацькоўскае шчасце. Калі ты з крамы не нёс малому першай булачкі, не ведаў паху пратаптаных падэшваў яго туфелькаў — бацькоўскага шчасця ты не бачыў, хоць і меў дзяцей.

Я са здзіўленнем глянуў на жанчыну — а яна мудрая! Пацікавіўся пра знаёмых.

— Яніна нажніцамі парэзала сабе жылы і памерла. Левандоўскага, ксяндза Валентага з інтэрната езуітаў, нават пана Матыку немцы расстралялі як заложнікаў, як толькі ўвайшлі ў Вільню...

— А жыла тут ля вас яўрэйская сям'я Залкіндаў. Яшчэ ў іх была дзяўчынка Бэта, насіла пісьмы Данусі... Што з імі?

— З Залкіндаў нікога няма ў жывых.

— Таксама?!

— Іхняя Бэта, беднае дзіцятка, расквітнела не ў час прыгажуняй. Летась у гета камандаваў нейкі фашыст Візэ. Не дай бог, што за чалавек! Чаго ён толькі не вытвараў з людзьмі!..

Цётка, перажываючы, задумалася.

— У яўрэяў пануе звычай: калі сустрэнеш нябожчыка, якога нясуць на могілкі, мусіш яго правесці. Бывае, нясуць каго і сустрэнуць Візэ. Паганец загадвае ўсім узяцца за рукі, скакаць вакол нябожчыка і спяваць «Ідл міт а фідл» [1]. Сам стаіць, падганяе і раве, а яны пяюць ды скачуць. Хто адмаўляецца або не можа, забівае на месцы! А то яшчэ вяртаецца калона ў гета з работы, Візэ знойдзе ў чалавека кавалачак хлеба, куплены ў горадзе, і — расстрэл! Ну, дык гэты Візэ і прыкмеціў Залкіндаву дачку. Ён загадаў юдэнрадзе прывесці дзяўчыну да сябе. Усе багатыя яўрэі мелі атруту — хацела праглынуць пілюлю і яна. Члены юдэнрады давай яе пераконваць:

«Бэцы, калісьці наша Эстэра стала палюбоўніцай Казі-

[1] «Яўрэй са скрыпачкай» — яўрэйская народная песня.

міра Вялікага, то мы і праз чатырыста гадоў памятаем і дзякуем ёй за дабро, што кароль зрабіў яўрэям!»

«Бэцы, мы ўсе ў тваіх руках! Не дай нам загінуць, ахвяруй сябе для нас!..»

Рабіны прысталі да яе бацькоў.

«Нічога не зробіш, дачушка, ратуй свой народ, калі табе лёс такі выпаў!..» — заявіла ёй маці.

Дзяўчына паплакала, паплакала і згадзілася. Не змагла адгаварыць яе і Данута. Бедная, тры месяцы пражыла з фашыстам, але нічога ад іх так і не дабілася.

Аднойчы Візэ наладзіў баль. Сабраліся афіцэры з жандармерыі, гестапаўцы, перакладчык-белагвардзеец Сямёнаў... Жандары жылі з гестапаўцамі — што каты з сабакамі. Падпілі і давай адны адных пад'юджваць:

«Ага, ты намі камандуеш, прапаведуеш чысціню расы, а сам з жыдоўкай жывеш!»

«Купілі цябе яны!»

«А мо ты сам з жыдоў? Чым дакажаш, што — не?!.»

Бачыць Візэ, што бяруць над ім верх, паклікаў ён Бэту і загадаў раздзявацца. Тады разматаў шнур і закамандаваў прывязаць яе да крэсла. Перакладчык прывязаў голую Бэту і адцягнуў крэсла пад сцяну. Павымалі яны свае пісталеты ды пачалі страляць. Хто ў левае вока цэліць, хто ў правае, хто ў грудзі, калена...

За дзвярамі ў той час стаялі на варце два яўрэі з «Орднунгдынст» [1]. Калі, бедную, пастралялі на рэшата, Візэ паклікаў вартавых, загадаў завалачы яе разам з крэслам за баракі ў яр, пабраць анучы і выцерці ад крыві сцены і падлогу!.. Так і загубілі яе. Даведаліся бацькі і выпілі атруты...

Мы з Данутай выкупілі цела дзяўчыны ў паліцая за гарэлку, абмылі як маглі і пахавалі ў горах.

Цётка ўздыхнула і рагамі хусткі выцерла слёзы.

Каб адцягнуць яе ўвагу ад прыкрых успамінаў, я спытаўся:

— А генеральша з жонкай ваяводы куды падзеліся?

— Тут абедзвія! Часамі мне спатрэбяцца грошы на доктара ці на соль, то насмажу бульбяных аладак на алею, вынясу на рынак і бачу іх. Ой, не дай бог, як між сабой кепска жывуць, як сварацца — бы сукі якія!

— Між сабой? Чаго-о? — здзівіўся я.

— Генеральша выносіць на базар розных слонікаў,

---

[1] Паліцыя з яўрэяў, арганізаваная фашыстамі ў гета.

падсвечнікі, сахарын проста з сумоты, бо дачка ежу ад немцаў атрымлівае, хапае і ёй. А Бацянская жыве адная! Раней выносіла занавескі з вокам прадаваць, пакрыцце з падлогі, посуд і ўсё крычала: «Цюль з Парыжа, дываны пярсідскія, каструлі медныя!..» Але на гэта не надта знойдзеш пакупнікоў. Падыдзе да мяне, бывала, і просіць: «Дайце, пані Антося, у доўг аладка, прысенгну пану богу, аддам грошы!..» Гэтак дасі з літасці, яна адхіліцца есці, а пані Вацлава абавязкова не праміне яе ўпікнуць: «Ты яшчэ за мінулую бабку не заплаціла!»

Ваяводзіха агрызаецца:

«Гэта толькі пані заўсёды ўмела капіць! У пані і цяпер нават золата і рознай валюты — заваліся!»

«А ты, рыжая кудла, багацце маё пакінь у спакоі! — крычыць ужо на ўвесь рынак генеральша.— Калі сумленныя палякі, як я з мужам, пра абарону Польшчы клапаціліся, ты сваё багацце на алтар бацькаўшчыны не клала! Ты толькі аб нажыве думала! Ці не падарунак румынскага прынца ў цябе на плячах?»

«А твая дачка ў камендатуры працуе, і ты яшчэ спекуляцыяй займаешся! Бо табе ўсё мала! Сахарын у цябе чый?.. Тваёй служанкі, Просі, якая назіральніцай працуе ў турме на Лукішках! Бальшавікоў на цябе трэба, яны такіх камбінатарш хутка прыводзяць да парадку!»

«А я немцам заяўлю, што ты стаіш тут і толькі пра бальшавікоў і думаеш!»

«Бяжы, заяўляй!..»

— А то часамі як счэпяцца біцца — матко свента, два мужыкі іх ледзь развалакуць!.. То зноў гутараць мірна і чагосьці плачуць...

Раптам нясмела пастукаў нехта са двара ў старое акенца. Я скочыў за камоду.

З сенцаў на кухню Антося ўвяла яўрэйскага хлопчыка, наліла яму ў банку з-пад кансервы стравы:

— Нясі з богам, дзіцятка! Паеш сабе там з сястрычкай ці з мамкай.

— Каб вашы дзеці і ўнукі, дарагая пані, ніколі не ведалі, што такое голад! — падзякаваў хлопчык на адным дыханні, як гавораць малітву: відаць, малому часта даводзілася гэта паўтараць.

Вывеўшы госця, жанчына вярнулася са слязамі на вачах.

— Тут каменні заплачуць, гледзячы на гэта, не толькі чалавек! — пачала яна выцірацца канцамі хусткі.

Я паступова так разнежыўся, што не хацелася пакідаць цёплую хату. Ні хуткая сустрэча з Данутай, ні пачуццё абавязку мяне ўжо не краналі. Што я адзін значу ў гэтым моры падзей?!.

Я мусіў напружыць усю сілу волі, каб сабрацца ў дарогу.

Пачало цямнець. Я засунуў пісталеты ў кішэню, паклаў туды ж запасныя магазіны, развітаўся з цёткай і пакрочыў у адпрасаваным і вычышчаным адзенні на ўмоўленыя кватэры.

Дзіўна адчуваў я сябе, ідучы па гэтым, так добра знаёмым мне і дзіка чужым, горадзе. Хоць і быў я насцярожаны, але не мог пераадолець у сабе звычайнай чалавечай цікавасці.

Дзесьці ў лясах мерзлі партызаны. На франтах лілася кроў. З голаду, холаду і ад хвароб гінулі тысячы людзей у нямецкіх турмах. Як прысмак грызлі сырую бульбу і варылі суп з рамянёў нашы ваеннапалонныя за калючымі дратамі канцлагераў. У смяротнай трывозе чакалі свайго канца даведзеныя да вар'яцтва дзесяткі тысяч яўрэяў гета. Недзе не зляжалася яшчэ, не паспела акасцянець ад марозу зямля на свежай магіле ў Парубанку. А тут, на віленскай вуліцы, спакойна цякло сабе мірнае жыццё.

Усюды гарэлі электрычныя лямпачкі. Здаецца, нават гарэла цяпер іх больш, чым да вайны, на вуліцах відна — як днём.

Працокаў кованымі капытамі конь вазніцы, правёз у даваенным фаэтоне пышную даму ў футры, няйначай, немку.

Пранёсся насустрач мне нямецкі матацыкліст з акулярамі на ўвесь лоб, ён нагадваў стварэнне не з гэтага свету — драпежнае і злое.

Праехала грузавая машына з крытым верхам і эмблемай бубновага туза на кабіне. Звычайна ў немцаў ваенныя машыны мелі на кабінах галовы зуброў, аленяў, куніц, зайцоў. Такі знак бачыў я ўпершыню. Ці ўпершыню?.. Аднекуль ён мне ўжо вядомы!.. Ага!.. З Данусяй глядзелі амерыканскі фільм, дзе паказвалі разгром мечаносцаў пад Грунвальдам. Тады рыцары фон Ульбрыхта мелі такія ж знакі на сваіх шчытах...

Нібы з зялёнымі тэрмасамі, з прымацаванымі да боку процівагазамі прайшоў узвод салдат. Разгадаваныя і зда-

воленыя фашысты ў дапасаваных шынялях і начышчаных да бляску ботах маршыравалі зладжана, раўненне трымалі лёгка, без намаганняў. Ад іх павеяла чужой і ненавіснай сілай. Спаткай іх у баі — ад першага стрэлу табе не пабягуць, нягоднікі!..

Я ўжо адчуў у сабе насцярожаную ўзбуджанасць і трывогу. Толькі цяпер спахапіўся, што мяне выдае бязладны крок партызана, і пастараўся ўзяць адпаведны рытм хады, а ногі ставіць цвёрда і ўпэўнена.

Прайшла група літоўскіх «нацыянальных» войск, прывіталася са мной.

— Вялікая перамога фюрэра! — раптам пракрычаў папольску хлопчык гадоў адзінаццаці, прабягаючы ля мяне з сумкай газет.— Купляйце «Пройсішэ нахрыхтэн»! Нямецкія войскі планава пакінулі Вялікія Лукі! Новая перамога фюрэра!

Малы рассмяшыў мяне ды падбадзёрыў. Я намерыўся купіць газету і ўжо палез за грашыма, ды спахапіўся: я ж, мабыць, не павінен разумець польскай мовы?.. З другога боку мне вельмі хацелася прынесці ў лес свежую газету, выданую немцамі, каб пачытаць, аб чым яны пішуць? Я зноў палез у кішэню. За гэты час хлопчык бачком, бачком мяне абмінуў і знік так, што я не заўважыў — куды ён падзеўся.

Перад магазінам на скразняку стаяла чарга па бульбу. Сцюдзёны вецер бязлітасна сек жанчын дробным снегам. Апошняй у чарзе была дзяўчына гадоў трынаццаці. Яна наставіла тонкі каўнерык кароценькага асенняга паліто, мяшок звіла муфтай, засадзіла туды рукі і падскоквала то на адной, то на другой назе.

Жанчыны нечага спрачаліся ўсё на той жа помесі польска-беларуска-рускай моў. Убачылі мяне і раптам прыціхлі. Я выразна пачуў:

— Ладны нямчыска!

— Малады афіцэр!

— А што яму?

— Ну. У калейцы стаяць не трэба, як нам з табой, за мерзлай бульбай!

— Чаму не быць ладным!

— Аграбіў паўсвету...

— На людскім горы і крыві людзей ад'еўся і ладны!

— Ты што балбочаш? Хочаш у Панары?! Мала туды завезлі унь?!.

Я пасмялеў яшчэ больш і ўвайшоў у ролю. Пасля доб-

рага адпачынку я адчуў, што прамянею здароўем і бадзёрасцю. Эх, цёткі, лайце іх, лайце іх, малайчыны вы!..

Спаткаўшыся з патрулём, я зрабіў напышлівы выраз твару, надаў сваёй хадзе непаспешлівую важнасць і незалежнасць. Патрулі падцягнулі на плячах аўтаматы, паправілі рамяні і з прускай выпраўкай ды з тылавым шыкам павіталіся. Я адказаў нядбайна, нават не глянуўшы на іх: у першыя тыдні вайны, пакуль пайшоў у партызаны, на немцаў наглядзеўся і нораву іх ведаў.

На цэнтральнай вуліцы натрапіў на натоўп зявак.

Па бруку брылі сотні чалавечых істот з жоўтымі шасцікутнымі зоркамі на спінах. Мне, высокаму, было ўсё відаць праз галовы натоўпу, што адбываецца на слізкай брусчатцы.

Людзі з апошніх сіл валаклі свае пажыткі — брудныя пярыны, падушкі, клункі. Нейкая кабеціна перавярнула стол, прывязала да ножкі вяроўку і цягнула яго нібы сані. Сярод трантаў і каструль, ушчаперыўшыся за ножку стала і напалохана азіраючыся, сядзеў ухутаны хусткай з застылымі слязінкамі на вачах хлопчык. Малы з усяе сілы ўшчаперыўся за ножку стала, каб не зваліцца, калі яго «сані» стукалі аб камені. Жанчына спатыкнулася і ўпала. У натоўпе зарагаталі. Яна наўмысна нязграбна ўзнімалася, каб пасмяяліся яшчэ: бедная маці хацела гэтак злагодзіць ворагаў.

— Ю-ды, да бу-ды! Ю-ды, да бу-ды! — скандыравалі гарадскія хуліганы, а іхнія твары аж расплываліся ад задавальнення.

І жылі ж такія паміж намі!..

Пачыналася ўсё з «нявінных» надпісаў на платах: «Не купляй нічога ў жыда!» З бунтаў ва універсітэце пад лозунгам: «Не будзем сядзець за аднымі партамі з жыдамі!» А скончылася вось чым... Ну, пестраляеце гэтых дахадзяг, Гітлер заўтра ж возьмецца за вас!

Раптам некалькі тыпаў кінуліся між радоў. Яны распаролі нажамі пярыны. У адзін момант вецер падхапіў хмару пуху і шпурнуў людзям у вочы.

Разявакі пачалі выплёўваць пер'е і лаяць яўрэяў, бытта вінаваты яны.

Побач са мной стаяў фельдфебель з чырвона-бела-чорнай істужкай жалезнага крыжа ў пятліцы шыняля. Ён аж давіўся ад смеху ды апавядаў суседзям, што яўрэі яшчэ не здагадваюцца, куды іх вядуць. На станцыі іх прыму-

сяць пакідаць рэчы — во дзе багацця! — а саміх пазапіхваюць у вагоны ды — у Трэблінку, і капут!

Нарагатаўшыся ўдосталь, ён павярнууся, са здавальненнем пацёр рукі, нібы скончыў справу, якая даставіла яму вялікую радасць, і, бытта мы з ім старыя знаёмыя, з перакананнем дадаў:

— Na, ist Wilna jetzt Judenfrei, nicht wahr? [1]

Пакуль я знайшоў што адказаць, ён пайшоў, поўны глыбокага пераканання ў слушнасці таго, чаго ён толькі што быў сведкай.

Выходзячы з завулка ля колішніх атлантаў, я наткнуўся на вароты з калючага дроту. Там два немцы абмацвалі яўрэяў. У аднаго вартаўнік знайшоў бутэльку алею. Разгневаны фашыст біў бедака куды папала: у твар, жывот, пах. Хутка і гэтага яму здалося мала. Ён загадаў:

— Trinke zugleich! [2]

Я зразумеў, што за варотамі — гета. Глядзеў я на ўсё гэта бытта ў кашмарным сне.

## 9

Вільня ў параўнанні з даваенным часам не змянілася, і я лёгка знайшоў на Антаколі патрэбную кватэру. Там жыў стары беларускі мастак, наш сувязны.

Мастак мяне чакаў ужо некалькі дзён і меў усё падрыхтаванае. Ён адразу вызначыў мне спатканне з яўрэйскімі хлопцамі і дзяўчатамі, якія збіраліся ісці ў лес. Маладыя людзі з гета меліся выбрацца па каналізацыйных трубах, схавацца ў кустах на татарскіх могілках і чакаць да поўначы, калі па іх прыйду.

У мяне заставалася гадзіны чатыры, каб зайсці да Данугы і сабраць яе ў дарогу. У глыбіні душы ў мяне раптам узрадзілася трывога — пойдзе яна са мной? Я ж не бачыўся з ёй цэлую вечнасць.

## 10

Да генералавага дома я падышоў а гадзіне восьмай, што ў ваенны час лічылася даволі позна. Страху я ніякага не адчуваў: цёмна, дастаткова стаць за дрэва, і ніхто

---

[1] — Такім чынам, Вільня цяпер без яўрэяў, няпраўда? *(ням.)*

[2] — Зараз жа выпі! *(ням.)*

цябе не ўбачыць. Я толькі ўвесь калаціўся ад узбуджэння...

Вось і панадворак Янкоўскіх. Знаёмыя сілуэты. Нават вецер гэтак жа сама, як і раней, гудзіць у голых кронах яблынь і топаля.

Званок у парадных дзвярах не дзейнічаў. Дзверы не паддаваліся. Звярнуў увагу, што снег пад нагамі не крануты: сюдой ніхто не ходзіць. Панадворкам, поўным нейкага хламу, я абышоў дом ад вуліцы і накіраваўся на кухню.

Дзверы адчыніла стрыманая і акуратная, як і некалі, генеральша. Яна зусім не змянілася. Хіба стала толькі менш важная ды на губе, зморшчанай складкамі больш, чым раней, кідаліся ў вочы рэдкія, сівыя і жорсткія вусікі.

Адразу было відаць, што такія госці ў гэтым доме частыя. Яна не здзівілася, не спалохалася, а па-нямецку запрасіла:

— Калі ласка, прашу, заходзьце! Вы да нашай Данкі?

Збіваючыся ад недарэчнай разгубленасці, я стаў тлумачыць адразу па-польску і па-нямецку, хто я такі.

— З якіх курсаў? — дама старалася мяне ўспомніць, ад чаго ў яе на лбе ўтварылася густая сетка маршчын, і толькі цяпер я заўважыў, наколькі яна пастарэла.

Я пачаў невыразна тлумачыць зноў.

— Мы з заграніцы вярнуліся паўтара года таму назад! — нічога так і не прыпомніўшы, паведаміла яна.— Цяпер наша Дана працуе ў камендатуры!.. Але ж праходзьце!.. Праходзьце, гэр лейтэнант, прашу, да яе! Там якраз і яе муж сядзіць!.. Толькі што зайшоў!.. Праходзьце, гэр лейтэнант, ён таксама амаль вайсковы, будзе вам кампанія! — блытаючы польскія і нямецкія словы, бралася яна ўжо за мае гузікі: — Калі ласка, здыміце шынель, прашу!

Мабыць, каб смальнула раптам маланка, каб zаваліўся ўвесь свет, і то мяне так не ашаламіла б. Муж?!. Што за ліха, хіба я не туды трапіў?!.

— Распрануся сам...— нерашуча затаптаўся я на месцы.

Данута замужам? Не можа гэтага быць! За кім?!. Хіба яна мае права быць замужам?!. Мажліва, я сню?.. Які — муж?!. У маёй Дануты — муж?!. Яна ў вайну выйшла замуж?!. Які — замуж?!. Што гэта дзеецца?!. Ах, вунь чаго Антося не дагаварвала!..

Трэба было папрасіць прабачэння, супакоіцца на двары і зайсці потым ці зусім махнуць рукой на Янкоўскую, калі ўжо так атрымалася. Аднак гэтага я не зрабіў.

Агорнуты злой рашучасцю, я ўжо адпіхнуў генеральшу, прайшоў праз калідор у залу і спыніўся як укапаны.

## 11

Першага ўбачыў я Станеўскага.

Угледзеў я яго ды сваім вачам не паверыў. Гэнек яе муж?!. Не, не можа быць, людзі, гэта якоесьці непаразуменне!.. Аднак больш мужчын перада мной не было, у пакоі сядзеў толькі мой зямлячок. Узмужнелы, падстрыжаны, як стрыгліся нямецкія вайсковыя — пад высокую польку, з чорнымі і бліскучымі ад брыльянціну валасамі, з ваяўніча скрыжаванымі на грудзях рамянямі. На рукаве яго зялёнага фрэнча бялела павязка з чорным штампам на белым фоне і ненавіснымі гатычнымі літарамі: «Hilfopolizei». Па выгляду, вопратцы, рамянях я вызначыў — ён камендант участка паліцыі і жывецца яму, як у нас кажуць, «файно».

З ім была і Данута.

Яна ўся аж квітнела. Далікатная скура на твары насіла яшчэ сляды леташняга загару, рабіла Дануту смуглявай. Цёмная сукенка з вялікім дэкальтэ ўвыдатняла акругласць грудзей, мяккія лініі шыі і плеч. Вочы яе пазіралі з гуллівым какецтвам і ўсведамленнем сваёй чароўнасці. Ад скромнай і сімпатычнай паненачкі не засталося і следу. Перада мной была раскошная красуня з шыкарнай прычоскай французскай кінаактрысы і з бляскам пярсцёнка на пальчыку. Чужая. Незнаёмая. Непрыемная. Бо прыгажосць — катэгорыя ўмоўная, твая ацэнка чалавека залежыць ад яго адносін да цябе, справе, якой ты служыш, часу і нават — да твайго настрою.

Сядзелі яны насупраць адзін аднаго за столікам з веерамі новенькіх карт. Данута трымала іх з арыстакратычнай грацыяй і думала, з якой пахадзіць, а на яе вуснах застыла гарэзлівая ўсмешка. Генрых другой рукой зухавата ўзяўся пад бок і спадылба дапытліва глядзеў на партнёршу.

Абое яны былі так захопленыя гульнёй, што нават не павярнуліся, толькі на іхніх тварах з'явілася нездаволеная грымаса ад таго, што ім перашкодзілі.

Ха, маладажоны!..

У крытычных выпадках чалавек думае не словамі, а вобразамі, таму — ох, і шмат можна ўспомніць у такую хвіліну!

Але я хутка авалодаў сабой. Праз імгненне я пагля-дзеў на гэтых гуляк, як на чужых. Асталася толькі крыўда за няшчасных, расстраляных на Парубанку, за жанчыну з дзецьмі ў незнаёмай вёсцы, за хлопцаў, якім з-за гэтай вось генералавай дачкі не дапамог вярнуцца ў лагер...

Стася, даведаўшыся, што іду ў Вільню, прымусіла мяне ўзяць і яе пісталет.

А Зіна Кварцёнак?..

Мне так захацелася да сваіх, як часамі малому ў чужой хаце раптам захочацца дадому. Аднак жа трэба выблытвацца з усёй гэтай гісторыі!

Нарэшце зрабілі ласку мяне заўважыць. Наступіла цішыня, ад чаго на кухні было чуваць, як вада лілася ў вядро.

— Не! Не, не-е!.. Не можа гэтага быць!.. Я-анэк, ты-ы? — шэптам спыталася да смерці перапалоханая Данута пасля разгубленага маўчання.

Яна выпусціла з рук карты і прыўзнялася. Мы пагля-дзелі адно аднаму ў вочы. Калі прайшоў страх, у вачах Данусі з'явілася светлая, трывожная і няўпэўненая радасць. Але не гэта мяне кранула. Штосьці няўлоўнае назаўсёды адышло ад яе, і мне стала тужліва шкада.

Я адпусціў дзверы, моўчкі ўвайшоў у пакой і спыніўся.

— А, гэр Барташэвіч! — здзівіўся і Станеўскі. У яго голасе таксама пачулася трывога, а ў вачах з'явіўся жах.

Ведаеш, нягоднік, што я ў партызанах? Калі — не, мне лёгка цябе разыграць, нібы я на службе ў немцаў: мой бацька меў зямлі больш за твайго, фашысты з такімі лічыліся... Урэшце, калі і здагадваешся — справіцца з табой здолею заўсёды, твой пісталет яшчэ зашпілены ў кабуры на маё шчасце, а я трымаю палец на спускавым кручку...

— Янэк, але ж заходзь, прашу! — прамовіла Янкоўская.

Яна авалодала сабой і памкнулася насустрач. Ці з-за Станеўскага, ці таму, што правай рукі я не вымаў з кішэні і быў злы, яна разгублена спынілася на паўдарозе, пастаяла хвіліну ды зноў вярнулася да стала.

— Сядай, прашу, сюды...— прыставіла няўпэўнена трэцяе крэсла.— Ты змерз?.. Можа, распранешся? Здымай шынель...

Я моўчкі сеў.

Данута не ведала, што рабіць. Я не вымавіў ні слова, не выявіў ахвоты нават вітацца, быў насцярожаны і баяўся, каб мяне хто ззаду не цапнуў. Яна пра нешта здагадвалася і гублялася зусім. Станеўскі каўкнуў перасохлым горлам, а на лбе ў яго выступілі бліскучыя кропелькі.

У раёне Закрэта пачуўся слабы гул самалёта. Неяк вяла і няўпэўнена там пару разоў бухнулі зеніткі і зараз жа змоўклі.

Сеў я з такім разлікам, каб можна было лёгка ўскочыць на ногі. Сядзеў і азіраўся.

Тыя самыя пазалочаныя цяжкія рамы з карцінамі. Той самы бліскучы паркет і, як чорнае люстэрка,— фартэпіяна. Абабітыя бардовай скурай фатэлі, фікус разросся яшчэ больш, а яго лісты блішчалі свежым глянцам... Адным словам, у пакоі поўна таго ж самага генеральскага лоску, дабротнасці і пазалоты, якія мяне, дурня, калісьці ўражалі і вабілі. Цяпер жа, у вайну, гэтая шыкоўнасць і камфорт мяне абуралі, я са злой прыемнасцю ўзарваў бы ўсё гранатамі ды яшчэ падпаліў бы.

Стараючыся апанаваць сябе, Данута шукала для размовы тэмы. Спыталася:

— Янэк, ты чуў, што арыштавалі Любецкага?

— Та-ак?!.— спытаўся я механічна, бо быў так насцярожаны, што памятаў толькі пра яе, Станеўскага, небяспечную кватэру і падворак за плячамі. Мне каштавала вялікіх намаганняў, каб зразумець, пра каго яна гаворыць.

— На мінулым тыдні ўзялі Браніслава!.. І што ты на гэта?

— А, ён таксама заставаўся ў Вільні? — дайшло нарэшце да мяне.— За што ўзялі князя?

Растлумачыў Станеўскі:

— Яго грузавік на Вільгельмштрасе падчапіў бартом «мерседэс» самога шэфа гестапа — Эрыліса!..

— Любецкі працаваў шафёрам?

— Не-е! — падхапіла Данута.— Князь нават правіць не ўмеў, пасажырам сядзеў у кабіне! Але ў шафёра — дзеці, сям'я, і Любецкі віну ўзяў на сябе!

Станеўскі яе перабіў:

— За такую абразу немцы расстраляюць! Выходзіць, што стукне князь нам на развітанне дзвярыма, не?

— Гэнек, але ж ён аказаўся прызваітым!

— Гэта, Дана, атрымалася ў яго выпадкова, я-то ведаю! Ха-ха! Браніслаў думаў, што...

— Як ты можаш так, Гэнек!..

Ужо амаль супакоеная Данута перанесла ўвагу на мяне:

— Го, Янэк, але ж ты цяпер лейтэнант, віншую!

У яе голасе і вачах прагучалі не то шчырая радасць, не то бездапаможнасць, не то страх і няўпэўненасць. Бытта шукаючы ратунку, яна крадком зыркнула на Станеўскага і загаварыла зноў:

— Цябе пусцілі ў адпачынак? Надоўга? На якім фронце служыш?

З якой ты лёгкасцю мірышся, бытта я — у нямецкай арміі! І ведаеш, нягодніца, што афіцэры прыязджаюць з розных франтоў! Вось такую падлу яшчэ збіраўся весці да сваіх у лес — ну і ну!..

Зрэшты, чаго ад яе было чакаць?

Каб фашысты не помсцілі бацькам, свой уход у партызаны мы з сябрамі арганізавалі так, бытта немцы нас мабілізавалі на вайсковыя работы. Ёй жа я растлумачыў:

— Прыслалі павестку. Куды дзенешся? Абвучылі. Абмундзіравалі. Далі зброю... Служу ў беларускім батальёне Камінскага. З паўгода стаім у Мінску.

Стала чагосьці шкада, і адначасова зрабілася лёгка, бытта раптам пазбыўся клопатаў ды вырашыў пытанне, якое мучыла і даўно не давала спакою. Штосьці падобнае я пэражыў чатыры гады таму назад, а цяпер яно паўтарылася зноў. Няўжо я ўвесь час займаўся самаашуканствам?

Цьфу!

## 12

У пакоі хвіліну панавала напружанае маўчанне — кожны з нас думаў, як сябе паводзіць далей, ды прыслухоўваўся да таго, што тварылася на дварэ. Гул самалёта пераваліў Пагулянку. Зеніткі ўжо маўчалі — неба, мабыць, зацягнула хмарамі і самалёт ішоў над імі. На поўдзень ад Пагулянкі два разы бухнула — празвінелі шыбы...

Авіятары, відаць, расходавалі бомбы эканомна, горад бамбілі сімвалічна. Да нашых аэрадромаў было кіламетраў семсот, самалёты напэўна мелі шмат работы на лініі фронту, і я да лётчыкаў адчуў удзячнасць ды цёплую спагаду. Толькі б іх не збілі!..

— Станцыю бальшавікі калашмацяць! — прамовіў значна пасмялелы Станеўскі.— У такі момант, як закон, у горад пранікаюць партызаны. І сёння пад шумок забяруцца абавязкова!.. А ў вас у Мінску спакойна?

— Хапае іх і там!

— У магазінах выбар у вас багаты?

— М-м...

— Большы, чым тут?

— Не прыглядаўся...— Дурныя яго пытанні пачалі мяне раздражняць.

— Калі ласка, закурыце! — паслужліва працягнуў ён мне сярэбраны партсігар ды пстрыкнуў запальнічкай.

Надзіва, не здагадваецца! У яго ўжо на твары — упэўненая і бяспечная здаволенасць. Ну-у, ты мяне так не ашукаў бы!.. Ці не Сцяпанаў наган у тваёй кабуры?..

Па яго канфігурацыі я здагадаўся, што там парабелум. Была ўжо не адна магчымасць наган стары замяніць на пісталет. Ты ж цяпер «фольксдойч», амаль — немец, валадар, табе даверылі каманду над паліцаямі...

— Дзякуй...— як чалавек, які ніколі не курыў, узяў я нязграбна левай рукой папяросу і меркаваў, што ж мне рабіць далей.

— Якія вы ўжываеце? Гэта «Экстра».

— Усё роўна...

— Прыма сорт, не? — з франтоўскай элегантнасцю скрыпнуў ён новенькімі рамянямі і зацягнуўся.

— І курыць навучыўся?! — як бы з расчараваннем упікнула мяне Данута.

— Вайна ўсяму навучыць, не? — за мяне адказаў паліцай.

Мы размаўлялі па-польску. «Не» ён вымаўляў на нямецкі лад, як «нэ».

У некаторых людзей ёсць пэўная мяжа, далей якой, нягледзячы на вопыт і перажытае, яны не могуць узняцца. Не перайшоў гэтай мяжы і Станеўскі. Такі самы, як чатыры гады таму назад. Адно змяніў гаспадароў. А я яшчэ стараўся некалі яго пераканаць, абразуміць. У дэбаты з такімі ўваходзіць няма чаго, бо іх не пераканаеш; такіх можаш толькі паканаць...

— Калі ласка, вось папяльнічка. І наогул, маглі б папрасіць дазволу на курэнне ў дамы, рыцары! — заўважыла Данута, кепска прыкрываючы разгубленасць какецтвам.

У яе голасе і выражэнні твару адчуваўся жаль аб мінулым.

— Салдаты фюрэра не маюць звычкі прасіць дазволу нават у прыгожых жанчын! — заўважыў Станеўскі і звярнуўся да мяне: — Я ў сваёй вёсцы даўно не быў. Вы былі ў сваёй?

— Якраз туды еду...

Данута выняла аднекуль з-пад століка і паставіла бутэльку каньяку і чаркі.

— Спадзяюся — ты ўжо цяпер і п'еш? — з ноткамі сарказму ўпікнула яна, разліваючы каньяк.— А як жа клятва?.. Вось і паляцелі нашы мары і летуценні да д'ябла! Ты быў левым, Генэк — правым, я — польская патрыётка, а ўсе мы служым фашыстам!

— Прашу прабачэння! — перабіў яе Станеўскі.— Мы не служым ім, мы часова ка-ле-ба-ры-руем з імі!

— Змоўкні, Генэк!.. Ну, за нашу сустрэчу!

Яны выпілі. Данута адразу наліла сабе другі раз ды імгненна апаражніла чарку зноў.

— Ну, Янэк, пі! Я ніколі не паверу, што і цяпер ты не ўжываеш!.. А я ўсё нечага чакала, чакала, спадзявалася...

Наліўшы сабе трэцюю чарку, Данута падышла да фартэпіяна, дзе стаяла фота Любецкага, і чокнулася з ім:

— Бронэк, мілы, толькі ты, зруйнаваны князёк, застаўся сам сабой!.. Як табе, хлопча, там у турме?.. Ці яшчэ жывы?.. Будзь здароў!

— Таксама знайшла героя! — пакпіў Станеўскі, наліваючы чарку сабе.— Бранілаў думаў, што яго адразу адпусцяць, таму і ўзяў віну на сябе, а эсэсманам пляваць на яго тытул — цапнулі ды і хлопнуць!.. Хацеў парысавацца, як заўсёды, ды не на такіх натрапіў на гэты раз!..

— Маўчы, вырадак! — замахнулася Данута бутэлькай.

Данута ўжо выпіла невядома якую чарку. Яна раптам кінула з сілай пасудзіну на тонкай ножцы аб падлогу, і шкло пырснула ва ўсе бакі.

— Дзе мая Польска? — пракрычала, а на твары ў яе выступілі ружова-белыя плямкі, вочы ненатуральна заблішчэлі.— Дзе твая моц, Янку? Дзе справядлівасць? Дзе бог?.. Няма! Няма! Няма!.. Усюды адзін хаос! Усюды толькі грубая сіла, хамства і цынізм! Акапалепсіс!.. А, хіба зразумееце вы, дзеці хлопаў, гэта!.. О, Езу коханы, які паганы свет!.. Пі, Барташэвіч!..

Яна наліла сабе цяпер у шклянку, падышла да мяне.

— О-ей, але ж ты і ладны ў мундзіры!.. Праўда, праўда!.. Генэк, глядзі, як яму да твару «фэльдграў»!.. Ты прыродны вайсковы!..— Паказаўшы на адзнаку, што мая уніформа належыць да войск сатэлітаў Германіі, пакпіла: — Нябось чыстакроўным вермахтаўцам не прызнаюць і ця-

бе, праўда? — Данута глынула вадкасць, а тады рэшткі віна выплеснула на мяне: — Ох, як ненавіджу гэты мундзір!

— Вар'ятка! — хапіў яе за руку спалоханы Станеўскі.

Я абтрахнуў з грудзей карычневыя кроплі і заўважыў:

— Нічога, нічога. Ап'янела. Многа ёй трэба?..

— Сёння яна ўзяла зашма-ат!..

— Слухай, зямляк, а ты не думаў, што хутка нам з табой давядзецца адказ несці? — пачаў я асцярожна.— Бальшавікі Сталінградам павярнулі ход вайны!..

Станеўскі бытта ад мяне гэтых слоў чакаў.

— Яе баяцца няма чаго, за яе ручаюся! — падхапіў ён адразу, хоць і захмялелы.— Па-першае, мы не якія-небудзь марныя прадажнікі, а — ка-ле-ба-ра-цы-я-ніс-ты!.. Часовыя і па неабходнасці партнёры, не? Мы прыйшлі, каб стрымліваць фашыстаў, не? Мы гамуем іхнія зверствы. Каб не наша разумная пастава, фашысты, ведаеш, колькі натварылі б?.. Гэта нам потым усё абавязкова залічаць! Па-другое,— Станеўскі суцішыў голас,— да мяне з Лондана прыходзілі пасланцы, я ўжо навязаў з імі сувязь. Сказаць ім пра цябе?

— Ох і спрытны з цябе жук, ох і няго-днік!..— не то ў жарт, не то ўсур'ёз праказаў я.

— А ты яшчэ большы нягоднік! Ты не такі нягоднік!..— істэрычна закрычала Данута.

— Змоўкні, бо звяжу! — закрычаў Станеўскі, але гэта не дапамагло.

— Ён хоць ніколі не дэкрар... дзекр-р-рар-р-раваў вялікіх ідэалаў!.. Нават я праз Антосю спрабавала швабам насаліць, але — ты?! Ты-ы? Ты-ы?.. Цьфу на вас! На цябе і на цябе! Цьфу! Цьфу!..

Стала відавочным, што гэтаму не будзе канца. Я для сябе ўсё высніў, а выседжваць тут больш не меў права. Самы час канчаць усю камедыю. Я адчуў, як увесь наліваюся рашучасцю. Бачачы, што я ўстаю сам не свой ды вымаю пісталет, Данута паімчала да мяне на хвейных нагах:

— Янку, што з табой?!. Супакойся, Янэк!..

Каб не перашкаджала, я адцягнуў яе за руку ўбок ды адступіў да дзвярэй. Вокны былі зачынены наглуха масіўнымі аканіцамі, паліцай трапіў у пастку. Кідацца на мяне яму не было сэнсу, ён добра ведаў, што я — дужэйшы. Выхапіць з зашпіленай кабуры парабелум не было яму ўжо калі.

Аднак Станеўскі не разгубіўся. Ён знізу штурхануў столік ды з сілай кінуў яго на мяне — з картамі, чаркамі і папяльніцай. Я адбіў столік каленам, стрэліў, аднак не трапіў.

— Барташэвіч, што ты?! — узмаліўся паліцай з жахам і скочыў за вазон, перакуліў кадку.

Фікус мяне нават не задзеў.

Я лічыўся добрым стралком. Але тут прыйшлося левай рукой трымаць Дануту, якая тулілася ад жаху да мяне і збівала прыцэл. З аднаго, з другога пісталета выпускаў я кулю за куляй — і ўсё дарэмна — толькі пырскалі кавалачкі адшчапанага паркету, тынку ды каціліся па падлозе пустыя гільзы.

— Ruhe bleiben! [1] — вырвалася ў мяне па-нямецку.

— Herr Leutenant, was ist denn? [2] — заенчыў ён, бегаючы па гасцінай.

— Я табе не гэр, а — партызан, Іуда Іскарыёцкі!.. Колькі ты людзей нашых загубіў, гад?!.

Генрых ступіў на пустую гільзу, пакаўзнуўся ды выцягнуўся на падлозе. Зразумеўшы, што ўсё скончана, ён адняў ад кабуры руку, накрыў далонямі галаву і ўзмаліўся: — Лёнгі-інус, я цябе тады не выдаў з пракламацыямі на Міцкевіча, успомні!..

Але я яго дабіў.

— Генэк?! — з жахам здзівілася Данута.— Янэк, ён жа — мой муж!.. Не, не муж, але...

Я — ад роду купаны ў гарачай вадзе — у юнацтве быў вельмі скоры на рашэнне. Напамінанне пра замуства разлютавала яшчэ больш. На тумбачцы каля люстэрка трапіла якраз на вочы іхняя фатаграфія. На ёй твары Данýты і Генрыха аж расплываліся ад шчасця, рэўнасць ва мне падсыціла злосць. Ап'янелы ад забойства і стралянiны, я выпіхнуў Дануту на сярэдзіну пакоя ды прахрыпеў:

— А цяпер — ты ідзі за сваім мужаньком!

Яна глядзела на мяне спалохана, пакорліва. На нейкі момант стала дакладна такой, якой я ведаў Дануту да вайны. І ў мяне пачала абуджацца літасць. Ці не прыгразіць, каб прыдумала немцам гісторыю смерці Станеўскага? Бо ў мяне на вёсцы жывуць бацькі, немцы, калі даведаюцца, старым адпомсцяць.

— Янэчак, завошта? — часта дыхаючы, спыталася па-

---

[1] — Не рухайся! *(ням.)*

[2] — Пан лейтэнант, у чым справа? *(ням.)*

ціху яна, зусім ужо цвярозая.— Вось мы і спаткаліся...

Мяне агарнула новая хваля азвярэння і бяздумнай лютасці.

— Ах ты-ы, высакародная паліцыянтавая падсцілка, яшчэ будзеш папракаць?!

Калі я падымаў пісталет, яна ціха ўскрыкнула, бытта ёй заняло дыханне ад таго, што нехта піхаў у халодную ваду. Я націснуў спускавую скабу. На момант адчуў у праваі руцэ добра знаёмую няважкасць пісталета і металічны стук гільзы аб сцяну, падлогу. На шчасце, Дануся адскочыла.

Не лічачы стрэлы, пачуццём, якое ішло ад вопыту, я з аблягчэннем адзначыў, што ў пісталеце выйшлі патроны. Але я працягваў іграць разгневанага: зноў прыцэліўся і націснуў спуск.

Цык! — шчоўкнуў баёк ухаластую...

Клацнуў затворам — пусты магазін! Другі пісталет разрадзіў раней.

Пакуль мяняў магазіны, за плячыма пачуўся голас генеральшы — яшчэ адзін сведка! Але страляць у жанчын я ўжо не мог.

Станеўскі ляжаў сярод пакоя. Яго вочы мутна глядзелі ў столь, а з-пад кіцеля цякла на паркет кроў і збіралася ў густую лужыну. Я зняў з паліцая рэмень з парабелумам, павязаў яго сабе паверх шыняля і кінуў:

— Мяне тут не было, разумееш? Хто забіў твайго мужанька, прыдумай сама. Выдасі — тады...

Гэтыя словы я намерваўся кінуць ёй унушальна і строга, але нечакана для мяне самога прагучала просьба, шэпт.

— До-обра, Ян-нэчку!..— адказала яна, ікаючы.— Прыдумаю...

Я накіраваўся да дзвярэй.

— Ты адыхо-одзіш?.. Не ідзі-і, Ян-нку...— узмалілася яна.— К-куды ты?!.

Ёй трэба было выпіць халоднай вады. Трэба роўна і глыбока дыхаць...

Ледзь я не вярнуўся.

## 13

Праз тыдзень з групай віленцаў набліжаўся я да лагера. Варту мінулі яшчэ ўдзень, а калі падыходзілі да зямлянак, пачало ўжо цямнець.

Вось і родны дом партызана.

Ноздры зашчыкатаў дым і тыя няўлоўныя пахі, па якіх адрозніш свой лагер ад чужога. Пахла сушаным мясам, скурай... Пад нагамі блыталіся галінкі елак, што пападалі з нацягнутых дратоў — камуфляжу ад самалётаў.

Тут можна будзе спакойна сесці, сцягнуць боты з натруджаных ног, панежыцца ў цяпле, пад'есці гарачай стравы, пасмяяцца з хлопцамі...

Але цяпер мяне гэта чамусьці не радавала. У лагер я вяртаўся неахвотна, нездаволены сабой і поўны апатыі.

Хтосьці прайшоў з мокрым венікам. Я ўздыхнуў і падумаў — пакуль садзіцца ды нежыцца, першым чынам трэба будзе схадзіць у лазню; ад таго, што гэта цяпер у маёй уладзе, на душы стала весялей.

Брыгадны кухар вёз дровы. Конь на ўзгорак ніяк не мог усцягнуць сані. Васіль упёрся плячом у бярвенні і натужліва закрычаў:

— Но, мілы, яшчэ крыху, но-о!

Конь паспешліва перабіраў пярэднімі нагамі, але яшчэ даваенныя падковы былі сцёртыя на пласцінкі, ён пакаўзнуўся — гоп! — і сеў на зад, як сабака.

— Здароў, Васіль! — павітаўся я.— Ты ўсё возіш і варыш?

— А-а, вярнуўся на маю галаву! Жывы!

— Як бачыш. І не адзін.

— То здароў, братка. Не здаецца Гітлер, каб на яго халера, трэба вазіць, нічога не зробіш,— разважыў кухар без злосці ды пачаў цягаць каня за грыву: — Ну, Гняды, уставай, падла, чаго рассеўся!

Я паказаў сваім людзям на сані, і мы ўраз выпхнулі іх на ўзгорак.

— Дзякуй, Ваня!

— Думаеш, гэтым адбудзеш? Прыйдзем да катла!

Абвёўшы ўсіх нас вачыма, кухар паківаў галавой і крыху падумаў:

— То прыходзьце, што-небудзь пашукаю!..

Ля зямлянак я ледзь не сутыкнуўся лоб у лоб з партызанам, які бег па вузенькай і глыбокай сцежачцы. Я саступіў у снег, але, як гэта часта здараецца, і чалавек саступіў туды. Мы спыніліся і зірнулі адзін на аднаго.

— Ванечка, вярнуўся? — пачуўся шчыры і радасны голас Стасі.

— Як бачыш...

Яна ўзняла рукі, памкнулася схапіць мяне ў абдымкі, але стрымалася. Выгаварваючы на польскі манер «ло», закрычала:

— Хуопцы, Барташэвіч з Вільні вярнуўся!

— І не адзін, як бачыш! — паказаў я на групу аброслых і стомленых людзей, якія збегліся ў купу ды з нейкай вінаватай цікавасцю пазіралі на нас.

— А я — нібы ведала! Толькі што напаліла печ, цяплынь — нібы ў лазні! — адводзячы ад мяне шчаслівыя вочы, паспешліва гаварыла дзяўчына.

Толькі цяпер мы ўбачылі, што віленцы плачуць ад шчасця і хвалявання.

Мы са Стасяй разгубіліся.

— Для вас усё цяжкае ўжо мінула! — супакоіла яна.— Тут вам будзе добра! Вашы ўжо лагер сямейны будуюць!.. Вядзі людзей у зямлянку, грэй! Там і камбрыг!

— А ты куды?

— Зараз вярнуся! Збегаю да сувораўцаў па акумулятары, будзем зводку з Масквы слухаць! Чуў, як нашыя на Дану цісунуць фашыстаў?

— Вартаўнікі крыху расказвалі. Ужо тры тыдні нічога канкрэтнага не ведаю...

— Цісунуць, яшчэ як! Прыйду і ўсё раскажу! Толькі аддай мой пісталет. Увесь час рабіла выгляд, што ён у мяне. Панапіхвала ў кабуру індывідуальных пакетаў.

— Трэба яго пачысціць.

— Ты з яго страляў?!. Ага, спатрэбіўся! — паскардзілася яна яўрэям: — А ён усё «не вазьму-у», «наво-о-шта»! — дражніла яна мяне з лагодным папрокам, а па тону яе голасу можна было зразумець, што гаварыць ёй пра гэта прыемна.

## 14

Пакідаючы ў генерала на кватэры Дануту з мёртвым Станеўскім, я выбег на двор з пачуццём нейкай няўпэўненасці, віны і сумнення — а ці правільна я сябе паводзіў? Быць можа, Станеўскі зайшоў да яе выпадкова!.. Ды і фатаграфія яшчэ нічога не гаворыць!.. Гэтае пытанне мяне мучыла ўсю дарогу ды вісела нада мной як божая кара.

Цяпер шчаслівы бляск вачэй радысткі настрой мой развеяў. Правільна я паступіў — так ёй і трэба, паліцаевай падсцілцы.

## Раздзел шосты

### 1

Летам нечаканы выпадак зноў напомніў мне пра генералаву дачку. Гэта здарылася ў маё другое партызанскае лета.

Немцы павыскрэбвалі ўсе тылавыя рэзервы, нават скарацілі гарнізоны ў партызанскіх зонах да мінімуму і кінулі ўсё на Курскую дугу. Мы ўздыхнулі на поўныя грудзі. Вестка аб разгроме нямецкіх армій патроіла нашы сілы, і мы пачалі дзейнічаць яшчэ больш дзёрзка.

Жнівеньскім днём выйшлі мы ўзводам на Беласток — Ваўкавыскую аўтастраду і стаіліся ў засадзе. Першым паказаўся вайсковы немец на веласіпедзе.

— Прапусціць! — загадаў я хлопцам.— З-за салдаціка не будзем пэцкацца!

І немец праехаў.

Праз мінут пяць выскачыла легкавая машына. Яе мы захапілі і разам з пасажырамі — двума афіцэрамі і салдатам-шафёрам — прыгналі ў лагер. Пры допыце палонных выявілася, што прапусцілі якраз самога генерала, якому прыйшла ў галаву фантазія праехацца па чыстым паветры на веласіпедзе. Ад прыкрасці я ледзь не рваў на сабе валасы. Нічога не зробіш, давялося мірыцца. Легкавая машына з афіцэрамі не абы-што.

Вечарам партызаны ўцяклі ад машкары да вогнішча на кухню. Пра выпадак з генералам нагаварыліся, мабыць, так, што не варочаліся ўжо языкі. Хто чысціў сваю зброю, хто зашываў вопратку. Кухар Васіль памешваў у катлах, а яго Лёнік забаўляўся з нямецкімі медалямі.

— Салам! — зухавата прывітаў я кампанію, з'явіўшыся з цемры.

— А, герой? Салют!

— Выспаўся? — азваліся галасы з прыкметнай сімпатыяй.— Хлопцы твае яшчэ дрыхнуць?

— Набраў мінут шэсцьсот, а яны яшчэ дабіраюць... На, Лёнік, табе яшчэ цацак! — падсыпаў я хлопчыку жменю нямецкіх медалёў.— Васіль, вячэру пакінуў?

Кухар наліў у кацялок гарохавага супу.

— Чаму мяса так мала паклаў, скнара!

Я быў у тым узбуджаным стане самаўлюбёнага ап'янення, якое бывае пасля ўдала выкананага задання, калі ўсё табе дазволена і ты разам з сябрамі цешышся сваімі

новымі якасцямі. Сёння мяне разбірала ненатуральная весялосць.

— Каму беражэш яго, жмінда! — палез я з лыжкай у кацёл.

— Куды! — замахнуўся кухар апалонікам.

— Ану вас! — залямантаваў партызан: яму вар з апалоніка капнуў на шыю.— Не люблю мужчын-какетак! Ты яшчэ генерала не злавіў, а шуму — на цэлы лес!

Я адчуў у сабе трывогу.

На самай справе, чаго так разбрыкаўся? Гэта не к дабру, нешта здарыцца.

Я нібы прачнуўся, пастараўся перавесці ўсё ў жарт:

— А гарох у цябе, Васіль, зусім сыры! З'ясі такога, і ў жываце будзе бразгацець: немцы за кіламетр пачуюць!

Жарты да мяне не ішлі, і ніхто не рассмяяўся.

Выручыла Стася. Яна пазвала з цемры:

— Янка, калі ласка, пакруціце дынамку!

— Мо я пакруціў бы?

— А нельга мне?

— О-ей, колькі ахвотнікаў! Хутчэй, Барташэвіч, якраз буду дакладваць пра ваша геройства, няўжо дазволіце, каб круціў хто іншы...

— Я-асна!

— Ясна, што справа цёмная!

— А вы чаго плачаце, героі? — збівала ўвагу радыстка.

— Вядома, не ад радасці за твайго Барташэвіча!

— І не ад зайздрасці.

— Усяго ад камароў і дыму!

— О-ей, бедненькія!..— пашкадавала дзяўчына і знікла.

Разгневаны на яе, што мяне скампраметавала перад сябрамі, я не ведаў, што рабіць. Пайсці адразу? Скажуць — во, пабег, адно паманіла!.. Не пайсці! А калі і праўда няма каму пакруціць апарат?

Маю разгубленасць выкарыстаў Трухан і перахапіў увагу слухачоў:

— Дарэчы аб камарах. Нядаўна ў групу Сокалава прыходзіла паненка з Вільні. Камары яе пакусалі, дык апухла так, бытта на яе напалі пчолы! Слова гонару! Дзе толькі такая гадавалася!

— З Вільні? — перапытаў я.

— Ну.

— А-а, тая! — ускрыкнуў партызан ля вогнішча.— Шыкарная! Бачыў, як дэсантнікі яе вялі!

— Між іншым, слухай, Барташэвіч, мне іхні ездавы, Волесь Сляпуха, гаварыў, што яна пра цябе пыталася.

— Пра мяне-е?!.

Мне раптам захацелася прысесці. У Трухана твар быў шчыры.

— Спытай у Волеся, калі не верыш! Хацеў табе адразу сказаць, але не выпадала спаткацца. Цябе ўсё носіць некуды...

— Куды ж ён падзене цяпер радыстку? — пажартаваў нехта.— Аддай мне адну!

Было не да жартаў. Я ўстрывожыўся. Выглядала так, бытта я нашкодзіў, гэта хаваў нават ад сябе, і вось — прыходзіць расплата.

Сляпуху месяцы два таму назад з нашай брыгады перавялі да дэсантнікаў. Ён у іх стаў за фурмана, але па старой памяці часта заходзіў у нашу брыгаду і апавядаў, што ў іх рабілася.

Няўжо тут была Данута?

Сябры не заўважылі маёй разгубленасці,— можа, таму, што ў гэты момант далёка пачуліся выбухі.

— Ён і дзвюм дасць рады.

— Ціха!..

Усе насцярожыліся. У напрамку, адкуль даносіліся выбухі, замільгала цьмянае зарыва ракет. Фронт быў ад нас яшчэ за сотні кіламетраў, але насуперак логіцы ўсім хацелася пачуць у гэтых выбухах грукат нашай артылерыі.

— Чапаеўцы, відаць, поезд узарвалі ля Галынкі! — расчаравана прамовіў нехта нарэшце.— Раніцой ішлі на чыгунку, калі мы вярталіся з задання.

— Мусіць...— са шкадаваннем уздыхнуў другі партызан.

— Выбухі былі. Ракеты пускаюць. Мабыць — пашанцавала: поезд пусцілі!

— От недзе над абломкамі вагонаў фашысцікі ўспамінаюць свайго фюрэра добрым словам, не дай бог!

І зараз жа хлопцы пераключыліся на бадзёры тон.

Тым часам я перажываў іншае. Мне першы раз не захацелася ісці да Стасі ў зямлянку.

Што за ліха, якая паненка была ў сокалаўцаў?

А чаму б не быць і Дануце? У немцаў разведка наладжана выдатна, яны добра ведаюць нашы атрады і камандзіраў, месца размяшчэння — толькі не маюць сілы нас

знішчыць. Даведацца пра партызан у немцаў і потым уцячы для яе не так ужо і складана...

Яна ў партызанах?

Мне зрабілася страшна ад думкі пра сустрэчу.

Гэтая бязвольная лялька ў нас?

Аднак?..

## 2

Разам з намі жыло некалькі груп дэсантнікаў. Кожная выконвала толькі ёй вядомае заданне і сваю работу трымала ў строгім сакрэце.

Дэсантнікі вылучаліся сваёй стрыманасцю, дысцыплінай ды большай развагай у параўнанні з расхлябанымі, бесшабашнымі і ліхімі партызанамі. Называліся групы па псеўданімах камандзіраў.

Ад вогнішча я кустамі прабраўся да месца, дзе размясціліся дэсантнікі капітана Сокалава.

Між сосен — тры зямлянкі і будан-кухня. Другі будан — для коней, вазоў, фуражу. Усё спланавана кампактна, зручна — нічога лішняга, дарожкі пасыпаны жоўценькім пясочкам, і ноччу яны здаваліся белыя. Тут адчувалася ахайнасць і казарменны парадак.

На бярвеннях — два сілуэты: мужчынскі і жаночы. Адзіная жанчына ў групе — радыстка — на мінулым тыдні загінула ў баі. Я насцярожыўся: няўжо Данута?!

— Ваня, ты? — аклікнуў мяне голас лейтэнанта Трашкова.

— Я, Пятро. Прывітанне...— голас мой уздрыгануў, а ногі адмовіліся ісці.

Я адчуў, што твар яго звернуты да мяне.

— Сляпуха твой дзе?

— Паехаў яшчэ ўдзень па Мішу!

— А... І капітана вашага няма?

Іхні камандзір мне быў не патрэбен, але нічога лепшага я не прыдумаў.

— Пакуль няма!.. Садзіся на лаўку, пачакай!

Я сеў.

Трашкоў адразу ж забыўся пра мяне і загаварыў з дзяўчынай. Я ператварыўся ў слых. Голас лейтэнанта быў надтрэснуты і сіплаваты, але не ад перапою, а проста — ад расы, прастуды і недасыпання. Малады голас яго суседкі звінеў меладычна, міла, але быў незнаёмы, а ў слове «няхай» дзяўчына вымаўляла «я» глыбока, гэтак можа сказаць толькі беларус з-пад Мінска.

На сэрцы адлягло.

На самай справе, чаму не дачакацца Сокалава і не спытацца ў капітана проста і адкрыта?

Я рассеўся на лаўцы надоўга.

Гм, няйнакш, іхні чалавек з Вільні. Зусім магчыма, што яна ведае і Дануту. Магчыма, яны сябруюць?.. Не надта стане ўдавацца з табой у падрабязнасці сваёй біяграфіі — разведчыца.

Сокалаўцы лічылі мяне сваім чалавекам, таму Пеця гаварыў у поўны голас. Па абрыўках фраз і тону я зразумеў, што абое чакаюць важнай весткі, а яе ўсё няма.

— А вы, Пятро Змітравіч, навучылі мяне так, як трэба? — пыталася дзяўчына.

— Падумай жа сама. Пад галаву класці міну нельга, выбухам толькі падкіне падушку — і ўсё. Ты так не клала?

— Не!

— У ложак пад траверс пакласці — сяннік уратуе!

— А я пад пярыну яго сунула...

— Правільна! А перад гэтым дэтанатар засадзіла ў міну?

— Засадзіла. Яшчэ не ўлазіў, то шчоткай пастукала...

— От гэта дарэмна! Дзякуй богу, што не ўзарвалася ў руках. Няважна, калі да канца не ўлазіў. Усё роўна здэтаніраваў бы!.. Такім чынам, дэтанатар шчоткай загнала і дзірачкі сышліся?

— Што-о?

— Калі загнала, дзірачкі ў дэтанатары і міне сышліся?

— Ой, дайце атруты!

Сілуэт дзяўчыны захістаўся ў бакі ад роспачы.

— Марусь?

— Вы мне пра дзірачкі нічога не гаварылі, ой!

— Маруся, пачакай!

— Ой, атруты мне!.. Забіце мяне, задушыце тут жа на гэтым месцы!

— Дай слова сказаць!

— Столькі падрыхтоўкі, столькі ахвяр з-за гэтага праклятага ляйтэра, і ўсё прапала з-за дурных дзірачак! Ой, не выжыву!

— Дурніца, пачакай, не лямантуй! Пры чым тут дзіркі? Міна ўсё роўна здэтаніруе, абы толькі...

— М-м-аманька-а!

— ...Абы толькі ўзрывальнік прыткнуўся да толу, усё роўна здэ...

— І слухаць не хачу нічога! Вы мне пра іх не ўспамі-

налі. Ніякіх там дзірачак не было! І пра іх я нічога не ведала! Я ж вам гаварыла, да гэтай справы не падыхо-оджу! Ой, я такая дурная, навошта я згадзілася!

— Ну супакойся. Вось табе другі ўзрывальнік. На, і ўзвядзі таксама, як ты рабіла!

— Я на яго і глядзець не хачу!

— Яшчэ. Яшчэ цягні, не бойся, ён без толу і можа толькі падрапаць! Цяпер мы пакладзём яго пад сасну. Праз паўгадзіны — пабачыш сама, узарвецца!

3

Охкаючы і трымаючыся за галаву, дзяўчына папляла-ся ў зямлянку. Пятро падышоў да мяне. У дэсантнікаў хлопцы як на падбор, а Трашкоў — ростам з мяне. Ён хвіліну прагна курыў. Вочы яго нічога не бачылі. Тады ціхім, падабрэлым ад узрушэння, вінаватым голасам прамазаў:

— Адважная дзяўчына! Самому чорту галаву зверне!

— Што ў вас з ёй?

— Служыла ў немцаў афіцыянткай, папрасіла самае небяспечнае заданне, мы і далі. Учора заклала аднаму тыпу міну ў ложак. Не было як зматацца, дык на кухні цяпнула цесаком сябе па пальцы і выбегла на двор нібы да доктара. Адтуль — да нас, у лес. Ехала на нямецкіх спадарожных машынах...

— А вынік?

— Штосьці вестак няма: узарвалася ці не? Міна англійская, ліха яе ведае, мо... Вось і чакаем звестак цэлыя суткі, нічога больш не робім. Сокалаў не вытрымаў, пайшоў да суседзяў, каб спытацца па рацыі ў Масквы, магчыма, там што вядома. Дрэнна без свайго радыста...

— На якую халеру вы займаецеся гэтым? Ну, лупанеце, вылеціць у паветра яшчэ адзін генерал СС ці гестапа, і што? Гітлер замяніць яго новым! А колькі потым немцы нявінных за яго пастраляюць?.. Так добра наладзілася сувязь з горадам, а пасля выбуху ўсё паляціць дагары нагамі, тады пачынай усё спачатку...

— Эх, Барташэвіч, Барташэвіч, камандзір разведкі брыгады!

— Бо нам, разведчыкам, з-за вас потым найбольш дастаецца!

— Пацярпіце! Затое, калі лупанём такога ляйтэра,

кожны салдат падумаў: э-ге, шхвах нашы справы, калі да такіх нават дабіраюцца! І будзе зямля ў іх гарэць пад нагамі! Ведаеш, як гэта маральна на армію дзейнічае, як разлагае яе?!

Гэтаксама тлумачыў сваім хлопцам і я. Але сам спрачаўся з Трашковым таму, што няёмка было сядзець у дэсантнікаў проста так.

— Халера іх не ўзяла! Колькі ўзрываем розных, аднак не разлажыліся зусім... Ладна, не будзем больш пра гэта. Што яшчэ новага?

— От, не шанцуе! То радыстка напаролася на паліцаяў, то Варонін на чыгунцы трапіў пад абстрэл... Ліха яго ведае, што за бяда на нас навалілася!..— засмучана прамовіў Трашкоў і ўспомніў: — Чуў? Мы, нарэшце, наладзілі адносіны з Арміяй Краёвай!

— О-го, гэта штосьці новае! — насцярожыўся я.

— Тр-р-р, халера, воўчая шкура, стой, кажу! — перабіў нас голас Сляпухі.

Дзядзька з фурманкай пад'ехаў да будана. Хоць цёмна, але я смутна распазнаў на возе на фоне саломы нерухомыя чалавечыя ногі ў ботах. Вось па якога Мішку ездзіў дзядзька Сляпуха!..

Трашкоў адразу забыўся на мяне і падаўся да воза. Было чуваць, як ён шоргае брызентам, адхіляе палотнішча, як кажа ездавому:

— Пакінем, Волесь, яго на ноч на дварэ?

— Ну! — з-за каня кінуў дзядзька.

— Яму тут будзе лепш на паветры!..— апраўдваўся лейтэнант.— Заўтра ўдзень Вароніна пахаваем...

Сляпуха панёс у зямлянку хамут і лейцы. Праходзячы блізка, як і належыць у жалобную хвіліну пры мёртвым, ён не павітаўся, толькі паківаў галавой і ўздыхнуў:

— І калі, Ваня, усё гэта скончыцца, скажы мне?

З'явіўся капітан. Ён пазваў бадзёрым голасам:

— Трашкоў, Маруся, на выхад!.. А, вось вы дзе! Чулі? Разарвала вашага хросніка на кавалкі!.. Жалобныя сцягі ва ўсім горадзе вісяць!..

— Адкуль вы ведаеце? — яшчэ не верыла Маруся.

— Чорны з горада перадаў!

— Вось табе і дзірачкі! — Трашкоў ударыў дзяўчыну па плячы.— Ведаеш, як ты сапсавала імі настрой? Ледзь сабе кулю ў лоб не пусціў, дальбо!

— А ў мяне, думаеце, было на сэрцы лепш?

— Хопіць, дзеці, зводзіць разлікі, радуйцеся!.. Сля-

пуха, шукай паўлітра, памянём фашыста, царства яму нямецкае! І Барташэвіча да кампаніі прымем!

— Таварыш камандзір...— вінавата перабіў ездавы.— Я Мішу прывёз...

— Прывё-оз?

— Вунь на фурманцы.

Мы накіраваліся да воза. Сокалаў засвяціў ліхтарыкам, і мы паглядзелі на дэсантніка.

— І трэба ж было яму якраз налезці! — са спагадай праказаў Сляпуха.— Эх, Міша, Міша, як перажыве твая Ліза з атрада...

— Разрыўной, сволач, у самы вісок трапіў! — капітан разглядваў рану.— Што цяпер бацьку напісаць на Урал? Прафесару даваў слова глядзець за ім, як за сваім сынам...

— Занізка ляжыць! — не слухаў капітана Трашкоў і падсунуў пад галаву брызент.

— Яму цяпер усё роўна.

— Усё ж такі...

Раптам побач з намі як бы выбухнула граната — бліснула магніевая ўспышка, і засмярдзела серай. Мы ўздрыгануліся ды схапіліся за пісталеты.

— Адбой! — апрытомнеў я першы.— Пятро, ты ж клаў пад сасну ўзрывацель на праверку!

— Цьфу! — плюнуў дэсантнік з палёгкай і дастаў з кішэні гадзіннік.

— У чым справа? — пацікавіўся капітан.

— Усё ў парадку, камандзір. Узрывальнікі не нашы, заграничныя. Думаў — папсутыя ў іх хімікаты. Адно — не, малайцы, саюзнічкі, узарваўся дакладна праз трыццаць мінут. Што табе казаў, Маня? Прызнавайся!

— Будзе вам прыдзірацца!

І зноў ніхто не звяртаў на мяне ўвагі.

Я пранікся пашанай да невялічкага калектыву герояў-прафесіяналаў. Сваёй маленькай групкай яны рабілі больш за нашу брыгаду. Я ім пазайздросціў.

— Барташэвіч, калі ідзеш у разведку? — спытаўся капітан.

— Трэба неадкладна адпраўляцца. Па чыгунцы ў бок фронту немцы пачалі вазіць нейкія бутлі,— адказаў я.— Масква загадвае праверыць, ці не рыхтуюцца да хімічнай вайны.

— Маню з табой адпраўлю. Табе на віленскую чыгунку? І ёй у той бок. Возьмеш яе з сабой!

— Ага...

Я ўзрадаваўся, што будзе магчымасць пагаварыць з ёю пра Вільню.

— Да пабачэння!

4

Ішлі мы з Марусяй першымі, а за намі — хлопцы. Яна крочыла бойка, як дзяўчынка, але ўвесь час заставалася сур'ёзнай.

Ля дарогі стаяў дзікі казёл і аглядаў нас цікаўнымі вачамі. Раптам штосьці яму не спадабалася, ён гнеўна тупнуў нагой і брахнуў:

— Таф!

— Не пазнаеш? — закрычаў я.— Прывітанне, дружа!

Казёл брыкнуў цераз елачку і знік так, што не зварухнулася ніводная галінка.

Дзяўчыну не развесяліла і гэта.

Тады я зазірнуў у кошык суседкі. Тыповы кошык спекулянткі: ніткі, іголкі, сахарын, нямецкае мыла з гліны, кавалачак худога сала. А пад усім паблісквае чорны лак на магнітных мінах. З-за Дануты я быў уважлівы да разведчыцы.

Паказаліся дзяўчаты з абвязанымі дзеразой кошыкамі. Губы і пальцы ў іх — нібы ў сінім чарніле.

— Прыгажуні, дайце ягад! — спыніў я іх.

Дзяўчаты часта дыхалі ад перапуду.

— Дародныя, а — скупыя, каб вас памор пакараў!

— Ой, дзядзьку, настаўляйце шапку, толькі здыміце свой праклён!

— Ага, збаяліся!.. З цябе здымаю, а з іх — не!

Усе зарагаталі і пачалі вытрасаць свае кошыкі.

Дзяўчаты пайшлі, а я спыніў Марусю ды прысыпаў яшчэ міны ягадамі.

— Так лепш? — спытаўся.

— Ага...

Дзяўчына ніяк не давала ўцягнуць сябе ў размову.

Перад вачамі паўстала пакрыўджаная, з дакорлівым позіркам Стася. Праз хвіліну я зноў падумаў аб Данупе і стараўся дагадзіць разведчыцы.

Маруся была невысокая, шчуплая, на бледным яе твары выдзяляліся тонкія вусны, чорныя вочы неспакойна глядзелі спадылба. Але на свежым паветры, разгарачаная хадзьбой, яна паружавела. Коратка падстрыжаныя

валасы яе вецер бязладна збіў на адзін бок, і яна іх не папраўляла, бо ведала, што так ёй да твару. Каўнер шэрага плашча прыпадняла і цесна зашпіліла пад барадой.

Калі трэба было звярнуцца да мяне, Маруся схіляла галаву на плячо і паднімала вочы. Не ведаю, бачыла яна так мяне ці не, але выходзіла гэта ў яе міла. Безабаронная і слабая, яна ішла ў самую зяпу ворага, ёй было не да мяне. Лезці да яе з малазначнымі пытаннямі не выпадала. Разведчыца магла мяне, малазнаёмага, абрэзаць:

«Ці не залішне ты, браток, цікавы, з кім я знаёмая ў Вільні, з кім не?»

Я пастараўся сябе пераканаць, што Маруся — такі самы чалавек і — жанчына, яе павінна мая гісторыя зацікавіць; мажліва, у яе з'явіцца жаданне дапамагчы мне. Паступова я асвоіўся з разведчыцай і мог ужо пачаць свае роспыты, ды заела самалюбства. Успомніў фатаграфію Дануты са Станеўскім. Успомніў самаўпэўненага Генрыха на кватэры Янкоўскіх... І ва мне загаварыла гордасць. Пасля ўсяго зноў заводзіць знаёмства з генералавай дачкой? Нізашто!.. Хопіць уніжэння! Ні адзін чалавек так мяне не пакрыўдзіў! І наогул — хопіць пра гэта!

У Марусі я нічога так і не спытаў.

Аднак ва мне таілася кволая надзея, што яна вернецца ў Вільню і Данута распытае яе сама. Хаваючыся сам ад сябе, я стараўся з усяе сілы, каб Марусі было пра што расказаць.

Неўзабаве мы развіталіся, каб больш ніколі не сустрэцца.

## 5

Мая маці, каб сабрацца з думкамі, звычайна садзілася вязаць панчоху. Бацька ў такіх выпадках браў сякеру і дацямна ўпарта сек дровы. А чым заняцца партызану ў такім стане?

Пайшоў я ў лес, адкалоў фінкай вялізны кавалак кары ад сасны, сеў на пень і пачаў нешта майстраваць. Думкі паплылі без сістэмы і сувязі. Паступова галоўнае, што ляжала на сэрцы, выцесніла часовае.

Ганяюся за Данутай, як Дон Кіхот за Дульцынеяй, і не бачу, што адбываецца пад самым носам. Які я няўважлівы да радысткі — з першага знаёмства і да сённяшняга дня. Для хлопцаў жа яна была чараўніцай, якая валодае рацыяй і гаворыць з Масквой.

Стрымапая і валявая, Стася, згледзеўшы мяне, тушавалася ды пачынала гаварыць з людзьмі амаль шэптам. Яна гатова была рабіць усім вымову за няўвагу да мяне. Я ж паводжу сябе з ёю як некалі з Данусяй. Колькі можа гэта цягнуцца? Што я за прынц? Хіба мала ў нас добрых хлопцаў? Чым горшы, напрыклад, Віктар Кучэрын?..

Група партызан прыняла з-пад Вільні аднарукага лётчыка. Яго вылечылі польскія сяляне. Відаць, не было ў свеце чалавека, які б не адчуваў да лётчыкаў сімпатыі. Віктар адразу стаў агульным любімцам.

Мяне пякла рэўнасць, што ён лётчык, што ў яго сіні камбінезон і планшэт авіятара са стракатай картай за цэлулоідам. Гэты Кучэрын не спускаў са Стасі вачэй...

Узвінчаны, я ўстаў і падаўся ў лагер.

Па дарозе глянуў на тое, што трымаў у руцэ. Выструганы з кары караблік з мачтамі і якарам на баку — нібы ў параходзікаў, якія плавалі некалі па Віліі.

— Чорт! — шчыра здзівіўся.

Агледзеўся, куды кінуць цацку, і пашкадаваў. Вырашыў падарыць яе Лёніку.

Ля ядлоўцу раслі фіялетавыя званочкі, я збочыў з дарогі.

...Каля зямлянкі радысткі — ні душы. Замест дзвярэй ад камароў вісела сетка з марлі. Яна нечым напаміната родную, мілую Стасю. Я адчуў сардэчную ўдзячнасць за яе ўпартую дабрату, і мне захацелася зрабіць для яе штосьці добрае.

Асцярожна расхіліўшы марлю, я нырнуў у зямлянку, паставіў на рацыю караблік і паклаў званочкі.

6

Ад зямлянкі я накіраваўся на кухню. У шалашы — вясёлая кампанія. Я ведаў, хлопцы з паходу прывалаклі вялізны чайнік самагонкі і цяпер, відаць, «запраўляліся» перад абедам. Кучэрын, чуваць, быў у цэнтры ўвагі.

— Стася, за тваё здароўе, дзетачка! — крычаў Віктар.

— Усё роўна атрымаеце толькі адну місу! — смяялася яна, падаючы праз галовы ежу.

— Згодзен, толькі з тваіх ручак! І налівай ужо такую, з якой пояць коней!

— Пашукаю!

— Апалонікам хай сёрбае, падай!

— Палундра, начальства з'явілася!

— Што мне яно? Мы заданне выканалі і зараз самі сабе начальства!

— Янка, падсаджвайся, нацэдзім і табе!

— Паспрабуй чайку!

— Птушынага малачка!

— Лепш грашыма маю порцыю выдайце!

— Рублямі, маркамі?

— Усё роўна! Стася, прывітанне!

Ажыўленая, яна толькі бліснула ў адказ шчасліва вачамі і лёгка панеслася да катла, ані крыху не саромеючыся свайго не зусім складнага выгляду: на ёй была шаўковая сукенка і кірзавыя боты. Сёння яе бытта падмянілі. Смелая і ўпэўненая, дзяўчына аж ззяла. Я насцярожыўся ды з зайздрасцю зыркнуў на залатыя пагоны капітана пад новенькім камбінезонам.

Кубак быў адзін, і хадзіў ён па крузе, напаўняў яго сам Кучэрын:

— Хочацца і яму, але начальству трэба захоўваць фасон, паказваць прыклад. Эх, доля камандзірская!.. Не хацеў бы я тае славы, абы толькі... Стася, тваё, дзетачка, каштоўнае!..

Здалося, што яго нападкі на мяне дзяўчыне не спадабаліся.

— Штосьці вы надта часта п'еце за маё здароўе,— упікнула яна ад катла.— Так і сваё можна прапіць!

Яе вочы свяціліся ціхай радасцю, і яна была пад уражаннем толькі ёй вядомага, надта прыемнага сакрэту. Значыць, гэта не з-за Кучэрына! — адлягло ў мяне на душы.

— От дае-е!..— захапіўся лётчык.

Хлопцы няўпэўнена засмяяліся.

Ох, як я ненавіджу гэтае выражэнне!..

— Мяне ты, урэшце, накорміш? — спытаўся я.

Перахапіўшы мой позірк, Стася бытта заглянула ў душу. І мне здалося, што ўсё навакольнае знікла, у шалашы мы толькі двое. Знікла мая самотнасць. Зніклі ўсе мае перажыванні. На душы стала спакойна.

Падаючы міску, яна ўбачыла ў ёй развараную сасновую шышку і вінавата ўскрыкнула:

— Ой, налью другую!

— Нічога, будзе смачней! — хапіў я за край посуд.

Стася рассмяялася.

— Праўда, праўда, смачней,— не ведаеш? Гэта ж — кукурузны качан, прыглядзіся!.. А сама абедала ўжо?

— Не...
— То давай разам. Бяры лыжку!
— Я зараз!
Радыстка вярнулася, падсела і ціха прашаптала:
— А я ведаю адну таямніцу.
— Ну-у? — я адчуў, як ад яе шчаслівага позірку і мяне агортвае хваля радасці.
— Пайшла сёння паласкаць гімнасцёрку на возера, а мяне ўсё цягне вярнуцца дамоў. Уляцела я ў зямлянку і са свету нічога не бачу ў паўзмроку. Толькі па інтуіцыі зразумела, што тут былі вы.
— Мы?
— Ага.
— І колькі нас было?
— ...
— Дакуль будзеш выкаць?!. А памятаеш, як з мяне здзекавалася, калі я браў цябе з аэрадрома?
— ...Быў — ты... Гляджу — на рацыі...
— Здаволеная падарункам?
— Вельмі!
— Трымай яго на здароўе!
— А мне ў апошні час так цяжка было на сэрцы, што вырашыла прасіць штаб перавесці ў другое злучэнне...
Я ўявіў сабе жыццё без Стасі і аж страпянуўся.
— У дру-гое?
— Аг...— Горла яе перахапіла спазма, а вочы напоўніліся слязьмі.
— Даруй, Стась...
Я адчуў, як мяне распірае ад шчасця, і так мне стала хораша, як бывала толькі некалі ў Вільні.

## 7

Дзён праз дзесяць я адправіўся да дэсантнікаў з намерам адкрыта распытаць у Сокалава пра Дануту.
Але знайшоў толькі пустыя зямлянкі: тыдзень таму назад група накіравалася ў Прусію.
— Засталася толькі іхняя кухарка. У сямейным лагеры цяпер! — падказалі суседзі.
Я знайшоў гэтую цётку.
Сапраўды, дэсантнікі прыводзілі з Вільні нейкую паненку. Яна размаўляла на мяшанай рускай і польскай мове, а ў лагеры пабыла толькі з раніцы да вечара.
Жанчына добра запамятала незнаёмую, бо яе так па-

кусалі камары, што ў дзяўчыны паднялася тэмпература і медсястра мусіла даць ёй уколы.

— Колькі жыву, не бачыла, каб чалавек гэтак баяўся камароў! — дзівілася кухарка.

— А гутарыць не даводзілася з ёй, цётка? — пацікавіўся я.

— Ой, не-е! Колькі людзей да дэсантнікаў прыходзіла, а я ні разу ні з кім не гаварыла. Не мела права. Я ж у такіх сакрэтных людзей служыла!.. Нельга мне і табе пра гэта расказваць, але ўжо — ладна, свайму чалавеку чаму і не паведаць...

— Значыць, не гутарылі з ёй,— уздыхнуў я.

— У яе з Сокалавым былі ўсё нейкія сакрэты, абмяркоўвалі нешта доўга, дзяўчына амаль не паказвалася з зямлянкі...

Больш я нічога не даведаўся.

Адыходзячы ад старой, цешыў сябе: Сокалаў, вядома, сказаў бы, каб мной хто цікавіўся...

## Раздзел сёмы

### 1

Але каб уся гісторыя з генеральскай дачкой так проста і нецікава скончылася, я б яе і не апавядаў. У тым і справа,— на гэтым не канец.

Я ўжо даўно жанаты на былой радыстцы Станіславе Эдвардаўне Дварэцкай. Жывём мы ў Гродне.

Настаў зусім іншы час. Душа мая супакоілася. Я — чалавек, пра якога людзі гавораць, што ён шчаслівы.

Мяне цэняць на рабоце. Зарабляю нямала грошай. Маю выгодную кватэру. Наладзіў добрую сям'ю. У мяне два сыны...

Але не толькі таму я спакойны. Я не з тых людзей, для якіх добрая зарплата, выгодная кватэра і ўдалая жаніцьба — мэта ўсяго жыцця. Гэта прыйшло неяк само сабой!

Галоўнае — мае ідэі, якімі я жыў, за што змагаўся, дасягнулі мэты і здзейсніліся.

Я заўважаю, што пасталеў. Ужо не так хутка скачу да неба ад радасці і не выходжу з раўнавагі з-за кожнага глупства.

Цяпер мне не ўсё роўна, спаць на правым баку ці на

левым, ісці па лесвіцы ўверх ці ўніз, не бегаю ўжо я цераз тры ступенькі і калі ў полі напаткаю плот, то не стану яго пералазіць, а лепш абыду. Але ўвогуле, мабыць, я застаўся такі самы.

Мне, напрыклад, самую вялікую прыемнасць прыносіць вестка, што менавіта наша ракета першай занесла вымпел на іншую планету ды якая-небудзь краіна ў Афрыцы атрымала незалежнасць, і ўжо асабістая трагедыя для мяне — калі б які-небудзь разумнік адхіліў праект Гродзенскай гідрастанцыі на Нёмане. Не магу змірыцца, што жывуць яшчэ побач бюракраты, падхалімы, лайдакі і п'яніцы, што існуюць і дзейнічаюць яшчэ зладзеі і бандыты...

Я ўпэўнены — выдарыся якое-небудзь няшчасце, скажам, вайна, хоць і з болем у сэрцы, але без разважанняў пакіну і свой дастатак, і сям'ю, каб зноў пайсці змагацца за справу, якая з дзяцінства стала маім сумленнем, законам жыцця, нормай паводзін.

Адным словам, я — адзін з мільёнаў таго пакалення, якому давялося гартавацца ў горніле гістарычных падзей, самасцвярджаць сябе праз грамадскія і сацыяльныя дасягненні,— у каго гэта ўсё атаясамілася з поспехамі ўласнымі.

Ёсць у мяне і дзіўныя слабасці. Адна з іх — генералава дачка. Хоць з яе вуснаў чуў я сам, што яна — жонка Станеўскага, але ў словах яе знаходзіў нейкую недагаворанасць і сябе пацяшаў — гэта непаразуменне. Прайшло столькі часу, а паненку ніяк не забываў. Бо ці ж можа забыць інвалід адрэзаную нагу? Яна яму сніцца, «свярбіць» і «баліць». Праўду кажуць, першае каханне — разьба па камені.

Я жартаваў сам з сабой не раз: не адкрый Паўлаў тэорыі ўмоўных рэфлексаў, адкрыў бы яе я. Варта толькі каму-небудзь прамовіць «Данута», як я ўвесь і ўстрапянуся.

А на нашай Гродзеншчыне гэтае імя вельмі распаўсюджанае, бо кожная трэцяя, як назло,— Данута!

Хоць і ні на мінуту не забываў пра яе, але да апошняга часу я стараўся сябе не выдаваць. Здавалася, мне гэта ўдаецца. Сяджу, напрыклад, з жонкай у пакоі, і раптам у мяне вырываецца гэтае імя. Вырвецца слова, і яго, як кажуць, не вернеш. Тады я хуценька выпальваю нямецкую фразу, каб гэтае слова патанула ў патоку замежных, і прыкідваюся:

— Глядзі ты, ужо забыўся, як правільна вымаўляецца простая фраза!

— Але,— спачувае мне Станіслава Эдвардаўна.— Замежная мова, калі не практыкавацца, забываецца надта хутка, і гэта агульнавядома!

— Трэ было б узяцца за яе, успомніць, мо яшчэ прыдасца!

— Не лянуйся, хто табе перашкаджае?

Асабліва ўспамінаю Данусю, калі пасваруся з жонкай.

Насуперак фактам і логіцы вобраз Данкі вырас у маім уяўленні ў ідэал дасканаласці і прыгажосці. Гэта стала ў мяне нават нейкай хранічнай хваробай. Я ўжо не раз думаў, ці не схадзіць да псіхіятара. Ды не ішоў, бо баяўся, каб людзі не даведаліся пра маю таямніцу.

Праўда, усё гэта не перашкаджае мне па-свойму любіць жонку. З ёю жывём мы душа ў душу. Калі не лічыць сгенералавай дачкі, я не маю сакрэтаў ад яе. Ці гэта сапраўднае каханне, ці мая любоў прыстасавалася, як можа прыстасавацца чалавек хадзіць на адной назе, не ведаю.

Сустрэча з князем у аўтобусе мяне растрывожыла. «Няўжо Дануту з-за мяне казнілі?» — пытаўся я ў сябе тысячу разоў. Былі хвіліны, калі я літаральна не знаходзіў месца.

А нядаўна... Але — не, не буду забягаць наперад, раскажу ўсё папарадку.

## 2

Днямі — я забыўся сказаць, што працую інспектарам аддзела народнай асветы,— паехаў я ў раён правяраць, як рыхтуюцца школы да новага навучальнага года. Набліжаўся час летніх экзаменаў, і бедным дырэктарам было не да мяне. За некалькі дзён я аб'ездзіў усе школы, больш-менш усё высветліў і мог вяртацца ў Гродна.

Пабыў я ў раённага начальства, паабедаў у сталовай перад дарогай і накіраваўся на вакзал.

Стаяў канец мая, навокал была такая прыгажосць, што, здавалася, не нагледзішся і не надыхаешся ўволю. Пабыўшы некалькі дзён на свежым паветры, я адчуў сябе дужым і бадзёрым, а ў сэрцы было столькі дабраты, што хоць ты раздавай яе ўсім прыгаршчамі. Я быў увесь нібы добра настроены раяль, здаецца — крані мяне толькі — і зайграю!

— Эй, начальнік, пачакай! — раптам паклікаў мяне хтосьці ззаду.

Здзіўлены, я азірнуўся. Мяне даганяў Віктар Кучэрын. Не той Кучэрын — з залатымі пагонамі, у бляску славы. Гэты здаваўся меншы ростам, а па яго выгляду можна было зразумець, нават без рызыкі зрабіць памылку — ён толькі што прачнуўся пасля п'янкі. Валасы ўзлахмачаныя, твар — стомлены і шэры, зашмальцаваны пінжак з пустым рукавом вісіць нібы на чучале.

— Віця, ты-ы? — шчыра ўзрадаваўся я таварышу і падаўся насустрач.

— Як бачыш. Здароў! — наставіў ён мне левую руку.

— Прывітанне, Віцька! — усё яшчэ не мог я прыйсці ў сябе ад прыемнай нечаканасці і нязграбна пацісnуў яго руку сваёй левай, як вітаўся з ім яшчэ ў лесе.

Падбадзёраны, ён ужо з папрокам і скептычна аглядаў мяне з ног да галавы:

— Прывітанне, прывітанне, абласны начальнік!

Дзіва — зрабілася няёмка ад таго, што я паголены, падцягнуты і жыццярадасны. Але толькі на хвіліну. Я зараз жа зазлаваў: а хто табе перашкаджае быць такім жа? Колькі за пасляваенныя гады я ўніжаўся, замальваў твае грахі ў начальства, паручаўся, што возьмешся за розум, перастанеш піць!

— У капелюшы-ы, з новенькім партфе-елем! Міністр! — дабавіў, нібы ўлічыў у ганебным учынку, ён і плюнуў.

Мяне заўсёды ўражвае, адкуль у алкаголікаў такая дзіўная філасофія: іх чамусьці заўсёды раздражняе прыстойны выгляд чалавека. Яны бытта выхваляюцца сваім «пралетарскім» выглядам і паводле сваёй недарэчнай філасофіі ўвесь свет хацелі б бачыць вялізным сметнікам!

— Ну, як жывеш? — адчуваючы жаласць, спытаўся я.

— Нічога... Жывём, хлеб жуём...— дастаў ён пачак папярос і кісла ўсміхнуўся.

— Расказвай, дзе ты цяпер, што робіш? — цягнуў я, хоць ведаў пра яго ўсё. Спачатку ён працаваў намеснікам старшыні райвыканкома, потым пачаў запіваць, каціўся ўсё ніжэй і ніжэй. За гэтыя гады паспеў некалькі разоў ажаніцца.

— Дзе? Вось ужо трэці месяц качагарам у бальніцы! — кінуў ён з раздражненнем, бытта сказаў: сядзіце там сабе на цёпленькіх месцах, а пра таварыша забылі!

Віця, Віця, слаўны сокал, як ты адхіліўся ад свайго

курсу?! Эх, не даглядзеў я, а можа, занадта быў заняты сваімі справамі... Зрэшты, чалавек у першую чаргу адказвае за сябе сам.

Было яго так шкада, што я не ведаў, пра што і гаварыць.

Гэтым часам Кучэрын адной рукой спрытна прыкурыў, шпурнуў пусты пачак на тратуар і з выклікам спытаўся:

— Ну што, будзем так сядзець і маўчаць?..

— Грамадзянін! — з дакорам упікнуў Віктара нейкі стары.— Куды вы кінулі пачак! Вось жа урна побач, ай-ай-ай, нядобра!

— Скажыце, калі ласка, а я і не ведаў, што вы тут лакеем служыце! — абрэзаў ён старога.

— Віця! — узмаліўся я і позіркам папрасіў у старога прабачэння. Затым падняў пачак ды апусціў яго ў урну.

— Кампраметую?..— з крыўдай спытаўся Кучэрын.— Што ж, мы людзі цёмныя, жывём у правінцыі...

Па горкаму вопыту я добра ведаў, што ў такіх выпадках ніякія разумныя довады не дапамогуць.

— Ану, зараз жа перастань крыўляцца! — Пачаў ён мяне злаваць.

Віктар адразу панік. З алкаголікамі, на жаль, размаўляць можна толькі так.

— Абедаў? — спытаўся я мякчэй.

Віктар нешта прамычаў.

— Давай лепш пойдзем ды паабедаем!

— Чорт з табой, ты начальнік, грошай маеш багата, вядзі! — ажывіўся ён.

3

Мы сядзелі ў рэстаране, і Віктар усё пасмейваўся з мяне, што я нічога не ем, бо не выпіў. А хто не п'е, на яго думку,— непаўнацэнны чалавек, ён не ведае сапраўднага жыцця.

Цуд! Гэта ён яго ведае?!.

Я глядзеў, з якой прагай Віктар п'е, і думаў, як небяспечна ва ўжыванні спіртнога пераходзіць мяжу. Вось чалавек яе перайшоў і ў сорак год ператварыўся ў развaліну, астылы вулкан. Цяжка было слухаць яго разважанні і адначасова было шкада чалавека, які па дурасці так нявечыць жыццё.

— Ну, а твая палячка як пажывае? — не надта выбіраў ён словы.

— Нічога, жыве,— прапусціў я міма вушэй грубаватасць.

— Адхапіў кавалак, лаўкач!

— Што ж ты зяваў?

— Чорт з табой, карыстайся! Тады вып'ем за яе!

— Прабач, ужо выпіў сёння сваю порцыю, больш не магу...

— Усё хітрыш, выслужваешся перад начальствам, баішся, каб не было плямкі на біяграфіі, каб не данеслі на цябе што-небудзь падхалімы. За мяне будзь спакойны — магіла!

Я і гэта сцярпеў.

— Усё роўна не будзеш? Ну як хочаш, мне будзе больш... Дык хоць еш!.. Ах, праўда, у вас інтэлігентныя страўнікі, розныя дыеты, рэжымы, пячонкі...

«Дзе ён жыве? Хто яму мые бялізну?.. Аднак хтосьці ж церпіць яго!.. А можа, ён вечарамі нават гуляе з дзецьмі — сваімі ці чужымі?!.»

Захацелася даведацца пра сябра больш падрабязна ды пры безалаберным жыцці расказваць яму пра сябе было б цяжка, і я не стаў мучыць Віктара. Толькі паказаў на пусты рукаў:

— Віця, ты ніколі не расказваў мне, дзе цябе стукнула. У самалёце? Раскажы, калі ласка!

— Вось і крыўдна, што на зямлі! — неахвотна кінуў ён.

— Ну-у? — здзівіўся я больш чым трэба, выклікаючы яго на шчырасць.

— У лесе натрапіў на леснікоў-гадаў,— уздыхнуў ён.— Выратавала адна полька — нямецкая перакладчыца з Вільні, дай бог ёй здароўя і добрага хлапца за мужа...— Вочы яго зацяпліліся, і ён здаўся мне ўжо слаўным хлопцам.

— Курносая! — крыкнуў ён афіцыянтцы.— Падай, дзетачка, папярос!

— Перакладчыца? — укалола мяне раптоўна якоесьці прадчуванне.

— Ага...

«Ці мала было тады ў Вільні перакладчыц-полек, якія ратавалі нашых людзей?» — супакоіў я сябе.

— Збілі мяне пад Беластокам,— закурыўшы і прагна наглытаўшыся дыму, пачаў ён апавядаць.— Прызямліўся я на нейкім агародзе. Відна, месяц свеціць на ўсю морду!.. Адчапіў парашут і — ходу. З сабой меў толькі пісталет.

Зайшоў на нейкі хутар. Дзядзька даў на дарогу сала, торбу квашанай капусты, салдацкую коўдру, запалак, табакі, і я падаўся на ўсход. Прабіраўся ноччу. Днём вылежваўся ў гушчары і дрыжаў: макрэнь, холад, доўгія дні — мае ворагі. Як назло не трапляліся партызаны. Ежа хутка скончылася. Вопратка каторы ўжо дзень не прасыхала. Вылеціць птушка — уздрыгваю, з-за кожнага куста так і чакаю ворага. Адным словам, становішча — хоць ты плач!

На другі тыдзень схапіла мяне яшчэ і ліхаманка. Аслабеў зусім: думаў — капут! Хоць бы тыя славутыя партызаны хутчэй трапілі!.. І вось нехта мяне штурхае руляй вінтоўкі пад бок. Прачнуўся і доўга не магу дайсці да ладу. Ляжу зусім блізка ля шашы, між свежых сажняў дроў. Як сюды забраўся, не магу ўспомніць. Бачу над сабой двух з вінтоўкамі. Нарэшце — партызаны!.. Прашу:

«Вады!»

«Ану, хопіць вылежвацца! — злуюцца і зноў поруць вінтоўкамі: — Уставай, сталінскі герой!»

І тут па інтуіцыі здагадаўся — леснікі!

Аднаго з іх я палажыў адразу. Другі стрэліў у мяне, перабіў косць правай рукі і скочыў, падлюга, за дрэва. Пачалася паміж намі дуэль. Ён — з вінтоўкі, я — з пісталета. Абодва гарачымся. Мне з левай страляць нязручна. Ён, гад, прастрэліў мне яшчэ і грудзі.

Нарэшце выйшлі ў мяне патроны. Але скончыліся яны і ў лесніка, ён раптам кінуў вінтоўку і пабег. Я не знайшоў сілы перазарадзіць пісталет, самлеў.

Калі вярнулася прытомнасць, гляджу — я ў вясковай хаце. Нада мной схіліўся доктар і робіць уліванне крыві. Я ж трасуся, абліты халодным потам. Правай рукі — няма! Пальцы, далонь, локаць адчуваю, а самой рукі няма, от фокус!.. Ну... А праз месяц праходзіла ваша група, і мяне падабралі хлопцы.

Віктар зноў прагна зацягнуўся.

— А далей? — падагнаў я лётчыка.

Віктар тыцнуў акурак у талерку:

— Ачуняўшы, пацікавіўся, як жа апынуўся я ў дзядзькі. І людзі мне расказалі. На шашы ляснік спыніў першую нямецкую машыну ды пачаў тлумачыць, што ў лесе ляжыць савецкі дэсантнік. З немцам ехала перакладчыца. Гэтая дзяўчына пераклала, бытта ў гушчары сасной прыдушыла рабочага і патрэбна медыцынская дапамога. Ляснік, вядома, нічога не зразумеў. Немец пасадзіў яго ў машыну, і яны паехалі. А праз гадзіну дзяўчына вярну-

лася ў лес з доктарам-палякам. Дзе падзеўся ляснік — таямніца. Мяне прывезлі ў вёску, адрэзалі руку, перавязалі грудзі...

— А перакладчыца якая з сябе? — замёр я.

— Не бачыў. Быў непрытомны, калі прыязджала. Доктар некалькі разоў наведваўся. Ён сказаў, што дзяўчына — дачка польскага афіцэра, чалавек — што трэба, а я павінен усё жыццё за яе маліцца. Я спытаўся, як зваць. «Канспірацыя!» — засмяяўся ён. Дзядзька гаварыў мне, прыгожая... Зрэшты, усе полечкі нічога сабе...

— Яна — не дачка генерала?

— Мажліва.

— А калі гэта здарылася?

— У красавіку сорак трэцяга.

— Ты добра памятаеш? — не пытаўся я, а прасіў з іскрай надзеі, хоць добра ведаў і сам, што Кучэрын прыйшоў да нас праз паўгода пасля таго, як я страляў у Дануту.

— Ці добра памятаю? Такія рэчы, браток, не забываюцца, будзь спакойны!

— У якой вёсцы жыве дзядзька, дзе ты хаваўся?

— Пад Вільняй. Ездзіў я да яго пасля вайны, але ўжо не застаў. У Польшчу выехаў з сям'ёй.

— Не можа быць!

— Аднак выехаў! Чаму цябе ўсё гэта цікавіць? Ты што-небудзь ведаеш?

Я перавёў размову на іншую тэму.

## 4

Вярнуўся я з камандзіроўкі.

Падала жонка абед, сеў я есці, і нічога не лезе ў горла. Уключыў тэлевізар. Ішоў новы фільм з Тацянай Самойлавай, а ў мяне перад вачамі другое. Выключыў апарат.

Прычапіліся з нейкім пытаннем дзеці, і іх прагнаў.

Жонка купіла новую пласцінку «Авэ Марыя» Баха (калісьці не любіў класічнай музыкі, не любіў з-за ўзросту), паклаў пласцінку, запусціў яе, але і класічная музыка не супакоіла, адаптар адключыў.

— Што з табой, Янка, нездаровы ты? — устрывожылася Стася. — Мо на рабоце што здарылася? Непрыемнасці ў цябе?

— Выдумай!

— Дык чаму ж ты такі?!

Я пераказаў ёй усё, што чуў ад Кучэрына. Стася прамаўчала. Толькі потым неяк занадта падазрона паведаміла:

— Цяпер у мяне тры ўрокі ў восьмым і дзесятым класах. Іду ў школу. А сёмай спаткаеш мяне перад магазінам «Колас» і дапаможаш несці сёе-тое...

— Добра, спаткаю...

Вечарам са Стасяй выходзілі мы з магазіна. Я нёс пакункі, кулёчкі і чакаў буры за сваё прызнанне.

— Калі ласка, праходзьце! — у дзвярах прапусціў я нейкую жанчыну, высцерагаючыся, каб яна чаго-небудзь не выбіла ў мяне.

— Дзякую! — стрэліла ў мяне ўдзячнымі вачыма незнаёмая маладзіца.

Я не памыліўся ў прадчуванні, бура хутка пачалася. На вуліцы жонка пацягнула мяне за пінжак:

— Ты куды гэтак спяшаешся?

— За мной не так будуць цябе штурхаць, Стась!

— Вельмі ж ты ўжо стаў аба мне клапаціцца, што і казаць! — з хваравітым раздражненнем заўважыла яна.— Чакай, чакай яго пад магазінам, тырчы ва ўсіх на віду...

— Дык не ты ж мяне, а я цябе чакаў, Стася! Ты ж прыйшла а палове восьмай, спазнілася на цэлыя паўгадзіны! — апешыў я ад несправядлівасці.

— А-га, ты мяне чакаў таму, што я цябе мелася чакаць, якая розніца!

— Ну і логіка ў цябе, не дай бог! — пацiснуў я плячамі.

— Папрацаваў бы ў школе, тады пабачыў бы, якая ў цябе была б логіка. Падумаеш, пачакаў крыху і ўжо стогне, ногі яму бытта адпалі!..

Я прамаўчаў.

У апошні час Стася стала занадта нервовай. Найменшае глупства можа вывесці яе з раўнавагі. Што ж, на гэта былі прычыны. Пасля вайны нам з ёю шмат давялося перажыць. Амаль на адной стыпендыі канчалі інстытут. Пажаніліся — ні кватэры, ні вопраткі, ні лыжкі. А тут пайшлі дзеці. Фактычна мы сталі на ногі за апошнія гады. На мне мінулае амаль не пакінула следу, а ёй, беднай, дасталося! Адны дзеці колькі забралі сілы і здароўя.

Я разумеў жонку і стараўся не даваць прычын хваля-

ваца. Як на бяду, трэба было кучэрынскім расказам разварушыць старую рану!..

— Зойдзем ва універмаг, паглядзім табе туфлі! — каб як-небудзь збіць у яе настрой, запрапанаваў я.

Але Стася прайшла міма, нават не ўзглянуўшы на вітрыну.

Замкнёныя дома сыны-дашкольнікі абрадаваліся нашаму прыходу ды рынуліся насустрач:

— Што купілі? Семкі, ура-а!

— Не лезьце! — абрэзала маці іх.

Справы дрэнь.

Я ўдзень слаба паабедаў, і мне захацелася есці. Паклікаў на кухню сыноў, разагрэў на пліце суп, заслаў стол чыстай паперай, паставіў на яго міску.

— Ану, хлопцы, давайце падрубаем. З адной пасудзіны, па-партызанску, добра? Стась, хадзі перакусім да вечара!

Садзімся за стол.

— Што ты мне ўсё тыцкаеш кулаком у твар? Не мог разліць кожнаму ў талеркі? Да чужых ты клапатлівы, што і казаць...

— Я хацеў, каб табе было менш пасуды мыць! І да каго чужога я клапатлівы больш, як да цябе?!

— Нябось бачыла, з якой галантнасцю ты расшаркваўся перад прыгажуняй рыжай ля магазіна: «Калі ласка, прахо-одзьце!»

— Ну, ведаеш!

Гэта было ўжо занадта. Я кінуў лыжку, лёг на канапу, падлажыў пад галаву рукі і ўтаропіў вочы ў столь.

Кажуць, мужык і жонка — самыя блізкія людзі. Гэта так. Але чамусьці ніхто не заўважыць, што яны могуць быць і самымі далёкімі. Пра некаторыя рэчы, напрыклад, ахвотна скажаш чужому чалавеку, але ніколі не скажаш жонцы. Цьфу!..

Падышоў старэйшы сын, працягнуў мне жменьку семак ды спачувальна запрапанаваў:

— На, татка...

Я залускаў.

— Ты чаму на падлогу кідаеш? — убачыла Стася.

— Добра, буду на столь!

Я паклаў семкі і павярнуўся да сцяны. Не, хопіць з мяне!.. Чым я вінаваты, што на свеце была такая Данута Янкоўская, што я закахаўся?

## 5

Праз некалькі мінут жонка апамяталася:

— Янка, і не сорамна табе так валяцца без работы?

— Вельмі. Вазьмуся за сон.

— Хлопцы, сцягніце з таты туфлі!

Ляжу і не звяртаю ўвагі на тое, што хлопцы вычаўпляюць з маімі нагамі.

— Сцягнулі? Малайцы! Цяпер бяжыце на двор, пагуляйце сабе крыху!

Дзеці выбеглі, і яна паведаміла:

— Сёння выхавацелька расказала, што старэйшы прыходзіць у дзіцячы сад з засаджанай за пазуху рукой. Кажа — яна ў яго зламаная.

Я ўсхапіўся з канапы і зарагатаў.

— О, ён яшчэ смяецца!

— А чаго ж не смяяцца? Фантазіі багата! Сам быў такі! Калісьці ў школе, каб стаць героем, выбіваў патыліцай дошкі ў ганку!

— Так ты быў ужо вучнем, а гэта?

— Бо існуе акселерацыя, сама ведаеш?!

Жонка цяжка ўздыхнула. Затым без ніякага пераходу, з падазроным спакоем заявіла:

— Пасля вайны, Янка, ты яшчэ ні разу не быў у Вільні. З'ездзіў бы...

— Чаго там не бачыў?! — разгубіўся я.

— Паедзеш.

— Не паеду.

— А я сказала — паедзеш!

— А я сказаў — не паеду!

— Не-е, ты з'ездзіш! Трэба, Ваня, каб тваё сумленне супакоілася. Ты павінен дакладна даведацца, што з Данусяй. Мо яна там жыве яшчэ...

— Знайшла важнасць...

— Важна!.. Ды... Хопіць, наслухалася я тваіх практыкаванняў у нямецкай мове — думаеш, дурная і глухая, нічога я не бачу і не чую?!

Я нібы ў рот вады набраў.

— Ідзі да загадчыка аблана, папрасі водпуск на пару дзён, з'ездзі і высветлі ўсё. Горад жа ад нас недалёка.

— Пустое гаворыш...

— Я добра ведаю, ты хочаш гэтага, толькі хаваешся. Аднак сам ад сябе нікуды не ўцячэш! Магчыма, Данута яшчэ жыве там!.. Няўжо, думаеш, я бусурманка?

— Тады чаго ж ты пілавала мяне цэлы дзень?

— Мужчына, вытрываеш! А перад кім яшчэ я магла выказаць свой настрой, перад вучнямі? Сынамі?.. На тое ты і муж!

Я прамаўчаў.

— Не мучай сябе, Ваня, едзь. Не ведаю, як цябе раней не выпхнула ў Вільнюс. Але і цяпер не позна. Між іншым, дзецям што-небудзь купіш, хутка ж у школу старэйшаму...

Па вачах я зразумеў, жонку апанавалі старыя крыўды. Але што гэта былі за крыўды, яна і сама не сказала б. Супроць таго, што цягнула мяне ў Вільнюс, мы абое былі бяссільныя.

## Раздзел восьмы

### 1

Быў пачатак чэрвеня.

Поезд спыніўся, я выйшаў на перон.

— Паднесці? — спытаўся пажылы насільшчык.

Го, цяпер і я тут нібы пан!..

— Што вы, сам дам рады!..

Вельмі не люблю, каб мне прыслужвалі.

Спускаючыся з перона ў тунель, я аж пакратаў рукой белыя кафлі на сцяне — знаёмыя, родныя.

«І ўцалелі ж у вайну!» — узрадаваўся я.

Наверсе я анямеў: замест цеснага і змрочнага будынка вакзала — гмах! У агромністай зале з манументальнымі калонамі я адчуў сябе маленькім, кволым і як бы старамодным.

З прывакзальнай плошчы адкрылася мне незнаёмая панарама дамоў з прыязным бляскам новенькіх шыбаў. Над жылымі блокамі дзесьці ў раёне Пагулянкі неба падпіралі тонкія ажурныя мачты, і ўжо не толькі цэрквы і касцёлы стваралі сілуэт горада.

Я сабраўся ісці ўжо далей, але кінуліся ў вочы густое перапляценне правадоў ды незвычайныя для Вільнюса тралейбусы. Аднак мне хацелася прайсціся па горадзе пешшу. Толькі для цікавасці я спытаўся ў нейкага хлопчыка:

— Слухай, братка, і на Антаколь яны таксама ходзяць?

— Ходзяць...— Малы ад здзіўлення пацiснуў плячамі, як зрабіў бы некалі я, калі б у мяне спыталі, ці кожны дзень цячэ Вілія.

Я ніяк не мог прызвычаіцца да новага горада.

Проста з вакзала накіраваўся на старую кватэру, да прачкі.

У двары пад плотам — той самы лопух. Той самы дом. Тая самая бардовая шалёўка прыкрывала спарахнелыя сцены. Толькі цяпер жылі тут ужо незнаёмыя людзі. І я накіраваўся да генералавага дома.

Па развешанай на вяроўках бялізне на панадворку зразумеў, што ў доме цяпер жывуць некалькі сем'яў і прытым не надта багатых.

Брамкі не было.

Я мінуў перакошаныя і парысаваныя бартамі грузавых машын бетонныя слупы і пастукаў у парадныя дзверы. Выйшла маладая жанчына, на хаду захінаючы квяцісты халат,— відаць, толькі што карміла дзіця. Яна квітнела маладосцю і здароўем.

— Янкоўскіх? — здзівілася.— Такіх тут няма.

— Вы ўпэўнены?

— Вядома!

— Яны ж тут жылі!

— Не-е, не жылі ніколі!

— Вы памыляецеся, маладая асоба.

— Не можа гэтага быць.

Убачыўшы маё расчараванне, жанчына захацела дапамагчы:

— А які нумар дома вы шукаеце?

— Нумар гэты. І дом напэўна гэты. Я-то ведаю!..

— Дзіўна! Усе трынаццаць год мы жывём тут, я тут і вырасла, школу скончыла, замуж выйшла, а такога прозвішча не чула. Ян-ко-оў-скія?.. Не! Нават і паблізу такіх тут не было!..

Я хвіліну пастаяў. Вось і ўсе мае хваляванні!..

Добразычлівасць у вачах маладзіцы паступова змянілася разгубленасцю. Бачачы, што я ўсё нерашуча, з сумнай заклапочанасцю тапчуся на прыступках, яна запрапанавала:

— То, можа, у дом зойдзеце...

Жанчына, відаць, думала, што на яе ветлівасць я адкажу тым жа і пайду сабе туды, адкуль прыйшоў. Але ва мне, бы ў таго чалавека ў вадзе, што хапаецца за славутую саломінку, абудзіўся праменьчык надзеі.

— Вядзіце! — злавіў я яе на слове ды пераступіў парог.

Разгубленая дарэшты маладзіца павяла мяне, не ведаючы куды і нашто.

У калідоры, які некалі быў прасторны і блішчаў лакам, цяпер тырчалі звычайныя скрыні, клункі, веласіпеды, жалезныя карыты: гэта быў калідор рабочых людзей.

Каб крыху супакоіць жанчыну, я вымавіў:

— Калісьці тут я...

— Ах, дык вы тут, няйначай, самі жылі!

— Штосьці такое было...

— Так бы і сказалі адразу! — падхапіла яна з палёгкай.— А я думаю — што гэты чалавек хоча!..

— Нарэшце, дамовіліся, як бачыце! — усміхнуўся я да яе ўдзячна.

— Калі ласка, праходзьце сюды... Толькі ў мяне яшчэ не прыбрана...

— Нічога, я на хвілінку...

Увайшоў у былую генеральскую гасцінную, дзе я страляў у Станеўскага і Данусю. Малое дзіця з сосачкай у роце спала ў калысцы пад адчыненым акном якраз там, дзе стаяў фікус.

— О-го, чалавек, нічога не скажаш! — палесціў я жанчыне.

— Тры месяцы ўжо! Смяецца!..

— Ты ба-ачыш!..

Маладзіца была шчаслівая і добрая, як усе маладыя мацяркі. Я адчуў яе прыхільнасць, і мне зрабілася так пасвойску хораша, нібы зайшоў я ў хату да родных або даўно знаёмых людзей, якія мне заўсёды спрыяюць.

Гэтак вёў я свецкую гутарку з гаспадыняй, а вачамі, усім сваім нутром прагна шарыў па кутках.

На дубовым паркеце ў елачку яшчэ віднеліся чорныя ямкі, выбітыя кулямі. Маладзіца, убачыўшы, што я нагнуўся і ўважліва прыглядваюся да іх, асуджальна заявіла:

— Гэта не мы паркет сапсавалі! У вайну тут, кажуць, нямецкія салдаты жылі. Дровы калолі ў пакоі фашысты, ленаваліся вынесці на двор нават...

Я нагнуўся, пакратаў дзірачкі пальцамі:

— От бадзягі!..

Навошта засмучаць яе светлую, нібы сонца, душу цяжкімі ўспамінамі?

Я развітаўся і пайшоў.

## 2

Ідучы па Вільнюсе ад генералавага дома, падумаў сабе: і да чаго ж усё на свеце не вечнае! Здаецца, толькі ўчора тут лазіў, нечага хацеў, кудысьці імкнуўся, а як гэта было ўжо даўно?!.

На вежы Гедыміна ветрык гуляў вялізным чырвоным палотнішчам. Сцяг гэты нібы лунаў над горадам.

На Зарэчнай, ля моста — помнік. Той самы, польскаму хлопчыку Мечыславу Додзіку, які ўтануў, ратуючы яўрэйскага — Хацкеля Хармеца. Зімой 1943 года каля яго праходзіў і не заўважыў. Мабыць, мне засланілі ўсё падзеі, перажыванні, а помнік гэты і тады сабе стаяў як сімвал неўміручай Чалавечнасці ды адважна глядзеў на выхадкі фашыстаў.

Як цяпер выглядае ўсё ясней, выразней.

Вуліцы запоўнены моладдзю — рослымі хлопцамі і дзяўчатамі; што ж, бацькі адстаялі незалежнасць, стварылі для іх умовы!.. Калісьці законныя гаспадары — літоўцы — былі тут яшчэ ў большым загоне, чым беларусы. Затое цяпер гучыць усюды літоўская мова і такія ж вісяць шыльды.

І ва ўсіх гэтых пераменах прымаў удзел і я.

Памятаю, некалі зайздросціў я балгарам за іхняга Дзімітрава, а датчанам за Андэрсена і перажываў за беларускую беднасць. Цяпер і я магу ганарыцца.

У вайну фашысты з беларусаў не маглі стварыць ні адной вайсковай часці, затое ў нашых лясах было чатырыста тысяч партызан! Нідзе іх столькі не было!.. І ў баі з фашыстамі загінуў кожны чацвёрты беларус! Загінуўшымі не хваляцца, але пра іх і не забываюць!

Што і як зрабіць, каб тое, што адбылося, не абразіла памяці загінуўшых?!

Вось набліжаецца ваенны патруль. Вайсковыя — свае, блізкія хлопцы, без чванства і фанабэрыі. У салдат незвычайныя аўтаматы-карабіны — новенькія і пераліваюць матавай сінявой варанёнай сталі. У капітана на рэмені — пісталет незнаёмай мне сістэмы ў драўлянай кабуры, падобнай да той, у якой нашы партызанскія камандзіры насілі маўзеры. Патрулі так ходзяць, нібы хадзілі па гэтых вуліцах век. На грудзях — камсамольскія і гвардзейскія значкі, хлопцы імі фарсяць, як мы некалі медалямі і ордэнамі...

Пройдуць гады. Ва ўсім свеце запануе мір і лад. Бу-

дуць лятаць на другія планеты. Тады людзі нашы ордэны, аўтаматы і пісталеты будуць разглядаць у музеях з цікаўнасцю і спачуваннем да нас, як мы, разглядаючы лукі і прашчы сваіх прашчураў...

Перад кінатэатрам стаяла неспакойная чарга вучняў за білетамі на партызанскі фільм. Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі праз хвіліну будуць у крэслах ціхутка лізаць марожанае ды з павагай і страхам сачыць за кадрамі. Яны пра вайну ведаюць дакладна столькі, колькі мае сыны.

«Тата, а што гэта ў яго руцэ, нібы эскімо на палачцы?»

«Нямецкая граната, дурненькі».

«А-а...»

Тое, што на экране,— для іх поўная заманлівай рамантыкі гісторыя. Скажы ім, што па тратуары ідзе ўдзельнік тых падзей, яны ж вельмі здзівяцца: вось гэты? Такі звычайны?.. Ы-ы!..

Шмат чаго змянілася! Няважна, што вунь, у скверыку, сядзіць стары інтэлігент і чытае газету так, як мелі звычай чытаць яе людзі старэйшага ўзросту дваццаць год таму назад: склаўшы паперу ўздоўж. З таго часу прайшла цэлая эпоха. А я, дзівак, прыехаў сюды шукаць учарашні дзень.

— Грамадзянін, прабачце! — перарвала мае думкі прадаўшчыца, выглянуўшы з-пад брызентавага тэнта.— Дапамажыце, калі маеце хвілінку часу!

— Што ў вас тут здарылася?

— Зашрубуйце, калі ласка, помпу на бочцы. Забылася, у які бок трэба круціць, і не магу прадаваць піва! Вы, мужчына, здолееце, думаю!

— Зашрубоўваюць заўсёды ўправа, а адшрубоўваюць — улева. Як можна забыць такія простыя рэчы?..— падумаў я ўголас, устаўляючы помпу.

— Гы?! — здзівілася прадаўшчыца той лёгкасці, з якой я выканаў просьбу.— Дзякуй!

— Калі ласка...

Пакінуў я яе са смешным пачуццём: нарэшце, зрабіў нешта карыснае ў Вільнюсе, значыць, недарма прыехаў!..

...Ну, а што рабіць далей?

### 3

Не памятаю, як апынуўся над Віліяй.

У гэтым месцы павінен ляжаць вялізны камень. Вось і ён. Такі самы. Магутныя яго бакі вылізалі хвалі, а той самы пушок моху надаваў яму зялёнкавы колер.

Аднойчы мы з Данусяй паспрачаліся: я хацеў на гэтым камені пасядзець, яна адмаўлялася. Цяпер яго аблялілі дзяўчаты, якія паводзілі сябе так, бытта толькі яны адкрылі гэтае месца і наогул далі пачатак жыццю. Відаць, яны толькі што здалі экзамены: настрой у іх быў святочны, канспекты валяліся на беразе бязладна, як непатрэбныя паперы.

— Ой, дзяўчаткі, караву-ул! — паскардзілася адна з іх звонка і меладычна.— Ногі набраклі, туфлі не магу абуць! Што мне рабіць?

— А навошта іх так размачыла?

— Цяпер босая шчыгаляй па горадзе!

Да кампаніі падыходзіў хлопец.

— Ото ж будзеш мець поспех! — суцешыў ён.— На босую кожны азірнецца!

Калі смех прыціх, хлопец пацікавіўся:

— Эй, курскія салаўі, чаму ўжо не спяваеце!

— Спазніўся, наспяваліся!

— Давайце зноў, я ішоў падцягнуць!

— Нічога не атрымаецца, семак панаядаліся і пяршыць у горле!

— От бяда-а! — паспачуваў жартаўнік, падлабуньваючыся да крайняй дзяўчыны.

— А няўжо ж, бяда! Не падлазь, а то ў ваду піхну!..— папярэдзіла яна.— Уй, чаму ты не паголішся!

— Бо няма грошай. От не зачапі, яшчэ і брыкаецца!.. Эх, несвядомы ты, Люська, элемент, хоць і вельмі вучоная, атрымліваеш павышаную стыпендыю, носіш акуляры ды ў прэзідыуме сядзела на ўрачыстым сходзе!

— Бо вучоная!

— Якая карысць з гэтага? От, каб ты была яшчэ і добранька-я-а!

— То што?

— То дала б трыццаць капеек!

— Што?

— І я пайшоў бы пагаліўся б!

— І што?

— І пацалаваў бы цябе!

Узняўся смех, шум. Замільгалі загарэлыя рукі, узляцелі фантаны пырскаў і заблішчалі на сонцы жывым серабром.

— О, будзь з вамі шчырым!..

— У мяне ёсць пяць капеек,— азвалася дзяўчына, калі ўсе супакоіліся.

— У мяне сем!
— На — тры!
— Пагібаныя!
— Каменьчыкам выпрастуй!..
Сабраўшы патрэбную суму, адправілі жартаўніка ў цырульню.
Застаўшыся адны, дзяўчаты засумавалі.
— Бр-р-р, мне холадна! Трэба прайсціся крыху! — азвалася адна ўстаючы.— Мая, ты ўжо можаш абуцца?
— Паспрабую...
— Хутчэй!
— А куды цяпер пойдзеш, яшчэ рана! — уздыхнуўшы, разважыла другая.
— Во, дзяўчаткі, ідэя! — закрычала трэцяя, таксама ўзнімаючыся.— Давайце паходзім па кандытарскіх магазінах! Я іх вельмі люблю!
— Няма грошай!
— Проста так паходзім, для цікавасці. Паглядзім, якія ёсць новыя цукеркі!
— Эўрыка!
— Я і старых не бачыла, цэлы год не вылазіла з інтэрната!
— Хадзем! Ён вернецца, а наш і след прастыў!
— Хай пабегае, пашукае, хі-хі-хі-хі!..
— Піхайце сшыткі мне ў чамадан і айда! — камандавала стыпендыятка.
— От яшчэ!.. Я свае...

Вілія, Ві-ілія, маці ро-одная,
На, падару-унак ад мяне прымі!..—

кінула свае канспекты ў рэчку свавольніца.
Нібы чародка шпакоў, дзяўчаты ўзняліся з каменя, і ўраз іх не стала.
Я падумаў аб дзяўчатах: «І маеце да каго заляцацца! Гэта ж яшчэ мамін сынок...» Як на злосць, ніводная з іх на мяне і вокам не павяла, не ўзглянула нават для цікавасці, нібы мяне тут і не было!..
Я ўздыхнуў. Зрабілася сумна. Нічога не зробіш, маё юнацтва прайшло. А ўсё ж такі цікава пабудавана жыццё! Яго, нібы бясконцую эстафету, перадаюць з пакалення ў пакаленне. Што ж, мы сваю эстафету не так ужо і дрэнна неслі...
Калі на камені нікога не стала, я накіраваўся ў горад. Адчуваў цяпер сябе няёмка — будні дзень, а я, дарослы

чалавек, бацька дваіх дзяцей, блукаю тут, як валацуга, падглядваю за маладымі, бытта сам не быў такі.

Вельмі не люблю хадзіць па магазінах. Стася наказвала нешта купіць. Заглянуў у адзін, другі: ля прылаўкаў тоўпіліся людзі. Не штурхацца ж і мне тут?!. Скажу, што магазіны былі зачыненыя — «санітарны дзень» літоўцы якраз аб'явілі! Бытта ў нашым Гродне не тое самае?.. Чаго маім хлопцам не хапае? Жанчын толькі слухай!..

Каб чым-небудзь сябе заняць, я накіраваўся на ўскраіну, дзе некалі жыла цётка Антося. Што яна яшчэ жыве, надзея ў мяне была слабая: завируха змяла і не такіх. Але што мне перашкаджала прайсціся?

4

Па дарозе да былой служанкі я ўбачыў бабульку. Яна пасвіла коз. Бабулька сядзела на сонечным баку гары і высушанымі, як курыныя лапы, рукамі перабірала чорныя гарошыны ружанца. Старая каза з падвязаным анучкай вымем спакойна пасвілася ля тратуара, а маладая — паставіла пярэднія ногі на дрэўца ды зграбна, як гэта могуць рабіць толькі козы, аб'ядала лісточкі.

— Ану, артыстка, пайшла! — шпурнуў я ў яе каменьчыкам.

Бабулька вінавата падхапілася з месца і з залішне клапатлівай, старэчай паспешнасцю пагналася за шкодніцай, нібы рабіць расправу.

Божа мілы!

Толькі цяпер я пазнаў у гэтай дачасна пастарэлай кабеціне цётку Антосю!

— Ідзіце да майго дома, зараз туды прыйду і я! — калі мы павіталіся, сказала старая, трымаючыся як мага далей, каб я не разгледзеў яе трантаў.

Нельга было паверыць, што гэтая сухая бабуля ў падраным ды нейкім іржавым, нібы кальчуга з музея Луцэвіча, світэры — разважлівая ды некалі цвёрдая характарам цётка Антося. Сэрца маё сціснулася ад жалю.

Давялося вярнуцца ў магазін за падарункамі.

Праз гадзіну я знайшоў панадворак цёткі. Крапіва, старая салома, іржавае жалеззе — ногі можна паламаць! Я паспрабаваў навесці парадак, ды ўбачыў, што работы тут на цэлы дзень, і махнуў рукой. Адчыніў дзверы.

Старая ўжо мітусілася дома. Мяне здзівіла, што ў хаце поўна катоў. Чорныя і шэрыя, малыя і вялікія, чыстыя

і брудныя, гладкія ды струпастыя — яны ўсюды лезлі, горда задраўшы хвасты, пацягваліся, выпускаючы кіпцюры, пазяхалі ружовенькімі роцікамі або ў незалежных позах афрыканскіх львоў ляжалі на зашмальцаваных падушках, на падлозе, табурэтках, нават на стале і ложку. Паветра было цяжкое.

— Што гэта ў вас, цётка Антося?! — асцярожна, каб не наступіць на каторага звера, здзівіўся я, прабіраючыся ў пакой.

— Мае дзеткі...— сарамліва і вінавата адказала старая, не паднімаючы вачэй.

— Навошта ж яны вам?

— Падабрала, бедных, на вуліцы...

— Ахвота вам было!

— Калі ж адной так жыць вельмі сумна, Янка!

— Дык лепш узялі б сабе дзіця з дзетдома на выхаванне, а не гэтую дрэнь!

— Што з ім мне рабіць?

— Дапамаглі б чалавеку!

— Чалавек і сам дасць сабе рады, а беднаму зверу і пан Езус загадаў дапамагаць...

Старая здзяцінела, і недарэчна з ёю было працягваць гэтую тэму.

— Ну, раскажыце, як жывяце!

— Вось так і жыву,— адказала жанчына на той мешанай, але мілай майму вуху польскай і беларускай мове, на якой размаўлялі да вайны віленскія служанкі, гандляркі рынкаў, вазніцы.— Нікому, дзенькі богу, не вінавата і сама сабе яшчэ гаспадыня!

5

Узяўшы ад мяне пакункі, цётка Антося раптам упусціла іх на стол і ўспляснула рукамі:

— Матко боско! Езус Хрыстус!.. Я ж вам галоўнага — перадачы ад нашай Дануські — не дала! Чаго ж я, старая, маўчу!..

Старая кінулася да шуфляды ў чорнай і паточанай шашалем шафе:

— Псік, не лезьце пад ногі, пачакайце крыху!..

Мяне праняло балючае прадчуванне нечага новага і надзвычай важнага.

— Езус Хрыстус! Пан Ян не быў аж пятнаццаць гадоў у нас. Божа свенты!

Прыціскаючы да грудзей добра вядомую мне скрыначку са слановай косці, у якой Дануся трымала свае стужкі і шпількі, жанчына не ведала, што і рабіць. Яна баялася, мабыць, каб вестка мяне, барані божа, не забіла.

— Ну, не цягніце, цётка Антося! — узмаліўся я.

І вось што паведаміла мне старая.

У часы нямецкай акупацыі ў Вільні сярод палякаў развіўся падпольны рух. Кіравала ім нацыяналістычная арганізацыя Арміі Краёвай. Дануся служыла ў камендатуры і была звязана з цэнтрам гэтай арганізацыі.

Каб адчуваць сябе бяспечнай, яна аформіла фіктыўны шлюб з начальнікам участка паліцыі Станеўскім.

Выходзіць, прадчуванне мяне не ашукала.

Пасля смерці «мужа» Данута яшчэ служыла амаль паўтара года ў камендатуры і ратавала людзей, якія траплялі немцам у лапы. Затым яна наладзіла сувязь з савецкімі дэсантнікамі і нават пабывала ў іх.

— Я яе збірала тады ў лес,— расказала цётка.— Яна выходзіла ўпэўненая, што вас убачыць, а вярнулася сумная — слова нельга было выдабыць, толькі плакала паціху.

Вясной 1944 года фашысты западозрылі Дануту. Пачалі сачыць за ёй, потым арыштавалі. Пасадзілі і мачаху. Па дзіўнаму трафу турэмнай надзірацельніцай у генеральшы была Прося — былая служанка, з якой Янкоўская калісьці так здзекавалася. З паняй Вацлавай абыходзіліся не надта строга, ёй удалося праз служанку паабяцаць немцам выкуп і выйсці на волю. А Дануту патрымалі на Лукішках у адзіночцы тры месяцы.

Тым часам польская адміністрацыя, якая была на службе ў немцаў, пачала за яе, дачку генерала, якога ўсе ведалі і паважалі, клапатаць, даваць узяткі. Аднак немцы яе не выпусцілі, пайшлі толькі на некаторыя ўступкі: Дануту судзілі па ўсіх законах, нават дазволілі наняць адваката.

На працэсе суддзі і пракурор заявілі: «Яна — сапраўдная польская патрыётка, небяспечная для Трэцяга рэйха, і яе перавыхаваць, на жаль, немагчыма, а таму яна падлягае знішчэнню з канфіскацыяй усяе маёмасці».

Перад смерцю ёй удалося напісаць пісьмо для мяне. Яго і падала Антося ў скрыначцы разам з некалькімі фатаграфіямі.

Я выйшаў на двор і сеў на нейкую бочку.

«Веру, ты маё пісьмо атрымаеш,— чытаў я на пажоўклым ад часу і вільгаці лісточку паперы, спісанай звы-

чайным алоўкам.— Янэчак, я не толькі не злую на цябе, але тваім учынкам ганаруся. Тысячу разоў думала, што так і павінна было стацца. За гэта цябе і люблю. Ты мяне нібы ўстрасянуў, і я прачнулася. Пасля таго вечара я зразумела, што калі расстрэльваюць чалавека, мала яму толькі спачуваць і крадком перад смерцю падаць кубак вады. Успомніла, што мяне вучылі быць ахвярнай, сумленнай і адважнай, ад мяне нечага асаблівага чакаў тата...

Я прыйшла да сваіх і пачала дзейнічаць.

Я пастаралася ўгаварыць наша панства лічыцца з вамі, перакапала шукаць сувязі з беларускімі партызанамі. Нават сама вызвалася пайсці на сустрэчу, каб дамовіцца аб сумесных акцыях.

Пры маёй пасадзе мне не цяжка было даведацца пра цябе. І вось я ў лагеры Сокалава. Пра ўсё дамовілася з ім і толькі ў адным спазнілася: капітан мне паказаў цябе з іншай, і я вырашыла, што лішняя. Пра гэта, думаю, расказаў табе сам Сокалаў.

Якая ж потым была мука адчуваць твой локаць і адначасова разумець, што ты ўжо не для мяне!.. Ты, мабыць, і не падазраеш — я табе разведала, што пад цюкамі прасаванага сена немцы вазілі танкі, а ў бутлях не газы, а — кісларод для запраўкі самалётаў?!.

Жыць засталося лічаныя гадзіны. Я слабая. Паміраць страшна. Пан Адам, які вынесе пісьмо, сёння шапнуў: фронт ля Мінска! Я ведаю розумам, што жыву ў гістарычныя дні, а гісторыя чалавецтва пішацца слязьмі і крывёю, я — толькі адна з мільёнаў ахвяр, але бунтуюся: чаму менавіта я маю быць гэтай ахвярай, чаму на мяне паказаў перст божы?

Часамі ўгаварваю сябе, што не можа быць, каб я зусім знікла з гэтага свету, каб нічога не чула і не бачыла. Мне лёгка сябе ўгаварыць, што нічога не зменіцца, хоць мяне і заб'юць. Ведаю, Янку, ты або мой тата смерць сустрэлі б горда і спакойна, як сапраўдныя мужчыны. За гэтую сілу я цябе кахала... Адно пэўна — каб цяпер хто вярнуў жыццё, рабіла б зноў тое самае!

Якая я была калісьці наіўная! Дзеля бацькоў вырашыла стаць Марыляй Верашчакай, і мне здавалася: у гэтым маё найбольшае геройства! Я марыла, што аб маім учынку даведаецца пісьменнік, напіша раман, і тады я стану несмяротнай.

А магло стацца, што, скончыўшы школу, выйшла б замуж за самаўлюбёнага маньяка і прыдурка Любецкага і

існавала б, як тое дрэва без верхавіны. Самай большай падзеяй за дзень для мяне было б тое, што муж зламаў ногаць, а ўжо трагедыяй — калі б у час не атрымала моднай сукенкі з Парыжа або на аперэту з артысткай Янінай Кульчыцкай дастала б білет не ў першы рад, а ў пяты!..

Звіняць ключы! Гэта па мяне!

...Не ведаю, ці доўга была без свядомасці. Апрытомнела разбітая і мокрая на ложку ў сваёй камеры. О праклятыя нарманы! Вы толькі спачатку маглі мецъ поспех, пакуль культурны свет апамятаўся! Вы не можаце перамагчы, бо вяртаеце гісторыю да гунскага перыяду!.. Будзе, Янэк, час, паспрабую апісаць табе ўсё, што было са мной на допыце. А цяпер прадоўжу пісьмо.

Цётка Антося дасць табе фатаграфіі. Ёсць адна, дзе я стаю над Віліяй. Калісьці ты прасіў мяне пасядзець на камені, а я капрызнічала. Перад арыштам зрабіла гэты здымак. Пазнаеш камень?

Зняла і нашу студню. Туды ўпала бомба. Убачыш кавалачак бетоннага круга на здымку — гэта!

Я табе, Янку, удзячная. Калі пазнала цябе, мне стала душна... Захацелася большага. Толькі пачала пазнаваць яго і...

У мяне сумленне чыстае. Ад крывавай банды арыйскіх нарманаў я ўратавала не адзін дзесятак герояў. Кідалася ратаваць іх не толькі таму, што ў кожным арыштаваным уяўляла цябе. Потым гэта зрабілася маім сумленнем.

Даруй, што пішу бессістэмна, няма часу перапісваць. Але хоць не магу дыхаць на поўныя грудзі ад страху, думкі мае чыстыя і вострыя. Кажуць, у людзей перад смерцю заўсёды так...

Аб'явілі, што споўняць апошнія мае жаданні: магу заказаць абед, напісаць пісьмо (о, тэўтонская гуманнасць!..), з кім-небудзь перад смерцю пабачыцца; я выбрала тваю знаёмую студэнтку Вольгу...

Яшчэ аб'явілі, што робяць ласку, не будуць вешаць, а — гільяцініраваць, нібы французскую каралеву. Прыйшоў турэмны цырульнік, падрэзаў валасы на шыі, каб не перашкаджалі. Пацешыў, што гэта працягваецца ўсяго пяць — сем секунд і адбываецца на світанні, але гільяціна цяпер перагружана і могуць выклікаць у другі час, што шыя ў мяне тонкая, таму балець надта не будзе...

Падумала, што б табе яшчэ паслаць на памяць. Локан! Успомніла, як пасылалі яго ў такіх выпадках сваім ка-

ханым гераіні раманаў. Падняла з падлогі пасму, але валасы трапіліся зусім сівыя, і я не адважылася іх табе пасылаць — не хачу ў тваёй памяці заставацца бабуляй...

Абавязкова пагавары з капітанам Сокалавым і са студэнткай Вольгай.

Бывай. Цалую.

Твая Дануся.

Апошні раз — бывай!»

На гэтым пісьмо канчалася.

«...Пагавары з капітанам Сокалавым, са студэнткай Вольгай». Хіба яны засталіся жывыя?!.

6

Акрамя пісьма ў скрыначцы было зробленае рукой Данусі апісанне допыту і спаткання ў камеры з былой служанкай Просяй. На паперках польскія сказы перамешваліся з нямецкімі, а побач з падрабязным пералікам усіх дэталей часамі сустракаліся няясныя абрыўкі думак... Адным словам, чалавеку, які не ведае нямецкай мовы і гітлераўцаў, паперкі гэтыя былі б незразумелыя. Усё гэта будзе лепш пераказаць сваімі словамі.

Вось што яна перажыла на адным з допытаў.

Ледзь Дануся паспела сунуць пад сяннік незаканчанае да мяне пісьмо, як у камеры з'явіўся эсэсавец і загадаў збірацца.

«Вось і смерць мая прыйшла!» — падумала Дануся. Яна ўся амярцвела, ногі сталі нібы чужыя. Агледзела ў апошні раз сцены, нары — дзіва, цяпер ёй стала нават шкада развітвацца з гэтым абсталяваннем!

Выйшлі яны на двор. Убачыўшы, што гітлеравец вядзе яе не да брамы, а ў канцылярыю, Дануся пачала на нешта спадзявацца.

Увайшлі ў калідор. Злева і справа — дзве шарэнгі арыштаваных з узнятымі над галавой рукамі чакалі сваёй чаргі. Як добра ёй вядома гэта поза, як яна нагледзелася на яе за тры гады! Цяпер людзі стаяць тварамі да сцяны — здаровыя, чыстыя, нармальныя, а хутка будуць акрываўленымі шматкамі целаў з пераламанымі касцямі... У ёй зноў ад галавы да пят усё амярцвела: няхай бы лепш скончылі адразу!

Увайшлі ў кабінет.

За сталом знаёмы эсэсавец Меклембург, а насупраць яго — незнаёмы штурмбанфюрэр. Ля іхніх ног — вялікі

аўчар. На стале пад белай палатнінай контуры нейкай пасудзіны.

Перакладчык стаяў збоку і трымаў доўгі карычневы бізун з рэменя. Акінуўшы Данусю дзелавым позіркам, ён пачаў біць сябе бізуном па далоні, бытта набіраючы разгон.

Меклембург заўважыў, што Дануся баіцца. Гітлеравец любіў, каб пры яго паяўленні ў людзей ад жаху лезлі на лоб вочы. У такіх выпадках ён нават станавіўся ў позу лі-тасціўца. І цяпер ён з пачуццём бязмежнай улады дазволіў сабе прыязна ўсміхнуцца да ахвяры, а перакладчыку загадаў:

— Weg! [1]

Калі за перакладчыкам зачыніліся дзверы, Меклембург паказаў на пусты стул. Дануся села.

Эсэсаўцы завялі размову, бытта і не было ў пакоі арыштаванай. Дануся аддыхалася. Крадком падцягнула панчохі, пастаралася расправіць сукенку — дарма. Тры тыдні яна ўжо не бачыла жалязка.

«Ат, ці не ўсё роўна?! Што ім вядома? Як адказваць на пытанні, як сябе паводзіць?»

Вось яны сядзяць перад ёю. Старанна паголеныя твары. Надушаныя. Акуратна падстрыжаныя патыліцы. Прычасаныя валасы свежа блішчалі брыльянцінам. З новенькага сукна мундзіры ладна сядзелі на фігурах. Маляўнічыя позы. Самаўпэўненыя рухі. Заваяваселі!

Яе заела. Толькі б расстрэльвалі на віду ў людзей, а не душылі ў камеры!

У яе зарадзілася гордасць і жаданне настырыцца гэтым самаздаволеным, выхаленым тыпам. Не, нічога яны не даведаюцца, нават каб рэзалі на кавалкі!.. Ёй нават стала радасна і лёгка ўжо ад таго, што яны нічога не даб'юцца і будзе так, як хоча яна!.. Аднак няўжо адважацца мучыць? Яшчэ зусім нядаўна кожны з гэтых тыпаў дамагаўся яе ўсмешкі, рысаваўся, іграў у высакароднасць ды шчыгаляў сваёй эрудыцыяй і ўладай. Зрэшты, яны і цяпер рысаваліся: Дануся пачала ўлоўліваць сэнс размовы, якую вялі між сабой фашысты.

— ...Разбамбілі рускі параход на Чорным моры,— апавядаў сябар Меклембурга.— На ім везлі медсясцёр у Севастопаль. Над вадой — разбітая карма. На карме — медсёстры. Угледзелі нас, абняліся і — у ваду! Абняўшыся,

---

[1] — Прэч! *(ням.)*

і пайшлі на дно вянком. Рускія — не палякі, іх так хутка не пераможаш!

«Ого! А палякаў — перамог ужо! Ведаеш ты, невук, што нас вы толькі разбілі? Разбіць палякаў можна, перамагчы — ніколі! Уяўляеш сабе, як мы арганізаваны? Ведаеш, што ў падполлі працуюць універсітэт, школы афіцэраў? Мы нават зарплату выплачваем сваім вайсковым».

Зазваніў тэлефон. Меклембург узяў трубку. Чуваць было, што на другім канцы праваду нехта аж захлёбваўся. Меклембург зморшчыў лоб, закрычаў у тэлефон:

— Вы ўяўляеце, дарагі штурмбанфюрэр, як аслабла дысцыпліна сярод насельніцтва? Людзі не толькі не вітаюцца часамі са мной і з вамі, а раўнадушна праходзяць міма нашых машын! Сёння шофер грузавіка на Вільгельмштрасэ не ўступіў месца майму «опелю»!..

Голас у трубцы пачаў апраўдвацца. Меклембург яго абарваў:

— Мой штурмбанфюрэр, лад і парадак мажлівы толькі тады, калі мы расстраляем кожнага, хто нават коса на нас паглядзіць! Мы таму маем столькі ворагаў, што адносімся да людзей залішне мякка, замест таго каб выкінуць з сябе гэтае мяшчанства ды ўзяцца за іх сурова!

Меклембург з сілай бразнуў трубкай па апараце. Дануся была ўпэўнена: без яе ён бы так сябе не паводзіў.

— Званіў Эрых Вульф! — паясніў ён сябру.— Яму было загадана сёння да вечара вывезці на Парубанак сотню заложнікаў. Баіцца! Кажа, дзівак, што ў яго ўзводзе новенькія, не прызвычаеныя да расстрэлаў салдаты. Просіць адкласці экзекуцыю або аддзяліць ад заложнікаў жанчын і дзяцей.

— Я разумею Эрыха! — праказаў штурмбанфюрэр.— Лягчэй весці роту ў атаку, чым з яе дапамогай канваіраваць на расстрэл агідны натоўп, слухаць плач і выццё баб. А яшчэ рабіць гэта ў спякоту або — трыццаціградусны мароз, як бывае тут на ўсходзе...

Яны хвіліну памаўчалі. Было чуваць, як пад сталом пазяхае аўчар, а ў калідоры адрывіста крычыць на арыштаваных салдат: пакоі для допытаў былі ізаляваны, і енкаў сцены не прапускалі, хоць ты разарвіся там.

— Служба войск СС нялёгкая і няўдзячная! — згадзіўся Меклембург.— Але нашы хлопцы павінны сціснуць зубы і рабіць сваю справу. Затое калі пераадолеем усе цяжкасці, нас ніхто не пераможа. Нардычная кроў —

найлепшая ў свеце, а Германія — вышэй за ўсё! Шмат трупаў? Чынгіс-хан асудзіў на смерць мільёны жанчын і дзяцей свядома, з вясёлым сэрцам, а гісторыя бачыць у ім толькі вялікага заснавальніка дзяржавы і геніяльнага палкаводца. Хто сёння ўспомніць пра мільёны яго ахвяр?.. А хто ўспомніць горы трупаў, астаўленых Напалеонам? Усе ведаюць геніяльнага палкаводца і кіраўніка дзяржавы, хоць ён апошнюю бітву і прайграў. Зрабілі б яго святым, калі б ён яе выйграў! Святым — за новыя горы трупаў, ха-ха!

Фанатычны гітлеравец гаварыў з пафасам.

— Разам з целамі расстраляных нам трэба закопваць бронзавыя таблiцы з надпісамі: «Гэта зрабілі мы, тыя, што знайшлі ў сабе сілу і адвагу давесці цяжкую гістарычную місію да канца!», «Літасць да ахвяр — мяшчанства!».

Гэтымі словамі эсэсаўцы спадзяваліся маральна зламаць арыштаваную. Яны хацелі, каб Данусся паверыла, што няма ніякай сілы на свеце, якая б магла яе ўратаваць, і Данусі застаецца толькі адно: здацца на ласку фашыстаў.

Нарэшце Меклембург загадаў ёй падсунуцца з крэслам бліжэй. Дануся каленьмі ўперлася ў стол. Паміж ёю і эсэсаўцамі была толькі пасудзіна, накрытая прасцінай.

— Ну, панна Данута, як вы сябе адчуваеце?

— Нічога, дзякуй...

— А ведаеце, чаго мы вас сюды запрасілі? — голас фашыста тужэў.

— Уяўлення не маю...— Дануся прамовіла разбітым, чужым і хрыплым голасам.

Яна кашлянула, зараз жа папраўілася:

— Пан шэф, завошта вы трымаеце мяне ў гэтай агіднай кануры трэці тыдзень?!

Яна аж занадта ведала гітлераўцаў. Але пасля ветлівых слоў Меклембурга закралася надзея, што, магчыма, выпусцяць. Былі ж выпадкі і такія!..

— Вам тут не падабаецца? — са здзеклівым спачуваннем развеяў ён надзею.

— Прашу з мяне не кпіць! — сказала яна з нявінным абурэннем.

Фашысты пераглянуліся.

— Мы занадта занятыя людзі, каб займацца кпінамі,— зазлаваў штурмбанфюрэр.— Давай, гавары адразу:

будзеш апавядаць добраахвотна ці прымушаць цябе, як іншых?

— Не маю пра што гаварыць...

— Сюды глядзець! — закрычаў ужо Мекленбург, чырванеючы ад злосці.— Сюды, не адварочваць галавы!

Паддаючыся яго ўладарнаму голасу, Дануся глядзела як загіпнатызаваная.

Мекленбург раптоўна сцягнуў палатніну, і дзяўчына ўбачыла вялікі шкляны слоік з вадкасцю.

У вадкасці плавала... галава Марусі — той, якая калісьці прыходзіла да дэсантнікаў. Рот у дзяўчыны быў заліплены гіпсам. Сіні твар быў страшны, увесь у падцёках і драпінах. Верхняя губа так распухла, што даходзіла да носа, а дзе знаходзіліся вочы, можна было здагадацца толькі па радочках веек.

— Што ты пра яе можаш сказаць? — не даваў апамятацца Мекленбург, свідруючы вачамі арыштаваную.— Ты яе ведаеш? Прызнавайся! Будзем маўчаць, знойдзем слоік і на тваю галаву!

— Гавары! — падганяў збоку і штурмбанфюрэр.

— Ах... Ак...— цяжка дыхала Дануся.

Вопытныя каты на гэты раз недаацанілі эфекту на слабы арганізм.

Бедная Дануся не паспела вымавіць і слова, пачаліся рвоты, разабрала млявасць, закружылася галава. Апошняе, што яна чула,— стук уласнага лба аб падлогу; апошняе, што бачыла,— насцярожаныя вочы аўчара над ёю. Потым наступілі змрок і цішыня.

Апрытомнела ўжо ў сваёй камеры.

...З грукатам адчыніліся жалезныя дзверы, і ў Данусіну камеру обер упіхнуў нейкую жанчыну. У форме турэмнай наглядчыцы за оберам Данута разгледзела Просю.

Сцябаючы сябе бізуном па халяве, фашыст кінуў:

— Schtelungen. Nur zwanzig minuten! [1]

— Вам зразумела, што сказаў обер? — азвалася надзірацельніца.— Маеце на спатканне толькі дваццаць мінут!

— Оля?!.— слаба ўскрыкнула Данута.

Тым часам обера зацікавіў чамусьці рот арыштанткі.

— Offen! [2] — закамандаваў немец, рукаяткай бізуна расшчаміў былой студэнтцы зубы ды заглянуў у рот. Не

[1] — Спатканне. Толькі дваццаць мінут! *(ням.)*
[2] — Адкрый! *(ням.)*

знайшоўшы там нічога для сябе цікавага, ён спеdo разаў Вольгу цераз плячо, гыркнуў: — Lump, verfluchte! [1]

— Таксама мне — цэлы год была камісаркай пры Саветах у Вільні і не змагла сабе ўставіць залатых! — напала на яе і Прося.

Обер з кішэнькі ў Вольгі выняў маленькі гадзіннічак і, радуючыся, як дзіця, прыклаў да вуха. Затым аблапіў надзірацельніцу, павёў яе ў калідор ды з ляскатам зачыніў дзверы.

Данута кінулася ў абдымкі да Вольгі:

— Ну, вось мы і спаткаліся! А я — пасля суда, ты ведаеш?

— Раніцой мне пастукалі сябры і перадалі марзянкай аб тваіх справах! — тлумачыла даўняя знаёмая.— Днём заходзіў у камеру эсэсаўскі афіцэр і ўгаворваў, каб цябе абразуміла падпісаць заклік да палякаў! Я тады і падумала, што, мажліва, яшчэ пабачымся! Ну, а ты?

— Са мной, Волечка, няньчыліся, як-ніяк — генерала дачка! Ужо ведаеш, што прысудзілі! Аб'явілі, што буду гільцініравана, і з той пары вось не магу адняць ад шыі пальцаў... Ай, але я не пра гэта хацела!.. Слухай, у Просі за браслет купіла табе свабоду, каб хоць ты засталася... Вядома, калі б згадзілася на іх прапанову, пакінулі б мяне ў жывых!.. А цябе выпусцяць, мая мамуся так вырвалася...

— Якая ты харошая — нават клапоцішся яшчэ і аб іншых!.. Не ведаю, сястрыца, як табе адплаціць!.. Мажліва, згадзіся на іхнюю прапанову? Для блізіру! Ты ж столькі кіснеш у турме!..

Дануся надта ўзрадавалася.

— Я маю права на такую ўзнагароду, праўда, сястрычка? — Голас яе ад жаласці да сябе ўздрыгнуў.— Волечка, скажы, я сваё выцерпела, праўда?

— Вядома! Няхай ужо мы будзем трымацца да канца!.. Ты ж у нашых вачах нічога не страціш!

— І што варты нейкі там подпіс, праўда? Навошта прыкідвацца святошай перад фашысцкай граззю? Умова з д'яблам — няважная, а мне яшчэ жыць!..

— Дзякуй богу, згаджаешся...

— Не! Не-е! — завішчала раптам Данута.— Яны расклеяць заклік з маім факсіміле на ўсіх платах і сценах, перададуць па радыё, надрукуюць у газетах!.. Іх нават

---

[1] — Гніда! *(ням.)*

Янэк прачытае!.. Хіба гэта не будзе здрадай і подласцю з майго боку? — Данута кінулася на сяброўку з кулакамі.— Як ты можаш такое падумаць?! Чаму права на элементарную прызваітасць ты пакідаеш толькі за сабой?!

— Будзь развažлівай! Без тваёй згоды яны могуць зрабіць усё гэта, фашысты фабрыкуюць любы подпіс!

— Аднак жа колькі часу прыстаюць да мяне, выходзіць, не ўсё роўна?!.

— Расстралялі маіх сваякоў, загубілі сяброў, зруйнавалі мой горад, як цяпер заставацца адной сярод гэтай пустыні на свеце? Я ахвотна, Дана, з табой памянялася б месцамі!..

— Зноў жа — я столькі зрабіла, маю права хоць на маленькую подласць? — не слухала яе, разрываная сумненнямі, сяброўка.— Маю!

— Упаўне, Дана...

— Не-е!..— закрычала яна зноў.— Я ведаю, што нічога не вартая на гэтым свеце, поўным страсцей, пылінка я, ніхто сярод мільярдаў чалавечых істот, а маё імя — не сцяг, аднак жа яно і не такое, каб кідаць на ганьбаванне гэтым вылюдкам!

— Я ўпэўненая,— якое б рашэнне ты ні прыняла, яно будзе слушнае!.. А я ў цябе калісьці не верыла...

У гэты момант у камеру ўварвалася наглядчыца.

— Паненкі, салют! — бяспечна кінула яна ды пачала сцябаць сябе па халяве бізуном.— Ну, Янкоўская, ты да мяне калісьці добрай была, але, як бачыш, і ў мяне сэрца добрае — просьбу тваю выпаўняю. Калі павядуць гэтую камісарку ў горад, дам магчымасць уцячы, як тады Любецкаму твайму, толькі няхай не будзе разявай! Але ты ўмову памятаеш?

— Вольга адразу зойдзе да мачахі і прынясе табе браслет.

— Пакляніся?

— Хіба пры выкупе Любецкага мы цябе ашукалі? Сваё атрымаеш.

— Орднунг! — Прося звярнулася да студэнткі: — Я ведаю, ты бальшавіцкія лістоўкі ў кошык з бялізнай нам савала, і што? Немцы вас цяпер правучаць, у іх сіла!..— Прыгледзеўшыся да дзяўчыны, наглядчыца залавала: — Пачакай, пачакай, як гэта ты, камісарка, ухітрылася яго захаваць?! — Яна сарвала з Вользінага пальца пярсцёнак, паспрабавала на зуб, з агідай цацку шпурнула ды ўдарыла арыштантку бізуном: — Збіраеш усялякую зара-

зу, маскіруешся!..— Яна паказала пярсцёнкі на сваіх пальцах.— Глядзі, як трэба!.. Ведай,— калі не прынясеш на кватэру гэтую рэч, знайду пад зямлёй і немцам раскажу сама пра лістоўкі!.. А старой Янкоўскай перадай: я не такая ідыётка, як яна думала, і штрафы яе запомніла выдатна! За пяць гадоў службы ў гэтай ведзьмы я таму-сяму навучылася!.. З оберам хутка мы да яе завітаем, так і скажы!.. Яна нам за сахарын яшчэ вінаватая!.. І Любецкі няхай яшчэ што-небудзь дабавіць, калі хоча не трапляць да нас зноў!.. Вільгэльм — мой жаніх, хутка адгэтуль выедзем!..— Рукаяткай бізуна яна падчапіла Вольгу за падбародак.— Што, няўдачніца, зайздросціш?..— І перайшла к Дануце:

— А цябе, паненка, мне шкада, што з-за дурнога подпісу на паперы галаву кладзеш, але ж — сама вінавата, баптыстку табе падабаецца з сябе строіць!.. Эх, мне б тваю фактуру!.. Не бядуй — гэта адбываецца на світанні, яшчэ маеш час!.. Робяць яны гэта мігам, я бачыла не раз, як на гільяціне казняць! Калі кат галаву за валасы паднімае ўверх, яна яшчэ жыве — яшчэ рухаецца язык, а на падлозе дрыгаюць рукі і ногі, але ты ўжо бачыць гэтага не будзеш!.. Чэсць! — Сцябаючы сябе па халяве плёткай, Прося бадзёра пакрочыла з камеры, зацягнуўшы песню:

For der Kasärne, vor den grossen Tor...

— Якая нікчэмнасць! — жахнулася Вольга, калі за наглядчыцай зачыніліся дзверы.

— Не ў гэтым справа. У кожным народзе ёсць дэбілы і ідыёты, але ж гэтыя вандалы менавіта такім далі ўладу!.. Ладна выканай яе жаданне, каб нягодніца не чаплялася да мачахі, і не будзем пра гэта больш. Ведаеш, калідорны сёння шапнуў — фронт каля Оршы, вызвалены Кіеў!.. Бальшавікі вядуць польскую армію з-пад Акі, а ў ёй — тата!.. Кажуць, выступаў па радыё з Масквы, таму фашыстам і спатрэбіўся мой подпіс пад заклікам, каб у піку бацьку выставіць дачку! Баязліўка, распусціла нюні!.. Я — пясчынка з мільёнаў ахвяр. Янка на маім месцы павёў бы сябе інакш!..

— Як вы кахалі адзін аднаго!..— перабіла яе сяброўка.— Божа, я нават забіць збіралася цябе з рэўнасці!.. Угаварыла сябе, што ты даносчыца, дабыла наган і пачала вартаваць. Не было адпаведнага выпадку — вы заўсёды хадзілі з Янкам дваіх!.. Як на споведзі прашу — даруй!

— Якое цяпер гэта мае значэнне, Оля? Колькі сцэн рэўнасці з-за цябе рабіла Янку я?!. О-ей, якія мы былі наіўныя!.. Я шчаслівa, што лёс падарыў мне дружбу з ім!.. Я да яго была ўзбаламошаная паненка, ды і толькі! Я нічога не ведала!..

— У той час ніхто нічога не ведаў! У самы адказны момант Камінтэрн распусціў партыю, харошых людзей абвінаваціў у прадажніцтве. Польскія заправілы думалі, што смерць іх краіне нясуць бальшавікі. Людзям жа здалося, калі яны выкапаюць пад сваім акном глыбокую яму, купяць мяшок солі, то не паспытаюць ваенных бед!.. Усе цяпер сталі разумнейшымі!

— Каб памерці — парадокс!.. Адным словам, Оля, мяне ўжо нічога не выратуе! Другая справа з табой. Цябе арыштавалі як спекулянтку...

Вольга яе не слухала:

— Не ведаю, ці трымалася б я так, як паводзіш сябе ты! Ат, я сухар і ў рэвалюцыю пайшла ад нейкай палавой нездаволенасці, як іншыя ідуць у манастыр!.. Хлопцы цярпець не маглі майго рэзанёрства!.. Ды... рэвалюцыянеры, рэвалюцыянеры, але бабаў і яны любілі прыгожых!.. Ты ж стала барацьбітом цераз каханне! Ты — сапраўдная, зайздрошчу!..

І тут з грукатам адчыніліся дзверы і пачуўся шалёны брэх сабак. Обер з калідора пракрычаў:

— Na, Schtelung ist zu! [1]

## 7

Супакоіўшыся крыху, узяў я бясцэнную скрыначку ды пакрочыў у цётчын дом. Трэба недзе прыстроіць старую! Пачаў успамінаць тутэйшых знаёмых партызан. Былы прадстаўнік злучэння, які некалі раздаваў на аэрадроме брызентавыя цюкі, Шымкас, цяпер — важная фігура ў Савеце Міністраў Літвы. Памятае мяне? Успомніць, я дапамагу! Літоўцы народ дружны і сумленны, дапаможа ўладкаваць старую, нават няма чаго сумнявацца.

Я адчыніў дзверы ў тую хвіліну, калі цётка Антося ўжо канчала раздаваць катам маю каўбасу. Старая была так занятая справай, што, не заўважаючы мяне, прасіла:

— Ешце, прэндзэй, дзеткі, пакуль ён не прыйшоў!

---

[1] — **Ну, спатканне скончана, давай!** ***(ням.)***

Мне стала ясна, што ёй нічым не дапаможаш і няма чаго марочыць Шымкасу галавы.

— Скажыце,— звярнуўся я да яе,— а больш ніхто не чытаў гэтых пісем?

Жанчына аж здрыганулася ўся.

— Ах, бо-о... то ці я дала б!

— І ніхто не прыходзіў па гэтыя паперы?

— Былі нядаўна паны ў капелюшах... З Польшчы...

— Самі знайшлі вас?

— Прыводзілі [redacted] газеты... І надта ж хацелі пачытаць толькі. Прапанавалі грошы і цукерак мне накуплялі... Але ж ці я ім дам?.. Не малая, ведаю, каму гэта...

— А каб я да вас не прыйшоў і паперы загінулі?

— Як гэта? — старая не дапускала нават такой думкі.— Я ўсё чакала вас... Думала, няма калі пакуль што яму, беднаму...

І што з ёю мне рабіць?!

— Цётка Антося,— пачаў я далікатна,— едзем да мяне ў Гродна!

У вачах старой з'явіўся жах.

— Ды не бойцеся! Будзеце жыць пры нас... Мая жонка — настаўніца, добрая кабета, яе ўсе хваляць, ужывецеся і вы, я гарантую!

— Няма чаго ўжо мне куды ехаць! — катэгарычна адрэзала старая і занялася сваімі катамі.

Выходзіў я ад Антосі сам не свой. Раптам штосьці падступіла да горла, і толькі прысутнасць людзей на вуліцы стрымлівала, каб не выбухнуў плачам.

### 8

Праз увесь Вільнюс, не спяшаючыся, накіраваўся я зноў да генералавага дома. Стараўся не ўспамінаць Дануту. Прымусіў сябе думаць пра горад.

Штосьці чароўнае закладзена ў старажытнай суровасці і прастаце гэтага горада. Колькі праз яго пераваліла народу! Муры дамоў, пабудаваныя з запасам на вечную трываласць, гэтак аблашчылі, здаецца, не дажджы і буры на працягу стагоддзяў, [redacted] — мільёны вачэй шматлікіх пакаленняў. Як тыя людзі жылі? Калі меркаваць па колькасці цэркваў і касцёлаў, жыхары Вільнюса толькі і рабілі, што маліліся, а вядома, што людзі моляцца не ад добрага жыцця...

Або гэтыя тратуары. Колькі тысяч ног мусіла прайсці

па іх, каб сваімі падэшвамі аж выслізгаць у каменных плітах жалабкі?!

Я на хвіліну ўявіў тых, хто тут хадзіў, і якія трагедыі бачылі гэтыя муры.

Захутаныя ў зубровыя шкуры, брылі нехлямяжыя воіны грознага Вітаўта.

Цягнуліся з-пад Масквы галодныя і змерзлыя насмерць гвардзейцы Напалеона ў папахах з мядзведжай шкуры.

Магчыма, якраз па гэтым месцы вялі Кастуся Каліноўскага з яго братамі-палякамі на Лукішскі пляц да шыбеніц.

Гэтай дарогай правезлі не адну яўрэйскую прыгажуню ў газкамеру пасля таго, як цэлую ноч з ёю забаўляліся «нардыцкія» вылюдкі.

Мо якраз сюдой раўнадушна вёў Дануту ў турму эсэсавец — тупы выканаўца людаедскай ідэі фюрэра.

Я раптам адчуў у сабе такую пашану і любоў да Вільнюса, якую, відаць, адчувае кожны чалавек, хто хоць трохі пажыў тут. Горад мне здаўся і да дробязі блізкім: нездарма я зайздрошчу кожны раз знаёмым, калі хто адпраўляецца сюды па справе, і мне кожны раз здаецца, што толькі я магу быць яму экскурсаводам!

Вось я асцярожна паставіў нагу на тратуар, памятаючы, што тут павінна быць ямка. Але адчуў гарбячок і аж спыніўся, глянуў сабе пад ногі. Ніякага гарбячка. Проста ямку залілі асфальтам, зараўнялі...

Як я ні стараўся адцягнуць думкі ад Данусі, каб не балела душа, але вярнуўся да іх зноў. Цяпер яна ў маіх вачах узнялася да гераіні, усе нашыя спрэчкі, каханне, падзеі ў вайну і непаразуменні здаліся мне не асабіста перажытымі, а вычытанымі ў нейкім рамане.

## 9

Я зноў падаўся на кватэру, дзе жыла прачка. Сюды заходзіў удзень, гаспадыня мяне ўжо ведала.

— Вельмі спяшаюся, прабачце! — вінавата папрасіла жанчына.— Пазнюся на работу!

— Калі дазволіце, пасяджу на ганку. Да вечара няма куды дзецца.

— Але ж, калі ласка! Прэндзэй ідзіце сюды, у цянёк, пад ясень! І дзеці пры вас пабудуць на панадворку!

— Міша! — паклікала яна маленькага хлопчыка, адра-

зу забыўшыся на мяне.— Я табе, сынок, пакладу ў кішэню ключ, а каб не згубіў, прышпілю аграфкай. Прыйдзе тата — аддасі! Захочаш есці, улезеш праз акно, я прыадчыненае пакідаю...

— Ну, бывайце! — звярнулася яна да мяне.— Не ўбачымся болей. Прывітанне Гродна! Кажуць, нечым наш Вільнюс напамінае!

— Крыху.

— Не была, не ведаю. Чакайце ў госці, пакуль!

— Шчасліва!

Я ўладкаваўся на ганку. Зірнуў на Данусін панадворак. У мяне, прызнацца, было добра на душы — я заставаўся верны ўвесь час Данусі, не выкідаў яе з сэрца і цяпер з чыстым сумленнем бытта глядзеў ёй у вочы.

Я пачаў успамінаць усё спачатку.

Успамінаў да той пары, пакуль мая душа не стала як той аркушок паперы, з якога гумкай сцерлі ўсё, што было напісана, і застаўся толькі след ад літар. Я ўжо нічога больш не мог прыпомніць і адвёў вочы ўбок.

Яшчэ да вайны я даведаўся пра семантычнае значэнне імені Данута. Яно ўтварылася ад лацінскага слова «donata». На жаль, у беларускай мове няма яму адпаведнага сіноніма. Са славянскіх моваў, відаць, найбліжэй па значэнні яму можна выразіць рускім «одаренный» або польскае «oldarzony».

Ты адпавядала свайму імені. Эх, Дануська, кім ты, «одаренная», цяпер была б, каб не вайна?.. Ці неба такіх людзей стварае толькі для гераічнай гібелі, каб пакрэсці людскія душы? У кожным выпадку я, вахлак, цябе, мабыць, быў не варты.

Помнік трэба табе паставіць, ці што? А дзе твая магіла?.. Буду на Рыжскім узмор'і, знайду якога-небудзь пісьменніка, дам яму ўсе паперы, фатаграфіі і папрашу, каб кніжку пра цябе напісаў, як ты некалі хацела...

Фактычна кніжку пра нас, пра эпоху. Атрымаецца цікавая гісторыя пра барацьбу, каханне і геройства. Не важна, што ў ёй буду не самым галоўным героем...

## 10

Калі я так сядзеў і думаў, на двары гулялі дзеці.

Калісьці мяне, юнака, такія малыя вельмі злавалі. Мне здавалася, што яны залішне крычаць, без прычыны б'юцца, усюды лезуць і гэта ў іх ад распусты. Толькі цяпер,

калі сам стаў бацькам, я зразумеў, што яны бегаюць не ад дрэннага выхавання і дрэнных бацькоў, а што ў іх такая форма быцця. Яны так гуляюць, для іх гэта таксама важна, як для дарослых работа. Цяпер маё бацькоўскае вуха і вока прыемна лашчыць кожнае дзіцячае слова і рух.

Каля ганка стаяў Міша і звычаем, як гэта робяць і мае падшыванцы, цёр вуха плячом ды засяроджана аб нечым думаў.

За плотам на бервяне сядзеў другі малы, трымаў на каленях талерку і мераў канцом лыжкі, колькі засталося супу.

За кустамі бэзу чуліся ўсхваляваныя галасы:

— Віцька, ты на гэтым фільме быў?

— А пра што там?

— Пра вайну!

— Цікава?

— Я чатыры сеансы праседзеў і яшчэ сёння пайду. Толькі не хапае трох капеек. У цябе няма?

— А што дасі?

— Каску панасіць?

— Не ашукаеш?

— Чэснае піянерскае!

— І пад салютам?

— На табе салют!

— Бяры капейкі!

— Кідай іх!..

Па тратуары ішла пара. Адно пачуццё спляло іхнія рукі, запаліла шчаслівыя іскрынкі ў вачах.

За імі крочыла дзяўчына. Яна гулка стукала абцасамі, а яе сур'ёзныя пухлыя шчокі смешна ўздрыгвалі ў такт крокам.

Скрозь кроны дрэваў ля дарогі жаўцелі сцены нейкага вялізнага будынка без даху. Міма наваленай цэглы і свежаспілаванага дрэва малады рабочы вёз пустую тачку. Таварыш яго ўскочыў у яе ды жартам кінуў:

— Но-о, кося, вязі-і! Прэндзэй!

Дама несла поўную сетку пакупак. Шукаючы спачування, яна ўсміхнулася мне, паставіла сетку на тратуар, замахала рукамі і, якраз так, як некалі Дануся на лесвіцы ліцэя, паскардзілася яшчэ як бы і з папрокам:

— Уф-ф-ф, цяжка!

Далей ішоў юнак, нёс белы батон. Азірнуўшыся сюды-туды, ён — раз! — і ўтапіў зубы ў край яго. Я нават

адчуў у сваім роце хруст скарынкі і смак свежай духмянай булкі.

Нейкая дзяўчына схавалася ў вароты колішняга Залкіндавага панадворка і працірала супрацьсонечныя акуляры. Зрабіць гэта проста на тратуары, бачыце, яна не можа: да выхаду на вуліцу рыхтуецца, бы артыстка на сцэну!

Усміхнуўшыся, я зноў глянуў на Данусін дом.

На невысокі дах з пачарнелай бляхі ўзлезлі хлопец дзяўчына прымацоўваць антэну. Спачатку ўсё ў іх ішло як трэба. Але вось узяліся за адзін канец антэны ўдваіх, іх рукі спляліся і...

Я адвярнуўся!

Чэрвеньскае сонца золатам залівала вуліцу, дамы, дахі. Было цёпла, але не горача. Лёталі шпакі. Крычалі галкі.

Мне было сумна і радасна. Сумна таму, што Дануся не можа бачыць гэтага хараства. А радасна ад таго, што я адчуваў яе вось тут, у такім цудоўным і вечным жыцці!

*1957—1978, Гродна*

## ПЕРЫПЕТЫІ ПОШУКАЎ

### 1

Восенню 1953 года перасяліўся я ў Гродна і паступіў на працу лабарантам кафедры педагогікі. Паўгода таму назад у часопісе «Полымя» надрукаваў я першую сваю аповесць «У адным інстытуце», і многім з правінцыяльнага гарадка гэта дало падставу вітаць мяне як пісьменніка.

Мяне запрашалі на канферэнцыі чытачоў і сустрэчы са школьнікамі. Я адчуў павышаную цікаўнасць да маёй асобы. Вучні пільна прыглядаліся да маёй вопраткі, твару, вывучалі лоб, шукаючы нейкага таямнічага сэнсу. Настаўнікі заводзілі гутарку пра якіх-небудзь сюррэалістаў ці эпоху Адраджэння. Іншыя расказвалі мне анекдот пра класікаў ці пікантныя факты з біяграфіі таго ці іншага пісьменніка,— каб я ведаў, што і яны докі ў літаратурных справах. Мне перад імі было страшэнна няёмка.

Лічачы як бы сваім абавязкам памагаць новаму аўтару не вядомая мне дагэтуль студэнтка другога курса прынесла аднойчы мяшок з дзённікам і пачкамі пісем сваёй сястры Шуры і яе мужа. Матэрыялы прачытаў я залпам, і мяне адразу паланіў вобраз маладой пары. Тут прыйшло на памяць: стоп, я ж іх аднойчы на ўласныя вочы бачыў!

Калі ў вёсцы Біскупцы мы праводзілі кампанію па пазыцы, ад хаты да хаты разам з намі хадзіла і гэтая самая пара — Шура з вайскоўцам. Мы, сельскі актыў, заклапочана звяралі спісы, падбівалі лічбы, прыдумвалі карацейшую дарогу ў бліжэйшыя вёскі, а закаханыя, прысланыя з Ваўкавыска на падмогу, былі заняты толькі сабой — іх так і цягнула ў цёмны кут, каб пацалавацца. Ён — высокі лейтэнант са скрыпучымі рамянямі, што ладна абхоплівалі яго стройную фігуру, а яна — на цэлую галаву ніжэйшая, але зграбная, загарэлая, з тых, пра каго кажуць — кроў з малаком...

У дзённіку, у пісьмах гэтай самай Шуры і яе суджанага было поўна дэталяў і трапных думак, яны аж прасіліся ў твор,— адно не палянуйся, прывядзі матэрыял у адпаведную сістэму. Чаму мне не пасядзець над ім?

І раптам я адчуў у сабе сілу для такой работы. Ну, дакладна, як, прабуючы закінуць на плечы мяшэчак бульбы, ты бачыш,— не толькі справішся з цяжарам, але можаш падняць яго нават яшчэ і з фокусам — пакруціць над галавой ці перакінуць з пляча на плячо. Угледзеў аповесць я ўжо гатовай, і мяне нібы токам ударыла.

Выходзіць, я — аўтар не аднаго твора?

Здагадка так ашаламіла, што я адразу пазакрываў свае кніжныя шафы, датэрмінова замкнуў кабінет і пайшоў на выхад.

Неўзабаве я ўжо быў за горадам. Куды ісці?

Наогул я люблю віхуры, завеі, вятры, навальніцы, грамы, а тут, як па заказу, дзьмуў рэзкі сівер, жорсткая крупа секла неміласэрна па вачах, сцябала па твары. Я, сагнуўшыся, упарта сунуў па бруку, палявымі дарогамі, па шпалах. У галаве ўкладваліся дэталь за дэталлю новага твора, а на душы ва унісон віхуры гучала: «Выходзіць, я цяпер буду пісаць і пісаць? І гэта ніхто ўжо не адменіць?!

Ух, як здорава! Такі занятак — самы прыемны з усіх, што я паспытаў!

Людзі, я знайшоў шчасце, я ведаю, як мне жыць!!!»

Да канца дня і за ноч дашпарыў я аж да Мастоў і толькі там адчуў стому. Ніколі не спадзяваўся, што мае ногі яшчэ здольны на такі марафон (з Гродна да Мастоў — 63 км!). Світала, а да Ваўкавыска заставалася яшчэ 33 км; у абед трэба з'явіцца на кафедры. Побач чыгуначны вакзал, ды я больш не здольны быў зрабіць і кроку.

У гасцініцы знайшлося месца. Я ўпаў на ложак і заснуў як камень.

## 2

І праўда, «Дзяўчына з Ваўкавыска» пісалася лёгка і за два тыдні была гатова. Падобныя тэмы ў той час лічыліся надта моднымі,— упершыню ў нас з'явілася многа неўладкаванай моладзі пасля сярэдніх школ. Аповесць ахвотна надрукавалі б, а мяне ўжо агарнуў адчай.

Пра што яна? Пра тое, як ваўкавыская школьніца паехала ў Мінскі «пед» здаваць экзамены, як не прайшла

па конкурсу, як, едучы дамоў, пазнаёмілася з афіцэрам ды выйшла за яго замуж. Банальна. Бы ў легкадумных фільмах, дзе з першых кадраў ужо ведаеш, чым ён скончыцца, тады пачынаеш пляваццa ды злаваць: чаму ў такіх выпадках нельга падысці да касы і забраць назад свае грошы,— тавар жа ў магазіне прымаюць, абы квіток быў.

Паўгода я пакутаваў, бытта мне вельмі балелі зубы, покуль мяне не асяніла, як скончыць аповесць.

Пасля надрукавання твора тая самая студэнтка выказала аўтару такую заўвагу:

— Штосьці ў вашай аповесці свайго таты і мамы я не пазнаю. Не пыталася ў Шуры, бо яна з мужам жыве цяпер у Адэсе, але і сястра, напэўна, вам сказала б, што старыя з вашых старонак падобныя на кагосьці другога.

Давай я цярпліва тлумачыць дзяўчыне, што бацькі ёсць і ў мяне і, па незалежнаму ад нас закону, у в'етнамскіх, напрыклад, мастакоў Ленін падобны на в'етнамца, а ў японскіх — на японца, і нічога ўжо не перайначыш.

Дзяўчына змірылася.

Затое з «Данутай» справа была больш складаная.

## 3

Восенню 1938 года адправіўся я ў Вільню паступаць у вячэрнюю школу. Вучоба ў буржуазнай Польшчы каштавала не абы-якіх грошай, а я яшчэ быў перарастак, таму мой учынак выглядаў авантурай. Мае бацькі менш думалі пра сынаў дыплом, яны мяне выпхнулі з хаты, каб я хоць пацёрся па свеце ды сёе-тое пабачыў.

У вялізным і чужым горадзе, на вуліцы Паплаўскай пад нумарам «31-б» жонка краўца прапанавала мне пакойчык за тое, што буду насіць ёй ваду з яра. Каб яшчэ не плаціць і за навуку, наняўся я ў ліцэй пасыльным.

Уся наша вуліца ганарылася, што на ёй жыве сам генерал. Але дом яго знаходзіўся бліжэй да цэнтра, куды даходзіла сістэма гарадской каналізацыі і водаправода. Дачка генерала, з якой я потым выпадкова пазнаёміўся, была непрыгожая — хударлявая і сухая. Мяне якраз схіляла ў другі бок.

Па суседству з домікам краўца выцягнуўся асабняк багатага пана Пішчыка — начальніка пошты. Пішчык меў дзве дачкі, і маладзейшая, панна Ядзя, пацягнула з мяне гэтыя самыя залатыя нітачкі. Пацягнула паненка іх з першага дня — ды так, што не толькі вучоба не палезла ў галаву, я сабе ўжо не знаходзіў месца.

Я вартаваў паненку ў горадзе і ў ліцэі. Не зводзіў вачэй з яе вокан і нават выбіўся са сну. Калі ўжо з-за сімпатычнай суседкі я забыўся пра цэлы свет, мяне агарнула авантурыстычная ідэя — прабрацца да сваёй «багіні» ў палац, а там — што ўжо будзе.

І вось я адправіўся ў дом пана Пішчыка.

З таго моманту мінула роўна сорак гадоў. На маіх вачах пяць разоў мянялася ўлада, і з-за перажытых падзей памяць мая блытае элементарныя факты. Аднак таго моманту не змагло нічога сцерці. Вось ён.

Сваю «багіню» з маці я застаў у сенцах каля палічак са шклянымі слоікамі. Быў верасень — пара нарыхтовак салёных гуркоў, грыбоў, і Пішчыкі, выходзіць, да зімы рыхтаваліся грунтоўна. Шкляных пасудзін на паліцах стаяла некалькі соцень — такую прорву слоікаў яшчэ я ніколі не бачыў. Жанчыны былі ў халатах у чырвоную гарошыну, а на галовах мелі касынкі з такой самай матэрыі. Абедзве ўзіраліся на мяне, як на прывід, і стараліся прыкрыць грудзі. Фея мая, пра якую я так мроіў, на каго маліўся — божа мілы! — трымала ў руцэ слоік і збіралася з яго якраз высыпаць у вядро... здохлых мух.

Убачыў я гэты малюнак — і вобраз багіні адразу растаў, расплыўся, некуды знік ды застаўся там, на вуліцы, у змрочных закутках ліцэя, у марах бяссонных начэй. Я ўжо надта пашкадаваў, чаго ішоў да Пішчыкаў.

Не магло потым нічога змяніць і наша знаёмства з паннай Ядзяй.

## 4

Ішлі гады, мільгалі падзеі, і я пачаў заўважаць, што з віленскіх часоў сядзіць ува мне якісьці душэўны мазоль — упарты, цвёрды і сталы. Мазоль гэты заўсёды пра сябе напамінаў, мяне непакоіў, я нікуды ад яго не мог падзецца. Расказаць бы пра той выпадак каму, добра выспаведацца, але хто цябе будзе слухаць?

К таму часу свой душэўны настрой я ўжо прызвычаіўся выкладваць на паперу, таму аднойчы задумаўся — а ці не вылажыць на паперу і ўсё тое, што ўва мне накапілася за год жыцця ў Вільні? Не абавязкова для друку, а — каб паспытаць асалоду ад новага кантакту з вобразамі мінулага. І не прытрымлівацца дакументальнай праўды, а зірнуць цяпер на падзеі крытычна, з гумарам, падысці да іх з вышыні сённяшніх ведаў і вопыту. Павінен быць страшэнна прыемны занятак.

Неўзабаве і настаў той дзень, калі я, каб не насіць у сабе непасільны цяжар, узяўся за работу.

Я меўся перадаць толькі дух пэўнага часу, і сапраўднае прозвішча не падыходзіла аніяк. Свайму герою адразу знайшоў прозвішча — Барташэвіч Янка і адчуў — гэтаму сялянскаму хлапцу матэрыялу ў тайніках маёй душы хоць адбаўляй. Гераіню з дома начальніка пошты для кантрасту перанёс у дом генерала, падабраў і ёй прозвішча — Янкоўская Крыся. Тут спахапіўся — мала ведаю быт людзей з такога асяроддзя, у генеральскім доме на Паплаўскай быў толькі ў адным пакойчыку і чамусьці нічога характэрнага ад тых візітаў у галаве не засталося...

На падмогу прыйшло нахабства.

За адзін вечар я абышоў кватэры ўсіх генералаў, якія тады жылі ў Гродне. Здзіўленыя гаспадыні ахвотна мне паказвалі сваё багацце, нават запрашалі прыходзіць зноў.

Адным словам, сеў я за стол. Восем месяцаў работы над аповесцю праляцелі як адзін дзень. Я надта люблю перыяды, калі пішацца,— іх можна параўнаць толькі са станам, калі ты закаханы. Зноў я перастаў заўважаць падзеі, надвор'е і нават тое, што рабілася ў сям'і (мабыць, таму празаікі не ідэальныя бацькі і мужы!).

Між іншым, тады і заўважыў я ўпершыню дзіўную з'яву. Справа ў тым, што празаіку даводзіцца многа сядзець над рукапісам ды шмат разоў яго перарабляць і перапісваць. Потым я падлічыў: «Дануту» перапісваў 32 разы (да чэшскага выдання)! Перапісванне — не механічная работа. Кожную фразу зноў як бы прапускаеш праз аголеныя жылы ды ўсё мацней сябе ўзвінчваеш. Дык вось, у тыя дні, калі заканчваў перапісваць новы варыянт аповесці, кожны раз пачынала ў мяне ўздымацца і тэмпература. Будучы на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, я зайшоў са скаргай у літфондаўскую паліклініку. Нічуць не здзівіўшыся, мажны сталічны доктар мяне супакоіў:

— Так памёр Блок.

У Гродне сябравалі мы сем'ямі з Мікалаем Іванавічам Арынчыным. Яго сардэчная жонка Таіса Васільеўна — загадчыца кафедры медінстытута — зацікавілася маім станам ды намерылася прыставіць да мяне групу студэнтаў, каб вывучыць дзіва бліжэй. На жаль, акадэміка Арынчына неўзабаве перавялі ў Мінск, а я так і застаўся ў няведанні — праўду гаварыў маскоўскі самавіты доктар ці загаворваў зубы. Але ўсё гэта было потым.

Перарабляючы і перапісваючы рукапіс, я нарэшце сваёй гераіні выбраў і канчатковае імя — Данута. Мне яно спадабалася свежасцю, хоць на Гродзеншчыне тады называлі так амаль кожную трэцюю дзяўчыну.

К таму часу мне ўжо вядомы былі і элементарныя законы мастацтва. Напрыклад, я ўжо разумеў, што, каб ажаніў Леў Мікалаевіч свайго Вронскага з Аннай Карэнінай, каб паслаў гэту пару на цёплыя воды ў Неапаль, каб скончыў на гэтым раман,— твор людзі забылі б яшчэ ў мінулым стагоддзі. І каб Шолахаў выдаў Аксінню замуж за Грышку Мелехава, зрабіў яе старшынёй сельсавета, а яе казака — кіраўніком Вёшанскага валвыканкома і гэтым скончыў твор,— не было б «Ціхага Дона»...

Я ўжо цвёрда засвоіў — літаратура павінна браць чытача за душу, таму канец у аповесці вырашыў даць суровы. Пры гэтым не парушалася і жыццёвая праўда. Колькі ведаю харошых дзяўчат, якія таксама, як і мая гераіня, склалі свае светлыя галовы за вялікую справу.

## 5

І вось аповесць у асноўным скончыў. Для пэўнасці яшчэ раз і два начыста перапісаў, покуль мне твор не спадабаўся цалкам. Хацелася перад кімсьці пахваліцца, але перад кім? Якраз атрымаў з часопіса запрашэнне на сюжэтную рэч і ў адказ, не надта верачы ў поспех, адправіў свежы рукапіс у «Маладосць».

Праз пару тыдняў заехаў чагосьці ў Мінск ды зайшоў у рэдакцыю «на разведку». Мой твор прачытаў ужо намеснік галоўнага рэдактара. Ён з таямніча-строгім выразам на твары павёў мяне ў калідор, пасадзіў на канапу.

— Аляксей, што ты нарабіў? — раптам з абураным шкадаваннем напаў ён на мяне.

— ???

— Ці ты здурэў, ці якое ліха табе?! Ай-яй-яй, аж так не ведаць задач літаратуры!

— А ў чым справа? — Я ўсё нічога не разумеў.

— Узяў ты харошага нашага хлапца, ды ў каго ж ты яго ўлюбіў? У дачку рэакцыйнага генерала-легіянера! Што, дзяўчыны сваёй яму не мог ты падабраць, ці якая халера?! Разумееш, куды павяла цябе твая наіўная блізарукасць? На трыста старонак з гакам адбухаў цагліну, столькі ўбіў у яе часу, пераводзіў паперы, і ўсё дарма, ай-яй-яй-й!..

Я тады адчуваў сябе яшчэ правінцыялам. Рэцэнзент пачынаў здавацца мне ледзь не абсалютным знаўцам літаратуры, яго імя трапіла нават у школьныя падручнікі, і душа мая ад жаху аж у пяткі ўвайшла. Пачаў я сябе касціць прыкладна так:

«На самай справе, што стрэліла мне ў галаву такое пісаць — пра буржуя-генерала, яго жонку і ад'ютанта, пра охі і ахі?! Ага, пісаў жа для сябе, пра друкаванне нават і не думаў. Тады — на якога д'ябла паслаў у такі адказны орган? Прыемна было сядзець над рукапісам, цешыцца даўняй атмасферай,— ну і цешыўся б сам, размочваў бы свой «мазоль». Ім патрэбны матэрыялы з вялікай палітыкай, на якіх самавітыя рэцэнзенты выводзяць цэлыя тэорыі ды замацоўваюць іх потым у хрэстаматыях. Пры чым тут нейкая генеральская дачка-фіфачка, пры чым ні рыба ні мяса яе Барташэвіч?!»

Адчытваў я сябе так у душы і адначасова слухаў сталічнага крытыка. А намеснік рэдактара ўсё чытаў і чытаў мне натацыі. Затым стаў апавядаць пра свой выпадак.

Выяўляецца, і ён некалі без памяці кахаў адну фею, якая паўтара гады дарыла яго платанічнай ласкай. Потым ён з жахам даведаўся, што ўвесь час, покуль ён марыў аб ёй ды ўздыхаў, а яна строіла яму вочкі, нягодніца жыла з абармотам-капітанам рачнога парахода. Толькі ж каму гэта цікава ды якую з гэтага факта выведзеш ідэю?..

А скончыў суровы крытык маналог так:

— На, Аляксей, свой опус і нікому больш не паказвай. Адпраўляйся ў сваё Гродна ды паспрабуй зрабіць нам нешта на тэму надзённую — бясспрэчна, пісаць ты, старык (гэтае слоўца тады якраз уваходзіла ў моду), можаш!

Між іншым, калі потым «Дануту» адзначылі ў друку і пачалі аповесць перавыдаваць, рэцэнзент, хоць і з неахвотай, аднак прызнаў, што ў творы тады не разабраўся. Затое цяпер, калі займеў ён шмат тытулаў, на поўным сур'ёзе пры мне заявіў, што ўдачу аўтара ён заўважыў тады самы першы. Але няхай гэта будзе на яго сумленні.

6

Такім чынам, у першай рэдакцыі аповесць маю раскрытыкавалі. На ватных нагах паваломся я на вакзал і некалькі тыдняў у Гродне не знаходзіў сабе месца. Героі

з «Дануты» ў сне мне жаліліся. Ідучы куды-небудзь, як з жывымі, я гутарыў з імі і бытта бы суцяшаў іх. Бачыў кожнага выразна і не мог ад іх адмовіцца аніяк. Найбольш — ад Дануты.

«Ну і што, калі яна дачка буржуазнага генерала — паненка ж загінула за вялікую справу! А Барташэвіч які файны хлапец?!. Рэцэнзент сам цагляны опус!..»

Дарэчы, галоўны герой аповесці б'ецца з эндэкамі, калі ў зале Снядэцкіх выступае Максім Танк. Раздзелы гэтыя не выдуманыя. Мне самому дасталося тады «на арэхі». Потым на вёску прыслалі бацьку ад хірурга рахунак на 15 злотых — недзе і цяпер яшчэ ляжыць у мяне квіток аб уплаце. Давай пашлю рукапіс Танку, няўжо не крануць яго тыя родныя яму мясціны?»

Другі раз запакаваў я твор ды адправіўся на пошту.

Дакладна праз тры дні ад Танка прыйшла паштоўка. Яўген Іванавіч не толькі віншаваў мяне з удачай — «Полымя» бралася аповесць друкаваць.

Далей не ўсё пайшло так гладка.

Перад самай здачай у набор пачалося ў аддзеле. Рэдактар, бачыце, сам пісаў раманы са станоўчымі героямі, з надзённымі тэмамі, і ніхто гэтага подзвігу чамусьці не заўважае, а тут нейкі аўтар з правінцыі намаляваў буржуазную фіфачку, хлапца ні тое ні сёе, і яму такая ўвага! Дзе ж справядлівасць?!.

Дзякуй богу, усё абышлося. Са скрыпам, з вялікай неахвотай, аднак рукапіс у друк ён здаў.

### 7

Калі «Данута» ўжо выйшла і па-руску, я адразу паехаў у Вільнюс, каб сваю кніжку падараваць прататыпу. Шчыра кажучы, ішоў я па знаёмых мясцінах і хваляваўся, як малы. Мяне нават разбіралі дрыготкі. Адначасна было і цікава — якая цяпер Ядзя?..

У Вільнюсе мяне напаткала вялікае расчараванне. Адразу пасля вайны Пішчыкі пераехалі жыць у Польшчу. Дзе цяпер жыла пані Ядзя, ніхто сказаць не мог.

Да сённяшняга дня «Данута» мела дванаццаць публікацый, аповесць перакладзена на іншыя мовы, выдавалася і за мяжой. Многа чытачоў прыслала свае водгукі. Пісьмы былі двух гатункаў. У адных — людзі звярталіся да аўтара і выказвалі свае адносіны да твора.

Іншыя ж на канвертах пісалі так:

«г. Гродна, аблана. Інспектару Янку Барташэвічу (свайго героя пад канец аповесці я «змясціў» на працу інспектарам)».

Інспектар па кадрах М. П. Кузняцова пісьмы такія збірала ў пакеты ды адпраўляла мне на кватэру — маўляў, разбірайся з імі сам, бо інспектара такога ў нас няма.

Чаго толькі не было ў тых пісьмах! Нейкая кабета з-пад Кобрына пісала:

«Дарагі тав. Барташэвіч! Вы столькі перажылі, і хоць маеце жонку, а засталіся адны. Сумую вельмі адна і я, хоць і замужам. Давайце пачнем перапісвацца...»

Другая пісала:

«Калі ласка, прышліце, дарагі Янка Барташэвіч (даруйце, не ведаю, як Вас па бацьку!), мне фота сваёй Дануты. Я павешу яго над ложкам і буду заўсёды глядзець на яе вобраз — устаючы і кладучыся...»

А настаўніцы са Смаргоншчыны катэгарычна патрабавалі:

«Вырашылі мы зрабіць экскурсію ў Вільнюс ды пакласці на Дануціну магілку кветкі. Выязджаем сваім аўтобусам 5 ліпеня ў 6 гадзін раніцы. Просім Вас, дарагі тав. Барташэвіч, к нам далучыцца. Калі ўжо не зможаце з намі паехаць, то тэрмінова напішыце нам, прынамсі, дзе яе магіла...»

У Маскве на ВЛК ад выкладчыкаў я пачуў, што ў Англіі ёсць горад, у якім каля старэнькага тэатра стаяць унікальныя два помнікі. Ім па трыста гадоў, да іх водзяць турыстаў (шкада, не запісаў назвы горада!). У XVII стагоддзі для мясцовага гарнізона ставілі там Шэкспіра. Калі на сцэне Атэла пачаў душыць Дэздэмону, адзін салдат закрычаў, каб раўнівец адстаў ад жанчыны. Гэта, вядома, не памагала. Тады абураны салдат ускінуў лук, нацягнуў цеціву ды прашыў артысту сэрца стралой. Салдата пакаралі. Аднак помнік паставілі і яму — як ідэальнаму гледачу.

Я не Шэкспір, ды крыху падобны чытач знайшоўся і ў мяне.

Аднойчы шаноўная Маргарыта Пятроўна прыслала мне з аблана новую пачку пісем. Сярод іншых адна чытачка пісала:

«Бартошевич!

Я очень довольна, что ты в живых и тебе можно влепить в лоб все то впечатление, что произвело на меня

после прочтения книги «Данута». Кончив читать, я вслух кричала: Сволочь! Сволочь! Идиот! Хуже того Рыжего, что лупил тебя на сцене! Мало он тебя лупил! Ведь ты коварнее его! Любил ты Дануту, когда она тебе была недоступна, когда же она тебе стала доступной — ты стрелял ее! За что, фриц ты?! (Тут ідзе фраза не да друку, я вымушаны яе апусціць...) А Дануту, свою любовь, не удалось самому удушить, и ты оставил ее на растерзание немцам, зверюга ты!

Мои пожелания тебе: пусть светлая и чистая любовь Дануты живет в твоем сердце, как червь, до глубокой старости твоей, а когда придет к тебе твоя смерть, чтобы она была похожа на смерть Дануты! С такими же пытками и ты был таким бессильным и беззащитным, какой ты оставил ее —

Придурок ты!

Ольга Т».

Калі наша задача ў тым, каб узяць чытача за сэрца, то лёгка сабе ўявіць маю радасць пасля прачытання гэтага «крыку» душы. Во ўзяў за жывое. Каб гэтая самая «Вольга Т.» жыла ў Гродне, а ў нашым аблана і праўда працаваў такі Янка Барташэвіч, то, мабыць, яна знайшла б яго і, прынамсі, вочы яму выдрала б.

Такое было маё першае ўражанне.

Потым стала сумна. Усё ж такі мы жывём не ў XVII стагоддзі і ўспрымаць кніжку мастацкай літаратуры як нейкі дакумент — трохі наіўна.

*1977*

## МАЯ ДЖАМАЛУНГМА

### 1

Яшчэ ў часы прыгону адзін памешчык выменяў недзе на поўдні на гончую сабаку краўца па прозвішчы Карпюк, прывёз яго ў сваю вёску Страшава, Ваўкавыскага павета, і ажаніў з цяжарнаю пакаёўкай.

Калі адмянілі прыгоннае права, кравец атрымаў вольную. Пачаў абшываць вёску. Зойдзе да адной хаты, пажыве з тыдзень, пакуль не скончыцца работа, тады ідзе да другой.

Страшаўскія бабкі нам, малым, апавядалі, які кравец быў жартаўнік:

— Дзеці, прынясіце жменьку попелу, будзем іголку вастрыць!

Тыя прыносяць. Ён водзіць, водзіць па попеле іголкай,— раз! і ўколе ў руку: «А што, вострая?..»

А то ў адной хаце нявесткі пачалі варыць абед і пасварыліся. Гаршчок сабе кіпіць, нявесткі ходзяць за нечым то з хаты, то ў хату, маўчаць, надзьмутыя, а спытацца адна ў адной, ці пасолена страва, не дазваляе гонар.

Вярнуліся мужчыны з малацьбы. Пасела сям'я снедаць. Прытчэйшыя зачэрпнулі па лыжцы стравы ды тут жа скрывіліся і выплюнулі яе.

— То хіба і ты саліла? — вінавата спыталася адна маладзіца ў другой.

— Саліла...

— Што ж ты нарабі-іла!..

Стары кравец іх перабіў:

— А я падумаў, сёння такое свята: бачу — усе соляць, пасаліў і я!

У краўца было два сыны. Старэйшы быў заядлы паляўнічы і адчайны чалавек.

Аднаго разу малодшы пасвіў валоў і заснуў. Валы залезлі ў панскае жыта. Пан загадаў адмераць пастуху дваццаць бізуноў.

Вяртаецца паляўнічы з пушчы, а яго брат ляжыць у гумне на саломе і енчыць: у яго спаласавана ўся спіна. Зазлаваў старэйшы брат і пайшоў у маёнтак.

Пан з ганка пытаецца:

— Каго табе?

— Цябе! — адказаў хлапец.

Ён узяў за рулю стрэльбу ды так жарнуў пана па жываце, што той тут жа і памёр.

З таго часу старэйшы сын краўца некуды знік, і пра яго больш ніхто не чуў нічога. А гэты, малодшы, па імені Аляксей, і стаў маім дзедам.

Аляксей стаў потым леснікам і служыў гадоў сорак. Жалаванне капіў, а калі распрадавалі ў Страшаве маёнтак, купіў сабе ўчастак зямлі. Памёр у 1897 годзе.

У майго дзеда было два сыны: мой бацька Нічыпар, 1892 года нараджэння, і на пяць гадоў старэйшы Аляксей. А яшчэ дзед меў пяць дачок. Старэйшы сын падаўся ў Беласток на заробкі, стаў прыказчыкам. Потым адтуль пераехаў у Маскву і жыве там да сённяшняга дня.

У першую сусветную вайну сям'я Карпюкоў, ратуючыся ад немцаў, эвакуіравалася ў Расію.

Майго бацьку ўзялі на фронт. Вайну ён праслужыў наводчыкам трохдзюймовай гарматы, два разы быў ранены. У 1918 годзе, пасля дэмабілізацыі, бацька знайшоў у Расіі маці з сёстрамі, завёз іх у Страшава. Хацеў вяртацца назад у Савецкі Саюз, ды к таму часу ўстанавілася цвёрдая граніца паміж Польшчай і Савецкім Саюзам.

Так ён і застаўся ў сваім Страшаве.

Праз год бацька ажаніўся з Марыяй Міхайлаўнай Дудзік, з суседняй вёскі Бялявічы.

Хутка бацькава маці памерла. Сёстры павыходзілі замуж, параз'язджаліся. І бацька застаўся адзіным гаспадаром на даволі вялікім кавалку зямлі.

У бацькоў было нас два сыны: я, з 1920 года нараджэння, названы ў памяць дзеда Аляксеем, і на два гады маладзейшы брат Валодзя.

У 1932 годзе мы з вёскі пераехалі на хутар, пад лес Ліпнікі, ля самай чыгункі Беласток — Ваўкавыск.

2

Мы мелі 18 гектараў зямлі і 13 — балота. Зямля была пясчаная, камяністая,— каб невядома якая ліла навальніца, а лужаў не бывала нават у баразнах. І балота — суцэльны тарфянік. Наколькі я памятаю, мы заўсёды трымалі аднаго каня, дзве-тры каровы, пяць-шэсць авечак і некалькі свіней. Зямлю абраблялі сваёй сям'ёй. Толькі часамі ў дажджлівую восень наймалі жанчын капаць бульбу.

Успамінаючы дзяцінства, я сябе амаль не бачу сярод равеснікаў за гульнямі. Толькі запомнілася, як у спякотнае лета ные спіна, салёны пот засцілае вочы, а ты з перавяслам у руках з сумам і надзеяй пазіраеш на неба: калі ж, урэшце, пойдзе той дождж, каб можна было залезці ў бабкі, паляжаць... А то, памятаю, хацелася захварэць, каб адпачыць, выспацца.

А ўвосень ці зімою варта было мне ўцячы да сяброў, каб пакатацца на санках ці пагуляць у пікара, маці крычала з акна:

— І не сорам табе! Няхай ужо яны галёкаюць... Ты ж у школу ходзіш, а паводзіш сябе бы невук! Марш дамоў, а то бацьку паклічу!

І я вяртаўся з вуліцы, сёк дровы ці браўся за кніжку.

Ад нашага хутара да бліжэйшага мястэчка Гарадок было 6 кіламетраў. Там мы вучыліся з братам.

Ішлі ў школу толькі тады, калі напасвім кароў. І ішлі не з аднымі кніжкамі. Кожны дзень мы неслі ў горад па 6—7 літраў малака. А з бутэлькамі гэта — паўпуда! Насілі дзень у дзень, зімой і восенню, і гэтак да сёмага класа.

Я тады часта прастуджваўся, і ад хранічнага катару ў мяне зусім атрафіравалася абаянне. З дванаццаці год і да сённяшняга дня кветкі і бензін для мяне пахнуць аднолькава.

У маім класе з сялянскіх дзяцей вучыліся толькі я ды Сашка Кандрусік з Гарадка, а рэшта былі сынкі польскіх чыноўнікаў, яўрэйскіх фабрыкантаў, крамнікаў і іншай дробнай буржуазіі. Зрэбная кашуля, розныя гузікі на ёй, босыя ногі ці не так вымаўленае польскае слова выклікалі ў маіх аднакласнікаў насмешку.

Мною ў класе ганьбавалі. Настаўнікі глядзелі на мяне з цікавай варожасцю, як на выхадца са славутай вёскі, якую паліцыя называла «чырвоным гняздом». Я ўзненавідзеў і школу, і настаўнікаў, і тое, чаму яны вучылі. Хадзіў туды, бо баяўся бацькі. Глядзеў на сваю вучобу, як на няшчасце, нешта часовае, і ўсё чагосьці чакаў, чакаў...

## 3

Бліжэйшым культурным цэнтрам ад нас было мястэчка Гарадок. Яно мела і гміну. Не раз прыязджалі прадстаўнікі польскай улады, збіралі сялян, нагаворвалі іх прылучыцца да гміны ў Гарадку, але маім землякам выгадна было трымацца ад улады на дыстанцыі. Мужыкі моўчкі слухалі прамоўцаў, курылі, уздыхалі. Калі ж справа даходзіла да галасавання,— дружна паднімалі рукі супраць.

За якіх трыццаць пяць кіламетраў ад нашага Страшава знаходзіўся Беласток. У рэвалюцыю 1905 года на яго барыкадах казакі арыштавалі некалькі страшаўцаў з чырвонымі бантамі. Гэтыя людзі вярнуліся з катаргі загартаванымі рэвалюцыянерамі толькі ў грамадзянскую вайну. Потым яны адышлі на ўсход, калі Чырвоная Армія адступала з-пад Варшавы, але пакінулі тут рэвалюцыйны дух.

На хутары страшаўцаў перасялялі з паліцыяй.

Падаткі спаганялі таксама з паліцыяй.

Многія мае аднавяскоўцы былі дзёрзкія да ўрада, бо ведалі: на ўсходзе ёсць магутныя заступнікі. Пагражала хлопцу турма за палітычную дзейнасць — ён уцякаў на ўсход. З гарачкі ажэняцца маладыя, убачаць, што ў іх ні кала, ні двара, ні работы — бягуць на ўсход; там усім хопіць і работы і прытулку. Тыя, хто ўцячы не мог, пацяшалі сябе: нічога, тут Пілсудскі, але і ў нас ёсць Радзіма.

Ва ўяўленні нашых людзей Радзіма тая была раем на зямлі, дзе цякуць малочныя рэкі, людзі ходзяць у шаўках і жывуць у палацах. Ого, савецкія людзі ўсё могуць.

Нельга было выжыць пырнік з палёў, то скрыжавалі яго з пшаніцай і здымаюць па сто цэнтнераў з гектара!

Пачынаецца засуха ў якім-небудзь раёне? Нічога! Рускія вучоныя пашлюць туды дажджавыя хмары.

Пагражаюць бальшавікам японцы? Няхай заварушацца толькі! Савецкія інжынеры выкапаюць канал, пусцяць па ім Ледавіты акіян і японцаў прымарозяць!

Маўчаў бы лепш і немец, бо толькі загадаюць Тэльману — і заўтра ж будзе ў Германіі рэвалюцыя!

І Пілсудскаму паголяць вусы, няхай толькі паткнецца!..

Вера людзей была святой да наіўнасці, упартай да смерці, часамі гранічыла з сектанцтвам.

І мой бацька ў сваёй веры быў цвёрды да слепаты. Ён рэвалюцыйны дух прынёс яшчэ з арміі, у вёсцы арганізаваў ячэйку кампартыі, потым — камсамола.

Памятаю, за мяжу ўцёк стары халасцяк Раман з суседняй вёскі Зубкі, але праз два месяцы вярнуўся. Прыйшоў да бацькі пануры, маўклівы, пастарэлы. Я сядзеў ля печы, стругаў палена: мяне мужчыны не таіліся.

— Ну, расказвай, як там? — спытаўся бацька.

І Раман пачаў расказваць, што ў Саветах жанчыны ходзяць у галёшах на босую нагу... А ў магазінах — чарга... за чорным хлебам...

— А-а, мярзотнік, ужо купілі цябе паны! — абарваў яго бацька.— Прэч з маёй хаты, прадажная шкура!

Раман заплакаў і пайшоў.

Паліцыянты азалацілі б Рамана, каб ён згадзіўся расказваць публічна, што бачыў за мяжой. Толькі ён не сказаў больш нікому ні слова, але сам не мог перанесці душэўнага разладу. З нашай хаты ён пайшоў за зубкоўскія гароды і ўтапіўся. Аб сіле яго волі можа сказаць толькі

рэчка, у якой ён, цвярозы, прыняў смерць. Ёй людзі не прыдумалі нават назвы. У самым глыбокім месцы яна мела семдзесят сантыметраў глыбіні — сам мераў.

4

Тады і здарыліся выпадкі, якія на ўсё жыццё ўразілі маю душу.

Выпадак першы. Як звычайна, валокся я з бутэлькамі малака ў школу. Са мной крочыла Ніна — дачка найбагацейшага страшаўца, Ігнатавага Арсэніка. Якраз ноччу падпольшчыкі спалілі гумно ў аднаго дзядзькі, бо ён купляў з распрадажы рэчы, якія забіралі за падаткі. Пад Гарадком, ля спаленага гумна, мы раптам убачылі на вярбе чырвонае палотнішча сцяга. Калі мы прайшлі яшчэ крокаў сто, нас спаткаў на веласіпедзе доўгі, як п'яўка, у сінім мундзіры паліцыянт Лукашэвіч з Гарадка. Ніна ішла ўперадзе мяне, і ён яе спытаўся, ці не бачыла сцяга. Апусціўшы вочы, Ніна кінула:

— Не!

Тады ён пад'ехаў да мяне і спытаўся пра тое самае. Мяне нібы загіпнатызавалі. Я адчуў яго ўладны позірк, мая воля раптам растаяла, і я сказаў, дзе вісіць сцяг.

Ніякага значэння маё прызнанне не мела, бо паліцыянт праз мінуту ўбачыў бы сам чырвонае палотнішча на фоне зялёнай лістоты, калі ўжо пра яго ведаў і ехаў здымаць. Але для мяне тут была справа прынцыповая. Потым што б я ні рабіў у падполлі, у партызанах, у салдатах, я ўспамінаў хвіліну сваёй слабасці на пясчаным тракце пад Гарадком, і кожны раз мне здавалася, што зрабіў мала, каб акупіць свой ганебны ўчынак.

Выпадак другі. У Страшаве самым распаўсюджаным педагагічным сродкам, якім бацькі дабіваліся належнага выніку ў выхаванні сваіх нашчадкаў, была папруга. Бацька наш быў суровы, і мы з Валодзькам каштавалі яго папругі даволі часта.

Аднаго разу за нейкую шкоду бацька накруціў мне добра вушы ды яшчэ ўзяўся за яе, але я ўцёк да суседа — халасцяка Антончыка. Там было некалькі мужчын. Уважшоў яшчэ адзін хлапец ды стаў апавядаць навіну, бытта падпольшчыкі атрымалі інструкцыю, каб ачысціць рады партыі і камсамола ад кулакоў. Не бачачы мяне, нехта заўважыў, што найбольш зямлі мае Нічыпар Карпюк —

сам сакратар партарганізацыі. Я не ведаў, што ў бацькі былі і асабістыя ворагі. Яны цяпер і пачалі злараднічаць:

— Ага, арганізаваў ячэйку, а самога выключаць з партыі!

— Так яму і трэба, разумнаму надта!..

Вярнуўся я дамоў, а тут бацька мне даў папругі яшчэ і за тое, што недзе лётаю і не вучу ўрокаў. Але цяпер я не заплакаў, а кінуў помсліва:

— Ага, а цябе з партыі выкінуць, бо ты — кулак!

І раптам я ўбачыў, як ад маіх слоў бацька змяніўся ў твары. Ён паглядзеў на мяне так, што маё сэрца ледзь не разарвалася.

— Дык што ты ведаеш? Што? — прашаптаў ён бы не сваімі вуснамі.

Я аб усім сказаў і заплакаў.

Відаць, найбольш пакрыўдзіць бацькоў могуць толькі дзеці. Усё жыццё ў мяне стаіць перад вачамі пакрыўджаны бацькаў твар... Не цешыць і тая ісціна, што на памылках вучымся.

## 5

Гады 1932, 1933, 1934-ты былі гадамі самай актыўнай дзейнасці КПЗБ у нашай мясцовасці.

Вакол Страшава сінелі лясы, у Гарадку існавала з дзесяць тэкстыльных фабрычак. Забастоўкі лесарубаў, возчыкаў, забойствы правакатараў, сутычкі з паліцыяй былі тады звычайнай з'явай. Усе падзеі адбываліся на маіх вачах. Часамі прымаў у іх удзел і я.

Зімой за арганізацыю забастоўкі лесарубаў, якой кіравала КПЗБ, мой бацька быў першы раз пасаджаны ў ваўкавыскую турму.

Цэлую зіму гаспадарыла адна маці, а я з Валодзькам ёй памагаў як толькі мог. Незнаёмыя людзі прывозілі нам на хутар дровы. Малацілі нашае збожжа. Збіралі бацьку грошай на адваката. Нават заставаліся ў нас нанач, каб не баяліся мы спаць.

Той час, калі гэтак выразна адчуў людскую салідарнасць і спагаду, цяпер успамінаецца мне як нейкае вялікае шчасце.

Скончыў я сямігодку.

Каб вучыцца далей, трэба было мець шмат грошай. Вучоба ў гімназіі каштавала з утрыманнем прыкладна 70

злотых у месяц, многа гэта ці мала? Столькі каштавала тады адна карова...

Пра гімназію мне нельга было і думаць, і я задумаў уцячы ў СССР.

Начытаўшыся Ната Пінкертона і Шэрлака Холмса, летам 1934 года я падгаварыў Васю Курцэвіча з Валіл, з якім некалькі год сядзелі за адной партай. Мы запасліся харчамі ды падаліся на ўсход.

Граніцы перайсці мы не змаглі. Шукаючы яе, цэлы тыдзень праблукалі ў палескіх балотах ля Ганцавіч і Мотычы. Згаладнелых, абарваных і да крыві скусаных камарамі нас злавілі польскія пагранічнікі ды перадалі паліцыі.

Суд у Клецку даў нам па тры месяцы ўмоўна. Крыху патрымаўшы у нясвіжскім замку і ўсыпаўшы як след на дарогу, нас адправілі дамоў.

Вярнуўся я ў Страшава героем. Падпольшчыкі цяпер мяне адразу прынялі ў камсамол.

І пацякло маё ранняе юнацтва. Я памагаў бацьку на гаспадарцы, займаўся падпольнай работай. У апошнім, вядома, тады я бачыў толькі рамантыку.

Ноччу мы недзе збіраліся — у лесе, на балоце. Кудысьці ішлі на спатканне з чалавекам, якога потым ніколі ў жыцці не бачылі.

Хавалі ў гумнах, перапраўлялі ў суседнія вёскі нейкіх людзей.

Пераносілі пакеты кніжачак, брашур, пракламацый. Браліся не раз калектыўна чытаць падпольную літаратуру, ды мова яе была для нас занадта вучонай. Не даслухаўшы, мы прымалі ўсё на веру. Толькі нямногія хлопцы на ляту схоплівалі доўгія вучоныя фразы, потым імі бравіравалі, а мы, слухаючы іх, заміралі ад таямнічага і незразумелага сэнсу і зайздросцілі.

Затое ўсе мы дружна білі правакатараў, падпальвалі іхнія будынкі. У Страшаве нас было 5 камсамольцаў, а на нашу вёску і Бялявічы — 4 члены партыі, але менавіта мы задавалі тон цэлай акрузе.

Мы давалі клятву ніколі не піць гарэлкі і не курыць — і клятву нашую падхапілі сяляне.

Аднойчы калектыўна зарабілі грошай ды купілі радыёпрыёмнік. З той пары, выставіўшы варту ля дома, цэлай вёскай слухалі перадачы з Мінска, Масквы.

Раптам папаўзлі чуткі, бытта былыя катаржнікі са Страшава, што ўцяклі ў СССР, ворагі народа! Людзі дзівіліся, спачатку пацiскалі плячамі.

— Мусіць, так трэба. У Маскве разумнейшыя за нас. Ведаюць, што робяць — уздыхаючы, пацяшалі тады сябе мае землякі.

Непрыкметна для саміх сябе некаторыя таксама пачалі прыглядацца адзін да другога і недавяраць. Сталі шукаць ворагаў і ў сябе. Сусед пачаў насцярожана прыглядацца да суседа, брат — не верыць брату, сын бацьку.

Маім ідэалам падпольшчыка быў сын нашай суседкі Сахарыхі — Цішэўскі Юлек. Гэты дужы і разумны хлапец не лез у кішэню за словам, займеў паважанне ў старых, сімпатыю і любоў у моладзі, а дзяўчаты дык усе былі ў яго закаханыя.

Юлека паважалі і баяліся нават паліцыянты з Гарадка і Ялоўкі.

Аднаго разу Юлека арыштавалі, але не было доказаў віны, і яго мусілі выпусціць.

Тады нехта подла шапнуў:

— А-га, выпусцілі! Думаеш — так?.. Мусіць, прадаўся і гэты!

З бруднай падазронасці Юлекавы ворагі ўраз зрабілі праўду. Гарачыя галовы вызваліся пакараць «здрадніка».

Аднаго вечара гэты страшаўскі самародак і шчыры камуніст праз акно атрымаў кулю ў скроню ад свайго былога сябра.

Мне цяжка было зразумець паспешнасць, з якой людзі паверылі ў здраду чалавека, перад якім яшчэ нядаўна пакланяліся.

Зрэшты, уся трагічнасць выпадку дайшла да мяне значна пазней, калі я стаў разумным разам з іншымі. Тады ж я з жахлівым недаўменнем стаяў над трунюю Юлека Цішэўскага і не хацеў верыць, што свет такі жорсткі.

Але хутка маю ўвагу заняло іншае. Пачаўся 1935 год. Дэфензіва добра падрыхтавалася і ў адзін дзень правяла масавы арышт падпольшчыкаў.

Арыштавалі мяне і бацьку. Першую ноч мы правялі ў Юлека Кушняровага ў Бялявічах. На падлогу Юлек наслаў саломы, нас паклалі ўсіх у рад, і сышчык з наганам стаў на варту.

У хату да Юлека прытэпала мая бабка і стала прасіць:

— Пане, ну навошта трымаеце майго ўнука? Хіба ён бандыт? Хіба каго забіў, зарэзаў?

— Матко, ён горшы,— адказаў сышчык.— Бандыт зарэжа аднаго чалавека, а твой унук замахнуўся на цэлую дзяржаву!

Для мяне гэта быў найвялікшы камплімент, які толькі можна прыдумаць. Слухаў я свайго ворага і рос...

У Ялоўцы на пастарунку пачалася расправа. Некаторыя нашыя хлопцы не вытрымалі, пачалі «сыпаць» — дзе, што і як. Я паспрабаваў першую горыч здрады тых людзей, ад якіх найменш спадзяваўся.

Ад мяне не дабіліся нічога.

Мы чакалі суда.

Кампанія ліквідацыі КПЗБ і КСМЗБ адбылася па ўсім Беластоцкім ваяводстве. Каб усіх перасаджаць, ураду не хапіла б турмаў. Прыгаворы з турэмным зняволеннем суддзі выносілі толькі сакратарам ці тым падпольшчыкам, якіх абвінавачвалі ў забойстве. Астатніх падвялі пад амністыю. Бацька атрымаў невялікі тэрмін, а мяне, маладетняга, амністыравалі. Памятаю, калі мне сказалі пра гэта, я расплакаўся: надта хацелася, каб засудзілі, як іншых.

Настаў цяжкі час. Лепшыя людзі апынуліся ў турмах. КПЗБ і КСМЗБ распусцілі. На свеце запахла порахам. У Іспаніі выбухнула грамадзянская вайна.

Аднойчы вясной 1937 года прыехалі да мяне з Гарадка былыя падпольшчыкі і школьныя сябры. Саша Кандрусік з Толем Пятэльскім прынеслі загад — збіраць па хатах дапамогу для рэспубліканцаў.

Цэлы год я вечарамі збіраў жыта, каўбасы, грошы і адпраўляў у Гарадок. Часамі пытаўся сам у сябе: як гэта ўсё перапраўляюць у Іспанію? Ну, грошы можна пераслаць, а жыта — прадаць. Але ж як адпраўляюць каўбасы?

Між іншым, і да сённяшняга дня мяне мучыць сумненне: ці ўсё сабранае тады даходзіла да гераічных іспанцаў? Не Сашка і не Толя, але іншыя людзі, якія кіравалі такімі зборамі, часамі былі падазроныя. Некаторыя, як выявілася ў 1941 годзе, былі проста шарлатаны, п'яўкі і нажываліся на народным патрыятызме. Але гэта ўжо тэма цалкам іншая...

Дарэчы, я тады імкнуўся паехаць дабравольцам у Іспанію. Ды трэба ж было так здарыцца, каб адказным

за вярбоўку ў нашай акрузе быў мацерын брат, дзядзька Мікалай Дудзік з Бялявіч. Ён, вядома, расказаў бацьку, і мая авантура скончылася вялікім сямейным скандалам.

## 7

Чырвоная Іспанія канала. Станавілася відавочна, што нашая дапамога яе не ўратуе.

Цяпер я страціў і той адзіны занятак, у якім знаходзіў маральнае задавальненне. Цяжкая праца на гаспадарцы не мела ніякай перспектывы. Я першы раз па-даросламу спытаўся ў сябе: што ж мне рабіць?

Хоць бліжэйшым горадам у нас быў Беласток, але культурным цэнтрам па-ранейшаму лічылася Вільня. Яшчэ з часоў Кастуся Каліноўскага, а мо і раней, многія пакаленні нашай моладзі імкнуліся туды, каб вярнуцца адукаванымі людзьмі, вопытнымі рэвалюцыянерамі. Памкнуўся туды і я. Дома мой праект падтрымалі.

Летам 1938 года я прыбыў у Вільню і паступіў у вячэрнюю школу пры гімназіі імя «адукацыі народовэй». У гэтай школе двухгадовую праграму праходзілі за год.

Такім чынам да наступнага лета я скончыў два класы гімназіі. Харчы прысылалі бацькі, грошай на вучобу зарабляў: быў пасыльным у гімназіі, разносіў па кватэрах малако.

Нямецка-польская вайна ў верасні 1939 года застала мяне дома. Тады і ўбачыў я першы раз салдат вермахта. Яны паціскалі нам, беларусам, рукі, запэўнялі:

— О-о, Москаў гу-ут! Нікс крыг!

Цяжка было не верыць шчырым запэўненням салдат, і — памяталася крывавая расправа фашыстаў з рэспубліканцамі ў Іспаніі.

Пачалі мы збіраць польскія вінтоўкі, каб павярнуць іх супроць прышэльцаў з захаду, ды надышло 17 верасня.

Ад Страшава недалёка пралягала граніца. Там ужо накоплівалася гітлераўская армія. Начамі пачалі гарэць у аколіцах будынкі, масты, гінуць людзі...

Як потым выявілася, акты дыверсіі выконвалі разведчыкі вермахта.

Гэтым часам я паступіў у Навагрудскае педвучылішча і да лета 1941 года скончыў два курсы. У педвучылішчы падаў заяву, каб мяне прынялі ў камсамол. Мне адмовілі, бо бацька мой меў многа гектараў зямлі (між іншым,

вярнуў мне заяву з адмоўным адказам сакратар камітэта камсамола Мароз, які потым стаў ... паліцаем!).

Горкая крыўда і пачуццё асабістай абразы не дазволілі мне збіраць доказы, што я — сын падпольшчыка, а не кулака, і сам не быў пасіўным сведкам падпольнай барацьбы ў буржуазнай Польшчы.

Зрэшты, адкуль такія доказы я ўзяў бы.

З-за гектараў пацярпеў і мой бацька. Яго абклалі кулацкім падаткам. Ён таксама нікуды не пайшоў са скаргай.

Ды наваліліся падзеі куды важнейшыя.

## 8

Навагрудак фашысты занялі толькі пасля двухтыднёвых баёў. Вучняў педвучылішча гэты час ваенкамат выкарыстоўваў як пасыльных. Затым арганізаваў з нас каманду лавіць нямецкіх парашутыстаў, ды настаўнікі-камандзіры павезлі сем'і на ўсход, і каманда распалася.

Я са сваім блізкім сябрам Мікалаем Жураўлёвым папрасіўся на фронт.

— Куды я вас падзену? — адказаў стомлены ваенком, капітан Волкаў.— Навагрудак абкружаны. Зброі няма ніякай. Вы лепш не блытайцеся пад нагамі, валяйце дамоў і чакайце. Вас знойдуць, калі спатрэбіцеся.

І я павалокся дахаты. Немцаў спаткаў каля Дзятлава. Яны прыпаднялі маю шапку, пабачылі, што галава не пастрыжаная — не салдат,— і адпусцілі.

Вярнуўся я ў Страшава. Якраз вярнуўся і бацька — ён з падпольшчыкамі таксама адступаў на ўсход, але немцы іх абагналі.

Прывалокся ўвесь у пухірах на пятках і падэшвах мой брат Валодзька. Ён вучыўся ў Мінскім тэхнікуме сувязі, адышоў найдалей — яго немцы дагналі за Барысавам.

Ажылі мы крыху і агледзеліся. Ваколіцы Страшава немцы часта бамбілі. Па палях, лясах і дарогах стаялі дзесяткі цэленькіх і новенькіх танкаў, гармат, якія часамі не зрабілі ні аднаго стрэлу па праціўніку. Якіх-небудзь пяцьдзесят задрыпаных немцаў па шашы вялі калону ў некалькі тысяч дарэшты знясіленых палонных...

Усё здавалася нібы сном. Была такая моц і яе не стала! Ніякія весткі не даходзілі ў нашае Страшава. Мы сталі глыбокім тылам. Усюды былі толькі выпешчаныя, самаўпэўненыя нямецкія салдаты і афіцэры.

Наўрад ці можна параўнаць франтавыя, лагерныя і партызанскія нягоды з тымі маральнымі пакутамі, якія давялося перанесці тады, у першыя месяцы акупацыі.

Я тады перажыў самыя чорныя дні ў маім жыцці.

9

Нашу тэрыторыю немцы далучылі да трэцяга рэйха. Увялі строгую сістэму падаткаў і адміністратыўнай улады. Жандармерыя правяла дзеля страху некалькі арыштаў. У вёсках, якія раскінуліся вакол Гарадка, некалькі чалавек было расстраляна. Але ў Страшаве нікога не кранулі. У вёсцы праявілася выхаванае ў страшаўцаў яшчэ ў часы падпольнай барацьбы пры буржуазнай Польшчы пачуццё салідарнасці і ўменне трымаць язык за зубамі ў момант небяспекі.

Ішлі дні, тыдні, месяцы. Людзі памалу пачалі распрамляцца. Сталі даходзіць радасныя весткі пра баі пад Масквой. У нас нібы адкрыліся вочы. Убачылі, што ў немцаў кудысьці падзелася ранейшая фанабэрлівасць.

У нас зарадзілася надзея, захацелася змагацца.

Восенню 1941 года я з братам у Ліпніках каля свайго хутара выкапалі зямлянку. Мы пачалі зносіць туды радыёпрыёмнікі, зброю.

У маленькай вёсачцы Папоўка жылі Дзенісюкі, радня маёй бабулі. Ля Папоўкі прытаілася ў вёсцы ўзброеная група вайсковых і цывільных людзей пад камандай старшыні войск НКУС Міцькі Высоцкага. У кастрычніку Дзенісюкі завялі мяне да Высоцкага.

На просьбу забраць нас з братам у групу старшына сказаў: — Калі вы можаце яшчэ быць дома, дык будзьце! А каб немцы не вывезлі ў Германію, паступіце працаваць на чыгунку.

Усю зіму 1941—1942 гг. я быў чорнарабочым на чыгунцы ў сваёй вёсцы. Некалькі разоў Міцька Высоцкі выклікаў мяне з братам на дыверсіі.

Мін спецыяльных тады не мелі, пускалі цягнікі фокусам.

Бывала, прыйдзе ноччу Высоцкі з дзесяткам чалавек, папрыходзім і мы. Рэйкі на чыгунцы Ваўкавыск — Беласток немцы прымацавалі не касцылямі, а шрубамі. Мы, чыгуначныя рабочыя, прыносілі з сабой тарцовыя ключы. Калі адыходзілі патрулі, усе вылазілі на пуць, адвінчвалі рэйкі, сцягвалі іх набок і ўцякалі.

Часамі наступныя патрулі заўважалі разабранае палатно і ўзнімалі трывогу. Аднак разы са два нам усё ж удалося пусціць цягнік пад адхон, пакуль немцы ўздоўж пуці не сталі выстаўляць сялян з кіямі.

Летам 1942 года я трапіў на вока нямецкаму начальству. Яно выбірала з моладзі тых, хто ведаў нямецкую мову, і ставіла стрэлачнікамі ды дзяжурнымі па станцыі. У лік гэтых людзей трапіў і я.

У Валілах — бліжэйшай станцыі — навучылі нас азбуцы Морзе і парассылалі на паўстанкі дзяжурыць. Я трапіў на паўстанак у сваю вёску.

Да восені 1942 года нашы хлопцы ў лесе сталі сапраўднымі партызанамі. У іх пабывалі прадстаўнікі Штаба партызанскага руху з Масквы. Група Высоцкага атрымала толавыя шашкі, магнітныя міны, друкаваныя лістоўкі. На чыгунцы падабралася шмат надзейных людзей, і мы рабілі сваю справу.

Напрыклад, Высоцкі дасць магнітную міну замаруджанага дзеяння, я яе перадаю свайму стрэлачніку. Калі ідзе цягнік з цюкамі прасаванага сена, я яго наўмысна прытрымліваю на паўстанку, пакуль нашыя хлопцы не напіхаюць у сена бутэлек з нафтай і берталетавай соллю ў паперцы. Альбо гэтаксама прытрымліваю цягнікі з бензінам, покуль стрэлачнік прылепіць міну да жывата цыстэрны. Потым чуем — недзе ў Ваўкавыску, Слоніме ці Баранавічах згарэла частка эшалона з сенам ці бензінам. Аднак быў такі час, што нават я, дзяжурны, не мог даведацца, што робіцца на суседняй станцыі, і праверыць чуткі не было магчымасці.

На фронце ішлі цяжкія баі за Сталінград. Да таго часу многія брыгадзіры рамонтных брыгад, стрэлачнікі і дзяжурныя ад Беластока да Ваўкавыска былі нашымі людзьмі. Я з імі трымаў сувязь. Высоцкі задумаў вывесці са строю адразу ўвесь адрэзак чыгункі ў сто кіламетраў, з паўстанкамі, вакзаламі, вадакачкамі. Пасля гэтай дыверсіі нам дазвалялася ісці ў партызаны.

Здарылася непрадбачанае.

Групе Высоцкага спатрэбілася батарэйка для прыёмніка. Тады ўмудраліся для гэтай мэты прымяняць акумулятары з аўтамашын. Міцька з сябрамі пайшоў ноччу на шашу паляваць грузавік. У лесе Ліпнікі машыну затрымалі. У грузавіку было толькі два салдаты, яны стрэлілі з вінтовак па аднаму разу, але нямецкая куля забіла Высоцкага.

Намеснік Высоцкага забраў групу і павёў пад Брэст, у бяспечнае месца. Гэтак мы страцілі і кіраўніцтва, і падтрымку, і сувязь з партызанамі і месяцы два не ведалі, што рабіць.

У лютым 1943 года мяне арыштавалі. Адначасна немцы ўзялі яшчэ людзей. Забралі і майго бацьку з братам.

## 10

Цяпер у мяне ёсць падставы лічыць, што немцы тады мяне арыштавалі не ў сувязі з маёй падпольнай работай, бо ў такім выпадку забралі б і яшчэ каго-небудзь з чыгункі.

Усе арыштаваныя са мной былі пажылыя сяляне з навакольных вёсак. Нас прывезлі ў гестапа 60 чалавек. Дваццаць з іх расстралялі, дзесяць пусцілі дамоў, астатніх вывезлі ў лагер смерці.

Я добра ведаў расстраляных. Некаторыя з іх былі далёкія ад палітыкі, яны толькі і ведалі поркацца на гаспадарцы. Чатырох з іх гестапаўцы схапілі за тое, што гулялі ў дурня. У ліку расстраляных былі і такія, якіх мы баяліся, як правакатараў. Няйначай, справа выглядала так: нейкаму фашыстоўскаму начальніку далажылі, што наш раён — гняздо партызан. Начальнік адразу выклікаў карнікаў, тыцнуў пальцам у карту і загадаў — з-пад Гарадка столькі людзей забраць, з іх столькі расстраляць, столькі адлупцаваць і адпусціць, а столькі выслаць. Карнікі выканалі загад з нямецкай педантычнасцю, не надта разбіраючы, хто ў чым вінаваты.

Пасля арышту ўсіх нас павезлі ў Гарадок. Афіцэр гестапа паклікаў мяне на допыт. Гутарылі мы на нямецкай мове. Гітлеравец даволі ветліва спытаўся пра сям'ю, пра работу. Пытаўся і пра партызан, але яго пытанні былі наўгад, я іх лёгка адвёў. І наогул, гэта хутчэй была свецкая гутарка, а не допыт.

Я ў афіцэра асмялеў і разыграў наіўнага вясковага прастака, які не ведае, чаго ад яго патрабуюць, не надта і разбіраецца, што навокал робіцца.

На допыце мяне і не білі. Калі прыводзілі і выводзілі з кабінета афіцэра, я толькі бачыў, як мучаць іншых, і адчуваў сябе як бы вінаватым перад імі.

Я ўжо думаў — нас адпусцяць! Але дзе там!

З Гарадка ўсіх, шэсцьдзесят чалавек, перавезлі ў беластоцкую турму. Праз два месяцы бацьку выпусцілі з

турмы, а мяне з братам і сотнямі іншых арыштантаў заладавалі ў вагоны і павезлі ў лагер смерці Штутгоф, у Заходнюю Прусію. Там мне і Валодзьку выдалі стандартныя бланкі, дзе пад нашымі прозвішчамі ў графе «род злачынства» стаяла «бандытызм»! І яшчэ: там, дзе звычайна ўказваўся тэрмін асуджэння, у нас стаяла: «бестэрмінова».

## 11

Лагер смерці Штутгоф быў арганізаваны і пабудаваны па ўзоры Асвенціма, Майданака, Бухенвальда. Тут загінула 80 000 чалавек,— меней, чым у іншых, бо лагер быў невялікі. Пабывала ў ім вельмі шмат людзей з Заходняй Беларусі.

А наогул, у Штутгофе сядзелі людзі розныя: палякі, рускія, чэхі, французы, італьянцы, датчане. Было шмат і немцаў — зладзеі, рэцыдывісты.

Аднак большасць з іх былі палітычныя.

Некаторыя члены Нямецкай кампартыі сядзелі ў Штутгофе з першага дня арганізацыі лагера! А мой сусед па нарах — дваццацігадовы здаравяк — сядзеў толькі за тое, што, прыехаўшы з Усходняга фронту на пабыўку, меў любоўныя зносіны са служанкай-полькай. Рослы, маладый тып, якому б якраз валачыць на фронце кулямёт, цяпер за спробу зганьбіць «арыйскую расу» таміўся ў лагеры.

Немцы адно звонку ахоўвалі лагер. Улада ў ім была арганізавана па прынцыпе самакіравання. Закаранелыя бандыты, цынічныя садысты — пераважна нямецкай нацыянальнасці — стаялі на чале каманд і называліся «капо». Гэткія ж кіравалі жылымі блокамі, сачылі за парадкам. Адзінай мовай у іх быў кій.

Іншыя капо спаборнічалі, хто з аднаго маху саб'е з ног арыштанта. Часамі ад няма чаго рабіць яны забівалі дубінай чалавека, і агонія ахвяры выклікала ў іх цынічны рогат і задавальненне.

Лагер быў разлічаны на пэўную колькасць людзей. Кожны дзень сюды прыбывалі сотні новых. Каб захаваць у лагеры аднолькавую лічбу едакоў, эсэсаўцы забівалі за дзень столькі людзей, колькі прыбывала. Вечарам жыхары блокаў выстройваліся ў калоны, паміж радоў прахадзілі эсэсаўцы, і арыштаваным, якія не маглі стаяць на нагах, тыцкалі пальцам у грудзі. Тыя рабілі два крокі

ўперад, ведаючы, што іх зараз павядуць у газкамеру, а потым штабялі іхніх жоўтых трупаў ваганеткамі адвязуць у крэматорый.

Усе арыштанты працавалі. Хто будаваў новыя баракі, хто карчаваў пні, расчышчаў пляцоўку, хто — на кухні. У спецкамандах рабілі ложы для вінтовак. Выраблялі для нечага чалавечую скуру. Сартыравалі вопратку і абутак памерлых.

Першыя тыдні мы з Валодзькам працавалі ўсюды. Пачалі худзець. Нам памаглі нямецкія камуністы — старажылы лагера. Аднаго з іх я потым спаткаў у партызанах. Яго звалі Рыхард Шэмукснiс. Гітлер яго пасадзіў яшчэ ў 1933 годзе за тое, што Рыхард кіраваў камсамольскай арганізацыяй у сваім горадзе Інстэнбургу.

Па нейкім часе і дапамога камуністаў ужо перастала дзейнічаць: мы ледзь трымаліся на нагах. Ды раптам прыйшло збавенне. У нас з'явіліся харчы!

У Штутгофе панаваў такі парадак: калі хто з родных уведаў нумар арыштаванага і прыслаў на яго харчовую пачку, то яе аддавалі.

Аднаго разу невялічкую нашу групу вывезлі з лагера працаваць на завод — насіць бярвенні. Там былі рабочыя з усёй Еўропы. Я пераміргнуўся з адным рускім. Пад цэглай хлопец пакінуў мне кавалачак паперы і аловак. Я напісаў бацьку некалькі слоў, а рускаму — страшаўскі адрас. Паклаў назад паперку пад цэглу.

Не вядомы мне таварыш зрабіў усё астатняе.

Нямецкая пошта працавала спраўна. І ў той дзень, калі Валодзька ўжо млеў на нагах і я ад недаядання ледзь трымаўся, а сябры нас увечары хавалі ад вачэй эсэсаўцаў, мы раптам атрымалі па пасылцы. Адразу аджылі.

Атрымаўшы ад нас пісьмо, бацькі гаспадарку пераварылі ў майстэрню загатоўкі харчовых пачак: для таго, каб дайшла адна, трэба было паслаць некалькі! Такім чынам бацькі нам на нейкі час застрахавалі жыццё. У маладым узросце, у цёплую пару года, пры нармальным харчаванні можна было перанесці і цяжкую работу і здзек, ды яшчэ і дапамагчы сябрам.

## 12

З першага дня арышту мяне займала толькі адна думка — як уцячы. Была магчымасць выскачыць з вагона, калі нас везлі з Беластока ў лагер. Часамі цягнік ішоў

ноччу памалу, яго ахоўвалі ў асноўным такія самыя беларусы з Гарадка, пераапранутыя ў нямецкія мундзіры. Некаторых канваіраў я добра ведаў, з імі вучыўся у «паўшэхнай» школе, і я сумняваўся, што такі пацэліў бы ў мяне на хаду цягніка ў цемры. Ды гестапаўцы вярнуліся б у Гарадок, адыграліся б на бацьках. Чакаў больш спрыяльнага выпадку.

Штутгофскі лагер быў абнесены калючым дротам, да дроту падведзены ток. На вышках дзень і ноч вартавалі вахманы з кулямётамі. Арыштанты насілі нагавіцы клёш і фрэнч з тоненькай тканіны ў чорна-белую палоску. На грудзях і на правай штаніне над каленам нашываўся нумар арыштанта: першая літара яго нацыянальнасці і вінкель, колер якога залежаў ад роду твайго «злачынства». Напрыклад, палітычныя мелі колер чырвоны, бандыты — зялёны, баптысты — фіялетавы...

Галовы ў лагеры ўсім стрыглі пад машынку, ад ілба да макаўкі выбрывалі палоску на два пальцы шырынёй. У такім выглядзе ўцячы было не проста. І каманды, якія выходзілі часамі за лагер на работы, мелі дастаткова канваіраў з сабакамі.

Усё ж пры мне са Штутгофа некалькі людзей спрабавалі ўцячы. Адзін рускі ў час работы ў лесе папрасіў сяброў прысыпаць яго пяском і прыкрыць галінкамі. Паляк, які падстрыгаў газоны ў садку камендантавага лагера, залез у басейн з вадой, высунуў нос пад ліст вадзяной лілеі і прытаіўся. Абодва меліся дачакацца вечара, калі знімуць пасты.

Вахманаў не здымалі цэлую ноч, пакуль не знайшлі ўцекачоў. Абодвух павыцягвалі са сховішчаў сабакі і разарвалі на кавалкі.

Пакуль ішлі пошукі, тысячныя калоны арыштантаў стаялі перад сваімі баракамі па камандзе «смірна!». Раніцой па чарзе калоны праходзілі ля акрываўленага чалавечага месіва, якое кінулі на коўдры пасярод лагера.

Наглядзеўшыся на ўсё гэта, мы з Валодзькам рыхталіся да ўцёкаў вельмі старанна. Назбіралі табакі, каб засыпаць след, сабралі харчоў. Раздабылі нажы, нават — запалкі. У нас былі сябры — механікі савецкага танкера «Данбас», які немцы затапілі ў Баранцавым моры. Яны вельмі добра ведалі паводкі сабак, умелі арыентавацца без компаса і вучылі ўсяму гэтаму нас.

Першая спроба ўцёкаў скончылася няўдала.

Хадзілі мы тады на цагельню, якая абслугоўвалася

арыштантамі. Печы цагельні падыходзілі да шырокага канала, на беразе стаялі вахманы.

Умудрыся, перайдзі незаўважаным паласу вады, і ты — на волі!

Мы з Валодзькам падрыхтавалі доўгія трубкі, каб, узяўшы іх у рот, перайсці па дне канала нагамі, выпаўзці на бераг і нырнуць у кусты. На жаль, дно занесла такім густым ілам, што мы адразу ўгразлі і ледзьве сябе не выдалі. Прыкінуліся, што нам прыйшла фантазія пакупацца ў вопратцы і абутку. Атрымалі па дваццаць пяць бізуноў, і на гэтым усё скончылася.

## 13

Настала восень. Аднойчы ў нядзелю ў лагер увайшлі шэсць вахманаў з фельдфебелем і пачалі адбіраць дабравольцаў на станцыю, каб нешта там ладаваць. Папрасіліся ў каманду і мы з братам. Фельдфебель глянуў нам на грудзі, прачытаў літару «Р» (у Штутгофе беларусы, рускія і ўкраінцы насілі адну літару) і заявіў, што рускіх не бярэ, бо яны, маўляў, уцякаюць. За нас заступіліся, і стары фельдфебель здаўся.

Ад'ехаліся мы ад лагера 18 кіламетраў на станцыю Тыгенгоф. Ужо цямнела, калі нам загадалі грузіць дошкі ў вагоны. Над намі свяціла 500-ватная лямпа. Свежы снег пакрыў зямлю роўнай коўдрай. Свяціў месяц. Шанцаў на ўцёкі было мала, і мы з братам вырашылі: рызыкаваць толькі аднаму.

Калі вахман загадаў нам злазіць з вагона і паслаў на замену іншых, я палез не на зямлю, а — паміж вагонаў, стаў на буфер. Там быў цень. Убачыўшы, што ніхто за мной не сочыць, я нырнуў пад вагон, прапоўз пад ім, выскачыў у цёмнае месца і кінуўся з усяе сілы бегчы — цераз платы і агароды.

Цэлую ноч я ішоў па палях і балотах, арыентаваўся па месяцы і па ветры. На світанні залез да баўэра ў гумно і да вечара праспаў. Тады падаўся далей. Пачуўшы на дарогах рускую ці польскую мову, я загаворваў з людзьмі,— гэта былі рабочыя, якіх прымусам вывезлі ў Германію. Мне ахвотна паказвалі дарогу, кармілі.

Між іншым, у адным бараку, дзе жылі рускія дзяўчаты, пасадзілі мяне за стол. Толькі я ўзяўся за лыжку, як зайшоў немец. Дзяўчаты мяне запіхнулі ў шафу з адзеннем, і гэта мяне выратавала.

У Мальбургу на стрэлках я пачапіўся на таварняк і даехаў да Дойчэ Эйлаў. Перадняваў у стозе саломы ля нейкай будкі. Вечарам загаварыў з прахожымі. Адзін паляк з Млавы, па прозвішчы Кавальскі, у свайго шэфа-немца ўкраў новенькі мундзір з залатымі кантамі на пагонах, нагавіцы, чаравікі і шапку машыніста з вялізным рондам і свастыкай. Было холадна, таму ўсё гэта я напяліў на арыштанцкую паласатую вопратку. Кавальскі яшчэ мне даў марак, завёў на вакзал.

Немкі мяне, як чыгуначніка, пачалі неўзабаве пытацца пра паязды, мяне гэта падбадзёрыла, і я адразу увайшоў у сваю ролю. Развітаўся з польскімі сябрамі, купіў білет да Беластока і паехаў.

Ніхто мяне ні разу не пытаўся, куды я еду і хто я такі. Па дарозе нават, памятаю, паспеў закахацца ў кандуктарку — сімпатычную немачку і ледзь не пагарэў.

Як пан, прыехаў я пасажырскім у Страшава і тут ледзь зноў не папаўся. Я не ведаў, што ў нас цяпер жыло дваццаць нямецкіх салдат, якія ахоўвалі чыгунку. З паўстанка зайшоў я на кухню, поўную немцаў...

На маё шчасце, бацькі спалі. Я з салдатамі па-нямецку прывітаўся і спытаў, дзе жыве брыгадзір Антончык, наш сусед. Адзін салдат ахвотна мяне вывеў на двор, паказаў. Мы яшчэ мірна хвіліну пагутарылі, развіталіся, і я пайшоў прэч са свайго падворка. Бацькоў пабачыў толькі на другі дзень.

Невялічкая групка партызан восенню 1943 года вярталася з-пад Беластока да сябе ў лагер пад Брэст, у Гута-Міхалінскі лес. Праз нашага лесніка бацька яе знайшоў і перадаў мяне партызанам. Пачалася лясная эпапея.

## 14

Трапіў я ў атрад імя Аляксандра Матросава, які арганізаваўся за час майго прабывання ў Штутгофе з групы Міцькі Высоцкага. Але цяпер там былі ўжо незнаёмыя камандзіры і партызаны: я для іх быў чалавекам невядомым, якому падазрона лёгка ўдалося ўцячы з нямецкага лагера смерці, адкуль яшчэ ніхто ані разу не ўцякаў. Нейкі час не ведалі, што са мной рабіць, тады перадалі ў дэсантную групу капітана Арлова.

У Арлова я ўдзельнічаў у дыверсійных аперацыях, надта дробязных, пра якія нават сорамна цяпер і ўспамінаць. Напрыклад, Арлову захацелася ўзарваць у адной

вёсцы драўляны мост на Зельвянцы. Мы яго ўзарвалі, добра ведаючы, што па ім толькі сяляне возяць мяшкі жыта да млына і за такую «дыверсію» высмеюць нас. Але для справаздачы ў Маскву Арлову, мабыць, падыходзіў і такі.

У пачатку 1944 года ў Гута-Міхаліну прыбыў з брыгадай імя Каліноўскага падпалкоўнік Вайцяхоўскі — вельмі адважны, ініцыятыўны камандзір, тонкі псіхолаг і абаяльны чалавек. Ён і ўзяў мяне да сябе: ад Арлова я ўцёк.

У красавіку прыбылі мы ў страшаўскія лясы. Вайцяхоўскі назначыў мяне камандзірам атрада імя Каліноўскага. Мне і рабочаму з чыгункі — Косцю Карповічу — камбрыг загадаў арганізаваць атрад з мясцовай моладзі.

Атрад мы арганізавалі і да прыходу Чырвонай Арміі, за чатыры месяцы, правялі вакол Гарадка некалькі даволі ўдалых баявых аперацый і дыверсій. Нашаму поспеху садзейнічала глеба, якую там падрыхтавалі старыя падпольшчыкі — два іхнія пакаленні. Усе навакольныя сяляне былі нашымі памочнікамі.

Немцы даведаліся, што я ў партызанах, і намерыліся арыштаваць бацькоў. Сувязны з Гарадка прымчаў да старых раней за паліцаяў. Бацька і маці ўцяклі ў лес. Стары стаў атрадным разведчыкам, а маці варыла нам ежу. Гаспадарку паліцаі расцягнулі.

## 15

Летам 1944 года мы злучыліся з Чырвонай Арміяй у Каралёўскім лесе пад Беластокам. У атрадзе ўжо было 54 чалавекі. Абком партыі тады ўсіх партызан накіроўваў на арганізацыю Савецкай улады. Бацьку паслалі ў Ваўкавыск адбудоўваць лесапілку, а мяне назначылі інспектарам абласнога сабеса. Работа была не па душы, я пачаў шукаць іншай.

Набіралі групу дэсантнікаў у Польшчу і Прусію. Папрасіўся туды і я, але мне адмовілі. Выявілася, што ў мяне «заплямленая» біяграфія: я быў у Штутгофе, мой бацька меў шмат гектараў...

Папрацаваўшы некалькі тыдняў інспектарам, я зайшоў у ваенкамат, папрасіўся на фронт, і мяне афармілі — выпісалі позву.

Як і мой бацька ў першай сусветнай вайне, цяпер і я стаў наводчыкам 76-міліметровай гарматы слаўтага 756

стралковага палка, якому потым выпала штурмаваць рэйхстаг. З баямі прайшоў я ад Варшавы да Берліна.

Палкавая артылерыя тады на перадавой страляла прамой наводкай, таму такім артылерыстам даставалася больш за пехацінцаў, бо як ты ні маскіруйся, як ні закопвай, а гэткую мішэнь відаць усё роўна. За два месяцы разбілі ў мяне дзве гарматы: адну на Одэры, другую за мястэчкам Флатаў у Заходняй Прусіі.

За Флатавам мяне раніла. Гэта здарылася 16 лютага 1945 года. Раніла мяне другі раз у Берліне, на вуліцы Мольтке. Першы раз куля толькі чырканула па плячы. Цяпер жа я атрымаў у лёгкія тры асколкі — мяне чакала доўгае лячэнне і барацьба за жыццё.

## 16

У канцы жніўня 1945 года мяне выпісалі з вайсковага шпіталя, далі II групу інваліднасці. Я паступіў у Гродзенскі педінстытут на англійскае аддзяленне.

Хутка знайшоўся і Валодзька. Пасля таго, як я ўцёк са Штутгофа, яго фашысты моцна катавалі, выбілі зубы, суткамі трымалі ў бункеры без ежы, аднак ён усё перанёс. Пры эвакуацыі лагера Валодзька ўцёк з-пад канвоя, трапіў у нашу армію, ваяваў, яшчэ нават паспеў быць паранены. Цяпер дэмабілізаваўся і паступіў у Мінскі політэхнічны інстытут.

Такім чынам мае сямейныя справы ўладзіліся. Усё было б вельмі добра, калі б не праклятыя асколкі...

Мабыць, больш за вучобу я палюбіў грамадскую работу. Спачатку я быў камсоргам, потым старшынёй прафкома. Тут мне ніхто ні разу не напомніў аб мінулым.

У 1947 годзе мяне прынялі ў члены КПСС. Дзесьці ў той час я і падружыўся са студэнткай літфака Інай Цыгельніцкай. Бацька і маці яе былі віднымі кіраўнікамі кампартыі ў часы буржуазнай Польшчы. Бацьку яе, сакратара ЦК Польскай кампартыі Анатолія Адамавіча Альшэўскага, у 1937 годзе берыеўцы арыштавалі, і ён з лагера не вярнуўся. Маці, Фаіна Абрамаўна Цыгельніцкая, прасядзела сем год у польскіх турмах, цяпер працавала ў райкоме. Іна ўсё жыццё правяла ў дзіцячых дамах. Шмат чаго перажыла і пабачыла. Па натуры была мне блізкай.

Тады ў педінстытуце вучыліся амаль толькі дзяўчаты. Нават мужчын-інвалідаў было мала, і яны «стаялі ў цане».

Яшчэ не паспеў я скончыць інстытут, а ўжо абком і Міністэрства асветы падабралі мне пасаду загадчыка Сапоцкінскім раённым аддзелам народнай асветы, нават не пытаючыся, ці пад сілу яна мне. Зрэшты, каб і спыталіся, то я, відаць, не адмовіўся б. Маё пакаленне на працу не «ўладкоўвалася», а — паступала, прытрымліваючыся лозунга: «Не по силам цель выбирай, а по цели силы напрягай!»

У ліпені 1949 года я атрымаў дыплом настаўніка англійскай мовы 8—10 класаў, ажаніўся з Інай і, перапоўнены энергіяй, аптымізмам і маладой пыхлівасцю, сабраўся на работу, па наіўнасці думаючы, што ўсе цяжкасці перажыты. Мінская студыя кінахронікі нават зняла на плёнку, як я, з ордэнамі ды медалямі на грудзях, у актавай зале інстытута атрымліваю дыплом, саджуся ў вагон і з гродзенскага вакзала адпраўляюся пасажырскім поездам у Сапоцкіна.

Калі потым у горадзе паказвалі гэты часопіс, то ўсе з мяне надта смяяліся: з Гродна да Сапоцкіна чыгунка не пракладзена, як прыдумала фантазія сцэнарыста М. П. Фраймана.

## 17

У Сапоцкінскім раёне тады было вельмі цяжкое становішча. Па вёсках і лясах яшчэ гойсалі банды, забівалі актывістаў, гвалцілі і тэрарызавалі людзей. У гэты раён працаваць ехалі неахвотна. Праштрафіцца хто-небудзь, скажам, у Віцебскай вобласці, здымуць яго з работы і ў пакаранне пашлюць у Сапоцкіна.

Першым сакратаром райкома працаваў тады т. Яцкевіч — сумленны камуніст, але вельмі абмежаваны чалавек. Да людзей адносіўся падазрона і бачыў у іх толькі кепскае, ведаў адну метаду кіравання — павышэнне голасу. Мяне ён адразу западозрыў у палітычнай нядобранадзейнасці на той падставе, што мой бацька меў шмат гектараў зямлі, а я быў у нямецкім лагеры,— тады гэта лічылася страшным грахом. Памятаю, на адным бюро райкома ён выставіў супраць мяне нават і такі аргумент, што я... не выпіваю, як іншыя!..

Аднак я быў камуністам, накіравала мяне на работу Міністэрства асветы і абком, і лёгка выжыць мяне з раёна было нельга.

І вось пацяклі мае першыя працоўныя тыдні. Многія

тады тапілі свае цяжкасці ў гарэлцы, а я знайшоў вялікае здавальненне ў рабоце. Іна заканчвала педінстытут, нарадзіла дачку Лену. З Сапоцкіна да Гродна — 24 кіламетры. Ніякія рэйсавыя аўтобусы тады не хадзілі. Вечарам я браў кій і праз чатыры гадзіны быў у Гродна. Раніцой заяўляўся ў якой-небудзь школцы ці сельсавеце.

У школах тады не было нават парт. Замест шыбаў часамі ўстаўлялі фанеру. Не хапала і настаўнікаў. Так што працы загадчык райана меў непачаты край. Агортвала крыўда, калі сваё начальства, замест таго каб памагчы, перашкаджала прычэпкамі.

Аднаго разу зайшоў я ў вёску Шэмбелеўцы, дзе школа размяшчалася ў гнілой прыватнай хаціне. Сяляне там якраз сабралі грошы, каб купіць ксяндзу дом. Мне неяк даволі лёгка ўдалося ўгаварыць людзей купіць на гэтыя грошы зруб для школы, які прадавала ўдава. Пры мне сяляне заплацілі ўдаве, я, шчаслівы, вярнуўся ў Сапоцкіна і пахваліўся сакратару райкома Яцкевічу.

На маё здзіўленне, першы сакратар забараніў мне браць гэты зруб на баланс. Тады я звярнуўся ў ЦК КПБ. ЦК, вядома, мяне падтрымаў, сакратару райкома давялося адмяніць свой загад. Адмяніць яго адмяніў, але і зуб на мяне займеў.

Было лета 1950 года. У нас рыхтаваўся пленум райкома партыі з парадкам дня: «Прычыны адставання калектывізацыі ў Сапоцкінскім раёне». Работнікі савецкага і партыйнага апарата былі прыезджыя, а я добра і ведаў і адчуваў мясцовых людзей, як і ўмовы, таму вырашыў выступіць на пленуме.

Паколькі маё выступленне паслужыла пэўнай вехай у маім жыцці і ў ім ёсць цікавыя факты, якія характарызуюць цяжкасці таго пярыяду і могуць у пэўнай меры паказаць, наколькі вырасла ў нас за апошнія гады ўнутрыпартыйная дэмакратыя, я дазволю сабе прывесці з яго некаторыя вытрымкі:

«Вось тут, з гэтае трыбуны некаторыя даводзілі, што сапоцкінскія сяляне таму не ідуць у калгас, бо добра жывуць. Абсурд! Наўрад ці знойдзецца яшчэ такі куток у вобласці, а то і ва ўсім Саюзе, дзе б так бедна жылі сяляне. У нас жа ні ў адной вёсцы няма лазні! Не памятаю, каб хоць у адной хаце, дзе я быў, на ложку ляжаў сяннік, замест яго ўсюды салома, гарахавінне, на іх так і спяць, накрыўшыся лахманамі! У хатах жывуць усе разам: куры, парасяты, людзі...

У Сапоцкіне маецца адзін рынак, на яго раз у тыдзень з'язджаецца 40—50 фурманак. Паглядзіце, якая мізэрная колькасць тавараў там бывае! Калі б райспажыўсаюз падлічыў, колькі ў яго прадаецца цукерак, цукру, мыла, газы на душу насельніцтва ў раёне, то атрымалася б, відаць, лічба, найменшая ва ўсім Саюзе!

Такім чынам, матэрыяльны ўзровень нашых сялян такі нізкі, што ніжэй і быць не можа, і з такога становішча іх можа вывесці толькі калгас. Сяляне гэтага яшчэ не разумеюць, а мы ім недастаткова вытлумачылі.

Вось чаму яны не ідуць у калгас!

...Учора прынеслі ў райана выпіску з рашэння нашага суда, дзе мне было загадана ўзяць на патранаж дзяцей удавы Кавалеўскай, якую асудзілі на 10 год за самагонку. Цёмная, непісьменная жанчына, нідзе не працавала, гадавала шасцярых дзяцей. Каб пракарміць малых, яна гнала самагонку на праданне. Мы не маглі дапамагчы ёй стаць на працу, а ўзялі дый асудзілі, як злачынцу, а шасцярых малых зрабілі сіротамі і павесілі дзяржаве на шыю,— я іх аддаў у дзіцячы дом. А тыя, хто п'е гэтую самагонку, засталіся непакараныя,— нават суддзя Растоўцаў. Растоўцаў жыве побач з Кавалеўскай, купляў у яе самагонку і не садзіўся за стол абедаць, не выпіўшы з паўшклянкі. Гэта я добра ведаю, бо жывём на кватэры ў аднаго гаспадара.

Дзе ж логіка, таварышы камуністы?!»

Калі я скончыў, у зале наладзілі мне авацыю. Але тут здарылася нечаканае. Слова ўзяў Яцкевіч і заявіў, што я, распісваючы, як цяжка і бедна жывуць сяляне, зрабіў гэта дакладна так, як некалі рабілі ворагі народа, што мая прамова — прамова тыповага бухарынца...

Цяпер, з пункту гледжання дэмакратычнага 1964 года, усё гэта здаецца такім дзікунствам!

Пасля таго як Яцкевіч абвінаваціў мяне ў бухарынстве, уся зала раптам замерла — бытта і не раўлі яны ў захапленні ад маіх слоў. Яцкевічу запляскала толькі некалькі напалоханых галаскоў, і то — з задніх месц. Гэта было страшна!

Пад выглядам ачысткі кадраў ад непажаданага элемента ў пагранічным раёне Яцкевіч дабіўся майго звальнення з работы.

Апынуўся я ў Ваўкавыскім раёне — дырэктарам Біскупіцкай сямігадовай школы.

Яшчэ ў Сапоцкіне, пасля ўсяго, што здарылася, я, можа, першы раз у жыцці сур'ёзна задумаўся: а што ж мне рабіць? Перспектыва настаўніка англійскай мовы мяне не вабіла, а надта хацелася пакараць тых, хто мяне нядаўна пакрыўдзіў, ды так, каб іх перакасіла.

Раптам зарадзілася дзёрзкая думка — давай напішу кніжку пра ўсё, што бачыў ды перажываў.

І я ўзяўся за работу.

— Гэ, паглядзі, а ён яшчэ і вершыкі папісвае! — здзекліва пасмяяліся нядобразычліўцы, калі ў абласной газеце пачалі з'яўляцца інфармацыі пра маю спробу пяра.

Гэта мяне толькі падахвоціла.

Я даверыў свой сакрэт даваеннаму сябру яшчэ з Навагрудскага педвучылішча — Валодзю Калесніку, і ён выззаўся мне дапамагчы: пазнаёміў з Янкам Брылём.

Першая сустрэча з Іванам Антонавічам так уразіла мяне, што я раптам адчуў сябе нічым у параўнанні з сапраўдным пісьменнікам. Мне здалося, што задумаў немагчымае, і стала нават сорамна за нясціплы намер. Але мінуў тыдзень-другі, і мяне зноў пацягнула да пісання. Тады я і зрабіў для сябе важнае адкрыццё: гордасць, незадаволенасць сабой, упартасць, нават у нейкай ступені злосць, зайздрасць, жаданне даць здачы, помсціць — дабрадзействы для чалавека: яны з цябе могуць дабыць, што ты ніколі і сам ад сябе не спадзяваўся.

У той час трапілася мне на вочы аповесць Дабравольскага пра студэнтаў «Трое в серых шинелях». У ёй усё было напісана не так, як бы мне хацелася. І здарыўся цуд. Раптам я пераадолеў у сабе пачуццё ніжэйшасці, і мне здалося, што ў цэлым свеце ні Дабравольскі, ні Брыль, ні хто іншы, а толькі я адзін ведаю сапраўдных студэнтаў, і ведаю, як пра іх пісаць!

Я ўжо бачыў нават кніжку напісанай і тое, як зеленеюць мае ворагі з Сапоцкіна, калі трапляе ім у рукі мой твор! З гэтага моманту я ўжо не проста пераводзіў паперу. Я ўзяўся працаваць над пэўнай тэмай.

У Біскупцах мяне абралі сакратаром калгаснай, затым сельсавецкай партарганізацыі. Аднак і грамадская работа, і школьная, і будаўніцтва цяпер былі таксама нішто ў параўнанні з клопатамі загадчыка райана — я меў шмат часу пісаць. Меў я і кваліфікаванага майстра літаратурнай справы, які мне памагаў.

Між іншым, у жыцці мне шанцавала на добрых людзей. Янка Брыль, як некалі Вайцяхоўскі, даваў штуршок майму ўяўленню, стаў эталонам, на які трэба раўняцца, у каго вучыцца, і быў тым, хто ў мяне паверыў, шчыра і бескарысна памог. Успамінаючы цяпер непісьменныя рукапісы, якімі я завальваў Івана Антонавіча і ў якіх ён умудраўся нават знаходзіць яшчэ штосьці каштоўнае, я не перастаю захапляцца душэўнай шчодрасцю гэтага чалавека, яго педагагічным талентам.

## 19

Такім чынам з дапамогай новых сяброў я стаў працаваць над аповесцю, а гэта, як выявілася неўзабаве, было справай надта нялёгкай. Мове роднай я ніколі не вучыўся. Адна справа словы і сказ у паточнай гутарцы, а іншая зусім — літаратурная форма. Затое браў я ўпартасцю — пісаў і перапісваў адно і тое самае безліч разоў. Адначасова займаўся калгаснымі справамі. Наводзіў парадак у школе, будаваў новую. На жаль, ярлык «бухарынца» прыехаў са мной і ў Біскупцы. Я з жахам заўважыў: што б карыснае ні зрабіў, некаторыя людзі нечакана паварочвалі справу так, што яна паўставала супроць мяне самога.

Ладны кавалак зямлі прышкольнага ўчастка ўсе дырэктары да мяне выкарыстоўвалі пад сваю бульбу і агарод. Я вырашыў пакончыць з гэтай традыцыяй. Разам з вучнямі мы апрацавалі поле. Дзеці па жменьцы прынеслі пшаніцы, і мы яе засеялі, каб восенню мець за што з'ездзіць на экскурсію ў Белавежскую пушчу. Хто скажа, што намер кепскі? А што з гэтага выйшла!

Прыбіральшчыцай у нашай школе лічылася жонка сельсавецкага начальніка, якая не хацела працаваць, а толькі камандавала ў настаўніцкай, за што яе ненавідзелі. Я яе звольніў і на месца скандалісткі ўзяў старую жанчыну, у якой адзіны сын загінуў на фронце.

Неўзабаве ў раённай газеце з'явіўся хлёсткі фельетон «Гісторыя з курыцай». У ім расказвалася, як курыца прыбіральшчыцы зайшла «на ўчастак пшаніцы дырэктара школы Карпюка» і ён за гэта звольніў бедную жанчыну з работы.

Ніхто цяпер не хацеў верыць, што пшаніца школьная. Сорамна было паказацца вучням на вочы: выходзіць, я іх ашукаў, зярняты жменькамі яны зносілі для мяне!

У школу ў той дзень я прабіраўся, як злодзей, агародамі...

Пасля ўрокаў, поўны злосці і абурэння, я сеў на веласіпед ды адправіўся ў Ваўкавыск шукаць праўды. Зайшоў у рэдакцыю, райком, нават — у суд. Усюды мне заяўлялі аднолькава, бытта перад гэтым змовіўшыся:

— Таварыш Сталін нас вучыць, калі ў якім-небудзь крытычным выступленні ёсць хоць пяць працэнтаў праўды, дык такую крытыку трэба вітаць. Не разумееш? А яшчэ дырэктар школы, парторг калгаса!..

Я вытрымаў і гэта.

Памалу ўсё ўляглося. Дзякуючы Янку Брылю, я надрукаваў сваю першую аповесць «У адным інстытуце».

Пасля выхаду ў свет першага твора, паехаў я ў Гродна. Падзеі аповесці адбываюцца ў гэтым горадзе, там жылі мае прататыпы, і мне чамусьці здалося, што ўвесь горад павінен святкаваць сваё ўвекавечанне і быць мне надта ўдзячны. Тым часам ішоў я з вакзала па вуліцы Ажэшка і з расчараваннем бачыў, што і дамы гэтаксама стаяць, як раней, і гэтаксама бягуць па тратуарах заклапочаныя людзі.

Ля піўнога ларка стаяў мой сябар — адзін з герояў аповесці.

— Валодзя, здароў! — крыкнуў я з пераможнай радасцю.

— А-а, гэта ты? — чамусьці нахмурыўся сябар і адставіў куфаль з півам.— Дык што ты там пра мяне набрахаў у сваёй кніжцы?..

І пачаў закасваць рукавы.

## 20

Скончыў я будаваць школу. Іна нарадзіла мне сына, Ваню. Першы мой літаратурны твор пахвалілі...

Ад усяго гэтага настрой у мяне быў бадзёры, аптымістычны. Толькі недзе на дне душы ў мяне, сялянскага сына, ляжаў каменьчык. Мучыла і мучыла сумленне за непаладкі ў калгасе, якіх мы, вясковыя камуністы, не мелі сілы выправіць. І захацелася непаладкам даць бой.

У чэрвені 1953 года я паслаў на імя першага сакратара ЦК КПСС Маленкова пісьмо наступнага зместу:

«Таварыш Маленкоў!

У нас, на Беларусі, ідуць дажджы. Ужо добра выкаласілася жыта. Яравыя выйшлі ў трубку. Буйна ўзышла

бульба. Але калі падумаеш, што здабытае цяжкай працай калгаснікаў некаторыя бюракраты зноў могуць загубіць, то не можаш знайсці сабе месца. І самае трагічнае ва ўсім гэтым тое, што ты нічога не можаш зрабіць, каб устрымаць яўныя антыдзяржаўныя ўчынкі некаторых бязглуздых чыноўнікаў.

Вось факты.

У мінулым годзе не ўрадзіла бульба. Пасля забуртавання яе на насенне нашаму калгасу не было чаго здаваць у дзяржпастаўкі. Але мы мелі лішняе збожжа. Замест таго каб прыняць у нас збожжа за бульбу, з райкома і райвыканкома прыйшоў загад: раскрываць бурты! І сяляне вымушаны былі раскопваць іх ды вазіць насенную бульбу на спіртзавод, а вясной не было чым садзіць.

Лета мінулага года. Паспела жыта. Мы на партсходзе размеркавалі рабочую сілу, і калгаснікі дружна ўзяліся за жніво. Але нейкаму начальніку ў раёне спатрэбіліся лічбы. Ён прыслаў упаўнаважанага, які зняў лепшыя сілы з уборкі, і пачаўся экстранны абмалот ды здача хлеба на нарыхтоўчыя пункты.

Сяляне ледзь не з плачам пытаюцца ў мяне:

— Таварыш сакратар партарганізацыі, што ж ґэта робіцца? Хіба ж гэта па-гаспадарску? Хіба ж мы самі не ведаем, што трэба здаць хлеб дзяржаве? Але ж дайце раней зжаць збожжа, убраць снапы з поля, а малаціць мы можам са сцірт!

Гэта ясна ўсім. Толькі да такой безгаспадарлівасці няма справы начальніку з прахладнага кабінета. Яго не цікавіць, што будзе заўтра, ён жыве сённяшнім днём, праводзіць «уборачную кампанію». І ў такі момант ты нікому не давядзеш, што так рабіць нельга, што рабіць гэтак — шкодна. Паспрабуй пра гэта пікнуць у райкоме ці выканкоме, і там здзівяцца:

— Няўжо ты не разумееш, што першы хлеб трэба здаваць дзяржаве?

А будзеш даводзіць сваё, то абвінавацяць цябе чорт ведае ў чым.

І перасыхала на корані жыта, асыпаліся каласы, а людзі тоўпіліся ля малатарань: дзе трэба было 15 чалавек, ставілі — 60! дзе трэба 4 кані, там — 10! а яшчэ столькі стаяла ў запасе: усіх знялі з уборкі ўсемагутныя «ўпаўнаважаныя».

Дзе тут да захавання элементарных законаў агратэхнікі, дзе тут да павагі статута сельгасарцелі! І хоць ты ні

аднаго зярняці не паклаў у свіран на насенне, і хоць ужо верасень, а ў цябе палова жыта стаіць у полі, але калі ты разлічыўся з дзяржавай, то пра цябе будуць пісаць ва ўсіх газетах, гаварыць па радыё, бо ты герой,— няважна, калі ты ўвесь астатні ўраджай скарміў вераб'ям!

Вось чаму наш калгас у мінулым годзе яравыя жаў у кастрычніку, жаў пустую салому, і авёс даў нам усяго па 4 цэнтнеры з гектара!

З-за такога стылю кіраўніцтва наш калгас каторы год не можа ніяк выйсці са стадыі арганізацыі. На палях бывае і добры ўраджай, але ў засекі няма чаго засыпаць, няма чым карміць жывёлу, няма чаго даваць калгаснікам на працадзень. Такія парадкі адбіваюць у людзей ахвоту працаваць.

Дакуль будзем гэта цярпець?

Дакуль некаторыя кіраўнікі вонкава прыгожым лозунгам — першы хлеб дзяржаве! — будуць прыкрываць антыдзяржаўныя ўчынкі!

Я не называю тут прозвішчаў, бо справа не ў асобных людзях. Такая з'ява — тыповая для ўсяе Беларусі. Трэба зараз жа яе ліквідаваць і каб гэтае жніво ўпаўнаважаныя не займаліся злачынствам. Неабходна ўстанавіць цвёрды парадак уборкі і разліку. І трэба асудзіць антыдзяржаўную практыку «выбівання» хлеба з калгаснікаў, гэтым мы падбадзёрым сялян, уселім у іх веру, дамо ім ахвоты да працы!

Вёска Біскупцы Ваўкавыскага раёна, 15 чэрвеня 1953 г.

Сакратар сельсавецкай партарганізацыі А. Н. Карпюк».

Каб цяпер, у 1964 годзе, дзе-небудзь у калгасе тварылася такое беззаконне і каб я напісаў такое пісьмо, дык яго надрукавала б кожная газета, а такі начальнік, мабыць, развітаўся б са сваім партбілетам, бо кампанейшчыну і гэткіх «упаўнаважаных» партыя асудзіла. Гэта цяпер. А тады...

Мінуў месяц, як паслаў я ў Маскву пісьмо, але адказу ўсё не было. Затым мяне і першага сакратара Ваўкавыскага райкома партыі тэрмінова выклікаў сакратар ЦК КПБ Аўхімовіч. Ён тонам пракурора, які гутарыць са злачынцай, узяўшы маё пісьмо ў Маскву, коратка спытаўся:

— Так ты адказваешся ад яго ці — не?

Вярнуўся я ў раён, а мяне чакаюць новыя непрыемнасці. Некаторыя ўспомнілі маё «бухарынскае» выступленне ў Сапоцкіне. Пачалі капацца ў маёй біяграфіі. Аднойчы

выклікалі ў ваенкамат і адабралі кніжку афіцэра запасу. Начальнік IV часці палкоўнік Фількоў на вачах у мяне парваў яе і заўважыў:

— Ты яе не варты!

Трэба было з раёна ўцякаць.

Мне якраз прапанавалі работу ў інстытуце. А бацьку ў гэты час, бытта спецыяльна, каб мне аблегчыць душу, аднавілі падпольны стаж у партыі аж з 1928 года.

21

У верасні 1953 года я паступіў працаваць на кафедру педагогікі Гродзенскага педінстытута. Перавёз у Гродна і сям'ю. Надрукаваў у мінскіх часопісах яшчэ некалькі твораў — на гэты раз з жыцця ў Ваўкавыску.

Пісаў я тады надта многа, хоць толку было мала. Галоўным чынам перапісваў. Наогул пісанне давалася і даецца мне вельмі цяжка, ад чаго творы паўстаюць надта марудна.

Восенню 1954 года раптам памерла мая маці. Самае трагічнае ў яе смерці тое, што, каб трэба было зноў мне ці брату памагаць, каб мы з Валодзькам, напрыклад, трапілі ў турму ці ў бальніцу, яна знайшла б у сабе сілы да жыцця, зноў насіла б нам перадачы, клапацілася б і хвалявалася. Але Валодзька скончыў інстытут, паехаў у Чэлябінск працаваць, там ажаніўся. Кожны з сыноў цяпер быў заняты сваімі справамі, мала ўдзяляў ёй увагі. І ў маці раптам паявілася хвароба, якую ў іншым выпадку можна было б вылечыць, але цяпер яе арганізм як бы знайшоў магчымасць самаліквідавання з-за непатрэбнасці.

Як крыўдна мацяркам нашым, што дзеці іх па-сапраўднаму ўмеюць шанаваць і цаніць, калі іх, бедных, ужо няма ў жывых!

22

Восенню 1954 г. з педінстытута мяне выжылі — усё цягнуўся за мной хвост «бухарынца» і варожага элемента, які, маўляў, не мае права выхоўваць маладое пакаленне, таму не пажаданы ў вышэйшай навуковай установе. Але, на маё здзіўленне, мяне прынялі на работу ў партаддзел рэдакцыі «Гродзенскай праўды» — органа абкома і гаркома партыі!

Я заўсёды дзівіўся логіцы ў кадравай палітыцы некаторых нашых устаноў!

У канцы 1957 года мяне перавялі карэспандэнтам «Літаратуры і мастацтва» па Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. З гэтай пасады праз два гады я паехаў у Маскву на Вышэйшыя літаратурныя курсы. У 1961 годзе іх скончыў, вярнуўся дамоў, дзе мяне назначылі загадчыкам агенцтва УАТ «Інтурыст» у Гродне, дзе і працую па сённяшні дзень.

Я ўжо сказаў, што пісаць мне надта цяжка, я вельмі многа перапісваю свае рэчы. Апошняе выданне «Дануты» перапісана 30 разоў, і цяпер мне зноў хочацца засесці за гэтую аповесць. «Пушчанскую адысею» перарабляў 18 разоў, але яе лічу найбольш незакончанай і буду правіць яшчэ і яшчэ.

Доўгі час думаў, што я вымушаны так пацець над сваімі рэчамі ад бяздарнасці, і саромеўся аб гэтым нават каму-небудзь заікнуцца. Але, наведваючы архіў Л. Талстога, я з радасным здзіўленнем убачыў там адну рэч, перапісаную графам Львом Мікалаевічам 105 разоў!

Калі гэтак рабілі геніяльныя людзі, дык што ж застаецца нам, грэшным...

Да сённяшняга дня на роднай мове выйшлі такія мае кніжкі: «Дзве сасны», «Мая Гродзеншчына», «Данута» і «Пушчанская адысея». Некаторыя рэчы перакладаліся на іншыя мовы, выходзілі за мяжой без майго ведама.

Без фальшывай сціпласці заяўляю: пісьменнікам сябе не лічу. Усё думаю: вось знойдзецца разумны крытык, які аб'явіць цэламу свету, што я прымазваюся да іх,— от будзе вялікі канфуз! На маю глыбокую думку, пісьменнікамі становяцца пасля смерці.

На працягу свайго жыцця я змяніў шмат прафесій, і з усіх найбольшае задавальненне дае мне пісанне. Яно мяне захапіла цалкам.

Для чаго чалавек жыве? Мабыць, для барацьбы за Праўду. У мой век Праўда знаходзіцца ў вялікіх ідэях камунізму, я за іх змагаўся, як толькі мог. Канечне, часамі рабіў гэта няўмела, а часта груба, але гэта ішло ад неразумення і ўзросту. У сваё апраўданне я прывяду словы Л. Талстога: «...Чтобы жить честно, надо рваться, путаться, биться, ошибаться, начинать и бросать и вечно бороться... А спокойствие — душевная подлость...»

Ад таго, што жывеш на свеце, трэба каб і другім людзям лягчэй было жыць. Сустракаючыся з чытачамі, атрымліваючы ад іх пісьмы, я адчуваю, што нешта даю людзям,

і вельмі шкадую, што пачаў пісаць позна, ужо ў сталым узросце, і ўпусціў тыя гады, калі звычайна нараджаюцца літаратары.

Пісанне стала маім лёсам. Я знайшоў спосаб, як найбольш быць карысным людзям. Я спазнаў шчасце, я ведаю, як мне жыць!

## 23

Маё Страшава цяпер за граніцай. Туды я езджу ў госці. Бацька мой — пенсіянер, жыве ў Ваўкавыску. Брат пераехаў у Гродна і кіруе будаўніцтвам высакавольтнай лініі ў вобласці. На вуліцах Гродна я з кожным трэцім-чацвёртым прахожым вітаюся не проста як са знаёмым. Гэта былыя сябры-падпольшчыкі часоў буржуазнай Польшчы, партызаны, франтавікі, настаўнікі, савецкія і партыйныя работнікі, з якімі мы разам працавалі і змагаліся за перамогу нашых ідэй, за чыстату нашай справы. Жыць сярод іх і адчуваць іх дружбу для мяне гэтак жа неабходна, як дыхаць паветрам.

*1964*

# ВЫСТУПЛЕННЕ НА V З'ЕЗДЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР У МІНСКУ
## 13 мая 1966 года

Хутка святкавацімем 50-годдзе нашай улады. Хачу нагадаць Леніна, калі ён заклікаў на юбілеях быць дзелавымі, менш ужываць параднай траскатні, менш кічыцца тым, што дасягнулі, больш гаварыць пра недаробленае. Перамогі і святы людзі выкрасаюць з сэрцаў у цяжкой барацьбе.

Зроблена многа. У нядзелю нават у нашым Гродне кожны трэці юнак фланіруе па вуліцы з транзістарам. Амаль у кожнай кватэры — тэлевізар, ён прымае па чатырох каналах: з Масквы, з Мінска, з Вільнюса і Варшавы. Да Ташкента ў мінулым годзе я дабіраўся за шэсць гадзін... Аднак і сёння яшчэ часам каб пражыць чэсна і сумленна адзін дзень і гаварыць усім толькі праўду, то душэўных сілаў дабыць трэба з сябе куды болей, чым касманаўту злётаць у космас.

Пісьменніку, мабыць, дастаецца найбольш.

Калі фізік ці хімік зрабіў адкрыццё, то ўсе яго калегі Савецкага Саюза адразу бяруць ноўшаства на ўзбраенне, і наступная думка ўжо развіваецца з уліку гэтага дасягнення. Калі ж пісьменнік напісаў рэч, якую дагэтуль яшчэ не пісалі, то покуль дойдзе яна да народа, аўтару трэба часамі патраціць куды болей сілы, чым для напісання.

Нікому не прыйдзе і ў галаву збіраць хворых і дазволіць ім вырашаць, як урачам лячыць. Возьмем інжынераў-электрыкаў: не збіраюць жа жыхароў камунальных кватэр, каб тыя вырашалі, якой канструкцыі і з якога матэрыялу мае быць кацёл электрастанцыі. У адносінах да пісьменніка такія выпадкі — нармальныя.

(Для смеху. Адзін архітэктар сказаў: гэ, чае ты ныеш? Каб пакрытыкаваць пісьменніка, трэба, прынамсі, прачытаць кніжку. Мяне ж можна разбіць, глянуўшы на пабудову нават праз акно машыны!)

Калі памёр Леў Мікалаевіч, сталічныя газеты змясцілі артыкул: «Падумаеш, Талстой! Пакладзі ў лінію яго кніжкі, яны дасягнуць адно Масквы. А пакладзі ў радочак усе тамы мадам Вярбіцкай, то лінія пойдзе ад Пецярбурга да Уладзівастока і назад да Масквы!..»

Пры ўсім нашым прагрэсе, на жаль, і цяпер можна назіраць такія погляды на дасягненні таго ці іншага літаратара.

Вакол зямлі паляцяць два сабачкі, то некалькі дзён пра іх будуць пісаць усе газеты СССР (хоць праз два тыдні пра выпадак грунтоўна забудуць), а калі б у нас з'явіліся новыя «Людзі на балоце», то ў «ЛіМе» змясцілі б невялічкую рэцэнзію, і толькі. Я не супроць сабачак. Я за тое, каб ажыятаж вакол іх не рабіўся за кошт дасягненняў сумлення і душы народа.

Ствараецца ненармальнае палажэнне на нашым фронце. Мабыць, рэдка калі аж так праяўлялася адміністраванне літаратарамі і літаратурай. Часамі адмаўляецца аўтару права на паказ заганных бакоў нашага жыцця.

Калі радар вядзе самалёт праціўніка, у яго апаратуры ўлічваецца тэмпература паветра, хуткасць самалёта, паталок і яшчэ сотня дадзеных, інакш убачаны вораг візуальна не перакрыецца ў прыцэле зеніткі з ценню на экране і са стрэлу атрымаецца фіга з макам. Калі ты, апісваючы героя, не возьмеш пад увагу *ўсе* моманты з жыцця народа, дык герой твой не перакрыецца ў сэрцы чытача.

Толькі раўнадушны чалавек, якому не дарагія наша

заваяванні, што дасталіся такім дарагім коштам, можа праходзіць міма адмоўных бакоў нашага жыцця, не ўзнімаць іх у творах.

Ці ж у нашай краіне так усё ўжо гладка?

На Гродзеншчыне цяпер усё ў квіценні яблынь, груш і сліваў. Ці магу я памірыцца з тым, што восенню мы будзем фруктамі карміць зноў жывёлу, а пасля Новага года — слівы і памідоры есці балгарскія?

За апошнія гады ўпаў у цане наш рубель. Ці магу я памірыцца, што даём мы яму падаць, што ніхто не гаворыць пра гэта?

Крытыкуючы паасобныя творы, чаму мы не асуджаем і тыя ўмовы, якія даводзяць аўтараў да крайнасці?

«Хлусня — рэлігія слабых!» — сказаў Горкі. Пра гэта ведалі і раней (між іншым, яшчэ 100 гадоў таму назад Мікалай I, пабыўшы на прэм'еры «Рэвізора», сабраў назаўтра чыноўнікаў і загадаў: усім паглядзець абавязкова спектакль!). Памятаючы гэта, глянем і мы праўдзе ў вочы.

Мабыць, даўно ў нас не было такога становішча, каб рэдакцыі вярталі аўтарам столькі раманаў, аповесцей, апавяданняў, п'ес, вершаў і паэм.

Яшчэ некалькі гадоў таму мы перажывалі буйную хвалю анекдотаў. Армянскіх. Маскоўскіх. Разанскіх. Ішло як бы спаборніцтва паміж гарадамі, рэспублікамі. Па гэтым пытанні былі нават рашэнні партыйных органаў, але гэта толькі выклікала новыя іх хвалі.

Анекдоты адпалі самі па сабе, калі не стала прычын, якія іх спараджалі.

Цяпер якраз перажываем хвалю так званага самвыдата. Ад Гродна да Уладзівастока, ад Архангельска да Сухумі ходзяць па краіне рукапісы аўтараў. Людзі іх зачытваюць да дзірак, не лічачыся з часам, перапісваюць нанова і перадаюць далей. Пераважная большасць гэтага самвыдата — таленавітыя творы нашых вядомых пісьменнікаў, і праз год-два бачыш іх нават у друку.

Ці да твару нам гэтая з'ява? І ніякімі забаронамі яе не спыніш, калі не зменіш атмасферу ў рэдакцыях, якая з'яву спараджае.

Ой, яшчэ ў нас не ўсё гладка!

Нядаўна я прачытаў у польскай газеце такую сабе бяскрыўдную інфармацыю. На мітынгу ў нейкім горадзе ў Егіпце выступаў Насэр. Як бацька, як звычайны чалавек, ён паскардзіўся 40-тысячнаму натоўпу, што яго дачка праваліла ўступныя экзамены ў Каірскі універсітэт. Я ведаю

добры дзесятак дачок і сыноў некаторых адказных работнікаў, якія ў школе вучыліся на троечкі, калі ж дайшло да экзаменаў у гродзенскія ВНУ, пры страшэнным конкурсе яны раптам дружна ўсе атрымалі пяцёркі. А гэта адбываецца на вачах у народа. Зусім тут не хачу выстаўляць у дрэнным святле нашых кіраўнікоў. Мне, як савецкаму патрыёту, вельмі ж крыўдна: будуем Асуан, а ў нечым прынцыповым варта і самім павучыцца ў арабаў.

Мне моладзь падабаецца. Нават з яе танцамі, прычоскамі і модамі. Шкадую, што не магу такіх і я насіць. Пры сустрэчах з моладдзю надта хутка знаходжу агульную мову. Я, у мінулым заядлы камсамолец-падпольшчык, радуюся, што і ў сённяшнім камсамольскім племені жывы інстынкт да дзеяння. Камсамольцы робяць шмат для краіны і нашай ідэі. З-за вялікай любві да іх не магу мірыцца са з'явамі, якія часамі дапускаем сярод нашых дзяцей.

Ці не ў камсамоле побач з героямі нараджаюцца і асобы без сваёй думкі, угоднікі, кар'ерысты, падхалімы ды людзі — чего изволите? Могуць мне сказаць, што такіх мала. Гэта не апраўданне. Прырода кар'ерыста такая, што ён адзін можа знявечыць намаганні тысяч герояў. На жаль, вопыт — не залаты гадзіннік, які ад бацькі пераходзіць да сына. І недастаткова яшчэ ўсвоіць лозунгі і вывады камуністычнай навукі, іх трэба прапусціць праз свае жылы, мазгі і кроў.

Чаму ж часамі ствараем для моладзі інкубатары, а не ўмовы, дзе б яны вучыліся здабываць вялікую праўду жыцця ў мазалях, барацьбе, як здабывалі яе мы самі?!

У нас чамусьці не прынята выступаць супроць такой катэгорыі тыпаў, як кар'ерыст, дагоднік. Кажуць, тлумачэння слова даносчык няма нават у слоўніках. А даносчыкі існуюць у нас не толькі ў выдавецтве «Беларусь». Між іншым, аднаго там я назваў гэтым ганебным тэрмінам. Назваў спецыяльна пры сведках, каб ён меў магчымасць падаць на мяне ў суд ці на партбюро. Дудкі, нікуды не падаў. І не выклікаў мяне на дуэль. Ён нават шчасліва ўсміхнуўся, бытта яму паказыталі за вушкам.

Чамусьці прытупіліся, ой, прытупіліся ў нас крытэрыі сумлення, гонару, прыстойнасці. Да таго часамі назіраецца падзенне маральных крытэрыяў, што месцамі бярэ верх мяшчанскае разважанне, якое нічога агульнага не мае з марксізмам. Іншы табе будзе хоць цэлы дзень слухаць яўнага балбатуна, які на трыбуне таўчэ ваду ў ступе, і з дзіў-

ным стараннем абзаве таго чалавека наіўным, хто кажа ўсё, што думае.

Пералічваючы балячкі нашыя, мы не можам бачыць, як некаторых людзей пакалечыў культ. Ад таго, што чалавек такі век свой адно ведаў падпарадкоўвацца загадам зверху, у яго, беднага, атрафіравалася здольнасць самастойнага мыслення, знікла прыродная чалавечая рыса не ісці наперакор свайму сумленню. Загадаюць яму сеяць кукурузу на нашых пясках замест лубіну — прымусіць сваіх падуладных яе сеяць. Скажуць заараць лугі, канюшыну,— заарэ і іх. Прагаласаваць за два аблвыканкомы? Калі ласка! Яшчэ выступіць у газеце і ўяўныя поспехі новага парадку падмацуе кашчунна цытатамі з Леніна. Праз два гады выканкомы і абкомы аб'яднаюць, ён напіша другое і зноў падмацуе свой артыкул Леніным. І не пачырванее перад людзьмі, якіх дурыў, з дзіўнай бяспечнасцю ў апраўданне скажа:

— Партыя тады ставіла адны задачы, цяпер — другія!

А тое, што партыя яму нагадвала яшчэ і думаць ды не губляць сумлення, да яго бытта не адносіцца.

Аднойчы я назіраў такога чалавека, калі ён даваў загад свайму інструктару напісаць даклад. Не саромеючыся мяне, ён яшчэ дадаў:

— Кіркевіч, ты толькі добра яго напішы, бо з дрэнным прымушу выступаць самога!

Хіба можна сабе ўявіць Леніна, каб яму хтосьці пісаў даклады?

Разумею, з таго часу краіна вырасла. Сакратару ЦК для даклада, мабыць, трэба выкарыстаць паслугу і не аднаго інструктара. Але ж чаму мода гэтая практыкуецца зверху да раённага цэнтра? Гэтак і там часамі выступаюць з разносамі пісьменніка, не прачытаўшы ніводнага яго твора.

Гэтак «пішуць» артыкулы ў газеты. Здараецца, нават — дысертацыі. Не дзіва, што людзям такія артыкулы і дакладчыкі набілі аскоміну, аўтарытэт кіраўніка ўпаў. А з чаго яму быць, з адной цікавасці да футбола? Не можа яго быць у такога кіраўніка, нават калі цікавасць гэтая шчырая і разбіраецца ён у ігры футбольных каманд выдатна.

На долю такіх людзей выпаў нялёгкі час. Па-чалавечы можна іх і пашкадаваць. Толькі ж яны маюць уплыў на наша жыццё, а сумленны пісьменнік, якому дарагія дасягненні краіны, праходзіць міма такой з'явы не можа.

«Творчасць — не юбілейныя рэчы, яна трудная, як

акт нараджэння дзіцяці» (Кайсын Кулiеў). Не лёгка быць пісьменнікам? Што ж, як сказаў мой зямляк Адам Міцкевіч: «Паэт не мае права быць шчаслівейшым за свой народ!» У нас яшчэ не камунізм.

Асабліва дастаецца нашаму брату на перыферыі. Вядома, чым начальства ніжэй па сваёй адміністрацыйнай лесвіцы, тым яно... А сярод мастакоў якраз наадварот — Рэпіны прыходзяць з Чугуева.

Кажуць, у вайну адзін генерал напісаў сыну-лейтэнанту на фронт пісьмо:

«Шура, помни,— ты являешься командиром доблестной Красной Армии и должен с честью и гордостью нести знамя, овеянное Октябрем, сквозь бури, лишения, невзгоды и свято хранить да умножать наши завоевания ибо...»

Сын адпісаў:

«Папа, листовку твою получил. Спасибо. Напиши, наконец, родила ли Наташа и здорова ли мама».

На перыферыі некаторыя кіраўнікі хочуць звесці мастацтва да ўзроўню пісьма такога генерала. Калі ж ты спрабуеш растлумачыць, што гэта прымітыў, на цябе нападаюць са ўсёй сілай улады і адміністрацыйнага аўтарытэта:

— Што-о? А чаму табе не падабаецца пісьмо генерала? І-іш ты яго!..

І такія людзі перакананню не паддаюцца, іх можна толькі паканаць.

Цяжка, вельмі цяжка жыць пісьменнікам на перыферыі.

Я, камуніст, не хацеў бы выступаць супроць крытыкі ў партыйным друку. Аднак быў бы дрэнным я марксістам, калі б бачыў непарадак у нашай прапагандзе і з-за пакорнасці і бяздумнага падпарадкавання прамаўчаў бы, не падказаў бы партыйным органам на недахоп, не паспрабаваў прадухіліць недарэчнасць: у гэтым бачу свой абавязак савецкага грамадзяніна.

Эх, каб усе артыкулы пра Быкава мелі адно тыя скуткі, што людзі па бібліятэках рынуліся чытаць яшчэ раз нашага і так шырокавядомага і таленавітага гродзенца. Бяда ў тым, што сігналы зверху, покуль дойдуцьданізу, у нас часамі становяцца вульгаршчынай.

Па гродзенскіх школах работнікі КДБ адразу пачалі чытаць лекцыі пра пільнасць, прыводзіць прыклады, што побач з Сіняўскім, Даніэлем і наш Быкаў, бачыце, пісаў творы, якія накіраваны на падрыў Савецкай улады і раз-

лагаюць моладзь. Уявіце сабе, як было слухаць такую лекцыю дзецям-школьнікам і яго жонцы-настаўніцы!

На партактыве першы сакратар абкома таварыш Міцкевіч І. Ф. аб'явіў усім, што Быкава ўжо апрацоўваюць італьянскія фашысты, а нейкая фашысцкая газета ўзяла яго на ўзбраенне. Дзіва, і як той Быкаў, халера, пасля ўсяго таго зачасаўся ў прэзідыум V з'езда беларускіх пісьменнікаў і сядзіць побач вунь з першым сакратаром ЦК КПБ т. Машэравым? Глядзіце, ці не з якой мэтай!..

У Слоніме жыве паэт Заходняй Беларусі Анатоль Іверс (Іван Міско). Гэтага чалавека спаткала страшэнная несправядлівасць. Усе 20 гадоў пасля вайны ён патраціў на тое, каб давесці, што ён у перыяд акупацыі ў якасці кіраўніка міжраённага антыфашысцкага камітэта зрабіў што мог для Радзімы, што бацьку яго і жонку забілі немцы. Яго вінавацілі ў супрацоўніцтве з немцамі, не друкавалі. Яшчэ два гады таму ў Слоніме, калі чыталі лекцыі пра «бдительность», Івана Міско абзывалі нямецкім паслужнікам. Адно ў канцы 1964 паклёпы адпалі, Іверс атрымаў партызанскія дакументы, урадавую ўзнагароду, выйшла яго кніжка з творамі, а зараз аўтар прысутнічае нават на з'ездзе. Хоць бы папрасіў у яго хто прабачэння з тых людзей, якія яго таптАлі. Дык не, яны робяць выгляд, што нічога не здарылася.

Чатыры гады я працаваў загадчыкам агенцтва «Інтурыст». Калі ж у мюнхенскай «Бацькаўшчыне» з'явілася хвалебная рэцэнзія на маю аўтабіяграфію з «Маладосці», сакратар нашага абкома партыі т. Міцкевіч даў загад: мяне з «Інтурыста» прагнаць па прынцыпе — калі вораг хваліць, значыць, я кепскі. Прынцыпам такім кіравацца цяпер трэба асцярожна. Бо пасля Ташкенцкай канферэнцыі ў «Нью-Йорк геральд трібун» я сам чытаў хвалебны артыкул на т. Касыгіна! Так можна і ўсю «Звязду» разагнаць. «Бацькаўшчына» ўмудраецца на матэрыялах перадавых са «Звязды» даводзіць, што ў Беларусі развальваецца Савецкая ўлада!..

Па рабоце я не меў ніводнай нават заўвагі. Дык што вы думаеце? Зрабілі так, бытта я даў амерыканскаму турысту недазволенае пісьмо, і на аснове фальшывага абвінення бюро гаркома выканала загад — зняло мяне з работы.

Душой «Бацькаўшчыны» з'яўляецца Станіслаў Станкевіч, бурмістр Барысава. Гэта яму партызаны паслалі смяротны прыгавор з подпісамі яго былых вучняў, у тым ліку і з маім прозвішчам. Такія рэчы Стась не мог забыць. Ця-

пер, бачыце, ён мяне хваліць. Правакацыя! Чаму мы верым такім Станкевічам?

Т. Міцкевіч, прачытаўшы «Бацькаўшчыну», не выклікаў мяне, не сказаў: ану, выступі ў друку, дай мярзотніку, заткні яму глотку, я дамовіўся ўжо з газетай! Не. Ён, фактычна, рубануў па сваім пісьменніку, пайшоў у ворага на паваду! Чаму, чаму, чаму мы так лёгка аддаём ворагу пазіцыі?!

Потым на працягу месяца дабіваўся я прыёму ў т. Міцкевіча. Нарэшце, ён зрабіў ласку мяне прыняць. Размова ў нас адбывалася 4,5 гадзіны, і ўвесь гэты час ён крытыкаваў «Маю Джамалунгму», надрукаваную ў «Маладосці» і адзначаную «Бацькаўшчынай». Толькі заўважыў, што сказаў бы больш, але яшчэ яе не прачытаў. Не «Бацькаўшчыну» не прачытаў, а «Маю Джамалунгму». Крытыка яго была плыткай, я яе лёгка адвёў.

Цяпер на сходах і ў прыватнай гутарцы з камуністамі т. Міцкевіч абураецца: во, які Карпюк закаранелы ў сваіх памылках — за чатыры з палавінай гадзіны не мог яго пераканаць нават сакратар абкома! Як жа можна пераканаць мяне, ведаючы віну толькі па чутцы? Звычайна размовы з вока на вока не выносяць на народ, але т. Міцкевіч парушыў этыку першы, таму не маўчу і я.

І вось сёння на V з'ездзе ў дакладах мае творы нават хваляць, а ў нашым Гродне недзе і сёння выступае на сходах нейкі адказны кіраўнік, абзывае мяне і маю творчасць ганебнымі словамі ды трасе з трыбуны ўсё той жа «Бацькаўшчынай». І не набрыдне ім. Прадаўжаецца гэта ўжо амаль два гады.

На хвіліну вярнуся ў Мінск. Прабачце, буду зноў аб сабе, але ж гэта, мабыць, не толькі мая асабістая справа. Бо пісьменнікам, мне здаецца, апрача таго, што трэба добра пісаць, праўду пісаць, яшчэ абавязкова трэба быць дружнымі і салідарнымі. Я хачу ўступіць у палеміку з адным вельмі паважаным у нашай краіне чалавекам. Яго тут няма на з'ездзе, але яму пра маё выступленне скажуць, і ён прачытае стэнаграму.

Другім правадыром «Бацькаўшчыны» з'яўляецца Якуб Стральчук. Мінчане, запомніце гэтае прозвішча! Я. Стральчук з 1906 г. нараджэння. З вёскі Крывой, з-пад Бельска. У 1923 уступіў у падпольны камсамол (у Польшчы), потым стаў сакратаром райкома і адначасова завербаваўся на работу ў дэфензіву (так называлася ў Польшчы тайная паліцыя). З гэтага часу працуе на два франты. Польскага

шпіка, як актыўнага камсамольскага дзеяча, у 1931 годзе кампартыя накіроўвае сюды да вас, у Мінск на вучобу. Тут ён «вучыцца», фактычна разведвае і вынюхвае, а праз год вяртаецца назад у Заходнюю Беларусь. Цяпер ён «працуе» інструктарам ЦК.

За некалькі год нягоднік пабываў у кожнай ячэйцы Кампартыі і камсамола Заходняй Беларусі. На аснове яго дадзеных дэфа ледзь не ў адзін дзень арыштавала ўсіх камуністаў і камсамольцаў Заходняй Беларусі. Стральчук стаў выступаць, як сведка, на працэсах камуністаў.

У студзені 1936 года Стральчуку спрабаваў заткнуць горла Сяргей Прытыцкі — стрэліў у правакатара на судзе ў час працэсу, калі той сведчыў на камуністаў. Стральчука тады ўратаваў панцыр пад пінжаком, і Прытыцкі яго толькі параніў.

Дэфа правакатара прывезла ў Навагрудскую бальніцу, вылечыла, а тады паслала на работу ў Познань. Там, выкрываючы польскіх камуністаў, ён сышоўся з нямецкай контрразведкай і перайшоў на службу да яе.

У 1941 годзе, калі Гродзеншчыну занялі немцы, Стральчук стаў дарадцай шэфа Беластоцкага гестапа Герберта Цымермана ўжо пад клічкай «СС-ман» Заўэр (кіслы) 1141». У іх з Цымерманам на сумленні 150 000 маіх землякоў. Стральчук нават паддаў на расстрэл хлопчыкаў са сваёй вёскі, якія ў яго бацькі рвалі яблыкі.

У Беластоку ў Вялікую Айчынную вайну на Стральчука палявалі нашыя разведчыкі, але зноў толькі паранілі. Ён вылечыўся другі раз і пераехаў на «работу» сюды да вас, у Мінск. Тут паддаў на расстрэл тых, хто ў 1931—1932 гг. давалі яму хлеб-соль. Пасля вайны апынуўся на службе ў амерыканскай контрразведкі. Сям'я яго жыве ў Чыкага, а рабочая пляцоўка Стральчука — Мюнхен. Адна з яго «работ» — выданне «Бацькаўшчыны».

Стральчук пераходзіць мне дарогу трэці раз. У 1935 па яго спіску мяне з бацькам арыштавалі і давалі ў косці за падпольны камсамол ды партыю польскія дэфензіўшчыкі. У вайну па яго спіску мяне з бацькам і братам арыштавалі немцы, я апынуўся ў лагеры смерці Штутгоф, з якога ўдалося потым цудам уцячы. Цяпер, выходзіць, ён ударыў мяне яшчэ раз. Тонка, балюча, абдумана, ведаючы як.

Днямі ў Мінскім політэхнічным інстытуце сакратар ЦК КПБ Сяргей Восіпавіч Прытыцкі заявіў студэнтам, што ў нас адкрытых Сіняўскіх і Даніэляў няма, у нас яны

скрытыя, як Карпюк, якога пахваліла «Бацькаўшчына». Дарагі Сяргей Восіпавіч, я схіляю голаў перад вашым гераічным учынкам у 1936 годзе! На вашым вобразе я выхоўваўся. Але чаму вы даеце веры мацёраму правакатару, з якім вы самі змагаліся, чаму прынімаеце ўсур'ёз тое, што піша «Бацькаўшчына» Станкевіча і Стральчука, чаму ён з такой лёгкасцю і цяпер смаліць па савецкіх пісьменніках ужо вашай рукой, якая некалі страляла ў яго?

Няхай будуць праклятыя тыя мацяркі, што пад сэрцам насілі такіх вырадкаў, як Стральчук і Станкевіч. Толькі ж яны яшчэ дужыя. У аднаго з іх стралялі два разы, а ён, мярзотнік, жыве. Ці не пара нам лепш аб'яднацца супроць мацёрых ворагаў Радзімы і пальнуць па іх дружным залпам? Бо толькі тады мы зможам заткнуць ім паршывыя горлы.

Памыляюцца, вядома, і кіраўнікі, бо яны людзі. Толькі ж памылка кіраўніка надта дарага каштуе. Асабліва калі з-за чэсці мундзіра потым не хочуць яе прызнаваць. Тады яна ўжо робіць цэлы шэраг новых памылак.

Прашу прабачэння, што затрымаў вашу ўвагу і на асабістай справе, але што мне было рабіць? Звярнуўся б да кіраўніцтва СП БССР, яно са званнямі, уладай, аўтарытэтам — павінна было б абараніць, заступіцца за літаратара, адстаяць яго. На жаль, яно ў нас не такое. От, пазычыла б тры рублі, калі б не хапала на цягнік у Гродна, магчыма, дало б нават машыну пад'ехаць на вакзал, калі б машына была свабодная. Нават маглі б выратаваць мяне, калі б я трапіў у выцвярэзнік. Але ж да такой справы яны не спрабавалі б нават падступіцца. Вось чаму ў нас розныя сходы, пленумы, нарады часамі насілі фармальны характар, набывалі форму нейкага рытуалу, парадпасці.

Слухаючы ўчора выступленне Андрэя Макаёнка, я захапляўся ім і думаў: божа, няўжо наш урад і ЦК не бачаць, што ў нашым кіраўніцтве СП БССР даўно трэба памяняць таго-сяго месцамі,— гэта ж і вам самім, таварышы кіраўнікі, будзе лепш! Хацелася б, каб на V з'ездзе мы абралі сабе такое кіраўніцтва, якое было б прынцыповым памочнікам партыі і нават падказалі б, дзе трэба нам, мякка кажучы, халастыя стрэлы, а не чакалі б толькі, што зверху загадаюць рабіць. Але я ўжо адхіляюся ад тэмы, я забег наперад, прабачце, вяртаюся назад.

Дык я намаляваў, як цяжка жыць пісьменніку на пе-

рыферыі. Хоць ты ўнясі прапанову V з'езду зацвердзіць для такіх людзей медаль, як за цаліну: пражыве літаратар год у раёне ці вобласці і чапляй яму кругленькую цацку на грудзі. А літфонд няхай яшчэ кожнаму такому члену СП БССР, як у гарачым цэху, выдае па бутэльцы малака.

Як бачыце, вытрываў Анатоль Іверс. Не слабак і Васіль, вытрывае таксама. Вытрываю і я, нават сябе цешу, што ў мяне цяпер ёсць новы матэрыял «Маёй Джамалунгмы». Атрымаецца ледзь не так, як у таварыша Кажэўнікава («Щит и меч»): з сышчыкамі, шыфрамі, разведкай і контрразведкай. Толькі на мяне потым накінуцца крыгыкі ды закрычаць: адкуль аўтар узяў такіх тыпаў?! Аднак і гэта я вытрываю. Разглядваючы намаляваныя тры выпадкі, як адну балячку, каб сказаць — ну, дакуль у нас будуць цягнуцца рэцыдывы мінулага ды практыкавацца звычай: раней збэсціць чалавека, затаптаць, а потым ужо разбірацца — вінаваты ён ці не.

Дарэчы, успамінаецца мне выпадак з даваеннага жыцця.

У маёй вёсцы жыў панскі даносчык Ёзік Госцік. Пасля 17 верасня 1939 года машынай КДБ прыехалі яго арыштоўваць. Спыталі ў цёткі, якая капала бульбу, дзе такі жыве. А ў нас было два Ёзікі Госцікі. Цётка не ведала, якога трэба, паказала іншага.

Так і забралі невінаватага чалавека ў ваўкавыскую турму.

Ну, здаецца, памыліліся, папрасі прабачэння ды выпусці чалавека. Дык не. Праз нейкі час забралі і другога. Абодва і прасядзелі да вайны, калі турма распалася. Між іншым, правакатар з польскіх часоў потым пачаў і немцам служыць...

У сярэднявечча жанчыну, падазраваную ў вядзьмарстве, спачатку кідалі ў рэчку. Выплыве, значыць, ведзьма, зараза,— палілі на вогнішчы. Калі ж нешчаслівая ахвяра патанула, значыць, пакойніца невінавата — выбачайце, калі ласка! Я тут не раблю абагульненняў, не прыводжу паралеляў, толькі ўспамінаю гістарычныя і бытавыя факты. А нам не шкодзіла б, ой, як не шкодзіла б часцей звяртацца да гісторыі. Бо яшчэ вельмі нядаўна бралі людзей па прынцыпе — быў бы чалавек, а справа для яго знойдзецца. Панавала не марксісцкая логіка — лепш сто невінаватых няхай загіне, чым адзін вінаваты застанецца. Ці не пара нам стаць мудрымі?

Нашыя балячкі можна пералічваць без канца. Але я не ўпаўнаважаны тут ускрываць усе нашыя недахопы. Толькі на паасобных прыкладах хачу давесці, што, на жаль, побач з дасягненнямі яшчэ недахопаў шмат. Не ведаю, як хто, а я часамі лаўлю сябе на думцы, што падобнае нешта ўжо перажываў.

Перад вайной шчырыя савецкія патрыёты, якім не засціла вочы, бачылі, што ў нас і тое адстае, і гэта робіцца не па-гаспадарску, і іншае не па-ленінску, спрабавалі падказаць каму трэба, каб справу выправіць. Тады на іх наляталі ў брызентавых ботах і ў гімнасцёрках пад Сталіна крыкуны:

— Ты што ўздумаў гаварыць? У нас рай, мы шчасліва жывём, ворага шапкамі закідаем, маўчаць!

І пачыналі пытацца ў суседзяў, колькі ў цябе гектараў, хто твае бабуля, дзед. Калі ж немцы адно стрэлілі, такія гарлахвацкія першыя далі драла, пакінуўшы сумленных людзей расхлёбваць кашу.

Цяпер не 1941-шы, мы ўжо не тыя, і свет даўно іншы. Але ж трапляецца, што і цяпер, калі скажаш праўду, на цябе накінецца іншы крыкун. Гэты ўжо нават у капронавым гальштуку і вузкіх нагавіцах. І энергічны. Адно не той, якому дарагая ісціна. У сваім чыноўнічым ірвенні ён гатовы перавыканаць любы загад зверху.

Няўжо вопыт для нас нічога не значыць? Ён жа дастаўся нам такім коштам.

Танечка намалявала на паперы Бармалея і ўстрывожана закрычала:

— О-ей, я яго баюся, мама!

Гэтак і мы часамі па камандзе зверху нешта арганізуем, а потым і самі пачынаем верыць у створанае. Даволі ў нас было непаразуменняў у галіне сельскай гаспадаркі, калі ўсю краіну ператварылі ў эксперыментальнае поле, замест таго каб выдзеліць на доследы сто гектараў. Да чаго такі парадак прывёў, ведаем добра. Дажыліся, і сакратары ЦК перад святамі атрымліваюць па 2 кг мукі (будучы ў Эстоніі ў ЦК, сам бачыў!).

Выступаю я не за мяжой, дзе трэба было б дыпламатнічаць і гаварыць не тое, што думаеш, што ведаеш. Мы сабраліся на свой форум і калі ўжо і тут, паддаўшыся ачараванню юпітэраў, вазонам з кветачкамі, плюшавым занавесачкам, аксаміту мяккіх крэслаў, не будзем казаць сабе праўду, то як глянем сваім дзецям у вочы, вярнуўшыся дадому. На лакіроўцы не паедзеш — нават і сучас-

ным класікам не ўдаюцца раманы пра камуністычныя брыгады.

У нас таму няма «Рэвізораў», бо і Шолахаў выступае адно супроць міністра рыбнай прамысловасці, нібы студэнт на КВН, а пры яўных недахопах чаго большага, і ён тлумачыўся толькі ў «мужской любви». І гэта не яго віна, а бяда.

Рана, ой, рана выдаюць нам на пёры гумовыя наканечнікі!

Ужо настаў момант, каб ад асобных думак у літаратуры, ад смелых выступленняў на сходах мы пераходзілі да разважлівага і сумленнага разбору і праз творчасць таго, што старэйшае пакаленне перажыло. Пасля XX, XXII з'ездаў, дзякуючы клопатам партыі, у апошнія часы ідзе якаясьці гіганцкая мазгавая работа ў галовах нашых людзей, яны раптам як бы прачнуліся ды зірнулі на свой жыццёвы шлях па-новаму. Калі ты сумленны літаратар і працуеш не толькі для начальства і ганарару — прачынайся, бо толькі тады зможаш паказаць сучаснасць.

Партыя ад нас патрабуе быць прынцыповымі, не абмяшчаньвацца і быць шукальнікамі ісціны. Баязлівае маўчанне пра адмоўнае — шкоднае. Гэта брахня, што крытыкаваць лягчэй. Кранаць балячкі не лёгка і не беспакаральна. Адвечная барацьба дабра са злом патрабуе сілы і адвагі, як слушна сказаў дэлегат XXIII з'езда КПСС Міхаіл Дудзін. Калі мы кажам, што літаратура вучыць людзей, то вучыць павінна мужнасці. Эстафета мужнасці — бесканечная. Мы, будаўнікі новага грамадства, павінны вытрымаць і несці яе, як у муках яе няслі пакаленні папярэднікаў.

Дык няхай нас не асляпляюць дасягненні тэхнічныя: машыны — не літаратура і душы чалавечай не ўзнімаюць. Ведаю выпадак, калі на суд мешчанін прывалок магнітафон з запісанай на плёнцы бруднай лаянкай суседкі па кухні. Але ж завідкі бяруць, гледзячы на дасягненні нашай касманаўтыкі, хіміі, фізікі, якія выходзяць на першыя месцы ў свеце. Некалі рускі вынаходнік паравую машыну выдумаў першы, але паравоз людзям даў Стэфенсан, бо развіццё Захаду да таго часу дасягнула такога ўзроўню, калі вынаходніцтва Стэфенсана магло быць рэалізавана. Памятаючы гэта, гледзячы на дасягненні нашых вучоных, тэхнікаў, хочацца звярнуцца да некага з пераканаўчай просьбай:

Давайце кіраваць літаратурай больш стрымана, абгрунтавана і пераканаўча ў духу XXIII з'езда з улікам псіхічнага стану пісьменніка, каб крытыка дапамагала, а не траўміравала яго. Калі літаратар і сарвецца, то разглядайце яго промах з сяброўскай спагадай ды спачуваннем — не ўяўляю сабе сучаснага беларускага пісьменніка, які б тварыў нешта з мэтай нашкодзіць Радзіме.

Дарагія таварышы, мазгі — не каробка скарасцей, пад стандарт іх не падгоніш. Ніякімі аргументамі, нават — рашэннямі ЦК. Напрыклад, я і цяпер лічу, што «Мёртвым не баліць» з паасобнымі недахопамі — выдатны твор беларускай літаратуры і дай бог кожнаму напісаць такі, як напісаў наш таленавіты гродненец. Мажліва, ва мне гаворыць мясцовы патрыятызм, мажліва, што іншае, але — біце мяне, рэжце, мучце, на дыбе распінайце — што з таго, калі гэта мая асабістая думка, маё сумленне?!

Па-мойму, часова ўзяла верх думка Гарбацюкоў і Сахно. Не? Пераканайце мяне. Я яшчэ не надта стары, не дзеравяны, чалавек, які шукае, і нават папрашу ў вас прабачэння, калі пераканаеце. І наіўны будзе, дурнем будзе чалавек, які падумае, што я горшы камуніст, грамадзянін і патрыёт за таго, хто, прачытаўшы аповесць, віншаваў аўтара, на канферэнцыі чытачоў хваліў «Мёртвым не баліць», а прачытаўшы неабгрунтаваны, аднабаковы, ачарніцельны артыкул у «Савецкай Беларусі» на гэтую кніжку Быкава, адразу стаў думаць інакш. Такія — флюгеры!

Выступленні прэсы не прыносяць карысці, калі яны ніжэй сярэдняга ўзроўню літаратурнай свядомасці чытачоў, таму людзі такую крытыку ўспрымаюць, як праявы мінулага. Крытыка будзе тая эфектыўная, калі пісьменнік убачыць, што навокал сябры, а не ідэйныя праціўнікі ці звычайныя зайздроснікі. І пара нам, беларусам, падыходзіць ужо да сябе з сусветных крытэрыяў — мастацтва не прызнае граніц, а мы выраслі з пялюшак.

Давайце будзем заўсёды памятаць, што пісьменнік — звычайны чалавек, таму і мае права на памылку. Асабліва калі бачыць да сябе нядобразычлівасць. Я тут мушу прызнацца і ў сваіх грахах. Часамі хачу сказаць адно, атрымліваецца ж другое. Асабліва калі выступаю без тэксту. На жаль, некаторыя ў нас акцэнціруюць не тое, што скажаш разумнае ў выступленні, а хапаюцца за твае прамашкі і самі ўпадабняюцца да аўтараў, якіх крытыкуюць, што бачаць адныя адмоўныя бакі. Такія — нібы цвікі, толькі зазявайся, сядзь!

Давайце ствараць адпаведную атмасферу і пісьменнікам. Не тузайма літаратараў. Не арганізоўвайма калектыўных лінчаванняў, не вешайма на іх ярлыкоў. Калі каму няма чаго сказаць, то ў творах, напісаных аголенымі жыламі і нервамі пісьменніка з-за вялікай любові да Радзімы, або ў такіх жа выступленнях не шукайце элементаў варожай прапаганды. Тады ў нашай краіне з'явіцца літаратура, якая авалодае душамі людзей зямнога шара.

Мае словы, магчыма, будуць камусьці не даспадобы. Што ж, мне нічога не трэба. Як гаворыцца ў песні: «Жила бы страна родная, и нету других забот!» Я стаю на сваёй зямлі, ды яшчэ каб не гаварыў па ёй таго, што думаў? Навошта тады жыць?!

Я нікога не збіраўся тут павучаць, бо яшчэ сам надта ж мала ведаю. Проста хачу, каб і мае думкі ўліліся ў паток усхваляваных думак народа і паслужылі справе.

Выступленне маё не для газет, бо яны ідуць за мяжу, хоць мне не зусім зразумела такое тлумачэнне. Ленін у пісьме да т. Варгі, гаворачы аб прэсе, сказаў: «Нам патрэбна поўная і праўдзівая інфармацыя. А праўда не павінна залежаць ад таго, каму яна павінна служыць» (т. 54, с. 446, рус. выд.). Толькі прашу рэдактараў: пашкадуйце мяне, не прыпісвайце майму выступленню таго, чаго не было.

Напярэдадні 50-годдзя, калі мы сапраўдныя ленінцы, то мусім сказаць аб недаробленым. Пра многае ўжо гаворым, і гэта вельмі добра. Бо згодна з марксісцкім вучэннем аб грамадскім жыцці, зло абнародаванае — напалавіну пакананае. Гэта і ў мяне ўсяляе веру і дадае сілы для аптымізму.

О-о, быць таго не можа, усё роўна «наша возьме»!

Дзякуй за ўвагу.

## ДЗІЦЯ ПЛАНЕТЫ

### 1

У той час Оля мела 39 кг вагі. Ды і ростам яна не выйшла, усяго — 151 см.

Оля, напэўна, гублялася б сярод прахожых, як вучаніца другога класа. Яе ж заўважалі здалёк. Оля, бы ка-

ралева, раздавала налева і направа ўсмешкі, ад чаго людзям рабілася адразу цяплей на душы. Не адзін чалавек, які спаткаў яе на вуліцы, дома хваліўся:

— Бачыў Корбут!! Іду сабе ў магазін, ні пра што не думаю, ды раптам насустрач — яна! Дробненькая, звычайная, а ты толькі глядзі, як прымусіла свет пра сябе загаварыць!..

О, чалавечыя слабасці!

У абласной бальніцы я міжволі стаў сведкам характэрнай сцэнкі. Прафесар В. браў паліто. На пытанне гардэробшчыцы, чаго В. так рана пакідае студэнтаў-практыкантаў, мажны мужчына, масціты хірург, паважаны ў вобласці чалавек раптам зрабіўся звычайным хвалько. Бытта перад спатканнем з якім-небудзь прэзідэнтам, са шчаслівым бляскам у вачах і маладым хваляваннем шапнуў:

— У спецпаліклініку на кансіліум еду. Будзем даваць Олі Корбут кансультацыю перад спаборніцтвамі ў Англіі.

Што ж, яшчэ ніхто з жыхароў Гродна, як стаіць яно на высокіх нёманскіх берагах, не праславіў так свой горад, як гэта хударлявая дзяўчынка. Ніхто не прынёс землякам і столькі радасных эмоцый, не даў такую колькасць тэм для застольных размоў, не разбудзіў столькі захаплення ды звычайнай зайздрасці.

Нямногія людзі нават зямной кулі могуць пахваліцца Олінымі дасягненнямі: усяго шэсць гадоў спатрэбілася ёй, каб прайсці дыстанцыю ад першай трэніроўкі ў гімнастычнай зале гродзенскага стадыёна да звання чэмпіёнкі Алімпіяды ў Мюнхене.

У свае семнаццаць вёсен Оля спазнала сусветную славу, выявіла фанатычную адданасць спорту, уменне сабраць у кулак волю,— выявіла ўсе магчымасці, што таяцца ў чалавеку.

Дзяўчына — феномен сучаснага спорту з яго незвычайна высокімі нагрузкамі ды гэткімі ж высокімі вынікамі. Яна ведала яго штодзённую цяжкую працу: «качаць сілу», «расцягваць звязкі», выпрацоўваць неабходныя рэфлексы гімнаста, памнажаючы ўсё на натхненне.

«Вольга Корбут — дзёрзкасць, адвага, вынаходлівасць. Гэта — сплаў безразважнай смеласці і грандыёзнай хвацкасці, хлапечая зухаватасць і схільнасць да рызыкі, дакладнасць і чароўнасць, бліскучая рамантыка. Яе гімнастыка — вялікі крок наперад!» — сказала заслужаны майстар спорту Л. Латыніна.

З газет, тэлеэкранаў Оля скочыла проста ў сэрцы чалавечыя, запаланіла людскія душы ледзь не ў кожнай сям'і, і навалілі на стадыён «Чырвоны сцяг», дзе Оля трэніравалася, ва універсітэт, студэнткай якога была, на вуліцу Каліноўскага, 5, дзе жыла, патокі пісем.

Корбут даўно стала з'явай сацыяльнай. Такое ж значэнне набылі пачуцці і думкі, выказаныя ў пісьмах Оліных паклоннікаў ды паклонніц, таму няхай яны мне даруюць, што абнародую асобныя вытрымкі з іх асабістай карэспандэнцыі. Каб не прычыніць нікому шкоды, прозвішчаў называць не стану, адрасы скарачу да мінімуму.

## 2

Чаго толькі Олі не пісалі!

Вучаніца 8-га «В» класа, г. Перм:

«Я надта люблю гімнастыку. А яшчэ больш палюбіла яе, калі ўведала Вас. З 4-га класа займаюся ў школьнай секцыі, якая носіць Ваша імя. Мы ўсе бяром з Вас прыклад: цярпенню, вытрымцы і стойкасці вучымся таксама ў Вас...»

Азербайджанская ССР, станцыя Худзят-База, Марына С.:

«Мне вельмі падабаецца гімнастыка. Уся наша група хварэла ўвесь час за цябе, Оля... Трэнер па акрабатыцы ў нас надта добры. Нядаўна мы прыдумалі з ім, каб надрукаваць латарэйныя білеты ды прадаваць іх па 20 капеек і за гэтыя грошы пабудаваць спартыўную залу ў нашай школе...»

Петрапаўлаўск-Камчацкі, Мікалай І., былы выхаванец дзіцячага сада № 6:

«Оля, ты, напэўна, выхоўвалася ў нашым дзетсадзе (такіх пісем з розных канцоў Савецкага Саюза з фатаграфіямі дашкольніц, дзе супадаюць узрост, імя і прозвішча, аўтар эсэ знайшоў чатыры). Пасылаю табе фатаграфію яго выхаванцаў, паўзірайся на сябе. Ты стаіш трэцяй з правага боку, пад акном...

Прышлі мне абавязкова свой аўтограф!»

П/с Панцеляймонаўка, Данецкая вобл., Валя Л.:

«Оля, буду з Вамі шчырай: у мяне ёсць сшытак — звычайны школьны сшытак у касую лінейку, але ён мне

надта дарагі. Вы першая, каму адкрываю яго таямніцу. Сшытак мае загаловак: «Спорт». Існуе ўсяго тры гады. Спортам я займаюся з-за Вас, але высокіх вынікаў яшчэ не дасягнула. У сшытку пішу пра ўсе падзеі. Мой ідэал: Вольга Корбут з яе дэвізам:

«Без рызыкі няма гімнастыкі!»

Далей у сшытку ідзе раздзел:

«Будні Каралевы Рызыкі...»

Ташкент, праспект Горкага, Марына К.:

«Я даведалася з «Комсомольской правды» пра Вашы поспехі. Я Вас падтрымліваю ўсёй душой. Толькі так, Олечка, толькі так! Ой, якая Вы малайчына!»

Масква, абаненцкая скрынка № 465, Эрнестру Л.:

«Ведаю, што ў Вас, Оля, няма часу адказваць на пісьмы, таму чакаць яго не збіраюся. Пішу аб справе.

Я не ў захапленні ад Вашага інтэрв'ю ў газеце. У пагоні за аб'ектыўнасцю вольна ці не вольна карэспандэнт нанёс Вам душэўную траўму. Магчыма, тут у яго свайго роду палітыка і глыбокі разлік, аднак мне гэта не падабаецца...

Я ўрач-псіхолаг і хачу Вам даць параду.

Сёння, у час Вашага выступлення па Цэнтральным тэлебачанні я яшчэ раз меў магчымасць назіраць Вашу незалежнасць і псіхалагічную індывідуальнасць — яна мне сімпатычная. Аднак, прыгледзеўшыся ўважліва да таго, як рэагуеце на публіку і адносіцеся да заўваг трэнера, сяброўак, я адзначыў, што Вы надта ж лёгкаранімая натура. Вам абавязкова трэба пагаварыць з псіхатэрапеўтам: гэта пазбавіць Вас, Оля, ад многіх непрыемных перажыванняў, зберажэ сілы, дасць магчымасць узняцца яшчэ вышэй,— паверце мне, вопытнаму спецыялісту-псіхіятру!.. Між іншым, усе вядомыя спартсмены ГДР гэтак робяць».

Прыморскі край, Міхайлаўскі раён, с. Крымава, вул. Саўгасная, Ірыне Т.:

«Оля, я займаюся ў гуртку мастацкай гімнастыкі. Вучуся ў пятым класе на «добра» і «выдатна». Оля, дапамажыце мне, калі ласка, атрымаць гімнастычную форму ці хоць купальны касцюм, бо ў нас тут гэтага купіць нельга...»

«Прывітанне, Оля! Мы, маракі флагманскага судна «Альбатрос», якое знаходзіцца далёка ад Радзімы, прачыталі ў «Камсамолцы» тваё інтэрв'ю — яно здорава кранула нашы марскія душы. Нам спадабалася тое, што выступаеш на спаборніцтвах не дзеля медалёў і тытулаў, а — дзеля рамантыкі, рызыкі і таго, каб глядач атрымаў здавальненне!

Экіпаж супрацьлодачнага карабля «Альбатрос» жадае табе і далей такога ж поспеху!»

Будаўнікі БМУ, г. Орша:

«Оля, мы вельмі просім цябе ўсе, колькі нас ёсць — 684 чалавекі,— выступі ў нас на «Огоньке». Як толькі атрымаем тваю згоду, зараз жа адправім па цябе ў Гродна машыну «Волгу» з шафёрам першага класа, а на сцэну ўнясём на руках.

Прыязджай абавязкова!»

Прыкладна ў такім жа стылі напісаны і сотні іншых пісем ад нашых хлопцаў і дзяўчат, пенсіянераў і вучоных, лётчыкаў і канструктараў, геолагаў і ўрачоў, калгасніц і салдат.

3

Для папулярнасці спартсменкі тэлебачанне зрабіла цуд. Оліна майстэрства на Алімпіядзе ў Мюнхене ўбачыла 800 мільёнаў тэлегледачоў, дзяўчына адразу перасягнула нацыянальныя межы ды «жалезныя заслоны» і

Крупная державная ответственность
Рухнула на маленькие плечи.

*(Роберт Раждзественскі)*

Да спартсменкі не проста пайшлі пісьмы, яны хлынулі бясконцымі патокамі і з-за мяжы, часам з такімі лаканічнымі адрасамі на рознафарматных, рознакаляровых канвертах:

«СССР, Олі Корбут».

«Беларусь, Олі Корбут».

«Расія, Вользе...»

У пісьмах з Варшавы, Сафіі, Лейпцыга ды іншых мясцін сацыялістычнага лагера Оліны балельшчыкі і балельшчыцы размаўлялі са спартсменкай, як з роўнай, пісьмы іх мала чым розніліся ад савецкіх, прыведзеных вышэй. Затое ў пасланнях балельшчыкаў і балельшчыц з-за «жа-

лезнай заслоны» відаць, што Оліны выступленні на многіх людзей падзейнічалі як выбух, узрушылі людскія душы.

Дэйв Браун, Тэхас, 79925, ЗША:

«Дарагая Оля! Пішу табе восьмае пісьмо. На зямлі, поўнай войнаў, нянавісці, цяпер так многа людзей патрабуюць тваю цудоўную ўсмешку і чароўнасць, што я вырашыў цябе патрывожыць яшчэ раз...»

Майк А., Клінтон, Іова:

«...Я спадзяюся, што ты правяла добра час у ЗША. Калі ты выступала і цябе паказвалі па тэлебачанні з Белага дома, я заўважыў, што вы, рускія, маеце таксама пачуццё гумару. Мы гэта цэнім, бо ў ЗША мы ўсе заўсёды жартуем...

А ведаеш, раней калі з сябрамі я гуляў у школе ў «вайну», мы звычайна «ваявалі» толькі супроць рускіх. Пасля ж твайго выступлення ўжо мы ўсе гаворым пра рускіх, як пра сяброў...»

Арле, Тэхас, Жэнне С.:

«Дарагая Оля! Пішу табе не толькі таму, што захапіўся тваімі спартыўнымі дасягненнямі,— я зацікавіўся тваёй краінай. У мяне адзіная праблема цяпер — не дазваляюць ездзіць у некаторыя краіны з-за таго, што мой тата на адказнай рабоце. Яго праца такая важная, што калі б я нават толькі прыблізіўся да тваёй краіны, мяне, відаць, ЦРУ адразу схапіла б. Мама мяне абзывае камуністам за тое, што цікаўлюся тваёй краінай.

Што я хачу сказаць — вось яно: жадаю прыехаць у тваю краіну і як мага хутчэй. Быў бы вельмі рады, калі б ты мне ў гэтым дапамагла. Цяпер я ўжо ў такім узросце, што магу думаць самастойна (аўтару пісьма... 15 гадоў! — *А. К.*). Калі ты думаеш, што гэта жарт,— вельмі памыляешся. Для мяне ўсё гэта надта сур'ёзна.

Калі ласка, пастарайся дапамагчы мне, калі ты можаш, а калі не можаш, то адпішы, буду шукаць іншыя сродкі, каб дабрацца да вас, і ад свайго не адступлюся».

Джэк У., Пітсбург, штат Пенсільванія:

«Я заўсёды падтрымліваў амерыканцаў і лічыў, што ніколі не змагу стаць на бок рускіх. Гэта было да Вас. Ваша выступленне на Алімпіядзе ў Мюнхене было сен-

сацыйным! Я спахапіўся, што падбадзёрваю Вас, плачу з-за Вас і, нарэшце, станаўлюся надта ўзбуджаным пры Вашай перамозе!

...Адчуванне, што палюбіў рускую за яе выключнасць і індывідуальнасць, запоўніла мяне надоўга і дала магчымасць зразумець рускіх і іншыя народы».

Л. Драйв, Мэрпорт, Нью-Йорк, 11768, ЗША:

«Оля, Вас любяць моцна амерыканцы і мільёны іншых людзей ва ўсім свеце не проста з-за Вашых спартыўных здольнасцей... У многіх народаў гэтаксама ёсць людзі, якія ўмеюць рабіць лепш, чым іншыя. Вы ж уся напоўненая нейкай чароўнасцю, што магнітам прыцягвае чалавека.

...Вы перавярнулі ўсё маё жыццё дагары нагамі. Усе мае пачуцці і светапогляд з-за Вас пераменіліся. Цяпер нават сорамна прызнавацца ў тых поглядах, якія ў мяне былі раней. Падумаць толькі — яшчэ год таму назад я быў антыкамуністам! Не мог нават уявіць сабе, што камуністычнае грамадства можа быць карыснае людзям, рабіць дабро свайму народу. Я быў упэўнены: вайна і забойствы ў В'етнаме неабходны, «каб ратаваць в'етнамцаў ад тыраніі камунізму». Вы адкрылі мне вочы на многае, аб чым я не меў ніякага ўяўлення. Мне нават і ў галаву не прыходзіла, што можна знайсці штосьці харошае ва ўсіх людзей. Цяпер разумею: лідэры Вашага грамадства робяць усё для таго, каб не даводзілася цярпець адным, а другія мелі з гэтага сабе карысць. Яны не спрабуюць падняволіць свет, а сацыялізм і грамадская ўласнасць у многіх адносінах стаяць вышэй за капіталізм».

Айова, Брэйтлі, 1316:

«...Яшчэ год таму назад і падумаць я не мог, што напішу калі-небудзь рускай, бо «чырвоныя» ўсе былі мае ворагі, а я легкадумна і напавер успрымаў байкі пра рускіх, пра тое, якія яны халодныя, бессардэчныя і крыважэрныя. Ды раптам з'яўляецца дробненькая руская гімнастка... дзяўчынка Оля Корбут, якая смяецца, плача, махае рукой натоўпам, і ў ёй — усё што хочаш, толькі няма бессардэчнасці, чапурыстасці і холаду...

І цяпер я разумею: нельга прымаць на веру тое, што табе гавораць іншыя, асабліва калі гаваруны ведаюць гэтак мала пра тое, пра што брэшуць. Які тупы дурань я быў. Некаторыя людзі і цяпер, асепленыя сваёй неда-

сведчанасцю і забабонамі, усё яшчэ носяць у сабе злосць да народа, якога не разумеюць, пра якога ні шыша не ведаюць і ведаць абсалютна не хочуць.

Оля, я цябе люблю. Твой Чэк Г.».

Марк П., Уэйн, Нью-Йорк:
«Девушка из Гродно» (падрадкоўнік з англійскай)

ОДА

Дитя света и добра,
Ты излучаешь любовь,
Которая согревает тех,
Кого коснулся луч твоей улыбки.
А может, это просто поворот головы
Или взмах руки.
Вся природа преклоняется перед
Естеством твоей грации.
Твой дар души и тела
Рожден из света и боли,
И наградой за это будет
Не золото и серебро,
А ответная людская любовь
За все, подаренное тобой.

## 4

На пасланні, накрэмзаныя абы-як звычайнымі алоўкамі, старанна выведзеныя фламастэрамі ці рознакаліберными ручкамі, надрукаваныя на машынках шматлікіх фірм ■ цэлага свету, адціснутыя ратапрынтамі, ратататарамі і капіравальнымі машынамі на розных мовах, спартсменка, каб і хацела, усім адказаць не здолела б. Для гэтага Олі трэба было б трымаць немалы штат паліглотаў, мець сродкі на паштовыя выдаткі, якія мае толькі салідная арганізацыя.

З Олінага дазволу пошту яе выкарыстоўвалі настаўнікі гродзенскіх школ і педагогі ВНУ. Вучні на ўроках англійскай, нямецкай і французскай моваў пісалі некатораым балельшчыкам адказы ад імя спартсменкі, выконвалі хатнія заданні; студэнты на Оліных пісьмах рыхтавалі курсавыя работы.

Пісьмы да Олі выкарыстоўвалі сацыёлагі ды розныя іншыя вучоныя. Я рабіў эксперымент: наўгад пытаў выпадкова спатканых выкладчыкаў гродзенскіх ВНУ — медыцынскага і сельскагаспадарчага інстытутаў, універсітэта,— кожны з іх не мінаў пахваліцца, што для сваёй штодзённай работы ён адабраў некалькі соцень найбольш

характэрных пісем да слаўнай спартсменкі ды лічыць, што яму здорава «пашэнціла».

Чалавеку, які ўмее думаць і рабіць вывады, іншыя пісьмы да Олі даюць багацейшы матэрыял для роздуму. Прачытаўшы іх, чалавек спачатку з заклапочаным здзіўленнем, напэўна, скажа:

— Не можа гэтага быць! Існуюць жа на свеце граніцы, нацыянальная адасобленасць і непаўторнасць! Існуюць, урэшце, псіхалагічныя бар'еры, створаныя мікракліматамі сацыяльных сістэм!

Затым, памірыўшыся з фактамі, ён, гэты чалавек, неўзабаве адчуе азарт першаадкрывальніка, а на тую ці іншую праблему, напэўна, паглядзіць ужо іншымі вачыма.

Мяркуйце самі.

Перад намі тры пісьмы ад 19—21-гадовых юнакоў. Адзін з іх жыве ў Віцебску, другі ў Разані, а трэці — у Паўднёвай Асеціі. Арджанікідзец піша так:

«Прывітанне, Вольга! Мяне завуць Толік. Стукнула 19. Па нацыянальнасці — асецінец. Вучуся на другім курсе сельгасінстытута, грызу ўпарта навуку, а ў вольны час займаюся спортам. Яшчэ люблю і эстрадную музыку, але не пра гэта хачу табе расказаць. Запаветны сакрэт свой выношваю даўно, ды толькі зараз, 12 кастрычніка 1974 года ў 15 гадз. 32 мін. маскоўскага часу, я сабе сказаў:

«Хопіць мучыцца! Сёння ці ніколі!»

Дык вось: я цябе кахаю.

Кахаю даўно — аж два гады і за табой езджу, калі толькі магу, туды, дзе ты выступаеш. Я разумею, з твайго пункту гледжання ўсё гэта глупства,— і няхай! Я ж кожную секунду, кожную гадзіну думаю пра цябе, здабываю грошы на раз'езды і, прачытаўшы ў газетах, куды ты адпраўляешся, зноў у дэканаце выпрошваю на тыдзень звальненне для «пахавання цёткі» ці іншай сваячніцы, бягу купляць білет і адпраўляюся за табой.

А ты не смейся — я ад цябе нічога не патрабую і толькі хачу, каб пра ўсё ведала! Зараз, калі ўсё выклаў на паперу, павер, на душы зрабілася так лёгка, быццам з грудзей маіх знялі вялізны валун».

Разанец за Толіка на два гады старэйшы, а віцебчаніну роўна 20. Незалежна адзін ад другога яны таксама абодва вырашылі нарэшце прызнацца, што закаханыя ў спартсменку.

Адзін і другі кідалі вучобу і адпраўляліся ў Маскву, каб адно пабачыць, як Оля выступае ў Лужніках. А Коля

Сініцын з Разані «...хоць і ведаў, што з гэтага нічога не атрымаецца», аднак патраціў цэлую стыпендыю, прыехаў потым яшчэ нават у Гродна. З газет запомніў адрас, заглянуў на вуліцу Каліноўскага ў дом нумар 5, на кватэру 4, ды Олі, на жаль, яшчэ не было з паездкі, а нейкі сярдзіты «дзядзька з пашкоджанай рукой» (Олін бацька — інвалід, аб гэтым размова яшчэ будзе.— *А. К.*) не стаў з ім нават размаўляць — ну і ладна! Абодва хлопцы таксама нічога не хочуць, а толькі — няхай Оля ведае, што закаханыя рыцары жывуць ёю і ім хораша і цудоўна.

І вось у вялізных кіпах, у мяшках, чамаданах і сетках, поўных канвертаў са стракатымі маркамі — з каралямі, прэзідэнтамі і герцагамі, арламі, рымскімі папамі ды крыжамі,— мне пашэнціла знайсці гэткія ж самюткія пісьмы з Англіі, Швецыі і ЗША ад падобных трох юнакоў. Два — бытта люстраныя адбіткі пісем віцебчаніна і хлопца з Арджанікідзе, толькі перакладзеныя на замежныя мовы.

Гэтак жа Ульф Г.— швед і Лерры Н.— англічанін пішуць да Олі, што і яны безнадзейна ў яе закаханыя, што праўдамі і няпраўдамі здабываюць грошы на кніжкі пра Олю, на паездкі ў гарады, дзе яна выступала з Людмілай Турышчавай у час замежных турнэ. Абодва, барані божа, нічога ад яе не хочуць, а толькі аднаго — каб яна ведала, што юнакі жывуць ёю. Амерыканец жа пад ініцыяламі Б. Дж. Г.— не без паэтычнага даравання — падобнае пісьмо заканчвае ўзнёслым лірычным зваротам на дзвюх мовах — рускай і англійскай:

«Мая самая дарагая Оля!

Ты — цудоўная!

Ты — сонца і месяц ды ўся краса пад іх промнямі!

Ты святая і нявінная — самая каштоўная кветка ў саюзе бога, дасканаласць усяго, што прыгожае ды чароўнае!

Ты будзеш заўсёды натхненнем у маім тлумным жыцці!

Я ніколі і нікога не буду так кахаць, як цябе!

Я цябе кахаю і з гэтым каханнем пераадолею ўсе нягоды, вятры, буры і агонь! О! Адзін бог ведае, як я цябе кахаю, і толькі цябе!..»

Аднойчы летам мы з брэсцкім таварышам сядзелі ў гарадскім скверы ля фантана, і я бавіў сябра гродзенскімі навінамі. Стаяла цёплая летняя ноч. Перад намі з ціхім мяккім плюскатам ліліся сярэбраныя веерчыкі...

Паваліла з танцаў моладзь. Адзін хлапец раптам ад-

лучыўся ад кампаніі і проста ў касцюме ды гальштуку плазам бабахнуў у ваду, паплёхаўся ў ёй, затым выбраўся на асфальт, абтросся, і кампанія з рогатам пакрочыла далей.

Праз мінуту-другую ішла наступная група юнакоў, і паўтарылася дакладна тое самае. І з гэтай кампаніі аддзяліўся высокі хлапец. Затым, бытта падштурхнуты тым самым вясёлым чортам, юнак нырнуў таксама з галавой у ваду і выскачыў на асфальт. У хлопцаў нават смех гучаў дакладна гэтаксама, бы ў першай кампаніі.

Пасля таго як мне ўпершыню давялося пазнаёміцца з вышэй працытаванымі пісьмамі, я са здзіўленнем падумаў чамусьці пра звычайны аспірын, якім лечаць і мяне, і цябе, і негра, і Ракфелера, і англійскую каралеву, ды прыпомніў раптам сцэну ў скверы ля фантэна.

А яшчэ да мяне ўпершыню дайшла ўся мудрасць слоў Саадзі, што красуюцца, кажуць, у ААН на самым відным месцы:

«Чалавек — частка суцэльнага чалавечага цела».

5

Праз гродзенскую пошту да Олі Корбут перавальвала да 20 000 пісем і пакетаў у год. Каб мець візуальнае ўяўленне, многа гэта ці мала, я падлічыў: пакладзі такую прорву малых і вялікіх, вузенькіх і шырокіх, сініх і жоўтых, звычайных, заказных ды авія з рознакаляровымі штэмпелямі канвертаў адзін каля аднаго, то за год утварылася б дарожка на 5 кіламетраў!

Бывалі дні, калі гродзенскія паштары пісьмы і пакеты на вуліцу Каліноўскага былі вымушаны везці спецыяльнай машынай.

У час замежных выступленняў Оліну пошту ў мяшках звальвалі проста пад дзверы нумара, дзе яна жыла,— маўляў, разбірайся, мілая, з ёю сама!

Пяціхатка, Савецкая, 3:

Оля, я вельмі хачу атрымаць ад Вас аўтограф з фатаграфіяй. Прышліце мне, калі ласка. Толькі — абавязкова, я чакаю. Ваша паклонніца, Галя М.»

Каролім, 12, Прынса. Дублін. Айрланд:

«Дір Ольга! Здрастуйце! Я Кароляйн Уэнны й Ирсландите (так па тэксту.— *А. К.*). Я кахаюся ваша гімна-

стык. Это есть очен очен корошо. Я хочу очен иметь Ваша фото и афтогрофф, вышліце міне, пліз...»

Мілорыгука. Ашыя-шы Гыото, 659, Японія:

«Дарагая панна Корбут! Спадзяюся, што Вы мне даруеце нечаканае маё пасланне к Вам. Я надта засмучаная, што Вы хварэеце. Як Вы цяпер адчуваеце сябе? Жадаю Вам хутка выздаравець. Між іншым, хварэла і я, але стала ўжо на ногі. Я збіраю Вашы фота і ўжо іх маю 21 штуку. Вы б паглядзелі, якія! Прышліце мне яшчэ адно, я хачу мець персанальна ад Вас!..

О, зусім забылася! Я маю хлопца! Моніко — пятнаццаць, і ён таксама японец, ходзіць у каледж. Пасылаю Вам яго фота. Падабаецца? Сімпатычны, праўда?

Чакаю ад Вас пісьма з фатаграфіяй. Толькі абавязкова вышліце. Ваша паклонніца — Саторы Сіто».

Рафаэль Е., Каліфорнія, 91106, ЗША:

«Калі ласка, не стаўце мне ў віну, што я грамадзянін ЗША. Я, як і вы,— студэнт і спартсмен. Я цаню прыгажосць ва ўсіх яе праявах. Напішыце мне што-небудзь. Пісьмо ад Вас паслужыла б мне добрым стымулам для таго, каб я захацеў рыхтавацца да Алімпіяды-1976...»

Навала пісем да Олі — з малюначкамі, якія кранаюць за душу сваёй немудронай шчырасцю, са зварушлівымі падаруначкамі, з адкрытачкамі ды пустымі канвертамі, на якіх віднеецца ўжо і зваротны адрас,— найбольш менавіта такіх. Тысячам дзяўчатак і хлопчыкаў, юнакам з Варонежа і Казахстана, з-пад Фудзіямы і з Тэхаскіх прэрыяў, з Парыжа і Дубліна, з-пад Торуні і Варны — белым, чорным, жоўтым і мулатам — раптам неадкладна спатрэбіліся фотаздымкі гродзенскай спартсменкі ды яе аўтограф.

Іншыя пасылалі да Олі ўжо дзевятае, пятнаццатае пісьмо і прасілі, малілі, клянчылі, хітрылі, спасылаючыся па аднолькавы з ёю ўзрост, на ідэнтычнасць прозвішчаў, на ўяўнае сваяцтва са спартсменкай (такіх аўтар нарыса спаткаў некалькі дзесяткаў!), на сімпатыю да яе краіны, на сумесную быццам бы вучобу ў школе, прабыванне ў адным дзіцячым садзіку, піянерскім лагеры,— усе яны патрабавалі фатаграфію ды аўтограф, як бы без яго і дня ўжо не змаглі б выжыць.

Наіўныя хітрыкі балельшчыкаў.

Хоць такой тоненькай і ўяўнай ніточкай яны хацелі далучыцца к славе, поспехам і дасягненням сваёй равесніцы. Маладзы эгаістычны снабізм? Балельшчык мае магчымасць адчуваць сябе пераможцам, не прымаючы ўдзелу ў барацьбе. Кожны раз, калі мы ствараем сабе ідэал, мы сябе самасцвярджаем. Мы як бы ўваходзім у долю і становімся пайшчыкам яго славы і аўтарытэту: застаючыся прафанамі, мы набываем права разважаць ды меркаваць аб рэчах, якія раней былі нам недаступныя.

«Паду-умаеш, Оля Корбут! Каб адно захацела, стала б і я такой — мы нават равесніцы, і пісьмо, унь, мне прыслала, і фота!..»

«А ў нас дак і прозвішча аднолькава!..»

«Доўга люблю спаць, ну і што? Прачнуся і таксама буду слаўнай, варта толькі захацець!..»

Ва ўсім гэтым яшчэ — наяўная спроба своеасаблівага самасцвярджэння юнакоў і дзяўчат з розных кантынентаў, цяга да гераічнага, да таго, з каго можна браць прыклад, на каго можна маліцца, каму ў жыцці шанцуе, каму можна, напэўна, верыць, ускласці на яго свае надзеі і мары.

Адным словам, усім працаўнікам станоўчага героя ў мастацкай літаратуры для моладзі раю пакапацца ў пошце слаўнай гродзенскай спартсменкі, і, я ўпэўнены, яны знойдуць тысячы пераканаўчых прыкладаў таго, як не толькі савецкая моладзь, але хлопцы ды дзяўчаты ўсяе зямлі такога героя прагна шукаюць і потым, бы да паветра, цягнуцца да яго. Бо ў маладых душах — і халодных скандынаваў, і разважлівых немцаў, і адчайных амерыканцаў, і гарачых паўднёўцаў, і савецкіх камсамольцаў,— ва ўсіх, незалежна ад тэмпераменту, тлее заўсёды невынішчальная прага да незвычайнага і гераічнага, бо прагу гэтую мудрая прырода незалежна ад нас акуратна перадае ў храмасомах па бясконцым ланцужку пакаленняў, а часта не віна маладых, што побач з імі няма свайго Корчака, Сухамлінскага... Кпыша,— але гэта ўжо зусім іншая тэма.

6

Оля раптам спатрэбілася не толькі юнацтву.

Каб толькі разам сфатаграфавацца ды ў адной кампаніі са славутай спартсменкай трапіць на старонкі па-

пулярных і ўплывовых газет, з нашай малышкай пачалі нагвалт шукаць сустрэчы відныя імпрэсарыо ды кінаактрысы, прынцы і прынцэсы, міністры і сенатары. Для падняцця аўтарытэту ў разгар «Уотэргейтскай справы» прыняў Олю ў сваёй рэзідэнцыі нават сам прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан, і пра гэта варта сказаць асобна.

Ратуючыся ад беззямелля і галечы, на працягу двух стагоддзяў, да самага 1939 года эмігравалі ў ЗША дзесяткі тысяч прынёманцаў шукаць шчасця. Што стала з імі? Усе яны згарэлі на чужыне, бязлітасна выкарыстаныя маладой буржуазіяй для самай чорнай работы пры закладцы падвалін капіталістычнай махіны. Толькі нямногім удалося ўзняцца да сярэдніх гандляроў, уладальнікаў рэстаранаў ды гасцініц — мяжа мараў дабрабыту эмігрантаў (калі быць больш дакладным, адзін гродзенец сваімі «здольнасцямі» ўразіў нават усю Паўднёвую Амерыку: гангстэр Меер Ланскі).

Нагадваючы цяпер тыя сумныя факты, мне бачыцца надта сімвалічным, што ў самай магутнай капіталістычнай дзяржаве, дзе цяпер не знойдзеш і магіл тых нешчаслівых эмігрантаў з Прынёманшчыны, прэзідэнт Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі (няхай сабе і падмочаны), аддаючы пашану дасягненням савецкіх спартсменаў,— на ўзроўні ўрадавай дэлегацыі прымаў гродзенцаў у сваім Белым доме, частаваў бутэрбродамі і кавай, затым уручыў Олі вялізнага плюшавага мішку, а яе трэнеру — бурштынавыя запінкі.

На старонках некаторых замежных газет разыгралася трагікамічная барацьба за нацыянальную прыналежнасць Олі.

Пра яе раптам загаварылі мацёрыя нацыяналісты.

Белапалякі ў лонданскай «Газеце Нядзельнай» залічылі Олю сваёй. Украінцы ў «Гомане Украіны» аб'явілі яе ўкраінкай. Літоўцы напісалі, што яна чыстакроўная літоўка. Латышы-эмігранты прысвоілі Олю сабе. Рускія белагвардзейцы назвалі спартсменку рускай і напісалі, што яна паходзіць з былой дваранскай сям'і. І ўсе яны празвалі Олю «Эльфам, які гуляе з сонечнымі промнямі».

У журналісцкіх колах найбольш апплочваліся інтэрв'ю, узятыя ў Олі Корбут. Назвы артыкулаў у асноўных газетах капіталістычных краін часта складаліся з адных клічнікаў:

«Oh, Oh, Oh, Olga!!!»

А рэклама на выступленні нашай спартсменкі, напры-

клад, у Японіі, выглядала так: на вялізных шчытах — толькі два словы:

«ОЛЬГА Ў ТОКІО!!!»

За гонар прымаць у сябе спартсменку спрачаліся найбольш вядомыя бургамістры і мэры. У час турнэ па сямі асноўных гарадах ЗША паездка савецкіх гімнастак у Чыкага прадугледжана спачатку не была. Тады з Паўночнай Амерыкі ў СССР паляцела тэрміновая тэлеграма. Яна гучала як крык роспачы:

«Пану Аляксею М. Касыгіну. Масква. Крэмль.

Лічу магчымым прасіць Вас, пан прэм'ер-міністр, пасадзейнічаць, каб каманда гімнастак СССР з Вольгай Корбут... пабывала ў Чыкага, што было б справядлівым для грамадзян другога па велічыні горада ў Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі і садзейнічала б замацаванню сяброўскіх адносін паміж нашымі вялікімі народамі...

Са шчырай павагай і надзеяй Рычард Дзік Эйлі. Мэр Чыкага».

Што з гэтага выйшла, варта далей паслухаць галоўнага трэнера алімпійскай чэмпіёнкі Рэнальда Кныша:

— Як толькі Оля ўзышла на памост аграмаднай, на 16 тысяч гледачоў, залы «Чыкага стадыён», дзяўчына літаральна сумелася ад разгубленасці — так крычалі, свісталі і бурлілі трыбуны. Аднак варта Олі было прыкласці толькі палец да вуснаў, выразам вачэй папрасіць цішыні, каб сабрацца перад выступленнем, як усё раптам замерла, цішыня настала так нечакана, быццам у долю секунды застыў сам Ніягарскі вадапад.

Далей Р. Кныш гаворыць:

— Тлумачыцца гэта надта проста. У Амерыцы, дзе гэтак шмат ненатуральнага і найгранага, дзе лёгка прадаюцца і купляюцца харчы, рэкорды, слава, вейкі, дружба, эмоцыі, здароўе,— як лекі, людзям спатрэбіліся ўжо чысціня пачуццяў і натуральнасць спорту. Такія «лекі» Амерыка якраз і знайшла ў дробненькай, адкрытай, непасрэднай ды гэтакай не «галівудскай» у парыве сваіх перажыванняў дзяўчынцы з коскамі-хвосцікамі, у якой няма нічога штучнага і завучанага. І прыехала да іх гэта натуральная дзяўчынка аж з далёкага якогасьці беларускага Гродна.

Потым галоўная чыкагская газета адзначыла:

«У гледачоў захапіла дыханне, калі міс Корбут выконвала свой непаўторны элемент — сальта з рознавысокіх

брусоў. Яны гулам захаплення сустракалі кожны рух алімпійскай зоркі, якая важыць усяго 84 фунты».

«Крыстан сайенс монітор» ад 23 сакавіка:

«Корбут стаіць, як крылаты чароўны эльф, і чакае выхаду. «Вольга! Вольга! Вольга!» — скандуюць паклоннікі яе абаяльнасці, і спартсменка адказвае ім шчырай, цудоўнай усмешкай».

У выніку паездкі па ЗША дзень 26 сакавіка па прапанове мэра Чыкага Рычарда Эйлі быў аб'яўлены «Днём Олі Корбут». Мэр накіраваў у Маскву тэлеграму ўжо другога зместу:

«...Самая шматлікая аўдыторыя, якая калі-небудзь збіралася ў нашым горадзе, а мажліва, і ва ўсіх Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі, каб паглядзець гімнастычную праграму, горача вітала і захаплялася прадстаўленнем, паказаным камандай савецкіх гімнастак. Гэтыя цудоўныя дзяўчаты ўнеслі велізарны ўклад у справу паглыблення дружбы і разумення паміж Вашай краінай і насельніцтвам Злучаных Штатаў!»

«Нью-Йорк Таймс»:

«Вольга Корбут і руская жаночая каманда гімнастак закончыла сваё турнэ па ЗША ўчора вечарам, растапіўшы астаткі варожых ільдоў з часоў халоднай вайны».

Пасля выступлення ў «Мэдысон сквер-гардэн» тэлевізійная кампанія Эй-бі-сі спыталася ў гледачоў усёй Амерыкі, хто лепшы спартсмен года. Першае месца заняў не свой, не амерыканец Марк Спіц, які ў Мюнхене адхапіў за плаванне аж сем залатых медалёў, а менавіта дзяўчынка з беларускага Наднямоння. Олі амерыканцы і ўручылі прыз года.

Тады ж амерыканскія газеты змясцілі інтэрв'ю з віднымі сваімі спецыялістамі па гімнастыцы. Трэнеры аднагалосна падзялілі сваю гімнастыку на перыяды:

1). ВО (Before Olga — да Олі).
2). АО (After Olga — пасля Олі).

7

Гродзенцы прыехалі ў ЗША ўпершыню, і некаторыя бакі жыцця той краіны здаліся ім проста дзікімі. У дзённіку Олінага трэнера Р. Кныша, напрыклад, ёсць такія мясціны:

12 сакавіка. Лос-Анжэлес.

«Оля захварэла, на трэніроўку не ідзе. Зрабілі ўкол вітаміну С. Зайшоў доктар, перш-наперш спытаў:

— Хто падпісвае чэк?

Павітаўшыся з тым чалавекам, доктар толькі тады стаў вітацца з намі. Хворую ён глядзеў дзве-тры мінуты, затым выпісаў чэк на 96 долараў і спытаў зноў:

— Укол зрабіць мне ці самі зробіце?

Спалоханая наша перакладчыца заявіла, што — самі, бо тады доктару трэба было б плаціць яшчэ 35 долараў. Ён дзелавіта паклаў у кішэню наш чэк і пайшоў...»

14 сакавіка.

«...Ля ўвахода ў будынак палаца мы нечакана сустрэлі славутага рэкардсмена Алімпіяды-68 Роберта Бімона. Калісьці ён скочыў на фенаменальную даўжыню — 8,90 метра! Яму ігралі амерыканскі гімн, а ўвесь свет паўтараў, што Роберт дасягнуў мяжы чалавечых магчымасцей. Зараз Бімон — апушчаны, худы, у дзіравых кедах і парваных нагавіцах, нездаволены жыццём, сядзеў пад пальмай. Экс-чэмпіён ахвотна пазіраваў нам для здымкаў і расказваў аб сваім горкім лёсе беспрацоўнага.

У кафэ даём інтэрв'ю. Оля забылася пра ўсё, чаму яе вучыў, выручыла яе перад карэспандэнтамі Турышчава. Прачытаў нешта з паперкі і Бімон, а за ім астранаўт Армстронг расказаў пра палёт на Месяц. Бімон папрасіў штонебудзь паесці, але яму прапанавалі за абед заплаціць. Славуты спартсмен нешта пракрычаў і дэманстратыўна пакінуў залу.

Бедны негр застаўся галодны...»

«Нью-Йорк Таймс» паспрабавала ў даволі адкрытай форме вытлумачыць прычыну поспехаў савецкіх спартсменак, якія з гэткім трыумфам выступалі ў ЗША. І вось што ўплывовая газета вымушана была сказаць на ўсю Амерыку:

«Прадстаўляючы Олю Корбут, гэту 17-гадовую савецкую гімнастку, ад выступленняў якой завірае дыханне, як суперзорку, сродкі масавай інфармацыі ЗША пазбягаюць закранаць пытанне (інакш яно, вядома, узнікла б) пра тое, як у СССР, ГДР і іншых сацыялістычных краінах удалося выхаваць гэтак многа выдатных спартсменаў сусветнага ўзроўню.

Сапраўдная прычына безупыннага ўдасканалення майстэрства і здольнасцей савецкіх спартсменаў,— дадае газета,— крыецца ў адносінах да спорту ў Савецкім Саюзе. Там дзеці атрымліваюць спартыўную падрыхтоўку бяс-

платна ў спартцэнтрах, школах і лагерах, чые выдаткі аплочваюцца Міністэрствам асветы і прафсаюзамі. Усе спартыўныя пляцоўкі і абсталяванне знаходзяцца ў распараджэнні школ бясплатна на працягу цэлага дня па дэкрэту дзяржавы, і моладзь трэніруецца пад наглядам вопытных спецыялістаў. Такія ж магчымасці існуюць і ў іхніх інстытутах.

На савецкіх заводах адводзяць спецыяльныя мінуты для размінкі, што з'яўляецца кантрастам у параўнанні з умовамі, у якіх знаходзяцца рабочыя нашай краіны. У выніку паскоранага тэмпу і доўгіх гадзін работы амерыканскія рабочыя прыходзяць дамоў стомленыя, а ў час адпачынку на рабоце (калі такі дзе і заведзены) ім няма чаго рабіць, як толькі стаяць ды піць каву».

Ад слоў адной з вядучых амерыканскіх газет нічога не адымеш. Шкада, што «Нью-Йорк Таймс» не можа зірнуць на парадкі ў сваім грамадстве яшчэ і вачыма савецкага трэнера.

## 8

Пасля выступленняў нашых спартсменак у ЗША там адразу з'явіліся тысячы клубаў Олі Корбут. Стаў рэгулярна выходзіць часопіс — орган «Клуба балельшчыкаў Олі Корбут», а кампаніі, якія пастаўлялі спартыўны інвентар, не паспявалі ўжо завозіць брусы, турнікі, накладкі для рук, гімнастычныя касцюмы і тапачкі-чэшкі для дзяўчатак і хлопчыкаў.

У скульптараў і мастакоў узнікла пільная патрэба рабіць Оліны партрэты на палатне, у гіпсе і бронзе.

Пайшла красавацца прычоска «а-ля Оля Корбут», кашулі з партрэтамі нашай зямлячкі на грудзях і плячах, з надпісамі «ай лав ю, Вольга!», «май дарлінг, міс Корбут!».

Друкарні выпусцілі сотні тысяч каляровых плакатаў з фігурай Олі Корбут, якімі абклейваліся цэлыя гарады і краіны.

Фірмы выкінулі на прылаўкі пласцінку з песняй пра нашу спратсменку.

У друку з'явіліся «оды» і «санеты» для Олі Корбут.

У многіх штатах збягаліся натоўпы Оліных паклоннікаў ды паклонніц — яны вар'явалі і раўлі «марш Вольгі Корбут», стрымлівалі вулічны рух, і паліцыя не магла нікому даць рады...

Пасля Амерыкі Оля з сяброўкамі працягвала свае паездкі па крывізне зямнога шара і ўсюды ўзбуджала людзей, а яе прыезд быў заўсёды не абы-якой сенсацыяй.

У час яе выступленняў у Англіі ўяўленні аб брытанцах, як аб людзях стрыманых ды халодных, развеяліся як дым. Спартсменка мела магчымасць на кожным кроку пераканацца, што тэмперамент англічан ані не ўступае энтузіязму амерыканскіх балельшчыкаў. І там газеты на ўсю паласу змясцілі фота Олі на фоне Крамля з кідкімі надпісамі:

«Оля дорыць сваю чароўную ўсмешку пяцідзесяці мільёнам брытанцаў!»

«Усе англічане атрымаюць магчымасць убачыць найвялікшую гімнастку нацыі!..»

«Нарэшце здзейснілася — Оля ў Лондане!!!»

«Такое бывае толькі раз у стагоддзе!!!»

«Цуд з коскамі-хвосцікамі на беразе Тэмзы!!!»

Тады на Даўнінг-стрыт, 10, у сваёй рэзідэнцыі, вымушаны быў прыняць славутасць нават тагачасны прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Эдвард Хіт, якога ў сімпатыях да нашай краіны, мякка кажучы, не западозрыш. Бытта які гід, ён трыццаць пяць мінут вадзіў Олю разам з іншымі нашымі спартсменкамі па старажытных залах, паказваў выдатныя гістарычныя помнікі былой імперыі, тлумачыў, што да чаго, між іншым заўважаючы:

— Памятайце, ледзі: нямногім выпаў гонар пабываць на Даўнінг-стрыт, 10, бачыць гэтыя гістарычныя пакоі, але я вас тут прымаю з асаблівай прыемнасцю!

Пад канец паездкі па Вялікабрытаніі англічане таксама ўручылі нашай зямлячцы кубак з надпісам:

«Лепшай гімнастцы Англіі за 1974 г.».

З такім жа поспехам гараднічанка выступала ў Італіі, ФРГ, Японіі, Аўстраліі ды іншых краінах (нават — у Сінгапуры!), а газеты і там не знаходзілі слоў для, як яны напісалі, «Брыжыт Бардо сучаснай гімнастыкі».

Французская «Экіп» з'яўленне Корбут у гімнастыцы назвала «эпохай буры і націску», газета сцвярджала, што Оля прынесла ў класічную дысцыпліну экспрэсію XX стагоддзя. Агенцтва «Асошыэйтэд Прэс», на аснове апытання спартыўных журналістаў, выбрала Олю за яе цудоўную спартыўную форму «Жанчынай-Атлетам» цэлай зямной кулі, а ў завяршэнне Олінага трыумфу ЮНЕСКА прысудзіў ёй ганаровае званне — Пасла Міру за 1974 год.

«Шчодра надарыўшы чалавека пры нараджэнні, прырода гэтым не здаволілася. Яна ўдыхнула ў кожнага жаданне стаць лепшым за іншых, быць вядомым, быць аб'ектам здзіўлення, жаданнем праславіцца і такім чынам усклала на самога чалавека апеку аб сваім удасканаленні. Розум у непасрэднай дзейнасці сіліцца атрымаць пашану, узвысіцца — і ўсё чалавечае племя ідзе ад дасканаласці к дасканаласці, і дзе гэтаму мяжа?»

М. Лабачэўскі. З прамовы на выпускным вечары ў Казанскім універсітэце, жнівень, 1825.

Аўтару гэтых радкоў чэмпіёнка прызналася: яна надта хацела перамагчы Турышчаву, а карэспандэнту «Комсомольской правды» заявіла:

— Медалі і званні мяне зусім не цікавяць, за іх я не змагаюся. Мне патрэбна захапленне публікі. Калі з публікай мне ўдаецца ўстанавіць кантакт, поспех забяспечаны. Люблю выступаць перад балельшчыкамі, што не шкадуюць далоняў.

Калі ж адкінуць ад Олі гэтыя прыроджаныя матоны, якія па-Лабачэўскаму, закладзены ў кожным чалавеку, ды яшчэ калі зняць з яе ўвесь арэол славы, незвычайнасці і шуміхі, створаны вакол спартсменкі сучаснымі сродкамі інфармацыі і прапаганды, калі паглядзець на яе як на звычайную дзяўчыну па прынцыпу — «усе мы створаны з таго самага цеста»,— то варта задумацца: у чым жа той сакрэт дасягненняў нашай спартсменкі? Выяўляецца, сакрэтаў тут няма і рэцэпт поспеху надта просты, хоць і не для кожнага заманлівы.

Крыху інфармацыі з галіны фізіялогіі.

Прырода, аказваецца, паклапацілася пра нашы магчымасці. Косць галёнкі ў чалавека, напрыклад, мае ледзь не дваццаціразовы запас моцнасці. Толькі ж мы з вамі выкарыстоўваем ад сілы якія-небудзь дзесяць працэнтаў скарбу, закладзенага прадбачлівай натурай у нашы органы, а малады спартсмен, калі ён настырны ды ўпарты, паказчык гэты павялічвае ў некалькі разоў. Увесь фокус у тым, каб знайсці ў сабе цярпенне, настойлівасць і, нягледзячы ні на што, дасягнуць пастаўленай мэты.

Працоўны дзень Олі (апрача заняткаў у школе, а потым, калі яна стала студэнткай,— у інстытуце) працягваўся ад пяці да сямі гадзін, праведзеных у напружаным руху, на брусах, турніку, батуце і коўдры. Калі першы

раз мне давялося ўбачыць Олю на трэніроўцы, уразіла наступная карцінка.

Спацелая спартсменка ў перапынак, механічна выціраючыся вафельным ручніком, нічога навокал не заўважаючы, падышла, як п'яная, да графіна і з прагнасцю стала глытаць ваду шклянку за шклянкай — ну, дакладна бы лесаруб, які толькі што перавыканаў норму, ці доменшчык, што выпусціў плаўку.

Што ж, за трэніроўку Оля часамі траціла да пяці працэнтаў сваёй вагі!

Упартасць, непераадольная прага да працы і рамантычнага прыгодніцтва, лютая нянавісць да аднатоннасці і суму — у той час, калі многія яе равеснiцы не ведалі, што з сабой рабіць,— ды яшчэ жаданне дабіцца свайго і стаць лепшай за саперніцу зрабілі цуд.

Кажуць, каб вялікаму Ньютану прапанавалі апісаць словамі «пятлю Корбут» на брусах ды яе сальта на бервяне, славуты вучоны, напэўна, сказаў бы, што такія фіглі супярэчаць законам фізікі, таму яны немагчымы, як немагчымы, з пункту гледжання халодных лічбовых выкладак якога-небудзь абсалютнага знаўцы супрамата, выпадак, апісаны Алесем Адамовічам у яго рамане, калі кволая гарадская жанчына ў гета, ратуючы ад гібелі сваё дзіця, нетрэніраванымі белымі пальчыкамі хапіла ў адчаі жалезныя прэнты агароджы ў палец таўшчынёй, расхіліла іх, бы ляшчынавы плот, ды выпхнула хлопчыка на волю: наступіў у кабеты «выбух мышц», калі працуюць абсалютна ўсе клеткі цела.

Маленькая, упартая дзяўчынка адважвалася на такое, што ў зале заміралі ўсе людзі, не верачы сваім вачам. Тую самую «пятлю Корбут» цяпер унь выконваюць сотні дзяўчатак у кожным значным горадзе, дзе маецца добрая гімнастычная зала (гэта не значыць, што «пятлю Корбут» выконваць стала цяпер лягчэй: зрабіла сваю справу сіла прыкладу куміра, пракладзеная ім дарожка!), а яе ж спачатку не прызнавалі самыя аўтарытэтныя, самыя кампетэнтныя міжнародныя камісіі, не прызнавалі ледзь не па прынцыпу — гэтага не можа быць, бо гэтага ніколі не бывае.

Каб дасягнуць такога, трэба бязлітасна, да аскетызму, ахвяраваць сябе мэце і ўсю волю накіраваць на здзяйсненне свайго жадання,— трэба «выціснуць» з астатніх 90 працэнтаў нескарыстанага запасу моцнасці арганізма ўсё, што толькі можна.

Оля мне неяк прызнавалася: яна ў той час не памятала, каб калі схадзіла ў кіно дзеля «проста так». Не памятала і выпадку, каб прайшлася куды-небудзь з кавалерам, хоць дзесяткі патэнцыяльных жаніхоў — барадатых і вусатых, чорных, бландзінаў і рыжых — стараліся дабіцца яе прыхільнасці і не толькі бамбілі пісьмамі; Оля проста не мела часу, каб іх заўважаць.

Гэты малы і ўпарты крэменьчык жыў з адзінаццацігадовага ўзросту ў чотка зададзеным рытме: трэніроўка — вучоба — педпрактыка ў школе (у апошнія два гады!) — трэніроўка і, нарэшце, шчаслівы сон. Характар у спартсменкі складаны, ладзіць з Оляй умеў толькі Р. Кныш.

## 10

Вось што пісаў славуты трэнер у сваім дзённіку:

Варна, 1974 г., 18 кастрычніка.

«...Вечарам апрабаванне на памосце. Зрабіў ёй масаж. Пачала даволі ўпэўнена. На бервяне — канфлікт.

Прыйшлі негры. Оля доўга на бервяне практыкуецца, упала. Ускочыла венгерка, а за ёю і Оля. Абедзве стаяць, адна адной не ўступаюць. Уся зала глядзіць насцярожана. Ліха на яго, настроіць супроць сябе прысутных і шмат на гэтым страціць.

Сяк-так прымусіў яе злезці. Венгерка Хэпік ды іншыя толькі ківаюць галовамі. Потым яшчэ счапілася з Растоцкім. Гэта — у разміначнай зале...»

19 кастрычніка.

«...Параіла мне паехаць у Варну, ды не маю ўжо грошай. Зацікавіла, што ж яна збіраецца адна рабіць, дзяўчаты на выхадны паперліся ўсе ў горад. Парэкамендаваў заняцца вольнымі — істэрыка адразу. Стукнула дзвярыма, пайшла.

Заходжу да яе ў пакой. Ужо накурылася, хоць і клялася, што больш папяросу ў рот не возьме. Фыркнула:

«Ну, расстроілі мяне, свайго дабіліся? Не хачу вас нават бачыць, выйдзіце!..»

У той самы дзень вечарам:

«На трэніроўку валаку на сабе мат. З намі едуць трэнеры і японцы. Японцы толькі разміналіся. Цікавыя практыкаванні. Оля адна (больш з нашых не займаўся ніхто). Рабіла саскок з бервяна з паваротам. Надта ж кепска. Вельмі за яе баюся. Загадаў папрацаваць над ім — нуль

увагі. Вымушаны заявіць, што гэта — самае слабое месца ў камбінацыі. Адразу псіханула зноў:

— Вам бы толькі мяне палохаць!

Аднак саскок паўтарыла разоў з трыццаць. Ужо куды лепш.

З вольных — некалькі разоў сальта і асобныя элементы. Загадаў выканаць новы саскок — давядзецца рабіць яго ў фінале, каб ён насіў імя Корбут.

Усе адразу схапіліся за камеры.

На брусах два разы абавязковая — добра, нават японцы ахалі. Скачок з паваротам на 360 градусаў — тры разы не кепска, аднак горш, чым дома. 360+360 — адзін раз добра, хоць і праз сагнутыя рукі. Бурныя апладысменты. Уся японская каманда ад уражання ажно села.

Яшчэ раз. На гэты раз — надта кепска, зарана пачала другі паварот, без адцяжкі. Абавязковая — выдатна! Усе ў захапленні. Чалавек з дванаццаць стракочуць кінакамерамі.

Вярталіся ў добрым настроі. Оля адразу к Дронавай. Стукаю — зачыніліся ў туалеце і кураць так, што аж дым праз шчыліны валіць. Дронава нявінна:

— Мы яблыкі там елі.

Пачынаю іх пясочыць...»

20 кастрычніка.

«...У Олі слёзы. Фыркае на мяне і паказвае, што нічога не можа. Загадваю быць вясёлай і чую:

— Буду шчэ вам усміхацца! Самі смейцеся, бо мне не хочацца!

— Ды не мне, а якраз табе патрэбна гэта, калі хочаш мець перавагу над Турышчавай! Глядзі, і ў яе не клеіцца!

Людзе якраз не паддаваўся брус. Турышчава саскочыла і з плачам паляцела ў раздзявалку. За ёю пабеглі Растоцкі з Латынінай. Оля адразу ўстрапянулася і ўзялася за працу».

Пасля Мюнхена вядомы фотарэпарцёр расказваў:

— Я здымаць пайшоў — фота ў газету да зарэзу спатрэбілася. «Пастой хоць мінуту спакойна!» — кажу. А яна мне: «Усе вы абрыдлі мне, як горкая рэдзька!» Уяўляеце? Гэта ў яе гады!

Абурана і доўга скардзіўся яшчэ бывалы чалавек, які прызвычаіўся даўно, што сусветныя славутасці пруцца, самі лезуць у бліскучы акуляр фіялетавага аб'ектыва, абы толькі ўплывовы майстра зрабіў ласку — «пстрыкнуў» іх.

Такія паводзіны Олі — капрыз разбэшчанай увагай асобы?

Хутчэй — паводзіны чалавека, які часта сумняваецца, падае духам, робіць памылкі, аднак увесь у пошуку, гарыць прагай да дзеяння і тварэння, не можа цярпець паказухі, якая збівае з панталыку, гамуе рытм. Вось таму, мабыць, маленькі бунтар з Прынёманшчыны перад фотакорам і ўзарваўся.

Калі спартсменка выйшла на памост «Чыкага стадыён», 16 тысяч амерыканцаў,— як было ўжо сказана Кнышам,— у экстазе раўлі, свісталі ды ламаталі нагамі. Варта ж было Олі прыкласці да вуснаў пальчык, вачыма папрасіць цішыні перад выступленнем, і, паводле слоў трэнера, зала раптоўна замерла, цішыня настала так нечакана, бытта ў долю секунды застыў сам вадапад Ніягара. Я спытаўся ў Рэнальда Іванавіча, ці вучыў ён гэтаму сваю падапечную. Не, не вучыў. Нельга ўсе выпадкі прадбачыць інструкцыямі. Такія паводзіны можа падказаць толькі сэрца і на гэта трэба мець талент. Вось яшчэ і таму гэтае дзіця так нам прывабнае.

Олю падпільноўвалі спакусы. Да яе ліплі з непатрэбнымі парадамі сапраўдныя і ўяўныя аўтарытэты, а ўжо надакучлівая апека «добразычліўцаў» атакавала на кожным кроку.

— Што вы мэнчыце дзяўчыну? — напала аднойчы на трэнера блізкая для Олі асоба.— Чаму вы ёй курыць не дазваляеце, чаму забараняеце нават выпіць? У манашкі запісалі, так?!. Якое маеце на гэта права?!

Іншы салідны «апякун і добразычлівец» доўга не адставаў ад спартсменкі з надта заманлівай парадай:

— Оля, кі-дай ты гэтага Кныша, хопіць яму нажывацца на табе! Кі-дай зараз жа, я з цябе вялікую артыстку зраблю! З такім талентам? Гэ-э!.. З маёй дапамогай будзеш выступаць праз год-другі ў самім МХАЦе!

Аднаго разу яназіраў у паліклініцы, як Олю дружна абкружылі пажылыя медсёстры, сталі над ёй охаць ды ахаць і гэтак жа дружна ёй лесціць.

— Олечка, навошта табе патрэбны гэтыя коскі?! — пасарамаціла яе даволі прызваітая бабка ў белым халаце.— Ты ж такая маладая, прыгожая паненка, ты ж ужо і грошы свае маеш — зрабі сабе прычоску, як іншыя, будзь як усе!..

Не паддавацца спакусам, якія б яны бліскучыя ні былі,

вытрываць, не «быць як усе», заставацца пры любых абставінах самім сабой — мабыць, самая складаная штука ў жыцці.

11

Такім чынам, вяртаючыся яшчэ раз да Олінай пошты і таго фурору, што спартсменка выклікала за морамі ды акіянамі, мы можам цвёрда сказаць:

Вольга Корбут — цэлая грамадская з'ява і здабытак нацыі. З'ява нарадзілася і дасягнула свайго апагея ў мяне, гродзенскага старажыла, ледзь не на вачах. Я не раз вельмі шкадаваў, што не змог прадбачыць усяго загадзя, не сачыў за яе развіццём паслядоўна, крок за крокам, па дробязі і цяпер, спрабуючы выкласці незвычайную кар'еру землячкі на паперы, апісваю яе рэтраспектыўна.

З пасляваеннага часу ўспамінаюцца мне толькі два моманты, якія мелі ўскосныя адносіны да будучай спартсменкі, а мне давялося быць іх сведкам.

Летам 1944 г. у Гродна, дзе яшчэ дагаралі нямецкія склады і курыліся абсмаленыя руіны будынкаў, услед за савецкімі войскамі прываліла з лесу наша партызанскае злучэнне. Неўзабаве ўсіх здаровых партызан ваенкамат выклікаў для адпраўкі на фронт. Тады і запомніўся мне дваццацігадовы Валянцін Корбут з брыгады Неўскага.

Партызан гэты ледзь не плакаў, што з-за пашкоджанай рукі прызыўная камісія яго забракавала. Якраз гэты хлапец потым стаў бацькам славутай спартсменкі.

Неўзабаве мы з ім яшчэ раз спаткаліся пры незвычайных акалічнасцях.

Позняй восенню 1945 года мы, студэнты Гродзенскага педагагічнага інстытута, пад кіраўніцтвам інструктара гаркома камсамола Валянціна Корбута адправіліся на электрастанцыю праводзіць суботнік. Нашую ЦЭЦ пабудавалі ў 1913 годзе шведы, а немцы, адступаючы, узарвалі ў турбінах нейкія часткі, і святло гораду пакуль што даваў электрапоезд. Студэнты пачалі дужацца на пляцоўцы са скрынямі з абсталяваннем, пакуль не заўважылі дзіва.

Узарваныя мясціны на дзвюх турбінах былі старанна абстаўлены фанернай будкай, і сам дырэктар ЦЭЦ сачыў, каб ніхто, барані бог, не заглянуў пад фанеру. Таямніца ў юнакоў толькі распаліла цікаўнасць. Пастунова праз шчыліны мы разглядзелі белабрысых маладых мужчын у шыкоўных куртачках ды жоўтых гамашах. Неўзабаве выдалася і таямніца.

У Скандынавіі нашы закупілі пашкоджаныя дэталі для ЦЭЦ, але фірма паставіла ўмову — устанаўліваць іх будуць толькі шведы. Каб ніхто з нашых не падглядзеў тэхнічных сакрэтаў фірмы, рабочая пляцоўка мусіла быць старанна загароджанай (уся магутнасць той ЦЭЦ з яе дзвюма турбінамі, смех сказаць,— 1,4 мегавата!). І вось нашы хлопцы зацікавіліся будкай. Такую ж цікаўнасць выклікалі паступова нашы студэнты і ў шведскіх майстроў. Госці стоўпіліся ля дзвярэй, а нашы хлопцы — у машыннай зале; адны і другія замерлі ў нямой сцэне.

Красамоўным быў тады выраз нашых твараў. Каб выказаць словамі той маналог, які кожны з нас гаварыў вачыма, ён прагучаў бы прыкладна так:

«Вы што, апупелі?! Нам жа электрастанцыю фашысты пашкодзілі! Яшчэ добра, сапёры былі п'яныя ці мо не хапіла ім аманалу, а то на гэтым месцы ляжала б толькі гара цэглы ды металалому!..

Ах, праўда, сыты галоднага не разумее!..

Прыглядаецеся, гэтак цікава? Глядзіце, глядзіце, халера вас бяры! На нас толькі зашмальцаваныя шынялі ды стаптаныя кірзачы, мы не маем нават кашуль, аднак нам ані не сорамна! Усё ў нас па картачках, і нават хлеба ўволю не ядзім, бо нашы гарады ляжаць у руінах, вёскі папалены! Бачыш, якія вы гладкія ды выфранчаныя — бы галівудскія кінаакцёры!..

Ці гэтак выглядалі б вы, калі б фашысты і да вас дайшлі? Покуль мы падстаўлялі грудзі пад нямецкія кулі, вы і інстытуты паканчалі, напэўна, змаглі і пажаніцца, а тысячы нашых нявест у брацкіх магілах ляжаць! У нас вашага ўзросту мужчыны ўсе параненыя і пакалечаныя! Унь са шрамамі на твары — карэкціроўшчык артдывізіёна Ігар Паварсў, ён пад Ясамі даў каманду сваім гаўбіцам і выклікаў агонь на сябе, а вы, мажліва, не разумееце нават, што гэта азначае! А во з перабітымі нагамі прыйшлі кантаваць скрыні Саламаў, Панасік, Немец!.. Брышу, Уварову, інструктару гаркома Валю Корбуту разрыўныя кулі перабілі рукі! Астатнія — з асколкамі ў лёгкіх, у мускулах ды з траўмамі на душах ад страчаных бацькоў і сясцёр!.. Прыглядзіцеся да іх добра: калі б мы не стрымалі фашысцкую навалу, прыкладна такімі ж выглядалі б і вы са сваімі землякамі!..

Нас вешалі, расстрэльвалі, гвалцілі, рабавалі, палілі ды смажылі, мы цярпелі і паміралі за агульную справу — нездарма ў іншых краінах сустракалі нас як збавіцеляў!

Мы вымушаны прыйсці сюды на суботнік! Каб наварыць стравы, у інтэрнаце хаваемся ад каменданта, бо ён штрафуе нас за электраплiткi — энергапоезд дае мала току, турбіны патрэбны гораду да зарэзу! А вы, шведы, буржуям прадаліся?!. Ах, гады, мала вас той Пётр Першы лупцаваў некалі пад Палтавай!»

Аднак нікога з замежных гасцей наш нямы крык душы не крануў. Валя Корбут пачаў гнаць студэнтаў да работы, і мы, злосныя, разбрыліся па двары.

З той пары з бацькам спартсменкі не бачыўся гадоў з трыццаць.

## 12

Значна пазней на маіх вачах здарыўся яшчэ адзін выпадак,— ён меў прамыя адносіны да героіні нарыса.

У канцы пяцідзесятых гадоў малады трэнер па гімнастыцы атрымаў грашовую прэмію. Што на яго месцы зрабіў бы іншы такі мужчына? Напэўна, купіў бы сабе матацыкл або модны касцюм ці проста звадзіў бы сваю кампанію ў рэстаран. Хлапец жа ўвесь час перажываў, што яго навучэнцы не маюць дзе трэніравацца. Атрымаўшы прэміяльныя, ён загарэўся дзёрзкай ідэяй — пабудаваць за іх спартзалу. На ўсю суму трэнер накупіў цэглы, вапны, рознага дыяметра трубак. Выпрасіў у лясгасе месца ў прынёманскіх Пышках. Прыступіў да справы.

Многія гродзенцы, напэўна, і цяпер яшчэ памятаюць, як дзесяткі хлопчыкаў і дзяўчынак з гімнастычнай секцыі пасля ўрокаў альбо ў нядзелю адпраўляліся ў прыгарадны лес капаць фундамент ды ставіць каркас. Мае дзеці якраз займаліся ў секцыі плавання, але з салідарнасці з сябрамі па двары ездзілі, між іншым, туды і яны, прымусіўшы бацьку даставаць рыдлёўкі. Я па-харошаму пазайздросціў незнаёмаму чалавеку, што менавіта яму ўдалося ў маіх наследнікаў узрадзіць любоў да фізічнай працы, чаго аніяк не мог у іх выклікаць родны бацька.

Хутка мяне зацікавіла: хто ж той таленавіты арганізатар і педагог? Ім аказаўся сын камісара партызанскага атрада, паважанага ўсімі ў горадзе чалавека і такога ж самага бессярэбраніка Івана Пятровіча Кныша — Рэнальд.

Дзеці хадзілі ў лес з лапатамі месяц, хадзілі другі, покуль не даведалася гарадское начальства. Пасаромленае, яно самадзейную будоўлю стрымала і неадкладна

пачало «выбіваць» у міністэрстве для спартсменаў горада тыпавую будыніну.

Неўзабаве ў Гродне і вырас цэлы спартыўны комплекс — палац з гімнастычнымі заламі, раздзявалкамі, сушылкамі і душавымі, са стадыёнам ды басейнам. У новым памяшканні Кныш праз кароткі час падрыхтаваў чэмпіёнку СССР гімнастку Тамару Аляксееву, а затым — пераможцу Алімпійскіх гульняў 1964 у Токіо Алену Валчэцкую.

У 1966 г. Валчэцкая, працуючы ўжо трэнерам, парэкамендавала свайму настаўніку вучаніцу чацвёртага класа 10-й сярэдняй школы — худзенькую і дробную, але надта настырную ды з вялікім жаданнем дабіцца свайго — Олю. Пад кіраўніцтвам выдатнага майстра Корбут і стала праз некалькі гадоў чэмпіёнкай БССР, СССР, а ў 1972 годзе атрымала адразу аж тры залатыя медалі на Алімпіядзе ў Мюнхене ды прызнанне ўсяго свету.

Я ўжо паказваў у цытатах з дзённіка Кныша, колькі цярпення, тактоўнасці спатрэбілася трэнеру нават для такой таленавітай вучаніцы, як Корбут. Рэнальд Іванавіч, напрыклад, на трэніроўкі для сваёй падапечнай цягаў мат праз замежны горад на сабе (Р. Кныш — чалавек слабы і хворы на сэрца!). Каб паказаць іншы бок яго цяжкасцей, працытую яшчэ дзве вытрымкі з дзённіка трэнера.

Варна, 1974, 25 кастрычніка.

«Спаборніцтвы скончыліся. Оля прайшла роўна, хоць суддзі ацэнку яўна занізілі... Я і не спадзяваўся, што так добра пройдзе. Гледачы адчулі, што Турышчавай завышаюць, а Олі заніжаюць. Гэта для Олі нават карысна — каб аднавіць рэпутацыю. *Мяне не пусцілі ў Палац спорту, але Оля адчыніла акно, і я туды пралез праз яго* (падкрэслена мной.— *А. К.*) і паглядзеў на спаборніцтвы...

27 кастрычніка.

«Спаборніцтвы скончыліся. Оля прайшла роўна, хоць і без бляску, акрамя скачка. На скачку Турышчава — 9,5, а ёй — 9,8!! Оля адразу ўстрапянулася. Проста гарыць. Супакойваю яе зверху. *Мне сёння далі нарэшце білет на трыбуны, відаць, стала ім сорамна, што да гэтага часу выстаўлялі за дзверы і ў залу Палаца кожны раз я залазіў праз акно* (падкрэслена мной.— *А. К.*). Пасля мяне там паставілі міліцыянера...»

## 13

У Англіі выдавецтва «Падынгтон прэс» выдала кніжку пра Олю Корбут. Аўтар — журналіст Джыстан Бічэм — не пашкадаваў для нашай спартсменкі красамоўных слоў. Бічэм не палічыў нават патрэбным прыязджаць па матэрыял у Гродна, бо фактаў пра спартсменку і яе трэнера, пра спартыўныя прыёмы славутага Кныша і яго таленавітай вучаніцы хапала: у сусветнай прэсе з'явіліся тысячы артыкулаў, адно не лянуйся, пішы.

Пры ўсёй аўтарскай сімпатыі да Олі, спартсменка ў душы Бічэма не зрабіла такога перавароту, як у Чэка Г. з Нью-Йорка, у галаве якога Корбут «перавярнула ўсё дагары нагамі». Закаранелы ў сваёй варожасці да нашай ідэалогіі ці мо беспрынцыпны па характару, Бічэм для бестселера паспрабаваў зрабіць з Олі маленькага чароўнага Робін Гуда без роду-племені, якога натхняе дзікая прырода. Пра наш абласны цэнтр, які налічвае 200 000 жыхароў ды з'яўляецца прамысловым і культурным вузлом, дзе адных студэнтаў пражывае і вучыцца аж 15 000, а прадукцыя заводаў гродзенскіх разыходзіцца па 60 краінах зямлі, гэты аўтар піша так:

«Жыхароў Гродна мае прыкладна 80 000. Большая частка працуе на вінакурных і тытунёвых фабрыках ці займаецца традыцыйным рамяством — вытворчасцю мыла ды свечак. Глухая правінцыя. Не надта цікавае месца для жыцця, сумны куток для моладзі. Таму Оля Корбут свабодны час любіць праводзіць у дрымучым лесе — Белавежскай пушчы, што знаходзіцца побач з горадам і заселена зубрамі і іншымі лютымі звярамі...»

Дагаджаючы непатрабавальным густам пэўнай катэгорыі сваіх чытачоў, буржуазны пісака не прыслухаўся да разважлівых слоў «Нью-Йорк Таймс» (з якой я прыводзіў доўгія цытаты), не назваў людзям сапраўдных прычын поспехаў савецкіх спартсменаў, а даведку аб Гродна для сваёй кніжкі Джыстан Бічэм, як потым выявілася, спісаў са старой англійскай энцыклапедыі, дзе яшчэ не паспелі ўвесці змен, што адбыліся ў БССР на працягу аднаго пакалення.

Яшчэ за маёй памяццю па вёсках Гродзеншчыны распаўсюджаным заняткам у жанчын было «іскание» адна адной у галаве.

Людзі на худых пясочках перабіваліся на бульбе ды крупніку.

Запалкі нават у нашым доме — на гаспадарцы серадняка — дзялілі на дзве палавінкі.

Дзеці цукар бачылі толькі ў вялікія святы.

Калі пад адкрытым небам кінаперасоўка паказвала фільм, дзе на экран імкліва наплываў паравоз, жанкі і бабкі хапалі дзяцей ды з жахлівым віскам кідаліся наўцёк.

Тое ўсё было гэтак нядаўна, што яшчэ напэўна хто-небудзь са скандынаўскіх спецыялістаў, якія ў 1945 годзе замянялі пашкоджаныя дэталі турбін на гродзенскай ЦЭЦ, нават і на пенсію не пайшлі! І я не раз шчыра перажываю за іх, нагадваючы той выпадак. Мне чамусьці здаецца: тыя мужчыны, седзячы вечарам перад каляровымі тэлевізарамі, назіраючы выступленні гродзенскай німфы, чытаючы пра спартсменку і нашы дасягненні, аж чырванелі ды не знаходзілі сабе месца ад таго, што менавіта тады, наетыя і абласканыя лёсам па чыста гістарычнай выпадковасці, уратаваныя намі ад карычневай чумы гітлерызму, бы танныя гандляры, хаваліся за фанеру.

## 14

З уласнага жыццёвага вопыту ведаю, што нічога на свеце проста так не бывае і не родзіцца на пустым месцы, усякая з'ява мае свае глыбокія карані, а кожнае грамадства заслугоўвае якраз тых герояў, якіх мае, бо яго кумір — яго і люстэрка, у ім людзі дакладна могуць разглядзець свае рысы.

Разважаючы цяпер пра з'яву Олі Корбут, я прыходжу да высновы, што вытокі яе ляжаць у адвечным, з пакалення ў пакаленне, жаданні — выбіцца з галечы, прымітыву і шэрай забітасці, у якія быў загнаны гістарычнымі абставінамі мой народ.

Тысячы разоў меў рацыю Іван Бурсаў, сказаўшы пра свой родны край:

> Сколько слез и сколько пота на нее уронено,
> Сколько ссадин на ее груди...
> Здесь, где столько сильных похоронено,
> Слабое не может прорасти!..

Такім чынам Оліны дасягненні — цэлае перапляценне прычын.

Яны ідуць ад упартай працавітасці і ахвярнай стойкасці ды непаўторнай самабытнасці яе народа.

Іх вытокі — у партызанскай дзёрзкасці такіх, як Олін, бацькоў.

Яны — і ў самаахвяраванні ды неадольным жаданні давесці справу да канца яе трэнера-бессярэбраніка, які здольны не толькі перці на сваім гарбе праз увесь заграпічны горад маты на трэніроўку для сваёй вучаніцы, а нават палезці праз акно ў Палац спорту, каб юная гімнастка не адчувала сябе адзінокай.

Яны — і ў спрыяльным мікраклімаце, створаным савецкім урадам для сваіх грамадзян. Оля — яскравы паказнік, як пры адпаведных умовах уся нацыя можа ўзняцца да сусветных стандартаў і вышыняў.

Усё пачалося недзе ў Айчынную вайну, калі Беларусь разам з іншымі братнімі рэспублікамі здзівіла свет стойкасцю ды ўразіла сваімі ахвярамі, панесенымі ў змаганні з магутным ворагам. На працягу аднаго пакалення ўзняліся з руін усе гарады і сёлы. Не паспелі мы нават агледзецца — і вось ужо беларускія трактары аруць і ў Тэхасе, МАЗы коцяць па дарогах спякотнай Сірыі, Аргенціны, прадукцыя нашых заводаў разыходзіцца ў 80 краін свету, ураджаі збожжавых патроіліся, беларуская проза, драматургія ды паэзія ўзняліся да сусветных вышынь, нашыя вучоныя прымаюць удзел у міжнародных сімпозіумах, а голас беларускіх дыпламатаў гучыць і ў Савеце Бяспекі ААН.

Адпаведна не адстаюць і спартсмены. Сённяшнія дасягненні гімнастаў, напэўна, у 1945 годзе мала каго кранулі б: паўгалодных, разутых і раздзетых, у разбураных хатах — людзей хвалявала зусім іншае.

Спорт, як трапна заўважыў Леў Касіль,— штука крыху ўмоўная. Тут уладарна праяўляюцца нашы захапленні, вызваляюцца рэфлексы, якія мільёны гадоў дрэмлюць у чалавечым родзе (і вельмі малая надзея, што мы хутка вызвалімся ад генетычнай спадчыны). Але якія б водгукі азарту старажытнага паляўнічага і воіна, якія б эмоцыі ні віравалі на футбольным полі, рынгу, дыване, бегавой дарожцы, турніку, трыбунах, якім бы вялікім ні было імкненне да перамогі, усё гэта замкнута ва ўмоўным коле правіл ды пэўнага сэнсу гульні: сапернік, якога трэба адолець, ніякі не вораг, а ўсяго ўяўны праціўнік.

Спорт — радасць мускулаў, шчаслівае адчуванне здароўя, гульня сілы і спрыту, імкненне да самаўдасканалення. Юнак перажывае напал барацьбы і трыумф перамогі, каб, будучы дарослым, не паддавацца скепсісу, эрозіі

душы,— каб самасцвердзіцца як чалавечая адзінка. Таму наша дзяржава не шкадуе сродкаў на стадыёны, спартыўныя школы, на падрыхтоўку трэнераў, правядзенне спаборніцтваў. Лёгкія, як мала што іншае, для ўспрыняцця людзьмі спартыўныя дасягненні сучасныя сродкі інфармацыі і прапаганды здольны імгненна данесці да кожнага дома і ў кожную сям'ю.

Зрэшты, балельшчыкамі спорту з'яўляюцца і сотні мільёнаў далёка не маладых людзей, а ідзе яно, гэта захапленне, не проста ад дзівацтва. Наша жыццё наладавана непераадольнай прагай перамогі, мы ўвесь час за нешта змагаемся — з сабой, на рабоце, дома, і менавіта таму людзі, падатлівыя на перажыванні, заўсёды за штонебудзь «балеюць» там, дзе справа заключаецца толькі ў бескарысным — каб адно выйграць.

Народу даўно абрыдлі войны. Цяпер мы апрануты, накормлены, жывём у абсталяваных памяшканнях. Што дзіўнага, калі ў людзях рознага ўзросту патрабавальна дае аб сабе знаць прага да той самай своеасаблівай гульні,— няхай жа яны і паспытаюць у ёй асалоды, радасці і захаплення, няхай адчуюць сябе маладымі.

Адным словам, здаровая, не разбэшчаная дабротамі жыцця нацыя, з толькі што загоенымі крывавымі мазалямі ад цяжкай працы, з рубцамі перажытага нядаўна гора, калі загінуў кожны чацвёрты грамадзянін, калі жанчыны выконвалі абавязкі «другога фронту» і замест коней месцамі цягалі плугі і бароны ля святых папялішчаў, дзе яшчэ нядаўна ў вогнішчах з хлявоў і гумнаў гарэлі іхнія дзеці,— гэтая нацыя выбралася на вялікую дарогу.

Оліна жыццё — адна з алмазных успышак у грамадскім і культурным жыцці яе суайчыннікаў.

Новы час надаў майму шматпакутнаму народу такую пачатковую хуткасць, што ён упэўнена выйшаў на глабальную арбіту і таленавітыя яго прадстаўнікі каштоўнымі дыяментамі заблішчалі аж на сусветным небасхіле. Нам вельмі прыемна, што нашая бывалая планета (якую, здавалася б, нічым ужо не здзівіш) гэтак сардэчна, па-мацярынску цёпла прыняла, прывітала і сваё таленавітае дзіця — Олю Корбут. Няважна, што на Алімпіядзе-76 у Манрэалі яна ўжо была не першай. Надзя Каманечы да перамогі ішла праз «школу Корбут». Слаўную гараднічанку на паказальных выступленнях гімнастак у Лондане пасля Манрэаля людзі сустракалі з ранейшым энтузіязмам.

Зусім нядаўна мне надарылася магчымасць перакanацца зноў, наколькі Оля Корбут папулярная ў народзе.

Оля з групай гімнастак давала паказальныя выступленні ў Малайзіі... Калі вярталіся дамоў, адну гімнастку ў Маскве паклалі на лячэнне: яна нечым атруцілася. Клапоцячыся аб зорках нашага спорту, урачы ўзнялі паніку. Не паспела Корбут з'явіцца ў Гродна, а ўжо паліклініка атрымала са сталіцы загад — праверыць, ці не атруцілася і яна. Олю з вакзала «хуткая дапамога» даставіла ў бальніцу.

Па горадзе адразу шуганулі чуткі:

— Вольга мелася выйсці замуж, хлапец яе кінуў, і яна выпіла атруту!

— Ну! На вяселле ўсяго накупілі, пашылі надта дарагі вэлюм. Ужо і сталы накрылі. Сабраліся госці, а малады ў загс не з'явіўся!

— Бо трапіў пад машыну, і ў бальніцу паклалі!

— Няпраўда! Зламаў ключыцу на матацыкле! Бедная нявеста падумала, што забіўся насмерць, і жыць не захацела!

— Учора вечарам пры смерці была!

— Ужо памерла! Па радыё сёння перадавалі — сама чула!

— І я чула! Заўтра пахаванне!

Я ў гэты час кожны дзень сустракаў у горадзе Валянціна і па яго здаволеным твары разумеў: мана,— народ сваіх куміраў любіць абкружаць рамантычнымі гісторыямі. Аднак у чутках было столькі лютасці да ашуканца-жаніха, так шчыра шкадавалі спартсменку, што паступова пачаў трывожыцца і я.

Нарэшце я спытаўся ў бацькі, што ж ўсё-такі здарылася з яго дачкой.

— Людзі развялі плёткі! — паскардзіўся стары ветэран.— У бальніцу званяць гарадскія і прапануюць сваю кроў пераліць Олі! Мне на кватэру тэлефанавалі ўжо нават з Лондана, пыталіся, ці праўда, што дачка трапіла ў аварыю! Кнышу званілі з ФРГ — там у жалобных рамках з'явіліся ў газетах яе партрэты!..

— ?!

— Праходзіла праверку. Заўтра выпісваюць з бальніцы. Выходзіць замуж за «песняра»... Во, прыходзь абавязкова на вяселле...

*1978*

# ДНО

У 1973 годзе ў нашым горадзе адбыўся суд над пяццю былымі паліцаямі. Рэлікты гэтыя прытаіліся сабе ў ціхіх куточках краіны ды пражылі трыццаць гадоў бязбедна і спакойна, покуль работнікі дзяржаўнай бяспекі не вывелі іх на чыстую ваду.

Перад судом разам са сведкамі — цудам ацалелымі ахвярамі гэтых падонкаў — прайшло і дванаццаць былых паліцаяў, якія ў свой час адбылі кару ды цяпер сведчылі на пецярых былых саслужыўцаў.

Шасцідзесяцігадовы мужчына неакрэсленага выгляду цяжка ўздыхае ды суду гаворыць:

— Дзяцінства маё прайшло без бацькоў — сірата я, грамадзяне прысутныя! Таму і маленства ў мяне было цяжкое. Пас кароў... Усё па чужых... Прыйшлі немцы — куды дзецца? — паціскае плячыма.— І пайшоў я ў паліцыю. Памыліўся, грамадзяне суддзі! Вельмі памыліўся, зглупеў!.. Затое потым чэсна прызнаўся, і радзіма мне ўсё даравала. Я надта вінаваты перад бацькаўшчынай, але яна, як маці родная, усё мне спісала і сказала — жыві сабе, Мікалай, на здароўе!.. Грамадзяне прысутныя, выхоўвайце сваіх сыноў і дочак адданымі радзіме, каб яны ніколі не пераходзілі на бок ворагаў.

У зале некалькі жанчын запляскалі ў далоні.

— Што вы тут кранаеце святыя імёны — на апладысменты зарабляеце? — абарваў яго пракурор.— У паліцыі вы ў кашаварах хадзілі? Вы ж разам з іншымі расстрэльвалі дзяцей, жанчын ды старых бабуль, рабавалі ды палілі, білі людзей ды глуміліся над імі!.. Хіба ж гэта даруецца?! Вы ж нават свайго апошняга дзядзьку з Зеляневіч паддалі на расстрэл за адно тое, што вам некалі надраў ён вушы за яблыкі. Мо няпраўда?

Рэпліка з залы: — Расстраляў усіх сваіх ды яшчэ крычыць — пашкадуйце мяне, сірату!

Едкі смяшок збіў паліцая з панталыку, куды падзелася яго бадзёрая найгранасць.

Тым часам пракурор агаляў яго зусім:

— У вас, як выявілася сёння на працэсе,— медаль за храбрасць. За што вы яе атрымалі? Напомнім. Прачэсвалі лес ля вёскі Бяляны і надышлі на сонную радыстку. Дваццацігадовае дзяўчо з рацыяй пасля дальняй дарогі заснула пад елкай на голым снезе. Перад тым, як здаць немцам на расправу, вы дзяўчыну згвалцілі!

— А потым? — прадоўжыў пракурор.— Вось вы вялі праз Гута-Міхалінскі лес затрыманых лесарубаў. Вам здалося, што яны хочуць уцячы, і вы давай іх расстрэльваць! Дзядзька адзін стаў перад вамі на калені, аднак вы са сваім калегам,— пракурор кіўнуў на лаўку падсудных,— стрэлілі яму ў рот! У чатырнаццацігадовай дзяўчынкі вырашылі раней сцягнуць боты і кінулі сябру вашаму цынічны жарт са свайго лексікону: «Каб не папсаваць, бо буду цэліць у грудзі, а траплю шчэ ў халяву!» Затым вы хадзілі паміж тымі, хто шчэ варушыўся, і дабівалі. Ваш калега толькі што паказаў, як вы ля самай дарогі прыканчылі маладую жанчыну — лёгка параненую. Дастрэлілі?

Пасля хвіліны цягучага маўчання паліцай ні то з абурэннем, ні то з жалем, ні то з выклікам заявіў:

— А чаго яна ўздумала якраз у той момант спадніцу на калені нацягваць? Хто б ведаў, што жывая?!.

— Ах-х!..— па зале пракаціўся выбух абурэння.

На лаўцы падсудных — пяць тыпаў. Камандзір узвода карнікаў, трое радавых ды спераду, з апушчанай галавой, кулямётчык Кнап з Зеляневіцкага гарнізона. Худзенькі смяцюх у светлым пінжачку. Яго маладая адвакатка мне расказвала: «Зайду да яго ў камеру, а ён плача. Дам цукерачак, і ён адразу супакойваецца ды робіцца ласкавы, бы дзіця...»

Давала ўжо паказанні пяцідзесяцігадовая жанчына:

— І мяне, дзеўку, выгналі туды ў лес на работы. Як пачалі яны па нас страляць, так кінулася ўцякаць ад бобікаў і я! А гэты, што сядзіць унь спераді ды зыркае воўкам, па мне ўсё разрыўнымі — бах! бах! бах!.. Трапіў! Два гады пластом ляжала і аніяк не магла памерці!.. Кішачкі наверсе ўвесь час сінелі, усё скурай ніяк не зацягвала!.. Ведама, бедна жылі, не было нават солі!.. Здавалася тады — наесца бы ўволю солі і — зажыве!..

Сведка зацягвала сваё паказанне непатрэбнымі дэталямі, і пракурор яе далікатна стрымаў:

— А вы добра памятаеце, што гэта быў менавіта Кнап? Столькі часу прайшло, можаце і памыліцца!

— Ці ж я магу такое не памятаць, таварыш пракурор? Ён жа з гарнізона часта да нас п'яны прылазіў, нават заляцаўся да мяне!.. Гэта ён тут, перад намі, такі смірненькі, бы тая авечка, а каб вы бачылі, які нахабны быў тады!.. Нічога, што маленькі — ніколі сваю бляшаную шапку не здымаў: нацягне яе аж па вушы!.. А калі нас гналі, усё стараўся мяне аблапіць...

— Падсудны Лапуста,— звярнуўся да былога камандзіра ўзвода пракурор.— Карысталіся вы тады разрыўнымі кулямі? На «акцыі» ездзілі ў касках?

З-за канваіраў усхапіўся мажны мужчына і бытта з крыўдай на тое, што яго хочуць тут улічыць у бракаробстве і нядобрасумленнасці, удакладніў:

— Калі адпраўляліся мы на заданне ці праводзілі «акцыі», грамадзянін пракурор, усе дыскі і магазіны ладавалі толькі разрыўнымі, а кулямётчыкам яшчэ выдаваліся і каскі, так точна!

У камандзіра ўзвода — чорная густая шавялюра, укладзеная пад польку. На ім цёмны касцюм, сам ён пад гальштукам... (Паводле слоў адваката, з хаты яму пішуць родныя: «Сцеражы сябе ад скразнякоў, Фёдар, усё з'ядай, што даюць, і не пі сырой вады; напішы нам, якога табе лякарства лепш прысласць, якіх дастаць вітамінаў...»)

Расказваў ужо наступны сведка — былы паліцай з Зеляневіч:

— Нічога ўжо не засталося ў галаве, грамадзяне суддзі. Адно памятаю, што ішлі, ішлі і бачым — вёска. Падпалілі, пастралялі ды адправіліся да іншай.

— Гульня для іх была гэта! — дзівіцца нехта ў зале.

Пракурор паліцаю напомніў:

— Потым на пажарышчы пасля вас заставаліся абгарэлыя трупы жанчын і дзяцей, прывязаныя да сцен дротам. Навошта ж вы іх прывязалі, хіба не разумелі, што ад гэтага іх чакала страшная смерць у пакутах?

Паліцай сцішыў голас:

— Бо загад быў такі, грамадзяне суддзі!.. Што вы ад мяне, простага чалавека, хочаце? Пытайце ў начальнікаў!.. Я пры паляках служыў панам, а прыйшлі немцы, і пры іх стаў служыць! Што загадалі, тое і рабіў, хіба ж я вінаваты ў гэтым?

— Шчэ адзін сірата! — рэпліка з залы.

У час перапынку выйшаў я ў калідор.

Прабіраючыся цераз шчыльны натоўп узбуджаных гараджан, я пашукаў паліцаяў, каб пагаварыць з кім-небудзь з вока на вока. Не цярпелася даведацца, як цяпер такі чалавек адносіцца да страшнага перыяду сваёй біяграфіі і да сваіх учынкаў, бо не толькі важна, якую кару адмерае яму закон, галоўны суддзя чалавеку — ён сам.

Я доўга не мог знайсці патрэбнага мне сведку.

Нарэшце ля туалета, у падвале, надышоў я на сходку якіхсьці людзей. На бочках ад піва і тары з-пад бутэлек

сядзелі ні то грузчыкі, ні то землякопы. А былі яны ўсе якіясьці памятыя, шэрыя, невыразныя з твараў; цьмяныя вочкі гэтых мужыкоў неспакойна бегалі па баках.

Прыгледзеўшыся лепш, я раптам пазнаў нядаўніх сведкаў-паліцаяў — тых, хто былі на свабодзе. Тут ім ніхто не перашкаджаў, яны былі самі сабой і спакойна гутарылі. Я выцягнуў блакнот, ручку і шмыгнуў у цень.

— Не выпусцілі б тады гэтай дзеўкі з «сінімі кішачкамі» жывой, і зараз не было б каму на нас капаць! — сцвярдзіў «сірата».

— Ды трэці ўзвод якраз кінуўся сцягваць барахло з бабаў! — з абурэннем дадаў яго сусед.

— Бытта не паспелі б! — заўважыў той, хто казаў «...ішлі, ішлі і бачым — вёска. Падпалілі...».

А незнаёмы мне паліцай, паказанні якога я правароніў, пахваліўся:

— Адзін наш Кнап у той час аказаўся на вышыні! Мішка хапіў «дзягцяр», упаў каля пня і з двух дыскаў паклаў усіх... Потым немец нас паслаў дабіваць тых, хто шчэ варушыўся!..

— Ну! Загадаў — і куды дзенешся?..

— І трэба ж было ёй чапаць гэтую спадніцу! Было там на што глядзець, было б у яе што прыкрываць — адны жылы! — абураўся забойца.— А скажы якія гэтыя бабы жывучыя — бы тыя кошкі! Ідзі, заткні цяпер ёй рот!

— Чаго яны тут да нас чапляюцца? — абураўся нехта невідочны для мяне.— Мы падстрэлілі там адно пару чалавек, астатнія былі ўжо ўсе трупы, праўда, братва?.. Няхай Кнапа цяпер і судзяць за яго работу!

— У «бляшанай шапцы», пхі-хі!..

— А я скажу вам от што — па савецкаму закону за адну справу два разы не судзяць! Нас жа судзілі ўжо пасля вайны, і мы сваё адпакутавалі! Хто ім дасць права парушаць савецкія законы? — з глыбокім перакананнем пытаўся яшчэ нехта.

І тут яны толькі ўбачылі мяне ды спалохана змоўклі.

— Не рабей, рабяты! — са штучнай бадзёрасцю кінуў «сірата» ды палез у кішэню: — Давай закурым!

Гэтыя тыпы яшчэ нават цяпер былі тымі самымі паліцаямі. Іх не грызла ніякае сумленне, а мучыў толькі жывёльны страх за свае шкуры.

Пра што з імі гаварыць?

*1979*

# ГАЛГОФА СВАЯКОЎ

## 1

Маміны дзядзькі — Волесь і Юляк — жылі ў маленькай вёсачцы Папоўцы.

Яна ляжала ад майго Страшава на палавіне дарогі ў Беласток. Ад нас да яе было аж дваццаць кіламетраў, таму маміных сваякоў перад вайной даводзілася бачыць рэдка.

Браты аднойчы прыехалі на вялікдзень у госці. Папоўскія бабы адразу адправіліся на кухню да мамы хваліцца дзецьмі, а мужчыны засталіся на падворку. Юляк з бацькам прысеў ля калодзежа на цэментавую балейку і павёў размову пра палітыку. Затое сухі і высокі, як дрыль, яго старэйшы брат пачаў жыва ды голасна, каб чулі нават суседзі, правіць нам, як у «царскую» вайну ён абдурыў генерала, а такі быў стралок з вінтоўкі, што «з калена» біў і зайцоў.

Маміны дзядзькі ад'ехалі, і бацька даў ім такую апінію:

— Юляк — хлапец фартовы і — «сімпатык» [1]. А Волеся адно слухай. Ён табе нагаворыць — «сем вёрст да нябёс і дарога усё лесам»! А наогул — і ён чалавек людскі.

Калі зусім пацяплела ды зазелянела трава, бацька прывязаў да воза гадавалую цялушку, пасадзіў у палукашак мяне з братам, і ў госці да маміных дзядзькоў адправіліся цяпер мы.

У Папоўцы я налічыў усяго шэсць дамоў. Паводле надпісаў над вокнамі, у пяці жылі Дзянісікі, а ў самай крайняй хаце — сям'я Майсакоў.

Вёску з трох бакоў ахінаў Жэдненскі лес, да чацвёртага — прытыкаў роўны прасцяг поля з балоцечкам. На балоцечку пасвіліся каровы, і там прабягала грэбля шашы Беласток — Ваўкавыск.

З братам мы ўзяліся распрагаць каня, а бацька з Юлькам прыселі на бервяно ды сталі адразу «палітыкаваць» зноў. Выйшла з пінжаком адно крыху маладзейшая за нас дзяўчынка, загадала:

— Тату, накіньце сабе на плечы, бо з балоцечка сы-

---

[1] Так у Заходняй Беларусі называлі тых, хто дапамагаў падпольшчыкам, не будучы членам кампартыі.

расцю цягне! А шчэ мама казалі, каб вы доўга на сонцы не вэндзіліся, не пяклі галавы!

Дзядзька Юляк хварэў на сухоты, пра яго гэтак клапацілася дачка Лена. Затое нас яна дзічылася, як дзічыліся яе мы.

Каня распрэглі.

Адвязалі цялушку ды паперлі на поплаве пасвіцца на цэлае лета з папоўскім статкам.

Заглянулі ў студню — ці глыбокая.

Як мы ні ўзіраліся на захад, а Беластока з яго камінамі відаць не было. Полем і лесам нас не здзівіш. Размова пра палітыку, якую вялі мужчыны, не цікавіла. Дзядзькі Волеся з яго байкамі ўсё няма. Што нам рабіць?

У Папоўцы мне і брату вельмі хутка зрабілася сумна. Давай церабіць бацьку за рукаў, каб ехаць дамоў.

Потым, калі ўжо Дзянісікаў не стала, я не раз сябе касціў, што некалі так легкадумна ставіўся да папоўцаў і нават не прыгледзеўся як след да дзяцей Юлька і Волеся — няшчасных чалавечых парасткаў, галінку мамінага роду, на якой абарваўся ланцужок пакаленняў.

Ніколі ўжо не даведаюся, што папоўскія сваякі хацелі крыкнуць у апошнім бліску свядомасці. Зрэшты, не так ужо і цяжка ўявіць сабе гэта з тысяч падобных сітуацый. Гітлераўцы з папоўцамі распраўляліся пры сведках. Падрабязнасці галгофы сваякоў я збіраў па крупінках ад людзей, якія былі каля няшчасных з самага пачатку трагедыі да канца.

## 2

У першую ваенную зіму каля Папоўкі атабарылася падпольная група акружэнцаў — салдат і цывільных. Пры адступленні нашай арміі Дзянісікі пераапраналі вайсковых, прыхавалі зброю і потым усё вайсковае дабро перадалі лясным хлопцам. Адправілі да іх і байцоў, якіх вылечылі ад ран. Усе гэтыя людзі абсталявалі сабе прасторную цёплую зямлянку і доўгі час жылі ў дастатку ды так бяспечна, што перасталі нават выстаўляць і варту.

Прамысловы і адміністрацыйны цэнтр Беласток прыцягваў увагу нашай разведкі. З лесу ў вялізны горад адразу не пойдзеш, для гэтага партызаны пачалі выкарыстоўваць жыхароў Папоўкі. Неўзабаве маміны дзядзькі мусілі бываць у горадзе кожны дзень ды вазіць і прывозіць фурманкай падпольшчыкаў, а ў саломе — ладунак.

Так мінулі вясна, лета і восень.

У другую зіму да дзядзькі Юлька зацясаўся ў давер мацёры правакатар яшчэ з часоў санацыйнай Польшчы — Бівойна Яўген [1]. Ён праз Дзянісіка пранік і ў атрад.

Малады нягоднік пражыў у зямлянцы ля Папоўкі аж чатыры месяцы. Бівойна ўсё разведаў, разнюхаў, разгледзеў, а затым, нібыта па справе, адправіўся ў горад.

Пятнаццацігадовы партызан Вася Грэсь на другі дзень знікнення правакатара сабраўся ў сваю вёску Пясчанікі да бацькоў. Адразу каля лагера хлопец сутыкнуўся з ротай немцаў ды ахнуў: салдаты ўжо выцягваліся ў ланцуг, каб акружыць зямлянку, а куды немцам ісці, паказваў Бівойна, з якім учора яны яшчэ побач адзін з адным спалі.

Вася дабегчы да сваіх паспеў.

Групе без панікі ўдалося з пасткі вышмыгнуць, пакінуўшы немцам адно тое, што партызаны пад гарачую руку палічылі малавартасным.

Немцы падабралі ў зямлянцы хлеб. Узялі буханкі з папоўскіх хат, параўналі іх ды ўбачылі: усё, што гаварыў Бівойна, спраўджваецца.

## 3

Такім чынам, зямлянку разгрamілі.

У наступны дзень з Беластока ў Папоўку прыбыло дваццаць пажылых немцаў з «ляндсвера». Афіцэр загадаў дзядзьку Волесю з сям'ёй перабрацца ў гумно, дзеркачом добра вышараваць і вымыць памяшканне, затым у доме старэйшага Дзянісіка пасяліліся салдаты. Афіцэр ля ганачка паставіў варту. На дарожкі вакол вёскі паслаў патрулі.

Атрупянелыя папоўцы не маглі надзівіцца: міналі дні, а немцы нікога не арыштоўвалі, не білі, не валаклі на допыт, здавалася, нават мала чым цікавіліся. Днём і ноччу вакол вёсачкі хадзілі патрулі, усё разглядалі, бы турысты, ды нешта запісвалі, пазіраючы сабе на гадзіннікі. Калі ж ім было надта сумна, ставілі на валуны бляшанкі ад кансерваў і білі па іх з пісталетаў.

---

[1] Клічкі нямецкага агента: «Кароль 04-А-32», «Вацэк». Пасля вайны апынуўся ў ЗША. Скончыў архітэктурны інстытут, жыве ў Мініполіс, штат Мінасета. Зараз пішацца Бівона Яўген (Аляксандр Амільяновіч, «Заніканцэ эха». С. 235, выд. МОН, 1977 г., Варшава).

У Волесевым доме толькі дзяжурны сядзеў у поўным абмундзіраванні ды з паперак, якія прыносілі патрулі, нешта старанна выпісваў у тоўсты сшытак. Вольныя ж ад службы салдаты сноўдалі ў расхрыстаных кашулях ды шлёпанцах без заднікаў, лянїва чысцілі вопратку ці абутак альбо, прываломшы аднекуль патэфон, запускалі савецкія пласцінкі ды слухалі песні.

З Калоднага і Пясчанікаў спачатку мужыкі падсылалі ў Папоўку на разведку пастушкоў. Затым і самі адважыліся заходзіць. Немцы ўсіх прапускалі, ветліва пагутарыўшы. Вясковыя, хто хацеў, мог сабе ехаць, куды душа жадала.

У папоўцаў пасялілася надзея.

Адзін дзядзька Юляк не паверыў такой ідыліі. Ён пасадзіў у фурманку жонку, траіх дзяцей. Яшчэ заладаваў сякі-такі посуд, мяшэчкі круп ды сабраўся пераязджаць у Пясчанікі да жончыных сваякоў. Лену адправіў туды пехатой яшчэ з раніцы.

За вёскай падводу спаткалі патрулі. Пажылы немец, які крыху размаўляў па-польску, Юлька спыніў і пацікавіўся:

— Куды сабраўся?

Немцы паводзілі сябе добразычліва, са стрыманай ветлівасцю, і ў Юлька вырвалася само:

— А халера яго ведае!.. От, еду куды вочы глядзяць!.. Дачакаешся тут дабра хіба?!.

— Ты — партызан?

— Не!

— То чаго табе баяцца?

— ...

— Дурань, вяртайся!

І немцы, з усім вайсковым рыштункам, павалакліся па дарожцы далей, нават не цікавячыся, як сябе будзе паводзіць фурман.

Калі патрулі аддаліліся, Юлькава жонка — цётка Марыся — здзівілася:

— Гы, нават нічога не сказалі, што збіраемся пакінуць вёску, ты ба-ачыш?!

— А ты перад імі адразу і растапырся, павер!

— Вачэй у цябе няма?! Паміркоўныя лю-удзі, Юляк! Ім самім тут, бедным, не соладка — гэткая цяплынь, а яны ва ўсім суконным і ў ботах ды абладаваныя жалязякамі, бы вярблюды!..

— Вядома, служба ў іх сабачая!..

— А я пра што кажу?.. Слухай, Юляк, мо адвязі нас дадому, а ў Пясчанікі едзь сам. Ты — справа іншая: заўсёды палітыкаваў, за польскім часам на тайныя сходкі хадзіў, штрэйкбрэхераў у лесе ганяў, а ў чым вінаватая я з малымі, з Ленай?

— На вайне не вельмі шукаюць вінаватых...

— Ай! Колькі тут праходзіла воен, успомні, але ж дзяцей ды бабаў ці хто чапаў?

— Яно вядома... Але...

— Каму мы патрэбныя, слу-ухай?!. Бо ўсім вядома, што без нас і свет не можа існаваць!.. Доўга не думай — заварочвай каня назад!

Заінтрыгаваныя падарожжам малыя ўзнялі гвалт:

— Паедзем у Пясча-анікі, ма-ам!..

— Да ба-абы хацу-у!..

— А ў вас парады ніхто не пытае!

— Сціхніце! — абсадзіў дзяцей і бацька, збіраючыся сапраўды разварочваць падводу.

Вярнуўшыся ў вёску, Юляк застаўся і сам. Толькі выказаў непакой аб старэйшай дачцэ:

— Хай мо Лена адна там пабудзе?..

— Хай пажыве без нас,— падтрымала яго цётка Марыся.— Пабачым, дзе каму лепш будзе!..

## 4

Паводзіны немцаў тлумачыліся проста.

Аддзел барацьбы з партызанамі Беластоцкага бэцэрка ўпрасіў шэфа гестапа, Герберта Цымермана, дазволу, каб на прыкладзе Папоўкі прааналізаваць метады падпольшчыкаў і на аснове назіранняў для крайс і амтскамісарыятаў ды камендантур выдаць спецыяльную кніжку — інструкцыю.

Папоўцам і ў галаву не магло прыйсці, што кожны іхні крок дзяжурны немец круглыя суткі запісвае ў спецыяльны журнал — калі, якая сям'я клалася спаць, хто днём прыязджаў, хто з малых ці дарослых, па якой прычыне і як надоўга пакідаў вёсачку, што выносіў, прыносіў, вёз, што і якім чынам перадаваў.

Эксперымент немцам даў мала.

І астатнім папоўцам — не толькі Юльку — у гэтыя дні раптам адхацелася куды-небудзь ад'язджаць.

Юлькавай жонцы — цётцы Марысі — надышла пара забіраць ад беластоцкай краўчыхі для дачкі, нявесты Ле-

ны, бялізну. Марысіну маці ў аптэцы даўно чакала лякарства. Ва ўсіх пяці дамах Дзянісікаў і ў Майсака выйшла газа, запалкі і соль. На поплаве паспела для касьбы трава...

Усё цяпер людзям здалося малаважным.

Папоўцы, якія, бывала, і дня не маглі пражыць без Беластока, зараз пра яго цалкам забыліся. Вопытныя падпольшчыкі Дзянісікі рэдка куды адпраўлялі і пасланцоў. Людзі з навакольных вёсак некалькі разоў, падаслаўшы пастушкоў, зазірнуўшы да іх і самі, далі папоўцам «спокуй»,— сачылі за вёсачкай зводдаль.

А яны сядзелі вечарамі ў цемры. Пастушкі нават не гналі далёка ад будынкаў кароў. Усе раптам адчулі патрэбу быць разам. Нават сабакам было дазволена заходзіць у хату. Жанкі дагледалі мужыкоў, мужчыны парабіліся рахманымі, дзеці слухаліся бацькоў. Старыя і то не маглі ўцягнуцца ў работу.

Марысіна маці каторы раз бралася прарэджваць расаду, але кідала яе, як непатрэбны занятак, ды з чуласцю ласкала ўнукаў, прыгаворваючы:

— Ах, мае вы ры-ыбанькі, як не ў час вы на свет з'яві-іліся! Калі б мамка ваша ве-едала, ці ж спяшалася б раджа-аць вас у такую хві-ілю?!.

Хоць і падлашчваліся некаторыя немцы, папоўцы парабіліся сур'ёзнымі і не вельмі ўступалі з імі ў размову.

Вось вольныя ад «вахі» салдаты паздымалі кашулі, пакладаліся ў агародчыку дзядзькі Волеся ды пачалі на сонцы драмаць. Салдат у касцы, што стаяў на пасту, давай заляцацца да Лены. Але гэтая ладная васемнаццацігадовая нявеста была не ў настроі. Яе якраз аблаялі бацькі, што самавольна вярнулася з Пясчанікаў. Лена з сумам зараз глядзела некуды цераз плот ды машынальна церабіла ў сябе на грудзях русую касу.

Немец нарваў пад штыкецінамі крапівы, паклаў зялёныя сцяблінь сябрам на голае цела.

Салдаты скрозь дрымоту неўзабаве пачалі мычэць, раздзіраць сабе кіпцюрамі валасатыя грудзі. Вартавому гэтага і трэба было. Ён зарагатаў, заахвоціў вачыма пасмяяцца разам і дзяўчыну. Аднак курносенькі, загарэлы яе твар ды лоб з маленькімі прышчыкамі заставаліся ўсё гэтаксама сур'ёзныя.

Што ж, Лена немца пазнала. Менавіта ён сказаў бацьку: у зямлянцы знайшлі з Папоўкі хлеб, пра сувязь вяс-

коўцаў з партызанамі ім вядома, як і ведаюць пра тое, што Дзянісікі лячылі раненых байцоў.

Гэтым часам паголеныя, апранутыя ў святочныя кашулі, пінжакі ды ў начышчаных ботах папоўскія мужчыны сабраліся на пругмені каля Юлькавага гумна. Усе курылі, пазіралі на немцаў ды абменьваліся заўвагамі:

— Чамусьці вартавы сёння ў «бляшанай шапцы», як кажуць мае малыя.

— І патрулі каскі напялілі, адпраўляючыся ранкам на дарожкі — раней гэтага не было.

— Пра свае мазгі пачалі дбаць.

— А што думаеш? Стрэліць хто з куста, і чэрап потым не заклеіш...

— Покуль стрэляць у іх, яны панішчаць нас.

— Вядома, панішчаць, няма сумнення.

— А што рабіць?.. Падацца ў Пінскія балоты?.. З малымі і бабамі?.. Мая кабета і слухаць не хоча!

— І маёй пра гэта нават не заікайся...

— А мо не панішчаць?.. Пасля Сталінграда немцы якіясьці ўжо больш рахманыя і ветлівыя?.. Нават параўнання няма з тымі немцамі, што былі летам сорак першага!..

— Ну! Унь, вакол Белавежы спалілі аж восемдзесят восем вёсак, аднак людзей не панішчылі — павывозілі ў Беласток!

— Хіба Гітлер дурны нішчыць і іх? Яму цяпер нявольнікі патрэбныя!

— І шчэ колькі — кожны работнік цяпер у яго мусіць быць на ўліку!

Працавітыя папоўскія мужчыны былі надта практычныя.

А яшчэ яны ўсе, як на падбор, былі рослыя, у сіле веку і не баязліўцы. Каб ваенкамат у свой час паспеў іх прызваць на вайну, гэта былі б, напэўна, вынослівыя, дысцыплінаваныя салдаты з дасканала вычышчанай зброяй ды з рэчавымі мяшкамі, дзе кожная казённая лапінка ці маслёнка занімала б сваё, адпаведнае месца. З такіх не бывае здраднікаў. З такімі ахвотна ідуць у разведку. А покуль жывыя, такія для ворага — зубы паломіш.

Пайсці папоўцам у лес, падаставаць прыхаваную зброю ды зашыцца ў прыцішаны сасновы пошум — справай простага, аднак пра гэта ніхто і не думаў. Верныя сваім жанкам і дзецям папоўскія мужчыны трапілі ў экстрэмальныя ўмовы. Яны зараз нагадвалі тых фермераў

з амерыканскага баевіка, у якім гангстэры захапілі дом, узялі пад прыцэл дзяцей і кабет, не клапоцячыся пра гаспадароў, ведаючы аж занадта, што сялянская сям'я — адно цэлае.

## 5

Праз дзень пасля таго, як дзяжурныя надзелі «бляшаныя шапкі», у Папоўку прыкаціла крытая машына з новымі немцамі. Усе яны на галаве таксама мелі каскі.

— Ой, па каго яна?! — ускрыкнула цётка Марыся, убачыўшы цераз акно брызентавую буду.

Маці пляснула рукамі:

— А я ўсю раніцу гадаю: чаму гэта дзісь сніліся мне мама?!. Даўно не з'яўляліся, а сёння — бы наяву! Усё мяне клікалі: «Хадзі да нас, дочачка, хадзі-і!..»

— Няўжо, думаеце, прыехалі нас страляць?

— Ніц не зробіш, Марысечка, што ўжо будзе!.. Што бог дасць людзям, тое і нам!..

У гэты момант вялізны нямчыска ў рагатай касцы адчыніў ботам дзверы, зароў:

— На, русішэ швайн, р-р-раус!.. Шнэль, выходзіць!.. Але-е!.. Вшыстко, вшыстко!.. Лё-ос!..

— Ну во-о, як каму, а нам — бог ужо даў! — з адчайнай злосцю сказала Марыся ды кінулася да дзяцей.

Калі Юляк садзіў сям'ю на фурманку, немцы ўжо некуды валаклі пастраляных свіней. Дурныя куры дзяўблі спежачкі акрываўленага пяску, а салдаты, рагочучы, шчоўкалі іх па адной з пісталетаў ды піхалі сабе ў брызентавыя сумкі. Бойкі певень узляцеў на паркан, па-свойму падаў курам сігнал трывогі, але куля змяла і смельчака. У будзе скуліў перапалоханы Бобік...

Праязджаючы ўздоўж дома, Юляк праз вокны паспеў убачыць, як той самы вялізны немец у яго «велькай хаце» з вазонамі напіхаў ужо пад стол саломы з выпатрашаных матрацаў, а зараз цягаў з ікон ільняныя ручнікі ды кідаў туды таксама. Практычны гаспадар з гарачкі, таму яшчэ і без шкадавання, падумаў:

«Што ж, дом зусім новы, крыты дахоўкай, падпаліць яго не так і проста!.. Ат, халера яго бяры, збудуем сабе новы, абы жывымі пакінулі!»

Сабралася іх шэсць фурманак — з кожнага дома па адной. Усё гэтак жа ў касках, з пісталетамі ды гранатамі за халявамі немцы на трох пясчаніцкіх падводах трымаліся зводдаль.

Вакол папоўскіх фурманак круціліся на ровэрах паліцаі з Гарадка — усе сем чалавек. У нашай мясцовасці немцы мундзіраў такім не выдавалі. Паліцаі былі ў белых кашулях, нават пад гальштукамі і ў святочных пінжаках — выглядалі на паўпанкаў са стрэльбамі за плячыма, якім уздумалася пакатацца на вольным паветры ды ў кампаніі.

Ніхто з папоўцаў не прасіўся, не лямантаваў, не плакаў, не прамаўляў ні слова — нават дзеці на тварыках захоўвалі выраз суровай пакоры.

У такім настроі ўсе выехалі на Беластоцкую шашу і павярнулі ў бок Ваўкавыска.

— У Гарадок едзем!..— сталі папоўцы перадаваць адны адным, але адразу змоўклі.

Толькі тут, з высокага грэбеня шашы, яны раптам убачылі, што над лесам, дзе павінна быць якраз іхняя вёсачка, лянiва ўзнімаюцца клубы шэрага дыму.

Жанчыны паціху заенчылі ды пачалі хрысціцца.

Бах! — глуха прагучаў вінтовачны стрэл.

У кювеце слаба віскнуў сабака і задрыгаў нагамі ў перадсмяротных канвульсіях. Паўпанкі на ровэрах зарагаталі.

Аж на шашы, цягнучы за сабой доўгі кавалак ланцуга, дагнаў Юлькаву фурманку Бобік, і яго застрэліў паліцай Дэц. Нехта запрапанаваў стралку ўзяць на памяць ланцуг, і таму паліцаям зрабілася весела.

## 6

Памясцілі іх у Арчыкавай мураванцы.

То быў дом у Гарадку, дзе немцы трымалі арыштантаў у час допыту, перад расстрэламі ці адпраўкай у турму (і мы з братам сядзелі ў ім да вывазу ў канцлагер Штутгоф). Дзеля гэтага ў будынку фабрыканта Арчыка немцы выламалі перагародкі, закратавалі вокны, абнеслі падворак цяглянай сцяной. Людзей трымалі на падлозе, засланай саломай.

Папоўцы жылі ў Арчыка з тыдзень. Вартавалі іх толькі паліцаі і за гарэлку ўсіх пускалі да арыштантаў.

Мае страшаўцы папоўцам насілі махорку.

Заходзілі да іх проста пагутарыць, падтрымаць дух.

З Пясчанікаў кожны дзень прывозілі ім малако, хлеб, дровы, каб варыць страву.

Каб сваякі былі хоць крыху спакайнейшыя, наша ма-

ма з'ездзіла ў Беласток да краўчыхі, прывезла цётчынай Лене бялізну, Марысінай маці — лякарства; Юлькава дачка папрасіла туалетнага мыла, каб памыць галаву, мама заадно купіла і яго.

Мужчыны збіраліся ў кутку Арчыкавага падворка ды зноў ламалі галаву:

— Уцячы? Зусім нявелькі фокус! Паліцаю, што унь стаіць у браме на варце, нас абсалютна не відаць. Узлезь адзін аднаму на плечы ды пераваді за мур!..

— Ну! А там гарадоцкімі агародамі дапаўзеш да рэчкі, перабрыдзеш Супрасль і — у лес, на волю!

Дзядзька Юляк паддаў жару:

— Дэц, халера, сёння чамусьці да маіх ботаў надта прыглядаўся — бытта я ўжо стаў пакойнікам. Мо ведае што?

— Уцячы — то ўцячэш, але хіба за табой пойдзе баба? Скажа — балотам смярдзіць і камароў там поўна, куды з дзецьмі я павалакуся?!.

— Хлопцы, дальбог, трэ пачакаць. Бачыш, і на фронце запанавала цішыня!

— Але! То ўсё немцаў перлі, а то — замерла!.. Чакалі ўжо два гады таго вызвалення, а сколькі цяпер яго чакаць — пяцьдзесят, сто?!.

— О-о, гэта, напэўна, будзе няхутка!.. А з намі, магчыма, усё яшчэ ўладзіцца, няма чаго панікаваць. Успомніце: і з белавежскіх вёсак спачатку народ звязлі ў Гайнаўку ў тартак, бы нас сюды, але потым усіх адправілі да Беластока, у пустыя яўрэйскія кватэры! А што Дэц так гаворыць? Разбэсціўся, падла, вочы так і бегаюць па арыштанту, калі ўбачыць на чалавеку што-небудзь ладнае, каб яму іх выперла!

І мужчыны насцярожана змоўклі.

Яшчэ больш устрывожаныя былі жанкі. Глядзелі яны на малых, а сэрцы кабет абліваліся крывёю. Бо дзеці і ведаць не хацелі пра тое, якая навісла пагроза,— у іх зараз дзейнічаў адвечны механізм прыроды: малым надта ж патрэбна было, каб сардэчкі іхнія біліся, лёгкія качалі кісларод, вочы пазнавалі свет, а самі яны адчувалі мускульную радасць ды падалі ад знемажэння.

Калі сваёй беганінай малыя апрыкралі і паліцыі, ім дазволілі вылятаць на вуліцу — да гарадоцкіх дзяцей. Цяпер мацяркі хоць і палахліва, але нават з замілаваннем ды гонарам пачалі назіраць цераз краты насцеж адчыненых Арчыкавых венецыянскіх акон, як іхнія пацехі гу-

раляюць у «вайну», бяруць «у палон немцаў», «лечаць раненых», даючы з бутэлечкі папіць «ёду».

Іхняе замілаванне працягвалася нядоўга.

Юлькаў малы неўзабаве прыляцеў з вуліцы ды з непасрэднай дзіцячай цікаўнасцю прыстаў да Марысі:

— Ма-ам, праўда нас будуць расстрэльваць?.. А калі-і?.. Хутка ўжо, ма-ам?

Марыся анямела — сын прынёс плётку з мястэчка ці там што-небудзь ведаюць?

Яе маці пацвердзіла:

— У горадзе, дочачка, пра ўсё вядома. Ну, во, настае нам і кане-ец! — старая ўздыхнула і перахрысцілася.— Што зробіш, застрэляць, то чалавек хоць адмэнчыцца.

— Што вы вярзеце, мамо, мы ж тут з малымі?! — Марыся забегала па саломе, не ведаючы, за што хапацца.— Ой, трэ хоць Юлька падгаварыць, каб уцякаў!.. Ну, во-о, дапалітыкава-аўся!..

## 7

У наступны дзень два хлопчыкі з Пясчанікаў прывезлі якраз папоўцам свежае малако, як зноў з'явіліся немцы ў касках — чалавек з трыццаць.

Здарылася гэта трэцяга чэрвеня 1943 года цёплым летнім днём.

Арыштаваных — усяго 43 чалавекі (з пясчаніцкімі: іх немцы ўжо не адпусцілі, як хлопчыкі ні прасіліся) — пасадзілі на падводы, аддзельна мужчын ад жанок, ды накіраваліся на конскія могілкі. Зараз сюды прывозілі на расстрэл уцекачоў з лагера ці — беглых з Германіі.

Прыбыўшы на месца, немцы скінулі з фурманкі лапаты і павялі частку мужчын капаць яму. Афіцэр наском бота адкрэсліў на пяску квадрат — шэсць метраў на два, гыркнуў папоўцам, каб браліся за работу, ды пайшоў ставіць салдат у ачапленне. Размясціўшы сваіх немцаў, астатніх папоўскіх мужчын паклаў адзін да аднаго ўпрытык носам на зямлю, рукі загадаў ім узняць на патыліцу ды паставіў над імі аўтаматчыкаў. Малады афіцэрык рабіў усё без лішняй паспешлівасці, але ўпэўнена, рашуча,— як чалавек, які ва ўсім гэтым мае вопыт і ведае толк. Па ім было відаць, што немец паспытвае ціхую радасць за сваю сумленную стараннасць ды ад таго, што ўсё ідзе покуль што як належыць.

Папоўскія мужчыны, здавалася, капалі яму вельмі

звычайна і без нервознасці, але што ў іх было на душы, апісаць не бяруся. Пэўна адно: не адзін з іх цяпер, вядома, касціў сябе за тое, што займаўся самаашуканствам, слухаўся жонкі і не спрабаваў шукаць ратунку, калі яшчэ было магчыма. Толькі на краі магілы яны выразна ўбачылі: можна ж было параспіхваць дзяцей, жонак па сваяках і знаёмых у суседнія вёскі, а самому ісці — куды хочаш. Цяпер заставалася здаволіцца тым, што жыццё сваё яны скончаць разам з сем'ямі. Зрэшты, гэта было не так і мала. Толькі ў падобных сітуацыях чалавек здольны адчуць: роднасць мае сілу большую за смерць.

Акружаныя паліцаямі жанкі з малымі ў гэты час чакалі свайго жахлівага моманту ў хваінках. З застылымі слязамі на вачах жанчыны стараліся забавіць малых, давалі ім з бутэлечак малако, паілі вадой, адна з адной развіталіся, старыя маліліся, і ўсе — як бы набіралі духу перад канцом.

Цяжка паверыць, але некаторыя дзеці, уткнуўшыся мацяркам у прыпол, самым звычайным чынам... спалі.

Знаёмы Дзянісікам пажылы салдат, пашаптаўшыся з маладым афіцэрам, накіраваўся раптам да кабет. Усе замерлі, бо падумалі — немцы будуць іх гвалціць. Вось каска салдата металам зазвінела аб цяжкія галінкі сасонніку, заскрыгаталі на жвіры цвікі яго падэшваў, і немец апынуўся каля іх.

З цеснага жаночага клубка салдат за руку вырваў Лену, піхнуў яе ў сасоннік, загадаў:

— Вэг!

Заплаканая дзяўчына няўцямна паўзіралася на немца, на сваіх.

— Вэг! Р-р-раус!..— зароў ужо салдат ды замахнуўся прыкладам.

Жанчыны салдата зразумелі першыя і дружна падхапілі:

— Ён цябе, мусіць, адпускае!.. То ідзі-і!..

— Я адна не хачу-у!..

— Ідзі-і, Леначка, ідзі-і!.. Ратуйся хоць ты і будзь шчаслівая!!

— Шчэ пясчаніцкіх хлопчыкаў адпусціце! — пракрычала немцу Майсачыха.— І ўсіх нашых малых!..

— Фэрфлюхтэ руссэ!!.— з грымасай пакрыўджанага дабрадзея, які пакутавае з-за свайго характару, салдат са здзіўленнем паціснуў плячыма, бытта сказаў: «Ты глядзі, а ім, выходзіць, гэтага яшчэ мала?!.»

Дзяўчына знікла, а жанчын бытта прарвала. Яны сталі галасіць, абзываць немцаў катамі, вылюдкамі і звярамі. Паліцаі прыняліся малаціць іх прыкладамі. Мужчыны з лапатамі кінуліся жанкам на падмогу. Афіцэр падаў каманду — салдаты адкрылі страляніну і навялі парадак.

Праз паўгадзіны магіла была гатовая.

Усім загадалі распранудца, вопратку класці мужчынам асобна ад жанчын, збоку ставіць абутак, а яшчэ далей — акрываўленае адзенне. Мацяркі выпрасілі ў афіцэра дазволу ды сыры халодны пясок у яме выслалі цёплымі хусткамі, на іх паклалі сонных дзяцей, пасадзілі большых ды, як наседкі, падабралі малых пад сябе. Зверху жанок абнялі мужыкі (калі мой бацька з матчынымі братамі потым іх раскапалі, каб перахаваць на могілкі, цэлы так і ляжалі, а зверху ўсіх — дзядзькі Юляк і Волесь).

Стралялі папоўцаў у патыліцы, спіны. Над страшнай крывавай бойняй зноў узняўся жаночы лямант, але паступова згас.

Па немцаў неўзабаве прыкаціла брызентавая буда. З кабіны выбраўся тоўсты фельдфебель з каністрай і адмераў салдатам па кубачку шнапсу, выдаў па кавалку каўбасы. Тады афіцэр папёр паліцаяў звалакчы ў яму і тых, каго забілі ў час страляніны, прысыпаць папоўцаў пясочкам, і пазабіраў лапаты. Затым ён пасадзіў салдат у кузаў, і грузавік ад'ехаў.

Паліцаі адправіліся ў Гарадок на ровэрах. У мястэчку ў гэты дзень яны пахваліліся, што, калі папоўцаў засыпалі, яшчэ варушыўся пясок ды выразна было чуваць, як у яме пішчыць дзіця.

## 8

І чацвёртага чэрвеня прыпякала гэтаксама летняе сонца.

У гэты дзень за Пясчанікамі пастушкі ўбачылі якуюсьці дзяўчыну ў мокрай сукенцы ды з распушчанымі русымі валасамі. Яна брыла па Супраслі супроць цячэння, выбіраючы, дзе ґлыбей. Напаткаўшы яму, садзілася ў яе, але, убачыўшы, што вада толькі па шыю, усхоплівалася ды брыла зноў.

Зґледзеўшы хлопчыкаў, дзяўчына раптам віскнула злым, істэрычным ґоласам:

— Пацаны, ану — марш адгэтуль! Каму кажу? Марш усім!! Я не хачу, каб вы на ГЭТА ўзіраліся!!

Па голасу дзяўчыну пастушкі адразу пазналі і сыпанулі ў вёску.

— Там Лена — папоўскага Юлька — утапіцца ў Супраслі хоча! — залямантавалі на ўсе Пясчанікі.

Умомант збегліся да рэчкі мужчыны. Але як яны ні шнырылі па кустах лазы, ні паролі тычкамі ў рачныя яміны, як ні глядзелі за купіны — ні дзяўчыны, ні цела не знайшлі.

Мужчыны ўжо ведалі, што з усяе Папоўкі засталася толькі жывой Юлькава Лена. Той-сёй заўважаў, як учора пад вечар ды сёння раніцой сукенка нейкай дзяўчыны мільгала цераз палоскі. Бабы яе нават клікалі, але незнаёмая людзей дзічылася. Цяпер, калі ўпэўніліся, хто гэта быў, усе пачалі шкадаваць, чаму не затрымалі.

Пясчаніцкія мужчыны на балоце пастаялі ды абмеркавалі выпадак. Да паводзін дачкі Дзянісіка адносіліся ўсе з разуменнем. Кожны ўслых выказаўся нават, як бы сябе паводзіў і ён, калі б на вачах забілі ўсю радню ды ён застаўся на свеце адзін, як кол. Быў бы на фронце ці ў партызанах, то пры таварышах, напэўна, забыўся б трохі ў баі ці папрасіўся б на самае небяспечнае заданне і адвёў бы душу, але ж тут?!.

Простыя сяляне ў даным выпадку выйсця для Лены не бачылі. І праўда, ёй, беднай, хоць ты ідзі ды і ўтапіся. Аднак, разыходзячыся, мужчыны доўга яшчэ шукалі па кустах і пералесках, спадзеючыся ўсё ж такі ўбачыць дзявочую постаць ды Лену пацешыць, абагрэць, накарміць ды як-кольвек ратаваць.

А яна аб'явілася толькі аж сёмага чэрвеня ў Гарадку. Дзе гэтыя тры дні прападала, ніхто не ведаў, адно пэўна — ні да сваякоў, ні да знаёмых заглядаць нават не спрабавала.

9

Ля камендатуры ў той момант стаяў у начышчаных да бляску хромавых Юлькавых ботах паліцай Дэц. Дзяўчына да яго падышла і надзвычай проста праказала:

— Здрастуйце! Гэта зноў я!

Дэц не паверыў сваім вачам:

— Ты-ы?!.

— Ну.

— Вярнулася?!

— Ага.

— Жыць табе надаела?!

— **Надаела.**

— Я-ак?

— А — так,— яна ўздыхнула.— Хай і са мной будзе ўсё тое, што было з мамай, татам і ўсімі нашымі. Хачу, каб мяне таксама расстралялі.

— Ты — усур'ё-оз?!.

— Усур'ёз.

У гэты момант на ганак выйшаў апісаны ўжо мной у «Пушчанскай адысеі» амтскамісар, які лупцаваў кульбай бацьку за падсвінкаў. Дэц імгненна папpавіў гальштук, абцягнуў пінжак, стаў смірна ды пачаў тлумачыць падзею. Па-нямецку гаварыў ён слаба, а тут служака яшчэ спяшаўся, бо яму хацелася надта ўразіць начальства.

Шчуплы, бялявы, сярэдніх год вайсковец у чыне фельдфебеля слухаў, слухаў яго балбатню ды не вытрываў. Немец паклікаў за перакладчыка яўрэя з тых, што рамантавалі ля камендатуры вуліцу.

Рыжы барадач, выслухаўшы ўважліва дзяўчыну, немцу аб'явіў:

— Вар'ятка яна, гэр шэф!

Фельдфебель нездаволена ўзняў бровы на паліцая ды рэзка пракрычаў:

— На-а?! [1]

Раззлаваны Дэц трэснуў перакладчыку ў зубы ды пачаў камісару тлумачыць ужо больш талкова:

— Брэша ён, гэр шэф! З той самай Папоўкі яна! З бандыцкай вёскі, што ліквідавала на мінулым тыдні «айнзатцгрупа» з Беластока. З конскіх могілак уцякла, з-пад расстрэлу... Просіцца цяпер, каб яе таксама расстралялі... Чатыры дні швэндалася недзе і кажа — надаела... Адумалася, ха!..

— Ах, зо-о?!.— здзівіўся ўжо і фельдфебель ды прыгледзеўся да дзяўчыны, бытта хацеў яе прызнаць ці лепш запамятаць. На дробным бялёсым тварыку яго з'явілася на момант нават літасцівая грымаса.

Дэц не зводзіў з шэфа адданых вачэй, а камендант хвіліну маўчаў. Можна было нават чытаць яго думкі:

«Пасадзіць бандытку пад арышт ды адаслаць у Беласток дакладную з пытаннем — што з ёю рабіць?»

«Заводзіць валакіту! Месяц давядзецца чакаць адказу — беластоцкія бонзы хіба табе пасяшаюцца?!.»

«Ага, нехта ж дакладваў, што слізняк-афіцэр з «айн-

---

[1] Тут у значэнні — і што ты на гэта? *(ням.)*

затцгрупы» адпусціў на волю прыгажуню бандытку!.. Расплыўся перад славянкай, гаўнюк!.. Шчэ прыпруць камісію для праверкі і афіцэрыку — трыбунал!..»

Камендант раптам махнуў рукой за агароды і свайму цэрберу закамандаваў:

— Вядзі туды і прыкончы!

— Яволь, гэр шэф! — з гатоўнасцю падхапіў паліцай ды энергічна стукнуў абцасамі.

## 10

Дэц вывеў дзяўчыну за платы і пакрочыў з ёю ўздоўж загонаў бульбы да балота. Гледзячы на іх здалёк, ніхто, напэўна, і не здагадаўся б, куды так спакойна ідзе дзяўчына з хлопцам пад гальштукам, у якога цераз плячо вісіць ствалом уніз руская вінтоўка — дакладна гэтак паляўнічыя носяць стрэльбы.

Спакой дзяўчыны, вядома, быў вонкавы.

На душы ў маёй няшчаснай сваячніцы, напэўна, адбывалася тая самая барацьба з сабой, што перажывалі папоўскія мужчыны, разважаючы — кінуць жонак з дзецьмі ды нырнуць у лес ці выпіць горкую чашу разам з імі. Дакладна пра гэта разважалі і пясчаніцкія мужыкі над Супрасляй. Вось і Лена ўсе гэтыя дні з жахам думала пра адно: ратавацца? Але ж як потым глядзець людзям у вочы? Як стане жыць? Як потым будзе глядзець у вочы сваім дзецям?!

Не-е!!! Не-е!!! Не-е, так жыць не хачу-у-у!!! — крычала ў ёй душа, хоць і было вельмі страшна. Бытта ноччу бегла адна з Пясчанікаў праз цёмны лес у сваю Папоўку, хутка перабіраючы нагамі, стараючыся думаць толькі пра тое, што вось-вось дападзе да першай папоўскай хаты і — па ўсім страху. Яна спадзявалася — зараз так будзе і тут...

Адным словам, і ў гэтай здаровай сумленнай маладой сялянкі сувязь роду была гэткая магутная, што пераход для яе ад быцця ў іншую стадыю здаваўся ўжо цяпер надта жаданым ды прагным — бы абязводжанаму ўшчэнт чалавеку з засмяглымі вуснамі, які не можа дачакацца, калі дападзе да сцюдзёнай крыніцы.

Яны дайшлі да самага поплаву, дзе маладое бульбянішча закрывала ўжо чалавека да калена. Дэц кіўнуў дзяўчыне, каб спынілася. Дастаў у цэлафанавай абгортцы пачку цыгарэт «Юньён», запалкі ды стаў закурваць.

Лена зажмурылася, уцягнула ў плечы галаву, прыціснула да грудзей кулакі.

— Што, баішся, ага-а?! — паздзекаваўся паліцай, крытычным вокам агледзеў яе маладое сакавітае цела і зацягнуўся цыгарэтай.— А хто цябе прасіў з'яўляцца?!. К-ка, к-ха!..— закашляўся.— Цяпер — цярпі-і!.. Нічога, я раблю гэта быстра, не пачуеш нават!

Дзяўчына з зажмуранымі вачыма ўся ў напружанні моўчкі чакала стрэлу.

Дэц узглянуў на камендатуру, падумаў, што праз вокны можа глядзець на яго камендант, і ўстрывожыўся. Паліцай скінуў з пляча вінтоўку ды рэзка клацнуў затворам — загнаў у казённік патрон. Набіраючыся злосці, скамандаваў:

— Ану. ...твою маць, недабітая бандытка, кладзіся!

Лена пакорна ўпала носам у бульбу, закрыла рукамі вушы, патыліцу і адчула, што ў яе агалілася сцягно. Дзяўчына хуценька пацягнулася рукой, каб наспець адзёрнуць сукенку, але ў гэты якраз момант бабахнуў стрэл, і яна аж падскочыла.

Дэц ботам перавярнуў дзяўчыну тварам уверх і над трупам закурыў яшчэ раз. Прыгледзеўся. Толькі цяпер паліцай убачыў, што забітая яшчэ амаль дзяўчынка — і стала бы меншая.

— А ладная, зараза!..— паківаў галавой.

Раптам стала яму весела:

— «Надаела мне жыць!..» Бачыш ты яе?.. Ха!..

Паліцай пакрочыў да камендатуры, стараючыся не ступаць на мокрыя груды, каб не брудзіць ботаў. Паклікаўшы яўрэя-перакладчыка, загадаў:

— Бяры, жыдзе, лапату, марш туды і закапай яе!.. Не лянуйся толькі, глыбока завалі!.. Ды памятай: я шчэ да цябе, рыжая морда, дабяруся, шчэ прыпомню табе твае ашуканства, юда!.. Ты шчэ не на балоце?.. Адна нага твая тут, другая — там, рук-цук, бягом!..

## 11

Толькі пасля вызвалення, калі Дэц на допыце паказаў следчым, дзе закопана дачка Юлька Дзянісіка, яе перавезлі на могілкі да папоўцаў.

*1979*

# ЗАПІСКІ ДЫРЭКТАРА МУЗЕЯ

## Роздум ля экспанатаў

### 1

У Рэспубліканскім музеі гісторыі рэлігіі нікога не пакідае раўнадушным карціна народнага мастака Грузінскай ССР Чолы Кукуладзе «Інтэрнацыянал». Вялізнае, два метры на паўтара, палатно з агорнутым жывымі языкамі полымя, перакошаным ад болю тварам гарманіста прыслаў у Гродна аж з Сухумі сам аўтар, аднак падзея, што натхніла мастака, выдарылася на Віцебшчыне.

У вёсцы Малыя Асеткі (Расонскі раён) жыў сляпы музыкант — Фадзей Андрэевіч Іваноў. З яго пляменнікамі — Васілём, Паўлам і Цвінцікам Чола Кукуладзе — тады 19-гадовы танкіст з Абхазіі — партызапіў. Дзядзьку сваіх сяброў абхазец запамятаў па тым, як высокі, мажны мужчына, закінуўшы за плячо трохрадку, перабіраўся босы з вёскі ў вёску на вечарынку, хрэсьбіны ці вяселле, бо танцавалі, радзіліся, пасылалі сватоў ды выходзілі замуж нават і ў вайну. Калі аднойчы Чола спытаўся ў сляпога, чаму заўсёды дзядзька ходзіць босы, чалавек грузіну растлумачыў:

— Браточак, зямельку лепш адчуваю. Бачыш без кіёчка тэпаю.

Адзін час у сляпога хаваўся хворы партызанскі камісар Варфаламей Якаўлевіч Лапенка. Калі далечваць хворага забралі сваякі, немцы музыканта схапілі і пачалі катаваць.

Нічога ад гарманіста не дабіўшыся, нацысты для застрашэння людзей сабралі ўсю вёску, запіхнулі арыштанта ў хлявок, падпалілі страху. Скрозь прыадчыненыя дзверы людзям было відаць, як сляпы вывалак з сенавала гармонік ды ўрэзаў «Інтэрнацыянал».

Камандзір нацыстаў раптам спахапіўся — можа атрымацца выдатны здымак! — і кінуўся да машыны.

Калі ён вярнуўся з фотаапаратам, нельга было ўжо нічога разабраць: галасілі бабы, хлеўчык вышчарыўся чырваннню голых крокваў і лат, паміж імі шугалі ў неба языкі полымя, хоць з вогненнага пекла і далятталі яшчэ слабенькія гукі неўміручай мелодыі.

Нацысцкі афіцэр прыйшоў у адчай — майн гот, упусціць такі кадр!

Сказаць, што карціна пакідае кожнага гледача нераўнадушным — мала.

Натуральна-шчыры, страшны дакумент пэўнай эпохі па ланцужку пакаленняў цяпер будзе доўга перадаваць і перадаваць нашчадкам водгукі гераічнага мінулага, хваляваць людскія сэрцы ды фарміраваць іхнія душы.

2

У суседнім аддзеле музея вісіць ікона блажэннага айца Максімільяна.

Гісторыя іконы такая.

Ксёндз Максімільян Марыя Кольбэ пры буржуазнай Польшчы быў душой папулярнага сярод каталікаў месячніка «Рыцар прачыстай дзевы» («Rycerz Niepokolanej»). Выдаваўся часопіс пяць гадоў і ў Гродне, паралельна нават па-японску — у Нагасакі. Тыраж яго даходзіў да мільёна экземпляраў, і толькі ў часы акупацыі (1940) немцы месячнік абрэзалі да 120 тысяч.

Побач з апісаннем жахаў, якія быгта нясе людзям «сусветны крыважэрны камунізм» і ўсхваленння каралёў, прынцаў, генералісімуса Франко, маршалаў Пілсудскага ды Рыдз Сміглага, побач са зняважлівымі артыкуламі ў адносінах да іншых нацый (асабліва яўрэяў), у «Рыцары прачыстай дзевы» яшчэ падавалася дробная інфармацыя, пісьмы [1].

Акупіраваўшы Польшчу, нацысты, як вядома, адразу ўзяліся нішчыць яе народ. Пачалі з інтэлігенцыі і нават у такіх людзях, як Кольбэ, убачылі сабе пагрозу.

У 1941 годзе а. Максімільяна арыштавалі, прывезлі ў Асвенцім ды — іронія лёсу! — разам з камуністамі і іншы-

---

[1] Напрыклад:

«Італьянцы будуюць бамбардзіроўшчык, які прасвечваецца, бы аконнае шкло. Калі стане такі самалёт кідаць бомбы, на небе яго не ўбачыш.

Студэнткі амерыканскага універсітэта ўзялі на сходзе абавязацельства — не насіць кароткіх сукенак і кофт без рукавоў.

Сямігадовы румынскі цар пачаў хадзіць у школу.

У Афрыцы адно племя для вайны з суседзямі прымяняе цэцэ. Выпускае рой мух на праціўніка, і ворагі адразу гінуць.

У Маскве судзілі прафесара за тое, што чалавек пад Новы год купіў на базары елачку, прывалок дамоў ды адважыўся паставіць яе дзецям.

мі савецкімі палоннымі памясцілі ў барак 14А, на арыштанцкую вопратку ксяндза пачапілі нумар 16670.

К таму часу жыццё Кольбэ шмат чаму навучыла. А. Максімільян, мабыць, даравацъ сабе не мог ужо, што, трымаючы ў руках масавы орган, друкаваў у ім розныя «бздуры», не паказваючы землякам пагрозы рэальнай.

У дні гістарычных выпрабаванняў палякі здзіўлялі свет сваім патрыятызмам. Без ніякай перспектывы кідаліся на штыкі, пад кулі ці бралі на сябе віну сваякоў, камандзіраў, знаёмых і нават — чужых ды з горда ўзнятай, бы наш Фадзей, галавой значылі шляхі гісторыі сваімі смерцямі. Ксёндз Кольбэ аказаўся дастойным сынам свайго народа. Лагерныя будні неўзабаве падсунулі яму момант для подзвігу.

3

У канцы ліпеня 1941 года з Асвенціма ўцёк зняволены. Камендант канцлагера штурмбанфюрэр Фрытцшэ загадаў — за ўцёкі аднаго з барака 14А пакараць галоднай смерцю дзесяцярых.

Эсэсманы адлічылі ахвяры, падвялі да баракаў, дзе адбывалася такое пакаранне, паставілі ўсіх на калені. Умомант збегся натоўп схуднелых істот у паласатых балахонах. Знаёмых і сяброў камендант ад няшчасных не адганяў. Наадварот, якраз ён і хацеў, каб жывыя добра на ўсё паўзіраліся ды зарубілі сабе на носе — з немцамі жарты малыя.

Пакуль апаражнялі ад трупаў цэментавыя клеткі ды рыхтавалі «памяшканне» для свежых кандыдатаў у нябожчыкі, няшчасныя, абкружаныя арыштантамі, развіталіся. Малады ляснік Францішак Гаёўнічак услых усклікнуў:

— Божа, як шкада жонкі! Езус Марыя, як мне шкада малых дзетак!..

---

У савецкіх магазінах няма брытваў і мыла, таму рускія мужчыны запусцілі вусы і бароды...

Пісьмо гродзенца:

«Вельмі прашу часопіс аб'явіць усім пра ласку, якую я паспытаў ад дзевы Марыі. Пару гадоў нада мной вісела ў судзе справа і не давала спакою. Атрымаўшы павестку, я паслаў 10 злотых на распаўсюджванне «Рыцара прачыстай дзевы», даручаючы сябе пад апеку багародзіцы. І вось здарыўся цуд: справу ў судзе выйграў!

Цяпер пасылаю Вам яшчэ 10 злотых на тое самае. Прашу аб'явіць пра ўсё веруючым і няверуючым хрысціянам — да смерці буду маліцца прачыстай дзеве, чаго дагэтуль ніколі не рабіў».

Пачуў гэта Максімільян Марыя Кольбэ ды звярнуўся па-нямецку да Фрытцшэ:

— Пан камендант, мне сорак сем, я адзінокі. А гэты няшчасны — малады і ў яго сям'я. Абмяняйце нас, вам жа ўсё роўна!

Цар і бог славутай фабрыкі смерці надта здзівіўся ды хвіліну падумаў. Затым практычны немец кінуў:

— Гут! Станавіся замест яго на калені! А ты — вэг!

Дзевяць прыгавораных палякаў памерлі ў бетонных клетках — хто на сёмы, хто на восьмы дзень, іх адправілі ў печ, а ксёндз усё жыў — лагернікі ўмудрыліся праз шчыліну ў дзверцах запіхваць яму ежу.

Застаўшы арыштанта з нумарам 16670 жывым-здаровым і праз два тыдні, раззлаваны Фрытцшэ зараз жа загадаў даць апошняму заложніку ўкол фенолу — орднунг мус зайн, фэрфлюхтэ! Немец яшчэ і прасачыў, каб цела дзесятага паляка адправілі ў крэматорый таксама.

4

Францішак Гаёўнічак, прайшоўшы агні і воды, вярнуўся пасля перамогі дамоў ды расказаў усім пра сваё незвычайнае ўратаванне. Гісторыю падхапілі касцельныя газеты, пачалі размалёўваць яе на розныя лады. Затым шуміху падхапіла ватыканскае радыё, тэлебачанне...

Ішлі гады, адно дзесяцігоддзе змяніла другое, а шуміха вакол учынку а. Максімільяна не сціхала. Скончылася ўсё тым, што касцельная ўлада Польшчы звярнулася ў Ватыкан з прапановай — аб'явіць Кольбэ святым. Ім стаць цяпер не так проста, і першую атаку польскага клера апастольская сталіца адбіла.

Тады каталіцкія газеты ўзнялі новую кампанію.

На гэты раз размалявалі набожнасць усіх членаў сям'і Кольбэ, пералічваючы, хто з іх, колькі разоў і якую малітву кожны дзень гаварыў. Напомнілі пра работу а. Максімільяна ў «Рыцары прачыстай дзевы», яго місійныя дасягненні ў Японіі. Але гэтага ўсё яшчэ было мала, і пачалі яны збіраць сведчанні «лекарскіх камісій» пра цудоўнае выздараўленне людзей, якія прыкладвалі да хворага месца фатаграфію Кольбэ ці маліліся на а. Максімільяна...

Нарэшце кардынал Вышынскі адправіўся ў Ватыкан, папрасіў у рымскага папы прыватнай аўдыенцыі. Прымас Польшчы стаў горача даводзіць Іаану XXIII, як у даны

момант Польшчы важна мець свайго святога. Папа рымскі жахнуўся:

«— Але ж столькі кандыдатаў цяпер паспяшае ўзысці на неба, столькі родзічаў жадае іхняй хвалы!

Вышынскі адказаў яму ў тон:

— Ваша светласць будзе ласкава адно крышачку прыадчыніць нябесныя вароты для паляка, і ён праскочыць на неба без чаргі!..» [1]

Нарэшце 17 красавіка 1971 года рымскі папа новага святога баніфікаваў. Адразу касцельныя кіёскі Польшчы напоўніліся рознафарматнымі іконамі, на якіх на фоне сілуэта маткі боскай віднеўся сімпатычны мужчына ў акулярах з адным плячом, апранутым у паласаты лагерны балахон і з нумарам 16670, а другім — у сутану:

— Наце, прыхаджане, маліцеся на яго!

5

У аддзеле каталіцызму гледачоў уражваюць індульгенцыі на адпушчэнне грахоў. Дзівіцца моладзь: от былі дурні — яшчэ збіралі на такое грошы ды верылі, што паперка на лацінскай мове выбавіць іх ад пекла.

Побач красуецца масіўны шчыт. Ён трапіў у музей з дрысвяцкага касцёла. На медным і круглым экспанаце віднеецца крыжавіна, а вакол вяночкам — надпіс: «За тое, што прамовіш «ойча наш» ды пацалуеш гэты крыж — будзеш мець праз 200 дзён дараваныя грахі па аднаму разу на дзень».

Шчыт вялізны і медзь вышэйшай якасці. Адлілі на шчыце салідна і літары. Аж не верыцца, што шчыт рабілі ўсур'ёз, вешалі ўсур'ёз у прытвор, а тысячы людзей, пакаленне за пакаленнем яго з набожным трапятаннем сэрца цалавалі ды ўсур'ёз адносіліся да надпісу.

Зрэшты, індульгенцыі на старажытнай паперы з вадзянымі знакамі, медзяны шчыт з крыжам — рэчы даўнія. Можна іх растлумачыць агульным цемрашальствам ды адсталасцю колішніх людзей. Але ж тое, што і зараз клер шукае дурняў ды спекулюе нават на незвычайнай смерці, не можа аніяк укласціся ў маёй галаве.

Кольбэ — святы?

«Сапраўдны мучанік,— сказаў Station Станіслаў Лем,— той, каму адмовілі нават у гэтым тытуле».

---

[1] Цытата з касцельнага выдання.

## Крыж

### 1

Сілуэт яго маячыў пад вёсачкай Шылава ля самага скрыжавання дарог. Начамі гэты крыж служыў нам добрым арыенцірам: камандзіры заўсёды вызначалі тут зборы. У макрэнь, слякаць ці завею, калі на прывале не было куды прыткнуць зброі, цэлы ўзвод, бывала, чапляў на яго ўсе свае вінтоўкі, аўтаматы, «дзегцяры» з дыскамі, а крыж — хоць бы ўздрыгнуў. Масіўны, шырокі яго ніз пры засадзе — ідэальная заслона кулямётчыку...

Аднойчы, абладаваныя харчамі, хлопцы адзін за адным прыбывалі ціпшэчкам на ўмоўленае месца — тутэйшыя вёскі партызанам спрыялі, высцерагаліся мы толькі ружанскага гарнізона, да якога — падаць рукой. Каб сялянскія падарункі ў паходзе не скоўвалі рукі, партызаны і на гэты раз развешалі на крыжавіне свае стрэльбы ды пачалі піхаць у рэчавыя мяшкі боханы хлеба, сала, кумпякі, качаны капусты ды тытунь. З заткнёнымі за рэмень поламі шыняля камандзір Скарынін нас пералічваў ды асцярожна прыслухоўваўся. У Зелянкевічах крыху пастрэльвалі, ніхто не ведаў, што там здарылася, трывога памалу агортвала ўсіх.

Раптам з цемры выпаўз ранены.

— З брыгады Панамарэнкі,— аб'явіў, стогнучы.— У калена мяне, сволач, секануў!.. Заходжу да сувязнога ў Зелянкевічах, а там — бобікі! Ведаю нават, каторы гад стрэліў. Не дарую яму ніколі...

Умомант хлопцы пасадзілі небараку на рэчавы мяшок пад крыж, пачалі перавязваць, а Скарынін папёр мяне выламваць з прыдарожнай агароджы дручкі для насілак. Гэта азначала — рыхтуйся раненага несці, а ў мяне ад стомы ногі і так адвальваліся. Валокся я праз дарогу і сябе суцяшаў: партызан — невялічкі, з вопраткай і аўтаматам вага такога — кілаграмаў 70, для чатырох чалавек — не страшна...

### 2

З год пасля вайны адправіўся я рэйсавым аўтобусам у Брэст. Пад Ружанамі выглянуў праз акно ды ўстрапянуўся: справа ад шашы маячыў масіўны, да болю знаёмы сілуэт. Цяпер, пры дзённым святле, я добра крыж разгля-

дзеў. Шэры, няўклюдны, больш падобны на караткарукую снежную бабу. Выцесалі яго з кавалка граніту тоны на тры — не дзіва, што не перакульваўся, колькі б мы жалязяк на яго ні чаплялі.

Крыжу ўзрадаваўся я, бы старому знаёмаму.

З таго дня праз гадоў пяць, едучы ў Брэст ці з Брэста, я ноччу і днём чакаў з нецярпеннем моманту, калі стужка асфальту прывядзе мой аўтобус пад Шылава і я хоць на секунду зірну на сваю вешку. Калі ж аднойчы старога знаёмага не ўбачыў у належным месцы, ад непапраўнай страты ўпаў у адчай.

Неяк расказаў я пра крыж археолагу Лысенку, контуры гранітнай фігуры намаляваў яму яшчэ і на паперы. Славуты адкрыўца «Бярэсця», не задумваючыся, кінуў:

— Мальційскі. Чатырнаццатае стагоддзе. На Беларусі такіх надта мала. Ставілі продкі адно з выпадку вялікіх падзей. Наколькі ведаю, ніхто з вучоных яго не бачыў.

Словы вучонага распалілі мяне яшчэ больш, адчай некалькі гадоў не даваў спакою. Падмывала нешта рабіць.

Нарэшце выбраў я час і спецыяльна адправіўся пад Ружаны даследаваць — што здарылася з маім знаёмым. Абабег шмат дамоў, апытаў старых і малых, але ўсе людзі на мяне ўзіраліся, як на дзівака, пакуль я не спахапіўся — пераблытаў вёскі; а сонца ўжо хіліла к захаду.

У Гродна давялося вяртацца спадарожным грузавіком. Разгаварыўся я з шафёрам, а ён:

— Ха, добра ведаю той крыж! Паставіў яго нейкі цар, а пад ніз закапаў золата. Калі працаваў я ў Шылаве трактарыстам, старшыня калгаса загадаў завалачы крыж у балота. Падчапіў я тросам, завалок. Потым хадзіў ноччу з лапатай на тое месца, але ніякага золата там не было — хтосьці ўжо выкапаў. Ці можна крыж з балота дастаць? Наўрад. Засмактала дрыгва грунтоўна.

## 3

Ішоў год за годам, а шылаўскі крыж, бы зубны боль, не даваў мне спакою. Звязаныя з ім перажыванні юнацтва паступова адыходзілі на задні план. Фантазія ўжо малявала таямнічыя і вялікія падзеі, з-за чаго мае продкі той крыж выцесалі. Тысячу разоў праклінаў я незнаёмага старшыню калгаса, заадно абураўся і на іншых дурняў, якія звялі са свету помнікі народнай культуры.

Нечакана для сябе стаў я раптам дырэктарам Музея атэізму і гісторыі рэлігіі. Адразу падумаў пра крыж. Быць таго не можа, каб трохтонную глыбу ў наш час нельга было знайсці — балоты цяпер асушылі, яго напэўна выперла наверх.

Ружаншчына — не наша вобласць, трэба захоўваць субардынацыю. Пра экспанат я асцярожна пацікавіўся ў Брэсцкім музеі. Пачуў адказ:

— А яго шылаўскі старшыня загадаў пабіць. Адзін дзядзька кавалкі пазбіраў ды паклаў сабе ў фундамент. Калі вам аддасць — мы не супроць.

Выходзіць — яшчэ адна версія знікнення помніка?!

Няўжо знайшоўся ідыёт, што пабіў такую каштоўнасць?..

Да старшыні пранікся я ўжо лютай нянавісцю, а сябе пацешыў: не панікуй, можа быць яшчэ і версія трэцяя, на гэты раз — самая праўдзівая, лепш з'ездзі на месца ды разбярыся толкам, мажліва не ўсё яшчэ страчана.

4

У разгар лета музейны аўтобус мяне з супрацоўнікамі даставіў у Шылава. Была нядзеля. Умомант сабраўся вялізны натоўп загарэлых і цікаўных мужыкоў ды баб — ужо дзяцей, унукаў тых, хто партызанам даваў хлеб і кумпякі.

— Кры-ыж? — людзі адразу загаласілі хорам, бытта пытання такога чакалі.— Ён там на дарозе закопаны!

— Як старшыня кінуў у тую яму, так і ляжыць!

— Ужо гадоў з дваццаць!

— Хадзем пакажам!

Натоўп павёў нас да месца. Людзі не пераставалі:

— Старшыня калгаса, абармот, вывернуў яміну ды ўпіхнуў туды яго.

— Перашкаджаў, бачыш, яму, халеры! Да ямы загадаў валачы трактарысту. Той адмовіўся. Так палез, зараза, у кабіну сам.

— А думаеце, яму гэта не адрыгнулася? Нага аднялася, жонка і дзеці пахварэлі.

— А што сабе думаў — такое з рук сыдзе?

— Прыезджы? — цікаўлюся.

— Мясцо-овы! Зараз працуе ў Зелянкевічах старшынёй сельсавета.

— Ці хоць цэлы крыж у зямлі?

— О-о, ён надта моцны — каб хацеў пабіць, не паб'еш!

— Во, тут і ляжыць!

Спыніліся ў месцы, дзе дарога выходзіла на асфальт. Шафёр прывалок бярэмя інструменту. Мае навуковыя супрацоўніцы няўмела, з наманікюранымі пальчыкамі ўзяліся за лапаты ды пачалі бездапаможна тыкаць іх у зацвярдзелую на бетон зямлю. Мужыкі без слова інструмент паадбіралі, і ў іх адразу закіпела работа. Не прайшло і мінуты, як у яме паўстала знаёмая да болю гранітная няўклюда.

Наш аўтобус — слабенькі, за экспанатам трэба ехаць грузавіком. Буксірам сцягнулі покуль што яго ў кювет, выраўнялі дарогу. Людзі ўжо маўчалі. У настроі натоўпу адчувалася якаясьці перамена.

— А вы — што, мо надумалі сабе яго забраць? — раптам узарвалася бабка.

— Не-е, не аддамо ніко-ому! — падхапілі іншыя.

— Бо крыж — наш! Дзяды і прадзеды на яго глядзелі і маліліся мо тысячу гадоў. Кожнага нябожчыка трымалі перад ім, покуль везці ў Зелянкевічы на могілкі.

Нейкі п'яны з веласіпедам у руках уставіў:

— Трэ спытацца Сянкевіча — як ён скажа.

— І Сянкевіч яго не аддасць.

— А ты ведаеш?

— Бо ведаю! — скочыла да дзядзькі з кулакамі загарэлая маладзіца.

— Мая баба казала — да каменя са слядочкамі багародзіцы і да крыжа, калі ён шчэ стаяў на палосцы, усіх дзяцей з коклюшам прыносілі.

— І з крэсным ходам хадзілі да яго, калі не было дажджу.

— Ні крыжа, ні валуна са слядамі мацеры божай не аддамо, хай нас хоць страляюць.

— Толькі паспрабуюць узяць!..

— Ляжам перад машынай і не выпусцім.

Дружны натоўп баб гаманіў з пагрозай і нянавісцю. Жаночы крык пастулова перайшоў на віск. Яшчэ момант, і ўсе рынуцца на нас з кіпцюрамі. Пабялелыя мае дзяўчаткі не ведалі, куды дзяваць блакноты, у якія меліся запісваць легенду экспаната. Мяне больш за ўсё здзівіла — лютавалі не толькі старыя, а і — выфранчаныя маладзіцы, якіх і бабамі не назавеш. Такія, напэўна, канчалі васьмігодкі, сярэднія школы і вучылі, адкуль бярэцца дождж,

што такое коклюш, зараз усе яны карысталіся пральнымі машынамі, халадзільнікамі, каляровымі тэлевізарамі...

Мужчыны покуль што маўчалі, але было відаць аж занадта, на чыім баку і яны.

Спантанны выбух псіхозу трэба было гасіць. Бытта нічога не здарылася, я спытаўся:

— Пра якога Сянкевіча, вы, дзядзька, успаміналі? І дзе ў вас ляжыць камень са слядамі багародзіцы?

— А-а, ты, антыхрыст, і яго хочаш узяць?

— Без дазволу нічога ў вас браць не буду.

— Паказаць, бабы, можам! Халера яго бяры, хай паглядзіць, хай! Ніякі трактар, ніякі кран той валун не падніме...

— Не ве-ерце, яму! Дальбо, бабы, не ве-ерце! І гэты што-небудзь зробіць валуну, бы старшыня — крыжу.

— Ціха, кабеткі, ціха. Паедзем. Сядайце, хто можа, і паказвайце той цуд.

## 5

Думаў я так натоўп рассеяць, але нічога не выйшла. Людзі забілі поўнасцю наш аўтобус, астатнія ж, усе як адзін,— павалілі на запаветнае месца пехатой.

Заехалі ў Шылава па Сянкевіча.

То быў ружовенькі і сівы як лунь, чысценькі ды ахайны васьмідзесяцігадовы інтэлігент з васільковымі вачыма. Дзядзька ціхім і спакойным голасам паведаў:

— Крыж не стары. На маёй памяці рабіў яго Мікодым з Шылава. Высек на сваёй палосцы. Мужыкі ў вольны час жлукцілі гарэлку, зубаскалілі, а Мікодыму было гэтага мала. Чаму лепшаму яго не навучылі, і ён з ломікам у нядзелю прыходзіў на сваю палоску ды дзёўб граніт. Высякаў фігуру гадоў з пяць. Потым паклікаў з Зелянкевіч бацюшку, крыж высвянціў. Бабы вакол крыжа адразу ўзнялі вэрхал. А тут абрынулася царская вайна — казакі паперлі ўсіх на Усход. Мікодым у 1920-м з бежанства не вярнуўся, палоска дасталася пляменніку — Кісламу Сцяпану. Калі ў 1935-м памёр Пілсудскі, солтыс, каб выслужыцца перад панамі, даў Сцяпану 5 злотых, сабраў з вёскі ўсіх коней ды прывалок бандуру да ружанскай шашы. Кіслага забілі немцы, сапраўдную гісторыю крыжа цяпер мала хто і ведае. Зараз месца яму толькі ў музеі. Забірайце ў Гродна, бо тут вакол яго наплятуць яшчэ столькі баек, што праз пяцьдзесят гадоў сам чорт не разбярэ, дзе праўда.

Сляне нібы панабіралі ў рот вады.

Маладзенькія супрацоўніцы музея ў Сянкевіча пацікавіліся:

— Пётр Сямёнавіч, вы — з настаўнікаў?

— Не. Быў царкоўным папячыцелем.— Стары заўважыў у вачах дзяўчат расчараванне.— Тады, дочачкі, не тое, што цяпер вам. Вучыцца не змог, скончыў толькі прыходскую...

Дзяўчаты горача старому дзякавалі, а я падумаў: даць бы ў свой час чалавеку адукацыю, што б з яго выйшла! Шкадаваў я і дзядзькі Мікодыма. Упарты, працавіты, з характарам — выліваў сваю энергію ліха ведае на што... Колькі і цяпер такіх самародкаў трацяць сілы па-пустому. На ўліку страты энергіі ад сонца, вугалю, нафты, электрыкі, ветру, марскіх прыліваў, вакол ідуць гарачыя дэбаты пра тое, як дабро гэтае гаспадарліва ўжываць, а людской — нават ніхто не бярэцца падлічваць. І найбольш мяне займала гісторыя з крыжам. Колькі людзі нагрувасцілі тут глупстваў!

Зрэшты, вакол гэтай самай лаканічнай геаметрычнай фігуры разгаралася і не такое.

## 6

Аўтобус уз'ехаў на ўзгорак. Натоўп, што адправіўся пешшу, быў ужо тут — бабы замерлі ў набожным чаканні. Загарэлая, з вузлаватымі рукамі крыкачка паказала ўніз:

— Во, гляньце!..

Перад намі з травы выставіў пуза камень — сівы, вялізны. Па цэнтры выпукласці ішлі зарослыя сям-там рыжаватым мохам ямкі — бытта хтосьці вызначыў пункцірам лінію ды падзяліў валун на роўныя палавінкі. Зірнуў я на ямкі і адразу зразумеў, у чым справа. Не разумець яе можна было толькі наўмысна.

— Ту-ут хадзіла мацер бо-ожая?! — з жахлівым недаверам і перапалохана спыталася самая маладая супрацоўніца музея.

— Святымі ножанькамі хадзіла і унь аж колькі нам пакінула сваіх слядочкаў! — скорагаворкай зачасціла блізейшая старая.— Мы тут усе да яе молімся і — ах! — колькі дабра ад яе атрымліваем! У Шылаве — ні паморкаў на свінні, як у іншых вёсках, ні тых пажараў... І ў вайну немцы расстралялі адно шэсць чалавек...

Старая — з тых самых пры́ткіх, энергічных бабуль, якія ўзнімалі агні ажыятажу вакол «Вершалінскага раю», «абнаўлення ікон». Ліха на яго, але ж тое было гэтак даўно! Выяўляецца — унь як жывучае такое племя!..

Мяне разабрала злосць:

— Стой! І гэта, па-вашаму,— чалавечыя сляды? За дурняў нас маеце? Такія мог бы пакінуць толькі кот! Дзядзькі, ану, падыдзіце ўсе бліжэй, прыглядзіцеся! Хтосьці яўна валун хацеў раскалоць і набіў дзірак ля кліночкаў. Дзе вашы вочы?

Цёткі адразу змоўклі. Сянкевіч зводдаль усміхаўся. Пасаромленыя мужчыны адводзілі вочы. Нехта пачаў апраўдвацца:

— Ды з нас тут ніхто, мабыць, і не бываў — мо адно тады, калі без нагавіц бегалі!.. Гэтыя бабы, каб на іх халера, заўсёды нешта намудрагеляць! Заўсёды ім патрэбна нейкая цацка для гульні!..

## 7

Баючыся, што экспанат давядзецца выдзіраць ад шылаўскіх баб ледзь не сілай, забіраць яго адправіўся я сам. З брэсцкім начальствам дамовіўся — старшыня Зелянкевіцкага сельсавета падгоніць кран, дапаможа ладаваць.

І вось я ў сельсавеце.

Малы тоўсценькі старшыня выйшаў з-за стала і павітаўся. Я заўважыў — чалавек моцна кульгае, а па нездаровай чырвані твару здагадаўся — інвалід вайны. Нядобразычлівасці да яго ў мяне не стала. Толькі з папрокам я спытаўся, навошта закопваў крыж.

— Халера на іх, фанатычак! — вінавата і шчыра пачаў старшыня скардзіцца.— Вы б паўзіраліся, што тут было трыццаць гадоў таму! Баб трэ пасылаць у агароды, акучваць картоплю, даіць кароў, карміць свіней, а яны, заразы, бывала, збяруцца ля гэтай дурной хламіды ранічой і да глыбокай ночы малітвы енчаць. Адна адну як раскваліць, як навінціць — валасы дыбам станавіліся. Я і так, і гэтак, я і прасіў, маліў і палохаў, а яны — сваё. Паверыце — свінні дохлі, пра сваіх дзяцей іншая забывала... Што рабіць? Быў у мяне яшчэ з партызанства тол, хацеў крыж узарваць, ды пашкадаваў. Аднаго дня, калі вывелі з цярпення зусім, прываліў іхнюю забаўку зямлёй. Пабурчалі, паабзывалі, але прыціхлі адразу, і меў я спакой.

Раптам успомніўся мне май 1950 года, калі працаваў

я ў Сапоцкіна. Там жанчын таксама агортвала падобная эпідэмія. Збіраліся ў вялізныя натоўпы ля прыдарожных крыжоў, распявалі малітвы, забываючы пра родных дзяцей. Даходзіла да таго, што ўласныя мужыкі хадзілі па іх з кіямі.

Старшыня выглядаў на майго равесніка. Яшчэ выявілася — партызан. Я пацікавіўся, дзе і калі яго ранілі.

— У Зелянкевічах,— кінуў ён малаважна.— Ат, ноччу налез на бобікаў... Не пашыхавала...

— Перад самым Новым годам?! — жахнуўся я, усхапіўшыся з месца.— Дык я ж цябе, чалавеча, валок тады ў Гута-Міхалінскі лес на насілках з дручкоў!..

## 8

Нарэшце караван нашых машын — грузавая дзесяцітонка, кран і «масквічок» старшыні сельсавета — вырушыў з Зелянкевіч у Шылава. Праз хвіліну грузавічок спыніўся — паляцела нейкая трубка. Толькі яе замянілі, а кран — ні з месца. Машыны зношаныя, нічога незвычайнага ў паломцы не было, але і гэтага хапіла б, каб бабкі сказалі пра помсту мацеры божай і святога духа. Адрамантавалі кран, а матор у грузавіку замоўк зноў...

Праз пару гадзін усё ж такі ля крыжа апынуліся мы цэлым караванам. Адзін шафёр пачаў раскладваць лапы крана, другі — пад'язджаць да экспаната бортам.

Побач на ячменным полі працавалі сем камбайнаў. Быў панядзелак, вяскоўцы ўсе разышліся на работу, і толькі камбайнеры спынілі свае дрэдноўты ды прыбеглі да нас, каб назіраць момант пагрузкі. Хлопцам у камбінезонах было вельмі дзіўна — гэткі няўклюда-камень, а — ты глядзі! — не паленаваліся прыехаць па яго аж з самога Гродна.

Маладзенькі шафёр грузавіка адразу ўключыў поўны газ, і на спідометры паказала 110 кіламетраў. Я абмёр — трапіць на такой хуткасці хто пад колы, і будзе новая легенда пра цуд: цяпер ужо стану яе героем я.

— Сынок, два разы цішэй едзь! Бо пры раптоўным тармажэнні трохтонны гранітны снарад знясе па інерцыі кабіну разам з нашымі галовамі.

Хлопец глянуў на мяне з маладой легкадумнасцю. Дакладна гэтак на вайне глядзелі яго равеснікі, калі ім раілі надзець каску, схавацца за бруствер, лезці ў ровік: што, мяне возьме куля?

— Слухай, што табе кажуць!

— Я, дзядзьку, атрымліваю ад тона-гадзін! З вамі так і на абед не зараблю.

Давялося паабяцаць — падпішу пуцявы ліст з двайным маршрутам. Тым не менш да самага Гродна сядзеў я ў кабіне як на іголках.

Нарэшце заехалі ў двор музея. Збегліся супрацоўнікі. Адны ўслых абмяркоўвалі, як крыж экспанаваць, якую яму даваць падсветку і надпіс, іншыя ўдакладнялі назвы вёсак, прозвішчы, а тым часам я не спускаў з яго вока. Толькі калі масіўная і крыжападобная глыба граніту тоўстым сваім нізам з борта гупнула ў выкапаную яму, я з вялікай палёгкай уздыхнуў.

*1981*

## ЗМЕСТ

*Уладзімір Калеснік.* Плён творчасці — дослед жыцця — 5

ДАНУТА *(аповесць)* — 23


### АПАВЯДАННІ, ПУБЛІЦЫСТЫКА

Перыпетыі пошукаў — 340
Мая Джамалунгма — 349
Выступленне на V з'ездзе пісьменнікаў БССР у Мінску 13 мая 1966 года — 381
Дзіця планеты — 395
Дно — 428
Галгофа сваякоў — 432
Запіскі дырэктара музея — 449

Карпюк А.
К 26 Выбраныя творы. У 2 т. Т. 1. Данута: Аповесць. Апавяданні. Публіцыстыка/Прадм. У. Калесніка.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 463 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00515-1.

Карпюк А. Избранные произведения. Том 1. Данута: Повесть, рассказы, публицистика.

У першы том выбраных твораў Аляксея Карпюка ўвайшлі аповесць «Данута» (дапоўненая і дапрацаваная), пашыраная аўтабіяграфія «Мая Джамалунгма», дзе пададзены багаты пласт жыцця, праз які давялося прайсці аўтару, апавяданні.

К $\frac{4702120201-174}{М 302(03)-91}$ 110—90 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

Карпюк Алексей Никифорович

ИЗБРАННЫЕ ПРОИЗВЕДЕНИЯ В ДВУХ ТОМАХ

Том 1

*Данута. Повесть. Рассказы, публицистика*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

Карпюк Аляксей Нічыпаравіч

ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ Ў ДВУХ ТАМАХ

Том 1

*Данута. Аповесць. Апавяданні, публіцыстыка*

---

Рэдактар *А. Дз. Куліш.* Мастак *А. А. Бятанава.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Н. У. Доваль.*

ІБ № 3308

Здадзена ў набор 21.11.89. Падп. да друку 10.09.90. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 24,36+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 24,47. Ул.-выд. арк. 26,42. Тыраж 10 000 экз. Зак. 3086. Цана 2 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.